Унбегаўн, Sel. Papers—B. O. Unbegaun. Selected Papers an Russian and Slavonic Philology. Oxford, 1969.
Фальк—Торп — H. Falk, A. Torp. Norwegisch-dänisch etymologisches Wörterbuch. Heidelberg, 1910—1911.
Хаас, Elem.— O. Haas. Das frühitalische Element. Wien, 1930.
Чатырохсотлецце—Чатырохсотлецце беларускага друку. Мінск, 1926.
Шаўр, Etymologie — V. Šaur. Etymologie slovanských příbuzenských termínů. Praha, 1975.
Швеля — B. Šwjeła. Dolnoserbsko-němski słownik. Budyšin, 1963.
Шульцэ, Kl. Schr.—W. Schulze. Kleine Schriften. Göttingen, 1933.
Шцібэр, Zarys — Z. Stieber. Zarys gramatyki porównawczej języków słowiańskich, 1. Warszawa, 1969.
Эндзелін, Слав.-балт. эт.— И. Эндзелин. Славяно-балтийские этюды. Харьков, 1911.
Яшкін, Узаемадзеянне — І. Я. Яшкін. Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм. Мінск, 1976.

## МОВЫ I ДЫЯЛЕКТЫ

а.-англ. — амерыканска-англійскае
авест.— авестыйскае
амур.— амурскае
арам.— арамунскае
асір.— асірыйскае
ашм.—ашмянскае
б.-каш.—буда-кашалёўскае
віл.— вілейскае
волх.—волхаўскае
воран.— воранаўскае
вяц.—вяцкае
гарад.— гарадоцкае
гэльск.—гэльскае
глус.—глускае
дзвін.—дзвінскае
добр.— добрушскае
дубр.—дубровінскае
жэмайц.—жэмайцкае
іван.— іванаўскае
іран.—іранскае
йонаўск.—йонаўскае
калінк.—калінкавіцкае
карм.— кармянскае
карп.—карпацкае
карэл.—карэльскае
касцюк.—касцюковіцкае
кімр.—кімрскае
кір.—кіраўскае
клім.—клімавіцкае
крыч.—крычаўскае
ленінгр.—ленінградскае
леп.— лепельскае
лёзн.—лёзненскае
літар.—літаратурнае
ліўск.—ліўскае
лоеў.—лоеўскае
мазав.—мазавецкае
малд.—малдаўскае
маст.—мастоўскае
мундж.—мунджанскае
новасіб.—новасібірскае
оск.—оскскае
падг.—падгальскае
паст.—пастаўскае
пецярб.—пецярбургскае
пін.—пінскае
пракр.—пракрыцкае
прэйл.—прэйльскае
прыбалт.—прыбалтыйскае
пух.—пухавіцкае
раст.—растоўскае
сабін.—сабінскае
сагдз.—сагдзійскае
светлаг.—светлагорскае
свісл.—свіслацкае
ст.-дар.—старадарожскае
сувалк.—сувалкійскае
сям.—сяміцкае
талач.—талачынскае
тамб.—тамбоўскае
тахар.—тахарскае (А, В)
тырн.—тырнаўскае
урал.—уральскае
уст.—устарэлае
усх.-слав.—усходнеславянскае
фалькл.—фальклорнае
фрак.—фракійскае
чэрв.—чэрвеньскае
шчуч.—шчучынскае
этрус.—этрускае

# В

**Ва.** Гл. *у.*

**Ваарyжы́ць** 'узброіць' (КТС). З рус. *вооружить.*

**Ваб** 'вабенне птушак' (Федар.); 'паляванне з рогам на дзічыну' (КТС), *ваба* 'прынада, спакушэнне' (БРС, Гарэц.). Прасл. утварэнне ад **vabiti,* параўн. польск. *wab* 'прынада; вабік', серб.-харв. *ва̑б, ва́ба* 'прынада, покліч', славен. *vab* 'прынада'.

**Ва́ба.** Гл. *ваб.*

**Ва-ба́нк** 'на ўвесь банк' (КТС). Праз рус. *ва-банк* з франц. *va banque* 'ідзе на ўвесь банк' (Шанскі, 1, В, 3; Рудніцкі, 1, 288).

**Вабга́ць** 'уціснуць, умясціць' (Касп.). Да *бгаць.* Словаўтварэнне можна тлумачыць, відаць, аналогіяй з *вапхаць* 'умясціць, уціснуць'. Параўн. рус. зах.-бранск. *вабгать* 'уціснуць, скласці', укр. *бгати* 'складваць, упіхваць'.

***Ва́бенне**, *ва́бене* 'вабік' (Сцяшк. МГ). Да *вабіць.* Канкрэтнае значэнне прылады развілося, відаць, у дыялектнай мове.

**Ва́бік**[1] 'адкрытая скрыначка, якая ставіцца на дрэве для лоўлі пчол' (Сцяшк. МГ, Мат. Гом., Мат. Гродз., З нар. сл.), *вабык* 'вулей з калоды ў лесе' (Анох.). Да *вабіць* (гл.). Гл. таксама *вабіла.*

**Ва́бік**[2] 'свісток для прынаджвання дзікіх птушак' (БРС, Інстр. II). Рус. *вабик,* польск. *wabik.* Да *вабіць* (гл.). Гл. таксама *вабіла.*

**Ва́біла** 'свісток для прынаджвання дзікіх птушак' (КЭС, Інстр. II). Рус. *вабило,* в.-луж. *wabidło* 'вабік', н.-луж. *wabidło* 'тс', славац. *vábidlo* 'прынада', балг. *ваби́ло* 'сродак для вабення', серб.-харв. *ва́било.* Прасл. утварэнне ад **vabiti.*

**Ва́більшчык** (БРС). Да *вабіць* з фармантам *-ільшчык* (параўн. *грабільшчык, падавальшчык*) або да *вабіла* з фармантам *-шчык* (параўн. *тачыльшчык*). Гл. *вабіць, вабіла.*

**Ва́біць**[1] 'прынаджваць, прыцягваць, клікаць' (БРС, Яруш.,

Гарэц.); 'свістаць для прынаджвання дзікіх птушак' (Інстр. II); 'зводзіць, выклікаць' (Гарэц.), *вабіцца* 'ісці на прынаду, спакушацца' (Гарэц.). Рус. *вабить,* укр. *вабити,* польск. *wabić,* в.-луж. *wabić,* н.-луж. *wabiś,* чэш. *vábiti,* славац. *vábit',* макед. *ваби,* балг. *вáбя,* серб.-харв. *вáбити,* славен. *vabiti,* ст.-слав. **вабити.** Прасл. **vabiti* 'крычаць'. Згодна з адной версіяй (Разводоўскі, Wybór, 2, 157), праславянскае слова суадносіцца з гоц. *wōpjan,* ст.-ісл. *œpa* 'крычаць, лемантаваць' і інш. Гл. яшчэ Праабражэнскі, 1, 61; Траўтман, 333—337; Скіт, 706; Покарны, 1109; Рудніцкі, 1, 287; Фасмер, 1, 263; БЕР, 1, 110; Махэк $_2$, 673; Скок, 3, 557. Згодна з іншай версіяй, праслав. **vabiti* было непасрэдна звязана з назвай паляўнічай прылады (ursstki) і мела першапачаткова значэнне 'заманьваць птушку ў пастку', адкуль пазней развілося значэнне 'прынаджваць птушку голасам'. Параўн. паралелі да **vabiti:* ст.-інд. *ubhnāti* 'звязвае', ст.-грэч. ὕφος 'сетка', лац. *lacere* 'вабіць' і *laquens* 'сіло, пятля', ст.-в.-ням. *spanan* 'вабіць' і ст.-англ. *spannan* 'звязваць' (Мартынаў, Лекс. взаим., 190—191).

**Вáбіць$_2$** 'марнаваць час; забаўляць', *вабіцца* 'затрымлівацца; забаўляцца, гуляць', *ваблены* 'марудны' (Яўс.). Узнікла ў выніку метатэзы: *бавіць*>*вабіць,* што пацвярджаецца поўным супадзеннем семантыкі абодвух дзеясловаў.

**Вáбкі** 'лёгка прынаджвальны; схільны прыцягваць, спакушаць' (Гарэц.), *вабка* 'прыцягальна' (Др.-Падб., 24), *вабка* 'спакушальніца' (Гарэц.). Да *вабіць* (гл.).

**Вáблівы** 'заманлівы, прыцягальны' (Гарэц., Др.-Падб.). В.-луж. *wabliwy,* серб.-харв. *вабљив,* прасл. **vablivъ*<**vabiti.*

**Вáбны** 'прыцягальны', *вабнасць* 'прыцягальнасць' (Гарэц.). Да *вабіць.*

**Вабражáка** 'фарсун, задавака' (Яўс.). Да *вабражаць* (гл.).

**Вабражáла** 'задавака' (Юрч.). З рус. *воображала* або ад *вабражаць* 'фарсіць'.

**Вабражáць** 'фарсіць' (Яўс.). З рус. *воображать* 'тс'.

**Вабразíцельны** 'ганарлівы' (Юрч., Яўс.). Ад **ваабразіцель,* утворанага ад запазычанага з рускай мовы *вообразить, воображать* 'зазнавацца, ганарыцца' або непасрэдна ад *вообразить.*

**Вабразíць** 'уявіць' (КТС). З рус. *вообразить.*

**Вабрáцца.** Гл. *увабрацца.*

**Вабыскáць** 'абшукаць' (КТС). Ад назоўніка *вобыск,* запазычанага з рускай мовы. Словаўтваральнай сувяззю з *вобыск* тлумачыцца і захаванне прыстаўнога *в.*



**Вáва** 'болька, балячка, рана' (Шпіл., Клім.); 'баліць, болька, балюча' (Янк. II, Бяльк.); 'кроў; ранка, балячка' (Яўс.). Слова дзіцячай мовы, утворанае шляхам рэдуплікацыі выклічніка *ва(й).* Гл. Рудніцкі, 1, 287; Праабражэнскі, 1, 61; Фасмер, 1, 263.

**Вавéкі** (БРС). Рус. *вовеки,* серб.-харв. *вȁвēк,* ст.-слав. **вовѣкъ, вовѣки.** Прасл. прыназоўнікава-адыменнае ўтварэнне. Аднак у сучасную беларускую мову слова трапіла з ц.-слав. праз рэлігійныя тэксты.

**Вáвер** 'пустазелле, зелле' (КЭС). З польск. *wawer*<*wawrzyn* 'лаўр'<лац. *laurus* 'тс' (Брукнер, 604).

**Вавёрка** (БРС). Рус. *веверица,* укр. *вівериця,* польск. *wiewiórka,* в.-луж. *wjewjerca, wjewjerčka,* чэш. *veverka, veveřice,* славац. *veverica,* балг. *вéверица, вéрверица,* серб.-харв. *вjȇверица,* славен. *véverica,* макед. *веверица, верверица.* Прасл. экспрэсіўнае падваенне **ve(r)ver-,* якое звязваецца з і.-е. **u̯er-* 'выгінацца'. І.-е. паралелі: літ. *voverẽ* 'тс', лат. *vãvere,* ст.-прус. *weware,* перс. *varvarah* (Фасмер, 1, 282; Рудніцкі, 1, 382—383; БЕР, 1, 125; Скок, 3, 603—604; Брукнер, 619).

**Вавóз** 'крыты ход у падасець' (Бяльк.). Да *вазіць;* параўн. *уваход*<*хадзіць.* Не выключана, аднак, што гэта слова можа быць запазычаннем польск. *wąwóz* 'цясніна' з пераасэнсаваннем.

**Вавóй.** Гл. *навой.*

**Вавýла** 'марудны чалавек' (Нас.). Гл. *вавуліць.*

**Вавýліць** 'марудзіць, капацца' (Нас.). Слова цьмянае. Можна меркаваць, што яно паходзіць ад рэдуплікацыі гукапераймальнага экспрэсіўнага выклічніка *ва,* якім абазначалася невыразнае маўленне. Значэнні 'марудзіць, капацца' і іншыя маглі ўзнікнуць пазней на падставе першаснага. Да гэтага ж кораня трэба аднесці рус. *ваулить* 'гаварыць павольна, заікацца', *вавула, ваула* 'маруда, заіка; неахайны чалавек'. Не выключана сувязь з гукапераймальным прыназоўнікам *вава* (гл.).

**Ваг$_1$** 'рычаг для падняцця цяжару' (Клім.), *вага* 'ўмацаваная на сасе перакладзіна, якая служыць для даставання вады са студні' (Юрч.); 'палка для ўскладання markнага цяжкага грузу на воз' (Інстр. I); 'рычаг для падымання бярвення'

(Інстр. II). Да *вага* (гл.). Серб.-харв. *вâг* 'рычаг' дазваляе меркаваць, што гэта значэнне з'яўляецца праслявянскім.

**Ваг**$_2$ 'від павіннасці пражай у час прыгону' (Шатал.). Да *вага.* Форма м. р. можа быць вытлумачана ўплывам рус. *вес.*

**Ва́га** 'вага́; ва́гі; лоўкасць, сіла; важнасць' (Шн. песні, КЭС). Агульнаслявянскае запазычанне са ст.-в.-ням. *wâga,* н.-в.-ням. *Wage* 'вагі'. Гэта пашыраная версія выклікае, аднак, сумненне, паколькі для запазычання са ст.-в.-ням. зашырокі арэал распаўсюджання слова ў славянскіх мовах, параўн. рус. *вага,* укр. *вага,* польск. *waga,* в.-луж. *waha,* н.-луж. *waga,* чэш. *váha,* славац. *váha,* макед. *вага,* серб.-харв. *вâгати* 'ўзважваць'. Да ўсходніх славян слова прыйшло, відаць, праз польскую мову (Фасмер, 1, 263) разам з шэрагам новаўтварэнняў на польскай глебе і польскіх ка́лек нямецкіх слоў (Брукнер, 598—599). На беларускай глебе зараз суіснуюць шматлікія словы з гэтым коранем, але рознага паходжання — запазычанні, калькі, уласнабеларускія ўтварэнні і інш.: *важыць, адвага, раўнавага, разважлівы, вагар, важкі, важны, падвага, стальвага* і інш. Запазычаннем з польск. (і далей са ст.-в.-ням.) лічыў бел. *вага* Карскі (Труды, 310; Белорусы, 151). Гісторыю слова гл. Булыка, БЛ, 11, 73—74. Параўн. Міклашыч, 374; Уленбек, AfslPh, 15, 492; Кіпарскі, Gemeinsl., 267; Праабражэнскі, 1, 99—100; Гараеў, 37; Клюге, 393; Фік-Торп, 383; Махэк$_2$, 674; Голуб — Ліер, 500; Шанскі, 1, В, 5; Рудніцкі, 1, 288—289; Скок, 3, 558—559; Кюнэ, Poln., 112.

**Вагава́ць**$_1$ 'баранаваць'. Балтызм. Параўн. літ. *vagóti* 'баранаваць', *vagà* 'баразна' (Аткупшчыкоў, Лекс. балтызмы, 32).

**Вагава́ць**$_2$ 'будзіць, падымаць са сну' (зламоўн.) (Сцяц.). Гук *г* выбухны. Указанне на тое, што слова ўжываецца зламоўна, дазваляе меркаваць, што перад намі перанос значэння *вагаваць* 'з цяжкасцю ўзнімаць' (<*ваг* 'рычаг')>*вагаваць* 'падымаць са сну'>'будзіць'.

**Вагаві́к** 'той, хто ўзважвае і размяшчае грузы ў залежнасці ад іх вагі на чыгунцы' (КТС). Да *вагавы.*

**Вагаві́ла** 'вага ў студні з жураўлём' (ДАБМ, 809). Параўн. *вага* 'ўмацаваная на сасе перакладзіна, якая служыць для даставання вады са студні' (Юрч.). Да *вагаваць* 'карыстацца рычагом', *вагаваць*>*вагавіла* на ўзор *тачыць*>*тачыла.*

**Вагаві́ты** 'які мае значную вагу' (КТС): «малы нарадзіўся здаровы і вагавіты». Да *вага.*

**Ва́галка** 'гушкалка' (З нар. сл.). Да *вагацца* 'качацца, гушкацца'.



**Ва́гальны** (БРС). Калька з рус. *колебательный* на падставе суадносін бел. *вагаць* — рус. *качать, колебать.*

**Ва́гам** 'марудна, павольна' (З нар. сл., Юрч.); 'паволі, паціху' (Бяльк.); 'раўнамерна, з вытрымкай; на вагу, на вазе' (Гарэц.). Звязана з *вага* (гл.) і з той абстрактнай семантыкай, што развілася ў вытворных ад *вага;* параўн. *разважліва, паважна* і пад.

**Ваға́н**$_1$ 'драўляная міска' (КСТ, КЭС). Вытворныя: *ваганéц* 'начоўкі для пяску', *вага́нак* 'коўшык', *вагано́к* 'драўляная міска' (КСТ). Рус. *ваганки* 'ночвы, карыта', укр. *ваганй* 'прадаўгаватая драўляная міска для яды; ночвы', чэш. *vahánek,* славац. *vahan,* серб.-харв. *вâган* 'драўляная міска; пэўная мера', славен. *vagàn, vagána.* Запазычанне. Існуючыя версіі гл. Фасмер, 1, 264; Махэк$_2$, 675; Рудніцкі, 1, 289; Скок, 3, 559. Балгарскія этымолагі (БЕР, 1, 110—111, 221) лічаць, што **vaganъ* — вынік метатэзы пры запазычанні італ. *gavagno* (параўн. балг. *гаванка* 'драўляная міса').

**Вага́н**$_2$ 'лаянкавае слова' (КСП); 'высокі, здаровы чалавек'. Рус. *ваган* 'вахлак, мужык, селянін', *ваганиться* 'гарэзаваць, гуляць, жартаваць', *ходить на ваган* 'адлучацца без дазволу', польск. *wagant,* чэш. *vagant* 'бадзяга', славац. *vagant* 'бадзяга-студэнт', серб.-харв. *вâгант* 'бадзяга'. У бел. мову слова трапіла з захаду (параўн., напрыклад, ням. *Vagant*), магчыма, праз польскую або непасрэдна з лацінскай. *Ваган*<**вагант,* якое да лац. *vagans, vagantis* 'які бадзяецца'. Аб страце *-т* параўн. Суперанская, Вопросы культуры речи, 3, 1961. Гл. Махэк$_2$, 674; Надурская, JP, 1972, 1, 20.

**Ваганéтка** (БРС). Запазычана праз рус. *вагонетка* з франц. *wagonnet* 'вагончык'<*wagon* 'вагон' (Шанскі, 1, В, 4; Рудніцкі, 1, 289).

**Вага́р** 'рычаг' (БРС). Суфіксальнае ўтварэнне ад *ваг* 'рычаг' (гл.).

**Вагарамо́нтны** 'звязаны з рамонтам вагаў' (КТС). Магчыма, калька з рус. *весоремонтный.*

**Вагары́** 'хвалі' (КТС). Гл. *вакарына.*

**Вага́рыць** 'уцякаць' (жаргон.) (Сцяшк. МГ). Утворана на беларускай глебе ад польск. *wagary* 'прагул'; параўн. польск. *chodzić na wagary, wagarować* 'прагульваць'<лац. *vagari* 'валачыцца' (Брукнер, 599).

**Вагаўшчы́к** (БРС). Калька з рус. *весовщик* (Крукоўскі, Уплыў, 119).

**Ва́гаць** 'паглыбляць барозны пасля сяўбы для сцёку вады'

(Жд., Інстр. I). Слова балтыйскага паходжання; параўн. літ. *vagà* 'баразна', *vagóti* 'рабіць барозны'. Гл. *вагаваць.*

**Вагéра₁** 'зух' (гук *г* выбухны) (Нас.), *вогер, вогерка* 'тс' (КТС). Насовіч падае таксама *вогер,* якое тлумачыць, як 'жарабец' і як 'угарь-молодец'. Ці не сюды рус. *огурь, огурный, огуряться,* якія прыводзіць Фасмер (3, 120), лічачы іх няяснымі, а таксама рус. *ухарь?* Укр. *вагера* 'тс'. Семантычна *вогер, вагера* можна наблізіць да *агура* 'неслух' (Бяльк.), *агурань* 'грубіян, неслух' (Нас.). Паводле версіі Карскага, Белорусы, 176, *вогер* 'жарабец'<цюрк. *ajger.* Далей семантычны пераход 'жарабец'>'зух (пра чалавека)', што пацвярджаецца наступнай паралеллю: *адлётныя (коні)* (Нас.) — *адлёт* 'зух' (Бір. дыс., КТС). Параўн. Рудніцкі, 1, 289.

**Вагéра₂** 'танец на кукішках' (Нас.). Няясна. Магчыма, звязана з папярэднім.

**Вáгі** 'прылада для ўзважвання'. Да *вагá* (гл.). Форма множнага ліку, у пэўнай ступені лексікалізаваная (аднак у РБС *вагá* адз. л., *вáгі* мн. л.), замацавалася, магчыма, па аналогіі з назвамі іншых прылад, якія складаюцца з дзвюх частак (*сані, нажніцы, вароты* і пад.), або пад уплывам рус. *весы.*

**Вáгільнік** 'вагавая' (З нар. сл.). Гл. *важніца.*

**Вагíтная** 'цяжарная' (КТС). З укр. *вагітна* 'тс'. Гл. Рудніцкі, 1, 289.

**Вагкавáты** 'ў якім адчуваецца вільгаць' (КТС): «Крочаць па вагкаватай гравійцы» (А. Кулакоўскі). Да *вогкі* 'волкі' (гл.). Параўн. *ваўкаваты* 'недасушаны, вільготны' (Нас.).

**Вáгкасць** 'важкасць' (КТС). Да *вага* (гл.).

**Вагкýша** 'печань' (КСТ). Магчыма, да *ваг-* 'важкі'; параўн. *вáжкае* 'печань у кабана' (гл.). У семантычным плане параўн. *лёгкія.* Адносна суфіксацыі гл. SP, 1, 79.

**Вaглéдзець** 'убачыць' (Кліх.). З *увагледзець,* дзе прэфікс *ува-* — варыянт *у-.*

**Вагнáць** 'увагнаць' (КТС). З *увагнаць,* як *вагледзець*<<*увагледзець.*

**Вагнівó** 'крэсіва для высякання агню' (Бяльк.). Рус. *огнúво,* укр. *вогниво,* польск. *ogniwo,* макед. *огнило,* серб.-харв. *огњило* 'тс'. Агульнаславянскія ўтварэнні ад *агонь.*

**Вагнíца** 'хвароба' (КТС). Да *агонь.* Параўн. рус. *вогник,* укр. *вогневиця, огневиця* 'тс'. Словаўтваральная паралель в.-луж. *wodnica* 'вадзяная хвароба'.



**Вагóмы** 'які мае вагу, важкасць' (КТС). Да *вага.* Магчыма, калька з рус. *весомый.*

**Вагóн** (БРС). Праз рус. *вагон* (Крукоўскі, Уплыў, 83) з франц. *wagon* (Шанскі, 1, В, 4; Рудніцкі, 1, 289; Скок, 3, 559).

**Вагóнка** 'дошкі для вагонаў' (Мат. Гом.); 'шалёўка' (Інстр. II). Утворана з дапамогай суфікса *-к-* ад *вагонны.*

**Вагýлам.** Гл. *агулам.*

**Вад** 'спякота' (Гарэц.), *вáдны* 'спякотны' (Яруш.), *вáдна* 'нясцерпна ад спёкі' (Гарэц.), *вáдліва* 'горача, спякотна' (Бяльк.). Гл. *авад.*

**Вадá** (БРС). Рус. *вода,* укр. *вода,* польск. *woda,* в.-луж. *woda,* н.-луж. *woda,* чэш. *voda,* славац. *voda,* балг. *вода,* макед. *вода,* серб.-харв. *вòда,* славен. *vòda,* ст.-слав. **вода.** Праславянскае **voda*<і.-е. **u̯od-, *u̯ed-;* параўн. літ. *vanduō,* ням. *Wasser,* гоц. *watō,* арм. *get* 'рака', ст.-інд. *uda-* 'вада', лац. *unda* 'хваля' (Фасмер, 1, 330; БЕР, 1, 168—169; Рудніцкі, 1, 458; Скок, 3, 611).

**Вадабóй** 'насціл з дошак, на які падае вада з плаціны і які прадухіляе ўзнікненне ямаў' (КЭС). Да *вада* і *біць.*

**Вадавéрць** 'вір' (Гарэц.; Яруш.). Складанае слова: *вада*+*вярцець* 'круціць'. Рус. *водоворот,* макед. *водовртеж,* балг. *водовъртеж* 'тс' дазваляюць меркаваць, што існавала праславянская складаная лексема са значэннем 'вір'.

**Вадавíк** 'вадзяны дух' (Шпіл. Моз.). Да *вада.* Параўн. *лесавік* 'лясны дух, лясун'; рус. *водовик* 'усякая жывёліна, што жыве ў вадзе'. Параўн. *вадзянік₁.*

**Вадамéры,** *вадамéрнікі* 'мошкі ў выглядзе павукоў з доўгімі нагамі' (КЭС; Інстр. II), *вадамéрка* 'тс' (КТС). Рус. *водомерка* 'Hydrometra, даўганожка, вадзяны павук'. Да *вада* і *мераць.*

**Ваданóс₁** 'вага ў студні з жураўлём' (ДАБМ, 809); *ваданóсы* 'каромысел' (ДАБМ, 821). Да *вада* і *насіць.*

**Ваданóс₂** 'труцень' (З нар. сл.). Назва звязана з народным уяўленнем аб трутнях: «трутні ваду носяць» (там жа, 206).

**Вадапéрыца** 'Hottonia L.' (Кіс.). Рус. *водоперица* 'шышняк, Myriophyllum'. Да *вада* і *пяро.*

**Вадапóй.** Рус. *водопой,* укр. *водопій,* польск. *wodopój,* балг. *водопой,* серб.-харв. *водòпōј* 'тс'. Прасл. словаскладанне: **voda* і **poi-ti.*

**Вадаспáд** 'вадапад' (Яруш.); 'месца, дзе вада ракі падае' (Інстр. I). Складанае слова: *вада*+*спадаць.* Параўн. укр.

*водоспа́д* 'тс'. Магчыма, паланізм у бел. мове: польск. *wodospad,* але серб.-харв. *вȍдопāд.*

**Вадасхо́вішча.** Калька з рус. *водохранилище* (Крукоўскі, Уплыў, 132).

**Вадато́к** 'плынь; рэчышча' (КЭС). Рус. *водоток,* укр. *водотока* 'рэчышча патоку'. Складанае слова: *вада+цячы.*

**Вадато́ча** 'рэчышча' (Др.-Падб.); 'пратока' (Гарэц.). Ст.-рус. *водоточа.* Да *вада* і *тачыць.*

**Вадато́чніца** 'вадаём' (Гарэц.). Да *вадаточа* (гл.) або *вадаточны.*

**Вадгадунцы** 'разгадкі' (Гарэц.). Да *гадаць* (гл.). Словаўтваральная мадэль няясная.

**Вадзганіна** 'пэцканне' (КЭС). Да *вэдзгацца* 'пэцкацца, напрыклад, у кашы' (КСП).

**Вадзе́нь** 'авадзень' (Грыг., Яўс.). Гл. *авадзень.*

**Вадзіла$_1$** 'вага ў студні з жураўлём' (ДАБМ, 809). Да *вадзіць$_1$*. Словаўтваральная паралель *тачыла.*

**Вадзіла$_2$** 'павадок у каня' (Дзмітр.). Да *вадзіць.* Параўн., аднак, рус. *удила* 'тс'.

**Вадзіла$_3$** 'прылада гнуць палазы' (Бяльк.). Да *вадзіць.* Параўн. укр. *водило* 'доўгая жэрдка, варочаючы якой згінаюць калёсны вобад'.

**Вадзільшчык** 'чалавек, што водзіць коней' (Мат. Гом.). Параўн. *важдай* 'тс'. Да *вадзіць.*

**Вадзіцель** 'шафёр' (БРС). З рус. *водитель* (Крукоўскі, Уплыў, 56).

***Вадзіцелька,** гом. *вадзіцілка* 'курыца, якая водзіць курачят' (ДАБМ, 888). Утворана ад **вадзіцель* 'той, хто водзіць' або непасрэдна ад *вадзіць.* Страту мяккасці *л* у суфіксе можна вытлумачыць уплывам слоў, утвораных ад форм на *-ло: вала̀чылнік<валачыла.* Параўн., аднак, дыял. *учыцілка, радзіцілка, прыяцелка, пісацелка.*

**Вадзіцца** 'пры змаганні цягацца' (лаг., КЭС). Зваротная форма ад *вадзіць* з семантычным зрухам 'знацца з кім-небудзь, быць звязаным з кім-небудзь'>'змагацца пры барацьбе, цягацца, ухапіўшыся адзін за аднаго'; параўн. польск. *wodzić się* 'б'ючыся, перацягваць адзін другога з месца на месца'.



**Ва́дзіцца** 'сварыцца' (Гарэц.; лаг., КЭС; докш., Янк. Мат.). Гл. *ва́дзіць$_1$*.

**Ва́дзіць$_1$** 'шкодзіць' (БРС, Шпіл., Яруш., Др.-Падб., Гарэц.); 'муляць, назаляць; турбаваць; калоцца' (Юрч., Грыг., Сцяшк. МГ, Янк. БП); '(мяне) нудзіць, (мне) моташна, млосна' (безасаб.) (КСТ), *ва́дзіцца* 'сварыцца' (Гарэц., Хрэст. дыял., 333); 'весці звадку' (лаг., КЭС), *ва́дка* 'сварка', *ва́да* 'загана' (Хрэст. дыял.); 'налог, недахоп' (Шпіл.); 'няшчасце' (Карскі, Труды, 337); 'недахоп, загана' (Арх. Бяльк.); 'ганьба, фальш, хіба' (лаг., КЭС); 'боль' (КСТ). Рус. *ва́дить* 'узводзіць паклёп, сварыцца', польск. *wadzić* 'сварыць, звадзіць', *wada* 'недахоп', в.-луж. *wadźić* 'перашкаджаць, шкодзіць', чэш. *vaditi* 'тс', *vada* 'звадка, сварка', славен. *vȁditi* 'абвінавачваць', балг. *ва́дя* 'паклёпнічаць, быць зламоўным'. Прасл. **vaditi* роднаснае з літ. *vadinti* 'зваць, запрашаць', ст.-в.-ням. *farwāʒan* 'абяцаць, клясціся', ст.-інд. *vádati* 'гаворыць, паведамляе'. Гл. Фасмер, 1, 265—266; БЕР, 1, 112; Махэк$_2$, 674; Брукнер, 598; Скок, 3, 557.

**Ва́дзіць$_2$** 'прыцягваць' (Гарэц.); 'шанцаваць, мець карысць' (КЭС). Рус. *повадка, ва́да* 'звычка', *ва́дить, важивать* 'вабіць, прынаджваць, прыкормліваць', *повадиться* 'займець звычку', балг. *ва́дя* 'атрымліваць', серб.-харв. *на́вада* 'звычка', *на̀вадити* 'прывучаць', славен. *vaditi* 'прывучаць', ст.-слав. **навада** 'прывучэнне'. Прасл. **vaditi<*vada,* якое Праабражэнскі (1, 63) суадносіць з санскр. *svdhhā́* 'звычка, звычай, навык', адасабляючы ад рус. *ва́да* 'сварка', *ва́дзіць* 'маніць, гаварыць няпраўду'. Магчымасць пераходу 'сварыцца'>'прынаджваць, прывучаць' дапускае Фасмер (1, 266). Гл. яшчэ Скок, 3, 558; Варбот, Этимология, 1963, 213—216; Даруля, SR, 1968, 217—223.

**Вадзі́ць$_1$**. Прасл. **voditi* — ітэратыў да *весці* (гл.).

**Вадзі́ць$_2$** 'шукаць у схованках' (КСТ). Утворана лексіка-семантычным спосабам ад *вадзіць/ве́сці.* Параўн. рус. *водить* 'у дзіцячых і спартыўных гульнях выконваць галоўную ролю адпаведна з правіламі'; 'канаводзіць', балг. *водя* 'кіраваць', серб.-харв. *он води* 'ён унерадзе'. Праабражэнскі (1, 100) указвае на рус. *ва́ди́ть,* якое ўжываецца ў гульнях у адносінах да таго, хто прайграў і абавязаны, напрыклад, падаваць шар, мячык. Можна меркаваць, што ў рус. *ва́ди́ть* «аб'яднаны» розныя дзеясловы: *води́ть* і *ва́дить.* Даль (1, 160) адзначыў, маючы на ўвазе гэта значэнне: «здаецца, гэта будзе води́ть, а не ва́дить». Параўн., аднак, *ва́дзіць* 'ставіць цурку пры гульні ў клёк' (Сцяц.).

**Вадзíшча**, *вадзянíшча* 'вялікі разліў, вялікая вада, бурнае разводдзе' (Яшк.). Да *вада*. Параўн. рус. разан. *водища* 'вялікая колькасць вады'.

**Вадзя́га** 'вадзяны' (Мат. Гом.). Да *вадзіць₁*, калі меркаваць па выразу «павадзіў мяне вадзяга па балоту». Сувязь з *вада* трэба адхіліць яшчэ і таму, што словаўтваральная мадэль з суфіксам *-ага* з'яўляецца аддзеяслоўнай; параўн. *туляга, бадзяга.*

**Вадзяне́ць** 'напітвацца вадой, разрэжвацца ад вады' (КЭС). Ад прыметніка *вадзя́ны* 'з вялікай колькасцю вады'; параўн. *вадзя́на* 'шмат вады' (лаг., КЭС).

**Вадзянíк₁** 'вадзяны' (Яруш., Нік., Няч., БРС), *вадзяны́* 'нячысты дух, які жыве ў рэках, азёрах' (Сцяшк.), *вадзянік, вадзяны́* 'дух-гаспадар у лесе' (Інстр. II), *вадзянікі* 'тс' (Касп.). Суфіксальны дэрыват ад *вадзяны́* 'які знаходзіцца ў вадзе'; вынік універбізацыі словазлучэння *вадзяны дух.* Параўн. рус. *водяной,* укр. *водний,* серб.-харв. *вȍдац* 'тс'.

**Вадзянíк₂** 'вугал у хаце, дзе ставяць ваду і посуд' (Шушк.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *вадзяны́* 'прызначаны для вады'. Параўн. балг. *водни́к* 'месца ў кухні, дзе вешаюць катлы з вадой'.

**Вадзянíк₃** 'драўляны коўш для вады' (Серб.); 'чайнік' (Мат. Гом.). Да *вадзяны́.* Параўн. укр. *водяник* 'посуд для вады', *водник* 'хатняя дзежачка для вады'.

**Вадзянíкí** 'стан непрытомнасці' (Касп.). Звязана з *вадзянік* 'дух, які жыве ў вадзе або ў лесе': перанос назвы духа на стан чалавека. Параўн. *кадук* 'злы дух' і *кадук* 'эпілепсія, падучая хвароба'.

**Вадзянíца** 'гарлачык, Nymphaea L.' (КЭС). Суфіксальны дэрыват ад прыметніка *вадзяны́* 'які знаходзіцца ў вадзе'. Форма жаночага роду тлумачыцца ўплывам роду назоўніка *расліна* (або аналагічнага): *вадзяная расліна>вадзяніца.*

**Вадзянíшча.** Гл. *вадзíшча.*

**Вадзя́нка₁** 'від хваробы'. Суфіксальнае ўтварэнне, узнікшае як вынік кандэнсацыі словазлучэння *вадзяная хвароба;* параўн. ст.-рус. *водьныи трудъ* 'вадзяная хвароба' (Сразн., 1, 279). Параўн. Шанскі, 1, В, 126—127.

**Вадзя́нка₂** 'бочка з вадой' (Мат. Гом., Гарэц., Інстр. I, Юрч.). Суфіксальны дэрыват, вынік універбізацыі словазлучэння *вадзяная бочка.* Параўн. рус. *водянка,* укр. *водянка* 'тс'.



**Вадзя́нкі₁** 'сані для падвозкі вады' (Юрч.). Ад прыметніка *вадзяны́* 'прызначаны для вады'. Форма pluralia tantum тлумачыцца аналогіяй з *сані.*

**Вадзя́нкі₂** 'драўляная пасудзіна, якой чэрпаюць ваду з вядра' (ДАБМ, 815). Суфіксальнае ўтварэнне ад *вадзяны́* 'прызначаны для вады'. У ДАБМ слова прадстаўлена як адзінкавая назва на тэрыторыі Міншчыны. Форму множнага ліку можна тлумачыць як вынік аманімічнага адштурхоўвання: *вадзя́нка* 'пасудзіна',— *вадзя́нка* 'хвароба'. Магчыма, таксама аналогія з іншымі назвамі посуду pluralia tantum (*ночвы* і пад.).

**Вадзяну́ха** 'дзень перад хрышчэннем', *вадзяная каляда* 'тс' (Клім.). Да *вадзяны́.*

**Вадзяны арэшак** 'рагулькі, чылім; вадзяная травяністая расліна, Trapa' (Касп.). Названа па месцы, дзе расце, і па плоду — арэхападобнай касцянцы.

**Вадзяны́ вол** 'птушка бугай, Ardea stellaris' (Янк. Мат., Лыс.). Польск. *wodny wół* 'тс'. Да *вол,* паколькі крык гэтай птушкі нагадвае мычанне быка або вала. Параўн. іншыя назвы: *бык, бугай.*

**Ва́дка** 'рыбалоўная прылада' (Мат. Гом.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *вата* 'невад, рыбалоўная прылада' (З нар. сл.), запазычанага з ням. (с.-в.-ням. *wate,* с.-н.-ням. *wade* 'рыбалоўная сетка'). Фанетыка няясная. Параўн. чэш. *wadka* 'невад'<ням. *Wathe,* на якое ўказвае Брукнер (596), польск. *wada,* в.-луж. *wata,* н.-луж. *wata* 'тс' (Махэк₂, 678).

**Ва́дка** 'сыра, мокра' (Бяльк.). Да *вадкі* (гл.).

**Ва́дкасны** (БРС). Калька з рус. *жидкостный* (Крукоўскі, Уплыў, 119).

**Ва́дкасць** 'вадзяністасць, порыстасць; няшчымнасць' (Гарэц.): «Хлеб часам вадак, часам цясцян». Да *вадкі* (гл.).

**Ва́дкі** (БРС). Няясна. Рус. *вадкий* 'вадкі, вадзяністы', прысл. *вадко* зафіксавана на Пскоўшчыне і Смаленшчыне. Укр. *вадкий* мае значэнне 'шкодны' і, відаць, звязана з *ва́дзіць* 'шкодзіць'. Сувязі з рус. *ва́дья* 'азярцо, балота, лужына, крыніца' няма, бо апошняе з'яўляецца запазычаннем з комі: *vadja<vad* 'балота, дрыгва' (Фасмер, 1, 266). Няясна, ці ёсць сувязь з макед. *вада* 'арык', балг. *ва́да* 'тс', серб.-харв. *вада* 'канаўка, ручаіна'; гл. БЕР, 1, 111. Магчыма, *ва́дкі<вадкі<вадá;* параўн. рус. смал. *водкий* 'вадкі, вадзяністы'. Магчыма, да *ва́да* 'загана' з далейшым пераасэнсаваннем пад

уплывам *вада́*. Параўн. значэнні *ва́дкі,* на якія ўказвае Гарэцкі: 'порысты, няшчыльны' (гл. *ва́дкасць*).

**Ва́дліва** 'горача, спякотна' (Бяльк.). Гл. *вад* 'спякота'.

**Вадо́хрышча** 'хрышчэнне' (БРС, Яруш., Шпіл.). Утворана складаннем слоў *вада* і *хрысціць*.

**Вадун** 'персаніфікаванае абазначэнне стану чалавека' ў выразе «вадун водзіць з голаду» (КТС); параўн. *ваду́* 'нейкія чэрці' ў выразе «ваду́ водзяць» (Бяльк.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *вадзіць*$_1$; параўн. *бягун* у выразе «бегуны яго ганяюць»; 'бегае, бо жывот баліць'.

**Ваду́** 'нейкія чэрці' (Бяльк.). Гл. *вадун.*

**Ваду́р** 'пухір' (БРС); 'вадзяны пухір ад апёку' (Бір., Бір. Дзярж.); 'гуз, пухір' (КСТ). Да *ва́дзіць,* магчыма. Значэнне 'вадзяны пухір' указвае і на сувязь з *вада́;* параўн. *вадзя́нка* 'вадзяны пухір'. У слове можна бачыць кантамінацыю *валдыр* і *вада.*

**Вадэві́ль** (БРС). Праз рус. *водевиль* (Крукоўскі, Уплыў, 84) з франц. *vaudeville* 'песенька, тэатральная п'еса з куплетамі' (Шанскі, 1, В, 124; Рудніцкі, 1, 460).

**Ваенга́ндлеўскі** 'звязаны з ваенным гандлем' (КТС). Калька з рус. *военторговский.*

**Ваенна-паве́траны** 'які мае адносіны да ваеннай авіяцыі' (КТС). Калька з рус. *военно-воздушный* (Крукоўскі, Уплыў, 132).

**Ваеннапало́нны** 'ваеннаслужачы, узяты ў палон' (КТС). Калька з рус. *военнопленный* (Крукоўскі, Уплыў, 132).

**Ваенны** (БРС, Бяльк.). Агульнаславянскае суфіксальнае ўтварэнне ад **voj* 'воін': рус. *военный,* укр. *военний,* польск. *wojenny,* балг. *военен,* серб.-харв. *во̏јни.*

**Ваенрук** 'кіраўнік ваеннай падрыхтоўкі ў навучальных установах' (КТС). З рус. *военрук* (Крукоўскі, Уплыў, 69).

**Ваенто́ргаўскі** 'які мае адносіны да арганізацыі або ўстаноў ваеннага гандлю' (КТС). З рус. *военторговский.*

**Вае́ншчына** 'камандны састаў рэакцыйных армій' (КТС). З рус. *военщина.*

**Вае́ўны** 'вайсковы' (Кліх). Уласнабеларускае слова, якое ўзнікла ў выніку дысіміляцыі *ваенны>ваеўны* або з'яўляецца суфіксальным утварэннем: **voj+-ьвн-.* Польскае *wojowny* мае іншае значэнне: 'ваяўнічы'.



**Ваёўнікі** 'ваенныя, ваякі' (КТС). Да *ваяваць* (з суфіксам *-нік).*

**Ва́жа** 'гіра ў адзін фунт' (Мат. Гом.). Да *важыць.*

**Важае́** 'цуркі, рагі' (Шатал.). Адзіночны лік **вожай<<*вожжай* з суфіксам *-ай; вожж-< возж-* (<**voz-gj*), якое звязана з *вязаць.* Параўн. рус. *возжица* 'нітка, шпагацік'. *Важае́* — «нітачкі» вады ці поту.

**Важа́ка** 'важак' (КЭС): «Важакаю быць — трэба з мядзведзем знацца» (Янк. БП). Да *вадзіць,* як *рубака<рубіць.* Да вагання ў родзе параўн. *небарак, небарака.*

**Важа́ты**$_1$ 'возчык сват на вяселлі, пасаду якога выконвае хросны бацька' (Нас.). Да *вазіць.*

**Важа́ты**$_2$ 'кіраўнік піянераў' (КТС). З рус. *вожатый* 'тс'. Пра апошняе гл. Шанскі, ЭИРЯ, I, 61—72.

**Важга́цца**$_1$ 'прагінацца' (гук *г* выбухны) (З нар. сл.): «кладка важгаецца». Да *вага* (?). Магчыма, кантамінацыя *ва́жыцца* 'вагацца, хістацца' (Мат. Гом.) і *вагацца.* Параўн. рус. *провеситься,* серб.-харв. *ва́гнути* 'ўзважыць' і 'прагнуцца'.

**Важга́цца**$_2$. Гл. *важдацца.*

**Важда́й** 'той, хто водзіць коні' (Мат. Гом.). Магчыма, да ст.-рус. **vož-a-ti* 'вадзіць' (гл. Шанскі, 1, В, 128), суфікс *-тай* (як у *гультай, ратай,* рус. *ходатай*) з асіміляцыйным азванчэннем суфіксальнага *-т-.*

**Важданíна** 'занятак, які патрабуе шмат часу; турбота' (КТС). Гл. *важдацца.*

**Важда́цца** 'займацца чым-небудзь, корпацца' (БРС, Мядзв.), *важгацца* 'тс' (Шат.), *важданíна* 'корпанне' (КТС). Рус. *возжаться, вожжаться* 'вазіцца, быць у любоўнай сувязі', *важдаться* 'тс', *важдать* 'ва́дзіць, абняслаўліваць', *важдение* 'хлусня', *важда* 'марока, насланнё', *вожданина* 'непатрэбная затрымка ў працы', укр. *ваджува́тися* 'прывязвацца, прычэплівацца да каго-небудзь'. Варыянты са *-жд-, -жж-, -зж-, -зг-* з'яўляюцца, відаць, вынікам экспрэсіўнага ўжывання дзеяслова і кантамінацый з *ва́дзіць, прынаджваць, вазіцца* і іншымі словамі. Слова *важдацца* таго ж паходжання, што і бел. *вожка,* рус. *вожжи,* польск. *wodze,* славен. *vȏjka,* г. зн. да **vodja* (Фасмер, 1, 332).

**Ваджжы́на** 'лейчына' (Янк. Мат.). Ад формы мн. л. *вожджы* з суфіксам адзінкавасці *-ін-.*

**Важка₁** 'гіра' (Касп.); 'фунтовая гіра' (Інстр. III). Да *важа* (гл.).

**Важка₂** 'цяжка' (БРС, З нар. сл., Хрэст. дыял., Шпіл., Мат., Шн. песні). Да *важкі₁*.

**Важка₃** 'кудзеля, апрацаванае льняное валакно, прыгатаванае ў пралку' (Касп.). Да *ваг* (гл.) з суфіксам *-ьк-*.

**Ва́жкае** 'печань у кабана' (КСТ). Ад *важкі₁*. Значэнне звязана, відаць, з антонімам *лёгкае, лёгкія*. Гл. яшчэ *вагкуша*.

**Ва́жкасць** 'значнасць, важнасць' (КТС). Калька з рус. *весомость* (Крукоўскі, Уплыў, 121).

**Важка́цца** 'вагацца, сумнявацца' (Нас.). Да *вага*. Параўн. *важгацца*.

**Важкі₁** 'цяжкі' (КЭС). Да *вага*.

**Важкі₂** 'значны, важны'. Калька з рус. *весомый* (Крукоўскі, Уплыў, 121).

**Важкі₃** 'густы' (Мат. Гом.). Адно са значэнняў, якое развілося на падставе *важкі* 'цяжкі'.

**Важне́цкі** (БРС). Да *важны* (гл.). Словаўтваральнай паралеллю можа служыць *маладзецкі*. Параўн. таксама Nomina agentis *важніца* 'важная асоба' (Гарэц.).

**Важне́ць** 'важнічаць, ганарыцца, важна паводзіць сябе' (Касп.). Да *важны₁* (гл.).

**Ва́жніца** 'важнасць; важная асоба' (іран.) (Гарэц.). Да *важны₁* суфікс жаночага роду *-іца*.

**Важні́ца** 'вагавая' (З нар. сл.). Да **ваг-ьн-іца*<*вага*. Параўн. іншыя назвы месца, дзе важаць: *вагавая* (БРС), *важыўня* (Бяльк.), *вагільнік* (З нар. сл.).

**Важні́чае** 'пошліна за ўзважванне' (Нас.). Да *важнічы* (гл.).

**Важні́чы** 'асоба, адказная за ўзважванне' (Нас.). Да *важыць, вага;* параўн. *ляснічы, паляўнічы*.

**Ва́жны₁** (БРС). Да *вага*. Фасмер (1, 266) лічыць гэта слова запазычаннем з польскай мовы. Аднак бліжэй да ісціны, відаць, Шанскі, 1, В, 5, дзе ўказваецца на агульнаславянскі характар лексемы на падставе наяўнасці паўдн.-слав. паралеляў: балг. *важен,* макед. *важен,* серб.-харв. *ва̏жан,* усе з тым жа значэннем. Гл. Праабражэнскі, 1, 61; Міклашыч, 374.

**Ва́жны₂** 'цяжкі' (Выг. дыс.). Да *вага*.



**Важо́к** 'груз у снасцях' (Крыв.). Да *важыць,* як *каток*<<*каціць*.

**Важугі́** 'вілкі, качарга, чапяла, венік' (Серб.). Гл. *вожаг, ожаг*.

**Важу́жнік** 'вугал, дзе стаяць важугі' (Серб.). Да *важугі* (гл.).

**Ва́жыльны** 'звязаны з месцам, дзе важаць' (БРС). Да *важыць* (гл.).

**Важыўня́** 'месца, дзе важаць' (Бяльк). Гл. *важніца*.

**Ва́жыўшчык** 'той, хто важыць' (Бяльк.). Да *важыць* (гл.).

**Ва́жыцца₁** 'вагацца, хістацца' (Мат. Гом.). Да *важыць* (гл.).

**Ва́жыцца₂** 'ўзважвацца; адважвацца, рашацца' (Гарэц.); 'спрабаваць' (Шн., 142). Да *важыць* (гл.).

**Ва́жыць** 'вымяраць вагу' і іншыя значэнні (БРС, Мал., Гарэц., Шпіл., Яруш., Грыг., Зн. дыс.), на падставе якіх утварыліся шматлікія лексемы; гл. *важыльны, важок, важка, важнік, важное, важыўшчык, важыцца* і інш., гл. таксама *вага́*. Польск. *ważyć,* чэш. *vážiti,* в.-луж. *ważić,* славац. *vážit* 'тс'. Рус. *важить* пераважна зах. (Даль, 1, 159—160). Паўдн.-слав. мовы дзеяслова з *ж*<*г* не ведаюць. Можна меркаваць, што ўсх.-слав. *важыць* — запазычанне з зах.-слав. моў.

**Ва́за** (БРС). Праз польск. з ням. *Vase* або франц. *vase* (Фасмер, 1, 266; Шанскі, 1, В, 5; Рудніцкі, 1, 293).

**Вазаблада́ць** 'авалодаць' (Нас.). Па фанетычных і марфалагічных прыкметах — запазычанне з ц.-слав.

**Вазаві́к₁** 'ламавік, конь для грузавых перавозак' (КЭС). Рус. *возовик* 'тс', укр. *возовик* 'тс'. Да *вазавы* (у адрозненне ад *верхавы*).

**Вазаві́к₂** 'той, хто ўмее накласці воз сена' (Янк. III). Да *вазавы* (<**вазавы работнік)* або непасрэдна да *воз*.

**Вазавы́** 'хамут для запрагання з дугой' (Юрч.): «вазавы і аромы хамут». Рус. *возовый,* укр. *возовий,* н.-луж. *wozowy* 'тс'. Да *вазіць* або да *воз*.

**Ваза́к** 'возчык' (БРС, Янк. I). Рус. смал. *возак* 'тс'. Да *вазіць, воз*. Адно са шматлікіх утварэнняў ад *воз-* з такімі ж значэннямі; параўн. *возчык, showsнік, вазюр, вазец,* н.-луж. *woznik* 'фурман', серб.-харв. *во̏за̄р, во̏зац, во̏за̄ч* 'тс'.

**Вазваро́т** 'месца павароту плуга' (Выг. дыс.). Да *(ваз)-варачаць, (ваз)варачацца.* З коранем **vort-* у слав. мовах існуе шмат розных па ўтварэнню слоў са значэннем 'месца павароту плуга'; параўн. бел. *заваро́т, звара́та́, развaро́т,* укр. *зворота,* славен. *zvrát, zvrátnica, zvratnják* і інш. (Выгонная, Лекс. Палесся, 45—50).

**Вазго́ліцца** 'поркацца; важдацца (звыч. з цестападобным рэчывам); замазвацца, размазвацца' (Юрч.). Да *вазголіць* < < *вазголя* (гл.).

**Вазго́ля** 'маруда' (Юрч.). Да *вазголя* 'пэцкаль, мазюра' < < **вазгаць* 'пэцкаць', якое звязана з *вазгры* (Вярэніч, Бел.-укр. ізал., 10—11). Параўн. рус. *вазгать, вазганить* 'пэцкаць, вэдзгаць, квэцаць', *вазгун, вазгунья, вазган, вазгала, вазгалья* 'неахайны, брудны чалавек, пэцкаль' (Даль). Гл. Фасмер, 1, 267; Махэк₂, 697.

**Вазгра́** 'маруда' (Юрч.). Значэнне другаснае з 'неахайны', як *вазголя* 'пэцкаль' > *вазголя* 'маруда'. Гл. *вазгры.*

**Вазгро́ты** мн. л. 'што-небудзь цестападобнае, чым залеплены падлога, мэбля; бруд' (Юрч.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *вазгры* (гл.) накшталт *брыдота, галота.*

**Вазгры́** 'сoплі' (Мядзв.), *возкрі* 'тс' (Бяльк.), *вазгрывы* 'саплівы' (Касп.); 'неахайны' (Мядзв.). Рус. *возгря* 'сапля', *возгривый* 'саплівы', *возгривец, возгряк* 'саплюк', *возгривить* 'пэцкаць', укр. *возгривий, возгряк, воскряк,* польск. *wozgrza, wozgrzywy,* дыял. *woźgać* 'смаркацца', в.-луж. *wozhor,* н.-луж. *wochol, wochel,* чэш. *vozher* 'сапля', *vozhřivka* 'конская хвароба', славац. *ozger* 'конскія соплі', славен. *(v)ozger, vozgriv,* ст.-слав. **возгри.** Прасл. **vozgrja/*voskrja* 'сапля', роднаснае з вазірскім (паўн.-зах. Індыя) *wužgyē* 'сліна' (Махэк₂, 697; Фасмер, 1, 333; Вярэніч, Супрун, Бел.-укр. ізал., 10—11, 71—73).

**Вaздахта́р** 'палюбоўнік, каханак' (Бяльк.). Уласнабеларускае, экспрэсіўнае. Да **вaздыхаць* 'любіць'. Суфікс *-тар,* як у *завадатар.* Параўн. рус. *воздыхатель* (Шанскі, 1, В, 135).

**Вaздухі́** 'лёгкія' (КЭС, Інстр. I). Да *дых-/дух-.* Параўн. аналагічныя ўтварэнні: рус. *духи́* і *ды́хи* 'дыхальныя шляхі, асабліва ў каня', смал. *воздухи* 'лёгкія, грудзі'. Параўн. бел. *даць пад уздых.*

**Вазелі́н** (БРС). З рус. *вазелин* (Крукоўскі, Уплыў, 73. Параўн. Рудніцкі, 1, 293).

**Вазе́ц** 'вознік' (Бяльк.). Гл. *вазак.*



**Вазіла**₁ 'павозка' (Бір. Дзярж.). Рус. устар. *возило* 'тс'. Да *вазіць.*

**Вазіла**₂ 'старшы сват' (Доўн.-Зап., 2). Да *вазіць.*

**Вазіць**₁ (БРС). Прасл. **voziti* — ітэратыў да *везці* (гл.).

**Вазіць**₂, *вазіцца* 'катацца' (Сцяшк.). Семантычнае ўтварэнне ад *вазіць*₁. Параўн. серб.-харв. *во̀зати се* 'катацца, ездзіць'.

**Вазка** 'вялікая каструля' (Мат. Гом.). Да *ваза?*

**Вазо́к** 'лёгкія прыгожыя санкі' (парыц., Янк. Мат.). Да *воз.*

**Вазон**₁ 'гаршчок з кветкамі' (Шпіл., Янк. III). З польск. *wazon* (Сцяц. Нар.), якое, паводле Брукнера, 604, з'яўляецца ўласнапольскім утварэннем ад *waza.* Параўн. Фасмер, 1, 267; Рудніцкі, 1, 293.

**Вазо́н**₂ 'выгін ракі на роўным месцы, парослы вакол алешнікам' (Яшк.). Да *вазоны*₁ (гл.).

**Вазо́нніца** 'гаршчок з кветкамі' (КЭС); 'вазаніца' (Сцяц., Нар., 115); *вазаніцы* 'тс'. (Інстр. I, 55). Параўн. рус. прастамоўнае *вазница* 'бляшанка для кветак'. Да *вазон*₁ (гл.).

**Вазоны**₁ 'від узору' (КЭС). Да *вазоны*₂. Магчыма, семантычнае збліжэнне з *вязаць* 'плесці ўзоры'.

**Вазоны**₂ 'пакаёвыя кветкі'. (докш., КЭС). Метанімічны перанос з *вазон*₁, мн. л. па аналогіі з *кветкі.*

**Вазо́ўня** 'пабудова для гаспадарчых прылад' (Шушк., ДАБМ, 797, Грыг., Інстр. II, Гарэц., Др.-Падб., Шн., 2). Да *вазаві́.* Параўн. укр. *возовня* 'вазоўня'.

**Вазьме́ліць** 'сцягнуць, узяць' (Касп.). Да **вазьмеля, *вазьмель* 'той, хто возьме, не пытаючыся', да асабовай формы *вазьму* або *возьме.*

**Вазьні́ца** 'ездавы' (З нар. сл.). Да *вазіць*₁. Словаўтварэнне няяснае.

**Вазю́р**₁ 'возчык, вазнік' (КЭС). Параўн. *вазак.* Гл. *вазюр*₂.

**Вазю́р**₂ 'хлопчык, які любіць многа катацца на санках ці каньках' (З нар. сл.). Да *вазіць.*

**Вазю́ры** 'нязграбны, дрэнны абутак' (маладз., Янк. Мат.). Магчыма, да папярэдняга: 'абутак вазюроў'.

**Вазяры́на** 'вялікая лужына' (Бяльк.); 'старарэчышча, ста-

рыца з вадой на лузе; зарослае возера, запушчаны ставок' (Яшк.). Да *возера.* Па словаўтварэнню параўн. *лужына.*

**Вазярышча** 'дно былога возера' (Бяльк., Яшк.) Да *возера.* Словаўтварэнне, як *папялішча, іржышча, бульбянішча.*

**Вазярэц** 'пасёлак, вуліцы якога размешчаны паабапал возера' (Яшк.). Да *возера.*

**Ваісціну** 'сапраўды' (КТС). З ц.-слав. *воистину* (Шанскі, 1, В, 142).

***Вайгáра,** *wojhara* 'гарэлка' (Федар., 7, 6). Няясна. Магчыма, звязана з *вагера* 'зух' або непасрэдна ад *гарэць: ва(й)-гара*<**в-о-гара* (з дзвюма пратэзамі).

**Ва́йда** 'сварка' (КЭС). З літ. *vaĩdas* 'тс'. Параўн. *вайдаваць.*

**Вайдава́ць, вайтава́ць** 'злаваць, злавацца, знаходзіцца ў роспачы, адчаі' (КЭС). Укр. *войдувати* 'бууяніць, дэбашырыць'. Балтызм, параўн. літ. *vaĩdytis* 'сварыцца'. Варыянт з *-т-*, магчыма, у выніку збліжэння з *войт, вайтаваць* 'выконваць ролю войта>злавацца' (параўн. рус. смал. *войтить* 'выконваць пасаду войта') або з *вайцяць* 'сварыцца' (ашмян.). Рудніцкі (1, 463) лічыць укр. *войдуватися* 'вазіцца' неалагізмам, утвораным на базе кантамінацыі ўкр. *возитися* і ўкр. *воювати.*

**Вайдало́т,** *вайдэло́т* 'саслоўе жрацоў у эпоху язычніцтва ў літоўцаў і прусаў' (КТС). З літ. *vaidelĩotas* 'жрэц' (Фрэнкель, 15, 1179—1180; параўн. Брукнер, 599).

**Вайе́** 'галоўная частка сахі ад ручак да ярма' (Выг. дыс.). Рус. *воё* 'дышаль', укр. *вое́, війя,* польск. *oje,* в.-луж. памянш. *wojko,* н.-луж. *wojo,* чэш. *oj, voj,* ст.-чэш. *oje,* славац. *oje,* балг. *ойще,* серб.-харв. *oje* 'тс'. Прасл. **oje.* І.-е. паралелі: грэч. οἰήιον 'стырно', ст.-інд. *īṣā́*'дышаль', хец. *hišša-* 'тс' (Фасмер, 1, 331; Рудніцкі, 1, 422).

**Вайжда́цца** 'хістацца, калывацца' (З нар. сл.). Магчыма, кантамінацыя *важгацца* (гл.) і *важдацца* 'доўга займацца якой-небудзь справай'.

**Вайлакí** 'мяккія валёнкі'. Да *войлак* 'лямец'. Множны лік пад уплывам *валёнкі, боты.*

**Вайлу́н** 'цяльпук, маруда' (КЭС). Да *валіць;* параўн. рус. *валинь, валень, увалень* 'няўклюда', укр. *вайло, вайлюка, валюка, валяка* 'лены чалавек, лежабока, гультай', *вайлуватий* 'няспрытны, непаваротлівы'. Магчыма, таксама збліжэнне з



*валун* 'вялікі камень'. Кароткае *і* — устаўны гук; параўн. бел. дыял. *вайзелін, вайстрак* 'лязо'<*востры.*

**Вайна́** (БРС, КЭС). Рус. *война,* укр. *війна,* польск. *wojna,* в.-луж. *wojna,* н.-луж. *wojna,* чэш. *vojna,* славац. *vojna,* балг. *война́,* макед. *војна,* серб.-харв. *вȏјна,* славен. *vȏjna.* Прасл. **vojьna*<**voj-,* якое мае і.-е. паралелі: літ. *výti* 'паляваць; праследаваць', ст.-інд. *vēti* 'праследуе, гоніць', лац. *venārī* 'паляваць, гнацца', ст.-в.-ням. *weida* 'паляванне', ст.-англ. *wæan* 'тс', грэч. ἵεμαι 'патрабую, жадаю' (Праабражэнскі, 1, 91; Фасмер, 1, 334—335; Шанскі, 1, В, 143; Рудніцкі, 1, 463; БЕР, 1, 173; Махэк₂, 696).

**Вайско́вец** (БРС). Да *вайсковы.*

**Вайско́вы** (БРС). Да *войска.*

**Вайстра́к** 'лязо сякеры' (КСП, Касп.). Да *востры.*

**Вайстры́ць** 'тачыць' (Гарэц.). Гл. *вастрыць.*

**Вайсялі́ць** 'гаварыць абы-што' (Шат.). Магчыма, да **вайцяліць*<*вайцяць* (гл.).

**Вайтава́ць**₁. Гл. *вайдаваць.*

**Вайтава́ць**₂ 'працаваць' (Мат. Гом.). Гэты дзеяслоў падае Насовіч са значэннямі 'выконваць абавязкі войта' і 'шумець, бушаваць'. Магчыма, *вайтаваць* да *войт* (Кюнэ, Poln., 115). Параўн. *вайдаваць.*

**Вайто́ўна** 'дачка войта' (Гарэц.). Рус. смал. *войтовна.* Да *войт.*

**Вайто́ўства** 'пасада войта' (Нас.). Да *вайтоўскі* 'ўласцівы войту' (Нас.)<*войт.*

**Вайту́ўна** 'дачка войта' (Мал.). З польск. *wojtówna* 'тс'.

**Вайця́ць** 'надакучліва гаварыць' (Мядзв., Сцяц., Бір. Дзярж.); 'спрачацца, дамаўляцца' (Сцяшк. МГ); 'рабіць вымову, упікаць' (КЭС). Укр. *вайтяти* 'выражаць незадавальненне; гаварыць'. Беларуска-ўкраінская ізалекса балтыйскага паходжання; літ. *vaitóti* 'вохкаць, стагнаць' (Непакупны, Бел.-укр. ізал., 53—54; Весці АН БССР, 1969, 4, 132; J. Safarewicz, Ze słownictwa bałto-sł. Studia językozn., 1967, 254; Блесэ, KZ, 75, 1957, 91—121).

**Вака́була** 'асобнае слова'. Праз польск. з лац. *vocabulum* 'назва, імя'. Параўн. Шанскі, 1, В, 144; Рудніцкі, 1, 463—464.

**Вакава́ць** 'быць вольным, незанятым' (Нас.). Укр. *вакува-*

*ти* 'тс'. З польск. *wakować* 'тс'<лац. *vacare* (Булыка, Запазыч., 55; Кюнэ, Poln., 112; Брукнер, 599; Рудніцкі, 1, 296).

**Вакалі́зм** (БРС). З рус. *вокализм* (Крукоўскі, Уплыў, 86).

**Вакаме́р** (БРС). Калька з рус. *глазомер.*

**Вакаме́рны** (КЭС). Калька з рус. *глазомерный* (Крукоўскі, Уплыў, 132).

**Ва́ка́нсія** (БРС). Запазычанне з рус. *вакансия* (Крукоўскі, Уплыў, 76), якое з'яўляецца кантамінацыяй *ваканция* (<польск. *wakancja)* і *ваканс* (фр. *vacance*) (Шанскі, 1, В, 6; Рудніцкі, 1, 295). Параўн. ст.-бел. *ваканцыя*<польск. (Булыка, Запазыч., 55).

**Вака́нтны** (БРС). З рус. *вака́нтный.* Параўн. Рудніцкі, 1, 295.

**Вака́нцік** 'магчымасць, шанс' (КТС). Да ням. *vakant* з памяншальным суфіксам *-ік.* Больш верагодна, аднак, што *ваканцік* да *вакантны.*

**Вака́нцыя.** Гл. *вакансія.*

**Ва́карына** 'валы вады на рацэ' (Яшк.), *вако́рына* 'тс' (КТС). Балтызм. Параўн. літ. *vakarìnis* 'вячэрні; заходні', *vakãris* 'заходні вецер' (Цыхун, Лекс. балтызм, 52). Суфікс адзінкавасці *-ін-* з'яўляецца не словаўтваральным сродкам, а вынікам перараскладання на беларускай глебе літоўскага слова. *Вагары* 'хвалі' да *вакар-ына* з азванчэннем *г* у інтэрвакальным становішчы пад магчымым уплывам *вагацца.*

**Вака́цыі** 'канікулы', адз. л. *вакацыя* (БРС). З польск. *wakacja*<лац. *vacātio* (Булыка, Запазыч., 55). Больш верагодным трэба лічыць непасрэднае запазычанне з семінарскай латыні. Параўн. Фасмер, 1, 267.

**Ваке́ннік** 'шкляр' (Грыг.). Да *вакенны*<*акно.*

**Ваке́нніца** 'аканіца' (Грыг., Юрч., Мат. Гом., Гарэц.). Да *вакенны*<*акно.*

**Вакза́л** (БРС). З рус. *вокзал* (Крукоўскі, Уплыў, 73; Шанскі, 1, В, 145—146; Рудніцкі, 1, 464).

**Вакні́ца** 'аконная шыба' (Бяльк.). Да *вакно.*

**Вако́л,** *во́кал* (БРС). Рус. *около,* польск. *około,* в.-луж. *wokoło,* н.-луж. *hokoło,* чэш. *okolo,* славац. *okolo,* макед. *околу,* серб.-харв. *около.* Да прасл. **kolo* 'круг'. Гл. *кола.*



**Вако́ліца** (БРС, Гарэц.), *ваколічны* (КТС). Да *вакол.* Гл. яшчэ *аколіца.*

**Вако́льнасць.** У выразе «без дальніх вакольнасцей» (КТС). Калька з рус. *околичность* («без дальних околичностей»).

**Вако́нне** 'вокны' (КТС). Да *вакно.*

**Вако́рак** 'шынка' (Мат. Гом.). З рус. *окорок* 'тс'; магчыма, аднак, што гэта слова ўласнабеларускае; параўн. Фасмер, 3, 130.

**Вакру́г** 'кругом, навокал' (КТС). З рус. *вокруг.*

**Вакру́га.** Гл. *акруга.*

**Ва́кса**$_1$ (БРС). З ням. *Wachs* 'воск', *Schuhwachs* 'вакса для ботаў' (Фасмер, 1, 267; Рудніцкі, 1, 296).

**Ва́кса**$_2$ 'плакса' (З нар. сл.). Другая частка дзіцячай «дражнілкі» *плакса-вакса,* утворанай шляхам экспрэсіўнай рэдуплікацыі.

**Ваксава́ць** (БРС). Рус. *ваксовать,* укр. *віксувати.* Да *вакса*$_1$ (Рудніцкі, 1, 425).

**Ва́куум** (БРС). Праз рус. *вакуум* (Крукоўскі, Уплыў, 89)< <лац. *vacuum* 'пустата' (Шанскі, 1, В, 7; Рудніцкі, 1, 296).

**Вакхана́лія** 'разгульнае баляванне, оргія' (КТС). З рус. *вакханалия* (Крукоўскі, Уплыў, 76). Параўн. Рудніцкі, 1, 297.

**Вакцы́на** (БРС). Праз рус. *вакцина* (Крукоўскі, Уплыў, 88) з франц. *vaccine* 'тс' (Шанскі, 1, В, 8; Рудніцкі, 1, 297).

**Вал**$_1$ 'хваля' (КТС, Мядзв., Яшк.), *валам валіць* (Некр.). Рус. *вал,* укр. *вал,* польск. *wał,* в.-луж. *wała,* н.-луж. *wał,* чэш. *val,* слав. *val,* балг. *валям* 'катаць, варочаць', макед. *вала* 'валяць, катаць', серб.-харв. *ва̄л, ва̑ла,* славен. *val,* ц.-слав. *валъ.* Прасл. **val-,* роднаснае з літ. *võlioti* 'катаць', алб. *vale* 'хваля', ст.-в.-ням. *wuolên* 'рыцца', ст.-інд. *válati* 'крўціцца' (Праабражэнскі, 1, 63—64; Фасмер, 1, 268; Шанскі, 1, В, 9; Рудніцкі, 1, 297; БЕР, 1, 116; Махэк$_2$, 676).

**Вал**$_2$ 'вал; штучныя земляныя ўзгоркі' (КЭС); 'штучны земляны насып у выглядзе вялікага бурта з грэбнем' (Пал.); 'узгорак' (Яшк.); 'высокае месца, груд пасярод балота' (Янк. II). Рус. *вал,* укр. *вал,* польск. *wał,* чэш. *val,* слав. *val.* Праз польскае з с.-в.-ням. *wall* 'тс' (Праабражэнскі, 1, 63; Фасмер, 1, 268; Шанскі, 1, В, 8—9; Рудніцкі, 1, 298, 304; Махэк$_2$, 675).

**Вал**$_3$ (тэхн.) 'вал' (БРС); 'вал у калодзежы' (Сцяшк.). Па-

водле Булыкі., Запазыч., 56, праз польск. *wal*<ст.-в.-ням. *wal*. Больш верагодна, што гэта ўсходнеславянскае ўтварэнне ад запазычанага з ням. мовы *Walze* 'вал, цыліндр' (Шанскі, 1, В, 9). У спецыяльных значэннях (*карданны вал, агнявы вал* і пад.) — семантычнае запазычанне з рускай мовы.

**Вал**₄ 'доўгія вузкія кучы сена' (Шатал.); 'сена з некалькіх пакосаў, складзеных разам' (Выг. дыс.). Да *валіць* і *вал*₁.

**Вал**₅ 'тоўстая пража з дрэннага валакна і само такое валакно' (КЭС); 'адходы, якія астаюцца пры апрацоўцы льну мяліцай' (Сцяшк. МГ); 'кудзеля, якая аддзяляецца ад кужалю пры трапанні льну' (Янк. II); 'грубая пража' (Шн., 3). Да *валіць*. Семантычны пераход няясны. Параўн. Рудніцкі, 1, 298.

**Вала** 'валок сена' (Мат. Гом.). Да *вал*₄.

**Валаво́д**₁ 'той, хто валаводзіць' (КТС). Да *валаводзіць* (гл.).

**Валаво́д**₂ 'вяроўка' (Мат. Гом.); 'вяроўка для навязвання жывёлы' (З нар. сл.). Да *вол* і *вадзіць*₁.

**Валаво́дзіць** 'марудзіць' (БРС, Гарэц., Касп.), *валаводзіцца* 'разводзіць цяганіну' (Нік., Очерки). Рус. калін., кур. *воловодить* 'марудзіць, бавіцца, марнаваць час, зацягваць справу', укр. *воловод* 'маруда', *воловодити* 'цягнуць справу'. Да *валавод* 'той, хто водзіць валоў'.

**Валаво́днік** (БРС). Да *валаводзіць*.

**Валаво́ка** 'птушка атрада вераб'іных, Troglodytes troglodytes' (БРС). Народныя назвы *валовае вока, блыха, блышка*. Назва метафарычная. Параўн. укр. *волоочок, волове очко*.

**Валаво́кі** (БРС). З рус. *волоокий*, якое з'яўляецца калькай грэч. βοῶπις 'валавокі' (Шанскі, 1, В, 151). Аднак варта прыняць пад увагу дыялектную назву расліны *валавока* 'крапіўнік', макед. *волоока* 'мальва лясная'. Параўн. таксама рус. смал. *волопокий* 'з вялікімі вачыма', *волоплястый*.

**Валавы́** (даход) (БРС). З рус. *валовой* (доход).

**Валавя́ны** 'які зроблен з волава' (Касп.). Гл. *волава*.

**Валада́йца** 'валадар, той, хто валодае чым-небудзь' (Яруш.). *Валадайца*<**валадай* (параўн. *валачай*) да *валодаць*.

**Валада́р** (БРС, Гарэц.). Да *валада́ць*. Гл. *валодаць*.



**Валада́ць**. Гл. *валодаць*.

**Валаду́шка**, *валóдайнік* 'заячая капуста, Bupleurum rotundifolium L.' (Кіс.). Рус. *володка, володушка* 'Ajuga pyramidalis; Ajuga reptans', ст.-рус. *володь* 'волас', ц.-слав. *владь*. Назва дадзена таму, што сцябло расліны пакрыта валаскамі (Траўтман, 341; Фасмер, 1, 341).

**Ва́лак** 'валік, палачка з кругам у прыладзе сукаць цэўкі' (Арх. Бяльк.). Да *вал*₃.

**Валака́** 'зыбкае балоцістае месца' (Яшк.), рус. *волока* 'заросшы лес у нізіне' (КЭС). Хутчэй за ўсё да *валога*₃ 'дрыгва' (гл.), зблiжанага з *валока* 'зямля; мера зямлі'. Параўн. у семантычным плане рус. *волок* 'гушчар' і *волока* 'прыстасаванне для выцягвання бярвення з гушчару'.

**Валакі́да** 'той, хто марудна робіць што-небудзь' (Арх. Бяльк.). Параўн. ст.-рус. *волокида* 'валакіта' (Фасмер, 1, 342). Магчыма, з *валакіта* з азванчэннем *т* (ці не пад уплывам *валанда*?).

**Валакі́та** 'цяганіна, валакіта' (БРС). З рус. *волокита*.

**Валакі́ты** 'частка сахі' (рудзен., КЭС). Да *валачы*.

**Валакі́цтва** (БРС). Да *валакіта*.

**Валакні́на** 'мяты лён і пласкані' (КЭС). Да *валакно* і суфікса *-ін* з рэчыўным значэннем.

**Валакно́** (БРС, Інстр. I). Рус. *волокно*, укр. *волокно*, польск. *włókno*, в.-луж. *włokno*, н.-луж. *łokno*, чэш. *vlákno*, славац. *vlákno*, балг. *влакно*, макед. *влакно*, серб.-харв. *вла́кно*, славен. *vlákno*. Прасл. **volkьno*. І.-е. паралелі: літ *vil̃kti* 'цягнуць, валачы', грэч. ἕλκω 'цягну', ст.-інд. *valkáḥ* 'лыка', ст.-англ. *wlóh* 'валакно' (Праабражэнскі, 1, 93; Фасмер, 1, 342; Шанскі, 1, В, 150; БЕР, 1, 162; Скок, 3, 609).

**Валакня́** 'павольнае дзеянне, цяганне па судах і пад.' (Нас.). Да *валакці* 'марудзіць' (Нас.).

**Валаку́ша** 'старадаўняя прылада для рыхлення глебы; невялікі невад'; 'барана з жалеза' (БРС, Выг. дыс.). Рус. *волокуша*, укр. *волокуша*. Да *валачы*. Пра суфіксацыю гл. SP, 1, 79.

**Валакці́** 'валачы' (Бяльк.). Гл. *валачы*.

**Ва́лам** 'пра вялікую колькасць (людзей, снегу)' (КТС). Прыслоўе <тв. скл. назоўніка *вал*₁ (гл.).

**Валаме́кі** 'васількі' (Мат. Гом.). Магчыма, да *валошка,* якое зблiжана з нейкім іншым словам.

**Вала́н** 'шырокая ці вузкая прысабраная частка спадніцы' (КЭС, Інстр. I). Праз польск. *wolant* 'тс'<франц. *volant,* якое да *voler* 'лётаць' (Брукнер, 630).

**Вала́нда** 'маруда, лены чалавек', *вала́ндацца* 'вазіцца, марудзіць' (КЭС). Рус. *валандаться* 'марудзіць', *вала́нда, вала́ндала* 'няўклюда, маруда', *валанде́р* 'лежань', укр. *валандатися* 'бадзяцца'. Карскі ўказвае, што дзеяслоў больш уласцівы вялікарускай мове. *Валандацца<валанда<*літ. *valandà* '(кароткі) час' (Карскі, Труды, 394; Аткупшчыкоў, Лекс. балтызмы, 33, 35; Кіпарскі, Лекс. балтызмы, 13; Непакупны, Бел.-укр. ізал., 54; Шанскі, 1, В, 9; Рудніцкі, 1, 298). Змену націску можна тлумачыць уплывам блізкіх семантычна і падобных структурна слоў (*мару́да, няўклю́да, валакі́да*). Форма *валы́ндацца* ўзнікла, магчыма, пад уплывам *валынка, валыніцца.* Форма *валэндацца,* як можна меркаваць,— вынік зблiжэння з паланізмамі, што маюць суфіксы з насавымі (*валацэнга, недалэнга*) або з дзеясловамі *wałęsać się, wałęgać się* 'бадзяцца' ва ўмовах беларуска-польскага білінгвізму.

**Вала́ндацца.** Да *валанда* (гл.).

**Валанты́р** 'бадзяга, лодыр' (Нас.). Магчыма, *н* устаўны гук, як у *валанцуга<валацуга* (КСП). Тады *валантыр<валатыр,* якое ў сваю чаргу да *волат* і суфікса *-ыр.* Адносна такой суфіксацыі гл. SP, 2, 28. Шанскі (1, В, 151) адзначае, што гэта слова ў формах *валентир, волунтер, волунтир* (<англ. *volunteer* 'добраахвотнік') здаўна ўжывалася ў рускай мове. Не выключана, што адна з іх захавалася ў беларускай мове, набыўшы негатыўнае значэнне пад уплывам зблiжэння з *валачыцца, валэндацца.*

**Валанты́рыць** 'бадзяжнічаць' (Нас.). Да *валантыр* (гл.).

**Валанца́й** 'валацуга' (З нар. сл.). Да *валацай* (з устаўным *-н-*)<*валачыцца* 'бадзяцца'.

**Валанцёр** 'добраахвотнік' (КТС). Праз рус. *волонтёр<* <франц. *volontaire* 'тс' (Фасмер, 1, 342; Шанскі, 1, В, 151; Рудніцкі, 1, 474).

**Валапа́с** 'пастух, які пасе валоў' (Некр.). Словаскладанне: *вол* і *пасвіць.* Параўн. *валавод, абармот.*

**Валапю́к** (БРС). Праз рус. *волапюк* з франц. (штучнае слова)<англ. *world* 'свет' і *speak* 'гаварыць' (Блох-Вартбург, 646; Скіт, 695; Шанскі, 1, В, 147).



**Валасае́д** 'насякомае, Trichodectidae' (КЭС). Да *волас* і *есці* (БелСЭ, 2, 567).

**Валасажа́р** 'сузор'е Вялікай Мядзведзіцы, Плеяды' (Бяльк.). Іншыя назвы *вісыжар, валоскі, валосны, стажары* (гл.). Рус. *волосожары, стожары, висожары,* тул. *сожар, сажар* 'тс', укр. *волосожар,* ц.-слав. *власожельць, власожелишти, власожилишти, власожалица* 'тс' (Срэзн., 1, 270), серб.-харв. *вла̏шић̑и* 'тс'. Апошняе Міклашыч (394) звязвае з *волох, влах,* старой назвай раманскіх народаў. Наяўнасць назваў тыпу *валоскі, валосны,* рус. *волосыни,* ст.-рус. *волосыни* 'тс' дало падставу звязаць назву сузор'я з *волас* (Праабражэнскі, 1, 93; Фасмер, 1, 343; Рудніцкі, 1, 469; Скок, 3, 609). Такім чынам, існавалі, відаць, дзве назвы Плеяды — ад *волас* і ад *стажара* (Фасмер, 3, 764), якія былі зблiжаны і кантамінаваны. *Вісыжар,* магчыма, з'яўляецца другасным утварэннем, узнікшым у выніку змешвання *валасы* і *вісы, віскі* 'валасы на скронях' (версія В. У. Мартынава).

**Валаса́ты** 'праставалосы' (Жд.). Да *волас.*

**Валасе́нь**$_1$ 'пухір на пальцах, хвароба' (Нас.). Насовіч тлумачыць, што хвароба названа так таму, што яе выклікае быццам бы чарвяк, падобны да воласа (Нас., 65).

**Валасе́нь**$_2$ 'хвароба'. Гл. *валаснік*$_1$.

**Валасе́нь**$_3$ 'нітка або жылка ў вудзе' (бых., КЭС), *валаснік* 'тс' (Гарэц.). Да *волас,* з якога робіцца такая жылка.

**Валасе́нь**$_4$ 'моцная высокая трава' (Маш.), *валасень, валасняк* 'расліна, Hieracium pilosella L'. Да *волас.*

**Валасе́нь**$_5$ 'від чарвяка, Nematomorpha, Gordiacea' (КЭС). Назва дадзена за валасападобнае цела (БелСЭ, 2, 567).

**Валаска́я,** *волоська́я* 'будынак валаснога праўлення' (КЭС). Да *воласць.*

**Валасні́к**$_1$ 'гнойнае запаленне тканкі пальца' (Шатал.); 'завусеніца' (БРС, Гарэц., Некр.); *валасень* 'хвароба пальца' (КЭС); 'гнойны стрыжань' (Гарэц.); 'нарыў на косці' (Жд.); 'рана' (Мат. Гом.); 'хвароба нагцей' (БРС, Грыг.); *валасяніца* 'хвароба' (Федар., 1; Сержп., Грам.). Усе назвы хвароб паходзяць ад *волас,* паколькі грыбок пашкоджвае валасы, скуру і ногці (БелСЭ, 2, 567—568).

**Валасні́к**$_2$ 'леска, жылка ў вудзе' (Гарэц.). Гл. *валасень*$_3$.

**Валасны́** 'які мае дачыненне да воласці' (КТС). Да *воласць.*

3. Зак. 1876

**Валасня́** 'волас конскага хваста' (КЭС); 'валасы' (КТС). Да *волас* з суфіксам зборнасці.

**Валасня́к** 'расліна, Hieracium pilosella L'. (Кіс.). Гл. *валасень₄*.

**Валасця́нін,** *валашча́нін, валасцянка* 'сельскі жыхар, які належаў памешчыку; чалавек пэўнай воласці' (Нас.). Да *воласць*.

**Валасяні́ца₁** 'хвароба'. Гл. *валаснік₁*.

**Валасяні́ца₂** 'мухалоўка' (КЭС, Інстр. II). Гл. *валасянка*.

**Валася́нка₁** 'сіло' (Шатал.). Да *валасяны*.

**Валася́нка₂** 'ядавіты грыб' (Мат. Гом.). Назва звязана з павер'ем, быццам у грыбе жывуць вельмі шкодныя чарвякі-валасні, якія і выклікаюць хваробу, атручванне.

**Валася́нка₃** 'травяны матрац' (Мат. Гом.). Да *валасень₄* 'моцная высокая трава', *вала́сяны* (ад назвы травы).

**Валато́ўка** 'курган' (БРС, Касп., Шпіл., Яруш.); 'курган, дзе пахаваны волат' (Інстр. III). Да *валатовы*<*волат* (гл.).

**Валато́ўкі** 'могілкі' (Касп.). Да *валатоўка* 'курган', параўн. аналагічнае ўтварэнне множнага ліку *могілкі*.

**Валатоўны** 'які мае адносіны да волата' (КТС). Да *валатовы*<*волат*.

**Вала́х** 'конь; кастрыраваны конь' (КЭС). Праз польск. *wałach*<н.-в.-ням. *Wallach* 'тс' (Булыка, Запазыч., 55; Фасмер, 1, 269; Рудніцкі, 1, 299; Трубачоў, Происх., 59). Гл. *валашыць*.

**Валаха́ты** 'касматы' (БРС, Клім., Крачк., Кольб.); *валакаты* 'тс' (Федар., 7). Рус. *волохатый*, укр. *волохатий, волохи* 'валасы', польск. *włochaty* 'тс'. Да *волас*. Паводле Бруднера, 627, *х*<*с* у зневажальных формах, як *Moch*<*Moskal*. Іншы пункт гледжання Фасмер (1, 345). Гл. таксама Рудніцкі, 1, 471.

**Валаха́ціцца** 'станавіцца валахатым' (КЭС). Рус. *волохатиться* 'тс'. Да *вала́хаты*.

**Валаца́ка**. Гл. *валацуга*.

**Валацня́** 'прыстасаванне з зубцоў для сцягвання коп' (Мат. Гом.); 'стог' (Касп.); 'невялікая капа сена' (Бяльк.), *вала́цэнька* 'капа сена' (Касп.), *валацня, валацэнька* 'тс' (Інстр. III). Да *валачыць*. Фанетыка няясная.

**Валацу́га** 'бадзяга' (БРС, КТС, Шпіл., Гарэц., Шн. Песні, КЭС), *валацака, валацуха* 'тс' (КЭС), *валацэнга* 'тс' (Сцяшк. МГ), *валачай* 'тс' (Сцяшк. МГ, КТС, Сцяц.), *валачуга, валачун* 'тс' (Сцяшк. МГ), *валачашчы* (КТС, КЭС, Федар., 7), *валачага* 'ўцякач' (Аніміле, 6, гук *г* выбухны). Рус. *волочуга, волочужничать*, укр. *волонцюга, волоцюгувати*. Трэба меркаваць, што шматлікія марфолага-фанетычныя варыянты гэтага слова з'яўляюцца вынікам кантамінацыі формы, запазычанай з польскай мовы (параўн. *валацэнга*), і ўласнабеларускіх іменных утварэнняў ад дзеяслова *валачыцца* 'хадзіць, цягацца, бадзяцца' (параўн. *валачай, валачага*). Магчымы таксама аналагічны ўплыў слоў з блізкай семантыкай; параўн. *валачай* і *гультай*; *валачага* і *бадзяга, туляга*; *валачуга* і *зладзюга* і пад. *Валацужыць, валацужнік, валацужніцтва* да *валацуга*.



**Валацу́жнік.** Гл. *валацуга*.

**Валацу́жыць.** Гл. *валацуга*.

**Валацу́ха.** Гл. *валацуга*.

**Вала́ць** 'крычаць, гарланіць; зваць, клікаць на дапамогу; зваць у суд' (Нас., КЭС). З польск. *wołać* 'тс'. Версія Насовіча аб паходжанні *валаць* ад «рову вала» (Нас., 64) з'яўляецца народна-этымалагічнай. Перанос націску *во́лаць*>*вала́ць* тлумачыцца ўключэннем дзеяслова ў клас дзеясловаў на *-аць: крыча́ць, вярта́ць, маха́ць* і пад. (Жураўскі, SOr, 1961, 40; Булыка, Запазыч., 67; Рудніцкі, 1, 464—465; Брукнер, 630).

**Валацэ́нга.** Гл. *валацуга*.

**Валача́га.** Гл. *валацуга*.

**Валача́й** 'валацуга', *валачайка* 'валацужніца' (Шатал.). Да *валачыць, валачыцца*. Гл. *валацуга*.

**Валача́шчы.** Гл. *валацуга*.

**Валачба́** 'баранаванне' (КТС), *валачоба* 'тс' (Бяльк.). Рус. *волочба* 'тс', укр. *волочба* 'тс'. Да *валачыць* 'баранаваць'.

**Валачо́ба.** Гл. *валачба*.

**Валачо́бнае** 'тое, што звязана з хаджэннем у велікодныя дні: спевы, падарункі і інш.' (КЭС, Маш., Шпіл.): «хадзіць па валачобнаму». Да **валачоба;* гл. *валачобнік*.

**Валачо́бнік** 'адзін з групы песняроў, што хадзілі па хатах у велікодныя дні' (БРС, Мядзв., Грыг., Шн., Гарэц., КЭС, Інстр. II). Рус. *волочебник, волочобник* 'тс', укр. *волочиння*

'хаджэнне на вялікдзень'. Існуе вялікая колькасць варыянтаў гэтай назвы; параўн. *валачэбнік (<валачэба), валачоўнік (<валачоўе), валачоннік (<валачонне), валачыннік (<валачынне)*. *Валачобнік* да *валачыцца* (Крукоўскі, Уплыў, 60) праз **валачоба* 'хаджэнне на вялікдзень' (параўн. *хвароба*).

**Валачóбно** 'вялікоднае яйка' (Арх. Бяльк.), *валачэўна* 'тс' (КТС). Кароткая субстантываваная форма прыметніка *валачобнае (яйка)*.

**Валачýга.** Гл. *валацуга.*

**Валачýн.** Гл. *валацуга.*

**Валачы́** 'цягнуць, несці' (КТС), *валакці* 'тс' (Бяльк.). Рус. *волочить*, укр. *волочь, волочити*, польск. *włóczyć*, в.-луж. *włóčić*, н.-луж. *włocyś*, чэш. *vláčiti*, славац. *vláčiť*, балг. *вла́ча*, макед. *влачи*, серб.-харв. *вла́чити*, славен. *vláčiti* з тымі ж значэннямі. Прасл. **volčiti*. І-е. паралелі: літ. *velkù, vilkti* 'цягнуць', грэч ἕλκω 'цягну' (Праабражэнскі, 1, 93; Фасмер, 1, 345; Шанскі, 1, В, 152; Рудніцкі, 1, 468; Брукнер, 627; БЕР, 1, 164; Махэк₂, 693—694).

**Валачы́льнік** 'прылада ў баране, якой трасуць барану пры баранаванні' (Выг. дыс.). Да **валачыла<валачы* 'цягнуць'.

**Валачы́льня** (БРС). Да *валачы.*

**Валачы́льшчык** (БРС). Да *валачы* з фармантам *-ільшчык;* параўн. *насільшчык.*

**Валачы́нкі** 'таган для люлькі' (КСП). Да *валачы.*

**Валачы́ць** 'баранаваць' (БРС, Шатал., Выг. дыс., Юрч.); 'часаць воўну' (Юрч., Хрэст. дыял.), *валакці, валакчы* 'тс' (Гарэц.), *валачынне* 'баранаванне' (Выг. дыс.). Да *валачы* 'цягнуць'<прасл. **volčiti, *velkti.*

**Валáшка** 'халодная зброя — шабля, клінок, кінжал' (КТС). Да *валашскі<валах* 'жыхар Валахіі' (Фасмер, 1, 269; Мартынаў, Лекс. взаим., 79—80).

**Валашóк** 'від канюшыны, Trifolium pratense L.' (Кіс.). Гл. *валошка.*

**Вáлашыць** 'пакладаць', *валашаны* 'пакладаны' (Янк. I), *валашы́ць* 'тс' (Нас.). Да *валах* (гл.). На падставе гэтага дзеяслова ўзніклі назвы пакладаных жывёлін, назвы прафесіі і іншыя; параўн. *валух* 'скапец' (Грыг.), рус. *валах* 'пакладаны баран, бычок, кабан', *валух* 'пакладаны парсюк', укр. *валах* 'пакладаны баран; той, хто пакладае'.



**Валбýка,** *валбучча* 'нарасць на целе, дрэве' (КТС, КЭС), *вальбука* 'тс' (Янк. II). Экспрэсіўнае ўтварэнне, магчыма, кантамінацыя *валдыр* і *букаць* 'біць'. Параўн. рус. *балбука* 'тс' (Даль, 1, 161), а таксама *волвеня, волвенка, волвянка* 'грыб' і 'ўдар, аплявуха', *вал* 'нарыў' (СРНГ, 4, 20).

**Валвá** 'хваля, вадзяны грэбень, падняты ветрам' (Яшк.). З *вална* з асіміляцыяй *в-н>в-в.*

**Валвыканкóм** (КТС). Абрэвіятура ад *валасны выканаўчы камітэт.*

**Валгáр** 'выпрацоўшчык смалы' (КЭС). З ням. *Waldgar* (Булыка, Запазыч., 55).

**Валды́р** 'пухір, гуз' (Касп.). Фасмер (1, 338) лічыць слова няясным. Бел. *валдыр*, магчыма, з'яўляецца русізмам (рэгіянальным запазычаннем). Не выключана бел. *валдыр<вадыр* 'пухір, гуз, нарыў'; параўн. рус. *волдырь* 'вадзяны пухір'. Гл. яшчэ Праабражэнскі, 1, 91; Шанскі, 1, В, 147.

**Вáліва,** *валева* 'многа' (КСТ). Укр. *ва́ляво* 'тс' (Грынч.). Да прыметніка **валлівы<валіць* (параўн. *маўклівы, ганарлівы*). Семантычна пацвярджаецца выразам «валам валіць»; параўн. яшчэ ўкр. *ва́льний* 'моцны, вялікі' (Грынч.).

**Валéж₁** 'бура, якая ломіць дрэвы' (Сцяшк. МГ). Да *валіць.* Параўн. балг. *валеж* 'снег, дождж (ападкі)'. Гл. таксама *валішча, валеж₂.*

**Валéж₂** 'упаўшае струхлелае дрэва' (КСТ). Да *валіць.* Параўн. рус. *валежина* 'ляжачы сухі лес', *валь, валяжник* 'зваленыя ветрам дрэвы', укр. *валежник* 'тс' (Фасмер, 1, 269; Рудніцкі, 1, 300).

**Валéжнік** 'ламачча ў лесе' (Сцяшк. МГ, КТС). Да *валеж₂.*

**Валéй** 'пажаданы' (Яруш.); 'лепей' (КЭС, Гарэц., Шн.). Узыходзіць да польск. *woleć* 'аддаваць перавагу, жадаць, хацець', але семантычна з'яўляецца ўласнабеларускім утварэннем, на што ўказвае Брукнер (630), адзначаючы, што слова сустракаецца ў пісьменнікаў з Беларусі (Ходзька, Сыракомля). Параўн., аднак, рус. *валéй, вóлей* 'лепей'. Укр. *воліти, волити* 'жадаць, хацець', *волісь, воліся* 'лепей, пажаданей'. Магчыма, таксама, што *валей* непасрэдна ад *воля*, як рус. параўнальная ступень *ворéй* па якаснаму значэнню назоўніка *вор.* Словаўтваральная і семантычная паралель: рус. *охотней (<*охотный)<хотеть.*

**Валейбалíст** (БРС). З рус. *волейболист.*

**Валейбо́л** (БРС). Праз рус. *волейбол* (Крукоўскі, Уплыў, 80) з англ. *volleyball* (Шанскі, 1, В, 147; Рудніцкі, 1, 465).

**Ва́лен.** Гл. *вэлюм.*

**Ва́ленка** 'цёплая хустка' (ДАБМ, 946; Сцяшк. МГ), *валёнка* 'цёплая шапка' (Некр., КЭС, Жд.), *ва́лянка* 'вялікая хустка на плечы' (Янк. II). Суфіксальныя ўтварэнні ад *валены*<<*валіць₂*. Параўн. Рудніцкі, 1, 301.

**Вале́нта** 'хвароба' (Бір. Дзярж.): «каб цябе валента кінула», *валянтова* 'прыпадкі' (КЭС). З польск. *Walenty* (?). Параўн. чэш. *valentinsky,* якое Ф. Барташ тлумачыць так: «Дзіця, народжанае на святога Валянціна, будзе валянцінскае, г. зн. будзе хварэць на прыпадкі» (Барташ, 474).

**Вале́нтнасць** 'уласцівасць атама далучаць іншыя атамы' (КТС). З рус. *валентность* (Крукоўскі, Уплыў, 89).

**Вале́т** (БРС). Праз рус. *валет* з франц. *valet* 'слуга' (Праабражэнскі, 1, 63; Шанскі, 1, В, 11; Рудніцкі, 1, 300).

**Ва́лец** 'жорны' (Мат. Гом.). Рус. *вальц, валец,* укр. *валець* 'тс'. Праз польск. *walec*<ням. *Walze* (Рудніцкі, 1, 301).

**Вале́шнік** 'абгароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе' (Яшк.). Да *валіць, валяцца.* Параўн. рус. *вальнище* 'месца, дзе адпачываюць дзікія жывёлы'. Магчыма, слова зблiжана з *вольха* або *валежнік.*

**Валёк₁** 'брусок з крукам, за які зачэпліваюць пастромкі' (Янк. III); 'абрубак бервяна' (Грыг.); 'ворчык' (Юрч.). Да *вал₃.*

**Валёк₂** 'пранік' (КЭС), *валкі* 'качалкі для бялізны' (Шатал.), *валак, валко* 'валок для качання бялізны' (КЭС). Да *вал₃.*

**Валёнак** (БРС), *валінцы* (Шн., 3). Рус. *валенок,* укр. *валянки* 'суконныя нагавіцы', бел. *ва́ленка, валёнка, ва́лянка* 'хустка або шапка з воўны' (КЭС). Да *валены*<*валіць* 'вырабляць з воўны'. Параўн. Рудніцкі, 1, 301, 303; Шанскі, 1, В, 10.

**Валёнка₁.** Гл. *ваненка.*

**Валёнка₂.** Гл. *валенка.*

**Валёхацца** 'хадзіць, выпасвацца' (КТС): «...віднеліся лугі, дзе валёхаліся гусі». Да *валёх/валюх.* Гл. *валюхацца.*

**Валіга.** Гл. *валога.*



**Валідол** 'лякарства' (КТС). З рус. *валидол*<франц. *validol*<*valide* 'здаровы, моцны' (Шанскі, 1, В, 12).

**Валіза₁** 'чамадан' (Шпіл.), *валіска* (лях., Янк. Мат.). З польск. *walizek, waliza*<франц. *valise* (Карскі, Белорусы, 160; Кюнэ, Poln., 113; Фасмер, 1, 269; Рудніцкі, 1, 301).

**Валіза₂** 'завала, гультай, лодыр' (Бір. Дзярж., З нар. сл.); 'неахайны' (Мат. Гом., КСТ); 'бамбіза' (КСП). Верагодна, пераноснае значэнне *валіза₁* 'чамадан' (параўн. пераноснае ўжыванне *бочка, мех, вантух, сундук*); на асэнсаванне слова зрабіла ўплыў збліжэнне з *валіць* і *бамбіза.*

**Валік** 'прыстасаванне для накатвання фарбы' (КТС). Да *вал₃.*

**Валіна** 'павал, буралом у лесе' (Яшк.); 'руіны' (Грыг.). Да *валіць₁* (гл.).

**Валі́ць₁** 'прымушаць упасці, перакульваць' (БРС). Рус. *валить,* укр. *валити,* польск. *walić,* в.-луж. *walić,* н.-луж. *waliś* 'круціць', чэш. *valiti* 'каціць', славац. *vál'at'* 'валіць (дрэва)', балг. *ва́лям,* макед. *валка* 'валяць, катаць', серб.-харв. *ва̏љати,* славен. *valiti,* ст.-слав. **валити.** І.-е. паралелі: літ. *võlioti* 'катаць', лат. *uolît* 'катаць, круціць', ст.-інд. *válati* 'ён круціцца, паварочваецца', ст.-в.-ням. *wuolên* 'качаць', лац. *volvo* 'катаю, кручу', грэч. ἐλύω 'катаю, закручваю'. Гл. *вал₂* у Фасмера, 1, 268. Параўн. Шанскі, 1, В, 12; Брукнер, 599—600; БЕР, 1, 116—117; Скок, 3, 562—563.

**Валі́ць₂** 'вырабляць з воўны' (Бяльк.); 'качаць, збіваць сукно' (КЭС), *валка* (тканіны) (КТС). Да *валіць₁.*

**Ва́лішны** 'кастрыраваны' (Грыг.). Да *валашыць,* збліжанага з *валіць* (параўн. рус. *коновал, валяць* 'кастрыраваць').

**Валішча₁** 'ўпаўшае струхлелае дрэва' (КСТ). Да *валіць₁.*

**Валішча₂** 'месца, дзе робяць, валяць лес' (КТС, КЭС, Мат. Гом.). Да *валіць₁.* Параўн. *папялішча, іржышча.*

**Валка₁,** *валька* 'бойка' (КЭС, Нас., Яруш., Гарэц.), вытворныя *валечный, валкость, валный, валчити* (Нас., Доп.), *валчыцца* (Касп.). Да польск. *walka, walczyć* (Булыка, Запазыч., 55; Жураўскі, SOr, 1961, 40; Рудніцкі, 1, 301).

**Валка₂** 'група людзей' (Мат. Гом.). Мяркуючы па кантэксту («Пойдзе цяпер другая валка»), *валка*<*вал; валіць* 'ісці густа' (пра людзей, снег).

**Валка₃** (крочыць) 'шпарка ісці натоўпам' (КТС). Да *валіць₁.*

**Валкава́ты** 'сываваты' (Касп.). Да **волгловатый<*волглы.* Прасл. **vъlgъ* 'сыры'. Параўн. рус. *волговатый* 'вільготны, сываваты'. Гл. яшчэ *вагкаваты.*

**Валкава́ць₁** 'качаць бялізну' (Шатал., Шн., Інстр. I). Да *валкі* 'качалкі для бялізны' (гл.).

***Валкава́ць₂**, *валковати* 'есці на поўны рот' (КЭС). Клімчук (Бел.-рус. ізал., 51) параўноўвае з рус. *валкий* 'ласы, сквапны, зайздросны' (СРНГ, 28). Літ. *válgyti* 'есці', *valgùs* 'пражэрлівы, той, хто многа есць' дазваляе меркаваць, што **валкаваць, *валкі* з'яўляюцца балтызмамі.

**Валкава́ць₃** 'зграбаць сена ў валкі' (БРС, КСТ, КЭС). Укр. *валкувати* 'тс'. Да *вал₄*.

**Валкан** 'вялікі разбуральны вецер, буран; паламаны бурай лес' (Яшк.). Да *валкі* 'які валіць'<*валіць₁*. Параўн. *буран.*

**Валкаўніца** 'прылада, якой перацъ бялізну' (ДАБМ, 825). Да *валкаваць₁* 'перыць бялізну'<*валёк* 'пранік'.

**Валковы** 'рабочы, які перыць бялізну' (БРС). Да *валёк, вал₃*.

**Валлё** (БРС, Янк. I, Яруш., Грыг.), *валлё, валюшко* 'зоб у курэй' (Мядзв.), *валяк* 'тс' (БРС, Бір. Дзярж., Выг. дыс., Інстр. II), *валюшка* 'тс' (КСП), *валляк, валлячок, валячко* (КТС). Рус. *воля* 'тс', укр. *во́ло* 'валлё, падгрудак у быка', польск. *wól, wole,* чэш. *vole,* серб.-харв. *во̏ље* 'тс'. Прасл. **vole<*(s)vel-* 'надзімаць' супастаўляецца са ст.-в.-ням. *swellan,* ням. *schwellen* 'пухнуць' (Махэк₂, 697). Параўн. Фасмер, 1, 348; Брукнер, 630.

**Валмо** 'ўпадзіна, паглыбленне' (Яшк.). Параўн. ст.-польск. *wełm* 'бездань, вір'. Да **vъl-,* якое знаходзім у рус. *волна,* літ. *vilnis* 'хваля', ням. *Welle* 'тс'. Падрабязней гл. *во́лміна,* там жа і літаратура.

**Валнавацца** 'кіпець' (пра ежу) (Жд.). Рус. *волноваться* 'хадзіць хвалямі', *волновать* 'моцна кіпець (пра ваду)'. Да **вална* 'хваля', прасл. **vъl-*. У гэтым слове можна бачыць як семантычнае новаўтварэнне, так і захаванне аднаго са значэнняў кораня **vъl-;* параўн. ст.-рус. і ц.-слав. *вълати* 'прыводзіць у рух, узрушаць'.

**Валнейка.** Гл. *вайнянка.*

**Валнушка.** Гл. *вайнянка.*

**Валовая сіла** 'чорнае зерне ў жыце' (КЭС). Назва ўзнікла ў сувязі са станоўчай ацэнкай спарыша (Выгонная, Лекс. Палесся, 71).



**Валовая скура** 'шмат, багата' (КЭС). Магчыма, *валовая скура* мела калісьці больш канкрэтнае значэнне меры, чым проста 'шмат'. Бясспрэчна, аднак, што такі выраз мог ужывацца ў значэнні меры, як і іншыя назвы частак цела жывёлін, параўн. *туша, вепръ* (гл. Скурат, Меры, 142 і наст.).

**Вало́вік₁** 'кармавы бурак' (Бір. Дзярж.), *валовікі* 'сталовыя буракі' (КЭС). Да *валовы (<вол).*

**Вало́вік₂.** Гл. *вайнянка.*

**Вало́вік₃** 'пастух, які пасе валоў' (З нар. сл.). Да *валовы (пастух).*

**Валовы язык** 'пакрывец лекавы, Anchusa officinalis L'. (Кіс.). Назва дадзена па знешняму падабенству лісця расліны, па яго форме. Параўн. укр. *волів язик* 'Digitalis grandiflora'.

**Вало́га₁** 'поліўка з малака або канаплянага семя' (КЭС, Вешт.); 'заправа, прыгатаваная з канаплянагаа семя' (Лекс. Палесся); 'масла, усё скаромнае' (віц.), *валіга* 'рэдкі жыр' (Касп.). Паўн.-рус. *волога* 'скаромная вадкая страва; масла, малочныя прадукты: сыр, смятана, тварог і інш.', укр. *волога* 'вільгаць'. Усходнеславянская семантычная інавацыя<прасл. **volga* 'вільгаць' (Вештарт, Бел.-рус. ізал., 16; Фасмер, 1, 340; Скок, 3, 606).

**Вало́га₂** 'барана' (КСТ). Магчыма, *валога<валока* (ад *валачыць*). Параўн. у фанетычным плане *валошка* і *валожка* 'Centaurea cyanus L'. Параўн., аднак, укр. *воложити* 'палоць, трапаць'.

**Вало́га₃** 'дрыгва' (Шатал.). Роднаснае з *вільгаць,* рус. *влага,* ц.-слав. *влага,* укр. *волога* 'вільгаць'. Да агульнаславянскага **volga,* якое адлюстравана ва ўсіх славянскіх мовах са значэннямі 'вільгаць, вада, вадкасць, масла, жыр' і інш. (Рудніцкі, 1, 467). Параўн. *валака́* (гл.).

**Вало́даўнік** 'валадушка, заяча капуста, Bupleurum rotundifolium L'. (Кіс.). Гл. *валадушка.*

**Вало́дацъ** (БРС, Арх. Бяльк.), *валада́ць* (Др.-Падб.). Рус. *владеть* (з ц.-слав.), укр. *володити,* польск. *władać,* в.-луж. *włodyka* 'ўладар', чэш. *vlásti,* славац. *vládnut',* балг. *владея,* макед. *владее,* серб.-харв. *вла̀дати,* славен. *vládati,* ст.-слав. **владѣти.** Прасл. **volděti.* І.-е. паралелі: літ. *valdýti* 'валодаць,

кіраваць', лат. *valdīt* 'тс', гоц. *waldan* 'кіраваць', ст.-в.-ням. *waltan* (Фасмер, 1, 340—341; Рудніцкі, 1, 467—468; Махэк$_2$, 693; Скок, 3, 604—605).

**Валóжка.** Гл. *валóшка.*

**Валóжскі** *(баран)* 'ід буйнога барана' (КТС). Да *валахскі.* Параўн. тлумачэнне Насовіча да слова *валоскі* 'тс': «валахскі, з Валахіі» (Нас., 65). Фанетычная перараробка слова, магчыма, пад уплывам збліжэння з дзеясловам *вáлашыць, вáлажыць, валóжыць.*

**Валóжыць$_1$** 'баранаваць' (КСТ). Да *валога* 'барана' (гл.).

**Валóжыць$_2$** 'запраўляць ежу салам' (Шн., 3, Касп.). Да *валога$_1$* (гл.). Развіццё значэння: 'запраўляць ежу валогай (з канапель)>запраўляць ежу>запраўляць тлушчам (салам)'.

**Валóк$_1$** 'каток' (Яруш., ДАБМ, 825). Да *вал$_3$.*

**Валóк$_2$** 'папярочная планка ў граблях' (Шатал.); 'частка грабель' (Выг. дыс.); 'ворчык' (Мат.). Да *вал$_3$.*

**Валóк$_3$** 'доўгія вузкія кучы сена' (БРС, КЭС, Янк$_2$). Да *вал$_4$.*

**Валóка$_1$** 'мера зямлі ад 16 да 30 дзесяцін' (БРС, Мал., Сцяшк. МГ, Гарэц., Яруш.); 'невялікае поле' (Выг. дыс.), укр. *волока,* польск. *włoka* 'тс'. Да *валачыць* (Скурат., Меры, 34). Гл. *валока$_2$.*

**Валóка$_2$** 'барана', *валачыць* 'баранаваць' (Мат. Гом.). Да *валачыць.* Слова агульнаслав.; параўн. польск. *włoka* 'мера зямлі' ад *włoczenia* 'баранаванне' (Брукнер, 627), балг. *влак* 'барана, зробленая з сука', чэш. *vlák* 'барана'. З іншымі значэннямі слова вядомае ўсім слав. мовам. Прасл. **volkъ* (Фасмер, 1, 341—342; БЕР, 1, 161; Махэк$_2$, 693).

**Валóка$_3$** 'невад' (Шатал.). Да прасл. **volkъ;* параўн. балг. *влак,* серб.-харв. *вла̑к,* славен. *vlȃk,* чэш. *vlak,* польск. *włok* 'невад, рыбалоўная прылада'.

**Валóка$_4$** 'вяроўка, шнурок' (Мат. Гом., Нік., Шн., 3, Інстр. I); 'вяроўка ў лапцях, абора' (Шатал., Нік., Мат.); 'вераўчаныя лапці' (Сцяц.). Адно з шырокага кола значэнняў, якія развіліся ў розных славянскіх мовах з прасл. **volkъ* (параўн. укр. *волока* 'завязка ў лапцях', *волок* 'сетка', польск. *włok* 'рыбалоўная сетка', чэш. *vlak* 'поезд', балг. *влак* 'сані', серб.-харв. *вла̂к* 'невад', славен. *vlâk* 'цяганне; невад').

**Валóскі** (прыметнік) 'адзнака авечак з густой і доўгай воўнай' (Сцяшк. МГ); 'парода авечак' (КЭС). *Валоскі<валожскі,* якое звязана з *валах* — старой назвай раманскіх народаў (Фасмер, 1, 345). Параўн. рус. *волошский орех,* бел. *валоскі арэх,* укр. *волоський* 'румынскі'.



**Валóскі арэ́х** (БРС, Касп.). Да *валах.* Гл. *валоскі.*

**Валóскі** (назоўнік). Гл. *валасажар.*

**Валóсны.** Гл. *валасажар.*

**Валóссе** 'валасяное покрыва' (З нар. сл.). Да *волас* з суфіксам зборнасці *-ьje-.*

**Валóтка** 'пладовая частка проса' (КЭС); 'галінка' (Булг.). Рус. смал. *волоть* 'верхняя частка снапа', укр. *волот* 'мяцёлка', польск. *włoć prosiana* 'сумнік', н.-луж. *(w)łoś* 'колас, катах', чэш. *(v)lat* 'мяцёлка', валаш. *vlat'* 'колас аўса', славац. *lata* 'гронкавае суквецце', серб.-харв. *вла̂т,* славен. *vlat* 'мяцёлка, колас', *vlatka, vlatina* 'мяцёлка'. Прасл. **voltъ/*voltь.* І.-е. паралелі: літ. *váltis* 'колас аўса, мяцёлка', ст.-ірл. *folt* 'волас', ст.-в.-ням. *wald* 'лес' (Выгонная, Лекс. Палесся, 64—70; Фасмер, 1, 344—345; Рудніцкі, 1, 470; Скок, 3, 609—610).

**Валóтніца** 'месца, дзе размешчана група курганоў-валатовак' (Яшк.). Да *волат.*

**Валóўнік$_1$** 'будынак для валоў' (БРС, Жд.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *валовы.*

**Валóўнік$_2$** 'чалавек, які паганяе валоў' (Шатал.). Да *валовы.*

**Валóўнікі** 'людзі, што хадзілі ў першыя дні вялікадня' (КЭС); 'валачобнікі' (Сцяшк. МГ). Магчыма, да *вол, валавы* як адна з шматлікіх назваў валачобнікаў; параўн. *лалоўнікі, кукобнікі, ралешнікі, хрыстоснікі* (БелСЭ, 2, 569). Больш верагодна *валоўнікі<*валхвоўнікі;* параўн. рус. *волхвы* 'людзі, якія ходзяць па сёлах і славяць бога'.

**Валóўскі** *(маркач)* 'валашскі' (Кліх.). *Валоўскі<*валошскі* да *валах* 'назва паўднёвых раманскіх народаў'. Гл. *валошка.*

***Валóчка,** *волóчка* 'ручка касы' (ДАБМ, 831). Звязана з *вал$_3$.*

**Валочнік** 'уладальнік валочкі зямлі' (Шат.). Звязана з *валока$_1$.*

**Валóшка** 'васілёк сіні, Centaurea cyanus L.' (Кіс., БРС, КЭС, Гарэц., Маш., Яруш., Шпіл.), *валашок* 'канюшына луга-

вая, Trifolium pratense L.' (Кіс.), *валожка* 'васілёк' (БРС, Шн., 3). Рус. *волошки,* укр. *волошки.* Да *валах* — старой назвы раманскіх народаў (Фасмер, 1, 345; Март., Лекс. взаим., 79—80).

**Вало́шня,** *волошня, волосня, волосень* 'ніць для лёскі' (Крыв.). Да *волас.*

**Валто́рна** 'музычны інструмент' (КТС). Праз рус. *валторна* (Крукоўскі, Уплыў, 84) з ням. *Waldhorn* 'паляўнічая труба' (Шанскі, 1, В, 12—13; Рудніцкі, 1, 302).

**Валту́зіна** 'спрэчка, звадка, валтузня' (КТС). Да *валтузіць.*

**Валтузіць** 'тармасіць' (БРС), *валтузіцца* 'спрачацца, лаяцца' (КЭС). Рус. *валтажиться* 'вазіцца з чым-небудзь, з кімнебудзь'; *валтошиться* 'павольна рабіць што-небудзь, завіхацца', *ватажаться* 'вазіцца', укр. *вовтузитись.* Рудніцкі (1, 457) лічыць украінскі дзеяслоў кантамінацыяй укр. *возитися* і *тузатися.* Фасмер (1, 270) рус. *валтажиться* звязвае з франц. *avantager* 'садзейнічаць, павялічваць долю'. Не выключана, што *валтузіць* звязана з *вата́га* (гл. версіі ў артыкуле *вантажыцца*). Несумненна, на форме слова адбілася кантамінацыйнае ўздзеянне іншых дзеясловаў. Варта звярнуць увагу на тое, што *валтузіць* можа быць утворана ад *валтуза,* якое дазваляе ставіць пытанне аб балтыйскім уплыве (параўн. *бамбіза, лапеза* і іншыя назоўнікі з суфіксальным *-з-*).

**Валтузня.** Гл. *валтузіна.*

**Валу́іна** 'вялікі дурань' (З нар. сл.). Да *валуй* 'тс' (гл.) з суфіксам адзінкавасці.

**Валу́й$_1$** 'шапкавы грыб сямейства сыраежкавых, Russula foetens' (БРС, Касп., Серж. Грам., Гарэц., КЭС), *валуі* 'Vaccinium uliginosum L.' (Кіс.). Рус. *валуй, волуй* 'грыб, Agaricus foetens', укр. *валуй* 'тс'. Да *вол* (Фасмер, 1, 345). У семантычным плане параўн. другую назву гэтага грыба — *бычок.*

**Валу́й$_2$** 'вялікі дурань' (З нар. сл.). Магчыма, да *валяць, валяцца* (параўн. *валяй,* рус. *увалень*).

**Валу́н** 'вялікі камень' (БРС), *валуны* 'асобныя кавалкі скал' (Інстр. I). Рус. *валун,* укр. *валун,* чэш. *valoun* (з рус.; Махэк$_2$, 676), славац. *valún.* Да *валіць* (Фасмер, 1, 270; Шанскі, 1, В, 13).



**Валуні́цца** 'ўздымацца валунамі' (КЭС): «Валуніліся брустевраў рады» (А. Лойка). Да *валун.*

**Валу́х.** Гл. *ва́лашыць.*

**Валу́ша** 'сукнавальня' (КЭС). Рус. *валуша,* укр. *валуша* 'тс'. Гл. *валюш.*

**Валхве́ц** 'від адзення' (Др.-Падб.). Утворана з дапамогай суфікса *-ец* ад прыметніка **валхвовы каптан>валхвец.*

**Валхві́ць** 'лячыць' (Пал.); 'песціць, цацкацца' (Юрч.). Другое значэнне метафарычнае. *Ва́лхвіць* 'лячыць' да *волхв* 'знахар', параўн. рус. *волхвовать, волшить, волшебничать, волшебствовать* 'знахарыць, загаварваць'. Параўн. семантычныя суадносіны *варажыць* і *ўрач* (гл. Коген, Запіскі, 191). Гл. таксама Вайян, RES, 1961, 144.

**Валшэ́мнік** 'чараўнік' (Кліх.). З *валшэбнік* з асіміляцыяй *бн>мн.*

**Валыва́цца** 'хваляватца' (Бяльк.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *вал$_1$* 'хваля' (гл.).

**Валы́нда** 'той, хто ходзіць без работы' (Нас.). Да *валындацца* па аналогіі з *дурында.* Параўн. таксама *валакіда.*

**Валы́ндацца** 'хадзіць без работы' (Арх. Бяльк.). Гл. *валанда.*

**Валы́ндзік** 'валында, хлопчык, які не сядзіць дома' (Нас.). Да *валындацца, валандацца* (гл.).

**Валы́ніцца** 'валандацца, займацца, цягнуць час' (КТС): «мне няма калі з табой валыніцца». Да *валыніць* (гл.).

**Валы́ніць** 'зацягваць, адкладваць якую-небудзь справу' (Бір. Дзярж.). Ад назоўніка *валынка$_2$* 'валакіта, цяганіна' (гл.). Рус. *волынить,* укр. *волинити.* Можна меркаваць, што семантычна падтрымліваецца сувяззю з *вол* — маруднай жывёлінай.

**Валы́нка$_1$** 'музычны інструмент' (БРС). Усходнеславянскае слова: рус. *волынка,* укр. *волинка.* Ад тапоніма *Валынь* (Фасмер, 1, 347; Шанскі, 1, В, 154).

**Валы́нка$_2$** 'валтузня, клопат' (Бір. Дзярж.); 'сварка' (Сцяшк. МГ); 'валакіта' (Бяльк.). Рус. *волынка* 'тс'. З фразеалагічнага выразу *цягнуць валынку;* гл. *валынка$_1$.*

**Вальбу́ка.** Гл. *валбука.*

**Вальго́та** 'ільгота' (Касп., КТС); 'прыволле, раздолле' (З

нар. сл.). Рус. *вольгота, вольготный* лічыцца прэфіксальным утварэннем ад *льгота*<*льга* 'свабода, лёгкасць' (Шанскі, 1, В, 154—155). Гэта версія выклікае сумненне, бо прэфікс *в-* звычайна спалучаецца з дзеяслоўнымі асновамі. Больш верагодным трэба лічыць *вальгота* вынікам кантамінацыі *ільгота* і *вольны*; якраз гэтыя значэнні былі ўласцівы ст.-рус. *льга*.

**Вальдшнэ́п** 'птушка, Scolopax rusticola L.' (Нік., КТС). Рус. *вальдшнеп*, укр. *вальдшнеп*. З ням. *Waldschnepfe, Waldscheppe* 'лясны бакас' (Фасмер, 1, 270; Шанскі, 1, В, 13; Рудніцкі, 1, 304).

**Валье́ра** 'абгароджаная пляцоўка для звяроў або птушак' (КЭС). Рус. *вольер*, укр. *вольера, вольер*, польск. *woliera*, чэш. *voliéra*. Запазычана, відаць, праз польскае пасрэдніцтва (на што ўказвае род) з франц. *voliere* 'птушнік' (Шанскі, 1, В, 155; Рудніцкі, 1, 473).

**Вальнаду́мец** 'той, хто вызначаецца вальнадумствам' (Яруш., 30), *вальнадумны* (БРС). Калька з ням. *Freidenker*, магчыма, праз польскае (*wolnomyśliciel*) або рускае (*вольнодумец*) пасрэдніцтва (Шанскі, 1, В, 155).

**Вальналю́бец** 'той, хто любіць волю' (КТС). Складанае слова: *вольны+любіць*.

**Вальне́нка** 'скрынка для сала' (КЭС). Гл. *ваненка*.

**Ва́льнуць** 'з усёй сілы стукнуць' (З нар. сл.); 'ударыць' (Жд.). Да *валіць* 'кідаць на зямлю, прымушаць упасці' або *валяць* 'пачынаць што-небудзь рабіць з энергіяй, з імпэтам'; параўн. *валяй, валяйце* 'дзейнічай(це)'. Націск можна тлумачыць аналогіяй з *бахнуць, стукнуць* і пад.

**Ва́льня** 'мыццё ў печы' (КСТ). Да *ванна* з дысіміляцыяй *нн*>*льн*. Параўн. *вальненка*<*ваненка* (гл.).

**Вальнякі́** 'месца, дзе жылі людзі, якія мелі вольнасць ад прыгону' (Яшк.). Ад *вальняк* 'вольны чалавек'. Магчыма, таксама па мадэлі тапонімаў (*Сушнякі* і пад.).

**Вальс** (БРС, Сцяц.), *ва́льса* (Бяльк.), *ва́льец* (Інстр. III). Праз польск. *walc*<франц. *valse* да ням. *Walzer* (Фасмер, 1, 270; Шанскі, 1, В, 14; Рудніцкі, 1, 301, 305).

**Вальса́** 'тарфяное балота; забалочаны луг, часам з вольхамі' (Яшк.), *ольс* 'торф' (КЭС). Гл. *алёс*.

**Вальта́ж** 'напружанне ў электрычным ланцугу' (КТС). Праз рус. *вольтаж* з франц. *voltage* 'тс' (Рудніцкі, 1, 474).



**Вальтану́ты** 'ненармальны' (З нар. сл.). Да **вальтануць* 'ударыць токам'<*вольт*.

**Вальтме́тр** (КТС). Праз рус. *вольтметр* (Крукоўскі, Уплыў, 89) з франц. *voltamètre* (Шанскі, 1, В, 156).

**Вальтыжы́раваць** 'выконваць гімнастычныя практыкаванні ў час язды верхам на кані' (КТС). З рус. *вольтижировать* (Крукоўскі, Уплыў, 80) да ням. *voltigieren* 'тс'<франц. *voltigeur* 'салдат лёгкай пяхоты' (Шанскі, 1, В, 156).

**Ва́льтэр** 'пісталет' (КЭС). З ням. *Walter* 'марка зброі'.

**Вальтэр'я́нец** 'вальнадумец' (КТС). Праз рус. *вольтерьянец* з франц. *voltairien* (Шанскі, 1, В, 156; Рудніцкі, 1, 474).

**Вальтэр'я́нства** 'вальнадумства' (КЭС). З рус. *вольтерьянство* (Крукоўскі, Уплыў, 80).

**Вальфра́м** 'рэдкі метал' (КТС). Праз рус. *вольфрам* (Крукоўскі, Уплыў, 89) з ням. *Wolfram* (Шанскі, 1, В, 156; Рудніцкі, 1, 474).

**Вальха́** 'вольха, алешына' (Касп.). Гл. *вольха*.

**Вальцава́ць** (БРС), *вальцаваць (жалеза)* (КТС), *вальцы* (БРС, Інстр. III). Да ням. *walzen* 'вальцаваць, пракатваць', перааформленага на славянскай глебе з дапамогай суфікса *-ава*. Магчыма, праз польскае пасрэдніцтва (польск. *walcować*). Параўн. Шанскі, 1, В, 14—15.

**Вальцо́ўка** 'гатунак мукі' (КЭС); 'шатроўка' (Мат. Гом.). Да *вальцаваць*.

**Ва́льцы** 'прыстасаванне для вальцавання'. Да *вальцаваць* (гл.).

**Ва́льчыць** 'змагацца, біцца, ваяваць' (КЭС). З польск. *walczyć* (Жураўскі, SOr, 1961, 40; Булыка, Запазыч., 55; Кюнэ, Poln., 113). Гл. *валка*$_1$.

**Вальяжны** 'няспешны, здаволены' (КТС): «Дзед ішоў на дзіва вальяжны і прыгожы» (У. Караткевіч). Параўн. рус. *вальяжный* 'які ідзе няспешна, нетаропка'. Рус. *вальяжный* 'грузны, тоўсты, непаваротлівы, вельмі важны' Фасмер (1, 271) услед за Праабражэнскім (1, 63) звязвае з **вальяга*<<*валить*. Іншая версія: рус. *вальяжный*<*льячный* (Даль, 1, 163; Шанскі, 1, В, 15). Акрамя ўказаных, слова мае шэраг значэнняў: 'масіўны, моцны; разны, прыгожа выраблены' і звязваецца з дзеясловам *вальяжиться* 'важнічаць, фанабэрыцца'. Магчыма, бел. слова з'яўляецца русізмам. Варта ўказаць на ўкр. *валежний* 'важны' (Грынч., 1, 123), якое Рудніц-

кі (1, 299) лічыць магчымым вытлумачыць як кантамінацыю ўкр. *валечный* (<польск. *waleczny*) і ўкр. *важний*.

**Валья́н** 'шурпаты валік, з дапамогай якога гатовая тканіна накручваецца на таварна-здымны валік' (КТС). Да *вал(?)*. Даль (1, 163) прыводзіць *вальян, вальявочный, вальячный* 'разная, чаканная работа', якія звязвае (гл. таксама Шанскі, 1, В, 15) з *вальяжный* 'прыгожа выраблены'<*во-льячный* ад *льяк* 'форма пры ліцці'. Тады, магчыма, *вальян* — гэта спецыяльна адліты вал з адпаведнымі «шурпатасцямі».

**Валэ́нданіна** 'цяганіна, марнаванне часу' (КТС). Да *валэндацца*. Параўн. *цяганіна, беганіна*.

**Валэ́ндацца.** Гл. *валанда*.

**Валю́га** 'ўпаўшае струхлелае дрэва' (КСТ). Да *валіць*.

**Валюга́цца** 'перавальвацца з нагі на нагу' (КТС). Да *валюгаць* (гл.).

**Валюга́ць** 'пры хадзьбе ківацца на бакі' (лаг., КЭС). Да *валюхацца* (гл.) з інтэрвакальным азванчэннем *х*.

**Валюнтары́зм** 'ідэалістычная плынь у філасофіі' (КТС). З рус. *волюнтаризм* (Крукоўскі, Уплыў, 81) да ням. *Voluntarismus*<лац. *voluntas* 'воля' (Шанскі, 1, В, 157).

**Валю́та** (БРС). З рус. *валюта* (Крукоўскі, Уплыў, 82) да ням. *Valuta* або непасрэдна да італ. *valuta* 'кошт, сума, валюта' (Фасмер, 1, 271; Шанскі, 1, В, 15; Рудніцкі, 1, 303).

**Валю́тчык** 'той, хто займаецца незаконнымі валютнымі аперацыямі' (КТС). Суфіксальнае ўтварэнне ад *валюта*.

**Валюх** 'пузан, цяльпук, мяла' (Клім.), *валюхла* 'капун, павольны ў хадзьбе чалавек' (З нар. сл.), *валюх-валюх* 'выклічнік (пра хаду)' (КСП). Да *валяць* з экспрэсіўнай суфіксацыяй; параўн. *валёх-валёх* 'выклічнік', рус. *валях, валяха, валяшка, валява, валюга, валюшка* 'цяльпук', *увалень*, бесар. *валюхаваты* 'цяльпук'.

**Валюха́ста** 'валюхаючыся' (КТС): «павярнуўся і валюхаста зашлёпаў па гразі» (В. Быкаў). Да *валюхасты*<*валюх*.

**Валюха́цца** 'перавальвацца з нагі на нагу' (Жд.). Да *валюх* (гл.).

**Валю́хла.** Гл. *валюх*.

**Ва́люш** 'валяльня' (БРС, Бір. Дзярж.); 'млын, у якім ёсць прылады валяць сукно, шарстабітня' (КЭС), *валюша* 'тс' (КЭС, КСТ), *валюшня* 'тс' (БРС, Маш., Сцяшк. МГ, Янк₂), *валюшны* (КТС), *валуша* 'валяльня' (КТС). Да польск. *folusz* 'млын, дзе валялі тканіны' (Брукнер, 124; Рудніцкі, 1, 303). Польскае паходжанне пацвярджаецца націскам у *ва́люш*. Гук *в* у пачатку слоў — вынік кантамінацыі з *валяць*. С. Мікуцкі (Третий отч., 207) памылкова лічыць, што бел. *валюш* да *валіць*, адкуль і польск. *folusz*.



**Валю́шаць,** *валюшаты* 'абкачваць у муку' (Клім.). *Валюшаты*<*(рабіць) *валюшы*, гл. *валюшка*.

**Валю́шка** 'кавалак гліны' (Жд.). *Валюшка*<**валюша* 'тое, што валяюць, валяецца', якое да *валяць* 'паварочваць з боку на бок'; параўн. рус. *катыш* 'кавалак скачанага хлеба'.

**Валява́ты** 'з вялікім валлём' (Нік.). Да *валлё*. Параўн. укр. *воластий* 'тс'.

**Валява́ха₁** 'чапля' (КЭС), *вальваха, валеваха, оловаха* 'Ardea purpurea L.', 'чапля рыжая' (Нік.), *валяваха* 'бугай, бухала (птушка)' (Некр., Маш., Гайдукевіч, Працы IM, 6), палес. *вол'оваха, волюваха, волювака, волювак, воловаха, вол'л'аха, олеваха* 'чапля рыжая, Ardea purpurea L.' і 'чапля шэрая, Ardea cinerea L.', дыял. *валяваха, волік* 'Ardea stellaris L.', паўдн.-зах. *волюваня* 'Ardea cinerea L.', бойк. *вол'ован'і* 'чапля' (Нікан., Бел.-укр. ізал., 62). Формы *оловаха, олеваха* дазваляюць меркаваць, што пачатковае *в* — прыстаўны гук. Назва звязана, магчыма, з колерам (шэрай птушкі) і лексемай *волава* (метал шэрага колеру). Варыянты *вальваха, волляха* могуць сведчыць пра другаснае збліжэнне з іншым словам — *валлё*, першасная ж форма — *вол'ован'і* (*волава*+суфікс прыметніка *-ан*). Форма *волік* — вынік народнай этымалогіі (параўн. *бугай* як назва птушкі). Няясна, ці ёсць сувязь з *валійка* 'дзікая качка' (Бяльк.), укр. *валюш* 'вальдшнэп'.

**Валява́ха₂** 'непаваротлівы чалавек' (КЭС); 'лянівая' (Мат. Гом.). Метафарычна з *валяваха₁*, кантамінаванага з *валяць, валяцца*; параўн. *валяй, валуй* 'непаваротлівы, лены чалавек'.

**Валявы́** 'з моцнай воляй' (КТС). Да *воля* (гл.).

**Валя́й!** 'шпар!, валі!' (КТС). З рус. *валяй* 'валі, шпар, дзейнічай' (разм.), якое да *валяць*.

**Ва́лянка₁.** Гл. *ваненка*.

**Ва́лянка₂.** Гл. *ва́ленка*.

**Ва́лянка₃** 'суконная вялікая хустка' (З нар. сл.). Да *валяны*<*валяць*.

4. Зак. 1876

**Валянтова.** Гл. *валента.*

**Валянуць** 'пайсці густа (пра снег); ударыць' (КТС). Да *валіць.* Параўн. *вальнуць* (гл.).

**Валяр'ян** 'травяністая лекавая расліна, Valeriana officinalis L.' (БРС, КЭС, Сцяшк. МГ, Кіс.). Іншыя назвы:*маун, айрыян, дуброўка, капроўнік лесавы, грудоўка.* Рус. *валериана,* укр. *валеріана,* польск. *waleriana,* в.-луж. *baldrijan,* н.-луж. *bandrija,* славац. *valeriána,* балг. *валериан,* серб.-харв. *валеријана.* Да лац. *valeriana*<*Valeria* 'назва мясцовасці' (Фасмер, 1, 269; Шанскі, 1, В, 11).

**Валяр'янка** 'лякарства' (КТС). Суфіксальнае ўтварэнне ад прыметніка — універбізацыя словазлучэння *валяр'янавыя каплі.* Параўн. Шанскі, 1, В, 11.

**Валяць** 'прымушаць паваліцца' (БРС, Яруш.). Звязана з *вал, валіць* (гл.).

**Валяч** 'лайдак, лежань' (гродз., КЭС). Да *валяць, валяцца,* суфіксацыя, як у *папіхач, крумкач.* Параўн. рус. *валявка, валяшка, валуй, валец, валюга* 'гультай, разява, лежабока'.

**Валяшчы** (БРС). Да *валяць;* параўн. рус. *валящий* 'тс'. Словаўтварэнне, як *валачашчы.*

***Ваміт,** *воміт* 'рвота, ваніты' (КЭС). З польск. *womit* 'тс'<лац. *vomitio* 'тс' (Кюнэ, Poln., 115; Брукнер, 630). Пераход *м*>*н* у *ванітаваць* (гл.) Кюнэ тлумачыць народна-этымалагічным збліжэннем (з **ваняць?*). Гл. Рудніцкі, 1, 475.

**Вамлеваць.** Гл. *млець.*

**Вампір** 'крывасмок, міфалагічная істота' (КТС). Ва ўсходнеславянскія мовы слова трапіла з французскай або нямецкай. Франц. *vampire* і ням. *Vampir* узыходзяць да слав. кораня **ǫpirь;* параўн. рус. *упырь,* польск. *upiór* 'тс' (Фасмер, 1, 127; Шанскі, 1, В, 16; БЕР, 1, 117; Рудніцкі, 1, 306; Скок, 3, 564; Брукнер, 594; Махэк₂, 669).

**Вампір-трава** 'пэўны від травы' (КТС), *вампір* (заал.) 'тс' (БРС). Перанос назвы *вампір* (гл.) на расліну.

**Ванадый** 'рэдкі метал' (КТС). Праз рускае пасрэдніцтва з ням. *Vanadium, Vanadin* (Шанскі, 1, В, 16—17; Рудніцкі, 1, 306).

**Ванглёнка.** Гл. *вандліна.*

**Вангор** 'сом' (КЭС, Інстр. II), *вангор, вангош* 'вугор' (КЭС), *вангош* 'уюн' (КЭС). Запазычанне з польскай мовы: *węgorz* 'вугор'.



**Вангыля** 'евангелле' (Грыг.), *вангаля* 'тс' (Мядзв.), *ваянгелле* 'тс' (Шпіл.). Да *евангелле* (гл.). У апошнім выпадку з метатэзай у пачатку слова пад уплывам другаснага збліжэння з *ангел.* Гл. *ваянгел.*

**Вандал** 'жорсткі чалавек' (КТС). Праз рус. *вандал* да франц. *vandale* 'тс' (Шанскі, 1, В, 17; Рудніцкі, 1, 307; БЕР, 1, 117—118).

**Вандалізм** (БРС). З рус. *вандализм* (Крукоўскі, Уплыў, 76) з франц. *vandalisme* 'тс' (Шанскі, 1, В, 17).

**Вандза** 'плакса' (КСП). Параўн. рус. *ваньзя, ваньзя* і *ваньдзя* 'дурнаваты чалавек, цяльпук' (СРНГ, 2, 38). Экспрэсіўнае ўтварэнне, магчыма, ад уласнага імя *Ванька,* на бел. глебе кантамінаванага з *вэндзіць;* параўн. *вандзонка* 'лены, непаваротлівы чалавек' (Бяльк.).

**Вандзігаць** 'напружана працаваць (?)' (КЭС): «А што ж, браток, мая справа такая: свята адпачывай, будні працуй. Была пара, вандзігаў і я так, ого-о!» (Ц. Гартны). *Вандзігаць*<**вандзіга,* якое можа быць звязана з *вандраваць* (гл.).

**Вандзідла** 'цуглі' (Касп.). Паланізм: польск. *wędzidło* 'цуглі, мундштук'.

**Вандзіцца** 'плакаць' (КСП). Да *вандза* (гл.).

**Вандзіць** 'вэндзіць', *вандзоны* 'вэнджаны' (Шатал.). Паланізм, акцэнталагічна збліжаны з іншым дзеясловам (напрыклад, русізмам *капціць*). Да польск. *wędzic* (Кюнэ, Poln., 113; Брукнер, 608).

**Вандзэлак₁.** Гл. *ванзэлак.*

**Вандзэлак₂** 'званочак у каня на шыі' (КЭС). Магчыма, да польск. *wędzidło* 'цуглі, мундштук' са зменай значэння пры запазычанні.

**Вандліна,** *ванглёнка, вянгліна* 'вэнджанае мяса' (Касп.). З польск. мовы: *wędliny* 'вэнджаная грудзінка'<*wędzić* (Кюнэ, Poln., 113). Параўн. *ванзонка.*

**Вандол** 'невялікая выбоіна, ямка' (КЭС, Касп.); 'ухаба, выбай, калдоба' (Яшк.), *вандола* (Сцяшк. МГ). З польск. *wędół* 'тс' (Брукнер, 597).

**Вандраваць** (БРС), *вандриваць* і *мандриваць* 'падарожнічаць' (Шн., Песні). Праз польск. *wędrować* да ням. *wandern* 'тс' (Карскі, Белорусы, 161; Кюнэ, Poln., 113; Брукнер, 608; Корбут, PF, 4, 422, 470).

***Вандруга,** *вандрюга* 'бадзяга' (Нас.). Да *вандраваць* з экспрэсіўнай суфіксацыяй; параўн. *зладзюга, падлюга.*

**Вандэр-вон** 'ідзі прэч!' (Нас.). Магчыма, звязана з *вандраваць:* «вандэрн вон».

**Вандэ́я** 'контррэвалюцыйныя выступленні' (КТС). Ад *вандэйскія войны* — «ваенныя дзеянні, якія вялі ўрады Францыі перыяду буржуазнай рэвалюцыі канца XVIII ст. супраць контррэвалюцыйных раялісцкіх мецяжоў у паўн.-зах. правінцыях Францыі. Назва ад гал. цэнтра контррэвалюцыі — дэпартамента Вандэі» (БелСЭ, 2, 590).

**Ване́нка** 'драўлянае карыта' (КЭС), *валёнка* 'драўляная пасудзіна, кадушка', *вальне́нка* 'скрынка для сала' (Сцяшк. МГ), *ва́лянка* 'пасудзіна з дошчак (авальнай формы) для захоўвання высевак' (Сцяц.). З польск. *wanienka, wanna*<ням. *Wanne* (Карскі, Белорусы, 161; Кюнэ, Poln., 113). Няправільна ў Сцяцко (Нар. лекс., 95) *ва́лянка* да *ва́лянкі* 'абутак'. Укр. *ва́ливо, валю́га* 'карыта' (Грынч.) да венг. крыніцы (Рудніцкі, 1, 301).

**Ване́ць** 'смярдзець' (Бяльк.). Да *вонь*<прасл. **onja;* гук *в* у пачатку слова пад уплывам *веяць* (Мейе, JF, 5, 333) або прасл. **vǫx-* (БЕР, 1, 176). Рус. *вонь* 'смурод', ст.-рус. *воня* 'пах, водар', укр. *вонь,* польск. *woń,* в.-луж. *wóń, wónje,* н.-луж. *woń,* чэш. *vůně,* славац. *vôňa* 'тс', балг. *воня́* 'смурод', серб.-харв. *во̏ња, во̏ња* 'пах', славен. *vónja* 'тс', ц.-слав. *вонꙗ* 'водар, пах'. І.-е. паралелі: лац. *animus* 'дух', ст.-інд. *anaḥ* 'подых', грэч. ἄνεμος 'вецер', гоц. *us-anan* 'выдыхаць' (Праабражэнскі, 1, 95—96; Фасмер, 1, 349; Шанскі, 1, В, 158—159; БЕР, 1, 176; Брукнер, 630; Махэк$_2$, 704).

**Ванжэ́ўнік** 'месца, дзе водзяцца вужы' (КТС). З польск. *wężewnik* 'тс'.

**Вanзо́нка** 'вэнджаны кумпяк' (КЭС). Запазычанне з польскай мовы *wędzonka* 'вэнджаная грудзінка' <*wędzić* (Кюнэ, Poln., 113).

**Ванзэ́лак** 'вузельчык, клунак' (КТС), *вандзэ́лак* 'тс' (КЭС). З польск. *węzełek* 'тс'.

**Ванілін** 'пахучае рэчыва' (КТС). З рус. *ванилин*<*ваниль* (гл.) (Шанскі, 1, В, 17—18).

**Ваніль** 'плады трапічнай расліны' (КТС). З рус. *ваниль*<<франц. *vanille* 'струк дрэва, з якога атрымліваюць араматычнае рэчыва', якое да лац. *vagina, vaginella* 'струк' (Фасмер, 1, 272; Шанскі, 1, В, 18; Рудніцкі, 1, 308).



**Ванітава́ць** 'рваць' (БРС, Інстр. II, Федар., 1, Янк. БП, Шн., 2, КТС). З польск. *wonitować*<*womitować* 'тс', якое ад лац. *vomere* (Брукнер, 630). Параўн. літ. *vémti* 'ванітаваць, рваць', лат. *vẽmiens* 'рвота, ваніты'. Гл. *ваміт.*

**Ваніты** 'стан, калі чалавеку моташна, млосна; моташнасць, млоснасць' (КЭС). Запазычана з польск. *wonity,* якое з'яўляецца дэвербатывам ад *wonitować* (Брукнер, 630). Гл. *ванітаваць, ваміт.*

**Ва́нна** (БРС), *вальня* 'ванна' (КЭС). З рус. *ванна* (Крукоўскі, Уплыў, 73; Шанскі, 1, В, 18; БЕР, 1, 117).

**Ва́нная.** З рус. *ванная* (Крукоўскі, Уплыў, 64).

**Вансі́дла** 'цуглі' (Шатал.). Кантамінацыя двух польскіх слоў: *wędzidło* 'цуглі' і *wąs* 'вус'.

**Ванта́жыцца** 'сур'ёзна, не на жарт бароцца' (Мядзв.). Можна вылучыць некалькі версій, звязваемых з рознымі значэннямі гэтага слова. Рус. *вантажиться, вантажничать* 'адводзіць шмат часу заляцанням' (адкуль *вальтажиться* 'тс'), укр. *вантаж* 'карысць, выгада' да франц. *avantager* 'садзейнічаць; павялічваць долю' (Фасмер, 1, 270); параўн. польск. (у сярэднія вякі) *awantaż* 'даход, набытак'. Укр. *вантаж, вантага* 'груз', *вантажити* 'грузіць' Рудніцкі (1, 309) услед за Шавялёвым (ZfslPh, 23, 146—167) выводзіць з *ватага,* тлумачачы *-н-* як аргатычны інфікс; параўн. рус. *ватажаться* 'вадзіцца' (Дабр., 53). Гэту версію аспрэчвае Краўчук (ВЯ, 1968, 4, 130), які схіляецца да думкі, што зыходным значэннем укр. *вантажити* было 'звязваць, абмотваць, загортваць', *вантажити* да *вантух* 'вялікі мех, грубае палатно для запакоўкі'. З апошняй версіі і трэба, відаць, выводзіць бел. *вантажыцца* з развіццём значэння 'звязвацца>вазіцца>бароцца'.

**Вантрабя́нка** 'страўнік або тоўстая кішка, начыненая вантробамі' (БРС, Вешт., Інстр. I); 'каўбаса з вантробаў' (КСТ). Утворана марфолага-сінтаксічным спосабам ад *вантрабяная (каўбаса).*

**Вантро́ба** (БРС, Бір. Дзярж., Інстр. I, Нас.), *вантроб'е* 'тс' (Касп.), *вантробкі* 'лівер' (Малч., Нас.), *вантробы* 'трыбухі' (Сцяшк. МГ, Шн., 2). З польск. *wątroba* (Жакава, Бел.-рус. ізал., 47—48; Кюнэ, Poln., 115; Брукнер, 605; Рудніцкі, 1, 309).

**Ванту́ра.** Гл. *авантура.*

**Ванту́рнік** 'авантурыст' (Нас.). *Вантурнік*<*авантурнік*<<*авантурны (чалавек)* у выніку універбізацыі.

**Вантýрыць** 'быць авантурыстам' (Нас.). Уласнабел.<<*авантурыць* да *авантура* (гл.).

**Ва́нтух** 'мех' (КЭС). Праз польск. *wantuch, wańtuch* 'грубае палатно'<ням. *Wagentuch* (Брукнер, 601). Гл. таксама *лантух* 'мех; трыбух, жывот, страўнік' (Бяльк.). Параўн. Рудніцкі, 1, 310; Брукнер, 601.

**Ва́нты** 'марскія снасці' (КТС). Праз. рус. *ванты* з галанд. *want* (Фасмер, 1, 272; Крукоўскі, Уплыў, 82; Рудніцкі, 1, 309).

**Вануглік** 'чалавек, ад якога смярдзіць' (Касп.). Да *ванець* (*ванець*>*ванyга*>*ванyгаць*>*ванyглы*>*ванyглік*).

**Ванцак** 'хвароба жывата' (Сцяшк. МГ); 'падучая' (Шат., Касп.); 'рэзь у жываце' (БРС). Фанетычна перароблецае запазычанне з польскай мовы, на што ўказвае, у прыватнасці, наяўнасць насавога. Польск. *wąsad* і памылковае *wąsacz* 'боль у крыжы' (адкуль беларускае *ванцач* 'хвароба жывата'). Брукнер (605) тлумачыць *wąsad,* як 'тое, што ўсаджана' і параўноўвае з чэш. *úsad* 'боль у крыжы', балг. *усади* 'хвароба скаціны'. Форма *ванцак* тлумачыцца перараскладаннем запазычанага слова на *ванц-* і *-ак*, на падставе чаго ўзніклі *ванцяць* 'абняславіць' (гл.) і *ванцаты* 'нервовы, шалёны' (гл.). Параўн. Вярэніч, БЛ, 11, 66.

**Ванца́ты** 'нервовы, шалёны' (КЭС). Прыметнік з суфіксам *-аты* ад *ванц-ак* 'падучая, хвароба жывата' (гл.).

**Ванца́ч** 'хвароба жывата' (Жд.). Гл. *ванцак.*

**Ванцы́пар** 'нячысцік, чорт' (Бяльк.). Гл. *анцыпар.*

**Ванця́ць** 'абняславіць' (КЭС). Да кораня *ванц-* (гл. *ванцак*). Магчыма, варта прыняць пад увагу і літ. *vaitóti* 'стагнаць, вохкаць', прус. *waitiāt* 'гаварыць' і бел. (з балт.) *вайцяць* 'сварыцца, крычаць, лаяцца' (Урбуціс, Baltistica, 1969, 2, 161; Непакупны, Мовознавство, 1968, 6, 35; Непакупны, Бел.-укр. ізал., 53—54), пад уплывам якіх маем *ванцяць* замест *ванцаць.* Верагодна, таксама *ванцяць*<*вайцяць* (гл.).

***Ва́нчас,** *ванчос, ванчэс, ванчус* 'дубовы брус, клёпкі, дошкі на клёпкі' (Кольб., КЭС, Гарб.); 'від лесаматэрыялу' (КСТ). Да літ. *vančos,* лат. *vantis* 'дубовы брус, бэлька для прывязвання якара' (Карскі, Труды, 391, 482; Карскі, РФВ, 49, 13; Фасмер, 1, 272; Рудніцкі, 1, 310; Аткупшчыкоў, Лекс. балтызмы, 32—33).

**Ванька** 'мода, звычка' (КСТ). Відаць, частка нейкага фразеалагічнага выразу. Улічваючы, што слова *ванька* мела



калісьці агульнае значэнне '(ліхі) рамізнік' (Даль, 1, 164), можна меркаваць пераход 'ваньку ламаць'>'моднічаць', адкуль 'ванька'>'мода, звычка'. Параўн. шырокае ўжыванне *ванька* ў розных экспрэсіўных значэннях у рускай мове (гл. СРНГ, 4, 38—39).

**Ваню́х** 'лясны клоп' (Шатал.). Да *ванець* (гл.). Назва дадзена за непрыемны пах. Параўн. *ванючка* (гл.).

**Ваню́чка** 'мяккая трава з непрыемным пахам' (Бяльк.). Да *ванючы.*

**Ваóбак** 'стараною (ехаць)' (Нас.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад прыслоўя **óбак* (<*бок*).

**Ваóдаль** 'удалечыні' (Нас.). Прэфіксальнае ўтварэнне ад прыслоўя **óдаль* (<*даль*); параўн. рус. *поодаль.*

**Ва́пак** 'залежы вапны' (Яшк.). Да ст.-рус. *вапь.* Гл. *вапна.*

**Ва́пельнік** 'рабочы, што здабывае вапняк, вапну' (КТС). Да *вапельны*<*вапа.*

**Ва́пеннік** 'рабочы, які працуе ля вапельні' (КТС). Да *вапенны*<*вапа.*

**Ва́пенніца** 'яма для гашэння вапны' (Др.-Падб., Гарэц.). Да *вапна* (гл.).

**Вапе́р.** Гл. *вяпрук.*

**Вапі́ць** 'плакаць, выць' (Нас.). Рус. *вопить,* ст.-рус. *въпити, вопити,* укр. *вопити,* чэш. *úpěti,* славац. *upet',* балг. *въпия,* серб.-харв. *ўпити, вàпити,* ц.-слав. *въпити.* Прасл. **vъpiti*<<**ъpiti* з'яўляецца гукапераймальным. З прасл. слова было запазычана ў прагерманскую мову (Мартынаў, Лекс. взаим., 190—192). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 349—350; Шанскі, 1, В, 160; БЕР, 1, 207—208; Скок, 3, 565; Махэк₂, 669, 705.

**Ва́піць** 'бяліць вапнаю' (Касп.). Да *вапа* (гл. *вапна*).

**Ва́пна** 'рэчыва белага колеру, якое здабываецца з вапняку' (БРС, КЭС, Гарэц., Грыг., Мядзв., Яруш.). Рус. *вапно,* укр. *вапно,* польск. *wapno* 'тс', в.-луж. *wapno,* н.-луж. *wapno,* чэш. *vápno,* славац. *vápno,* серб.-харв. *вáпно* 'тс'. Да *вап, вапа* 'вапна' з суфіксам *-ьна.* Роднасныя формы: ст.-прус. *woapis* 'фарба', лат. *vāpe* 'глазура' (Фасмер, 1, 272; Праабражэнскі, 1, 64—65; Рудніцкі, 1, 311; Скок, 3, 565; Брукнер, 601). Мядзведскі лічыў бел. *вапна* запазычаннем з польск.

**Вапнава́нне** 'ўнясенне вапны ў глебу' (КТС). Калька з рус. *известкование* (Крукоўскі, Уплыў, 119).

**Ва́пнаўка** 'расліна сямейства гваздзікавых, Gypsophila L.' (Кіс., БРС). Назва дадзена за белы (як бы з вапны, мелу) корань (БелСЭ, 2, 593).

**Вапня́к** 'горная парода, якая мае ў сабе вапну' (БРС). Калька з рус. *известняк* (Крукоўскі, Уплыў, 119).

**Вапо́ры** 'настрой' (Нас.). Укр. *вапор, вапори* 'тс'. Насовіч лічыў *вапоры*<*vapor,* маючы, відаць, на ўвазе лац. крыніцу. *Вапоры*<польск. *wapory* 'цяжкі дух; дрэнны настрой'<лац. *vapor* 'пара' (Кюнэ, Poln., 113; Рудніцкі, 1, 311).

**Вапшчэ** 'наогул' (З нар. сл.). З рус. *вообще.*

**Вар** 'кіпецень, вар' (БРС, КЭС, Гарэц., Мядзв., Яруш.). Рус. *вар*, ст.-рус. *варъ,* укр. *вар,* польск. *war* 'тс', чэш. *var* 'кіпенне', славац. *var* 'тс', в.-луж. *war* 'кіпецень', балг. *варя́* 'варыць, кіпяціць', серб.-харв. *вâр* 'кіпенне', славен. *vâr* 'тс', ц.-слав. *варъ* (у розных значэннях). Да прасл. **varъ, *variti,* даўшых шмат семантычных вытворных; параўн. *садовы вар* 'рэчыва для замазвання паламаных дрэў' (КТС), *вар* 'варыва, суп, вараная страва' (Сцяшк. МГ; Інстр. I); 'падкормка для маладых пчол' (Сцяшк. МГ); 'колькасць мёду, піва, гарэлкі, атрыманая ад аднаго разу' (Федар., 7); 'гарачыня, парнасць' (КТС, Гарэц.), ст.-бел. *варъ* 'адзінка вымярэння піва' (Скурат, Меры, 97), *вара* 'згатаваная страва' (Сцяшк. МГ, Сцяц., Клім., КЭС). Паралелі да *вар:* літ. *vìrti* 'кіпець', гоц. *warmjan* 'грэць', ст.-в.-ням. *warm* 'цёплы', арм. *varim* 'запальваю'. І.-е. **u̯er-* 'гарэць' (Фасмер, 1, 273; Праабражэнскі, 1, 66—67; Покарны, 1166; Шанскі, 1, В, 21; Рудніцкі, 1, 311—312; Брукнер, 633; БЕР, 1, 122).

**Вара́ва** 'мноства' (Мат. Гом.). Гл. *арава.*

**Варава́ты** 'насцярожаны, патайны' (КТС): «шэпча варавата». Да *варавацъ*$_1$ (гл.).

**Варава́ць**$_1$ 'абстаўляць умовамі, меркаваць' (КЭС), *варавацца* 'насцярожвацца' (КТС); 'асцерагацца, не асмельвацца' (КПС); 'сцерагчыся, абавязвацца', *паваро́ўвацца* 'пабойвацца, асцерагацца' (КЭС). Усе значэнні развіліся на падставе *варавацъ* 'ахоўваць, зберагаць', запазычання са ст.-в.-ням. *warôn* 'тс', прадстаўленага ў большасці славянскіх моў: рус. *варовать* 'слухацца; захоўваць, абараняць', ст.-рус. *варовати* 'тс', укр. *варувати, варовати(ся)* 'тс', *ва́ра* 'сцеражыся', польск. *warować* 'умацоўваць; абумоўліваць', чэш. *varovati* 'папярэджваць', *varovati se* 'берагчыся', славац. *varovat'* 'сцерагчы; наглядаць за дзіцём', серб.-харв. *вȁрати, варо̀вати* 'ахоўваць'. Магчымасць шырокіх семантычных зру-



хаў пацвярджаецца аналагічнымі працэсамі ў іншых мовах; параўн. балг. *ва́рам, ва́рвам* (<серб.-харв.): 'ахоўваць>ахоўваць дзяцей>суцяшаць>адцягваць увагу>ашукваць, хлусіць' (БЕР, 1, 119). Гл. Фасмер, 1, 275; Рудніцкі, 1, 312; Брукнер, 601; Корбут, PF, 4, 515; Скок, 3, 565—566.

**Варава́ць**$_2$ 'прытрымліваць плыт якарамі' (КСТ). Да *варавацъ*$_1$. Магчыма таксама семантычнае запазычанне з польск. *warować* 'умацоўваць'.

***Варава́ць**$_3$, *варовацъ* 'падсоўваць на сталюгах калодку пры дапамозе тапара' (КСТ). Існуе вялікае гняздо слоў з гэтым коранем: рус. *вор, во́ра* 'плот, агароджа', *верать* 'совацъ, укладваць', *(за)вереть* 'заперці', *вар, варок* 'двор для скаціны', бел. *вур, ворйе, ворына* 'плот з доўгіх жэрдак' (Лучыц-Федарэц, Бел.-укр. ізал., 40), укр. *варійка* 'перакладзіна, якой закрываюць вароты', ст.-рус. *воръ* 'плот', польск. *(za)wrzeć* 'запіраць, закрываць', чэш. *otevřiti* 'адкрыць', балг. *въвирам* 'усоўваць, упіхваць' і г. д. Гэта дае магчымасць узнавіць адзін з варыянтаў агульнаславянскага кораня да прасл. **vor-* са значэннем '(па)соўваць'. І-е. паралелі гл. Фасмер, 1, 273, 293, 350; БЕР, 1, 177—178. Там жа і літаратура.

**Варавíты** 'паганы, звяглівы; кашлаты (пра сабаку)' (Сержп., Грам.); 'тс (пра чалавека)' (Янк$_1$). Да *варава́цъ*$_1$.

**Варагава́ць** (БРС). Калька з рус. *враждовать*<ст.-слав. *враждовати.*

**Варажба́** 'гаданне' (Гарэц.); 'чараўніцтва' (Яруш., 118). Рус. *ворожба,* укр. *ворожба*, польск. *wróżba* 'гаданне, прадказанне', балг. дыял. *вра́жба́* 'лячэнне, дзеянне ўрача', макед. *вражба* 'варажба', серб.-харв. *вра́жбина* 'чараўніцтва'. Прасл. **voržьba*<**voržiti* (гл. *варажыцъ*). Аб суфіксацыі гл. SP, 1, 61—62.

**Варажбíт** 'чараўнік' (Гарэц., КЭС, Яруш.), *варажбітка* 'чараўніца' (Шн., 2, Яруш., Сцяшк. МГ). Да *варажба* (як *барацьба*>*барацьбіт*). Аб суфіксацыі гл. Кіш., SSlav., 2, 1956, 365—371.

***Ва́ражкі,** *варашкі* 'рукавіцы з адным пальцам' (ДАБМ, 948). Запазычанне з рус. *варега, варежка,* якое Фасмер звязвае з *варяг* (Фасмер, 1, 274).

**Варажы́на** 'злодзей' (Мат. Гом.). Да *вораг* з суфіксам адзінкавасці *-іна* (гл. SP, 1, 120—123).

**Варажы́ць** 'гадаць, чараваць' (БРС, Інстр. II, Гарэц.,

Яруш.). Рус. *ворожить* 'гадаць', укр. *ворожити*, польск. *wróżyć*, чэш. *vražiti* 'тс', балг. *вража́* 'варажу', серб.-харв. *вра̀жати* 'лячыць, працаваць урачом', славен. *vražiti* 'шкодзіць шляхам варажэння'. Прасл. **voržiti*. *Варажыць* лічыцца вытворным ад *ворог* 'чараўнік, д'ябал' (Праабражэнскі, 1, 96—97; Фасмер, 1, 353; БЕР, 1, 179—180; Абаеў, Осет. язык, 1, 581). Вайян (RES, 35, 1958, 93 і наст.), спасылаючыся на Брукнера (632), дзе *wróżyć* супастаўляецца з *wierzgać*, лічыць, што *варажыць* першапачаткова мела значэнне 'кіданне жэрабя' (параўн. рус. *ворожа*, ст.-польск. *wróża* 'жэрабя'). Гл. таксама Шанскі, 1, В, 165—166; Рудніцкі, 1, 478—479; Скок, 3, 616—617; Коген, Запіскі, 191.

**Варажэй** 'чараўнік' (Сцяц., Юрч.). Да *варажыць*. Аб суфіксацыі гл. SP, 1, 83—84.

**Варакуза** 'няўклюда' (Шатал.). Экспрэсіўны назоўнік, які хутчэй за ўсё з'яўляецца адным з фанетычна-марфалагічных варыянтаў назоўнікаў з гнязда слоў, роднасных *вараскацца* (гл.). Параўн. рус. *варазгаться, варачкаться, вараксаться* 'рабіць што-небудзь няўмела і вельмі марудна', *варака, вараксa, варакуша, варакша* 'той, хто дрэнна працуе', *варахала, варахоба, варахта* 'няспрытны, неакуратны чалавек'.

**Варакýша**, *варакушка* 'птушка атрада вераб'іных, Luscinia svecica, кралька' (КТС, Інстр II). У аснове назвы ляжыць гукаперайманне. На здольнасць птушкі пераймаць і падрабляць чужыя галасы ўказваюць Даль, 1, 164; СРНГ, 4, 43. Гл. Праабражэнскі, 1, 65; Фасмер, 1, 274.

**Вара́н** 'буйная яшчарка' (КТС). Праз рус. *варан*<франц. *varan* 'тс', якое ўзыходзіць да араб.

**Варане́ц** 'вараны конь' (Шн., 2). Да *вараны*.

**Ва́ранік** 'піражок вараны з начынкай' (Вешт. цыс.). Да *варэ́нік*, зближанага з *вараны*<*варыць*.

**Ва́ранкі** 'вараныя грыбы' (Мат. Гом.). Да *ва́раны*<*варыць*.

**Вараннё** 'падобныя да варон птушкі' (З нар. сл.). Да *варона* з суфіксам зборнасці.

**Варану́ха** 'від гарэлкі з віна, піва, мёду і каліны' (Шпіл.). Ад *ва́раны* (з розных частак). Да суфіксацыі параўн. рус. *сивуха*.

**Варáны** 'чорнага колеру' (Яруш.). Абазначэнне колеру па масці птушкі (<рус. *ворон* 'крумкач').



**Варaня́к** 'крук, крумкач' (Дразд.). Да *воран* або *вараны*.

**Варапа́й** 'фальклорны эпітэт мужа або жаніха; эпітэт каравая' (КЭС). Рус. *воропай*, укр. *воропай* 'тс', польск. *naworopić* 'злавацца', серб.-харв. *vŕpoljiti se* 'круціцца, не сядзець на месцы'. Шэраг слоў з гэтым коранем падае Сразнеўскі (1, 303; 2, 271): *воропъ* 'нападзенне', *наворопити* 'напасці', *наворопъ* 'раз'езд (ваен.)', *наврапъ* 'рабаванне, здабыча'. З ц.-слав. *врапъ* ён выводзіць ст.-рус. *врапѣти* 'ўзмацніцца', *съврапѣтисѧ* 'сціхаць'. Рудніцкі (1, 480) услед за Фасмерам (1, 354) лічыць *варапай*<*вóропъ*. Прасл. **vorpъ* ён супастаўляе са ст.-в.-ням. *wērfan*, англ. *to warp*, вытлумачваючы семантыку ў адпаведнасці з паданнем аб выкрадaнні нявесты. Гл. Праабражэнскі, 1, 97; Скок, 3, 629; Міклашыч, 395; Карскі, РФВ, 49, 18; Карскі, Труды, 395. Іншыя значэнні (у тым ліку і вытворных форм): *варапай* 'сляпец' (Нас.), *варопайка* 'жаба (лаянкавае слова)' (КЭС), *ворапень* 'лодыр, абібок' (Бяльк.) трэба лічыць другаснымі.

**Варапа́ха** 'жаба' (Кліх.). Можна меркаваць, што *варапаха* ўтварылася, як і блізкае па гучанню польск. *ropucha* 'тс' — назва, паводле Брукнера, 463, дадзеная «ад храпаватасці». Аднак версіі аб гукаперaймальным паходжанні слова пярэчаць формы *варопайка* 'зялёная жаба, лягушка; слабы, непаваротлівы чалавек', *вярэпайка* 'від жабы' (КЭС). Аб паходжанні *варопайка* гл. Краўчук, БЛ, 10, 71.

**Вараскацца** 'пэцкацца' (Мядзв.). Фасмер (1, 273) услед за Ільінскім (ИОРЯС, 16, 4, 19 і наст.) параўноўвае з рус. дыял. *варызгать* 'пэцкаць'. Рудніцкі (1, 313) лічыць укр. *вараскати* 'пераварочваць' кантамінацыяй укр. *вертати* і ўкр. *тараскати*. Варыянты гэтага дзеяслова гл. у артыкуле *варакуза*.

**Ва́ратак** 'вар' (Жд.), *вара́так* 'тс' (Сцяшк. МГ). Рус. *вароток, вареток, вараток, варяток* 'кіпецень' (Даль, 1, 166). Да *варыць* 'кіпяціць' па мадэлі *кіпяток* (Фасмер, 1, 274, 276; Міклашыч, 381).

**Варата́р** (БРС). Калька з рус. *вратарь*.

**Варатня́** 'адна палавіна дзвярэй ці варот' (Шат.). Да *вароты*.

**Варато́к**[1] 'ворат у шахце для падымання вугалю' (КТС). Да *ворат* (гл.).

**Варато́к**[2] 'частка шкуры, як і пашына, лапа, пры раскроі' (КЭС). Да *ворат*<ст.-рус. *воротъ* 'шыя'.

**Вараўня́.** Гл. *варыўня*.

**Варахава́ты** 'непрасохлы' (КТС); 'варахаватае сена'. Магчыма, перанос значэння 'сена непрасохлае<сена, якое трэба варушыць'. Тады *варахаваты* да прасл. **vorxъ-, *vьrxъ-* (Фасмер, 1, 355; Брукнер, 601, дзе падаюцца бел. *во́рох* 'шум', *поворохаць* 'разбураць', *воро́х* 'трэск'). Параўн. *варо́хаць* 'варочаць з шорахам, рабіць шорах', *ворах* 'шорах, шум; пераварот, нарушэнне парадку' (Нас.).

**Варахо́бкі** 'старыя малавартасныя рэчы' (КЭС): «збірай свае варахопкі ды ідзі вон з хаты». Да **ворох* 'куча, груда' і суфіксаў *-оba-* і *-ък*. Аб суфіксацыі *-оba-* гл. SP, 1, 61—62. Пра **ворох* Фасмер, 1, 355; Шанскі, 1, В, 168—169.

**Варацá́кі** 'ваніты' (лаг., КЭС). Да *варацíць* (?).

**Варацá́ць** 'ванітаваць' (КСП, Касп.). Магчыма, звязана з *варацíць* наступным чынам: *варацíць*>*варацакі*>*варацаць*.

**Варацíла**$_1$ 'вал у варштаце ткацкім' (КЭС, Тарнацкі, Studia, Дразд., Клім.), *варацíдла* 'частка ткацкага станка' (КТС); 'навой' 'тс' (Шатал.) Рус. *воротило*, укр. *воротило*, балг. *вра́тило*, серб.-харв. *вра̀тило*. Агульнаслав. тэрмін ад дзеяслова **варацíць* 'круціць'<**vьrtěti, *vortiti*.

**Варацíла**$_2$ 'дзелавы чалавек' (КСП), *варацíдла* 'дзялок' (КТС). Да *варочаць* (справамі), *варацíць*.

**Варачá́нка** 'лішак асновы ў шырыню (як вынік памылкі)'. Да *варачá́ны*<*варачаць* 'вяртаць'.

**Варая́** 'кухарка' (Шатал.). Да *варыць* і суфікса *-ěja* (гл. SP, 1, 87—88).

**Варая́т.** Гл. *вар'ят.*

**Варжа** 'драўляны садок для захавання жывой рыбы'. Запазычанне з літ. *váržа* 'верша; плецены або драўляны садок'. Гл. Лаўманэ, Лекс. балтызмы, 17 (там і геаграфія бел. слова).

**Варзе́каць** 'размазваць што-небудзь густое' (Бяльк.). Параўн. рус. *варза́кать* 'рабіць што-небудзь наспех, сяк-так; пагана, неахайна пісаць', *ва́рза́ть* 'пэцкаць'. Словы няяснага паходжання (як часта наогул экспрэсіўныя). Шахматаў (ИОРЯС, 7, 2, 333) меркаваў пра сувязь з рус. *во́рзать* 'паспешліва хлябаць'. Ільінскі (ИОРЯС, 16, 4, 20) параўноўвае з рус. *вара́згать* 'тс'. Але ўсё гэта не робіць паходжанне слова ясным. Параўн. Фасмер, 1, 275. Але параўн. таксама і ўкр. *варзя́кати, верзя́кати* 'балбатаць, вярзці' (да семантыкі параўн. рус. *вара́кать* 'дрэнна рабіць, пэцкаць; балбатаць абы-што, вярзці') — бясспрэчнае ўтварэнне ад *верзтú* 'вярзці' (да



**vьrz-* 'плесці'). Да іран. сувязей рус. слоў гл. Абаеў, Этимология, 1966, 246.

**Вар'íраваць** (БРС). Рус. *варьи́ровать*. Бел. слова, відавочна, запазычана з рус. мовы. Рус. *варьи́ровать* паходзіць (з XIX ст.) з франц. *varier* 'тс' (і аформлена суфіксам *-и́ровать*). Падрабязней гл. Шанскі, 1, В, 21.

**Варкавá́ць** 'буркаваць' (Яруш.), *варкувáць* (Бяльк.). Дзеяслоў гукапераймальнага паходжання (**vъrkovati*). Падрабязней аб яго прасл. сувязях гл. *варкатáць.*

**Варкатá́ць** 'мурлыкаць' (БРС). Вытворныя ад яго: *варкатня́, варкату́ння, варкату́н, варкату́ха, варко́цік* (Нас.). Укр. *воркота́ти*, рус. дыял. *воркота́ть*, польск. *warkotać* 'бурчаць, мармытаць', чэш. дыял. *vrkotat'* 'буркаваць'. Прасл. **vъrkotati*. Ад дзеяслоўнай асновы **vъrk-* гукапераймальнага паходжання (гл. таксама пад *ве́раск, верашчáць*) утвораны: прасл. **vъrkati, *vъrčati* (<**vъrkěti*) і далей **vъrkovati*, ст.-рус. *въркати, върчати*, ц.-слав. *врьчати*, рус. *ворча́ть, воркова́ть*, бел. *варкавáць, варчáць*, укр. *воркува́ти*, польск. *warknąć* 'забурчаць', *warczeć* 'бурчаць, гыркаць', чэш. *vrkati* 'варкаваць', *vrčeti* 'бурчаць', балг. *връча* 'шчабячу, шумлю', серб. *вр̏кати* 'мурлыкаць', *вр̀чати* 'мурлыкаць; бурчаць' і г. д. Ад дзеяслоўнай асновы **vъrk-* быў утвораны прасл. назоўнік **vъrkotъ* 'варкатанне, бурчанне, буркаванне' (рус. дыял. *во́ркот*, чэш. *vrkot* і г. д.), ад якога ў сваю чаргу паходзіць новы дзеяслоў **vъrkotati*: бел. *варкатáць*, укр. *воркота́ти*, рус. дыял. *воркота́ть*, польск. *warkotać* 'бурчаць, мармытаць', чэш. дыял. *vrkotat'* 'буркаваць' і г. д.

Не выключаецца, аднак, што **vъrk-ot-ati* прама паходзіць ад **vъrk-ati* («узмацняльны» экспрэсіўны суфікс **-ot-* у дзеяслове). Параўн. падобныя гукапераймальныя ўтварэнні ў іншых мовах: літ. *ver̃kti, -virkti* 'плакаць', *ur̃kti* 'гыркнуць' (падрабязней гл. пад *ве́раск*). Гл. Фасмер, 1, 351, 356; Рудніцкі, 477; Брукнер, 602; Голуб — Копечны, 423; Махэк$_2$, 700; Траўтман, 353; Шанскі, 1, В, 163—164.

**Варлаво́кі** 'чалавек з вялікімі вачамі наверсе' (полац., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *варлаво́кій* 'касавокі' (Грыг.). Ужо Грыгаровіч (там жа) параўноўваў з чэш. *vrlooký* 'блізарукі' (адкуль?). Параўн. укр. *вирлоо́кий* 'лупаты', *вирла́тий* (пра вочы) 'тс', *вирла́ч* 'тс'. Магчыма, ад **vьrlo* 'рычаг, дышаль' (параўн. Краўчук, ВЯ, 1968, № 4, 131), так Рудніцкі (395). Паняцце «вірлавокі» можа перадавацца словамі са значэннем 'рычаг, дышаль і да т. п.' Параўн. яшчэ

чэш. *bidlovoký* (ад *bidlo* 'рычаг'). Сюды ж і *верлавóкі* 'лупаты, касавокі' (Др.-Падб., Гарэц., Нас., Лысенка ССП), рус. дыял. (смал.) *Варлеóка* 'аднавокая казачная істота', *варлеóкий* 'аднавокі'. Іншую этымалогію ўсёй групы слоў прапанавала Куркіна (Этимология, 1970, 101).

**Варняцца** 'марнець (адносна слабага чалавека)' (КЭС); 'ледзь жыць, існаваць, вельмі мала працуючы па слабым здароўі ці па старасці' (Янк. I, 46). Няясна. Няма адпаведнасцей у суседніх мовах.

***Варóвана** 'схованкі': «Мы бýдз'ам гул'áц' у варóвано» (Сцяшк. МГ). Параўн. і ўкр. *варувáти* 'берагчы, вартаваць'. Усё да польск. *warować* 'сцерагчы, вартаваць, хаваць і да т. п.' (<ням.; параўн. Брукнер, 601).

***Вароваць,** *варовать* 'абумоўліваць' (Гарб.). Ст.-бел. *варовати* (Булыка, Запазыч.). З польск. *warować* (Булыка, там жа), а гэта з ням. *währen* (гл. Брукнер, 601). Гл. *варавáць*.

**Варóжка** 'варажбітка, жанчына, што займаецца варажбой, варожыць' (Бяльк., Янк. III). Рус. дыял. *ворóжка* 'тс', укр. *ворóжка*. Утварэнне суфіксам *-к(а)* ад дзеяслова *варажы́ць* (гл.), усх.-слав. **vorožiti*, слав. **voržiti* (параўн. і балг. *вражá* 'чарадзейнічаю', серб. *врàжати*, славен. *vražiti*, чэш. *vražiti*, польск. *wróżyć*). Гл. Рудніцкі, 478—479.

**Варóжы** (БРС). Укр. *ворóжий*, рус. *ворóжий*. Утварэнне ад *вóраг* (гл.). Прасл. **vorgъ*, **voržьjь*. Гл. Фасмер, 1, 352; Рудніцкі, 478—479.

**Варóк** (ворак) 'кашалёк' (Яруш.); 'мяшок на грошы, капшук' (Бяльк.). Укр. *вóрок* 'мяшок'. Ст.-бел. *вор* 'мяшок', *ворок, ворек* 'тс' (з XVI ст.; Булыка, Запазыч.). З польск. *wór, worek* 'тс' (да этымалогіі; гл. Брукнер, 631).

**Варóна.** Рус. *ворóна*, укр. *ворóна*, ц.-слав. *врана*, польск. *wrona*, чэш. *vrána*, балг. *врáна*, серб. *вра̏на* і г. д. Прасл. **vórna* (з узыходнай інтанацыяй каранёвай часткі слова ў выніку падоўжання галоснага ў вытворным слове). Сюды ж (як базавае слова) прасл. **vornъ* 'крумкач', ст.-рус. *воронъ*, рус. *вóрон*, укр. *вóрон*, польск. (старое) *wron*, чэш. *vran*, ст.-слав. **вранъ,** балг. *врáнът*, серб. *вра̑н* і г. д. Роднаснае: літ. *var̃nas* 'крумкач', *várna* 'варона', лат. *vãrna* 'варона', прус. *warnis* 'крумкач', *warne* 'варона'. У аснове слова ляжыць гукаперайма́льнае *vr-*. Параўн. і ў іншых мовах: венг. *varjú* 'варона', фін. *vares* 'тс'. Гл. Траўтман, 343; Фасмер, 1, 353; Шанскі, 1, В, 166—167; Махэк₂, 698 і інш.



**Варóнік** 'піражок з ягадамі' (Федар., 7). Ад *варóны*<*варыць*. Слав. **varenъ*, **varenikъ*. Параўн. рус. *варéник*, укр. *варéник*.

**Варонін сыр,** *вароніна жыта* 'галаўня ў жыце' (палес., Выг.). Зах.-укр. *вароні сыр* (Макавецкі, Sł. botan). Назва гэта ўзнікла таму, што атрутнае дзеянне спарыша не пашыраецца на птушак (так мяркуе Выгонная, Лекс. Палесся, 71).

**Варóнка** 'адтуліна; лаз на гару, ход у склеп і г. д.' (Тарн., Маш., Сцяшк. МГ, Жд., 2); 'дупло' (Шатал.). Укр. *ворóнка*, рус. *ворóнка* 'варонка', *воронá* 'адтуліна ў карме судна, дзе праходзіць руль', польск. *wrona*, *wronka* 'адтуліна ў бочцы', чэш. *vrana*, *vranka* 'тс', балг. *врáна* 'корак, затычка', серб.-харв. *врањ* 'затычка ў бочцы'. Прасл. **vorna* 'прылада для закрывання і адкрывання пасудзіны (затычка і адтуліна)'; утварэнне ад кораня **u̯er-*: **u̯or-*, які выступае ў прасл. **verti* 'адкрываць, закрываць, утыкаць, хаваць' (параўн. *варóты*) (Фасмер, 1, 354; Міклашыч, 382; Шанскі, 1, В, 167; Брукнер, 632 і інш.).

**Варóннік** 'Veronica officinalis' (Кіс.). Відавочна, сапсаванае слова з ад'ідэацыяй, па народнай этымалогіі, да *варóна* 'птушка', паколькі ўнутраная форма ўзятага з лац. мовы (*veronica*) слова была незразумелай.

***Варóнца,** *варóнцэ* мн. л. 'бульбяны суп; суп наогул' (Вешт.). Мабыць, ад *варанéц* (ці *варóнец*)<*вары́ць, варóны*. Параўн. рус. *варенéц* (аб гэтым слове гл. Шанскі, 1, В, 20).

**Варóпаўка** 'зялёная жаба' (Сцяшк. МГ); 'каравая земляная жаба' (Мядзв.); 'жаба; слабы, непаваротлівы чалавек' (Бір. Дзярж.), *варопаўка, вярэпаўка* (Інстр. II). Назва дадзена па маршчыністай скуры. Для гэтага слова дакладнай адпаведнасці ва ўсх.-слав. мовах няма, але параўн. чэш. *vrap*, *vrapa* 'зморшчка, маршчына', в.-луж. *(w)ropa*, н.-луж. *ropa*, славен. *vrapa*, якія Махэк₂ (698) выводзіць з прасл. **vorpъ*. Можна было зыходзіць з **voropavъka*<**vorp-avъka* 'жаба' (літаральна «маршчыністая»), але, здаецца, няма рэфлексаў **vorp-* 'маршчына' ў іншых усх.-слав. мовах. Беларускі архаізм? Можна таксама зыходзіць з усх.-слав. **vorop-* (<**vorp-*): ст.-рус. *воропъ* 'аграбленне, напад' (аб гэтым слове Фасмер, 1, 354; таксама Махэк₂, 698); тады *варóпаўка* — гэта драпежная жаба, якая нападае на сваю дабычу. Іншая магчымасць: параўн. укр. *рóпавка* 'жаба', польск. *ropucha* 'тс', укр. *ропýха*, бел. *рапýха* (гл. Фасмер, 3, 502—503 і Трубачоў, Дополн., 503). *Варóпаўка* можа паходзіць ад *рóпаўка* з пратэтычным гукам: **рóпаўка*>*арóпаўка*>*варóпаўка*. Гл. *варапаха*.

**Варо́ты** 'вароты', *ворота* 'дзверы ў хляве' (Шушк.). Ст.-рус. *ворота*, рус. *воро́та*, укр. *воро́та*, польск. *wrota*, чэш. *vrata*, ст.-слав. *врата*, балг. *врата́*, серб. *вра̏та* 'дзверы' і г. д. Прасл. **vorta* 'вароты, дзверы' (мн. л. да назоўніка н. р. **vorto* 'тс', які не захаваўся) — утварэнне суфіксам *-t-* да прасл. кораня **ver-*: **vor-* 'адкрываць, закрываць і да т. п.' Падобныя ўтварэнні ёсць і ў іншых і.-е. мовах: літ. *var̃tai* мн. л., лат. *vàrti* мн. л. 'вароты, дзверы', прус. *warto*, ст.-англ. *weorð, worð* 'агароджа каля будынка', тахар. Б *wärto, warto* 'сад', ст.-інд. *vr̥tis* 'агароджа' (Фасмер, 1, 354—355; Траўтман, 353; Махэк₂, 699; Шанскі, 1, В, 168; Брукнер, 632—633 і інш.).

**Варо́ўка** 'вяроўка' (КЭС). Форма слова (у параўнанні з *вяро́ўка*, гл.) не вельмі ясная. Акрамя зыходнага **vьrvь* у слав. мовах былі словы і з іншым вакалізмам (параўн. рус. *воро́вина* 'вяроўка', *воровьё* 'вяровачныя вырабы'; гл. Фасмер, 1, 275; асабліва Трубачоў, Дополн., 275), палес. *воро́вка* (Лысенка ССП). Тэарэтычна мяркуючы, *варо́ўка* можа адлюстроўваць гэты другі вакалізм. Але можна таксама дапусціць, што *варо́ўка* — гэта гіперкарэктная форма (замест *вяро́ўка*) — якраз адваротнае таму, што назіраецца ў слове *варэ́нік*, якое ў дыялектах мае форму *вярэ́нік*. Параўн. яшчэ і рус. дыял. (вяц.) *варо́вка* 'вяроўка' (СРНГ).

**Варо́ўкі** 'пчолы, якія крадуць мёд у другіх вуллях' (Інстр. I). Ад **вараваць* 'красці', рус. *воро́вка* 'зладзейка'.

**Варо́ўня** 'цёплы свіран, куды ставяць на зіму капусту, бульбу і інш.' (Мядзв.). Змяненне першапачатковага *варыўня́* (гл.) пад уплывам дзеяслова **варавацъ*<польск. *warować* 'захоўваць, ахоўваць і да т. п.'? Ці ўтварэнне прама ад гэтага дзеяслова? Параўн. палес. *варо́вны(й)* (пра пасудзіну для квашанай гародніны) (Лысенка ССП). Параўн. таксама *варайня́* 'пограб, яма, у якой хаваюць бульбу' (Бяльк.). Гл. яшчэ *варыўня́*.

**Варо́хаць,** *варо́хацца* 'варушыцца з шумам; варочаць (сена і да т. п.)' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Аднасіцца да вялікай сям'і слоў (прасл. **vorx-*), разгледжаных пад *варушыць* (гл.).

**Варо́чаць,** *варо́чацца* 'аддаваць назад' (Шат., Касп., Нас., Яруш., 27, КЭС, лаг.; Гарэц.); 'варочаць, паварочваць; варушыць і г. д.' (БРС, КЭС, лаг.; Яруш., Касп., Бяльк., Сцяшк. МГ); 'валіцца на дол і да т. п.' (КЭС, БРС). Рус. *воро́чать*, укр. *ворочáти*, *воро́чатися*, чэш. *vráceti*, балг. *вра́щам*, серб. *вра̏ћати* і г. д. Прасл. **vortjati* 'тс' — утварэнне ад прасл. **vortiti* (ст.-рус. *воротити*, рус. *вороти́ть*, чэш. *vrátiti*, ст.-слав. **вратити,** балг. *вра́тя* і г. д.), якое ў сваю чаргу аднасіцца да



прасл. **vьrtěti* 'вярцець'. Адносна **vortjati* і **vortiti* гл. Фасмер, 1, 355.

**Ва́рпа** 'веялка' (Жд., Янк. Мат.). Дыялектная форма запазычанага слова *а́рфа* 'тс' (гл.) з пратэтычным *в-* і зменай *ф*>*п*. Параўн. *ва́рха*. Сюды ж *варпава́ць* 'арфаваць, веяць' (<*арфава́ць*).

**Варсава́ты** 'з крапінкамі (пра яблыкі)' (Касп.). Няяснае слова. Магчыма, да *варса́ць* 'калоць' (гл.). Тады першапачатковае значэнне: 'наколаты' (→'з крапінкамі').

**Варсану́ць** 'піхнуць, штурхануць' (Янк. II, Бяльк., Арх. ГУ), *варса́нуць* 'штурхануць' (Арх. ГУ). Бясспрэчна, аднасіцца да *варса́ць* 'калоць, кідаць' (гл.).

***Варса́ць,** *ворса́ть* 'калоць з разбегу ў бок' (Мядзв.), *ва́рсаць* 'кідаць' (КЭС), *варса́ць або́ры* 'працягваць аборы праз вуха лапця' (Маш.). Сюды ж і *варсану́ць* 'піхнуць, штурхнуць'. Параўн. рус. дыял. *варсану́ть* 'з сілай ударыць чым-небудзь вострым; штурхануць'. Слова цёмнага паходжання. Часам паралельна ўжываюцца *барса́ць* 'працягваць абору ў лапці' і *варса́ць* (Шат.). *Барса́ць* таксама значыць і 'кідаць', але і яно няяснага паходжання (гл.). Паралелізм *барса́ць*||*варса́ць* можа тлумачыцца тым, што зыходным з'яўляецца *варса́ць*. Так, Януў (Зб. Разважоўскаму, 2, 277) зыходзіў пры тлумачэнні *барса́ць* (укр. *бо́рсати*) з **ob-vors-ati* (пры гэтым корань **vors-* не тлумачыўся). Параўн. *абарсаць*.

**Варсі́нка** (БРС). Запазычанне (?) з рус. *ворси́нка*, якое з'яўляецца вытворным ад *ворс, во́рса*. Рус. *ворс, во́рса*, бел. *во́рса*, укр. *во́рса* лічацца запазычаннем з іран. моў. Гл. падрабязна Фасмер, 1, 355—356; Шанскі, 1, В, 169.

**Варста́к** 'ткацкі станок' (Сцяшк. МГ). Параўн. рус. *верста́к*. Запазычанне з польск. *warstat* (>бел. *варста́т*, гл.) з афармленнем суфіксам *-ак*. Падрабязней гл. пад *варста́т, варшта́т* (Праабражэнскі, 1, 76; Фасмер, 1, 300; Шанскі, 1, В, 64; Брукнер, 603).

**Варста́т** 'ткацкі станок' (Сцяшк. МГ, Шатал.); 'сталярны станок' (Шатал., Сцяшк. МГ); 'драўляная квадратная скрыня пад жорнамі' (КЭС). Ст.-бел. *варстат, верстат, ворстат* (з XVI ст., Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. (ст.-польск.?) *warstat* (не з польск. *warsztat;* з гэтага апошняга бел. *варшта́т*, гл.). Форма *warstat* была ў польск. мове ў XVI ст. (гл. Брукнер, 603); яе можна разумець і як мазурскую. Першакрыніца — ням. *Werkstatt* (Брукнер, 603; Булыка, Запазыч., 56; Фасмер, 1, 300). Параўн. *варшта́т, варста́к*.

**Варся́нка** 'расліна варсянка, Dipsacus' (БРС). Рус. *ворся́нка*, укр. *ворся́нка*. Ад *ворс* (гл.). Адносна матывацыі гл. Нейштадт, Определитель, 524. Да семантыкі параўн. іншыя назвы гэтай расліны ва ўкр. мове: *черсак, чесак, дряпач, щітка, шершак* (Макавецкі, Sł. botan., 132).

**Варт,** *варта* 'адпаведны, каштоўны, належны і да т. п.' (Сцяшк. МГ); 'каштуе, заслугоўвае' (Шат., Гарэц.); 'годны' (Яруш., Булг.). У тым самым сэнсе ўжываецца і *ва́рта* 'належыць; трэба' (КЭС, лаг.; БРС, Гарэц., Шпіл., Мядзв., Касп., Шат., Нас., Бяльк.). Укр. *варт, ва́рто*. З польск. *warto, wart (nie wart)*. Параўн. *ва́рты* (Кюнэ, Poln., 113).

**Ва́рта** 'варта, ахова' (КЭС, лаг.; БРС, Яруш., Гарэц., Бесар., Сцяшк., Мядзв., Шпіл., Нас., Шат., Касп., Бяльк.). Ст.-бел. *варта* 'варта, каравул' (з XVI ст.; Булыка, Запазыч.). Рус. дыял. (смал.) *ва́рта*, укр. *ва́рта*. Запазычанне з польск. *warta* (Булыка, Запазыч., 57), а гэта з ням. *Warte* 'тс'. Параўн. і чэш. *varta* 'тс' (<ням.) (Махэк$_2$, 678; Кюнэ, Poln., 113).

**Вартава́ць** 'вартаваць, ахоўваць, пільнаваць' (БРС, Гарэц., Інстр. III, Шпіл., Шат., Касп., Нас., Бяльк.). Ст.-бел. *вартовати* (з XVI ст.; Булыка, Запазыч.). Укр. *вартува́ти*, рус. дыял. (смал.) *вартова́ть*. Запазычанне з польск. *wartować* 'тс' (да *warta* 'варта, ахова' ці непасрэдна да ням. *warten*). Параўн. і чэш. *vartovati* (Кюнэ, Poln., 113).

**Вартавы́** (КЭС, лаг.) 'вартаўнік'. Параўн. укр. *вартови́й* 'тс'. Можна думаць, што гэта слова ўзнікла на базе словаспалучэння (параўн. укр. *вартова́ сторо́жа* 'каравульная варта').

**Ва́ртасць** (Шат., Нас., Шпіл., Гарэц.; КЭС, лаг.; Інстр. III, БРС). Укр. *ва́ртісць*. Запазычанне з польск. *wartość* 'тс' (ад *warty;* гл. *ва́рты*). Гл. Кюнэ, Poln., 113. Гэта версія нам здаецца больш верагоднай (зыходзячы з агульнай сітуацыі), чым тая, якую прапануе Рудніцкі (319) (вытворнае ад *ва́рты* на ўсх.-слав. глебе).

**Вартаўні́к** 'каравульны' (БРС, Шат., Гарэц., Шпіл., Касп.), *вартувні́к* (Бесар.). Вытворнае да *вартава́ць*. Параўн. і ўкр. *вартівни́к*. Але можна ставіць пытанне і пра непасрэднае запазычанне з польск. *wartownik*.

**Вартаўні́чы** 'вартаўнік' (БРС). Укр. (зах.) *вартовни́чий*. Запазычанне з польск. *wartowniczy* 'тс' (да *warta, wartować*).

**Ва́ртны** 'паважаны' (Жд.). Укр. *ва́ртний* 'каштоўны, паважаны'. Хутчэй запазычанне з польск. дыял. *wartny* 'варты', а не ўсх.-слав. утварэнне ад *ва́рты* (як думае Рудніцкі, 319).



**Варто́ўня** (БРС). Цяжка сказаць, ці гэта ўтварэнне ад *ва́рта, вартава́ць*, ці прамое запазычанне з польск. *wartownia* 'вартоўня'.

**Ва́рты** (БРС, Касп., Нас., Яруш., Гарэц., Шпіл., Бяльк.). Укр. *ва́ртий*. Запазычанне з польск. *warty* 'тс' (а гэта з ням. *wert* 'тс') (Брукнер, 603, Шалудзька, Нім., 25; Рыхардт, Poln., 110; Рудніцкі, 319; Кюнэ, Poln., 113 (параўн. яшчэ Міклашыч, 383; Брукнер, 603; Корбут, Wyrazy, 512, 520)).

**Вару́нак** 'акалічнасць, абставіны' (Яруш.), *вару́нкі* 'ўмовы' (Гарэц.); 'акалічнасці, умовы' (Др.-Падб.). Ст.-бел. *варунк* 'умова' (Чартко, Дасл. (Гродна), 59), *варунок* 'тс' (з XVI ст.; Булыка, Запазыч.). Укр. *варунок* (з XVI ст.). Запазычанне з польск. *warunek*, а гэта з ням. *Wahrung*. Гл. Булыка, Запазыч., 57; Чартко, там жа (апошні ст.-бел. *варунк* выводзіць прама з ням.); Цімчанка, 189; Рудніцкі, 319; Рыхардт, Poln., 110.

**Вару́нкі** 'бульбяны суп; агульная назва супа' (Вешт.). З *варо́нкі* (да *варо́ны*<*вары́ць*) з палескім пераходам *о*>*у* ў закрытым складзе (але параўн. «Запрэ́гла са́лом варо́нак», Вешт.).

**Вару́хаць,** *вару́хацца* 'рухаць, рухацца, хістацца і да т. п.' Гл. *варушы́ць, варушы́цца*.

**Варушкі** 'вясеннія апенькі' (Інстр. II); 'род грыбоў' (Грыг.). Параўн. рус. дыял. (смал., пск.) *вару́шки* 'грыбы, роднасныя апенькам'. Здаецца, утварэнне ад слав. **variti* 'варыць', г. зн. першаснае значэнне 'грыбы, якія вараць, адварваюць'. Да гэтага параўн., напр., у Даля: *отвару́хи* 'маласольныя грыбы', *отвару́шка* 'від грыбоў'. Далей, магчыма, сюды адносяцца і бел. *гавару́шкі* 'апенькі', рус. *говору́шки* 'тс', а таксама бел. *авяру́шкі* 'вясеннія апенькі' (гл.).

**Варушы́ць** 'варушыць, пераварочваць' (Гарэц., Шат., Касп., Бяльк.); 'рухаць' (Яруш., БРС), *варушы́цца* 'рухацца, катацца' (Касп., Гарэц., БРС, Яруш., КЭС, лаг.). Сюды ж *вару́хаць, вару́хацца* 'рухаць, рухацца, кратацца' (Др.-Падб.), *варо́хаць* (Гарэц., Др.-Падб.). Рус. *ворoши́ть, ворохну́ться* 'варухнуцца', укр. *ворухну́ти* 'варухнуць', *вoруши́ти* 'варушыць'. Відаць, утварэнне ад прасл. **vorxъ* 'куча, ворах': укр. *во́рох*, ц.-слав. *врахъ*, балг. *врах* 'ток, снапы, прыгатаваныя для абмалоту'. Прасл. *vorxъ* з **vorsъ*. Няясна, ці сюды ж польск. *zawroch* 'вецер са снегам, віхар'. У аблаутнай форме сюды прасл. **veršti (*verx-ti) *vьrxǫ* 'малаціць', ц.-слав. *врѣшти вьрху* 'тс', балг. *връха́* 'малачу', серб. *вре́ћи*, славен. *vršiti* 'малаціць збожжа, пускаючы жывёлу таптацца па ім'.

І.-е. *u̯ers-: лат. *vârsms (vàrsmis)* 'збожжа, прыгатаванае для абмалоту, ворах правеянага зерня', грэч. ἔρρω 'цягнуся, валачуся і да т. п.' (*u̯ersi̯ō), лац. *verrō* 'цягну, валаку, замятаю' (*versō), ст.-в.-ням. *wërran* 'блытаць, заблытваць, рабіць беспарадак' (першаснае значэнне і.-е. *u̯ers- 'валачы, цягнуць'). Укр. *ворухну́ти, ворушйти* з *ворохну́ти* і да т. п. як рэзультат укаючага вымаўлення -о- не пад націскам або хутчэй пад уплывам семантычна блізкага дзеяслова тыпу *ру́хати* (бел. *ру́хаць*). Аб гэтым сведчыць і бел. форма *варушы́ць* (замест фанетычнага *вараш*ы́ць). Гл. Фасмер, 1, 355.

**Ва́рфыл** 'вэрхал, трывога' (Бяльк.). Дыялектнае змяненне запазычанага з польск. мовы слова *ва́рхал* 'тс' (гл.) праз стадыі *ва́рх(ы)л>ва́рхвыл>ва́рфыл.*

**Ва́рха.** Гл. *вархава́ць.*

**Вархава́ць** 'ачышчаць зерне, веяць' (КЭС, Касп.), *ва́рха* 'арфа, веялка' (Шат., Касп.). Дыялектнае змяненне слоў *а́рфа, арфава́ць:* пратэтычнае *в-* і субстытуцыя *ф>хв>х.* Параўн. *ва́рпа* 'арфа, веялка'.

**Ва́рхал** 'скандал, шум' (Касп., Нас.). Ст.-бел. *вархол* 'бунт, склока' (з XVI ст.; Булыка, Запазыч.). Рус. (смал.) *ва́рхал* 'тс'. Запазычанне з польск. *warchoł* 'тс' (Булыка, Запазыч., 57). Аб магчымым паходжанні польск. слова гл. Брукнер, 601—602.

**Вархо́ліцца** 'патрохі сварыцца' (КЭС, лаг.). Запазычанне з польск. *warcholić się* 'тс' (да *warchoł*>бел. *ва́рхал*; гл. таксама Брукнер, 601—602). Наўрад ці можна думаць пра беларускае ўтварэнне ад *ва́рхал* (<польск.).

**Ва́рхыт** 'вэрхал, бесталковы шум, гам' (Бяльк.). Запазычанне з польскай мовы: *ва́рхыт<*ва́рхат<*ва́рхот.* Параўн. польск. *warchotny, warchotliwy* 'неспакойны' (слова таго ж кораня, што і *warchoł*, адкуль бел. *ва́рхал*). Аб польск. гняздзе слоў гл. Брукнер, 601—602.

**Варца́бы** 'шашкі' (Нас.). Ст.-бел. *варцабы* (з XVI ст.; Булыка, Запазыч.). З польск. *warcaby* (аб польск. слове гл. Брукнер, 601; Махэк₂, 700).

**Варца́кі** 'ваніты'. Рус. дыял. (смал.) *варца́ки* 'тс'. Утварэнне ад *варца́ць* 'ванітаваць' (гл.).

***Варца́ць,** *ворца́ть* 'ванітаваць (пра дзяцей)' (Мядзв.). Мядзвецкі заўважае, што адносна дарослых ужываецца *козлы драть* або *вынитова́ть.* Рус. (смал.) *варца́ть* 'ванітаваць', *варца́ки* 'ваніты'. Не вельмі яснае слова. Можна меркаваць, што



гэта запазычанне (з трансфармацыяй, перастаноўка гукаў) з польск. дыял. *wracać* 'ванітаваць' (яно вядома як польскі правінцыялізм на Украіне; гл. Карловіч, 6, 161). Параўн. форму *варацаць* 'нудзіць' (Касп.).

**Варча́к₁** 'ворчык' (Гарэц., Бяльк.), таксама *во́рчык.* Рус. *о́рчик, во́рчик, во́рчак,* укр. *во́рчик.* Запазычанне з польск. *orczyk* 'тс', а гэта з с.-в.-ням. *ortschît* 'тс' (Міклашыч, 225; Мацэнаўэр, Cizí sl., 265; Фасмер, 3, 155). У бел. мове (як і ў рус. дыял. *во́рчак*) новы суф. *-ак* (адсюль і націск *-а́к*!).

**Варча́к₂** 'прыпражны конь' (БРС, Нас.). Перанос назвы (з *варча́к* 'ворчык'). А ці не можна паставіць пытанне пра паходжанне ад слав. *orь 'конь' (параўн. укр. *вір, во́рик*)?

**Варча́ць** 'бурчаць' (Яруш., Бесар.). Прасл. **vъrčati*—дзеяслоў гукапераймальнага паходжання. Аб яго этымалагічных сувязях гл. *варката́ць.*

**Варша́ўка** 'гатунак бульбы' (Янк. I, Шатал.). Мабыць, першапачаткова «варшаўская бульба». Параўн. укр. *мазурки* 'гатунак бульбы', польск. дыял. *warszawiaki* 'тс' (Карловіч, 6, 73).

**Ва́ршаўка** 'атора; машына для ачысткі ад мякіны змалочанага зерня' (Янк. Мат.). Няясна.

**Варшта́т** 'варштат; ткацкі станок' (БРС, Гарэц., Інстр. II, Влад., 199). Запазычанне з польск. *warsztat* (а гэта з ням. *Werkstatt;* гл. Брукнер, 603). Параўн. *варста́т, варста́к.*

**Ва́рыва** 'варэнне (працэс)' (Юрч., Янк. I, БРС); 'агародныя расліны, што ўжываюцца да стравы' (КЭС); 'гародніна' (Шат., Касп., Янк. БП, Др.-Падб., Янк. I, 47); 'сцяблы і лісце буракоў' (ДБА, 868, Бяльк., Касп., Гарэц., Юрч.); 'буракі' (Касп.), у дыял. *ва́ріво, ва́рэво, ва́рво, ва́рыво* (гл. Вештарт, Лекс. Палесся, 129). Укр. *ва́рево, ва́риво* 'вараная страва; квашаная гародніна', рус. *ва́рево* 'вараная страва'; 'гародніна, зелень; гародніна, прыгатоўленая на зіму', польск. *warzywa* 'гародніна, зелень' і г. д. Слав. **varivo* (да *вары́ць*); агляд слав. форм і значэнняў Вештарт (Лекс. Палесся, 130—131; там жа і меркаванні пра магчымы шлях семантычнага развіцця). Да адлюстравання **varivo* ў ст.-бел. мове гл. Казачонак, Весці АН БССР, 1975, № 3, 117—118.

**Ва́рыжкі** 'пальчаткі' (Касп.). Таго ж паходжання, што і рус. *ва́режка, ва́рега, ва́рьга, варяга* 'пальчатка' (да *варя́г* 'вараг'; гл. Фасмер, 1, 274). Выходзячы з геаграфіі слова, можна меркаваць, што бел. *ва́рыжкі* запазычана непасрэдна з рус. мовы.

**Вары́згацца** 'займацца пустымі размовамі; доўга з чым-небудзь вазіцца' (Мядзв.), *вораскаться* 'тс' (Мядзв.), *вары́згаць* 'гаварыць бязглузда і недарэчна' (КЭС). Параўн. рус. дыял. *вары́згать* 'паспешна, неакуратна есці', *вара́згаться* 'рабіць што-небудзь няўмела, доўга вазіцца'. Параўн. далей бел. *варзе́каць* 'размазваць што-небудзь густое', рус. *варза́кать* 'рабіць што-небудзь наспех, сяк-так; дрэнна, неахайна пісаць', укр. *варзя́кати, верзя́кати* 'балбатаць, вярзці'. Паколькі ў адным слове часта аб'яднаны значэнні 'пагана рабіць' — 'балбатаць, гаварыць пустое, вярзці' (параўн., напр., рус. *вара́кать* 'дрэнна рабіць, пэцкаць; гаварыць абы-што, вярзці'), то можна зыходзіць з **vьrz-ti (вярзці,* укр. *верзти́),* да слав. **vьrz-* 'плесці'. Форма *варызгацца* (<*варазгацца*; параўн. *варыхацца*<*варахацца)* — гэта нібы экспрэсіўнае «паўнагалоссе» *(vьrz-*>*верз-*>*вараз-).*

**Варыўня́,** *вараўня́* 'наогул памяшканне для захоўвання гародніны' (гл. ДАБМ, карта 240, Шат., Касп., Вештарт, Лекс. Палесся, 131, БРС, Шушк., Яруш., Бір. Дзярж., Маш., Сцяшк. МГ, Некр., Інстр. II, Мядзв., Шн., Жд.), *варо́ўня* (Касп.). Утварэнне ад *ва́рыва* (гл.) 'агародніна', суф. *-ня* (звычайны пры ўтварэнні назваў памяшканняў).

**Ва́рых!** 'выклічнік, які выражае хуткае раскачванне' (Гарэц.). Утварэнне на базе дзеяслова *вары́ха́ць* (гл.).

**Вары́ха́ць** 'разгойдваць, хістаць' (Гарэц.). Адсюль выклічнік *вары́х!* Рус. дыял. *ворыха́ть* 'кідаць', *воры́хнуться* 'шавяльнуцца, упасці'. Бясспрэчна, экспрэсіўнае ўтварэнне да *варушы́ць* (гл.). Параўн. яшчэ рус. *ворюха́ть* 'гайдаць'. У рус. мове, можа, уплыў дзеяслова *колыха́ть*.

**Вары́ць**$_1$ 'варыць'. Ст.-рус., ст.-слав. **варити,** рус. *вари́ть,* укр. *вари́ти*, польск. *warzyć,* чэш. *vařiti,* балг. *варя́,* серб. *ва́рити* і г. д. Прасл. **variti var'ǫ* 'тс'. Утварэнне ад і.-е. двухскладовай базы **u̯erē-* 'бурліць, кіпець': лат. *vàrît* 'варыць, кіпець', літ. *vìrti* 'кіпець', лат. *vir̃t* 'тс' і г. д. База **u̯erē-* дала ў прасл. мове шматлікія вытворныя з аблаутам вакалізму: **verdlo* 'крыніца', **jьzvorъ* 'тс', **varъ* 'вар; гарачыня; варэнне' **vьrěti* 'кіпець', **virъ* 'вір; кіпенне' і да т. п. (Траўтман, 360; Мейе, MSL, 9, 146; Фасмер, 1, 273; Махэк$_2$, 702—703).

**Вары́ць**$_2$ 'моцна грэць (аб сонцы)' (Некр., Інстр. I); 'парыць (аб надвор'і)' (Клім.). Рус. дыял. *вари́ть* 'тс'. Гэта значэнне выводзіцца ад некаторых праславянскіх. Параўн. **varъ* 'жар'.

**Варыя́нт**. Рус. *вариа́нт*, укр. *варіа́нт*. Мабыць, запазычанне з рус. мовы, дзе з франц. *variant*. Падрабязней гл. Шанскі, 1, В, 20.



**Варэ́йка** 'гліняны гаршчок, гаршчок' (Янк. Мат., Інстр. I, Бяльк., Шатал.). Параўн. палес. *вары́йка* 'гаршчок' (Лысенка ССП), укр. *варі́йка* 'маленькі гаршчок'. Утварэнне ад **variti* 'варыць' (гл.). Зыходнае: **varěja,* **varějьka.* Параўн. чэш. дыял. *vařaja, vařeja, vařejka*, славац. *varajka, varejka* 'мешалка, апалонік'. Фантастычна Махэк$_2$ (678), які выводзіць з **tvar-* (ад кораня **tver-* 'памешваць'). Пра магчымыя сувязі бел. слова на слав. глебе гл. Цыхун, БЛ, 5, 49—50.

**Варэ́нік** 'варэнік' (Янк. Мат., БРС, Яруш., Шат., Сцяшк. МГ), таксама *вяр́энік, варэ́ннік* (Гарэц., Юрч.). Рус. *варе́ник,* укр. *варе́ник.* Утварэнне ад **varenъ* 'вараны' суфіксам *-ikъ.* Усё да *вары́ць* (гл.). Форма *вярэ́нік,* відаць, гіперкарэктная.

**Варэ́нне** 'варка, варэнне (працэс)' (БРС, Гарэц., Нас.); 'варэнне' (БРС, Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк. МГ). Рус. *варе́нье* і г. д. Слав. **varenьje* — аддзеяслоўны назоўнік. Ад *вары́ць* (гл.). Падрабязней гл. Шанскі, 1, В, 20.

**Вар'ява́ць**, *вар'ява́цца*. Укр. дыял. *варіюва́ти* 'тс'. Запазычанне з польск. *warjować* 'тс', а гэта паходзіць ад лац. *variare* 'змяняць'; гл. Брукнер, 602. Не пераконвае Рудніцкі (1, 316), які ўкр. *варіюва́ти* лічыць вытворным ад *варія́т* (<польск. *warjat*). Параўн. *вар'я́т.*

**Вар'я́т** (Шат., Касп., Сцяшк. МГ, БРС). Укр. дыял. (зах.) *варія́т* 'тс'. Запазычанне з польск. *warjat* 'тс' (а гэта польскае семантычнае новаўтварэнне да лац. *variare* 'змяняць', *variatio* 'разнавіднасць', *varius* 'розны'; гл. Брукнер, 602). Параўн. *вар'ява́ць.*

**Васа́л** 'васал' (БРС). Рус. *васса́л,* укр. *васа́л.* Запазычанне (магчыма, праз рус. мову) з франц. *vassal* 'тс' (<с.-лац. *vassalus*) (Праабражэнскі, 1, 67; Фасмер, 1, 277; Шанскі, 1, В, 23). У рус. гэта слова сустракаецца ўжо ў пач. XVIII ст.; гл. Шанскі, там жа.

**Ва́сан** 'тытул-зваротак у дробнай польскай шляхты, а таксама сярод беларусаў' (Мядзв.); 'пан' (Др.-Падб.), *васа́н* 'тс' (Гарэц., Касп.). Запазычанне з польск. *wasan* 'тс' (а гэта, як і *waspan,* скарачэнне з *waszmość pan;* гл. Брукнер, 603). Параўн. *васпа́н.*

**Васемна́ццаць.** Рус. *восемна́дцать,* укр. *вісімна́дцять*, ст.-слав. **осмьнадесѧте,** ст.-рус. *осмьнадесять*, чэш. *osmnáct* і г. д. Прасл. **osmь na desęte* 'васемнаццаць' (літаральна 'восем

пасля дзесяці'). У размоўнай мове прасл. форма падверглася розным скарачэнням і ўпрашчэнням (Брукнер, 110; Фасмер, 1, 356; Супрун, Числит., 15; Шанскі, 1, В, 170).

**Васіле́ц** 'журавель звычайны' (КЭС). Параўн. таксама *веселе́ц, вэсэ́лык* 'журавель шэры, Grus grus L.' (КЭС). Укр. *весе́лик* 'назва жураўля, якую трэба ўжываць, калі яны прылятаюць вясной, замест *жураве́ль,* інакш будзеш *журитися* ўвесь год' (Грынч.). Такім чынам, *васіле́ц*<*веселе́ц*; усё да *вясёлы* (слав. **veselъ*). Назва табуістычная па паходжанню.

**Васілёк** 'валошка' (БРС, Бяльк., Шат., Касп., Сцяшк. МГ); 'пустазелле' (КЭС), *васількі* 'Centaurea cyanus L.' (Бейл.), *ва́сількі* 'тс' (Мядзв.), *ва́сілька* (Шатал.). Рус. *василёк,* укр. *васильо́к.* Старое (яшчэ ст.-рус.) запазычанне з грэч. мовы (грэч. βασιλικόν) (Мацэнаўэр, Cizí sl., 364; Фасмер, Этюды, 42; Праабражэнскі, 1, 67; Шанскі, 1, В, 22). Брукнер (18) лічыў, што назва кветкі запазычана з польск. *bazylika,* што менш верагодна.

**Васкаве́нь** 'мяшок для сыроў' (Мат. дыял. канф., 74). Першапачаткова, бясспрэчна, значэнне гэтага слова было 'мяшок для воску' (вытворнае ад *воскавы*+суф. *-ень*). Параўн. дакладную семантычную паралель: *во̂ско̂вік* 'мяшочак для прасавання топленага воску' (Анох.) — *васкаві́к* 'палатняны мяшочак для прыгатавання тварагу і сыру' (Вешт., 393).

**Васко́ўка** 'васкоўка (папера)' (БРС). Рус. *воско́вка* 'тс'. Ад *васко́вы* (да *воск,* гл.). Уласна, 'васковая папера'. Запазычанне з рус.

**Васко́ўнік** 'расліна васкоўнік'. Запазычанне з рус. *воско́вник* 'тс' (Myrica). Да *воск, васко́вы.* Параўн. яго ням. назвы *Wachsbaum, Wachsbeere, Wachsmyrte* (*Wachs* 'воск').

**Васо́лы** 'вясёлы' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *wesoły* 'тс' (аб польскім слове Брукнер, 607).

**Ва́спан** 'зваротак *ваша міласць, пан'* (БРС, Нас., Шат., Мядзв., Бір. Дзярж.), *васпа́н* 'тс' (Гарэц., Касп.). Запазычанне з польск. *waspan* 'тс' (а гэта скарачэнне з *waszmość pan;* гл. Брукнер, 603). Рус. дыял. (смал.) *ва́спан* 'тс'. Параўн. *ва́са́н* 'тс', *васпа́ні.*

**Васпа́ня,** *васпа́ні* 'зваротак *пані'* (Нас., Касп., БРС, Бір. Дзярж., Гарэц.). Запазычанне з польск. (параўн. *ва́спа́н*<<*waspan*). Магчыма, таксама, што гэта ўтварэнне на базе запазычанага *ва́спа́н* ужо ў беларускай мове. Параўн. *ва́спа́н, ва́са́н.* Рус. дыял. *васпа́ня* 'васпані' (смал.).



**Васпо́льза** 'карысць, польза' (Бяльк.). Утварэнне на базе запазычанага з рус. дзеяслова *васпо́льзываць* (гл.); параўн. і рус. *по́льза* 'карысць'. У рус. мове (у Даля і ў СРНГ) слова тыпу *воспольза* няма.

**Васпо́льзываць** 'скарыстаць, выкарыстаць' (Бяльк.), *васпо́льзывацца* (Бяльк.). Запазычанне з рус. мовы. Параўн. рус. *воспо́льзоваться* 'скарыстацца' (са ст.-слав. мовы?). Адсюль новае бел. дыял. утварэнне *васпо́льза* (гл.). Адзначым, што ў форме *воспо́льзовать* рускі дзеяслоў не зафіксаваны ні ў Даля, ні ў СРНГ. Таму бел. *васпо́льзываць* узнікла ўжо на базе *васпо́льзывацца.*

**Васто́рг** 'захапленне' (Яруш.). Запазычанне з рус. *восто́рг* 'тс', а гэта са ст.-слав. **въстъргъ** (Шанскі, 1, В, 176; параўн. таксама Фасмер, 1, 357).

**Вастраку́тнік** 'вастракутнік' (БРС), *вастраку́тны* (БРС). Рус. *остроуго́льный, остроуго́льник.* Здаецца, калька з рус. мовы (а гэта калька з еўрапейскіх моў; параўн. ням. *spitzwinklig* 'вастракутны').

**Вастры́ца**$_1$ 'расліна вастрыца, Asperugo L.' (Кіс.). Рус. *остри́ца.* Ад *во́стры.* Назва дадзена паводле характару расліны (апісанне гл. Нейштадт, Определитель, 458). Параўн. яе назвы ва ўкр. мове: *дереза, острець, остриця, репяшки* (Макавецкі, Sł. botan.), далей польск. *ostre ziele,* чэш. *ostrolist* (гл. Махэк, Jména rostl., 187).

**Вастры́ца**$_2$ (заал.) 'вастрыца' (БРС). Рус. *остри́ца.* Да *во́стры.* Параўн. тлумачэнне ў Даля: «Остри́ца нутрячек, Ascaris, едкая, крошечная глиста, от коей бывает невыносимый зуд».

**Вастры́ць** 'вастрыць'. Рус. *остри́ть,* укр. *гостри́ти,* чэш. *ostřiti* і г. д. Слав. **ostriti* — вытворнае ад **ostrъ.* Гл. *во́стры.*

**Вастрэ́ц** (бат.) 'вастрэц' (БРС). Рус. *остре́ц,* у Даля: *остре́ц, востре́ц* 'Carex caespitosa; Elymus pseudoagricum'. Да *во́стры* паводле характару расліны. Параўн. апісанне Carex (Нейштадт, Определитель, 139—140). Чэш. *ostřice,* польск. *ostrzyca* (гл. Махэк$_2$, 421). Параўн. і назвы для Carex, якія прыводзіць Макавецкі (Sł. botan., 80—83).

**Васці́гнуць** 'пачацца' (Жд., 2). Няясна.

**Вась-вась-вась** 'падзыўныя словы для кормнага кабана' (Янк. III). Рус. дыял. *вац!, ва́цу!* 'тс', укр. *вацьі, вацю!* 'тс'. Як думаў Р. Смаль-Стоцкі, гэта варыянты слова *паць!*<*пацяя́* 'парася'. Супраць гэтай версіі Рудніцкі (1, 329), які лічыць,

што ўсё гэта варыянт выклічніка *ацю!* (адгоннае слова для свіней; да форм апошняга параўн. Краўчук, ВЯ, 1968, № 4, 123—124).

**Ва́ській** (КЭС). Укр. *ва́ський* 'ваш'. З *ваш-ський* (да *ваш* 'ваш'+суф. *-ський*). Гл. Рудніцкі, 1, 323.

**Васьме́рні** мн. л. 'тканіна, палатно, тканае ў восем нітоў' (Бяльк.). Да *осмеро* (параўн. *васьмяры́к*) 'восем'. Па ўтварэнню ідэнтычнае ўкр. *восьмерня́* 'дошка, якая атрымліваецца пры распілоўцы ствала на восем частак'.

**Васьміно́г** (БРС). З рус. *осьмино́г* 'тс', якое з'яўляецца калькай з еўрапейскіх назваў гэтай жывёлы (параўн. лац. *octopus*, франц. *octopodes*, ням. *Achtfüßer, Achtarmer* і г. д.).

**Васьмяры́к** 'васьмёрка (коней)' (БРС); 'жылое памяшканне з васьмі кватэр' (Жд.); '20 кап. срэбрам' (Грыг.). Рус. *восьмерик* 'мера з васьмі адзінак; прадмет з васьмі адзінак і г. д.', укр. *восьмери́к*. Усх.-слав. утварэнне. Ст.-рус. *осмерик* (*восьмерик*) ад лічэбніка *осмеро* 'восем' (+суф. *-ик*). Падрабязней гл. Шанскі, 1, В, 177.

**Васэ́ля** 'вяселле' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *wesele* 'тс' (а гэта са слав. **veselьje* 'радасць'; гл. Брукнер, 607). Параўн. укр. *весі́лля* 'тс'.

**Васэрва́га** 'інструмент для вызначэння гарызантальнай лініі пры будаўніцтве' (Сцяшк. МГ). Укр. *васерва́га, васерва́га*. З ням. *Wasserwaage* 'тс' (можа, праз польскую мову; параўн. польск. дыял. *waserwaga*). Гл. Рудніцкі, 1, 322.

**Ват** 'ват валочаць па затокам (лавіць рыбу)' (Серб.), *ва́та* (Шат.). Параўн. рус. *ва́та* 'сетка для лоўлі рыбы', укр. *ва́та* 'тс', польск. *wata*. Першакрыніцай з'яўляецца ням. *Wate* 'тс' (аб ням. слове Клюге, 842), а паводле Рудніцкага, 1, 324, запазычанне прама з с.-в.-ням. *wate* (Шалудзька (Нім., 25) лічыўся з пасрэдніцтвам польск. *wata*<с.-в.-ням. *Wate, wade*). У форме *вата* слова зафіксавана ў ст.-бел. мове (з XVI ст.); Булыка (Запазыч., 57) бачыць першакрыніцу ў ням. *Watta* (?). Бел. форму *ват* (калі гэта не памылковы запіс) вытлумачыць цяжка.

**Ва́та** 'вата' (БРС); 'баваўняная пража дамашняга прадзення' (Влад., 198). Рус. *ва́та*, укр. *ва́та* 'вата', польск. *wata* і г. д. Запазычанне з ням. *Watte* 'вата' або франц. *ouatte* (першакрыніцай ням. слова праз пасрэдніцтва раманскіх моў з'яўляецца с.-лац. *vadda*) (Праабражэнскі, 1, 67; Фасмер, 1, 278; Клюге, 843; гл. таксама Шанскі, 1, В, 23).



**Ватá́га** 'ватага' (Др.-Падб.); 'арцель сплаўшчыкаў' (Кольб.). Укр. *вата́га* 'атрад, натоўп; атара, чарада'. Ст.-рус. *ватага* 'шацёр, палатка, жыллё качэўнікаў', рус. *вата́га* 'натоўп; статак, чарада, стая; рыбалавецкая арцель; месца промыслу, сяліба рыбакоў; рыбацкая хатка; сям'я і г. д.' Старое запазычанне з цюрк. моў (ст.-чуваш. **vâtaγ, *uotaγ*, ст.-цюрк. *otaγ* 'палатка; пакой; сям'я'; параўн. і тур. *oda, odak* 'пакой, хата') (Меліяранскі, ИОРЯС, 10, 4, 118 і далей; Корш., AfslPh, 9, 659; Младэнаў, 58; Фасмер, 1, 278). Іншыя тлумачэнні пераконваюць менш: 1) запазычанне з паўн.-цюрк. *vataga* (гэта хутчэй само запазычанне з рус.; гл. Фасмер, там жа, там і літ-ра); 2) запазычанне з рум. *vătaș* 'сторож' (літ-ру гл. Фасмер, 1, 278). Параўн. яшчэ Шанскі, 1, В, 23—24.

**Ватачнік** 'расліна ватачнік, Asclepias L.' (БРС, Кіс.), рус. *ва́точник*, укр. *ваточник*. Да *ва́та* 'вата' (гл.), відавочна, паводле некаторых уласцівасцей расліны. Параўн. іншыя яе назвы: укр. *бавовна дика, шовк дикий* (Макавецкі, Sł. botan., 42). Матыў «ваты» паўтараецца ў франц. назве расліны *herbe à ouatte, herbe à coton*, а «шоўку» — у англ. *silkweed*, ням. *Seidenpflanze*, серб.-харв. *свиленица, свилни дубац* (Сіманавіч, 53).

**Ватó** 'нядаўна, зусім нядаўна' (Янк. II); 'хутка' (Жд.: «Ватó я вы́йду, пачака́й»). Здаецца, адпавядае рус. *вот* 'вось' у розных дыял. формах: *вóта, вóто*. Не выключаецца і паходжанне ад **въ то* (параўн. чэш. *vtom* 'у гэты момант; але вось; раптам').

**Ва́тман** 'ватман, ватманская папера' (БРС). Рус. *ва́тман*, укр. *ва́тман*. Запазычанне з рус. *ва́тман* (а гэта на базе спалучэння *ва́тманская бума́га*<англ. *Whatman paper* па прозвішчы англійскага фабрыканта; гл. Гараеў, 40; Фасмер, 1, 278—279; падрабязна Шанскі, 1, В, 25—26).

**Ватóвы** 'ватны' (БРС, Нас., Шат., Касп.). Прыметніка гэтага тыпу і з такім націскам няма ў рус. і ўкр. мовах. Таму, мяркуем, гэта запазычанне з польск. *watowy* 'тс'. Параўн. *ватоўка*.

**Ватóўка** 'ватнік, ватоўка' (БРС); 'адзежына на ваце' (Бяльк., Нас., Касп.); 'кароткая вопратка на ваце' (Жд., Шат.); 'верхняя жаночая вопратка кароткага памеру з купленага матэрыялу' (Інстр. I, 76). Рус. дыял. (смал.; у рус. гаворках Літвы; гл. СРНГ) *ватóвка*. Выходзячы з геаграфіі, рус. слова ўзята з бел. У бел. мове або ўтварэнне ад *ватóвы* 'з ваты' (гл. БРС), або прамое запазычанне з польск. *watówka* 'тс'. Гэту апошнюю версію падтрымлівае і тое, што націск

прыметніка *ватовы* дакладна адпавядае польскаму *watowy*. Гл. Кюнэ, Poln., 113.

**Ватроўка** 'ятроўка, жонкі родных братоў адна для адной' (Бяльк.). Дыялектная форма да *ятроўка* (гл.), прасл. **jętry*. Форма *ватроўка*, відавочна, узнікла з пратэтычным *в-* з **атроўка* пасля ўтраты йотацыі (*ятроўка*⟶**атроўка*).

**Ватрушка** (БРС). Здаецца, запазычанне з рус. *ватрушка* 'тс' (аб рус. слове гл. Фасмер, 1, 279).

**Ватрына** 'астаткі зерня пасля абмалоту разам з астаткамі калосся' (КЭС). Параўн. *вотрына* 'мякіна, палова' (Бяльк.). Рус. дыял. *вотрина, вотра, вотря* 'тс'. З **otъra*, **otъrja* да **ter-* 'церці' (Міклашыч, 353; Далабко, ZfslPh, 3, 130; Фасмер, 1, 358).

**Ватэрпас** 'ватэрпас' (БРС). Рус. *ватерпас*, укр. *ватерпас*. У рус. мове з Пятроўскай эпохі. Запазычанне з гал. *waterpas* (Смірноў, Западн., 71; Мацэнаўэр, Cizí sl., 365; Фасмер, 1, 278; Шанскі, 1, В, 24—25). У бел. і ўкр. мовах запазычанне з рус.

**Ватэрпола** 'ватэрпола'. Запазычанне з рус. *ватерпо́ло* 'тс' < < англ. *water-polo* 'тс'. Падрабязна гл. Шанскі, 1, В, 25.

**Ватэтта** 'вось тут' (КЭС). Дакладна адпавядае рус. дыял. *вотетта, вотэтта* 'тс' (СРНГ). Складанае слова: *вот* 'вось' + + *эт-то*.

**Ваўкаваты** 'ваўкаваты, нелюдзімы, дзікаваты' (БРС), *вовковаты* (Бесар.), укр. *вовкуватий* 'тс'. Параўн. рус. дыял. наўг. *волковатый* 'жвавы, спрытны'. Да *воўк* (гл.).

**Ваўкалак** 'пярэварацень' (Касп., Нас., БРС, Інстр. II, Гарэц., Мал.), *ваўкалака* (Янк. III, Інстр. II), *вавкулак* (Грыг.), *вовкулак* (Клім.), *воўколака* (Шн.). Рус. *волколак, волкодлак, вурдалак*, дыял. таксама *волколака*, укр. *вовкулак, вовкулака*, польск. *wilkołak*, чэш. *vlkodlak* (кніжнага паходжання; у дыял. захавалася вельмі слаба і ў пераносным значэнні 'скнара'), серб.-ц.-слав. *влькодлакъ*, балг. *върколак, вълкодлак*, серб. *вуко̀длак, ву̏кодлак*. Прасл. **vъlkodlakъ* 'ваўкалак, чалавек-пярэварацень'. Першая частка слова да **vъlkъ* 'воўк', другая да ц.-слав. *длака* 'валасы, футра', серб. *дла̏ка* 'валасы, шэрсць', славен. *dlaka* (Фасмер, 1, 338—339).

**Ваўкуваты** 'трохі недасушаны, вільготны' (Бяльк.). Рус. дыял. *волковатый* 'тс'. Параўн. рус. дыял. *волговатый* 'тс' (да *волгкий* 'сыры', слав. **vъlg-* 'вадкасць').



**Ваўнянка** 'грыб ваўнянка' (БРС, Нас., Касп., Сцяшк. МГ), *вавнянка, вовнянка* 'вельмі горкі грыб (Lactaria necator)' (Лысенка ССП); пераносна 'чалавек з дрэнным характарам'. У грыба Agaricus torminosus шляпка пакрыта валаскамі. Таму ў слав. мовах яго называюць 'шарсцяным', у прыватнасці вытворнымі словамі ад **vъlna* 'шэрсць'. Параўн. рус. *волнушка, волняшка*, укр. *вовнянка*, польск. *wełnianka*, ст.-чэш. *vlněnka* і да т. п. Падрабязна з аглядам літ-ры Мяркулава Очерки, 172—173.

**Ваўрэць** 'моцна спацець' (Касп., Гарэц., Яруш., Бяльк.). Рус. дыял. *вреть* 'моцна пацець'. Параўн. укр. дыял. *вріти* 'кіпець', бел. *врэць*, ст.-рус. *вьрѣти* 'кіпець', польск. *wrzeć*, чэш. *vříti*, ст.-слав. **вьрѣти**, серб. *вре̏ти* і г. д. Прасл. **vъrěti* 'кіпець і да т. п.'. Падрабязней гл. Фасмер, 1, 362. Бел. *ваўрэць*<**о-вьрѣти* (з пратэтычным *о-*>*ва-*).

**Ваўчанка** 'хвароба ваўчанка' (БРС). Рус. *волчанка*. У бел. мове, магчыма, запазычанне з рус., дзе назва ўтворана ад *волк* (па характару хваробы). У рус., магчыма, калька з лац. *lupus* 'тс' (літаральна 'воўк'). Гл. Гараеў, 54; Фасмер, 1, 346; Шанскі, 1, В, 153.

**Ваўчкі** 'расліна Bidens, ваўчкі' (БРС, Кіс.); 'Pedicularis palustris L.' Да *воўк*. Расліна мае плады з шыпамі, пакрытымі зубчыкамі. Параўн. іншыя назвы расліны: *сабачкі*, укр. *собачки, стрілки, причепа, кошки* і г. д. Параўн. яшчэ ў рус. мове назвы для асота, рапейніка — *волчец, волчок, волчняк, волчевник* (матывацыя тая ж: пустазелле з вострымі шыпамі і ўчэпістымі пладамі; гл. Мяркулава, Очерки, 98). Іначай аб рус. *волчец* Шанскі 1, В, 153 (запазычанне са ст.-слав. **вълчьцъ**). Сюды і бел. *ваўчкі* 'адходы пры прадзенні кудзелі' (Шатал.).

**Ваўчок** 'дзіцячая цацка' (БРС). Рус. *волчок* 'тс' (з XVI—XVII стст.?). Ад *волк, воўк* (цацка выдае гукі, нібы выццё); параўн. і чэш. назву гэтай цацкі *vlk* (Шанскі, 1, В, 153; гл. таксама Фасмер, 1, 346—347, які прыводзіць як паралель лат. *vilks* 'воўк' у назвах розных інструментаў і ўказвае, што і ў ням. мове розныя інструменты носяць назву 'воўк'). Менш пераконвае Гараеў, 54 (гл. і Праабражэнскі, 1, 94): сувязь з дзеясловам *волочиться*. У бел. мове *ваўчок*, відавочна, запазычанне з рус.

**Ваўчуг** 'расліна стальнік, Ononis arvensis L.' (БРС, Кіс., Гарэц.), таксама *ваўчук, ваўчуга*, укр. *вовчуг*. Бясспрэчна, ад *воўк* (матывацыя можа быць рознай: расліна пакрыта валас-

камі, мае моцныя карані). Параўн. назвы для Ononis ва ўкр. мове: *плугодержка, стальник, вовча, вовчак, вовче зілля, вовк* і г. д.

**Ваўчынец** 'воўчая ягада, Daphne' (Інстр. II); 'Daphne mezereum L.' Параўн. укр. *вовчинець* 'тс' (таксама *вовче личко, вовчі ягоди, вовчій перец* і г. д.; Макавецкі, Sł. botan., 126). Рус. *волчник, волчьи ягоды,* чэш. *vlčí lýko,* польск. *wilcze łyko,* серб. *вучје лико,* ням. *Wolfbast* і г. д. (гл. Махэк, Jména rostl., 152). Утварэнне з суф. *-ец* ад *ваўчыны.* Названа расліна так, таму што ягады яе непрыгодныя для яды.

**Ваўчыца.** Рус. *волчица,* укр. *вовчиця,* польск. *wilczyca,* серб. *вучица* і г. д. Прасл. **vьlčica.* Фармальна ўтварэнне суф. *-ica* ад **vьlkъ* 'воўк'. Але ставіцца пытанне пра адпаведнасць часткі слова **vьlči-* і.-е. утварэнню. Параўн. ст.-інд. *vṛkī,* літ. *vilkė* і г. д. (гл. Зубаты, LF, 25, 239; Мікала, Ursl. Gr., 120; Траўтман, 359; Фасмер, 1, 346).

**Ва́ха** 'вахта, пост вайсковы' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *wacha* 'тс' (а гэта з ням. *Wache;* гл. Брукнер, 598).

**Вахка** 'расліна капытнік балотны, Calla palustris L.' (Кіс., Інстр. II). Запазычанне з рус. *вахка* (таксама і ў форме *вахта*) 'Menyanthes' і 'Calla palustris', а гэта з угра-фін. моў (параўн. фін. *vehka*). Падрабязна аб рус. слове гл. Мяркулава, Очерки, 37—38.

**Вахла́к,** *вахляк.* Гл. *вахляць.*

**Вахля́ць** 'ляпіць, мазаць; рабіць што-небудзь на скорую руку' (Нас.), рус. *вахлять* 'халтурыць, рабіць нядбайна'. Сюды адносяцца *вахляк* 'слабасільны чалавек, вялы работнік' (Нас.), *вахляй* 'вялы, непаваротлівы чалавек' (Нас.), рус. *вахляй.* Далей сюды, бясспрэчна, адносіцца *вахла́к* 'вахлак' (БРС); 'брудны, неахайны чалавек' (КЭС), рус. *вахла́к, вахляк* 'дурань, нязграбны чалавек'. Фасмер (1, 280) лічыць рус. словы няяснымі.

**Ва́хмістр,** *вахмістраваць* 'вахмістр' (БРС; параўн. і Нас.). Ст.-бел. *вахтмистр* (з XVII ст.; Булыка, Запазыч.). Укр. *ва́хмістр,* рус. *ва́хмистр.* Запазычанне з польск. *wachtmistrz* (а гэта з ням. *Wachtmeister*). Гл. Булыка, Запазыч., 58; Смірноў, Западн., 71; Гараеў, 40; Шанскі, 1, В, 27. Непасрэдным запазычаннем з ням. лічыць слова Праабражэнскі (1, 68).

**Ва́хныль** 'вухналь, цвік, якім прыбіваюць падкову да капыта' (Бяльк.). Дыялектная змена слова *вухналь* 'тс' (запазычанага з польск. *ufnal*<ням. *Hufnagel;* параўн. Брукнер,



592). Пры перанясенні націску на першы склад нібы «аднаўляецца» націскное *«а»* (якога там у рэчаіснасці ніколі не было).

**Вахра́** 'жмут шэрсці' (Нас.); 'кутасы ў хустцы' (Бяльк.). Як думае Брукнер (гл. Фасмер, 1, 356), гэта — метатэза з *во́рса* 'ворс'. Супраць гэтага Фасмер (там жа). Няясна. Ці нельга думаць пра скарачэнне слова тыпу рус. дыял. *вахрома́* 'бахрама'?

**Ва́хта**$_1$ 'вахта, пост' (Нас., БРС). Ст.-бел. *вахта* (з XVI ст.; Булыка, Запазыч.). Рус. *ва́хта,* укр. *ва́хта.* Запазычанне з польск. *wachta*<ням. (Гараеў, 40; Фасмер, 1, 280; Шанскі, 1, В, 27) або прама з ням. *Wacht* (Праабражэнскі, 1, 68).

**Ва́хта**$_2$ 'хвалі на рацэ; кругі ад кінутага ў ваду прадмета' (Сцяц.). Няясна.

**Ваш.** Ст.-рус., ст.-слав. **вашь,** рус., укр. *ваш,* польск. *wasz,* чэш. *váš,* серб.-харв. *ваш,* балг. *ваш* і г. д. Слав. **vašь* 'ваш'. З **vōsio-* (да і.-е. **vōs,* звязанага са слав. **vy* 'вы', **vasъ* 'вас'). Гл. Фасмер, 1, 281.

**Вашава́ць** 'глыбока рыць' (Шат.); 'калыхаць' (Сцяц.), *вашаваць*||*вайшаваць* 'цяжка працаваць; падымаць, варочаць; калыхаць; рыць зямлю (аб свіннях)'. Параўн. польск. *waszować* 'выцягваць з вады бярвенні пры сплаве лесу' і літ. *vašúoti* 'рваць, торгаць кручком; біць' (гл. Весці АН БССР, 1969, № 4, 130).

**Ваша́ць** 'вашэць, ягомасць, ваша мосць' (Бяльк.), *ва́шэць* 'тс' (Нас., Бесар., Шпіл.), *вашаць* (Шат., Гарэц.), *вашаць, вашэць* (Яруш.). Укр. *ва́шець* 'тс', рус. дыял. (зах.) *ва́шец.* Запазычанне з польск. *waszeć* 'тс' (а гэта скарачэнне з *wasza miłość*; гл. Брукнер, 603).

**Ваява́ць.** Рус. *воева́ть,* укр. *воюва́ти* і г. д. Да групы слоў *вайна́, воін* (гл.).

**Ваяво́да** (БРС). Ст.-рус., ст.-слав. **воєвода,** рус. *воево́да,* укр. *воєво́да,* польск. *wojewoda,* чэш. *vévoda,* серб. *во̏јвода* і г. д. Слав. **vojevoda* (да **voi-;* гл. *вайна́, во́ін* і **vod-* 'вадзіць'). Падрабязней гл. Фасмер, 1, 332.

**Ве́ба** 'бавоўна' (Сцяшк. МГ). Бясспрэчна, запазычанне з польск. *weba* 'вельмі тонкае ільняное палатно; галандскае палатно' (а гэта з ням. *Webe* 'тканіна, кусок палатна', да *weben* 'ткаць'). Параўн. і чэш. *véba* 'гатунак тонкага палатна' (<ням.; Махэк$_2$, 680).

**Веверыцы** 'вавёрка' (ДАБМ, 897). Адлюстроўвае прасл. **veverica, *věverica* 'тс'. Падрабязна гл. пад *вавёрка*.

**Вéгаць** 'пучок саломы, сухой травы, мачалка для мыцця посуду' (Мал., Шпіл.). Дыялектная форма (азванчэнне *х>г*) слова *вéхаць* 'вехаць' (гл.), прасл. **věxъtь* (ст.-рус. *вѣхъть*, рус. *вéхоть*, бел. *вéхаць*, укр. *віхоть*, чэш. *věchet*, польск. *wiecheć*, славен. *véhət* і г. д.). Магчыма таксама, што тут «аднаўленне» гука «*г*» па мадэлі *нóгаць* — *нóгця* (у вымаўленні *нóхця*): *вéхаць* (→*вéгаць*) — *вéхця*.

**Вéдаць.** Ст.-рус. *вѣдати*, рус. *вéдать*, укр. *відати*. Усх.-слав. (?) **vědati*. Параўн. і прасл. **věděti* 'тс': ст.-рус. *вѣдѣти*, польск. *wiedzieć*, чэш. *věděti*, ст.-слав. **вѣдѣти**, славен. *védeti* і г. д. Слав. **věd-* адлюстроўвае і.-е. **u̯oi̯d-* 'ведаць'; параўн. грэч. οἶδα 'я знаю, пабачыў' (**u̯oi̯d-*), прус. *waidimai* 'мы ведаем', ст.-інд. *vèda* 'я знаю, пабачыў', гоц. *wait* 'я знаю' і г. д. Лічыцца, што **věd-* (**u̯oi̯d-*) звязана аблаутам з **vid-* (**u̯ei̯d-*) 'бачыць'. Гл. Фасмер, 1, 283 (там і літ-ра).

**Вéдзьма.** Ст.-рус. *вѣдьма*, рус. *вéдьма*, укр. *відьма*, польск. *wiedźma*, чэш. *vědma*. Як думаюць, вытворнае ад слав. **věděti*, **vědati* 'знаць'; параўн. і ст.-рус. *вѣдь* 'чараўніцтва (Брукнер, Slavia, 13, 980; Міклашыч, 390 і далей; Траўтман, 338; Фасмер, 1, 285). Махэк$_2$ (680) зыходзіць з праформы **vědoma*. Няпэўна.

**Вéер.** Як і ўкр. *віер* 'тс', запазычанне з рус. *вéер* 'тс'. Апошняе ўзята з ням. *Fächer* 'веер' і трансфармавалася пад уплывам дзеяслова *вéять*. Гл. Брандт, РФВ, 18, 29; Міклашыч, 387; Праабражэнскі, 1, 107; Фасмер, 1, 285; Шанскі, 1, В, 38.

**Вéжа.** Ст.-рус. *вѣжа* 'шацёр, кібітка, вежа', рус. *вéжа* 'шацёр, кібітка, будка, вежа', укр. *вéжа*, польск. *wieża*, чэш. *věž*, ст.-чэш. *věžě*, ст.-слав. **вѣжа**, славен. *véža* 'сені, вестыбюль'. Першапачаткова ў славян, як думаюць, гэта быў рухомы будынак на санях або калёсах. Прасл. **věža*<**vāz-i̯a* да **vez-ti* 'везці'. Гл. Фасмер, 1, 285. Паколькі ва ўкр. мове павінна было быць **віжа*, думаюць, што ўкр. слова запазычана з польск. Адносна бел. слова штосьці падобнае сцвярджаць цяжка, бо няма фанетычных прыкмет запазычання. Зрэшты, і ўкр. слова можа быць не польскім запазычаннем, а палескім словам.

**Вéзці,** *везць*. Ст.-рус. *везти*, рус. *везти́*, укр. *везти́*, польск. *wieźć*, чэш. *vézti*, ст.-слав. **вести везѫ**, серб. *вèсти вèзêм* і г. д. Прасл. **vezti vezǫ* 'везці'. І.-е. **u̯eg̑h-* 'ехаць, везці': літ. *vèžti* 'везці', грэч. ϝεχέτω 'няхай прынясе', лац. *vehō* 'еду, вязу', ст.-інд. *váhati* 'вязе, вядзе', авест. *vazaiti* 'вязе, цягне', гоц. *gawigan* 'трасці, рухаць' і г. д. Іншыя аблаутныя формы і.-е. **u̯eg̑h*, прасл. **vez-*; гл. пад *вазіць, воз, вежа*. Фасмер, 1, 286.



**Вéйка** (БРС, Шатал., Сцяшк. МГ). Укр. *вія*, ст.-чэш. *vějička, pověje* 'павека', славен. *vejice* 'вейкі'. Прасл. **vě̄i̯a* 'тс'. Гэта апошняе можа быць метафарычным ужываннем слова **věi̯a* 'галінка' (ст.-слав., ст.-рус. **вѣя**), рус. *вея*, балг. *вéйка*, славен. *vȩ̑ja* 'галінка', чэш. *vějice, vějička* 'прыманка (лазінка, змазаная клеем, каб лавіць птушак і мух)', «*вейка*» 'штосьці пушыстае, касматае, з бахрамой, быццам галінка з лісцем'. Але можна думаць і пра непасрэднае ўтварэнне ад **věi̯ati* 'веяць, дуць'. Гл. Махэк$_2$, 681 (але няма неабходнасці параўноўваць гэта слова з прасл. **vědi̯a* 'павека', ст.-рус. *вѣжа*, ст.-слав. **вѣжда** 'павека' і г. д.).

**Вéйлё** 'валлё' (Сцяшк. МГ). Відавочна, дыялектная фанетычна-марфалагічная трансфармацыя слова *валлё* (гл.). Здвоенае *л'л'>йл'*. Пры перанясенні націску на першы склад нібы «аднавілася» этымалагічнае *е*.

**Век** 'жыццё, вечнасць, час і да т. п.' Ст.-рус. *вѣкъ* 'тс', рус. *век*, укр. *вік*, польск. *wiek*, чэш. *věk*, ст.-слав. **вѣкъ**, балг. *век*, серб. *вêк* і г. д. Прасл. **věkъ* 'век, жыццё, вечнасць і г. д.' (з даўняга **voi̯kos*, а гэта аблаутная форма да і.-е. **u̯ei̯k-* 'сіла, выяўляць сілу', літ. *viẽkas* 'сіла, жывучасць, жыццё', *veĩkti* 'штосьці рабіць, працаваць', *véikus* 'хуткі', *vỹkis* 'жыццё, жывасць', *vikrùs* 'бадзёры', лац. *vincere* 'перамагаць', ст.-ісл. *veig* 'сіла, моцнасць', *vīg* 'барацьба', гоц. *weihan*, ст.-в.-ням. *wīgan* 'змагацца'. Сюды прасл. **věčьnъ* 'вечны' (ст.-рус. *вѣчьныи*, бел. *вéчны*, рус. *вéчный*, укр. *вічний*, польск. *wieczny*, чэш. *věčný*, ст.-слав. **вѣчьнъ**, балг. *вéчен*, серб. *вȅчан* і г. д.). Гл. Фасмер, 1, 286.

**Вéка** 'века; павека'. Ст.-рус., ст.-слав. **вѣко** 'павека', рус. *вéко* 'павека; розныя віды кошыкаў; вобад сіта або рэшата', укр. *віко* 'накрыўка скрыні, дзяжы і да т. п.'; 'павека', польск. *wieko* 'накрыўка', чэш. *víko* 'тс', славен. *véko, véka* 'павека'. Прасл. **věko* 'века; павека' (<**vēko*). Роднасныя: літ. *vókas* 'павека; накрыўка', лат. *vâks* 'накрыўка' (балт. словы адлюстроўваюць старое **vāk-*; параўнальна з слав. формамі тут іншы вакалізм, але чаргаванне *ē* : *ā* назіраецца і ў іншых выпадках). Магчыма таксама, што балт. мовы захоўваюць стары вакалізм, а слав. **věko* (замест **vako*) развілося пад уплывам слав. **vědi̯a* 'павека' (ст.-рус. *вѣжа*, ст.-слав. **вѣжда** 'тс', балг. *вéжда*, серб. *вȅђа* 'брыво'). Гл. Траўтман, 347—348; Фасмер, 1, 286. З прэфіксам **po-* ўтворана слав. **po-věka* 'па-

6. Зак. 1876

века', з прэфіксам *ob- — *ob-věko (>*oběko+розныя суфіксы) 'абечайка' (гл.).

**Векавісты,** *векуісты* 'вечны' (Шн.). Запазычанне з польск. *wiekuisty* 'тс' (да *wiek* 'век'; гл. Брукнер, 615). У бел. помніках слова *векуистый* вядома з XV ст. (гл. Булыка, Запазыч.).

**Ве́кша** 'вавёрка' (ДАБМ, 897, Гарэц., Касп.). Рус. *ве́кша* 'тс'. Паходжанне слова няяснае. Агляд розных версій гл. Фасмер, 1, 287. Найбольш пераконвае Трубачоў (Дополн., 1, 287), які бачыць сувязь з рус. *ва́шка* 'маладая вавёрка'.

**Ве́ле** 'шмат, многа' (Сцяшк. МГ). З польск. *wiele* 'тс'. У ст.-бел. мове *веле, веля* 'тс' засведчана з XVI ст. (Булыка, Запазыч.).

**Велеры́б** 'кіт' (Нас.). Запазычанне з польск. *wieloryb* 'тс' (да польск. слова гл. Брукнер, 616). У помніках бел. мовы *велерибъ, велиорибъ, велорибъ* вядома з XVII ст. (гл. Булыка, Запазыч., 59).

**Велісаза́р** 'сузор'е (Плеяды?)' (Касп.). Да назвы Плеяд і Арыёна (рус. *волосажа́ры*, укр. *волосожа́р* і г. д.). Этымалогія няпэўная. Гл. Фасмер, 1, 343.

**Ве́льбіць** 'хваліць, праслаўляць' (Нас.). Ст.-бел. *велбити* 'тс' (засведчана ў помніках з XVI ст.; Булыка, Запазыч.). З польск. *wielbić* 'тс' (а гэта звязана з *wielki, wiele;* гл. Брукнер, 616).

**Велька́ноц** 'вялікдзень' (Жд., 2). З польск. *wielkanoc* 'тс'. Параўн. ст.-бел. *велканоцъ* (XVI—XVII стст.; Булыка, Запазыч.).

**Ве́льма** (Шат., Бяльк.), *ве́льмі* (Нас., Касп., Бяльк.). Ст.-рус., ст.-слав. **вельми,** укр. *ве́льми,* рус. дыял. *вельми́, вельмо́,* польск. *wielmi,* чэш. *velmi,* серб. *ведма* 'вельмі' (<*вельма) і г. д. Прасл., магчыма, *velьmi, *velьma. Утварэнне ад асновы *vel- 'вялікі' (параўн. прасл. *velьjь і *velikъ 'вялікі'). Калі ўзяць да ўвагі націск у рус. *вельми́* і серб. *ведма* (што можна сведчыць аб прасл. *velьmí, *velьmá), то бел. і ўкр. словы (з націскам на першым складзе) здаюцца некалькі падазронымі. Запазычанне з польскай мовы? (да таго ж спрадвечна ўкр. форма была б *вільми!).

**Велягу́р,** *велягу́ра* 'перарослы' (Нас.), *велягу́рны, велягу́рысты* 'высакарослы; велічны; высакамоўны; фанабэрысты; пышны'. Да этымалогіі гл. Супрун, Веснік БДУ, 1969, 2, 68 наст.



**Ве́на** 'венца' (Шатал.). Дыялектнае новаўтварэнне на базе суфіксальнага *ве́нца* (гл.).

**Ве́нік** 'венік'. Рус. *ве́ник,* укр. *ві́ник* 'тс', чэш. *věník* 'пучок, вязанка'; параўн. і ст.-рус., ст.-слав. **вѣникъ.** Слав. *věnikъ — утварэнне ад прасл. *věnъ 'вянок, сплеценае галлё і г. д.' (рус. *вен,* польск. *wian* 'вянок'), якое адносіцца да *viti *vьjǫ 'віць' (і.-е. *u̯ei̯- 'тс'; гл. *віць*). Акрамя *věnikъ, сюды належыць *věnъkъ 'вянок', *věnьcь 'вянок, вянец'. Гл. Брандт, РФВ, 25, 217; Праабражэнскі, 1, 108; Фасмер, 1, 291.

**Ве́нца** 'абадок (пасудзіны); абадок, кольца' (БРС, Шатал.). Укр. *ві́нця* мн. л., н. р. 'край пасудзіны'. Можна меркаваць, што гэта слова ўзнікла метафарызацыяй да *věnъkъ, *věnьcь. Параўн. рус. дыял. *ве́нчик* 'тоўсты аплёт па верхняму краю снеткавага каша', *вене́ц* 'горны хрыбет кругам, паўкругам; край высокага стэпу і г. д.' Параўн. Рудніцкі, 1, 430—431.

**Ве́нцер** (БРС, Шат., Сцяшк. МГ). Рус. *ве́нтерь,* польск. *więcierz, więcerz* і г. д., укр. *в'я́тер, в'я́тір.* Лічыцца запазычаннем з літ. *vénteris* 'венцер з івавага пруцця', лат. *veñteris.* Думка пра запазычанне літ. слова з слав. не пераконвае. Падрабязна Фрэнкель (1223—1224). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 292; Урбуціс, Baltistica, 5(1), 1969, 52.

**Ве́пер** (Шат.) 'кабан'. Ст.-рус., ст.-слав. **вепрь,** рус. *вепрь,* укр. *вепр, ве́пер,* польск. *wieprz,* чэш. *vepř,* балг. *ве́пър,* серб. *вȅпар.* Прасл. *veprь 'вяпрук' (магчыма, раней назоўнік *i*-асноў). І.-е. сувязі не вельмі пэўныя. Тлумачэнні: 1) роднасць з лат. *vepris* 'вяпрук' (але, можа, гэта запазычанне з рус. мовы); 2) роднасць з лац. *veprēs* 'цярновы куст' (першаснае значэнне слова *veprь магло быць 'шчаціністы, калючы'); 3) роднасць са ст.-інд. *vápati* 'рассыпае (семя)'; 4) сувязь з лац. *aper,* ст.-в.-ням. *ebur* 'вяпрук' (ням. *Eber*). Не выключаецца, аднак, што *veprь — старое «праеўрапейскае слова». Гл. Фасмер, 1, 292 (там і літ-ра). Параўн. Махэк₂, 684.

**Ве́ра.** Ст.-рус., ст.-слав. **вѣра,** рус. *ве́ра,* укр. *ві́ра,* польск. *wiara,* чэш. *víra,* балг. *вя́ра,* серб. *вȅра* і г. д. Прасл. *věra 'вера'. Сюды ж і прасл. *věrьnъ 'верны' (ст.-рус. *вѣрьныи,* рус. *ве́рный,* бел. *ве́рны,* укр. *ві́рний,* польск. *wierny,* чэш. *věrný,* ст.-слав. **вѣрьнъ,** балг. *ве́рен,* серб. *вȅран* і г. д.), а таксама дзеясловы тыпу *věriti, *věrovati 'верыць': ст.-рус. *вѣрити, вѣровати,* бел. *ве́рыць,* укр. *ві́рити,* рус. *ве́рить, ве́ровать,* польск. *wierzyć,* чэш. *věřiti,* ст.-слав. **вѣровати, вѣрити,** балг. *вя́рвам* 'веру', *ве́ря се* 'бажуся, клянуся', серб. *вȅровати* 'ве-

рыць', вѐрити 'засватаць' і г. д. І.-е. *u̯ēr-: лац. vērus 'сапраўдны, верны', гоц. tuz-wērjan 'сумнявацца' (tuz — частка з адмоўным значэннем), ст.-в.-ням. wār (ням. wahr) 'сапраўдны, верны, надзейны і да т. п.', wāra 'праўда; вернасць і г. д.' Таксама параўноўваюць з авест. var- 'верыць', varəna- 'вера' (у такім выпадку трэба б было зыходзіць з кароткага галоснага ў і.-е. праформе). Параўн. Фасмер, 1, 292—293.

**Верабе́й** 'верабей' (Нас., Шат., Касп., Бяльк.). Ст.-рус. веребии. Лічыцца прасл. дыял. формай (*verbьjь), якая чаргуецца з больш пашыраным *vorbьjь 'тс' (рус. воробе́й, укр. воробе́ць, горобе́ць, польск. wróbel, чэш. vrabec, балг. врабе́ц, серб. вра́бац і г. д.). Корань *virb-, які мае адпаведнасці ў і.-е. мовах. Падрабязна гл. Шмідт, KZ, 22, 317; Фасмер, 1, 352; Праабражэнскі, 1, 96; Шанскі, 1, В, 164; спецыяльна аб форме *verbьjь гл. Траўтман, 342; Трубачоў, Слав. языкозн., 5, 177.

**Верагóдны.** Параўн. укр. вірогі́дний (у помніках і верне-годный), польск. wiarygodny, чэш. věrohodný. Да *godьnъ 'годны, дастойны' і *věra 'вера'. Але, здаецца, можна ставіць пытанне аб запазычанні бел. і ўкр. слова з зах.-слав. моў (з польскай).

**Ве́рад** (БРС, Шат., Шатал.), верадава́ты. Рус. ве́ред 'нарыў, гнайнік', укр. ве́ред, ст.-рус. вередъ 'рана, нарыў', польск. wrzód, чэш. vřed 'гнайнік', ст.-слав. **врѣдъ,** балг. вреда́ 'шкода', серб.-харв. врѝјед і г. д. Прасл. *verdъ. Роднаснае: лат. ap-vir̃de 'нарыў', ст.-інд. várdhati 'расце' або ням. Warze 'бародаўка'. Гл. Праабражэнскі, 1, 73; Фасмер, 1, 295. Параўн. Шанскі, 1, В, 194.

**Верадава́ць** (Бяльк.) 'дэспатычна распараджацца кім-небудзь'. Параўн. укр. вередува́ти 'капрызіць і да т. п.', вереди́тися 'фанабэрыцца'. Параўн. і рус. привере́дничать 'капрызіць', привере́дливый. Як думае Рудніцкі (1, 351), гэта слова належыць да ве́рад 'рана, нарыў і да т. п.' верадзі́ць (гл.).

**Верадзі́ць** (БРС, Нас.). Рус. вереди́ть, укр. вереди́ти, польск. wrzedzić, чэш. vředíti, балг. вредя́, серб. вре́ђати і г. д. Прасл. *verditi 'верадзіць' — утварэнне ад *verdъ 'верад' (гл.) (Праабражэнскі, 1, 73; Фасмер, 1, 295).

**Ве́раме** 'час' (Нас.: ве́реме). Адносіцца да прасл. *vermę 'час; пагода і да т. п.' (укр. ве́реме, ст.-рус. веремя, ст.-слав. **врѣмѧ,** балг. вре́ме, серб.-харв. врѝјѐме, славен. vrẹ́me). Агляд этымалогій гл. Фасмер, 1, 361—362. Гл. яшчэ Ісачанка, Зб. Гаўранку, 1, 120—121; Матл, там жа, 143—144.



**Верані́на** 'вінегрэт' (Бяльк.); 'лямешка' (Нас.). Параўн. рус. дыял. верени́на 'каша з мукі'. Падрабязна аб паходжанні слова гл. Трубачоў, Slavia, 29, 19. Слова можна вывесці і ад дзеяслова тыпу рус. дыял. верени́ть 'спешна што-небудзь рабіць' (параўн. «веренина — это муки насыпают, ды в кипяток» — СРНГ). Але не выключаецца, што верані́на, верени́на <варенина. Параўн. рус. дыял. варе́нина 'варанае пойла для жывёлы', варени́на 'варанае мяса'. Адносна фанетыкі параўн. бел. дыял. верэ́нік (<варэ́нік).

**Верані́ца** 'чарада' (Касп.). Параўн. рус. верени́ца 'чарада, натоўп, гурт, рад'. Меркаванні аб этымалогіі гл. Фасмер, 1, 296.

**Ве́рас.** Укр. ве́рес, рус. ве́реск, ве́рес, польск. wrzos, чэш. vřes (дыял. таксама břez), серб. врêс, врêсак і г. д. Прасл. *versъ 'верас'. Роднасныя: лат. virsis, vir̃zis, літ. viržỹs 'верас', vir̃kščiai 'моцнае бадылле бульбы і да т. п.', лат. virksne 'куст бульбы', грэч. ἐρείκη (*u̯er-) 'верас', ірл. froech 'тс'. Балта-слав. формы ўказваюць не толькі на першапачатковае прасл. *versъ, але і на *verzъ (чэш. дыял. břez, літ. viržỹs, лат. vir̃zis), *verskъ (рус. ве́реск, літ. vir̃kščiai, лат. virksne<*virsk-), што можа сведчыць аб «праеўрапейскім» паходжанні слова; *versъ, *verzъ<і.-е. *u̯erk̑-, *u̯erg̑-. Гл. Фасмер, 1, 296; Траўтман, 362; Фрэнкель, 1264; Махэк$_2$, 702.

**Ве́расень.** Ст.-бел. вресень, врешень 'верасень' (з XVI ст.; Булыка, Запазыч.). Укр. ве́ресень (ст.-укр. вресень). У Насовіча форма вресень (з заўвагай: «Употребляется шляхтою»). Усх.-слав. формы з паўнагалоссем з'явіліся даволі позна. Лічыцца, што вресень (і ве́расень, ве́ресень) — запазычанне з польск. (польск. wrzesień 'верасень' ад назвы расліны верас: польск. wrzos, прасл. *versъ; гл. ве́рас). Гл. Галыньска-Баранова, Ukr. nazwy, 58—61 (падрабязна, з лінгвагеаграфіяй). Менш пераконвае думка, што вресень — гэта ўсх.-слав. слова, але толькі «славянізаванае». Рудніцкі (1, 353) усх.-слав. (укр.) ве́ресень выводзіць прама ад назвы расліны ве́рес, не закранаючы пытанне аб магчымасці запазычання. Качарган (Мовознавство, 1971, № 2, 88) форму вресень лічыць стараславянізмам. Неверагодна Дабрадомаў (РР, 1967, № 5, 57), які звязвае слав. *versьnь з дзеясловам тыпу рус. вереща́ть.

**Ве́раск** 'крык, верашчанне' (БРС, Нас.). Рус. ве́реск, укр. ве́реск, польск. wrzask, чэш. vřesk, балг. вря́сък, серб. ври̂сак і г. д. Прасл. *verskъ 'вераск, верашчанне'. Сюды ж *verščati 'верашчаць' (<*verskēti): ст.-рус. верещати, бел. верашча́ць, укр. вереща́ти, рус. вереща́ть, польск. wrzeszczeć, чэш. vřeštěti,

ст.-слав. **врѣштати,** балг. *врещя́,* серб. *вр̏штати* і г. д.; таксама **verskati, *versknǫti:* ст.-рус. *верескати,* укр. *вере́снути,* чэш. *vřískati,* балг. *вря́скам* і г. д. Роднасныя: літ. *verkšlénti* 'злавацца, плачучы', *verkšnóti* 'плакаць' (**versk-*), *ver̃kti* 'тс', лат. *varkšêt* 'квакаць' (**varsk-*). Магчыма, слав. **versk-* з **verk-sk-* (тады першапачатковую форму мы маем у літ. *ver̃k-ti*). Словы гукапераймальнага паходжання. Сюды ж і слав. **vъrčati, *vъrkati* (параўн. укр. *ворча́ти,* рус. *ворча́ть,* чэш. *vrčeti, vrkati* і г. д.). Гл. Фасмер, 1, 296—297, 298.

**Ве́рацень** 'гоні' (Жд., 2, Яшк.), *вераце́нь* 'загон' (Сцяшк. МГ). Параўн. *вератні́к* 'частка поля' (Касп.); 'доўгі загон' (Яшк., Сцяшк. МГ). Таго ж паходжання, што і *вераце́я* (г. зн. звязана з **vьrtěti: *vertьnь*).

**Вераце́я** 'ўзгорак сярод балота' (Касп.); 'падрыхтаванае пад поле месца; вугал або клін поля' (Яшк.). Рус. *верете́я, вере́тье, вере́тия* і г. д. Падрабязны агляд форм і этымалогію ў рус., бел. і славен. мовах дае Талстой (Геогр., 129—134). Слова лічыцца звязаным з слав. **vьrtěti* (:**vertьje, *vertьja*). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 297.

**Верацёльніца** 'доўгі дажджавы чарвяк' (Шат.). Параўн. *верацённік* 'змяя' (Сцяшк. МГ). Да *верацяно́* (назва дадзена па форме).

**Верацяно́.** Ст.-рус. *веретено,* рус. *веретено́,* укр. *верете́но,* польск. *wrzeciono,* чэш. *vřeteno,* ст.-слав. **врѣтено,** балг. *вретéно,* серб. *врѐтено.* Прасл. **verteno* 'верацяно'; 'вось'. Утварэнне ад і.-е. кораня **u̯ert-* 'вярцець' з поўнай ступенню вакалізму (параўн. *вярце́ць, варо́чаць, варо́ты* ад таго ж кораня, але з іншым вакалізмам). Гл. Фасмер, 1, 297.

**Верашча́ка,** *варашча́ка* і т. п. 'мясны адвар з рабрынкамі, каўбасой, мясам, падбіты мукой' (БРС, Нас., Шат., Сцяшк. МГ, Вешт.). Параўн. рус. *вереща́га, вереща́нка* 'яешня'. Польск. *wereszczaka* 'тс' запазычана з бел. мовы. Брукнер (606) лічыць, што гэта «od wrzasku», *верашчання.* Таксама Даль («верещит, шипит на сковороде») і Фасмер 1, 298. Іншае тлумачэнне ў матэрыялах Карловіча: «Wereszczak był to sławny kucharz Augusta III, a od niego nazwa co do sposobu dawania kiełbasy» (гл. Карловіч, 4, 91).

**Верашча́ць** (БРС, Нас., Касп., Шатал.). Да прасл. **verščati* 'тс' — утварэння да **verskъ* 'вераск'. Гл. *ве́раск.*

**Верая́** 'шулы, на якіх вісяць дзверы' (БРС, Касп., Арх. Бяльк.); 'слуп, на які навешваюцца вароты' (Гарэц.), *верая́* 'тс' (Шн.), *віра́я* (Рам.), *верія́* 'саха ў студні з жураўлём' (ДАБМ, 808). Параўн. і *вары́йка* 'перакладзіна, жардзіна, якой закрываюць вароты' (Лысенка ССП). Рус. *верея́* 'касяк, слуп у дзвярах,варотах', укр. *веpе́я* 'вось, на якой ходзяць дзверы', ст.-рус. *верѣя,* ст.-слав. **верѣꙗ**, славен. *veréja* 'дзвярны касяк', чэш. *veřeje,* славац. *veraj,* польск. *wierzeja.* Прасл. **verěja (*vereja?, *verajь?, *veraja?).* Параўн. слав. **vorъ* 'шула, жардзіна', **verti* 'закрываць; адкрываць і да т. п.' (гл. *варо́ты*) (Фасмер, 1, 298; Траўтман, 351—352). Параўн. яшчэ *верая́* 'ўзгорак' (Яшк.), якое, бясспрэчна, звязана з *верая́* 'шула, слуп' (Яшкін прыводзіць з Слаўгарадчыны *верая́* 'ўзгорак; вароты з дзвюх палавін; шула, слуп').



**Ве́рвы** мн. л. 'вяроўка, на якой вісіць калыска' (КЭС). Рус. *вервь,* ст.-рус. *вьрвь* 'вяроўка', ст.-чэш. *vrv,* ст.-слав. **връвь,** славен. *vŕv.* Прасл. **vьrvь.* Роднаснае: літ. *virvė̃* (падрабязней гл. пад *вяро́ўка*) (Фасмер, 1, 294—295). Параўн. яшчэ *вэ́рвэ́чка* 'аборка ад лапця' (Бесар.).

**Верлаво́кі** 'лупаглазы, касаглазы' (Др.-Падб., Гарэц., Нас., Касп., Лысенка ССП). Гл. *варлаво́кі.*

**Ве́рлык** 'бялок вока' (Касп.). Параўн. *варлаво́кі.* Іншую этымалогію для ўсёй групы слоў дае Куркіна, Этимология, 1970, 100—102.

**Верх.** Ст.-рус. *вьрхъ,* рус. *верх,* укр. *верх,* польск. *wierzch,* чэш. *vrch,* ст.-слав. **врьхъ**, балг. *връ̑х,* серб. *вр̑х* і г. д. Прасл. **vьrxъ* 'верх, вяршыня' (<**vьrs-*) — ступень рэдукцыі да і.-е. **u̯ers-* 'паднімацца і да т. п.' (<**u̯er-s-*): літ. *viršùs,* лат. *vìrsus* 'верх, верхняя частка', грэч. ἕρμα 'скала, вышыня' (**u̯erma*), лац. *verrūca* 'ўзвышэнне; бародаўка, нарыў' (<**versūca*), ст.-інд. *varšman-* 'вышыня, горка, вяршыня' і г. д. Слав. **vьrxъ* — назоўнік асноў на *-й* (параўн. літ. *viršùs,* лац. **versū-ca,* ст.-слав. прыслоўе **връхоу** і да т. п.). Гл. Фасмер, 1, 301—302.

**Ве́рхнік**[1] 'адтуліна для дыму ў столі курнай хаты, якая выкарыстоўваецца ў якасці коміна' (мін. Зял., 2, гродз. Шн., 3). Рус. пск. *ве́рхник* 'адтуліна ў столі ў курных хатах'; 'акенца ў адрыне', свярдл. 'юшка ў коміне'. Адпрыметнікавае ўтварэнне пры дапамозе суф. *-ік,* якое (у дадзеным выпадку) абазначае прадмет паводле яго якасці. Да *ве́рхні* (гл.). Параўн. *вяршок*[4] (гл.).

**Верхні́к**[2] 'верхні камень у жорнах' (Інстр. III, полац., КЭС). Укр. *верхня́к,* рус. перм., свярдл. *верхник,* польск. *wierzchniak,* славен. *vrhnják* 'тс'. Беларуска-паўночнаруская

ізалекса, якая ўзнікла шляхам семантычнай кандэнсацыі ад *верхні камень;* аналагічна *ніжнік* (гл.). Да *ве́рхні* (гл.).

**Ве́рхніца** 'верхняя кашуля' (Юрч.). Рус. том., кемер. *ве́рхница* 'верхняе адзенне, якое апранаецца паверх касцюма, сукенкі', вяц., табол. 'доўгая шырокая мужчынская кашуля', свярдл., перм. 'льняны сарафан з грубага палатна', серб. *вр̏хња,* славац. *vrchnica* 'жаночая сукенка'; 'жаночая кашуля без рукавоў з даматканага льнянога палатна'. Паўночнаславянская ізалекса, утвораная пры дапамозе суф. *-іц-а* (па ўзору *спадніца*). Да *ве́рхні* (гл.).

**Верцел** 'завостраная палка, на якой смажыцца мяса' (КТС). Відавочна, запазычана з рус. *ве́ртел* 'тс'. Гл. таксама *вярцёл.*

**Ве́рцень** 'вецер; нячыстая сіла' (Мат. Гом.). Персаніфікаваная назва ветру, паводле яго магутнай наднатуральнай сілы, утвораная ад *vьrtěti* і суф. *-ьп'ь* (як *студзень, пярэварацень*); параўн. таксама рус. перм. *ве́рте́нь* 'гарэза, свавольнае бойкае дзіцё'.

**Верціхвост** 'разнавіднасць вераб'я' (КТС). Укр. палес. *вэртыхвӣстка* 'сітаўка'; 'пліска'. Да *вярцець* і *хвост* (гл.). Аналагічна ў іншых слав. мовах: рус. *вертише́йка, вертиголо́вка,* укр. *вертигу́зка,* палес. *вêртыгôло́в,* серб. *вр̀тигуз, вр̀тиреп* 'сітаўка, Motacilla alba'. У выніку пераносу значэння ўтварылася міёр. *вярціхво́ст* 'непаседлівы чалавек, які ўвесь час снуе ўзад-уперад' (З нар. сл.). Сюды ж *верціхвостка* 'назва птушкі', а таксама 'шалахвостка (пра жанчыну)'. Аналагічна рус. *вертихвостка* 'тс' і ўкр. *вертихвістка* 'ветрагонка'.

**Верцішыйка** 'круцігалоўка, Jynx torquilla' (Інстр. II). Утварэнне, аналагічнае да папярэдняга. Да *вярцець* і *шыя* (гл.).

**Верць!** — выклічнік, які азначае 'рэзкі паварот, хуткасць руху' (КТС, Мядзв.). Укр. *верть,* рус. *верть,* серб. *вр̏ц* 'тс'. Адваротнае ўтварэнне ад **вертети* па аналогіі да дзеясловаў, якія перадаюць гукаперайманні.

***Верцяла,** зах.-палес. *верт'ола́* 'вір у рацэ, возеры; на месцы, дзе б'е крыніца' (Яшк.). Узнікла ў выніку пераносу значэння; параўн. славац. *vrtielka* 'ўсё, што круціцца', макед. *вртелка* 'матавіла'<*vьrtěti* 'круціць' (Талстой, Геогр., 225).

**Ве́рцяха** 'макацёр' (Сцяшк. МГ), гродз. *верцеха* 'тс' (Шн., 3), камянецк. *вэрцюха́* 'вялікая гліняная міска' (Шатал.), драг. *вэ́ртяга* 'макацёр' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), бяроз. *вэртэга́* (Шатал.). Укр. *вертьо́га* 'род посуду', польск.



*wiercioch* 'таўкач, качалка, якімі труць што-небудзь у посудзе'. Пашырана на бел.-укр. тэрыторыі. Узыходзіць да *vьrtěti* (*vr̥těti*) 'круціць'. Утворана пры дапамозе суф. Nomina agentis *-ęga;* пазней лексема стала абазначаць вынік дзеяння і злілася з назоўнікамі з суф. *-оха (-ёха),* набыўшы адценне экспрэсіўнасці. На гэтай жа тэрыторыі вядома лексема *вярцёха* (гл.).

**Верч,** *ве́рчик* 'скрутак вычасанага льну ці канапель' (Уладз.), *верч* 'скрутак лыка' (Шат.), мсцісл. 'лазовы скрутак, запечаны ў цесце' (Рам., 8); 'скрутак' (Жд., 2, Мат. Гом.), *верч, верчык* 'скрутак лазы, дроту, кабелю і г. д.' (КТС, Шатал.); 'пшанічны хлеб, па-асобаму выпечаны і аздоблены, каравай', *верчык* 'баранак' (Растарг.). Укр. *ве́рчик* 'скрутак чаго-небудзь, 'плецены баранак', іншыя паралелі адрозніваюцца семантычна; параўн. с.-рус. *верчь, верча* 'ад прадзення, калі прадуць не верацяном, а закручваюць ніткі рукамі', дан. *верьч* 'скручаныя адходы льну', серб. *вр̏ч* 'гліняны збан, кухаль'. Узыходзіць да *vьrt-jь*<*vьrtěti* (Рудніцкі, 367).

**Верш** (Нас., БРС, КТС, Гарэц.), ст.-бел. *вершъ, виршъ* (з XVI ст.). Паходзіць са ст.-польск. *wiersz, wirsz* 'верш'<лац. *versus* (Булыка, Запазыч., 61), а не з лац. непасрэдна, як сцвярджае Насовіч (49).

**Ве́рша** 'прылада лавіць рыбу' (БРС, Гарэц., Сцяшк. МГ); 'венцер' (Мат. Гом.); 'рыбалоўная прылада з дубцоў або дроту (ніцей) з конусападобным уваходам' (КТС, Крыв., Шатал.). Укр. *ве́рша* 'сплеценая з лазы рыбалоўная прылада, якая мае форму лейкі', рус. *ве́рша,* арханг. *верш,* польск. *wiersza,* даўн. *wirsza,* в.-луж., н.-луж. *wjerša,* чэш. *vrše* 'тс', славац. *vrša, vrška* 'прылада для лоўлі рыб, птушак', славен. *vrša,* серб.-харв. *вр̑ш, вр̑ша, вр̑шка, вр̑шва,* балг. *връша,* макед. *врша* 'рыбалоўная прылада, верша'. Прасл. *vьrža*<*vьrz-ja* ад *vьrzti* 'вязаць'<**u̯erĝ'h-si̯a* (Покарны, 1154; Траўтман, 355; Махэк$_2$, 701), а не ад *vьrša*<*vьrx-ja,* як сцвярджаюць Фасмер, 1, 302; Шанскі, 1, В, 70; КЭСРЯ, 57; Рудніцкі, 367, і не звязана са ст.-слав. **врѣщи** 'малаціць' (Праабражэнскі, 1, 78).

**Вершадзь** 'вяршыня вугла' (Дуж-Душ.). Новаўтварэнне (з XX ст.) ад *vьrx-jь* і абстрактнага суф. *-'adь;* параўн. бел. *мокрадзь.*

**Вершалі́на** 'вяршаліна дрэва' (жыт., Мат. Гом.), парыц. 'верхняя частка дрэва з суччам' (Некр.); 'барана, ад сахі' (Сержп.). Літар. *вярша́ліна* (БРС). На бел. тэрыторыі пад уплывам балтыйскага кораня *-х-* перайшло ў *-ш-*; параўн. літ.

*viršēlis* 'верхавіна, века, вокладка' (<**vĭršala-*). У зах.-слав. мовах *vьrxolъ*, якое Трубачоў (Проспект, 89—90) адносіць да прасл. дыялектызмаў. Старажытнасць слова пацвярджаецца балг. *връшлé* 'верхняя частка расліны'. Суф. *-іна* ў бел. *вершаліна* надае значэнне адзінкавасці.

**Вершкаванне** 'зрыванне верхніх суквеццяў і падчышчванне ніжняга лісця ў некаторых сельскагаспадарчых культур' (КТС). Запазычана з рус. літар. *вершкование*.

**Вершнік** 'коннік, верхавы' (Яруш.). Укр. *вéршник* 'чалавек, які едзе на кані', паўн.-рус. *вéршник* 'коннік'. У бел. мове кніжнае, запазычанае, відаць, са ст.-рус. *вершникъ* 'коннік' (з XVI ст.). У рус. гаворках роднаснымі з'яўляюцца *вéршний, вершнóй* 'верхні, коннік', табол. *вéршна* 'спіна каня' (СРНГ, 4, 176). Лексема ўзнікла ў выніку субстантывацыі прыметніка *vьrxьnъ*.

**Вершнячкí** мн. л. 'верхнія фіранкі' (Мат. Гом.) утворана ў выніку пераносу значэння паводле сумежнасці; параўн. *вяршнíк* 'верхні вушак у акне' (гл.).

**Вершчáка** (Нас.). Да *верашчáка* (гл.).

**Верыдаваць** 'вяршыць, кіраваць, выклікаючы незадавальненне асяроддзя' (КТС, Р. Сабаленка). Укр. *вередувáти*, рус. кур., арл., смал., кубан. *вередовáть* 'праяўляць незадавальненне, быць капрызным, наравістым'. Дзеяслоў уваходзіць у руска-украінскі моўны арэал; параўн. шматлікія дэрываты ад укр. *веред*, рус. *верéда, вред*, якія ўзыходзяць да прасл. *verdъ*.

**Верыйня́** 'верая; шулы, да якіх прымацоўваюцца вароты' (Бяльк.) утворана пры дапамозе суф. *-ня* ад *верая* па аналогіі да Nomina loci; параўн. *варыйня* і інш.

**Вéрыць** 'быць цвёрда перакананым, давяраць камунебудзь; быць рэлігійным' (КТС, БРС). Да *вéра* (гл.).

**Вер́эя** 'верая' (Сцяшк. МГ), *верая́* 'шула, слуп у плоце' (БРС), укр. *верея́* 'шула; вось, на якой ходзяць дзверы', рус. *верея́*, сарат. 'шула ў дзвярах, якое падтрымлівае страху хлява', валаг. 'слуп у дзвярах', бранск., разан. 'трама, бэлька', арханг. 'шула азярода', свярдл. 'вертыкальная вось матавіла', паўн.-дзвін. 'абарачальны слуп у весніцах', арханг. 'дзверцы ў плоце', ст.-рус. *верея* 'бэлька, брус'; 'шула'; 'жардзіна, якою закрываюць вароты', польск. *wierzej* 'аднастворкавая брамка', *wierzeja* 'двухстворкавая брамка з дошак'; 'дзверы ў гумне', ст.-польск. *wierzejny* 'агульны, адкрыты', чэш. *veřejný* 'тс', *veřej(e)* 'палавінка дзвярэй', славац. *veraj*, *verej* 'створка дзвярэй, варот', *veraje* 'вушакі', славен. *veréja* 'слуп, вушак' і ст.-слав. **верѣꙗ** 'засаўка'. Прасл. лексема, утвораная ад *ver-* (>*ver-ti* 'закрываць, замыкаць, заціскаць') пры дапамозе суф. Nomina agentis ж. р. *-ěja*. Мае і.-е. адпаведнікі: літ. *vařtai* 'дзверы', оск. *veru* 'вароты', ст.-інд. *vṛtiḥ* 'плот, агароджа', лац. *aperio* 'адчыняю' (гл. Развадоўскі, Wybor, 2, 205; Траўтман, 352; Вальдэ, 50; Фасмер, 1, 298; ЭСРЯ, 1, В, 29; Махэк, 684).



**Весá** 'вага' (драг., КЭС) <з рус. *весы́* 'вага' <весить (Фасмер, 1, 303).

**Весажóр** 'сузор'е ў сем зор', *вісажы́р, вісыжáр* 'сузор'е' (Бяльк.), зах.-палес. *высожáр* 'Плеяды' (Маш., Atlas, 3); рус. кур., дан., тул., калуж. *весожáры* 'сузор'е', дан. *весожáры, висожáры* 'Плеяды', калуж. *висожáры*, урал. *висожáр* 'сузор'е Вялікай Мядзведзіцы', смал. *вышезáр* 'сузор'е Малой Мядзведзіцы'. Складанае слова ад *віс-* (параўн. рус. вяц., каз. *ви́сы* 'валасы', новасіб. 'апоўзіны') і *-жар* (усячэнне ад *стожар*). Гэта слова, як і роднаснае *валасажáр* (гл.), узнікла ў выніку налажэння двух слоў з хісткай семантыкай, якая датычыць назваў сузор'яў і зорак; параўн. балг. *власи́* 'валасы', 'сузор'е Цяльца' і рус. *стожары* 'Плеяды'; 'Вялікая Мядзведзіца'.

**Весаўшчы́к** 'вагаўшчык' (Яруш.), укр. *висовщик*<рус. *весовщик* 'тс'.

**Веселавáты** 'трохі вясёлы' (КТС). Ад *вясёлы* і суф. *-突ават-ы*, які азначае непаўнату прыкметы азначальнай асновы.

**Веселатá** 'стан весялосці' (Шат.) — прасл. адпрыметнікавае ўтварэнне. Да *veselъ*>*вясёлы* (гл.).

**Весілка** 'ручка (чайніка)' (КТС). Да *вясло́*$_2$ (гл.).

**Весіць**$_1$ 'вешаць' (КТС), рус. паўн. *вéсить* 'тс', польск. *-wiesić* (ст.-польск. *wiesić*>*wieszac*), в.-луж. *wjesyć*, н.-луж. *wjesyś*, чэш. *věsiti*, славац. *vesit'*, славен. *vésiti* 'вешаць', макед. *веси*, балг. *веся* 'вешаць на шыбеніцы'. Прасл. *věsiti*. Чаргаваннем звязана з *вісéць* (гл.).

**Весіць**$_2$ 'важыць' (КТС) запазычана з рус. мовы; параўн. рус. *весить* 'важыць', укр. *вісити*, якое паходзіць з *вéсіць*$_1$.

**Веславáць** 'гнаць лодку вяслом, грабці вёсламі' (Янк. I, БРС, КТС), докш. *віславáць* 'тс' (Янк. Мат.). Укр. *весловати*, польск. *wiosłować*, н.-луж. *wjasłowaś*, чэш. *veslovati*, славац. *veslovat'*, славен. *vesláti*, серб.-харв. *вѐслати*, макед. *весла*, балг. *весля́, веслувам* (рэдка). Наяўнасць суфікса *-ова-* ў

зах.-слав. мовах дае падставу меркаваць, што бел. (як і ўкр.) *весламаць* запазычана з польскай мовы.

**Весланóгія** мн. л. 'атрад вадаплаўных птушак, пальцы ў якіх злучаны перапонкамі; атрад ніжэйшых ракападобных' (БРС, БелСЭ). Запазычана з рус. *веслоногие* або з польск. *wiosłonogie* 'тс'. З'яўляецца калькай з лац. навуковага тэрміна *Steganopodes*<грэч. στεγανόπους, -ποδος 'з перапонкамі на лапах'.

**Вéсліца** 'лесвіца' (Мат. Гом.) у выніку метатэзы з *лéсвіца* (гл.).

**Веснавéй** (паэт.) 'веснавы вецер' (КТС) — новаўтварэнне ад *вяснá* (гл.) і *вей* (<*веяць*). Сюды ж *веснавейны, веснавеяць*.

**Веснавóе** 'рунь' (добр., Мат. Гом.), рус. свярдл. *веснá* 'рунь, усходы азімага жыта'. Да *вяснá* (гл.). Як правіла, рунь абазначае 'ўсходы азімых', на поўдні ж Беларусі *рунь (урýна, врýно, урýнь)* 'усходы збожжавых восенню і вясной'. *Яр, ярына* маглі, відаць, абазначаць не толькі вясеннія ўсходы, але і ўсходы азімых. Тады *веснавóе* выцясняе *яравóе* як ідэнтычнае ў адрозненне ад *яравых* 'яравых раслін'.

**Веснавы** 'вясенні' (КТС) — прыметнік да *вяснá*, утвораны таксама, як і *зімовы*, пры дапамозе суф. *-ов-ы*. Інакш больш старажытным (паводле словаўтварэння) можна лічыць *вéсні* (гл.).

**Веснаплынь** (паэт.) 'пачатак вясны' (КТС, П. Трус) — новаўтварэнне ад *вяснá* і *плынь* (гл.).

**Веснаўскі** 'вясенняе парасё' (КТС, Я. Ермаловіч); польск. *wiosnować* 'даглядаць вясной', *wiośniak* 'той, што нарадзіўся вясной'. Да *вяснá* (гл.).

**Веснаход** (паэт.) 'хада вясны, надыход светлых, радасных падзей, з'яў' (КТС); 'назва арганізацыі маладых пісьменнікаў і мастакоў Заходняй Беларусі' (з 1927 г.). Да *вяснá* (гл.) і *ход* (гл.).

**Веснацвет** (паэт.) 'веснавая пара, калі краскі пачынаюць буйна цвісці' (КТС, М. Хведаровіч). Новаўтварэнне ад *вяснá* (гл.) і *цвет* (гл.).

**Веснашум** (паэт.) 'радасны надыход вясны, новых падзей' (КТС, М. Машара). Да *вяснá* (гл.) і *шум* (гл.).

**Весні** 'вясновы, вясенні' (КТС, Сцяшк. МГ), ст.-рус. *весьнии* (мн.), чэш. *vesní* 'тс'. Старажытнае ўтварэнне ад *vesn-a* і суф. *-jь*. У сучаснай бел. мове *весні* мае народна-паэтычнае адценне; літаратурным лічыцца *веснавы́*, дыял. *вясéнні* ўзнікла па аналогіі да *асенні*.



**Вéснік** 'вястун' (КТС); 'бюлетэнь, часопіс' (БРС). Укр. *вісник*, рус. *вéстник* 'тс', ст.-рус. *вѣстникъ* 'вястун, ганец' (з X ст.), в.-луж. *wěstnik* 'вястун, прадвеснік', чэш. *věstník* 'вястун; бюлетэнь' (<рус. *вéстник*), серб.-харв. *вȅсник, вѐсник, вê̄сник* 'вястун; газета, часопіс', макед. *весник* 'ганец, вястун; газета', балг. *вестник* 'газета', ст.-слав. **вѣстникъ.** Бел. *веснік* 'часопіс' запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 63).

**Вéснікі** мн. л. 'вароты ў двор, зробленыя з дошак або з лазы' (карэліц., Янк. Мат.), *вéсьнікі* 'вароты' (Касп., Чач.), *віе́сьнікі* 'шырокія вясковыя вароты, брамка' (Мал.), вілен., мін., гродз. *вéснікі* 'простыя вясковыя вароты', *вéснічкі* 'вузкія, як прайсці чалавеку, дзверы ў плоце, варотцы' (КТС). Рус. перм. *вéшники* 'праходы ў плацінах для выпуску лішняй вады', вяц., кір. *вешникú* 'тс', перм. 'слупы ў гэтых праходах', ярасл. 'вяршнік у веснічках', польск. *wieśnik* 'весніцы ў канцы вёскі'. Паходзіць ад *vьsь* 'вёска'; звычайна лексема ўжываецца з суф. *-ніц-ы* (гл. *вéшніцы*), суфікс *-нік(і)* можна растлумачыць уплывам семантычнай сувязі з *вéснік* (гл.): вароты ў пачатку вёскі былі першым сведкам і вестуном таго, што ў вёску прыбываў новы, незнаёмы чалавек.

*****Веснінá,** *вэснинá* 'вясенняе ворыва' (палес., Выг.). Утворана пры дапамозе суф. *-ін-а* ад **веснаваць*. Аналагічна ў паўн.-рус. гаворках назвы для работ, якія выконваюцца вясной: *вéснинá* 'воўна, якую настрыглі з авечак у маі або летам', пск. 'сняткі вясенняга ўлову', арханг. *весновáнье* 'паляванне на марскіх звяроў вясной', пск. *вешница* 'вясенняе ворыва', арханг. *вёшня* 'вясенняя сяўба', укр. *веснування, весновáнє* 'правядзенне веснавых палявых работ', польск. *v'osna* 'вясеннія палявыя работы', серб. *прòлетина* 'вясенняя сяўба'.

**Весніць** (паэт.) 'рабіць вясёлым, вясеннім, марыць аб надыходзе нечага вясёлага, шчаслівага', *весніцца* (паэт.) 'буйнець, разгарацца, станавіцца вясёлым'. Новыя адыменныя ўтварэнні (КТС); параўн. аналагічна ў польск. *wiosnować się* 'адмалоджвацца, аднаўляцца', *wiosnować* 'квітнець', чэш. *jařiti* 'станавіцца буйным, вясёлым, хуткім, рэзкім', *rozjařuje se* 'прыходзіць (аб вясне)', укр. *весніти* 'ўступаць у сілу (аб вясне), расцвітаць'. Да *вяснá* (гл.).

**Вéсніцы** 'плот з варотамі ў канцы вёскі' (БРС, КТС), петрык. *весніца* 'тс' (Мат. Гом.), маг., бабр., саліг. *вéсніцы//вéш-*

*ніцы* (Бір., Шат.), усх.-палес. *вешніца, вешніцы* 'тс' (Нар. сл.), *весьніцы, вес'н'іцы* 'вароты ў двор' (БРС, Арх. Бяльк., Сцяц. Нар., КТС, Сцяшк. МГ); 'вароты з перакладзін' (Шат.); 'варотцы, фортка' (Сцяшк. МГ), зэльв. 'вароты ў загарадзе, хляве'; 'рэдкія зубы' (Сцяц.). Рус. пск. *вешница* 'вясковая вуліца, зарослая травой'; 'агароджаны ўчастак сялянскай сядзібы, дзе пасуць коней', польск. *wieśnice* 'вароты, якія вядуць у вёску, весніцы', *wieśnica* 'вуліца з двара ў вёску', чэш. *vesnice* 'вёска'. Лексема ўтворана ад прыналежнага прыметніка *vьsь-пь* і суф. *-ica* (<*vьsь* 'дом роду') і абазначала спачатку '(агароджанае) месца, дзе знаходзіліся ўсе будынкі роду'. З'яўленне *-ш-* замест *-с-* ва ўсх.-бел. формах абумоўлена наступным палатальным *н'*, а не тым, што лексема паходзіць ад *вешаць* (параўн. П. Сцяцко, Нар. лекс., 14). Гл. *веснікі*.

**Весны** 'вясенні, вясновы' (КТС). Узыходзіць да ст.-рус. *весный* (<*ves-пь-jь*) 'вясенні' (з XIII ст.). Можна меркаваць, што формы на *-пъ* з'яўляюцца больш новымі, чым на *-пь*. Наяўнасць ст.-рус. *вешный* 'тс' (з XVI ст.) сведчыць пра выраўноўванне *-сн-* у *-шн-* паводле ўзору з мяккай асновай (*ves-пь-jь*<*veš-пь-jь*). Параўн. таксама *вéсні* (гл.).

**Вест** 'захад, заходні вецер' (КТС, БРС) запазычана праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 82)<гал., н.-ням. *west* 'захад, заходні' (Фасмер, 1, 304).

**Веставаць** (паэт.) 'паведамляць, абвяшчаць' (КТС, Н. Чарнушэвіч) — новае ўтварэнне ад *вéстка* накшталт ст.-рус. *вѣстовати* 'тс' (з XVI ст.).

**Веставі́** 'ардынарац, пасыльны' (БРС, КТС); 'кур'ер, лістаносец, паштар' (Бяльк.), укр. *вістовúй, вістовúк*, рус. *вестовóй* 'тс', чэш. *věstový* (з рус. мовы; Траўнічак, 1643). З'ўляецца вынікам ад'ектывацыі на ўсходнеславянскай глебе; параўн. таксама ст.-рус. *вѣстовой* 'вястун, пасланец, апавяшчальнік, сігнальны' (з XVII ст.).

**Вестгóты** 'заходняе адгалінаванне готаў, якія жылі на тэрыторыі сучаснай паўднёва-заходняй Прыбалтыкі, а ў III—IV стст. рассяліліся паміж Днястром і панізоўем Дуная' (КТС). Запазычанне з рус. *вестгóты* (<ням. *Westgoten*<*visigothi*).

**Вéстка** 'паведамленне, весць' (БРС, КТС, Яруш., Касп., Растарг.), памянш. *вестачка* (КТС), укр. *вíстка* 'тс', рус. *вестка* 'весць, вестачка', ст.-рус. *вѣстка* (з XVI ст.). Усх.-слав. утварэнне ад *вѣст-*. У бел. мове суф. *-к-а*, відавочна, па аналогіі да *чýтка*. Гл. таксама *весць*.



**Вестыбуля́рны** *(апарат)* (анат.) 'пераддзвер'е, частка ўнутранага вуха' (БРС, КТС). Запазычана, відаць, з рус. мовы. Узыходзіць да лац. *vestibulum* 'пляцоўка перад домам, прысенак' (Лёхін, 138).

**Вестыбюль** 'пярэдні пакой, пярэдняя пры парадным уваходзе ў памяшканне' (КТС, БРС). Сюды ж *вестыбюльны*. Нядаўняе запазычанне з рус. *вестибюль*<франц. *vestibule* 'сенцы, пярэдняя'<лац. **ver-stibulum* 'ахоўваемы ўваход, сенцы' (Шанскі, 1, В, 75; БЕР, 1, 137; Голуб — Ліер, 505).

**Вéсці** 'накіроўваць рух каго- або чаго-небудзь'; 'будуючы, пракладваць у пэўным парадку'; 'мець пэўны напрамак'; 'хіліць на што-небудзь, адольваць'; 'хіліць убок ад хваробы, ап'янення' (КТС, БРС, Касп.); 'цягнуць' (БРС); 'валаводзіць', *весьці брэдню* 'трызніць' (Касп.), *вясьці злосьць* 'доўгі час злавацца, гневацца, помсціцца' (КЭС, лаг.), навагр. *весьці дзіця* 'нарадзіць дзіцё' (Кл., КТС). Ужываецца таксама з прэфіксамі: *аб-, вы-, да-, з-, на-, пера-, пры-, раз-, у-* і інш. у розных значэннях. Сюды ж *весціся* 'адбывацца, ажыццяўляцца, праводзіцца'; 'жыць, пладзіцца'; 'быць звычаем, падтрымлівацца'; 'цягнуцца кім- або чым-небудзь' (КТС, БРС); 'цягнуцца патроху'; 'шанцаваць у жыцці' (КЭС). Прасл.: укр. *вести* 'весці; спяваць, цягнуць голасам; размаўляць; прасці, выводзіць нітку; камандаваць, распараджацца', *вестися* 'весціся', рус. *вести* 'весці, супраўваджаць, памагаць ісці; рабіць, здзяйсняць; кіраваць, быць загадчыкам', арханг. 'дзьмуць, пранікаць усюды (аб ветры)', валаг. 'раставаць (аб снезе); уздымацца (аб цецсе)', арханг. *вести свадьбу* 'спраўляць вяселле', польск. *wieść* 'весці, быць на чале; быць уваходам куды-небудзь', *wieść się* 'шанцаваць, паходзіць', каш. *vjesc*, в.-луж. *wjesć* 'весці', *wjesć so* 'паводзіць сябе; мецца', чэш. *vésti* 'супраўваджаць, паказваць дарогу; кіраваць, быць загадчыкам, быць на чале; мець кірунак', *vésti se* 'мецца, шанцаваць', славац. *viest'* 'даваць кірунак, накіроўваць'; 'супраўваджаць, прыводзіць'; 'весці эскортам'; 'весці каналам (ваду, нафту)'; 'кіраваць (машынай, караблём)'; 'пракладваць' і 'кіраваць, весці дзейнасць'; 'выконваць пэўную работу'; 'праводзіць (цяпло, электрычнасць)'; 'весці размову, дэбаты' і інш., *viest' sa* 'мецца, шанцаваць', славен. *vêsti* 'весці; дапамагаць; служыць чаму-небудзь'; 'выгадна прадаць', *vêsti se* 'трымаць, паводзіць сябе', серб.-харв. *вòдити* 'весці', макед. *води*, балг. *водя*, ст.-слав. **ведѫ, вести** 'тс'. Выступае ў асновах **ved-/*vod-* і **vad-*. Мае адпаведнікі ў балтыйскіх мовах: літ. *vèsti, vedù* 'весці; кіраваць, быць на чале чаго-небудзь; жаніцца з кім-небудзь; прыносіць, нараджаць', лат. *vest, vedu* 'весці'; 'вадзіць (ма-

шыну)', *vesties* 'шанцаваць, добра ісці (аб рабоце)', ст.-прус. *weddē* 'вяду', а таксама ў ірл. *fedid* 'вядзе', ст.-перс. *vādajeiti* 'вядзе, цягне'. Такім чынам, прасл. *vedti (dt>tt>st)* утворана пры дапамозе суф. *-ti* ад асновы *ved-*, якая ўзыходзіць да і.-е. кораня **uedh-* (Фік, 1, 4, 129; Уленбек, 269). Гл. таксама Фасмер, 1, 284; ЭСРЯ, 1, В, 74—75; Голуб — Копечны, 413; Брукнер, 619; Махэк₂, 685; БЕР, 1, 170.

**Весціна** 'вестка, паведамленне' (КТС, П. Броўка). Нова-ўтварэнне (ад *весць* і суф. *-іна*). Паводле аналогіі, да *навіна*.

**Весць** 'паведамленне, вестка' (КТС, БРС, Яруш.), *весьць* 'весці, навіна' (Бяльк., Кр.), укр. *вість*, рус. *весть* 'тс', ст.-рус. *вѣсть* 'вестка, навіны, чуткі; плёткі; знак, сігнал', ст.-слав. **вѣсть**, польск. *wieść* 'паведамленне, вестка; легенда, паданне', каш. *vjesc*, н.-луж. *wěsc* '(па)знанне, веды, вестка', в.-луж. *powěsć* 'паведамленне, вестка'; 'аб'ява, плёткі, слава', чэш. *věst* (<рус. *весть*), славац. кніжн. уст. *vest'*, славен. *vę̂st* 'уменне, веданне', серб.-харв. *вȇст, vȉjest* 'паведамленне, вестка, чутка', макед. *вест*, балг. *вест* 'тс'. Прасл. лексема, якая ўтварылася пры дапамозе суф. *-tь*, далучанага да асновы *věd-* (<*věděti*): *věd-tь>věttь>věstь* (Фасмер, 1, 304; Праабражэнскі, 1, 108; Шанскі, 1, В, 75; Траўтман, 338; БЕР, 1, 137). Роднаснае са ст.-інд. *vitti-*, авест. *visti* (<і.-е. **woidti-s*).

**Весь** 'вёска' (Гарэц.). Гл. *вёска*.

**Весялéц** 'журавель' (Мат. Гом., КСТ) разам з польск. *wesełyk* 'назва жураўля' (Варш. сл.) і ўкр. *весéлик* складаюць вузкі арэал, дзе гэта эўфемістычная назва, відавочна, даволі старая. Тое ж і ў Б. Грынчанкі: «Назва жураўля, якую трэба ўжываць замест *журавель* тады, калі гэтыя птушкі прылятаюць вясной, інакш будзеш журыцца цэлы год» (Грынч., 1, 141). Польск. *wiesiołek* 'асліннік, Oenothera' і 'скрыпень, Epilobium' не звязана з бел. *весялец*. Гл. *васілéц*.

**Весялéць** 'станавіцца вясёлым' (КТС, БРС), укр. *веселíти*, рус. *веселéть*, польск. *weseleć*, уст. *wiesielić* 'станавіцца вясёлым'; (паэт.) 'праслаўляць', славен. *veselę́ti>veseliti* 'радаваць'. У значэнні 'станавіцца вясёлым' — гэта ўсходнеславянскі адпрыметнікавы дзеяслоў з суф. *-ěti* ад *вясёлы* (гл.).

**Весяліць** 'рабіць вясёлым, забаўляць, выклікаць весялосць', сюды ж *весяліцца* 'рабіцца вясёлым' (КТС, БРС, Касп.), укр. *веселити(ся)*, рус. *веселить(ся)*, ст.-рус. *веселити* (з XII ст.), польск. *weselić* (выходзіць з ужывання) 'весяліць, цешыць, радаваць', *weselić się* 'весела праводзіць час, радавацца' (ужывае А. Міцкевіч), в.-луж. *wjeselić so* 'радавацца', чэш. *veseliti se* 'быць вясёлым, весяліцца', славац. *veselit' sa* 'забаўляцца, радавацца, весяліцца', славен. *veseliti* 'рабіць задавальненне, весяліць, радаваць, захапляць, быць мілым', *veseliti se* 'радавацца, весяліцца, забаўляцца', серб.-харв. *весèлити(се)* 'тс', макед. *весели(се)* 'весяліць', балг. *веселя (се)*, ст.-слав. **веселити** 'тс'. Праславянскі дзеяслоў, які выражае стан, утвораны ад *veselъ* (гл. *вясёлы*) і суф. *-iti*.



**Весялун** 'вясёлы, жыццярадасны чалавек, жартаўнік' (глус., Янк. Мат.; КТС, БРС, Шат., Сцяшк. МГ), укр. *веселýн*, рус. алан. *веселýн* 'тс'. Усходнеславянскае ўтварэнне з суф. *-унъ*, якое з'яўляецца інавацыяй: на паўднёваславянскай тэрыторыі суфіксацыя іншая; параўн. славен. *veselják*, серб.-харв. *весѐљак, vesèljak*, макед. *веселко, веселник*, балг. *веселяк*, а таксама рус. *весельчáк, веселкó*, укр. *веселюх*. Сюды ж дэмінутыўн. перан. *весялунчык* 'жаўрук' (КТС, А. Кулакоўскі).

**Весялуня** (фальк.) 'весялуха' (КТС, Казкі і лег.) утворана ад адпаведнага назоўніка мужчынскага роду *весялýн* па аналогіі да *прыгажуня*.

**Весялýха₁** 'вясёлая жанчына, жанчына з вясёлым норавам, ахвотніца павесяліцца' (КТС, БРС, Янк. II, Сцяшк., КЭС); 'вясёлая старая жанчына' (Рас.), укр. *веселýха*, рус. пск., смал., маск., варон. *веселýха, веселýшка* 'вясёлая жанчына'. Утворана ад прыметніка *весел-* (<*vesel-ъ*) і эмацыянальна афарбаванага суфікса *-ух-а* (<*-их-а*).

**Весялýха₂** 'вясёлка' (КТС, ДАБМ, к. 312, Сцяшк. МГ, Некр., Янк. II, Яшк.), хойн., мазыр. *веселýха* 'тс' (Мат. Гом.), укр. *веселýха*, рус. смал., бранск., тул., арханг. *веселýха* 'тс'. Старая назва, утвораная ад *vesel-a* і экспрэсіўнага суф. *-ux-a*. Гл. таксама *вясёлка*.

**Весялуха₃** (жарт.) 'гарэлка' (КТС), укр. *веселýха*, рус. разан. *веселýха*, пск. *веселýшка* 'тс' — пераноснае ад *весялуха₁* (гл.).

**Весялуха₄** 'жартаўлівая кароткая песня, частушка', сюды ж *дýдка-весялýшка* (КТС). Рус. варон. *веселýшка* 'кароткая танцавальная частушка'. Пераноснае з *весялуха₁* (гл.).

**Весялуха₅** 'грыб' (лоеў., Мат. Гом.). Утворана пры дапамозе суф. *-уха* і *вясёлка;* параўн. слаўг. *вясёлка* 'апенька летняя, Kuehneromyces mutabilis' (Яшкін, вусн. паведамл.), узд. 'нейкі грыб з віду порхавак' (КЭС), якое, магчыма, з **вясёнка<вясенняя апенька*.

7. Зак. 1876

**Весялýха**$_6$ 'лес з павіслых бяроз, Betula pendula Roth.'; 'бярэзнік' (дубр., крыч., Яшк.), сюды ж лёзн. *весяльнік* 'лес з бяроз, Betula verrucosa Ehrh'. (Яшк.). Рус. пск., смал. *вясёлка* 'кучаравая бяроза з гладкімі бліскучымі лістамі', пск. *весёльнік* 'лес з маладых бярозак'. Да *вясёлы* (гл.): галіны бярозы і маладыя бярозкі выкарыстоўваюцца ў час вясенняга свята тройцы, ствараючы святочны настрой, радасць, весялосць.

**Весяльчак** 'весялун' (КТС), як і ўкр. *весельчáк,* запазычана з рус. *весельчáк* 'тс'.

**Весянчук** — паўднёвабеларуская назва маладых істот свойскіх жывёл і птушак, якія нарадзіліся вясной (КТС). Паходзіць ад *вясенні* і суф. *-чук,* які ўжываецца для ўтварэння назваў недарослых асоб.

**Вéта** 'забарона, адмена якіх-небудзь рашэнняў' (КТС, БРС). Паводле Крукоўскага, Уплыў, 80, запазычана з рус. мовы. У старабеларускіх помніках не адзначана; дзеяслоў *ветовати* 'пратэставаць, заяўляць' (з XVI ст.) паходзіць са ст.-польск. *wetować*<лац. *veto* 'не дазваляю, забараняю' (Булыка, Запазыч., 61; Брукнер, 607).

**Ветáж** 'паверх' (Жд., 2)<рус. *этáж* 'тс'; *в-* — прыстаўное.

**Вéтах** 'месяц апошняй квадры, на зыходзе' (КТС, БРС, Касп.), *ветых* (Яўс.), *веташок* (Нас., Касп., Юрч., Бяльк.), мін. *веташка* (Крачк.), *вётах, вётак* 'тс' (Касп., Нас., Маш., Atlas). Рус. *ветох:* смал. 'месяц'; 'месяц над гарызонтам', паўн.-рус. 'апошняя фаза месяца ў зеніце', ст.-рус. *ветъхъ, ветохъ* 'апошняя квадра месяца; апошні тыдзень месяца', польск. *wietek, wiotek* 'першая або апошняя квадра месяца', чэш. *vetech měsic,* валаш. *vetek,* ст.-чэш. *měsic je na vetchu,* славац. *na votoch* 'месяц на зыходзе'. Паўночнаславянская ізалекса, якая ўзнікла ў выніку кандэнсацыі прасл. *větъхъ měsenьcь;* параўн. чэш. *větech měsic, nov měsic* і інш. І.-е. паралелі гл. *ветхі.* Гл. таксама Траўтман, 365; Мюленбах — Эндзелін, 4, 517; Вальдэ$_2$, 830; Буга, РФВ, 67, 246; Эндзелін, Слав.-балт. эт., 52; Фасмер, 1, 307; Махэк$_2$, 687; БЕР, 1, 139; Шанскі, 1, В, 80. Гл. яшчэ *вятóх.*

**Ветачок,** *ветак* 'маладзік' (гродз., вілен., Нас.). Дэмінутыў ад *вéтах* (гл.), які прыводзіць да семантычных зрухаў: 'месяц на зыходзе'→'маладзік'. Народная этымалогія памылкова звязвае гэта слова з *ветка* 'галінка'; тое ж і ў Нас., які ўзводзіць яго да *вѣтвъ.*

**Веташ** 'старызна, рыззё' (КТС), укр. *ветошь* (запазычана з рус. *ветошь;* гл. Цімчэнка, 276), рус. *ветошь* і *вётошь:* варон. 'папар', пск. 'няўдобіца', алан. 'зарослая лесам паляна', паўн.-рус. 'леташняя трава', арханг. 'дробны бярэзнік', ст.-рус. *ветошь* 'старое рыззё, трухлявасць' (з XI ст.); 'гатунак тканіны з рэдкай асновай' (з XVII ст.), ст.-слав. **ветъшь.** Беларускае слова запазычана з рус. мовы (<ц.-слав. *ветъшь*<прасл. *vetъхъ;* Фасмер, 1, 307; Шанскі, 1, В, 79; БЕР, 1, 139; Праабражэнскі, 80).



**Ветка**$_1$ 'галінка' (Грыг., Рам., 6, Касп., Бяльк.), палес. *вітка, ветка* 'мяцёлка проса, аўса, грэчкі' (Выг., Шатал.), лаг. *вéтка* 'некалькі кветак, якія зрасліся разам; некалькі ягад на адной галінцы' (КЭС), укр. *вітка, віть, вітьва* 'галіна', палес. *віетка* 'тс', *в'єтка* 'гронка ягад, дробных пладоў, кветак', рус. *вéтка:* арл. 'сасновая галінка з шасцю канцамі, аздобленая лялькамі, пацеркамі, званочкамі', маск. 'бульбянік', краснадар. *вéтки* 'дрэвы', валаг., калін., арл., 'націна бульбы, гароху, гуркоў', пенз. 'мяцёлка аўса', пск., смал. *вéтка* 'вяха ля дарогі'; 'двое рабочых з тройкай коней на лясных промыслах', польск. *wietka* 'тс', *witka* 'галінка, лазінка; вусікі ў раслін', чэш. рэдкаўж. *větka* 'галінка', серб.-харв. уст. *вѐтка,* макед. *ветка,* балг. *ветка, ветчица* 'тс'. З'ўляецца праславянскім дыялектызмам з коранем *vět-* (з **u̯oit-*), які меў другую ступень чаргавання галоснага **vit-* (з **u̯eit-*); параўн. славін. *vjītev,* славен. *vîtva* і вышэй адзначанае польск. *witka,* якія звязваюцца са ст.-прус. *apewitwo, witwan* 'нізкая вярба', літ. *vytìs* 'лаза', лат. *vītnes* 'вусікі ў раслін', *vītols* 'вярба', грэч. οἶσος, οἰσύα (**voituva*), **ἰτέα (Ϝιτέα)** 'тс', лац. *vītis* 'лаза, вусік', ст.-в.-ням. *wîda* 'вярба', ст.-інд. *vajā* 'галіна', *vētasás* 'вадзяная павойная расліна, Calamus rotang', авест. *vaēiti* 'лаза' (Фасмер, 1, 306). У такім выпадку *vit-/vět-* з'яўляюцца роднаснымі з *viti, vьjǫ.* Аднак некаторыя славянскія формы з *-ě-* не маюць дзеепрыметнікавай зычнай *-t-*: славен. *vêja,* ст.-слав. **вѣꙗ** 'галіна', балг. *вейка* 'тс', *вей* 'хаціна, пакрытая галінкамі', *вейка, вѐйчица, вейник* 'тс', якія адносяцца этымолагамі да *viti* 'віць' (БЕР, 1, 129, 138; Рудніцкі, 1, 443) або да *věјati* 'веяць' (Голуб—Копечны, 414; Міклашыч, 387). Формы з *-к-а* з'яўляюцца дэмінутыўнымі ад *věta* (укр. *віта* 'галіна'). Бел. ***вйтка* 'тс'** (Нас.) паходзіць, відавочна, з польск.

**Вéтка**$_2$ 'чыгунка, якая адыходзіць убок ад асноўнай чыгуначнай магістралі' (БРС, КТС), з рус. *вéтка* 'тс'.

**Вéтла** 'лаза' (мазыр., Мат. Гом.), рус. літар. *ветлá* 'вярба, Salix pendula', калін. 'пустазелле ў аўсе', разан. *ветлáк* 'белая вярба', смал., маск. *ветлúна* 'вярба', урал. *вéтлúна* 'бульбоўнік, націна буракоў, гароху', укр. *ветлá, вутлá, ветлúнá* 'вяр-

ба, Salix viminalis'; 'жоўтая вярба, Salix vitellina', *ветлі́нка* 'Gorgonia viminalis', польск. *wietła, wietło* 'галіна' (Варш. сл.). Усходнеслав. утварэнне ад *вет-* (<*vět-*<*viti* 'віць') і суф. *-ьл-а,* магчыма, пад балцкім уплывам; параўн. літ. *vytėlė* 'лаза, дубец', *vytìs* 'тс', *výtulas* 'звязка', *vy̌turti* 'звіваць, абверчваць', лат. *vîtuõls* 'вярба', *vītne* 'гірлянда; вусікі гароху' і інш. Гл. Траўтман, 347; Мюленбах—Эндзелін, 4, 648; Фасмер, 1, 306; Шанскі, 1, В, 79; КЭСРЯ, 57. Махэк$_2$ (687) дае прасл. форму ў выглядзе *vьtъla*<і.-е. **vitulā* і прыводзіць тапанімічныя назвы з чэшскай і польскай моўных тэрыторый, якія не адносяцца да *ве́тла.* Сюды ж *ветліца.* Гл. яшчэ Праабражэнскі, 1, 80. Як і Гараеў, 46, ён дае *vьt-l-a*<*vi-ti.* Рудніцкі (1, 373) мяркуе, што ўкр. *ветли́на* магло ўзнікнуць як вынік адаптацыі навуковага лац. тэрміна (Salix) vitellina.

**Ве́тлівы** 'ласкавы, далікатны, прыветлівы' (БРС, КТС, Бяльк.), сюды ж вытворныя: *ветліва* (БРС, Гарэц., Яруш., КТС, Бяльк.), *ветлівасць* 'уласцівасць ветлівага чалавека' (БРС, Гарэц., Яруш., КТС), укр. *вітли́вий,* паўд.-рус. *ве́тливый* 'прыветлівы, ласкавы; развязны, гаваркі'. У іншых слав. мовах не адзначаецца. Усходнеславянскае ўтварэнне ад *ветлы (*<*větъ-lъ)* і суф. *-ivъ,* хаця ўжо ў ст.-слав. мове гэты суфікс успрымаецца, як *-livъ* (Сялішчаў, Старосл. яз., 2, 81).

**Ве́тліца** 'вярбовыя прысады каля дарогі' (слуц., Яшк.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад *ветл-а* і суф. *-іц-а.* Польск. *wietlica* 'папараць-мнаганожка, Athyrium, Polypodiaceae', відаць, не звязана з бел., а ўтворана самастойна. Гл. *ве́тла.*

**Ве́тлы** 'ветлівы, прыветлівы, ласкавы' (БРС, КТС, Касп.), *(у)вѣтлый* (Нік., Оч., 1), *ве́тла* (Гарэц., Яруш., БРС, КТС, Касп.), *ветласць* 'уласцівасць ветлівага чалавека, прыветлівасць' (Гарэц., КТС, БРС), *вѣтлыс(т)ь* (Нік., Оч., 1). Рус. пск., смал., калін., калуж., прэйл. *ве́тлый* 'прыветлівы, ласкавы, мілы; гаваркі', смал. 'вясёлы'. Паўночна-ўсходнеславянскае ўтварэнне ад *větъ* і *-lъ.* У сучасных слав. мовах *větъ* не захавалася, ёсць шматлікія дэрываты: рус. *ответ, привет, обет, совет, вече, завещать,* чэш. *závět', dovětek, obět',* славен. *obečati,* серб.-харв. *ве̏ћати,* ст.-слав. **вѣтъ,** ст.-рус. *вѣтъ* 'нарада, рада, дагавор'; 'павучанне, саромленне', якое зблiжаецца этымолагамі (Фасмер, 1, 305; Махэк, 687) са ст.-прус. *waitiāmai* 'гаворым', *waitiāt* 'гаворыць', літ. *vaitenù* 'мяркую', *vaiténti* 'кіраваць, вызначаць, меркаваць', авест. *vaēϑ-* 'вызначыць суровым следствам', *vaēϑa* 'судовае заключэнне'. Адносна сувязі слова *větiti* і *věјati* 'дзьмуць' гл. Тапароў, КСИС, 25, 1958, 86—87, які далучае да іх і слав. *větii* (<**vēt-i*) 'аратар'. Вайян



(RÉS, 24, 1947, 152—155), паводле ст.-слав. **отъвѣ** (замест **отъвѣшта**), дапускае корань *vě-* (а не *vět-*), які маецца ў дзеяслове **вѣяти** (семантыка яго развівалася наступным чынам: 'веяць', г. зн. 'аддзяляць'→'вырашаць'→'судзіць'). У сувязі з і.-е. **vet-:* **ve-* параўн. таксама тахар. А, В *wätk* 'раздзяляць, вырашаць, загадваць' і *we-* 'гаварыць'; падобнае развіццё значэння назіраецца ў лац. *cernere* 'аддзяляць'; 'вырашаць', грэч. *κρίνειν* 'тс'.

**Ветна** (прысл.) 'ветліва' (КТС), рус. бранск. *ветный* 'ветлівы'. Паходзіць ад *вѣтъ* (па аналогіі ад іншых прыметнікаў з вельмі прадуктыўным суфіксам *-н-ы*). Гл. *ве́тлы.*

**Ветны** 'бывалы чалавек, які шмат чаго ведае' (Крывіч, 12, 1926, 108), рус. бранск. *ветный* 'прыветлівы, ласкавы, гаваркі, вясёлы', вяц. *ветляной* 'ходкі, хвацкі, зухаваты, бывалы'. Да *ве́тлы.*

**Ветра-** 'першая частка складаных слоў: *ветраапыленне, ветраахоўны, ветрарухавік, ветрасілавы, ветраўлоўнік, ветраходзік* і інш.' (КТС, БРС), якая адпавядае па значэнню слову *ве́цер* (гл.).

**Ветрабой** (паэт.) 'сухое галлё, ламачча, збітае з дрэў ветрам'; 'вецер, які збівае галлё з дрэў' (КТС). Укр. *вітробі́й,* рус. *ветробо́й* 'буралом (дрэвы); апады (плады)', паўн.-рус. 'палеглая ад ветру збажына', амур. 'месца, на якім адміраюць цеплалюбівыя расліны пад уплывам моцных, халодных паўночна-заходніх вятроў'. Да *ве́цер* і *бой* (гл.)<*біць* 'праяўляцца з вялізнай сілай, бушаваць, лютаваць (пра вецер, мароз)'; параўн. рус. *бить* 'тс', укр. *бити* 'веяць, несці (аб ветры, мяцеліцы', бел. драг. *побе́тэ* (пра мароз) 'абмарозіць расліны, квітнеючы сад такім чынам, што лісце, кветкі і плады ападаюць'.

**Ветравал** 'сапсаваныя дрэвы' (Інстр. III), 'дрэвы, паваленыя ветрам' (КТС). Запазычана з рус. мовы; параўн. *ветровал* 'павалены ветрам лес'. Серб.-харв. *ветроваљ(а)* 'сінегаловік, Eryngium campestre', балг. *ветровал* 'тс' утварыліся аналагічна (з асноў *вецер-* і *вал-іць*), але незалежна ад паўн.-слав.

**Ветравей** (паэт.) 'вецер' (КТС, Якуб Колас, БРС) — нова-ўтварэнне ад *ве́цер* (гл.) і *вей*<*веяць.* Сюды ж прым. *ветравейна* (КТС, Я. Пушча). Параўн. таксама ўкр. *вітрові́й* 'тс'.

**Ветравінне** (паэт.) 'вецер' (КТС, П. Трус). Параўн. укр. *вітрові́ння* 'тс'.

**Ветравы́** (прым.) 'які мае адносіны да ветру'; 'прызначаны для аховы ад ветру'; 'такі, у якім вецер з'яўляецца рухаючай сілай' (КТС, БРС). Укр. *вітрів* 'які належыць да ветру', *вітровий* 'які мае адносіны да ветру', рус. смал. *ветровой* 'ветравы дух, які суправаджаецца ветрам', *ве́тровый, ветро́вый* 'схільны да ўздзеяння ветру', пск. *ветрово́й* 'ветраны (млын)', рус. *ветрово́й, ветро́вый* (парень) 'легкадумны', польск. *wiatrowy* 'звязаны з ветрам'; 'выкліканы ветрам'; 'такі, у якім рухаючая сіла— вецер', н.-луж. *wětšowy, wětšowaty*, в.-луж. *wětrowy* 'ветравы, ветраны', чэш. *větrový*, славац. *vetrový* 'звязаны з ветрам'. Паўночнаславянскае ўтварэнне ад *větr-* і суф. *-ovъ*. У паўднёваславянскіх мовах (як і ў н.-луж.) да гэтага суфікса дадаюцца іншыя: славен. *vętrǫ̂ven, vetrovit*, серб.-харв. *ветро̀вит, ве̏трован*, макед. *ветровит*, балг. *ветровен, ветровит*.

**Ветраго́н**₁ 'прыстасаванне для ўтварэння моцнага патоку паветра' (КТС, БРС), *вітрагон* 'прыстасаванне ў веялцы' (Яўс.), укр. *вітрого́н* 'вентылятар', рус. *ветрогон:* варон. 'флюгер', урал. 'ручны вентылятар у шахце'. Усходнеславянскае ўтварэнне ад *вецер* і *гнаць* (гл.). У прыметніка *ветрагонны* (мед.) першая частка *ветра-* (<*вецер*) ужыта ў пераносным значэнні 'газы'. Серб.-харв. *ветро̀гон* і *вјетро̀гон* 'падвей асаковы, Eriophorum, Cyperaceae', балг. *ветрогон* 'сінегаловік' утварыліся, відавочна, самастойна і не звязаны з бел. *ветрагон*₁.

**Ветраго́н**₂ 'легкадумны, пусты чалавек' (КТС, БРС, Яўс., Растарг.), укр. *вітрогон*, рус. *ветрогон*, польск. даўн. *wiatrogon* 'вясёлы, дасціпны, легкадумны чалавек', серб.-харв. *ветро̀гоња* 'пустаслоў, легкадум', макед. *ветрогон*, балг. *ветрогон* 'тс'. Да *вецер* і *гнаць* (гл.). Узнікла ў выніку пераносу значэння па функцыі лексемы *ветрагон*₁. Сюды ж *ветрагонка* 'легкадумная жанчына'.

**Ветраго́ны** 'дзве дошкі, якія прымацоўваюцца да краёў страхі і сыходзяцца ўверсе, утвараючы канёк' (бяроз., Шушк., усх.-палес., Нар. сл., в.-дзвін., Шатал.). Беларускае рэгіянальнае ўтварэнне, якое першапачаткова мела форму **ветраадгоны;* параўн. *ветраадбой* 'тс' (Нар. сл.), пазней прыстаўка другой часткі *ад-* выпала. Семантычна лексема *ветраадгоны* называла дзве дошкі, якія «адганяюць» вецер, г. зн. закрываюць шчыліну, утвораную паміж саломай страхі і кроквінай.

**Ветрадуй** 'міфічная істота, якая ўвасабляе сабой вецер' (КТС, А. Алешка). Ад *вецер* і *дуць* і суф. *-уй* (гл.). Параўн. укр. *вітродуй* 'вецер-дух'. Семантыка рус. дыял. *ветродуй* значна адрозніваецца ад бел. (СРНГ, 4, 203.)



**Ве́тразь** (паэт.) 'парус' (КТС, У. Дубоўка; БРС). Новаўтварэнне ад *ве́цер* (гл.) і непрадуктыўнага суфікса *-азь*. Сюды ж прым. *ветразевы* (КТС).

**Ветраковы** (прым.). Гл. *вятра́к*.

**Ветралом** 'дрэвы, паваленыя ветрам; буралом'. Сюды ж *ветраломная лінія* (КТС). Укр. *вітроло́м* 'дрэва, зламанае ветрам'; 'моцны вецер', рус. калуж., пск., перм. *ветролом* 'буралом', польск. *wiatrołom* 'дрэва, паваленае або зламанае ветрам'; 'участак лесу-буралому', чэш. *větrolam*, славац. *vetrolam* 'лясная паласа для аховы палёў ад ветру'; серб.-харв. *в(ј)етро̀лом* 'ламанне дрэў па прычыне моцнага ветру'; 'укрыццё, сховішча ад ветру', балг. *ветролом* 'лес, паламаны моцным ветрам'. Магчыма, прасл. *větro-lamъ*. Да *вецер* і *ламаць* (гл.). Семантычныя паралелі: літ. *vėtralauža, vė́jalaužos*, ням. *Windbruch*, іт. *frangivento*.

**Ветралюб** (паэт.) 'дуб' (КТС). Новаўтварэнне ад *вецер* і *любіць* (гл.).

**Ветраме́р** 'прылада для вызначэння сілы ветру' (КТС, БРС). Кніжнае слова, запазычанае, відавочна, з рус. *ветромер*.

**Ветрана** (безасаб.) 'ветранае надвор'е' (КТС, БРС, Шат.), укр. *вітряно*, рус. *ве́трено*, польск. *wietrzno*, чэш. *větrno*, славен. *vétréno (je)*, балг. *ветрено* 'тс'. Да *вецер, ветраны* (гл.).

**Ветранік**₁ 'вятрак' (жлоб., калінк., Мат. Гом.)—вузкарэгіянальнае ўтварэнне, якое ўзнікла ў выніку намінацыі *ветраны млын;* параўн. таксама *ветраніца*₃. Аналагічна ў славен. мове *vętrnik* 'вятрак', у н.-луж. *wětšnik*, в.-луж. *wětrnik* 'тс'.

**Ветранік**₂, *ве́трінік, ве́трыньнік* 'легкадумны чалавек, ветранік' (Бяльк.), рус. *ве́треник* 'ветрагон', польск. *wietrznik*, макед. *ветреник*, балг. *ветреник* 'легкадумны чалавек'. Лексема ўзнікла ў выніку намінацыі *ветраны чалавек* або субстантывацыі прыметніка *ветраны* пры дапамозе суфікса Nomina agentis *-нік*.

***Ветранікі**₁, брэсц., малар. *вітраныкы* 'апоўзіны на стозе, козлы на страсе' (Нар. сл.), стол. *вэ̂треники* 'звязаныя палкі, якія кладуцца на канёк страхі' (Шушк.). Укр. *навітреник*, рус. урал., зах.-сіб. *ве́треники* 'апоўзіны на стозе або на капе', вялікапольск. *wietrznik* 'тс'. Палескія лексемы запазычаны, відаць, з польскай мовы.

**Ветранікі$_2$,** *вітраныкы, вітряныкы, вэ̂трэныкы* 'дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат з боку франтона і, скрыжоўваючыся ўверсе, утвараюць вільчак' (палес., Нар. сл., Шатал.), рус. йонаўск. *ветреник* 'тс'. Запазычана з польск. мовы; параўн. каш. *zawietrznik* 'тс'. Гл. таксама *ветранікі$_1$*. Славен. *vétrnik* 'ахова ад ветру' (напр., дзверы ў сенцах); слуп (саха) у драўлянай канструкцыі страхі' маюць іншую семантычную матывацыю.

**Ве́траніца$_1$** 'пралеска, кураслеп дуброўны, Anemone nemorosa L.' (ветк., Мат. Гом.), *ветраніца белая* 'расліна' (КТС). Рус. тамб. *ветраница* 'анемона', зах.-сіб. 'сон-трава, Pulsatilla patens', польск. *wietrznica* 'анемона', серб.-харв. *вѐтреница, вјѐтреница* 'тс', славен. *vẹ̑trnica* 'кураслеп'; 'дарыкній травяністы', ст.-рус. *ветряница* 'назва лекавай травы' (з XVIII ст.). Да *ве́цер* (гл.). Расліна названа так таму, што яна любіць адкрытыя, даступныя ветру месцы, паляны, лугі. Назвы, звязаныя з лексемай *вецер*, у славянскіх народаў атрымалі шматлікія расліны, напр.: бел. *вятро́ўнік* 'Filipendula Mill.', укр. *вітреник* 'яснотка, шанта'; 'медуніца, шчамяліца'; 'спірэя'; 'пылюшнік', славен. *vétrnik* 'васілёк', рус. *ветреница* (гл. вышэй) і 'перакаці-поле', *ве́треная трава́* 'белая канюшына'; 'гарлянка', *ве́треник* 'лясны кураслеп' і інш., магчыма, таму, што некаторыя з іх ужываюцца для лячэння прастудных захворванняў, а таксама хвароб ад ветру.

**Ветраніца$_2$** 'пустазвонка' (КТС), укр. *вітренница* 'няверная, нясталая, легкадумная жанчына', паўн.-рус. *ветреница* 'нясталы, няверны, марнатраўны (аб чалавеку)', польск. уст. *wietrznica* 'легкадумная жанчына, ветраго́нка' ад *ве́транік* 'ветрагон' і суф. *-іц-а*.

**Ветраніца$_3$** ветраны млын' (Касп.), рус. пенз., горк. *ве́треница*, балг. паўн.-усх. *вятърница*, макед. *ветерница* 'тс', славен. *vẹ̑trnica* 'крыло ветранога млына'. Узнікла ў выніку намінацыі выразу *ветраная мельніца* (пры дапамозе суфікса *-іц-а*). Гл. таксама *ветранік$_1$* (суфікс *-ік*).

**Ветраніца$_4$** 'ветранае надвор'е' (КТС). Утворана ад прыметнікавай асновы *ветран-* (гл. *ветраны*) і суф. *-іц-а* (які называе з'яву па яе прыкметах) паводле ўзору *галалёдзіца*.

**Ве́траніца$_5$** 'ветраная воспа' (лоеў., браг., Мат. Гом.). Укр. *вітренниця* 'гарачка'; 'шаленства', рус. *ветреница*, уладз., арханг. 'ветраная воспа', наўг. 'хранічныя наскурныя высыпкі', польск. *wietrznice* 'кароста ветраной воспы', славен. *vẹ̑trnice*



'ветраная воспа'. Прасл. *vě̌trьnica*, якая ўтварылася шляхам субстантывацыі прыметніка *vě̌trьnъ*. Да *ве́цер* (гл.).

**Ве́траніца$_6$** 'дзве дошкі ў франтоне' (палес., Мат. Гом.), віц. 'падшыўная дошка ля краю страхі' (Касп.). Гл. *ве́траніцы*.

**Ве́траніцы,** *вітраныці* 'дзве дошкі, якія прыбіваюцца да лат з боку франтона і, скрыжоўваючыся, утвараюць вільчак' (палес., Нар. сл., Шатал.), рус. валаг., уладз. *ве́треница* 'тс', паўн.- і с.-рус., урал. *ве́треница, ве́треницы* 'козлы на страсе, апоўзіны на капе, стозе', польск. каш. *zawietrznica* 'дзве дошкі на франтоне', славен. *vétrnice* 'саламяная пляцёнка, якая закрывае ў вільчыку адтуліны паміж схіламі страхі'. Да *ве́цер* (гл.). Гл. таксама *ветранікі$_2$*.

**Ве́транка** 'хвароба, якая бывае тады, калі вецер «падхопіць» чалавека або «падляціць пад яго»' (палес., Маш.). Рус. яраcл. *ветренка* 'хвароба — падскурныя нарывы, якія бываюць «з ветру»'. Узнікла шляхам намінацыі, суфікс *-к-а* па ўзору *ліхама́нка, чырво́нка*.

**Ветраннік$_1$** 'паддувала пад дзверцамі пліты' (В. В.). Рус. арханг. *ветреник* 'фортка ў акне, прадуха ў сцяне для праветрывання пакоя', польск. уст. *wietrznik* 'вентылятар, прадуха'. Адпрыметнікавае ўтварэнне з суф. *-ьn-ikъ*.

***Ве́траннік$_2$,** *ве́траньнік* 'флюгер' (Бяльк.). Запазычана, відаць, з польск. *wietrznik* 'тс'.

**Ве́траны** 'які прыводзіцца ў рух ветрам, адносіцца да ветру, пашыраецца з ветрам', (перан.) 'легкадумны' (КТС, БРС, Сцяшк.), укр. *вітряни́й*, рус. *ве́тряный, ветряно́й, ве́треный*, ст.-рус. *вѣтреный, вѣтряный*, польск. *wietrzny*, н.-луж. *wě̌tšnu*, в.-луж. *wě̌trny*, чэш. *vě̌trný, vě̌trní*, славац. *veterný*, славен. *vétrn, vetrén*, макед. *ветрен*, балг. *ветрен*, ст.-слав. **вѣтренъ, вѣтрьнь**. Прасл. *vě̌trьnъ*. Прыметнік, утвораны пры дапамозе суф. *-ьn-* ад асновы імені *vě̌tr-* (гл. *ве́цер*).

**Ветраць** 'прасушвацца, праветрывацца, знаходзіцца на ветры' (КТС), *вятрэ́ець* (безасаб.) 'знаходзіцца, сушыцца на ветры' (Нас.), рус. кастр. *ве́трять* 'сохнуць на ветры'; 'засыхаць, чарствець (аб хлебе)'; 'віцца на ветры', чэш. *vě̌trati* 'распадацца, выветрывацца (аб скале)'. Непераходны дзеяслоў стану, утвораны ад назоўніка *vě̌trъ* (гл. *вецер*) і суфікса *-a-ti*, які пасля быў выцеснены прадуктыўным суф. *-i-ti* (<*-ě-ti*), гл. *ветрыць$_1$*. Да яго семантычна блізка стаіць бел. *пятрэ́ць* 'сохнуць'.

**Ветрачок** 'малы вятрак; рухомае прыстасаванне, якое па форме нагадвае вятрак; малая электрастанцыя' (КТС), укр. *вітрячок*, палес. *вітрачо́к, вєтрачо́к, виⁱтрачо́к* 'прылада, на якую намотваецца пража з цэўкі або верацяна для сушкі', рус. пск., смал. *ветрячок* 'ветраны млын магутнасцю для патрэб адной гаспадаркі', польск. *wiatraczek* 'ветрачок'. Памяншальная форма лексемы *вятрак* (гл.).

**Ве́тры** і *вятры́* 'нячысцікі'; 'віхры', рус. маск. *ве́тер* 'нячыстая сіла', польск. *wiatr, wiater* 'персаніфікацыя ветру ў народных паданнях'. Мн. л. да *вецер* (гл.) з захаваннем старажытнай семантыкі — абагульненая назва нячысцікаў, матываваная разбуральнай сілай ветру, а таксама яго здольнасцю «прыносіць» розныя хваробы.

**Ве́трывы** 'ветраны (дзень, надвор'е)' (Нас.). Прасл. архаізм *větrivъ*, утвораны ад *vět-rъ* і суф. *-iv-ъ*. Сюды ж безасабовы выказнік *ветрыва* 'ветрана' (Нас., Гарэц.); параўн. таксама рус. *ве́триво, ветри́во, ве́трево* 'тс'.

**Ветрыцца**$_1$ 'праветрывацца, сушыцца' (Нас.). Да *ветрыць*$_1$, тое ж польск. *wietrzyć się* 'праветрывацца'; 'падпадаць пад дзеянне свежага паветра', серб. *вѐтрити се* 'тс'.

**Ветрыцца**$_2$ 'прастуджвацца, асвяжацца' (Нас.). Да *ветрыцца*$_1$.

**Ветрыцца**$_3$ 'хадзіць без справы, бадзяцца, швэндацца' (карэліц., Янк. Мат.). Да дзеяслова *ветрыцца*$_1$, у якога павінна было быць таксама значэнне 'знаходзіцца на паветры'→'псавацца пад уздзеяннем ветру'→'быць ветраным, легкадумным, ветрагонам'.

**Ветрыць**$_1$ 'сушыць на ветры, праветрываць' (Нас., Касп., Бяльк.), жыт. 'дзьмуць (аб ветры)'; (перан.) 'круціцца' (Мат. Гом.); 'выветрываць' (Яруш.); 'веяць збожжа на ветры' (Касп., Арх. ГУ; рагач., жыт., Мат. Гом.; докш., карэліц., Янк. Мат., Янк. I, Юрч., Яўс.), палес. *вітрыты, вітрынне* 'ачыстка збожжа на ветры пасля падсейвання яго рэшатам' (Выг.). Укр. *вітрити* 'праветрываць', рус. паўн.-сіб. *ветрить* 'сушыць на ветры, на марозе, праветрываць', польск. *wietrzyć* 'трымаць на свежым паветры'; 'губляць пах, свежасць пад уздзеяннем паветра і цяпла'; 'распадацца, выветрывацца (аб мінералах)', чэш. *větřiti se* 'віцца на ветры (аб спадніцы)', славен. *vẹ́triti* 'праветрываць', серб.-харв. *вѐтрити, вјѐтрити* 'праветрываць, выпарвацца (аб газах)'; 'плаваць пад ветразем'; 'хутка махаць крыламі', макед. *ветрее се, ветри се* 'праветрываць'; 'выжываць з розуму', балг. *ветрея* 'выветрываць, праветрываць'; 'выдыхацца, выветрывацца'; 'махаць (хусткай, флагам)', *ветрея се* 'калыхацца ад ветру'. Прасл. дзеяслоў *větr-it-i*, які ўтварыўся пры дапамозе суф. *-i-ti* (<*-ě-ti*). Да *ве́цер* (гл.).



**Ветрыць**$_2$ 'пазнаваць, вызначаць што-небудзь, прынюхвацца да ветру, чуць нюхам' (КТС). Укр. *вітрити* 'нюхаць паветра (аб сабаку)', рус. *ветрить* 'валодаць здольнасцю адшукваць дзічыну нюхам «па ветры»', польск. *wietrzyć* 'шукаць, сачыць, чуць нюхам', чэш. *větřiti* 'чуць нюхам (аб сабаку, каню)', славац. *vetrit'* 'тс', серб.-харв. *вѐтрити, вјѐтрити* 'чуць нюхам пах, які прыносіцца ветрам'. Прасл. *větriti* (суф. *-i-ti*< <*-ě-ti*). Да *вецер* (гл.). Лексема *větrъ*, ад якой утварыўся дзеяслоў, мела пераноснае значэнне 'пах', якое сёння мы маем, напр., у чэш. народн. *větry* 'страўнікавыя газы'.

**Ветурач** 'ветэрынарны ўрач' (КТС, БРС). Да *ветэрынар* і *ўрач* (гл.). Запазычана з рус. *ветврач*.

**Ветфе́льчар** 'ветэрынарны фельчар' (КТС, БРС). Да *ветэрынар* і *фельчар* (гл.). Запазычана з рус. *ветфельшер*.

**Ветхазаветны:** *～ная кніга* (КТС). Паходзіць з рус. *ветхозаветный* (1789 г.)<ад фразеалагічнага звароту *ветхий завет* (Шанскі, 1, В, 80).

**Ветхі** 'стары, старажытны, старадаўні, трухлявы' (КТС), укр. *ве́тхий*, рус. *ве́тхий* 'тс', ленінгр. 'хваравіты', кастр. *ветха́ный* 'стары, зношаны', ст.-рус. *ветъхый* 'стары, паношаны, трухлявы; даўні, спрадвечны; дахрысціянскі, паганскі' (з XI ст.), польск. уст. *wietki* 'гнуткі, хрупкі, слабы, тонкі, шчуплы', *wiotchy* 'стары'; 'гнуты, слабы, далікатны', н.-луж. *wjatki* 'пацёрты, зношаны', *wiatły* 'тс'; 'стары (аб будыніне)', в.-луж. *wjetki* 'стары, трухлявы, паношаны', чэш. *vetchý* 'стары, старадаўні, трухлявы, слабы'; 'рэдкі (аб палатне)', славац. *vetchý* 'зношаны, трухлявы; стары, слабы, хваравіты, не валодае сабою', серб.-харв. *вѐт, вѐтах* 'стары', макед. *ветов* 'стары, паношаны, пацёрты', балг. *вехт, ве́хът, ве́тав, ветък, вехток* 'тс', ст.-слав. **ветъхъ.** Прасл. *vetъxъ*. Мае і.-е. адпаведнікі: літ. *vẽtušas* 'стары, састарэлы', лат. *vecs* 'стары, старажытны, старадаўні', лац. *vetus, vetus-tus* 'састарэлы', грэч. ἔτος, *Fέτος*, алб. *vjet* 'год', ст.-інд. *vatsá* 'тс', *vatsás* 'гадавалы', сагдз. *wtšnyy* 'стары'>іран. **wat(u)šana-* (гл. Траўтман, 356; Сэмерэні, Word, 8, 50; Мюленбах—Эндзелін, 4, 517; Вальдэ—Гофман, 2, 776; Праабражэнскі, 1, 80; Брукнер, 623; Голуб—Копечны, 414; Махэк$_2$, 686; Фасмер, 1, 307; КЭСРЯ, 57; Шанскі, 1. В, 80). Рэканструюецца як і.-е. **u̯etuso- (wetuso-)* 'стары, састарэлы' (Персан, IF, 26, 63; БЕР, 1, 139). Буга (РФВ, 67,

246) і Эндзелін (Слав.-балт. эт., 52) выводзяць літ. *vētušas* з **u̯etuk'sos*. Гл. таксама *вéтах*.

**Ветэрáн** 'стары, бывалы воін; чалавек, які даўно працуе ў якой-небудзь галіне дзейнасці' (КТС, БРС). Запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 76) <франц. *vétéran*<лац. *veteranus*<*vetus, veteris* 'стары' (Фасмер, 1, 306; КЭСРЯ, 78; Шанскі, 1, В, 78; БЕР, 1, 138; Махэк₂, 686). Не выключана магчымасць запазычання з польск. мовы.

**Ветэрынáр** (КТС, БРС), сюды ж сапсаваныя дыялектныя формы *віцінáр, вецінáр* (КТС, Сцяшк. МГ, Мат. Гом.), а таксама *ветэрынарыя, ветэрынарны, ветэрынарскі*. У бел. мову запазычана з рус.<ням. *Veterinär*<лац. *veterinarius*<лац. *veterīnus* 'цяглавая скаціна'<першасн. *veheterinus*<*vehere* 'ехаць' (Фасмер, 1, 306; Шанскі, 1, В, 78; КЭСРЯ, 78; БЕР, 1, 138; Голуб—Ліер, 506).

**Вéха₁** 'знакі з лапак елкі, якімі ўзімку ўказваюць дарогу' (Сцяшк. МГ). Да *вяхá₁* (гл.).

**Вéха₂** 'цыкута' (лоеў., Мат. Гом.). Да *вяхá₂* (гл.).

**Вéха₃** 'вехаць' (светлаг., Мат. Гом.). Да *вяхá₃* (гл.).

**Вéха₄** 'пладаносная частка сцябла проса' (рэч., Мат. Гом.). Да *вяхá₄* (гл.).

**Вéха₅** 'камета' (Маш.), укр. *віхá* 'тс', бук. *віха* (уст., рэдк.) 'прадвесце', рус. сіб. *вехá* 'вестка, навіна, паведамленне'. Да *вяхá₁* 'знак з саломы, галінак, жэрдкі, які папярэджвае аб чым-небудзь'. Тут адбыўся семантычны перанос: 'папераджальны, паведамляльны знак'→'прадвесце чаго-небудзь, напр., вайны'. Гэтаму дапамагае і знешняя форма: вяха часам выглядае, як мятла, бо замест саломы на шост надзяваюць дзяркач; параўн. укр. *мітлá* 'камета'.

**Вéхатнік** 'хвошч зімуючы, Equisetum hiemale L.' (віц., Кіс., Крывіч, 4, 1923; Інстр. II). Вузкарэгіянальнае ўтварэнне ад *вехаць* (гл.) пры дапамозе суф. *-нік;* функцыя Nomen instrumenti вызначальнай асновы пры гэтым перайшла ў Nomina agentis; параўн. *вехаць* 'скрутак саломы, травы, хвашчу, які выкарыстоўваўся замест анучы для мыцця посуду, мэблі'→'хвошч, з якога робіцца гэты скрутак'. Параўн. таксама *вехаць* 'хвошч'=*хвашчáнка* (гл.).

**Вéхаць₁** 'пучок, скрутак саломы, травы, рагожы, ануч, якім мыюць посуд, шаруюць брудныя рэчы'; 'мачалка'; 'жмут, жменя саломы, сена і пад'. (КТС, БРС, Нас., Бір. Дзярж., Шат., Грыг., Др.-Падб., Сцяшк. МГ, КЭС, Касп., Растарг., Бяльк.; маладз., Мат. АС; Бес., Мат. Гом.; бых., Янк. Мат.), навагр. *вехець* (Кліх), сюды ж *вехцік* 'тс' (КТС, Нас., Сцяшк., Мат. Гом.), *вехцевы* 'які належыць да *вехаць*' (Нас.). Укр. *віхоть* 'вехаць; пучок саломы; жмут саломы, які адлятае ад страхі ў час пажару', рус. *вехоть* 'вехаць'; 'пучок саломы, сена', ст.-рус. *вѣхъть* 'жмут саломы, мачалка, вехаць' (з XI ст.), польск. *wiecheć* 'жменя саломы ці сена'; 'саламяная мятла', н.-луж. *wjekś*, в.-луж. *wěchć* 'жмут саломы', чэш. *věchet* 'пучок саломы, сена', *věchýtek* 'вехцік', славац. *vechet'* 'вехаць, мачалка', славен. *véhet* 'пучок сена', ст.-слав. **вѣхъть.** Прасл. *věxъtь* утворана ад *věxъ* (параўн. бел. *вёх,* укр. *віх,* рус. *вех* 'цыкута ядавітая') і суф. *-ъtь,* якому ў балтыйскіх мовах адпавядае суф. *-ùtis,* параўн. ст.-прус. *nagutis* — слав. *nogъtъ* 'пазногаць', а таксама лексемы з другасным пеяратыўным значэннем: літ. *vaikùtis* ад *vaĩkas* 'дзіця', *žmogũtis* ад *žmogùs* 'чалавек' і інш. і, магчыма, прасл. *lapъtь* 'лапаць', серб.-харв. *лáпат* 'латка' (Мартынаў, Дерив., 43—44). Гэта яшчэ балта-славянская інавацыя. Гл. Слаўскі, 5, 157—158; Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 263. Крукоўскі (Уплыў, 12) мяркуе, што лексема *вехаць* — запазычанне.



**Вéхаць₂** 'стары венік, дзяркач' (Бяльк.) узнікла ў выніку пераносу значэння па функцыі *вехаць₁* 'пучок, скрутак саломы, травы, якім мыюць посуд, мэблю'→'сцёрты дзяркач, якім шаруюць лавы, падлогу'; параўн. яшчэ польск. *wiecheć* 'мятла з саломы'.

**Вéхаць₃** 'падмазка, кавалачак сала падмазваць скавараду' (Бяльк.) утварылася ў выніку пераносу значэння паводле падабенства: *вéхаць* 'скрутак, жмут анучак, наматаны на палачку, якім макаюць у тлушч і размазваюць па патэльні'→'падмазка, кавалачак сала'. Сюды можна аднесці і *вéхаць* 'шматок, невялікая колькасць', якое ўзнікла ў выніку абагульнення значэння 'скрутак, пучок саломы'; параўн. польск. *wiecheć* 'кавалак (напр., мяса)'.

**Вехіраніна** 'мяса ляснога голуба, Columba palumbus' (КТС). Да *вяхір* (гл).

**Вецвійка** 'галінка' (КТС, І. Гурскі). Дэмінутыўнае новаўтварэнне ад *вецце* (гл.); *-в-* з'явілася ў выніку распадабнення *-ц-,* відавочна, пад уплывам рус. *ветвь*; параўн. бел. *веццíка* 'галінкі' (Нас.), таксама смал. зборн. *ветвейко* 'вецце, галіны дрэў'.

**Вецер** (КТС, БРС, Касп., Нас., Яруш.), *віе͡тёр* (Бес.), *вéцір* (Бяльк.), жыт. *вецёр* 'веснавы вецер', слаўг. *вéцер* 'адкры-

тае ветранае месца'; 'віхор' (Яшк.), *вéцер* 'ветрагон' (КТС, Нас., З нар. сл.). Сюды ж *ветрык, ветрычак, ветрік, вецярок* (КТС, Гарэц., Шат., Нас., Кліх, Бяльк.), *вятрыска* (Яруш., КТС). Укр. *вітер* 'вецер', рус. *вéтер* 'тс', арханг. 'кірунак свету'; 'хвароба свойскіх жывёл', ст.-рус. *вѣтръ, вѣтеръ* 'вецер, кірунак свету'; 'паветра'; 'газы ў кішках', польск. *wiatr*, палаб. *votr*, н.-луж. *wjetš*, в.-луж. *wětr*, чэш. *vítr*, славац. *vietor*, славен. *véter*, серб.-харв. *вȅтар* 'вецер', макед. *ветар* 'вецер', (мед.) 'рожа', балг. *вятър* 'вецер', паўн.-зах. *ветър* 'рэўматызм', ст.-слав. **вѣтръ** 'вецер'. Прасл. *větrъ* мае адпаведнікі ў і.-е. мовах: літ. *vė̃tra* 'бура', лат. *vẹ̄tra* 'тс', прус. *wetro* 'вецер', гоц. *winds*, ст.-в.-ням. *wint* 'тс', ст.-англ. *wind* 'непагадзь', ст.-нарв. *vindr* 'вецер', ст.-ісл. *veðr* 'вецер, паветра', ірл. *feth* 'паветра', грэч. ἄησι 'вее' (*ἄϜησι), ἀήτης 'вецер', кімр. *gwynt*, лац. *ventus*, ст.-інд. *vā́taḥ*, авест. *vāta-* 'вецер', асец. *wād, vād* 'бура', тахар. А *wänt*, тахар. В *yente*, хец. *hu(*Hwe)*; да і.-е. асноў **ue-/*uo-/aue/*au-* 'веяць'. Прасл. *větrъ* утворана ад *větati/větiti* і суф. Nomina agentis *-rъ*, якія атрыманы ў спадчыну з і.-е. (Слаўскі, SP, 2, 20). Адсюль *вецер* выступае ў міфалогіі як дзеючая сіла; параўн. бел. *вéтры*. Роднаснае да **веяць** (гл.). Гл. таксама Праабражэнскі, 1, 109; Вальдэ, 817; Мюленбах—Эндзелін, 4, 572; Мейе, 407; Траўтман, 345; Барталомэ, 1408; Брукнер, 611; Махэк₂, 692; Голуб—Копечны, 408, 418; Фасмер, 1, 306; Шанскі, 1, В, 77; КЭСРЯ, 78.

**Вецінáр,** *віцінáр*. Да *ветэрынáр* (гл.).

**Веціць** 'вітаць, быць ветлівым', сюды ж *прывеціць* (Нік., Оч., 1), ст.-рус. *вѣтовати* 'апавяшчаць, прапаведаваць, гаварыць', ст.-польск. **wietati* (Брукнер, 614) 'гаварыць', чэш. *větiti* 'апавядаць, гаварыць', славац. *vetiť* уст. 'гаварыць, апавядаць, адказваць', макед. *ветува, ветава* 'абвяшчаць'; 'завяшчаць', *ветува се* 'ахвяравацца, даць абяцанне', балг. *ветам се* 'абяцаць', ст.-слав. **вѣтити (вѣщати)**. Прасл. *větiti*, і.-е. адпаведнікі: літ. *vaitóti* 'стагнаць, вохкаць', *vaitenù* 'абмяркоўваю, дапускаю', ст.-прус. *waitiāt* 'гаварыць, апавядаць', авест. *vaēϑ-* 'вызначаць судовым следствам', *vaēϑa* 'судовае следства'. Гл. Тапароў, КСИС, 25, 1958, 86—87; Фасмер, 1, 305; Вайян, RÉS, 24, 1947, 152—155 з літ-рай. Параўн. таксама бел. *вайцяць* (гл.).

**Вéцце** (зборн.) 'галінкі дрэва' (КТС), зэльв. 'дробныя галінкі з бярозы, з якіх робяць венікі' (Сцяц.), маг., мсцісл. 'галлё з лісцем' (Юрч.), *вéцьце, вéцця* 'галлё' (Шат., Нас., Бяльк., Яруш.); 'дубовыя і бярозавыя галінкі для венікаў' (Яўс.), навагр. *вéцё* 'галлё з лісцем' (З нар. сл.). Укр. *віття, вітє* 'галіны, галлё', рус. калуж., пск., смал., арханг., валаг. *ветье* 'галлё, галіны', ст.-рус. *вѣтье* 'галлё, галіна'. Усходнеславянскі зборны назоўнік, утвораны пры дапамозе суф. *-ьje* ад кораня *vět-ь*; параўн. ст.-рус. *вѣть* 'галіна'; 'адгалінаванне (ракі)', рус. бранск., арл., кур. *веть* 'галіна', укр. *віть* 'галіна', польск. *wić* 'лаза, лазовы прут, адросткі ад чаранкоў раслін', літ. *vytìs* 'лаза', лац. *vītis* 'вінаградная лаза'. Да *вéтка* (гл.), *віць* (гл.). На чэшскай і славацкай моўных тэрыторыях адпаведная лексема ўтварае Nomen collectivum пры дапамозе суфікса з устаўным *-ov-*: чэш. *větvoví*, славац. *vetvovie*.



**Вець** 'радок, нізка' (Федар., 6), відавочна, з'яўляецца пераносам з першаснага *вець* 'галіна'→'галіна, на якой у радок сядзяць птушкі', укр. *віть* 'галіна', рус. паўд. *веть* 'тс', польск. *wić* 'тонкі пруток, гнуткая лаза'; 'адросткі раслін', балг. *вица* 'тс', літ. *vytìs* 'лаза', лат. *vitols* 'вярба', лац. *vītis* 'вінаградная лаза', ст.-в.-ням. *wîda* 'вярба', ст.-інд. *vētasás* 'прут, павойная расліна', авест. *vaēiti* 'вярба', н.-перс. *bîd*, грэч. οἶσος 'тс', ἰτέα (Ϝιτέα) 'вярба'. Прасл. *větь* мела значэнне 'павойная расліна'. Чаргаванне ў корані. Да *віць*. Гл. Фасмер, 1, 306; Брукнер, 613; Махэк, 692; Шанскі, 1, В, 77; БЕР, 1, 156.

**Вéча** 'веча, сход, на якім вырашаліся грамадскія і дзяржаўныя пытанні ў некаторых гарадах старажытнай Русі' (КТС, БРС, Яруш.). Укр. *віче*, рус. *вече*, пск., наўг. *вечá* 'тс', пск. *вечáть* 'крычаць'; 'выдаваць глухі гук', ст.-рус. *вѣче* 'веча'; 'тайнае зборышча, загавор'; 'прамова, угаворванне, саромленне, павучанне, прыгавор', арханг. *вечь* 'галашэнне'; 'сход', польск. *wiec* 'веча, мітынг', *wiecować* 'кіраваць', ст.-чэш. *věce*, славен. *véča* 'вясковы суд, судовая справа'; 'падатак', серб.-харв. *вéће* 'веча, нарада, савет', ст.-слав. **вѣще** 'нарада'. Прасл. *větjo*, да *веціць* (гл.); параўн. яшчэ ст.-рус. *вѣтъ* 'нарада', ст.-чэш. аорыст *věce* 'сказаў' і ст.-прус. *wayte* 'вымаўленне', *waitiāt* 'гаварыць'. Гл. Міклашыч, 387; Праабражэнскі, 1, 109; Траўтман, Altpreuß., 353; Траўтман, 339; Фасмер, 1, 308; Брукнер, 614; Голуб—Копечны, 414; Махэк₂, 687; Шанскі, 1, В, 81; КЭСРЯ, 78.

**Вéчай** мн. л. 'дзірка ў верхнім камені жорнаў, куды сыплецца збожжа' (Сцяшк. МГ, Сцяшк.). Сюды ж *вячай, вечая, ічай, яча, ручай* 'тс' (Інстр. лекс.), рус. пск. *вечéя* 'тс'. Бел.-рус. утварэнне, роднаснае да рус. *ячея*. Паходзіць ад асновы **ak'-* > *ač-* і суф. *-ějь* (для *вечай*) або *-ěja* (для *вечая*) з пратэтычным *в-, р-* або *j-*. Аснову можна суаднесці з літ. *akìs* 'вока; пятля; акно; вір; ячэя', лат. *acs*, прус. *agins, ackins*, тахар. А *ak*, тахар. В *ek*, гамер. ὄσσε,

лац. *oculus,* алб. *sy,* ст.-ірл. *enech,* ст.-інд. *ákṣi.* На ўкраінскай, польскай і часткова рускай моўных тэрыторыях у значэнні 'дзірка ў верхнім камені жорнаў' ужываюцца лексемы *дуча, дучай, дучайка, дучэйка; ducza, duczaja, duca; дучка, дучай, дуч,* запазычаныя праз польскую мову з італ. *doccia* 'рына, вадаправодная труба' (Бернекер, 232; Махэк, 133; Фасмер, 1, 558 і інш.). Яны выцеснілі на гэтай тэрыторыі лексему *v//ja-čėja,* прысвоіўшы сабе яе суфіксы *-ай, -айка.*

**Ве́чар** 'час сутак ад канца дня да наступлення ночы' (КТС, БРС, Сцяшк. МГ, Касп., Бяльк., Бяс.); 'увечары, вечарам' (Сцяшк. МГ, Янк. I); 'забавы моладзі з танцамі' (Інстр. лекс.); 'грамадскі вячэрні сход, прысвечаны якой-небудзь даце, падзеі' (КТС, БРС), укр. *ве́чір* 'вечар', рус. *ве́чер* 'тс', урал. 'перадвясельная вечарынка', вяц. 'вечарам', смал. 'старасць', ст.-рус. *вечеръ* 'вечар'; 'увечары'; 'забава', *вечерний* 'заходні' (з XIII ст.), польск. *wieczór* 'вечар'; 'вячоркі'; 'вечарам', н.-луж. *(w)jacor,* в.-луж. *wječor* 'вечар'; 'захад', чэш. *večer* 'вечар, вечарам', славац. *večer* 'тс', славен. *večér* 'вечар'; 'захад', серб.-харв. *вȅче, вȅчер* 'ранні вечар'; 'вячоркі'; 'увечары'; 'захад', макед., балг. *вече́р* 'вечар'; 'увечары', ст.-слав. **вечеръ** 'вечар'. Прасл. *večerъ* суадносіцца з літ. *vãkaras* 'вечар' (<**vekeros*<**ve-ke(spe)ros),* арм. *gišer* (гл. Махэк₂, 680; Рудніцкі, 1, 376), лат. *vakars,* а таксама, відаць, з грэч. ἑσπέρα, ἕσπερος, лац. *vespera,* ірл. *fescor* 'тс' (<**ve-(ke)speros),* ст.-інд. *vaskara.* Некаторыя даследчыкі звязваюць *večer* з ням. *West* 'захад', ст.-в.-ням. *wästan,* англа-сакс. *west,* ст.-нарв. *vestr* (Эндзелін, KZ, 52, 119; Траўтман, 348; Мюленбах—Эндзелін, 4, 448). Гл. таксама Міклашыч, 376; Вальдэ, 827; Бругман, IF, 13, 1902, 157; Покарны, 1174; Брукнер, 614; БЕР, 1, 140; Фасмер, 1, 309; Праабражэнскі, 1, 81; Шанскі, 1, В, 81. Малаімаверна збліжэнне **večer* з **věko* 'века' (КЭСРЯ, 79).

***Вечаркі,** *вечарке́* (Сцяшк. МГ), зах.-палес. *вычоркы́* 'вечарынка' (Клім.), укр. паўн. *вечіркы, вечу́дрки, вечурки,* зах. *вечорки* 'тс', рус. сіб. *ве́черки, вечеркú* 'вечарынкі', паўн. *вечёрка* 'вячоркі'; 'развітальны вечар у маладой, дзявочнік', польск. *wieczorek* 'вечарынка', *v'ecurek, v'ecurka* 'вечар, калі разам збяруцца і мыюць (бялізну), лушчаць (гарох), скубуць (воўну)', славац. *večierok* 'вечар'; 'невялікая вячэрняя забава, урачыстасць з музыкай, танцамі', балг. *вече́рка* 'вячоркі'. Відавочна, гэта старое ўтварэнне ад *večer-* і суф. *-ъkъ,* які надае слову адценне памяншальнасці: вячоркі, па сутнасці, адбываліся на працягу не цэлага зімовага вечара, а толькі яго часткі; параўн. тое ж і ў літ. *vakarẽlis* 'вечарынка' — *vãkaras* 'вечар'. Ужываецца лексема ў множным ліку, таму што *вячоркі* — шматразовая падзея. Гл. таксама *вячоркі.*



**Вечарні́кі** 'вячоркі' (навагр., З нар. сл.) — вузкарэгіянальнае ўтварэнне пры дапамозе суф. *-ік*(<*-ikъ*) (ад прыметніка *вячэрн-і (<večerьn-ь)).* Першапачатковае Nomen agentis семантычна стала абазначаць Nomen abstractum і м. р. мн. л. (у дадзеным выпадку звычайна femininum або pluralia tantum; параўн. *вечарніца, вячоркі*). Такая змена роду абумоўлена, відаць, тым, што словаўтваральная аснова *вечар-* м. р.; тое ж і ў іншых слав. гаворках; параўн. польск. *wieczorynek* 'забава ўвечары'.

**Вечарні́ца** 'вечарынка, забава' (Др.-Падб., Нас. Доп., Яруш.), рус. (на руска-ўкраінскім пагранічы) *вечерница* 'вячэрні сход моладзі', укр. *вечерниці* 'тс', польск. *wieczornica, wieczornice* 'вячоркі'. Паўночнаслав. утварэнне ад прыметніка *večerьn-ь* і суф. ж. р. Nomen agentis *-ic-a* (параўн. польск. *wieczornica* 'дзяўчына, якая ходзіць на вячэрнія сходы або на вечарніцы').

**Вечарніцы** 'вячэрнія размовы' (Кольб.) — pluralia tantum ад *вечарніца* (гл.). Параўн. укр. *вечерниці,* польск. *wieczornicy, wieczornice* 'вячоркі'.

**Вечару́шкі** 'вячоркі' (КТС, Гарэц., Касп.), *вечару́шкі* 'тс' (Бяльк.), рус. *вечеру́шка, вечёрушки* 'вечарынка, размовы, вячоркі'. Беларуска-заходнерускае ўтварэнне (Герд., Пск. гов., 1, 119—28) ад *вечар* і экспрэсіўнага суф. *-ух-а,* якое пад уплывам лексемы *вячоркі* (гл.) стала pluralia tantum. Гл. таксама *вечару́ха.*

**Вечару́ха** 'вечарынка перад вяселлем у жаніха' (Інстр. II); 'вечар перад вяселлем у маладой' (Бяльк.), рус. *вечеру́ха:* паўд. 'вячэрняя забава, вечарынка', арл., разан. 'дзявочнік напярэдадні вяселля', арл., смал., калуж. 'вячэрняя бяседа вясельных гасцей'. Беларуска-рускае ўтварэнне ад *вечар* (гл.) пры дапамозе экспрэсіўнага суф. *-их-а.*

**Вечары́на** 'вечар як частка сутак' (Янк. II), *вечêрина* 'вячэрні час' (Нас., Доп.), укр. *вечори́на* 'вечар', рус. алан., смал., варон. *вечери́на* 'вячэрні час, змрок, прыцемак', пск., наўг. *вечери́нка* 'тс', макед. *вечерина* 'вячэрні змрок, час пад вечар', балг. *вечéрина* 'вечар'. Утварэнне ад *večer-* і суф. *-in-a,* які надае значэнне часткі азначальнай асновы. Ва ўсх.-маг. *вічарі́на* 'вечар' суф. *-ін-а* з'яўляецца павелічальным.

**Вечарынка** 'вячэрняя пагулянка з музыкай і танцамі' (КТС, БРС, Касп., Бяльк.), клім. *вічарі́нка* 'тс', укр. *вечерин-*

*ка* 'бяседа ўвечары', палес. *вечорйнка* 'невялікае вяселле, якое спраўляецца на працягу аднаго дня', рус. *вечерйна* 'вячэрняя забава моладзі'; 'перадвясельны вечар'; 'дзявочнік'; 'развітальны вечар сяброў маладога напярэдадні вяселля', *вечерйнка* 'перадвясельны вечар', арханг. *вечеринки* 'бяседа, вячоркі', польск. *wieczorynek* 'вячэрняя забава'; 'забава маладога і яго бацькі ў сватоў да агледзін', *wiecerynki* 'вячоркі', славац. уст. *večerinka* 'вячэрняя забава, вечарынка', серб.-харв. *вечѐринка* 'вечарынка', *вечѐрина* 'вячоркі, вечарынка', макед., балг. *вечеринка* 'тс'. Ад *večerina* і суф. *-k-*.

**Вечарыны** 'вечарынка перад вяселлем у маладой' (Інстр. II); 'папярэдне, пачатак вяселля' (Касп.). Да *вечарына* (гл.), семантыка ў выніку пераносу; мн. л. паводле ўзору *аглéдзіны, адведзіны, запоіны.*

**Вечарэ́ць** 'блізіцца к вечару' (КТС, БРС, Касп.; палес., Карловіч), укр. *вечеріти, вечоріти,* рус. *вечереть,* алан. *вечериться* 'вечарэць', *вечерится* 'цямнее, змяркае', в.-луж. *wječorić so, wječori so,* славац. *večerit' sa* 'тс', *večerenie* 'змрок', славен. *večeriti se, večeri se* 'вечарэць, вечарэе', серб.-харв. *вечѐрити* 'вечарэць', макед. *свечерува (се),* балг. *отвечери се, отвечерява се* 'вечарэе'. Прасл. *večer-ěti(sę)* адыменнае ўтварэнне ад *вечар* (гл.).

***Вечары́цца**$_1$, мсцісл. *вічарíцца* 'пазніцца' (Бяльк.) утворана ад *вечар* (гл.) 'частка сутак, якая папярэднічае ночы', па ўзору *пазнíцца* (той самы канчатак); перанос семантыкі грунтуецца на тым факце, што вечар — позняя пара сутак, бо перад ім (пасля дня) ёсць надвячорак са змрокам; параўн. рус. кастр. *вéчере* 'вельмі позна', калуж. *вечерée* 'пазней вечарам'.

**Вечары́цца**$_2$ 'цямнець' (Нас.). Да *вечарэ́ць* (<*večerěti*> *večeriti*).

**Ве́чка** 'верхняя частка посуду, скрыні, кошыка і г. д.' (КТС, БРС, Некр., Сцяшк.; карэліц., Мат. Янк.). Да *вéка* (гл.).

**Вечнабытны** 'вечны' (Яруш.) — рэгіянальнае ўтварэнне ад *вечны* і *быць* па ўзору *векапомны* (гл.).

**Ве́чны** 'які існуе заўсёды' (КТС, БРС, Бяльк.), палес. 'участак, які даўно не абрабляецца' (Выг.), укр. *вічний,* рус. *вéчный,* польск. *wieczny,* в.-луж. *wěčny,* чэш. *věčný,* славац. *večný,* славен. *véčen,* серб.-харв. *вѐчан,* макед. *вечен,* балг. *вечен,* ст.-слав. **вѣчьныи.** Прасл. *věčьnъ,* утворанае ад *век* (гл.) пры дапамозе суф. *-ьn-ъ* (Шанскі, 1, В, 82). Рэгулярнае прыслоўе ад яго — *вечна* (КТС, БРС, З нар. сл.), *вечно* (Сцяшк. МГ); *вéчне* (Жд., 2), шчуч. *вéчня* (З нар. сл.) <*вéчне* маюць канчатак *-е (>я)* пад уплывам польскай мовы, ва ўсх.-маг. *вéшна* 'вечна, заўсёды' (Бяльк.) пераход *-чн->-шн-* з'яўляецца рэгулярным для ўсх.-бел. гаворак (ДАБМ, к. 61).



**Ве́чнік**$_1$ (арго) 'вязень, асуджаны на пажыццёвае зняволенне' (БРС). Запазычана з рус. *вечник* 'тс' (<*вечный*).

**Ве́чнік**$_2$ 'вечны мучыцель сялян' (лід., Карл.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад *вéчны* (гл.) і суф. *-ikъ.*

***Веччына,** *віччына* 'вяндліна' (касцюк., Бяльк.) запазычана з рус. *ветчина* 'тс'.

**Ве́шак**$_1$ 'вешалка ў адзенні' (Сцяшк. МГ), драг. *вішáк* 'тс' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Запазычана з польск. мовы; параўн. польск. *wieszak* (гл. Сцяц., Словаўтв., 63).

**Ве́шак**$_2$ 'вешалка для адзення' (карэліц., Шатал.) запазычана, відаць, з польск. *wieszak* 'вешалка (стойка, гак) для вешання адзення'; 'плечкі'.

**Ве́шала**$_1$ 'прыстасаванне з калоў, жэрдак для сушэння сена, вянкоў цыбулі і інш.' (КТС, БРС), укр. *вішало* 'вешалка для адзення', рус. паўн. *вешало* 'жэрдка, на якой што-небудзь развешваецца, сушыцца (снапы, лён)'; 'вяроўка, на якой сушыцца бялізна', ст.-рус. *вешала* 'прыстасаванне з жэрдак для прасушвання чаго-небудзь' (з XVII ст.), польск. *wieszadło* 'вешалка'; 'паліца ў выглядзе драбіны', в.-луж. *wěšadło* 'вешалка', чэш. *věšadlo* 'тс', славац. *vešadlo* 'апорная канструкцыя', славен. *vešála* мн. л., серб.-харв. *вѐшала,* балг. *вéшало* 'шыбеніца', славен. *vẹ́šalo* 'павешанае на сцяне кухоннае начынне', прасл. лексема з суф. *-dlo* ад асновы *věšati* (гл. *вешаць*).

**Ве́шала**$_2$ 'звязка грыбоў' (Інстр. III), лун. *вэ́шало* 'нізка скручанага лыка' (Шатал.) узнікла ў выніку семантычнага пераносу: 'прыстасаванне (жэрдка, вяроўка), на якім падвешваецца нешта для сушкі'→'тое, што падвешваецца'.

**Ве́шалка** 'полка або стойка з кручкамі (калочкамі), на якія вешаюць адзенне' (КТС, БРС, Сцяшк. МГ); 'вешалка ў адзенні' (Сцяшк. МГ), укр. *вішалка* 'паліца-вешалка', рус. *вешалка* 'тс', балг. дыял. *вешалка* 'шыбеніца'. Гэта параўнальна новае ўсходнеславянска-балгарскае ўтварэнне, відавочна, ад *вѣшало (<věšati)* і суф. *-к-а* (Nomina loci), а не непасрэдна ад *вешаць,* як мяркуе П. Сцяцко (Нар., 116).

**Вешальнік**$_1$ 'той, хто вешае людзей' (КТС). Новае ўтварэнне ад дзеяслова *веша-ць* і суф. *-льнік.*

**Вешальнік**$_2$ 'вісельнік' (лун., Шатал.), укр. *вішальник* 'тс' утворана ад дзеяслова *веша-цца* і суф. *-льнік*. Гл. *вісельнік*.

***Ве́шальнік**$_3$, *вјêшалнык* 'сук, на які вешаюць вулей' (Анох., 323) паходзіць, відавочна, ад **вешальна* (<*ве́шаць*< <*věšati*), якое абазначала прыладу дзеяння (параўн. бел. *дзяржальна*, прасл. *krosno*); пад уплывам слова *сук* лексема *вешална* змяніла суф. ніякага роду на мужчынскі *-(н)-ік*; адсутнасць мяккасці *-л-* у лексеме *вјêшалнык* з'яўляецца характэрнай для паўднёвых бел. гаворак; параўн. *чап'úлна* 'цапільна', *быч'е́лно* 'біч цэпа' (ДАБМ, 828).

**Ве́шацель** 'вешальнік, той, хто вешае' (БРС, КТС)<з рус. *вешатель* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 56). Сюды ж *вешацельскі* (Яруш.).

**Ве́шаць** 'надаваць каму-небудзь вісячае становішча'; 'схіляць што-небудзь' (КТС, БРС, Бяльк.), рус. *вешать*, укр. *вішати*, польск. *wieszać*, в.-луж. *wěšeć*, чэш. *věšeti*, славац. *vešat'*, славен. *(o)bêšati*, серб.-харв. *ве̏шати* 'тс'. Прасл. *věšati* (<*věsjati*) з'яўляецца дзеясловам ітэратыўнага значэння, утвараемым ад *věsiti*; параўн. *весіць, вісець* (гл.). Гл. таксама Сразнеўскі, 1, 493; Голуб—Копечны, 417; Шанскі, 1, В, 83; КЭСРЯ, 79.

**Вешка**$_1$ 'галінка' (КТС), *вешачка* 'тс' (Шн., Песні), рус. пск. *ве́шка* 'галіна, пераважна яловая', арханг. 'галіна'. Да *веха, вяха*$_{1, 4}$ (гл.); параўн. таксама рус. арханг. *вехá* 'вярба', арл. *веха* 'паручайнік, Sium latifolium L.', польск. *wiecha* 'мяцёлка', нарв. *vise* 'тс', *veis* (<**vaiso-*) 'сцябло', лац. *virgo* 'галіна, розга'.

**Вешка**$_2$ 'знак, якім указваецца ў полі зімой дарога' (КТС, Інстр. I); 'указальнік фарватэра' (Інстр. I) дэмінутыў ад *вяхá*$_1$ (гл.).

***Вешка**$_3$ ў выразе *вêшка-раба* 'падзыўное для свіней' (Шпіл.). Гл. *вяцю-вяцю*.

**Ве́шні** 'вясновы' (КТС), ст.-рус. *вешний, вешный* (з XII ст.), а таксама *весьнии* (Сразн., 1, 248, 252), рус. *вешний* 'тс'; гэты ж корань ва ўкр. *вешняк* 'вадзяны млын, які працуе толькі ў час разводдзя'. Узыходзіць да прасл. *vesna* 'вясна'> *vesnьjь*; захавалася толькі на поўначы ўсходнеслав. моўнай тэрыторыі, відаць, таму, што ў іншых славян *vesna* вельмі рана было выцеснена іншымі лексемамі; параўн., напр., чэш. *jaro*, серб.-харв. *прôлеће* і г. д. Гл. яшчэ Праабражэнскі, 1, 79; Фасмер, 1, 309; Шанскі, 1, В, 83; КЭСРЯ, 79.



**Ве́шніцы** 'весніцы, вароты пры ўездзе ў двор' (Гарэц., Бір., З нар. сл.), слонім. 'вароты' (Арх. Бяльк.; Карскі, Труды, 482). Да *ве́сніцы* (гл.).

**Вешчаство** 'рэчыва' (КТС), укр. *вещество* 'тс' запазычана з рус. *вещество*<ст.-слав. **вещьство** (Шанскі, 1, В, 83).

**Вешч** 'рэч' (КТС), укр. *вещ* 'тс' запазычана з рус. мовы, дзе *вещь* 'тс'<ц.-слав., ст.-слав. **вѣщь, вешть**<прасл. *vektь* або *věktь* (Праабражэнскі, 1, 82; Міклашыч, 386; Фасмер, 1, 309—310; Шанскі, 1, В, 83—84; КЭСРЯ, 79).

**Вешчава́ць** 'прадказваць, прадракаць'; 'гаварыць што-небудзь вельмі важнае' (КТС, Нас., Гарэц., Др.-Падб.), укр. *віщувáти* 'тс', рус. *вещевать* 'прадказваць, прадракаць, прадчуваць', ст.-рус. *вѣщевати* і *вѣщавати* 'размаўляць, гаварыць' (з XI ст.), чэш. *věštívati* — ітэратыў ад *věštiti* 'прадказваць'. Утворана ад *вяшчáць* (гл.).

**Ве́шчы** 'мудры, здольны прадракаць' (КТС, БРС), укр. *віщий* 'тс', рус. *вещий*: паўн. 'вядзьмар, чараўнік', разан. 'разумны, талковы, красамоўны', ст.-рус. *вѣщий* 'тс' (з X ст.), польск. *wieszczy* 'вампір', каш. 'дух чалавека, які нарадзіўся з зубамі', *wieszcz* 'паэт, прарок'; 'чалавек, народжаны ў кашулі', *wieszczka* 'варажбітка', в.-луж. *wěšćer* 'варажбіт, прадказальнік', н.-луж. *wěšćaŕ* 'тс', чэш. *věští, věštecký* 'вешчы', славен. *vėšča* 'ведзьма', *veščec* 'чараўнік,' серб.-харв. *ве̏шт* 'вопытны, дасведчаны, лоўкі, умелы', макед. 'умелы, мастацкі', *вештак* 'спецыяліст', балг. *вещ* 'дасведчаны', ст.-слав. **вѣщь, вѣщьць** 'чараўнік, вядзьмар', ц.-слав. *вѣшть* (з XIV ст.), прасл. *věštь-jь*<**věstj-*<**věd-tjo-*. Да *ведаць* (гл.). Параўн. Міклашыч, 390; Праабражэнскі, 1, 110; Фасмер, 1, 309; Шанскі, 1, В, 83; КЭСРЯ, 79; БЕР, 1, 140—141; Махэк$_2$, 686.

***Вешчанец**, маг. *вешчаніц* 'званочак скучаны, Campanula glomerata L.' (Кіс.) Іншыя разнавіднасці Campanula L. на Беларусі называюцца яшчэ *званкі, званкі лугавыя, званок, звонка* (Кіс.) і звязаны, такім чынам, са словам *звон* 'царкоўны звон, у які білі, калі трэба было паведаміць нейкую вестку'. У такім разе *вешчаніц* — гэта семантычны перанос, паводле формы, з лексемы *звон* 'царкоўны звон'→'званочак' у дэмінутыўным значэнні.

**Вешчыца** 'ведзьма, якая кладзе сваё цела пад ступу, а сама вылятае сарокай праз комін' (паўн.-віц., Крывіч, 12, 1926, 108), паўн.-рус. *вещица* 'ведзьма, гадалка, нячысцік'; 'эпітэт сарокі'; 'пляткарка', польск. кракаўск. *wiescyca* 'д'ябліца',

*wieszczyca* 'тс', каш. 'вампір', чэш. *věštice* 'ведзьма', мар. *věštica* 'лясная німфа', славац. *veštica* 'прадракальніца, прарочыца, чараўніца', славен. *veščíca* 'прарочыца', серб.-харв. *вѐштица* 'старая жанчына, якая патаемна супрацоўнічае з д'ябламі', макед. *вештица* 'ведзьма', балг. *вещица* 'ведзьма, чараўніца, злая, грозная жанчына'; 'начны матыль, святляк Lampiris', ст.слав. **вѣщица,** прасл. *věštica* 'жанчына, якая ведала будучае і прадказвала яго'. Утварылася ад прыметніка *věštь-* (<*vědati*) і суф. *-ica*. Гл. таксама *вéшчы.*

**Вéшыць** 'пры сяўбе абазначаць саломай месца, дзе ўпала апошняе зерне, каб другі раз не кідаць зерня на тое ж месца'; 'абстаўляць, вызначаць дарогу зімой' (Нас.). Да *вяха́*₁ (гл.). Параўн. таксама рус. прэйл. (Латв. ССР) *вéшить* 'ставіць веткі, калі сеюць, абазначаючы вузкія палосы засеянага поля', укр. *вішити* 'вяшыць'.

**Веюшка** (паэт.) 'думка' (КТС) — дэмінутыў ад *вéя*₁ (гл.).

**Вея**₁ 'завея, завіруха' (КТС, БРС, Гарэц., Яруш., Касп., Нас., Бяльк.; докш., Янк. Мат.), укр. *вія* 'шуфель, веялка', рус. пск., смал. *вея* 'завея, мяцеліца', польск. *wieja* 'завіруха', *wija/wieja* 'вецер', н.-луж., в.-луж. *wějawa* 'веялка', чэш. *věјavka,* мар. *věj* 'завіруха', славац. *veja* 'тс', *vejka* 'разная фігурка (найчасцей птушка) у вільчаку франтона', серб.-харв. *ве́ја, вјéја* 'вядзьмарка', *вѐјавица* 'мяцеліца, завіруха', макед. *виулица, вејавица,* балг. *виелица, веявица* 'тс'. І.-е. адпаведнікі: літ. *vė̃jas,* лат. *vējš,* грэч. ἀήτης, ст.-інд. *vāyúḥ* 'вецер' <**vē-* да *веяць* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-ja* (ён абазначаў спачатку Nomina actionis, якія пераходзілі звычайна ў Nomina acti). Блезэ (21) сцвярджае, што *вéя* паходзіць з літ. *vė̃jas,* лат. *vējš*. Лаўчутэ (351) гэта аспрэчвае.

**Вéя**₂ 'вейка' (Сцяшк. МГ, бяроз., Шатал.), зах.-палес. *вія, віїі* (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), укр. *вія* 'вейка'. Бел.-укр. ізалекса; паводле бел. *вейка,* можна меркаваць, што на іншай, апрача вышэйадзначанай, беларускай моўнай тэрыторыі было таксама *вея.* Узнікла ад *věja* 'галіна' ў выніку пераносу значэння дзеяслова *věјati* 'хістацца, махаць'→'абмахваць' (параўн. укр. *віяло* 'веер'); 'змахваць'. Да *вéяць* (гл.).

**Вея**₃ 'павека' (КТС) утворана ў выніку пераносу па сумежнасці ад *вея*₂, тое ж і ў балт. мовах: літ. *blakstíena* 'павека' — лат. *plakstinš* 'вейка'.

**Вея**₄ 'невялікі луг' (Гіст. лекс., 149) запазычана з літ. *vejà* 'трава, мурог'.



**Вéялка**₁ 'драўляны шуфлік для ручнога веяння зерня'; 'машына, якой ачышчаюць збожжа ад мякіны' (КТС, БРС, Выг., Бяльк., Шат., Яруш., Сцяшк. МГ), брэсц. *віялка* 'драўляны савок, якім веялі ўручную' (Сіг.). Укр. *віялка,* рус. *вéялка,* польск. *wiałka,* макед. *веалка* 'тс', балг. *веялка* 'веялка'; 'цура, зробленая ў першы тыдзень вялікага посту ў гонар летняга ветру, які лічыўся духам, што дапамагаў у час малацьбы'. Утворана ад *vějadlo* (параўн. ст.-рус. *вѣяло* 'лапата', н.-луж., в.-луж. *vějadło* 'веялка') і суф. *-к-а.* Да *веяць* (гл.). Побач з суф. *-л-ка* на слав. тэрыторыі маюцца ўтварэнні ад *веяць* з іншымі суфіксамі са значэннем Nomina instrumenti: бел. палес. *вéянка, вéячка,* укр. *віячка, віяльніца,* рус. *вéянка, вéйніца, вéйка,* балг. *веячка,* в.-луж. *wějawa,* чэш. *věječka, viječka, vějačka,* польск. *wiejalnia, wiejacha,* уст. *wiejaczka.*

**Вéялка**₂, *еéялкі* 'вейка, вейкі' (БРС, шчуч., навагр., маст., Сцяшк. МГ, КЭС, Жд., 1, 3 нар. сл.) — рэгіянальнае беларускае кантамінаванае ўтварэнне ад *вейка, веяць* (гл.) не без уплыву лексемы *веялка*₁ (гл.).

**Веялка**₃ 'павека' (навагр., КЭС) узнікла шляхам семантычнага пераносу па сумежнасці ад лексемы *веялка*₂. Адваротны пераход назіраецца ў рус. арханг. *веко* 'вейка', йонаўск., прэйл. *вéки* 'вейкі' пры рус. *веко* 'павека'.

**Вéянка**₁ 'машына для веяння збожжа' (Кліх), палес. *віянка* 'шуфлік' (Тарн.), лун. *вéенка* 'драўляны шуфлік для ручнога веяння' (Шатал.). Укр. *віянка* 'веянне збожжа', рус. урал., сіб. *вéянка* 'веялка, машына для веяння'. Усх.-слав. утварэнне з суф. *-k-a* ад прыметніка *vějanъ.* Да *вéяць* (гл.).

**Веянка**₂ 'павека' (свісл., Шатал.). Рэгіянальнае ўтварэнне ад *веяць* (гл.). Аналагічныя суадносіны ў лексемы *веялка* 'шуфлік'↔*веялка* 'павека'.

**Веяць** 'ачышчаць збожжа ад мякіны'; 'дзьмуць, абдаваць павевамі што-небудзь' (КТС, БРС, Касп., Яруш., Шат.), *вéяты* 'веяць збожжа' (Выг.). Укр. *віяти* 'веяць, дзьмуць'; 'ачышчаць збожжа'; 'віляць (хвастом)', рус. *веять* 'дзьмуць, абдаваць паветрам'; 'ачышчаць збожжа', ст.-рус. *вѣяти* 'тс', польск. *wiać* 'дзьмуць'; 'ачышчаць збожжа пры дапамозе ветру'; 'уцякаць, знікаць', каш. *vjåuc* 'веяць', в.-луж. *wěć* 'веяць, ачышчаць збожжа', чэш. *váti* (<*vějati*) 'тс', славац. *viat'* 'ачышчаць збожжа'; 'віцца (аб флагу)', славен. *vẹ́jati* 'ачышчаць збожжа, веяць', серб.-харв. *вѐјати* 'ачышчаць збожжа', *вйјати* 'веяць, развейвацца'; 'веяць збожжа', макед. *вее* 'веяць, дзьмуць; развейвацца, несці, гнаць (аб вет-

ры)'; 'ачышчаць збожжа', балг. *вея* 'дзьмуць; аддзяляць зерне ад мякіны пры дапамозе ветру', ст.-слав. **вѣꙗти** 'веяць'. Прасл. *vě-jati*. Роднаснае з літ. *vė̃tyti*, лат. *vētīt* 'веяць (зерне)', грэч. *ἄϜησι* 'вее', лац. *ventus* 'вецер', гоц. *waian* 'веяць', ірл. *do-in-fethim* 'удуваю', ст.-інд. *vā́ti, vā́yati* 'дуе, раздувае', авест. *vāiti* 'вее'<і.-е. **u̯ē(i)-*. Гл. таксама Траўтман, 345; Праабражэнскі, 110; Фасмер, 1, 310; Брукнер, 610; Махэк₂, 678; БЕР, 1, 141; Скок, 3, 588; Шанскі, 1, В, 84; КЭСРЯ, 58; Выгонная, Лекс. Палесся, 79—83.

**Вёдра** 'добрае надвор'е (Інстр. II). Укр. *ве́дро* 'яснае надвор'е', рус. вяц. *вёдрецо*, арханг. *ве́дрие*, смал., пск. *ведри́на* 'яснае сонечнае надвор'е', ст.-рус. *ведро* 'тс' (з XII ст.); 'гарачыня, спякота, засуха' (з XII ст.), ст.-польск. *wiadro, wiodro* (з XV ст.) 'спякота, гарачыня', н.-польск. *wiadro* 'надвор'е, стан паветра', каш. *v'odro* 'надвор'е, паветра', палаб. *vedrü* 'надвор'е'; 'сонца', н.-луж., в.-луж. *wjedro* 'надвор'е', чэш. *vedro* 'спякота, гарачыня', славац. уст. *vedrný, vedro* 'яснае надвор'е', славен. *védro, vedrína* 'тс', *vȩ̑drna* 'вясёлка', серб.-харв. *вё дро, ведри̏на* 'яснае, сонечнае надвор'е', макед. *ведорница, ведрина* 'тс', балг. *ведрина, ведринка, ведрост* 'тс', *ведър* 'ясны, бясхмарны (аб надвор'і)', ст.-слав. **ведро** 'добрае надвор'е'. Прасл. *vedro* з'яўляецца старым адпрыметнікавым назоўнікам. У балтыйскіх адпаведніках, паводле Скока, 3, 572, адсутнічае пачатковае *v-* (<і.-е. *u̯e-*); параўн. літ. *gaidrùs giẽdras* 'ясны, светлы', лат. *gẽdrs, skaidrs* 'ясны'. Праабражэнскі (1, 69) аспрэчвае роднасць балтыйскіх лексем да слав. *vedro*. Славянска-германская ізалекса звычайна інтэрпрэтуецца як звязаная з і.-е. **u̯e-* і ўтвораная пры дапамозе суф. **-dhro;* параўн. таксама ст.-ісл. *veðr* 'вецер, паветра, надвор'е', ст.-в.-ням. *wetar*, н.-в.-ням. *Wetter* 'надвор'е', англ. *weather* 'надвор'е, ветранае надвор'е; шторм'. Гл. Міклашыч, 377; Праабражэнскі, 1, 69; Брукнер, 622; Голуб—Копечны, 410; Фасмер, 1, 284; Шанскі, 1, В, 84; КЭСРЯ, 72; Скок, 3, 572; БЕР, 1, 127—128. Аднак прагерм. *weðra* суадносіцца са ст.-грэч. (*Ϝ*)*ἔτος* 'год', *δυσ-ετηρία* 'дрэннае надвор'е', ст.-інд. *vatsaraḥ* 'год' і інш. Калі гэта так, тады прасл. *vedro* трэба лічыць запазычаннем з герм. (Мартынаў, Лекс. взаим., 56—58). Махэк₂ (681) суадносіць *vedro* з *(s)vęd-* 'сушыць цяплом, сушыцца, вянуць', магчыма, сюды ст.-польск. *wiądro* (?), аднак цяжка звязаць з гэтым коранем прасл. *vedro* без назальнага *-e-*.

**Вёрстка** 'размеркаванне друкарскага набору паводле старонак'; 'набор, а таксама адбітак набору' (КТС, БРС). Укр. *верстка*, рус. *вёрстка*. Запазычана з рус. мовы, дзе ўзнікла на падставе дзеяслова *верстать*. Гл. *вярста́ць*.



**Вёрт** 'абарот' (КТС) — уласнабеларускае; у мастацкай літаратуры сустракаецца з 20-х гадоў XX ст. (Ц. Гартны), аднак па форме можа быць вельмі старым прасл. *vertъ*<і.-е. **u̯ert*.

**Вёртка** 'доўгі гнуткі лут' (лаг., КЭС), рус. арханг. *вёртка* 'свердзел', кастр. 'яма печы для выпальвання вапны'. Адпрыметнікавае ўтварэнне да *вярцець* (гл.)<*vьrtěti*.

**Вёрткі** 'здольны да хуткіх і спрытных рухаў; выкрутлівы, порсткі, жвавы; пранырлівы' (КТС, БРС, Шат., Карл.), укр. *ве́рткий* 'шустры', рус. разан. *вёртко* 'хутка, скора', чэш. уст. *vrtký*, новае *vratký* 'нясталы, ненадзейны, хісткі', славац. *vrtký* 'хуткі, рухлівы, неспакойны, вёрткі, рэзкі'. Паўн.-слав. ізалекса. Утворана пры дапамозе суф. *-kъ* ад дзеяслова *vьrtěti;* гл. *вярцець*. Крукоўскі (162) лічыць гэту лексему агульнарускай.

**Вёска** 'сялянскае паселішча, сяло, сельская мясцовасць' (КТС, БРС, Нас., Касп., Гарэц.), *весь* 'тс' (Гарэц.). Укр., рус. уст. *весь* 'вёска', ст.-рус. *веска* 'вёсачка', *весь, вьсь* 'вёска, паселішча, квартал горада' (X ст.), польск. *wieś* 'вёска', каш. *vjes* 'тс', палаб. *vas* 'вёска, горад', н.-луж. *wjas, wjaska* 'вёска', в.-луж. *wjes*, чэш. *ves* 'тс', славац. уст. *ves* 'малая вёска', славен. *vȃs*, серб.-харв. **вас*, балг. *вес* (толькі ў геаграфічных назвах), ст.-слав. **вьсь.** Мае адпаведнікі ў і.-е. мовах: літ. *viẽšpat(i)s* 'гаспадар, пан', лат. *vìesis* 'госць, прышлы чалавек', ст.-прус. *waispattin* 'гаспадыню'. ст.-інд. *viśpati* 'гаспадар', *viśpatnī* 'гаспадыня', алб. *amvisë* 'тс', ст.-інд. *viś-* 'дом, жыллё', *veśás* 'сусед', грэч. *Ϝοῖκος*, авест. *vīs-*, ст.-перс. *viϑ* 'дом', алб. *vis* 'месца, мясцовасць, плошча', лац. *vīcus* 'паселішча', гоц. *weihs* 'вёска'. Узыходзіць да і.-е. **u̯ei̯k'- (*u̯ik'-) *u̯oi̯k'-o* 'дом, жыллё'. Звязана, відавочна, з прасл. **vě̆s-* 'род, дом' (Мартынаў, Зб. Аванесаву, 190—192). Гл. таксама Праабражэнскі, 1, 80; Вондрак, Sl. Gr., 1, 346); Траўтман, 363; Вальдэ—Гофман, 2, 782—3; Фасмер, 1, 305; Голуб—Копечны, 412—3; Брукнер, 618—9; Махэк₂, 684—5; Скок, 3, 567; БЕР, 1, 137; Шанскі, 1, В, 76; КЭСРЯ, 78; Рудніцкі, 1, 373.

**Вёсла** 'вязка, нізка' (КТС). Да *вясло́* (гл.). Націск на *вё-* абумоўлены, відаць, наяўнасцю аманіміі з наступным знешнім распадабненнем слоў у слуцкіх гаворках (сустракаецца ў пісьменніцы А. Васілевіч).

**Вётла** 'лаза' (маз., Мат. Гом.). Да *ве́тла* (гл.).

**Вёх** 'цыкута' (?) (гарад., Рам., 8), вілен. *wech, wiech, wioch* 'цыкута', укр. *вех* 'тс'; 'паручайнік', рус. *вех, вёх:* смал., кур.,

пенз., цвяр. 'цыкута', уладз. 'какорыш звычайны', горк. 'сніт-ка', уладз. 'стрэлкі'; 'амежнік'; 'зоркаўка'; 'балотная пятрушка', смал., пск., раст. *веха* 'цыкута', чэш. *vích, věch* 'вехаць'. Наяўнасць пары *věхъ↔věха* сведчыць аб архаічнасці лексемы (Ільінскі, AfslPh, 29, 162). На ўсх.-слав. тэрыторыі *вех, вёх* ужываецца пераважна для называння раслін з сямейства парасонавых. Можна меркаваць аб семантычнай інавацыі на ўсх.-слав. тэрыторыі. Да *вяха*$_1$ (гл.).

**Вібраваць** 'рытмічна хістацца' (КТС) словаўтваральна пераафармлена з літар. *вібрыраваць,* якое паходзіць з рус. *вибрировать*<ням. *vibrieren* 'хістацца, дрыжаць, вібрыраваць'.

**Вібрацыя** 'рытмічнае хістанне пругкага цела' (КТС, БРС). Запазычана праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 89) з франц. *vibration* 'хістанне, ваганне' (Шанскі, 1, В, 91)<лац. *vibratio*<*vibrare* 'дрыжаць, хістацца' (Даза, 750). Не выключана магчымасць запазычання з польск. *wibracja,* асабліва з музычнай тэрміналогіі. Сюды ж *вібрант, вібратар, вібрацыйны* (КТС, БРС), *вібрыён* (гл.).

**Вібрыён** 'бактэрыі ў форме сагнутай палачкі' (КТС, БРС). Запазычана праз рус. мову з франц *vibrion.* Да *вібрацыя* (гл.).

**Вібрыс** 'від воласу канічнай формы ў футры' (КТС). Запазычана праз рус. мову з н.-лац. *vibrissae* 'валасы ў носе'; 'вусы ў жывёл'.

**Віват** 'брава, няхай жыве' (КТС), ст.-бел. *віватъ* 'тс' (з 1689 г.), укр. *віват,* рус. *виват* 'тс' і г. д. Запазычана з лац. *vivat* 'няхай жыве'<*vivere* 'жыць' праз польск. мову.

**Віварый** 'спецыяльнае памяшканне для ўтрымання падвопытных жывёлін' (КТС, БРС). Укр. *віварый,* рус. *виварий,* польск. *wiwarium* і г. д. Паходзіць з познелац. *vīvārium* 'звярынец' (праз рус. мову).

**Віваўка** 'івалга, Oriolus galbula L.' (Маш.), роднасная да іншых фанетычных палескіх варыянтаў: *йіволга, в'івол'га, івелга, вел'гá* і інш. (Ніканчук, БЛ, 5, 65—67). Рус. *иволга* 'жоўты дрозд, Oriolus galbula', польск. *wywielga, wywiłga, wywiełga, wywilga, wilga, wilgła, wywiołga, wywiga, wyliga, fiołga,* ст.-польск. *wilga* 'івалга', чэш. славац. *vl'ha, vilha,* славен. *vólga* 'тс', серб.-харв. *вуга* 'рэмез', балг. *авлига* 'івалга', ст.-слав. **влъга.** Прасл. *vьlga* (Брукнер, 621) або *vl'ga* (Струтынскі, Nazwy ptaków, 90 і Ніч., Wybór pism, 2, 29). Мае і.-е. адпаведнікі (Махэк, ZfslPh, 20, 49; Мюленбах—Эндзелін, 4, 498; Эндзелін, IF, 33, 126; Фасмер, 2, 114). Бел. форма ўзнікла, відаць, з праформы *(i)vlga* з цвёрдым *-l-,* якое перайшло ў *-у-.* Канчатак *-к-а* з'яўляецца інавацыяй: аналогіі да іншых назваў птушак, назоўнікаў жаночага роду з памяншальным суф. *-к-а,* напр., бел. *зязюлька, качка,* укр. *євка* (<*йова*), польск. *fijółka* 'івалга'. Прычынай было незвычайнае (для славян) фанетычнае афармленне (магчыма, гэта іншамоўнае запазычанне ў прасл. мове), адсюль розная рэфлексацыя *-і-* і пазнейшыя прыстаўныя; параўн. палес. *йівола, ілова, івова, вілова, в'ійа, йімала, и$^ы$ул'гá,* укр. *вольга, єва, вивільга, вільга* і інш. з перастаноўкай ці заменай зычных у аснове (*êвола↔ілова, г→д* або *г→к*: укр. *іговда,* польск. *wywiołda, wywielk*). Да *івалга* (гл.).



**Віваць** 'плесці' (Шн.) — архаічны славянскі ітэратыўны дзеяслоў, які захаваўся ў беларускім фальклоры (песні). Утвораны пры дапамозе суф. *-ва-* ад *віць* (гл.).

**Віга** 'віка' (Сцяшк.), *віга* (Сцяшк. МГ). У выніку інтэрвакальнага азванчэння да *віка* (гл.).

**Вігар** 'глыбокае месца на балоце'; 'яма, запоўненая ілам, вадой'; 'азярына' (Яшк.). Да *выгар* (гл.).

**Вігвам** 'жыллё індзейцаў Паўночнай Амерыкі з вецця, кары і скур' (КТС, БРС). Запазычана праз рус. мову з а.-англ. *wigwam* (<алгонкінск, *wēkou-om-ut* 'у сваім доме'; параўн. Скіт, 610; Шанскі, 1, В, 92).

**Вігонь** 'паўднёваамерыканская лама з тонкай мяккай шэрсцю, Lama vicugna'; 'тканіна з шэрсці вігоні'; 'пража з сумесі бавоўны і грубай шэрсці' (БРС, КТС). Запазычана праз польск. ці рус. мову з франц. *vigogne* (<ісп. *vicuña*<перуанск. *wikunia*).

**Від**$_1$ 'від, перспектыва, якая адкрываецца перад вачамі' (БРС, КТС, Шат.); 'выгляд' (БРС, КТС, Сцяшк. МГ, Янк. I); 'агульнае выражэнне твару' (Шат.); 'твар' (Янк. I, Яруш., Гарэц., Нас., Бяльк., Мат. Гом., Шатал.); 'паштоўка' (Мат. Гом.). Укр. *вид* 'твар'; 'зрок' рус. *вид* 'зрок'; 'знешні выгляд'; 'мясцовасць, перспектыва, што адкрываецца перад вачамі', ст.-рус. *видъ* 'здольнасць бачыць, зрок'; 'відовішча'; 'знешні выгляд'; 'прывід, здань, праява', польск. *wid* 'прывід, здань, дух'; 'святло, зрок' у выражэнні *ani widu, ani słychu* 'ні слыху, ні дыху', уст. 'выгляд, знешні від', чэш. *vid* (кніжн.) 'спосаб бачання'; 'відовішча'; 'зрок'; 'выгляд, форма', славац. *vid* 'бачанне, успрыманне на зрок', (кніжн.) 'зрок, погляд'; 'выгляд'; 'спосаб спаглядання, назірання; светапогляд', славен. *vîd* 'зрок'; 'глядзенне, назіранне, нагляданне'; 'твар, выгляд';

'краявід, ландшафт', серб-харв. *вйд* 'зрок, увага, поле зроку'; 'відно', макед. *вид* 'зрок'; 'знешні выгляд'; 'від, гатунак, род', балг. *вид* 'знешнасць'; 'выгляд'; 'краявід', ст.-слав. **видъ** 'вобраз, знешні выгляд'; 'род, від, характар'; 'форма'; 'нагляданне'; 'агляд'. Прасл. *vidъ*, роднаснае з літ. *véidas* 'твар, воблік', *veidaĩ* 'шчокі', лат. *veĩds* 'форма, вид, выгляд', грэч. (*F*)εἶδος 'вобраз, від, фігура, форма', ст.-інд. *vēda* 'выгляд', *vḗdaḥ* 'веды'; 'абачлівасць, асцярожнасць', авест. *vaēdah-* 'валоданне'. І.-е. **u̯eidos* 'тое, што відаць'. Параўн. яшчэ Траўтман, 358; Мюленбах—Эндзелін, 4, 522; Майргофер, 21, 254; Праабражэнскі, 82; Фасмер, 1, 312; Шанскі, 1, В, 93; КЭСРЯ, 80; БЕР, 1, 143.

**Від**$_2$ (біял.) 'від, разнавіднасць, тып' (КТС, БРС). Запазычана з рус. *вид* 'тс'.

**Ві́да** 'хутка, як толькі можна ўбачыць' (Шат., Юрч.), *відам* 'мігам, умомант' (Яўс.), *куды віда* 'хто куды, у розныя бакі разбягацца' (Янк., БФ, КТС). Да *від*$_1$ (гл.).

**Відаво́к** 'далягляд, кругагляд' (Гарэц., Др.-Падб., КТС). Першапачаткова лексема мела выгляд марфолага-сінтаксічнай структуры канструкцыі *відзець вокам.*

**Відавокі** 'відушчы' (КТС). Новаўтварэнне па ўзору *чарнавокі.*

**Відавочац** 'сведка, відавочнік' (КТС). Калька з рус. *очевидец* 'тс'.

**Відаво́чнік** 'сведка здарэння' (БРС, КТС, Сцяшк. МГ) утворана ад *відавочны* і суф. *-нік.*

**Відаво́чны** 'яўны, пэўны, бясспрэчны' (БРС, КТС); 'які знаходзіцца побач' (Шат.), *відавочна* 'яўна, наглядна' (Касп., Сцяшк. МГ); 'свядома' (лаг., КЭС); 'напэўна, відаць, мусіць'; 'яўна'; 'прыкметна'; 'ясна'; 'бясспрэчна' (КТС). Утвораны ад *відавок* і суф. *-(ь)пъ.*

**Відавочца** 'сведка здарэння, падзеі' (КТС). Калька з рус. *очевидец,* аднак з польск. суфіксам Nomina agentis *-ca* (прасл. *-ьса*), які на ўсх.-слав. глебе даў *-ец/-ац;* параўн. бел. *відавочац.*

**Відалы** 'бывалы' (КТС); 'вопытны чалавек, які бачыў свет' (Нас.). Утворана ад дзеепрыметніка на *-l-ъ.* Да *відзець* (гл.). Параўн. рус. *вида́лый* 'тс'.

**Віда́ль**$_1$ 'незвычайная, дзіўная, прывабная рэч' (Нас.) з рус.



*невидаль* 'нябачанае дзіва'. Сюды ж *відальшы*$_1$ 'прыгажэйшы, статнейшы, больш відны'.

**Віда́ль**$_2$ 'перспектыва, від' (Нас., Гарэц., Яруш.), магчыма, з **відадаль*<*відзець даль.* Параўн. яшчэ *відальшы* 'здольны бачыць далей, адрозніваць прадметы на большай адлегласці'. Да *відзець* (гл.).

**Відана** 'бачана' (Шат., КТС), *відано* 'тс' (Сцяшк. МГ) — дзеепрым. залежнага стану, запазычаны з рус. мовы, звычайна ў словазлучэнні *дзе ж гэта відана, каб...*

**Відань** 'прывід, здань, праява' (КТС, Я. Скрыган) — кантамінаванае новаўтварэнне ад *відзець* і *здань.*

**Віда́ць** 'можна бачыць, разглядзець'; 'можна зразумець'; 'быць відавочным, вынікаць'; 'як здаецца, мабыць, напэўна' (КТС, БРС, Гарэц., Шат., Нас.; КЭС, лаг.; Бяльк., Касп.). Укр. *видати* 'бачыць', рус. *видать* 'тс'; 'відаць, можна бачыць'; 'відавочна', ст.-рус. *видати* 'бачыць'; 'заўважаць'; 'быць прынятым кім-небудзь'; 'адчуваць, пераносіць, перажываць'; 'мець'; 'можна бачыць', польск. *widać* '(можна) бачыць, відаць'; 'відавочна', *nie widał* 'не павінен', *nie widałem* 'мне гэта не хочацца, я нават не думаю пра гэта', чэш. *vidati,* славац. *vídat'* 'бачыць (час ад часу, часта) каго-небудзь'; 'уяўляць сабе, мець уяўленне'; 'назіраць'; 'звяртаць увагу на штонебудзь'; 'можна бачыць'; 'мець жаданне бачыць каго-небудзь'; 'відавочна', серб.-харв. *вйдати* 'вылечваць, лячыць раны знахарствам', *вйђати* 'бачыць, сустракаць (часта)', макед. *вида* 'лячыць'. Прасл. *víd-ati* ўтворана пры дапамозе ітэратыўнага суфікса *-a-ti* ад *vid-ěti.* Да *відзець* (гл.).

**Відацца** 'сустракацца, мець сустрэчу, бачыцца' (Нас., Касп.), рус. *видаться,* йонаўск. 'быць відочным, віднецца', арл., варон. 'вітацца', каз. 'цалавацца пры сустрэчы, растанні', ст.-рус. *видатися* 'бачыць адзін аднаго, убачыцца'; 'сыходзіцца для бою, сустракацца ў бітве', чэш. *vidati se* 'бачыцца, сустракацца з кім-небудзь', славац. *vídat' sa* 'тс'; да *відзець* (гл.).

**Відзелкі** 'відэльцы' (слуц., З нар. сл.), *відзёлкі* (Выг.), *відзельцы* (Бяльк.), укр. *виделка,* рус. кур., арл., варон., смал. *виделка, видёлка, видёлочка* 'тс'. Запазычана з польск. *widelec* 'тс' не без уплыву ўсх.-слав. або бел. *вілкі.* Гл. яшчэ *відэлка.*

**Відзельца** 'відэлец' (нараўл., Мат. Гом.) — відазмененае *відэлец* пры дапамозе суф. *-ль-ца,* які надае слову памяншальнае значэнне. Тое ж бел. *відэльца* (Касп.). Сюды ж *відзелец.*

**Відзёлка** 'відэлец' (Мат. Гом.). Утворана ад *відэлец* (гл.) па тыпу *сядзёлка* (гл.) пры дапамозе суф. *-к-а*. Параўн. рус. смал., кур., варон., арл. *виделка, видёлка* 'тс'.

**Відзік** 'пейзажны малюнак у рамцы пад шклом' (гродз., Сцяц., Словаўтв.); 'паштоўка' (маз. Мат. Гом.). Укр. *видик*, рус. *видик* (памянш. ад *від*), польск. *widok* 'від, перспектыва, пейзаж, пейзажны малюнак', чэш. *vidĕk* 'вёска, правінцыя, перыферыя'; 'пейзаж, від,' славац. *vidiek* 'тс', серб.-харв. *вйдик* 'гарызонт'; 'від', макед. *видик* 'тс'. Запазычана з польск. *widok;* пры гэтым суфікс *-ok* заменены на беларускі *-ік* (з памяншальна-ласкальным адценнем). Пазней стала ўспрымацца як памяншальнае ад *від* (Сцяц., Словаўтв., 112).

**Відзь** (часціца) 'ж, аднак' (Нас.) запазычана з рус. *ведь* 'тс' (<ст.-рус. *вѣдь,* ст.-слав. **вѣдѣ**). Сюды ж *відзь жа* 'аднак жа' (Нас.).

**Відзьма** 'бачна, відаць; безліч' (Нас.). Рус. ленінгр. *видьмо* 'відаць, відавочна'. Звязана з рус. *видимо, видимый, видеть.* Да *відзець* (гл.). Параўн. Шанскі, 1, В, 93.

**Відзенне** 'зрок'; 'твар'; 'вочы'; 'від'; 'прывід, здань' (Нас., Касп.). Рус. *видение* 'зрок, здольнасць бачыць'; 'пачуццё'; 'вочы', ст.-рус. *видѣние* 'бачанне'; 'зрок'; 'вока'; 'відовішча'; 'від, выгляд'; 'прывід', польск. *widzenie* 'здольнасць бачыць'; 'спатканне з кім-небудзь'; 'тое, што бачым, бачанае'; 'прывід, здань', в.-луж. *widźenje* 'бачанне' і г. д. Прасл. *vidĕn-ьje.* Вытворнае ад дзеепрыметніка залежнага стану *vidĕn-ъ* і суф. *-je.*

**Відзець** 'бачыць' (шчуч., леп., арш., крыч., мазыр., Мат. АЛА, Бяльк.). Укр. *відіти* 'бачыць', рус. *видеть* 'бачыць вокам'; 'пазнаваць'; 'глядзець', ст.-рус. *видѣти* 'бачыць'; 'наглядаць, назіраць'; 'адчуваць, прадчуваць, прадбачыць'; 'разумець, асэнсоўваць', польск. *widzieć* 'бачыць, лічыць, меркаваць', н.-луж. *wiźeś,* в.-луж. *widźeć* 'бачыць, глядзець', чэш. *vidĕti,* славац. *videt',* славен. *vídeti* 'тс', серб.-харв. *вйдети* 'бачыць, пабачыць', макед. *види* 'бачыць, пабачыць, даведацца', балг. *видя* 'бачыць, пабачыць, пераражыць', ст.-слав. **видѣти, виждѫ,** прасл. *vidĕti.* У зах. і цэнтр. частцы бел. моўнай тэрыторыі яе выцесніла лексема *бачыць.* Слав. формы з'яўляюцца суфіксальным утварэннем ад і.-е. **u̯eid-/*u̯id-* (**u̯īd-*); параўн. літ. *veizdėti* 'бачыць, глядзець', лат. *viedēt* 'бачыць', ст.-прус. *widdai* 'бачыў', ст.-інд. *vétti* 'пазнае, разумее', авест. *vista-* 'вядомы', грэч. εἶδον 'бачыў', *Fιδεῖν* 'пабачыць', лац. *vidēre* 'бачыць', гоц. *witan,* ст.-в.-ням. *wizzen* 'глядзець, назіраць', гоц *weitan* 'бачыць', ірл. *ro-fetar* 'ведаю', арм. *gitem* 'тс'. Іншая



ступень чаргавання галосных у і.-е. **u̯oid-:* ст.-інд. *vḗda,* грэч. *Fοῖδα,* гоц. *wait,* ст.-слав. **вѣдѣ** 'ведаю'. Да *ведаць* (гл.). Параўн. таксама Міклашыч, 390; Траўтман, 357—358; Мюленбах—Эндзелін, 4, 653; Младэнаў, 65; БЕР, 1, 146; Скок, 3, 586—587; Голуб—Копечны, 415; Махэк$_2$, 688; Праабражэнскі, 1, 82; Фасмер, 1, 312; Шанскі, 1, В, 93; КЭСРЯ, 80.

**Відзільно** 'вудзільна' (КТС). Да *вудзільна* (гл.).

**Відлак** 'дзерава, баранец, Lycopodium L.' (гродз., Кіс.). Запазычана з польск. *widłak* 'тс'.

**Відлы**$_1$ 'вілы' (гродз., Шатал.)<польск. *widły* 'тс'.

**Відлы**$_2$ 'ростань' (воран., Шатал.). Запазычана з польск. *widły* 'тс'.

**Відна**$_1$ 'светла, ясна' (БРС, КТС; лаг., КЭС, Бяльк.), *відня́* 'відна, відаць' (Бяльк.). Да *відны* (гл.). Суфікс *-ня́,* відаць, узнік пад уплывам назоўнікаў на *-ня: шырыня, тайшчыня.* Сюды ж *відном* 'за́відна' (КТС), памянш. *віднюсенька, -кі, -ко* (КТС, Сцяшк. МГ), *відніњка* (Бяльк.). Гл. таксама *відно́.*

**Відна**$_2$ 'відаць, мабыць, напэўна' (Бяльк.). Запазычана з рус. *ви́дно* 'тс'.

**Віднатá** 'святло, яснасць, асвятленне' (БРС, КТС, Сцяшк. МГ), *віднотá* 'тс' (КТС). Укр. *виднота,* рус. калін. *виднота* 'тс'. Утворана ў выніку субстантывацыі ад прыметніка *vidьnъ* і суф. *-ota.*

**Відне́ць** 'світаць, святлець, днець, займацца на дзень'; 'віднецца, паказвацца, станавіцца відным' (БРС, КТС, Шат., Касп., Сцяшк. МГ., Бяльк.). Укр. *видніти* 'світаць, святлець', *виднітися* 'віднець, віднецца', рус. кур., арл., калуж., йонаўск. *видне́ть* 'світаць', польск. *widnieć* 'быць відным'; 'світаць', славац. *vidniet' (sa),* мар. *rozvidnit' se* 'тс'. Паўночнаславянскае ўтварэнне на *-ēti* ад *vidьnъ.*

**Відно́** 'светла, ясна' (КТС, БРС; лаг., КЭС)' 'світанне' (КТС), *выдно́* 'святло' (Клім.). Укр. *видно́* 'светла'; 'відаць'; відавочна', рус. *видно* 'відаць, відавочна, мабыць', польск. *widno* 'светла'; 'відаць', чэш. *vidno* 'ясна'; 'відавочна', славац. *vidno* 'яснае, дзёнае святло'; 'відавочна', макед. *видно.* Прыслоўе ўтворана ад прыметніка *vidьnъ*<*vid-.* Да *від* (гл.). У некаторых гаворках лексема *відно* ўжо стала субстантывізаваным прыметнікам і ўспрымаецца як назоўнік; параўн. драг. *стань на выдні* 'стань на святле'. У гаворках лексема *відно* сустракаецца з экспрэсіўнымі суфіксамі: *віднюсенько* (Сцяшк. МГ), *відніњка* (Бяльк.). Гл. *відна*$_1$.

**Відны** 'бачны, прыметны'; 'выдатны, важны, значны, рослы, статны, самавіты' (БРС, КТС), *відны́* 'светлы' (БРС; лаг., КЭС), *відны* 'тс' (Шат.), *відный* 'светлы, відны, сталы'; 'павабны, здаровы на выгляд' (Бяльк.). Укр. *ви́дний* 'ясны, відны'; 'прыкметны, бачны', рус. смал., калуж., калін., тул. *видный* 'бачны'; 'рослы, статны, прыгожы', польск. *widny* 'ясны, добра асветлены, бачны, прыкметны', чэш. (кніжн.) *vidný* 'бачны, прыкметны', славац. *vidný* 'поўны святла, ясны'; 'бачны, прыкметны', славен. *víden* 'бачны', серб.-харв. *ви̑дан* 'ясны, светлы'; 'бачны'; 'вядомы, выдатны', макед. *виден* 'выдатны (аб асобе)'; 'важны, значны (аб выніках)', балг. *виден* 'бачны'; 'вядомы, выдатны'; 'значны, важны'. Прасл. *vidьnъ* < < *vidъ* > *від* (гл.).

***Відныня**, *выдныня́* 'святло, наяўнасць дастатковага асвятлення' (Клім.). Утворана ад прыметніка *vidьnъ* і абстрактнага суф. *-ыня* < *-yn'i;* параўн. такое ж утварэнне драг. *тыплыне́* 'цёпла, цёплае надвор'е'.

**Відо́вішча** 'тое, што паўстае, адкрываецца перад вачамі'; 'паказ, прадстаўленне' (БРС, КТС). Укр. *видовище* 'відовішча', макед. *видовиште* 'бачанне; пабачанне'. Прасл. *vidovišče* утворана ад **vid-u* > *vid-ov-* і суф. *-išče,* першасным значэннем якога было 'месца, дзе бачна відовішча'→'тое, што бачна, што паказваецца, адкрываецца'.

**Відок**$_1$ 'віднае месца, відовішча'; 'адкрытае, высокае месца' (Бел.-польск. ізал.), ст.-бел. *видокъ* 'відовішча, агляд' (з XVIII ст.) запазычана з польск. *widok* 'тс' (Булыка, Запазыч., 62).

**Відок**$_2$ 'чалавек, які добра бачыць' утворана ад *відзець* (< *видети*) і суф. *-ок* (паводле тыпу *ходо́к*). Такім жа чынам можна тлумачыць паходжанне польск. *widok* (Дарашэўскі, Podstawy, 1, 287).

**Відо́ка** 'віднае з усіх бакоў, адкрытае, высокае месца' (слаўг., Яшк.), драг. *выдо́ка, на выдо́цэ* 'асветленае, адкрытае месца' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Да *відок*$_1$ (гл.). У сувязі з тым, што суфікс *-ок* (< *окъ*) з'ўляецца суфіксам Nomina agentis, а лексема *відок* — Nomen acti, на беларускай глебе атрымала канчатак *-а*.

**Відоліца** 'віднае з усіх бакоў, адкрытае, высокае месца' (стол., Яшк.). Утворана ў выніку ўзаемадзеяння лексем *від* і *аколіца* (гл.).

**Відо́ма** 'відаць, відавочна' (Нас.), параўн. ст.-бел. *видоме* 'яўна, бачна, відавочна' (1596 г.) < ст.-польск. *widomie* 'відавочна, бачна, даступна зроку' (Булыка, Запазыч., 62).



**Відо́мец**$_1$ 'Parnassia L.' (БРС), *відомец балотны* 'Parnassia palustris L.' (гродз., Кіс.). Не мае адпаведнікаў у іншых слав. мовах. Відавочна, паходзіць ад *відомы* 'відны, бачны, светлы, прыкметны' < *viděti* > *vidom-ъ* і суф. *-ьсь*. Параўн. яшчэ рус. *белозор,* укр. *білозор,* рус. *белоцвет, белоцветка,* матывацыя найменні якіх падобна да называння *відо́мец*.

**Відомец**$_2$ 'Angelica silvestris' (маг., гом., Кіс.). Узнікла ў выніку пераносу значэння паводле колеру кветкі.

**Відомый** 'бачны, даступны зроку' (Нас.). Запазычана са ст.-польск. *widomy* 'бачны'.

**Відочак** 'карціна на сцяну, пераважна пейзаж' (гродз., Сцяц. Словаўтв.). Запазычана з польск. *widoczek* 'тс'.

**Відочны**$_1$ 'вядомы ў аколіцы чалавек' (Шат.). З польск. *widoczny* 'бачны, які можна бачыць, дасягнуць (вокам)'.

**Відочны**$_2$ 'наяўны, відавочны' (КТС, Сцяшк., Яруш.; КЭС, лаг.). Запазычана з польск. *widoczny* 'відны, ясны, пышны, прыгожы'.

**Відо́шча** 'бачна, прыкметна' (Нас.). Паходзіць, відаць, з *відзюшча* < рус. *видющий* 'той, хто бачыць'.

**Відрына** 'адрына' (ельск., Мат. Гом.). Запазычана, відаць, з укр. **відрына.*

**Віду́к**$_1$ 'мак-самасейка, мачок' (БРС, КТС, Шн., 3., Бір. Дзярж., Сцяшк. МГ, Янк. БП), гродз. 'тс', брэсц. 'снатворны мак' (Кіс.); 'мак з раскрытымі пры пасяванні галоўкамі' (Некр., Карл.). Укр. *видю́к, видю́х, видю́ха* 'тс', *видун* 'мак, Papaver rhoes L., насенне якога пры пасяванні высыпаецца з галоўкі'. Утворана ад дзеяслова *viděti* і суф. *-ухъ,* які на беларускай тэрыторыі пад уплывам балтыйскага прадуктыўнага суфікса *-(i)ūkas* змяніўся ў *-ук* (Цыхун, Лекс. балт., 51; Чэкман, Совещ. ОЛА (Гомель) 1975, 125—126). Гл. *выдак.*

**Відук**$_2$ 'шляхецкі лапаць' (асіп., Буз.). Няясна.

**Відук**$_3$ 'частка плота (?)' (КТС, К. Чорны). Няясна.

**Ві́дучы** 'хутка, на вачах, увачавідкі, відавочна' (КЭС, лаг.; хойн., Мат. Гом., Янк. II) — прыслоўе, утворанае ад дзеепрыслоўя *відзючы* > *viděti.* Да *відзець* (гл.).

**Віду́чы** 'чалавек, які добра бачыць' (Жд., 2, КТС), мсціcл. *відзючый* (З нар. сл.), *відучый* 'тс' (Нас.), укр. *видючий* 'віда-

вочны'; 'відушчы', рус. *видучий* 'відушчы, хто добра бачыць'— дзеепрыметнік незалежнага стану ад дзеяслова *віdзець* (гл.) з нерэгулярным утварэннем: суф. *-учы(й)* утварае Nomina agentis. Сюды ж *відучасць* 'здольнасць бачыць' (КТС).

**Відушчы** 'які валодае зрокам' (БРС, КТС, Сцяшк. МГ), *відушчый* 'тс' (Нас.), стаўб. 'чалавек, які ўсё заўважае' (Жд. 1). Укр. *видющий* 'тс', 'яўны', рус. *видущий* 'той, хто добра бачыць', польск. уст. *widzący* 'прарок', чэш. *vidoucí* 'відушчы'. Запазычана, відаць, з царкоўнаславянскай мовы з заменай суф. *-ашчы* на суф. *-ушчы* з абагульненым значэннем Nomina agentis. У ст.-бел. мове *відушчы* адсутнічае (ёсць толькі *видячий, видящий*). Сюды ж *відушчасць* 'празорлівасць', *відушча* 'празорліва' (КТС).

**Відцы** ў выразе «В етым доми и хати ёсь атцы и мати, Сёстры и браты, видцы, павидцы, Красныи дивицы...» (віц., Рам., 8). Няясна.

**Віда́лец** 'відэлец' (БРС, Сцяшк., Касп.) запазычана з польск. *widelec* 'тс' у XVII ст. (Булыка, Запазыч., 62).

**Віда́лка** 'відэлец' (Нас., Касп.) — кантамінаваная форма ад бел. *відэлец* і рус. *вилка* 'тс'. Сюды ж *відэлкі* (Шат.), а таксама *відэлька* 'тс' (КТС).

**Відэльцы** 'відэлец' (Янк. II.; лаг., КЭС, Мядзв., Шат., Нас., Бяльк.). Запазычана з польск. *widelcy*. На бел. глебе гэта лексема ўжываецца таксама ў форме *відэлцы* 'тс' (Нас., ваўк., маст., слонім., Сцяц., Словаўтв.) з цвёрдай зычнай перад суф. *-ц-*, як і інш. бел. словы з гэтым суфіксам.

**Віёла** 'смычковы чатырохструнны музычны інструмент, альт, заходнееўрапейскі шасціструнны музычны інструмент XIV—XVII стст. шырокага дыяпазону' (БРС, КТС). Запазычана, відаць, з польскай мовы; параўн. польск. *wiola* 'тс'<іт. *viola*, якое ўтварылася з іт. гукапераймальнага **viu* (Шанскі, 1, В, 102).

**Віёрка** 'ваверка' (стаўб., ДАБМ, Сцяшк. МГ, КТС, Якуб Колас). Утварылася ў выніку распадабнення зычных *в* ад *ваверка*. Параўн. таксама *йайорка* (ДАБМ, 897).

**Віж**₁ 'шпіён, чалавек, які імкнецца непрыкметна выведаць, высачыць пра другіх' (Янк. I, Жд., 2, КТС), ст.-бел. *вижь* 'судовы прыстаў, судовы выканаўца, які меў абавязак дастаўляць у суд адказны бок, абвінавачаных і рабіць агляды і дазнанні' (Гарб.), укр. *віж* 'камісар, судовы прыстаў (у старых судах)', польск. *widz* 'сведка', ст.-польск. *widz* 'віж'. Да прасл. *vidjь* 'той, хто бачыць'<*viděti*.

**Віж**₂ 'глядзі' (Нас.), рус. *вижь* 'вось, вось жа, глядзі', *вишь* 'тс', ст.-рус. *вижь*, ст.-слав. **виждь**, чэш. *viz*, макед. *види* 'тс' і г. д. Прасл. *vidjь*.

**Віжаванае** 'плата віжам за агляд' (Гарб.) — субстантываваны прыметнік да *віжаваць* (гл.).

**Віжава́ць** 'выведваць, выглядваць, шпегаваць, сачыць, падпільноўваць, падслухоўваць' (БРС, КТС, карэліц.; Янк. Мат., Янк. I, Сцяшк. МГ; лаг., КЭС) — дэвербатыўнае ўтварэнне ад *віж*₁ (гл.) і суф. *-ovati*.

**Віжар**₁ 'яма ад выгарэлага торфу і травы' (палес., Яшк.). Да *выжар, выжары* (гл.).

**Віжар**₂ 'сузор'е з 7 зорак' (бых., Мат., АС), відаць, скарочанае *вісажар* (гл.).

**Віжок** 'састаўная частка, якая ўмацоўвае саху' (палес., Тарн.). Укр. *віжечки* 'каромысел'. Гэту лексему, а таксама родасныя ёй усх.-палес. *pòdwih* 'частка сахі, дубовая расоха, якая падпірае адным сваім канцом правую паліцу (жалезнячок)' (Маш.) і *pudw'iž* 'віжок' (Тарн.) Трубачоў (Этимология, 1964, 5) адносіць да прасл. *dvigati*. Мартынаў (ВЯ, 1968, 1, 129—130) расчляняе, як *pod-vigъ*, звязваючы апошнюю частку з серб.-харв. *вӣгови* 'сілы, путы', *вӣг* 'пастка' (Зб. Крапіве, 211—212). У сувязі з тым, што Ю. Тарнацкі побач з *віжок* падае як паралельную форму *ужок*, можна меркаваць, што яны адносяцца да прасл. *ǫz-jь>ǫž-ьkъ*. Аднак цяжка растлумачыць пачатковы вакалізм у *віжок*.

**Віз** 'асётр, бялуга' (Інстр. II), ст.-бел. *визина* 'бялужына' (1582 г.). Укр. *виз* 'рыба, Acipenser schypa'; 'Huso Huso', рус. *визига, вязига* 'сухажылле ў чырвоных рыб'; 'звязкі ўздоўж хрыбетніка', *виз* 'важак у рыб, за якім ідзе касяк асятровых рыб', польск. *wyza, wyzina*, в.-луж. *wyz* 'бялуга', чэш. *vyza velká* 'тс', *vyza malá* 'калуга', славац. *vyza* 'асятровая прэснаводная рыба', славен. *víza* 'Acipenser huso', серб.-харв. *виза*, балг. *виза*. Прасл. *vyzъ/vyza*. Запазычанне з герм. мовы, якое сцвярджаецца этымолагамі (параўн. Гараеў, 48; Голуб, 342; Міклашыч, 398; Брукнер, 640; Махэк₂, 705; Кнежа, 782; Фасмер, 1, 313; Шанскі, 1, В, 94; КЭСРЯ, 81; БЕР, 1, 146), вельмі няпэўнае. Ст.-бел. форма *визина* неабавязкова запазычана з польск. (як мяркуе Булыка, Запазыч., 62). Гэта нармальнае ўтварэнне на *-ina* са значэннем мяса; параўн. *бараніна, свініна* і г. д.

**Віза** 'урадавы штамп у пашпарце; адзнака ў дакуменце' (БРС, КТС). Запазычана з рус. *виза* 'тс'. Не выключана магчымасць запазычання праз польск. мову; параўн. польск. *wiza* 'тс'. Сюды ж *візаваць, візіраваць* (БРС, КТС) 'ставіць візу ў дакуменце'.

**Візава́ты** 'дрэва з сукаватымі слаямі, якое цяжка шчапаецца' (лаг., КЭС). Не зусім яснае слова. Відаць, мае сувязь з літ. *vyžà,* лат. *vize* 'лапаць', літ. *výžti* 'плясці'. Магчыма, да *вяз* (гл.), **вязаваты.*

**Візаві́** 'адзін насупраць аднаго'; 'той, хто знаходзіцца насупраць' (БРС). Запазычана з рус. *визави* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 76) < франц. *vis-à-vis* 'тварам да твару' (Фасмер, 1, 313; Шанскі, 1, В, 94).

**Візг** 'візгат, пранізлівы, рэзкі гук' (КТС). Рус. *визг* 'тс'. У іншых слав. мовах маецца глухі варыянт гэтай лексемы *visk-*. Звонкасць *-зг* абумоўлена, відаць, інтэрвакальнай пазіцыяй. Да *віск* (гл.). Сюды ж новаўтварэнні *візгат, візгатня, візгатанне, візготны, візгатаць, візгатліва.*

**Візіга** 'прадукт, які вырабляецца са спіннной струны асятровых рыб' (КТС). Запазычана з рус. *визига* 'тс', дзе ўтворана пры дапамозе суф. *-ига.* У іншых слав. мовах суф. *-ina:* польск. *wyzina,* славен. *vizovina,* як *бараніна* і да т. п. Да *віз* (гл.).

**Візі́р**$_1$ 'відашукальнік (у фота- і кінаапараце)'; 'частка прыцэльнага прыстасавання з вузкай шчылінай'; 'прылада для візіравання' (КТС, БРС). Паходзіць з рус. *визир* < ням. *Visier* 'мішэнь' (Фасмер, 1, 313) < лац. *visus* 'від, выгляд'.

**Візі́р**$_2$ 'міністр, высокі саноўнік у Турцыі і іншых мусульманскіх дзяржавах' (БРС). Паходзіць са ст.-рус. формы *визирь* < араб.-тур. *väzir.* Гл. Фасмер, 1, 313.

**Візі́ра** 'прасека' (светлаг., Мат. Гом.). Новаўтварэнне, да *візірка*$_1$ (гл.). Параўн. рус. арханг., с.-урал. *визира* 'тс'.

**Візірка**$_1$ 'прасека' (КТС), рус. перм., калуж. *визирка* 'тс' Паходзіць ад *візір*$_1$. Па ўзору *прасека* атрымала суфікс *-ка.*

***Ві́зірка**$_2$ драг. *вы́зырка, вэ́зырка* 'вышка, маяк, трыангуляцыйны пункт' (З нар. сл.; Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Да *візір*$_1$ (гл.).

**Візіро́ўка** — дзеянне, паводле дзеяслова *візіраваць,* наводзіць аптычны прадмет, прыбор на які-небудзь пункт (БРС). Да *візір*$_1$.

**Візі́т** 'наведванне' (БРС, КТС), ст.-бел. *визытъ, визит* 'наведванне'; 'дакумент аб выніках праверкі' (1521 г.) запазычана (Булыка, Запазыч., 63) з польск. *wizyta* < франц. *vizite;* гэтаму пярэчыць Крукоўскі (Уплыў, 76). Магчыма і непасрэднае запазычанне з франц. *visite.*



***Візітава́ць,** *візытава́ць* 'наведваць з мэтай агляду' (Нас.). Укр. уст. *візытувати,* рус. *визитировать* 'тс' і г. д. Ст.-бел. *визытовати, визитовати* 'інспектаваць' (1608, 1627 г.). Запазычана са ст.-польск. *wizytować* < лац. *vizitare* (Булыка, Запазыч., 63).

**Візітант** 'наведвальнік' (КТС, Якуб Колас). Запазычана з польск. уст. *wizytant* 'тс'.

**Візітацыя** 'праверка ваенным суднам дакументаў і грузу на сустрэтым у адкрытым моры падазроным судне' (КТС). Запазычана з рус. *визитация* 'тс'. Ст.-бел. *визытацыя* 'інспекцыя' (1635 г.) паходзіць са ст.-польск. *wizytacja* < лац. *vizitatio* (Булыка, Запазыч., 63). Сюды ж ст.-бел. *визытаторъ, визитаторъ* (1691 г.) 'інспектар' (Булыка, Запазыч., 62), якія паходзяць з польск.-лац. *visitator.*

**Візітка** 'візітная картка' (КТС). Запазычана з рус. *визитка,* якое ўтварылася шляхам намінацыі ад *визитная карточка* пры дапамозе суф. *-ка.*

**Візіцёр** 'наведвальнік' (БРС). Запазычана з рус. *визитёр,* франц. *visiteur* 'тс' (Шанскі, 1, В, 95—96).

**Візіянер** 'чалавек, які мае схільнасць да галюцынацый' (БРС). Запазычана з франц. *visionnaire* 'празорца, дзівак' < < лац. *visio* 'бачанне' праз польскую мову. Сюды ж *візіянерка, візіянерскі* (БРС), *візіянерства* (КТС).

**Візуальны** 'які праводзіцца простым або ўзброеным вокам' (БРС). Запазычана з рус. *визуальный* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 76) < лац. *visualis* 'бачны' (Шанскі, 1, В, 96).

**Візурэнак,** *візэрунак* 'узор' (КТС), ст.-бел. *визерунокъ* 'малюнак, узор' (1596 г.), укр. *візерунок* 'тс'. Запазычана са ст.-польск. *wizerunk* 'вобраз', > польск. *wizerunek* (Булыка, Запазыч., 62) < ням. уст. *Visierung* 'партрэт, вобраз' < франц. *viser* 'мецінь' (Мацэнаўэр, 369).

**Ві́йка** 'невялікая лапатка для веяння' (Выг.); гл. *вейка.* Да *ве́яць* (гл.). Мена *-е-* (*-ě-*) у *-і-* з'яўляецца характэрнай рысай беларускіх палескіх гаворак. Параўн. яшчэ укр. *війка* 'веялка'.

**Віка,** *выка* 'гарошак пасяўны, Vicia sativa L.' (гом., гродз., маг., мін., БРС, Кіс., Сцяшк. МГ), *віга* 'тс' (Сцяшк. МГ), *віка*

'люцэрна пасяўная, Medicago sativa L.' (Бейл.). Укр. *вика* 'віка, гарошак', рус. *вика* 'мышыны гарошак, Vicia crassa L.'; 'гарошак пасяўны, Vicia sativa L.'; 'боб, Vicia faba L.', наўг. *вика* 'сачавіца', польск. *wyka* 'гарошак, Vicia L.', в.-луж. *woka* 'тс', чэш. *vika, vikev* 'тс', славац. *vika,* серб-харв. *вика,* літ. *vìkis, vikė* 'гарошак', лат. *vīki,* ст.-прус. *wictis,* ст.-в.-ням. *wicchia,* н.-в.-ням. *Wicke,* лац. *vicia,* грэч. βιχία, βιχίον. Да і.-е. асновы **u̯ei-* (Шанскі, 1, В, 96; Голуб, 330), да якой адносіцца і *віць* (гл.) (КЭСРЯ, 81). Большасць этымолагаў схіляецца да думкі пра запазычанне славянамі гэтай лексемы са ст.-в.-ням. *wicchia*<лац. *vicia* (Міклашыч, 397; Мацэнаўэр, 368; Брукнер, 638; Голуб—Копечны, 416; Фасмер, 1, 313; Праабражэнскі, 1, 83; Трубачоў, ВЯ, 5, 1961, 132; Махэк$_2$, 680). Адсутнічае ў славен. і балг. мовах.

**Вікантэ́са** 'жонка або дачка віконта' (БРС). Да *віконт* (гл.). Запазычана з рус. *виконтесса,* франц. *vicomtesse.*

**Віка́рый** 'намеснік архірэя ў праваслаўнай царкве ці епіскапа або прыходскага свяшчэнніка ў каталіцкай царкве' (БРС, КТС). Запазычана з царкоўнага с.-вяк.-лац. *vicārius* 'намеснік'<лац. *vicis* 'змена' (Праабражэнскі, 1, 83; Фасмер, 1, 314; Брукнер, 621; Махэк$_2$, 689; Скок, 3, 592) ці з польск. *wikary* (Булыка, Запазыч., 63).

**Ві́каўе** 'поле, дзе скошана віка' (віл., Шатал.). Да *віка* (гл.). Суф. *-ўе*<*ov-ьje* тут другасны; першапачаткова лексема павінна была азначаць 'лісце і сцяблы расліны' ў форме Nomen collectiva, пасля шляхам пераносу значэння атрымала функцыю Nomen loci. Параўн. яшчэ *віко́ўя* (гл.).

**Вікінг** 'старажытнаскандынаўскі марскі воін, член рабаўніцкіх марскіх дружын, якія ў VIII—XII стст. нападалі і рабілі еўрапейскія краіны' (БРС, КТС). Гістарычны тэрмін, запазычаны з рус. *викинг* (Крукоўскі, Уплыў, 86)<швед. *viking*<ст.-ісл. *víkingr* 'пірат, марскі рабаўнік', ісл. *víking* 'паход вікінгаў, пірацтва'<*víg* 'барацьба, бой, забойства' (Шанскі, 1, В, 97; Еўгансон, 1, 114—115; Фальк—Торп, 1377).

**Вікішча** 'вікавая салома' (хойн., Мат. Гом.). Да *віка* (гл.). Суф. *-шча* ўтварае лексему са значэннем 'лісце і сцябло расліны'. Тое ж і ў *картофелішча* (ДАБМ, к. 281). Гэта ўласцівасць характэрна паўднёвым бел. гаворкам.

**Вікля́** 'тонкі канец жэрдкі, які тарчыць з-пад незакончанай страхі ў нізкай будыніне' (Касп.). Рус. кір. *виклина* 'націна', польск. *wiklina* 'жаўталоз', *wikla, wiklak* 'лазіна', *wikle* 'вербалоз' — польска-беларуска-паўночнаруская ізалекса. Відавочна, лексема паходзіць ад **vitľa*<*viti*>*віць* (гл.). Аб пераходзе *tl* у *kl* гл. Брукнер, 613. Параўн. балг. *ви́кло*>*витло* (БЕР, 1, 147, 154), серб. *вйтло,* макед. *витло* 'вір'.



**Віко** 'вечка рамавага вулля' (Анох.), як і *вэ̌чко̂, вэ̂ко, в'ѐчко,* да *ве́ка, ве́чка* (гл.). Вакалізм у аснове рэгулярны: прасл. *-ě-*>зах.-палес. *-і-*.

**Віко́вішча** 'поле пасля ўборкі вікі' (рэч., лоеў., хойн., Мат. Гом.) да *віка* (гл.). Утворана пры дапамозе рэгулярнага суф. Nomina loci *-išče.*

**Віко́на** 'абраз' (бых., Янк. Мат.). Да *іко́на* (гл.). Пачатковае *-в* прыстаўное.

**Віко́нт** 'дваранскі тытул у Францыі, Англіі і інш. краінах'. Слова запазычана з рус. *виконт*<франц. *vicomte*<лац. *vicecomes* 'намеснік выхавацеля' (КЭСРЯ, 81; Шанскі, 1, В, 97; Даза, 750).

**Віко́ўя** 'салома ад вікі'; 'ралля, дзе расла віка' (КЭС, лаг.) Да *віка* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-ov-ьje* для абазначэння 'сцяблы і лісце'. Іншае значэнне 'ралля, дзе расла віка' з'яўляецца другасным, пераносным. Параўн. таксама *вікаўе* (гл.).

**Ві́ксва** 'балотная трава асака' (гродз., вілен., Карл.). Рус. йонаўск. *віксва,* польск. усх. *wikswa, v'iksfa, v'iksv'a, v'iks'vas* 'асака'. Запазычана з літ. *viksvá* 'асака' (Развадоўскі, RS, 5, 1922, 1—25; Атрэмбскі, JP, 16, 1931, 84; Зданцэвіч, LP, 1960, 351; Вяржбоўскі, 172—173).

**Вікт** 'ежа, харчы' (Гарб.), ст.-бел. *викъ* 'харчы' (1664 г.). Укр. *вікт,* польск. *wikt, wicht* 'тс'. Запазычана з польск. *wikt*<<лац. *victus* 'харчаванне, ежа' (Булыка, Запазыч., 63).

**Віктары́на** 'гульня ў адказы на пытанні з розных галін ведаў' (БРС, КТС). Укр. *вікторйна.* Запазычана з рус. *викторина* 'тс'<лац. *victoria* 'перамога' з памяншальным суфіксам *-in-.*

**Вікто́рыя** 'назва гатунку некаторых агародных і садовых раслін (буракоў, клубнікі)'; 'травяністая вадзяная трапічная расліна з вялікімі кветкамі і плаваючым лісцем' (БРС, КТС) узнікла шляхам пераносу з лац. *victoria* 'перамога'.

**Вікун'я** 'капытныя жывёлы, крыху падобныя да вярблюдаў, Auchenia vicunna, Camelus vicunna' (КТС). Запазычана з рус. *вику́нья*<перуанск. *wikunia.* Параўн. таксама **вігонь** (гл.).

**Віла** 'дом-асабняк' (БРС, ҚТС) запазычана з рус. *вилла* (Крукоўскі, Уплыў, 73), хаця не выключана магчымасць запазычання з польскай мовы. Рус. слова паходзіць з іт. *villa* 'дача, вёска'<лац. *villa* 'дача' (Фасмер, 1, 315; Шанскі, 1, В, 98; КЭСРЯ, 81; Махэк₂, 689; БЕР, 1, 148).

**Віла́ты** 'вілападобны, раздвоены' (БРС, ҚТС, Федар., 6); 'завілісты, пакручасты' (Гарэц.). Укр. *вілова́тий* 'вілаваты', рус. паўн., смал. *вилова́тый* 'раздвоены, вілападобны', ст.-рус. *виловатый* 'завілісты' (1556 г.). Прыметнік, утвораны пры дапамозе суф. *-ov-atъ*. Да *вілы* (гл.). У заходніх і паўднёвых слав. мовах гэта лексема мае суф. *-ov-it-*.

**Віламо́дзіць** 'блытаць; зводзіць з прамога шляху'; 'зблытваць справу, цягнуць яе' (Нас.). Складаным словам стала пад уплывам народнай этымалогіі. Насовіч (Нас., 57) справядліва суадносіць яго з літ. *žviluóti* 'хістацца, калыхацца', параўн. паўн.-рус. *вила́вить* 'хітраваць', пск., цвяр., пецярб. *вила́* 'хітрун, чалавек, які лёгка пераключаецца з адной справы на другую'. З падобным значэннем ужываецца і бел. *віламо́днік, віламо́дніца* 'хлус, спрытны чалавек, які ўжывае выкруты, хітрыкі' (Нас.). Сюды ж *віламодны, віламодства, віламожанне, звіламодзіць* (Нас.). Магчыма, таксама да *вірла* (гл.), хаця словаўтварэнне няяснае.

**Віламокі.** У тэксце: «...І месяц віламокі, нібы здань...» (КТС, Ю. Гаўрук). Відавочна, да *вілы* і *вока* (гл.).

**Вілак** 'дзераза звычайная, Lycopodium clavatum L.' (маг., Кіс.). Відазменена ў адпаведнасці з беларускай фанетыкай: *-dl-*→*-л-* з польск. *widłak* 'дзераза'. *Вілак-дзераза* 'дзераза гадавая, Lycopodium annotinum' узнікла ў выніку наслаення запазычанай лексемы *вілак* на першапачатковую *дзераза*. Магчыма, *дзераза* названа *вілаком* паводле вілападобнасці знешняга выгляду яе. Параўн. *вілакі* (гл.). Гл. таксама *відла́к*.

**Віла́кі** мн. л. 'разгалінаванае дрэва' (карм., Мат. Гом.). Параўн. рус. сіб. *вилага* 'разваліна, разгалінаванае дрэва'. Да *вілы* (гл.).

**Вілападобны** 'вілаваты' (БРС). Калька з рус. *вилообразный*.

**Віларо́г** 'жывёла, Antilocapra americana' (БРС). Запазычана з рус. *вилорог* 'тс'.

**Віла́тый** 'вілаваты' (Бяльк.). Утворана ад *вілы* (гл.) пры дапамозе дзеепрыметнікавага суф. *-т-*, як і рус. *сохатый* 'тс'.



**Вілахвост** 'ліслівец, падлізнік', *віляхвост* 'той, хто «віляе хвастом», падліза' (Бяльк., Нас., Яруш.). Складанае слова: да *віляць* (гл.) і *хвост* (гл.) з пераносным значэннем. Блізкія ўкраінскія лексемы *вилохвостець* 'Podura villosa' і *вилохвостий*.

***Вілачка,** *вілочка* 'прылада для вязання сеткавага палатна' (нараўл., З нар. сл.) — дэмінутыў да *вілка* (гл.).

**Вілачкі** 'кліны ў баках ніжняй часткі верхняга адзення' (Малч.); 'частка калаўрота ў выглядзе двухзубай жалезнай вілкі, на якую надзяюць шпульку' (мін., барыс., Шатал.; лаг., ҚЭС), *вылочкы* 'маленькія вілы' (Выг.). Дэмінутыўная форма лексемы *вілкі* (гл.), чыстая — у лексемы *вылочкы*, з пераносам значэння — у *вілачкі*.

**Вілачнік**₁, *вілашнік, вільшнік* 'палка; цаўё, шасток, на якія насаджваюць вілы ці вілкі' (БРС, КТС, Бяльк., Мат. Гом., Янк. I, лаг., ҚЭС; Қасп., Выг.; быx., бялын., Янк. Мат.), палес. *вілочнік* 'вожаг', *вілошнік* 'частка калаўрота, на якой трымаюцца «вілкі» (Уладз.). Вытворныя ад прыметніка *вілачны* і суф. *-ік*. Да *вілы, вілкі* (гл.). *-Ш-* у гукаспалучэнні *-шн-* замест *-ч-* з'яўляецца характэрнай рысай усходнебеларускіх гаворак.

**Вілачнік**₂ 'вугал ля печы, дзе стаяць вілы, ажогі, качэргі і інш.' (БРС, КТС; быx., Янк. Мат., Інстр. I, Қасп., Мат. Гом.) да *вілачнік₁;* тут маецца семантычны перанос значэння слова з суф. *-нік* (Nomen actionis перайшло ў Nomen loci).

**Віленка** 'посцілка, тканая на нейкі ўзор' (КТС, Р. Сабаленка). Утворана шляхам лексічнай кандэнсацыі ад *віленская посцілка* пры дапамозе прадуктыўнага суф. *-к-а*.

**Віле́я** 'апошні дзень перад святам ці нейкім здарэннем' (лаг., ҚЭС). Да *вілія*<*вігілія*<польск. *wigilia*.

**Вілівок** 'яйка з вельмі слабай шкарлупой' (мазыр., З нар. сл.). Да *вы́лівак* (гл.).

**Вілія** 'пярэдадне свята, пост перад святам' (Нас.), ст.-бел. *вилия, вилея* 'тс' (1539 г.). Запазычана з польск. *wilia*<*wigilia* 'тс'<лац. *vigilia* 'начная імша' (Мацэнаўэр, 368).

**Віліна** 'крывуліна, скрыўленне' (Юрч., Фраз., 1) — сінгулятыўны назоўнік, утвораны пры дапамозе суф. *-in-a*, відавочна, ад **vil-a*, роднаснага з такімі лексемамі, як *вілы* (гл.), *віліць* (гл.).

**Вілінок** 'птушка велічынёй з жаваранка' (Бяльк.). Няясна. Магчыма, суадносіцца з літ. *žviliúoti* 'гайдацца, хістацца, ка-

лыхацца', *lingúoti* 'разгойдацца, раскалыхацца, разгушквацца, ківацца'.

**Віліца** 'драўляны ручны чаўнок для вязання рыбалоўных сетак' (Крыв.), *вылицы* 'вілкападобны чаўнок'. Польск. *widlica* 'вёска, якая складаецца з дзвюх вуліц'; 'заканчэнне на рагах аленя', в.-луж. *widlica* 'зуб вілак', *widlicy* 'вілкі, аглобля', чэш. *widlice* 'вілка, вілкі', славац. *vidlica* 'вілка, разгалінаванне вілкі', славен. *vílice,* мн. л. 'вілы', серб.-харв. *вйлица* 'відэлец, вілка', макед. *вилица*, балг. *вилица* 'тс'. Прасл. *vidlic-a*. Да *вілы* (гл.).

**Вілі́ць** 'зварочваць з прамога шляху'; 'крывіць (душою)'; 'зварочваць убок' (Нас.), *вілі́ць, падвільваць* 'падкідаць мяч у гульні «салавей»' (Янк. III), *вілі́ць* 'падманваць, крывіць' (Кар.). Карскі (Труды, 394) лічыць гэту лексему запазычанай з літ. і лат. моў; параўн. літ. *vylióti* 'падманваць, заманваць, спакушаць', *vу̃lius* 'падман, хлусня', што аспрэчвае Лаўчутэ (351). Гл. яшчэ *віля́ць*.

*Віліцы, драг. *вэ́лыцэ;* мн. л., 'сківіцы' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), серб.-харв. *вйлица* 'тс'. Прасл. *vidlica*. Да *вілы* (гл.).

**Вілка$_1$** ж. р.— назва розных дэталей, прыстасаванняў з раздвоеным канцом (КТС). Запазычана з рус. *вилка,* якое з'яўляецца ўласнарускім (Шанскі, 1, В, 97—98). Да *вілкі, вілы* (гл.).

**Вілка$_2$** 'сукупнасць двух прыцэлаў: недалёт—пералёт снарада'; 'становішча на шахматнай дошцы, калі адна фігура адначасова пагражае некалькім фігурам' (КТС). Запазычана з рус. *вилка* 'тс'. Да *вілы* (гл.).

**Вілкі** мн. л. 'прылада, пры дапамозе якой дастаюць гаршкі з печы' (Грыг., Інстр. I, БРС, КТС; лаг., КЭС, Др.-Падб., Гарэц., Шат., Бяльк., Касп., Нас.), пруж. *вы́лкы* 'тс' (Выг., Зн.); 'вілы (на два ражкі) трэсці салому, скопваць гной' (Сцяшк. МГ, Сцяц. Словаўтв.; КЭС, лаг.; Лекс. і грам., Шатал., Выг.), *вілкі* 'месца, дзе зліваюцца рэкі' (Сцяшк. МГ, Яшк.), 'відэлец' (гродз., Сцяц. Словаўтв.); 'разгалінаванне дрэва на два ствалы' (Сцяшк. МГ), карэліц., докш. 'ростань, месца раздваення дарогі' (Яшк., Шатал.). Укр. *вилка* мн. л., *вилки* мн. л., рус. *вилки→вілкі* ў розных значэннях, у аснове якіх 'вілы, разгалінаванне чаго-небудзь', польск. *widełki* 'тс'. Дэмінутыў, утвораны ад *віл-ы* і суф. *-ъk-*. Ужываецца ў форме множнага ліку. Да *вілы* (гл.).

*Вілковішча, *вылко́вишчэ* 'дзяржанне ў вілах для сена,



гною' (палес., Выг.). Да *вілкі* (гл.). Расшыраны суфікс *-ов-ішч-а* служыць для ўтварэння Nomen loci 'месца, на якім трымаюцца, знаходзяцца вілкі'.

**Віло́к** 'качан капусты' (Растарг.) — пранікненне з рус. моўнай тэрыторыі, дзе *вилок* 'тс'<*вил*<*вить* (Фасмер, 1, 315; Шанскі, 1, В, 98; Праабражэнскі, 1, 84; КЭСРЯ, 81).

**Вілочнік** 'вожаг' (хойн., Шатал.) — дэрыват ад *вілочны* (<*vidloč-ьnъ*) і суф. *-ік* (<*ікъ*). Гл. таксама *вілачнік*.

**Вілы** 'ручная сельскагаспадарчая прылада ў выглядзе доўгага дзяржання з рагулінай або зубцамі на канцы' (КТС, БРС, Нас., Бяс., Сцяц. Словаўтв.); 'прылада вымаць гаршкі з печы' (Сцяшк., Др.-Падб., Інстр. I); 'верхняя частка сахі калодзежа' (ДАБМ, Шатал., КЭС, лаг.); 'раздвоеныя ногі, пояс' (Некр., КЭС, лаг.); 'раздваенне дарогі' (КЭС, лаг.), 'месца, дзе зліваюцца рэкі' (Сцяшк. МГ), перан. экспр. 'адмаўленне'; 'кукіш' (Нас.). Укр. *ві́ла,* рус. *ви́лы,* польск. *widły,* н.-луж., в.-луж. *widły,* чэш. *vidle,* славац. *vidly,* славен. *vile,* серб.-харв. *вй̏ле,* макед. *вила,* балг. *вила*. Прасл. *vidla*. Утворана пры дапамозе суф. Nomen instrumenti *-dl-o* ад *vi-ti* 'віць' (Праабражэнскі, 1, 84; Брукнер, 613; Фасмер, 1, 314; БЕР, 1, 147; КЭСРЯ, 81). Першапачатковай функцыяй вілаў было навіванне пражы (Махэк$_2$, 688). Мейе (Études, 418), Уленбек (296) і Младэнаў (66) суадносяць лексему *vidla* са ст.-інд. *vētráḥ* 'від чароту'. Іншыя версіі: *vidla*<з лац. *vīdulus* 'плецены кош' і ст.-інд. *vēdás* 'мяцёлка сочнай травы' (Петэрсан, AfslPh, 1916, 36, 152), *vidla*<*u̯ĭ-dhē- 'рас-стаўляць', як *u̯ĭdh-ewa 'ўдава'- *-раз-дзеленая* (Кноблах, Зб. Пізані, 2, 604), *vidla*<лац. *fibula*<*u̯ei-dhlā (Хаас, Elem., 41).

**Віль,** *віль-віль* — выклічнік, які перадае кароткае, шматразовае дзеянне (КТС, Янк. III). Да *віля́ць* (гл.). Параўн. укр. *виль!* — выклічнік для выражэння віляння, рус. *виль-виль-виль, виля-виля-виля* 'падзыўное для гусей'.

**Вільгатне́ць** 'спадаць (аб марозе)' (Нас.) — адпрыметнікавае ўтварэнне. Да *вільготны* (гл.).

**Вільгаць** 'сырасць, макрата; вада, вадкасць' (БРС, КТС, Нас.; КЭС, лаг.; Мал., Бяльк., Шат., Касп.); 'адліга' (Нас.). Укр. *вільгість* 'вільгаць, сырасць'. Лексема запазычана з польск. *wilgoć* 'тс' (Шатэрнік, 46; Пальцаў, Лекс. і грам., 38; Цвяткоў, 60) ці дакладней са ст.-польск.: ст.-бел. *вилкость* (з XV ст.) — ст.-польск. *wilkość* (Карскі, Труды, 310). У сучаснай бел. мове маецца вельмі шмат новаўтварэнняў з пачатковым *вільгаць-*: *вільгатнец, вільгацеабмен, вільгацеаддача, віль-*

*гацелюбівы, вільгацепад'ёмны, вільгаціць, вільгацеёмістасць, вільгацястойкі, вільгацяўстойлівы* і інш.

**Вільго́та**₁ 'адліга' (Яруш., Нас., КТС). Запазычана з польск. *wilgota* 'макрата, вільгаць, вільготнасць'.

**Вільго́та**₂ 'ільгота, аблягчэнне' (Нас.); 'выгада' (карм., Мат. Гом.), перан. 'прыволле, раздолле' (Юрч.). Укр. *вільгота* 'ільгота, аблягчэнне', палес. *вильгота* 'тс', рус. *вольгота* 'вольнае жыццё, воля, вольнасць, аблягчэнне'; 'прастор'; 'вызваленне ад дзяржаўнай павіннасці'. Беларуская лексема ўзнікла з *ільгота* з прыстаўным *в-*. Рускія дыялектныя формы, магчыма, з'яўляюцца вынікам кантамінацыі з лексемай *воля*. Параўн., аднак (Шанскі, 1, В, 154—155). Украінская лексема, відаць, запазычана з бел. мовы.

**Вільготнасць** 'сырасць' (КТС), ст.-бел. *вилготность, вилкготность* запазычаны з польск. *wilgotność* (Булыка, Запазыч., 63; Гіст. лекс., 73).

**Вільго́тны** 'сыры, мокры, пранізлівы' (Шат., Нас.), ст.-бел. *вилкготный, вильготный* (з XVII ст.). Запазычаны з польск. мовы (Шатэрнік, 46; Булыка, Запазыч., 63). Сюды ж прыслоўе *вільго́тна* 'насычана вільгаццю' (КТС, Касп.).

**Вільжэ́ць**₁ 'рабіцца вільготным' (Нас.). Утворана ад (незафіксаванага) прыметніка **вільгі,* які ўзыходзіць да ст.-польск. *wilgi* 'сыры, мокры, вільготны' < польск. *wilż* 'вільгаць'.

**Вільжэ́ць**₂ 'слабець (аб марозе)' (Нас.) з'яўляецца пераносным або ўтвораным ад *вільгаць* 'адліга' (гл.).

**Вількалак** 'ваўкалак, звер'; 'паўчалавек і паўвоўк' (Кольб., 52). Запазычана з польск. *wilkołak* 'тс'. Гл. *ваўкала́к.*

**Вільна** 'ямка ў зямлі пры гульні і для гульні ў «вільну»' (Шн., Мат., 3). Няясна.

**Вільнік** 'дзяржанне ў вілках' (віц., добр., Шат., Мат. Гом.) — вытворнае з суф. *-нік* (<*ьn-ikъ)* ад *вілы* (гл.). Параўн. славен. *vîlnik* 'галіна, якая можа служыць асновай у вілах для сена'; 'дзяржанне ў вілах для гною'.

**Ві́льня** 'жанчына, якая бессаромна падладжваецца да каго-небудзь, каб пажывіцца, мець выйгрыш; хітруе' (Янк. III). Утворана пры дапамозе суф. Nomen actionis *-ня* ад *віляць* (гл.). З-за значэння неадабральнасці лексемы *віляць* слова *вільня* таксама атрымала адценне зневажальнасці.

**Вільца** 'вечарынка перад вяселлем у нявесты' (Інстр. II).



Укр. *вильце́, вільце* 'абрадавае дрэўца ўкраінскага вяселля: галіна хваіны або іншага дрэва, якая ўтыкаецца ў вясельны каравай і аздабляецца кветкамі, калоссямі, калінавай ягадай з хмелем, каляровымі ніткамі і паперай'. Да *вілы* (гл.). Слова ўзыходзіць да прасл. *vidlo,* якое пры дапамозе дэмінутыўнага суф. *-ьce* дало бел. *вільца.* Магчыма, бел. *вільца* запазычана з укр., якое паходзіць з *гильце//гільце* (<*гілка* 'галінка') як вынік ілжэпратэзы *г→в.*

**Вільча́к** 'верх страхі ля вільчыка' (Касп.); 'разная фігура над франтонам зверху даху' (БРС); 'вільчык' (КТС); 'верх даху' (Абрэмб.). Да *вілкі* 'развілка, вілы' (гл.). Паводле В. У. Мартынава (вусн. паведамл.), звязана з усх.-польск. *wilk* 'дзве дошкі, збітыя разам пад вуглом, якімі накрываецца зверху вільчык гонтавага даху' (КСПГ) < *wilk* 'воўк, разная фігура (галава воўка), якая аздабляла вільчык'.

**Вільчаты** 'вілкападобны' (КТС) — прыметнікавае ўтварэнне ад *вілкі* (гл.).

**Вільчура** 'даха з воўчай скуры' (КТС). Укр. *вільчу́ра* і *вівчу́ра* 'тс', рус. зах. *вильчу́ра* 'кажух з воўчых скур навыварат', ленінгр. 'мужчынскі кажух'. Бел. лексема запазычана з польск. *wilczura* 'кажух з воўчых скур'; 'апрацаваная воўчая скура, якой накрываліся' (Фасмер, 1, 315; Праабражэнскі, 1, 84).

**Вільчык**₁ 'верхні стык даху, страхі' (КТС, БРС, Бяльк., Некр., Серб., Шушк., Сцяшк. МГ, Тарн., Інстр. I, шкл., КЭС; бых., парыц., Янк. Мат., Янк. I). Укр. палес. *вільчык* 'верх, грэбень саламянай страхі'. Рус. смал. *вильчик* 'грэбень страхі'. Да *вільча́к* (гл.).

**Вільчык**₂ 'часціна коміна на падстрэшшы' (Буз.); 'франтон' (ДАБМ); 'вяршыня дрэва' (ветк., хойн., Мат. Гом.). Утварылася ў выніку семантычнага пераносу (па сумежнасці, па падабенству). Да *вільчык*₁ (гл.).

**Вілю́га**₁ 'чалавек, які выкручваецца з любога становішча' (Янк. III). Укр. *вилюга* 'крывізна, згіб, згінанне', рус. уладз., валаг., кур., арл. *вилюга* 'крывізна, звіліна', валаг. 'хітрыкі, выкрутасы, выкручванне'. Магчыма, усх.-слав. інавацыя ад **віль* (<*віць*<*viti);* параўн. рус. маск., яраслаў. *вил* 'качан капусты', кур., варон., кастр., валаг. *вило́й* 'развілісты, закручаны'. Не выключана запазычанне з балт. моў (параўн. літ. *vìlti* 'ашукваць', *viliū̃gas* 'спакуснік') з аддаленай семантыкай.

**Вілю́га**₂ 'абавязак, прычына' (КЭС, лаг.). Няясна.

**Вілю́жка** 'узор вязання' (рэч., Мат. Гом.). Дэмінутыў да *вілюга*₁ (гл.). Параўн. укр. *вилю́жка* 'завілістая лінія арнаменту на яйках'; 'скрыўленне', а таксама рус. валаг. *вилю́шка* 'завіліна', 'хітрыкі'.

**Вілю́жына** 'звіліна' (КТС, БРС), утворана пры дапамозе сінгулятыўнага суф. *-іна* ад *вілюга*₁ (гл.). Сюды ж *вілю́жны* 'звілісты', *вілюжысты, вілюжыць* КТС).

**Віля** 'віла '(КТС). Запазычана з польск. *willa* 'тс' у вымаўленні замежных слоў у бел. мове ў 20-х гадах XX ст.

**Вілявы** 'завілісты, пакручасты, пятляючы' (КТС) — прыметнікавае ўтварэнне ад *віляць* (гл.). Параўн. рус. валаг., арханг. *виля́вый* 'завілісты'.

**Вілянка** 'пятляючая (рака); серпанцін' (КТС). Утворана ад дзеяслова *віляць* (гл.) і суф. *-ан-к-а*.

**Вілясты** 'пакручасты, завілісты, пятляючы' (КТС). Утвораны ад дзеяслова *віля́ць* (гл.) і суф. *-яст-ы,* характарызуецца дзеяннем, абазначаным утвараючай асновай. Рус. *вилястый* 'нешаткаваная капуста'; 'цэлым качаном' паходзіць ад *вило́й* 'звілісты, закруглены'.

**Віля́ць** 'махаць, хістаць, паварочваючы збоку'; 'рухацца па звілістай лініі'; 'ухіляцца ад прамога адказу, хітрыць, падманваць' (Нас., КТС, БРС, Шат., КЭС, лаг.). Укр. *виляти* 'віляць (напр., хвастом)'; 'ухіляцца ад працы'; 'весяліцца, гуляць, ганяцца', рус. варон., валаг. *вилять* 'зварочваць з дарогі'; 'гойсаць, шныраць, ухіляцца, пазбягаць каго-небудзь'; 'кідацца з боку ў бок'; 'ухіляцца з прамога шляху, хітрыць', *ви́ля* 'нясталы чалавек, ветрагон', польск. *wilać* 'махаць (хвастом)', уст. *wilać się* 'віцца (аб дыме)'. Іншыя славянскія адпаведнікі семантычна звязаны больш з прасл. лексемай *vila* 'міфічная істота, фея, русалка'; 'вар'ятка'; 'вядзьмарка, чараўніца', польск. *wilować* 'шалець, вар'яцець, губляць галаву', чэш. *vilniti* 'быць юрлівым', ст.-чэш. *vilovati* 'дрэнна паступаць, распутнічаць', макед. *вилнее* 'бушаваць, бясчынстваваць', чым з *віляць*, ад якой яны фармальна адрозніваюцца. Таму можна дапусціць інавацыю ўсх.-слав. **виляти,* якое, відаць, з'яўляецца родрасным ад літ. уст. *vìlti* 'здраджваць' (Атрэмбскі, 2, 33), *vilióti* 'вабіць, падманваць, спакушаць', *apvìlti* 'падманваць, расчароўваць', *vỹlius* 'падман, спакушэнне, каварства'. Шанскі (1, В, 99); Пелікан (LF, 1929, 56, 244), Фасмер (1, 315), Брандт (РФВ, 18, 8), Младэнаў (66), КЭСРЯ (81) мяркуюць, што лексема з'яўляецца суфіксальным дэрыватам ад *вилыи* 'завілісты, пакручасты' (<**вить* і суф. *-л-*). Петарсан



(AfslPh, 36, 152) звязвае лексему *вилять* са ст.-інд. *vẽllati* 'хістаецца', *vẽllitas* 'хвалісты, гарбаты', пракр. *velli, vellā* 'павойная расліна'.

**Віля́цца** 'церціся каля чаго-небудзь'; 'хавацца'; 'ухіляцца' (Нас.). Зваротны дзеяслоў да *віляць* (гл.).

**Вімба** 'рыба cyprinus' (Герд, Дыял. Прыб. канф.), рус. *вимба, вымба* 'тс'. Запазычана з балтыйскіх моў; параўн. лат. *vim̃ba*<літ. *vimba,* у якія гэта лексема прыйшла з ліўск. *vīmpa*<эст. *vimb,* фін. *vimpa* (Фасмер, 1, 368; Лауманэ, Zivju, 248).

**Віляхво́ст** 'падліза, чалавек, схільны да ліслівасці' (Бяльк.) — складанае слова ад *віля́ць* і *хвост* (гл.).

**Він!** 'прэч' (Мядзв.). Параўн. рус. *вон!* Змена вакалізму застаецца няяснай.

**Віна**₁ 'пікі (у картах)' (БРС, Нас.), *віны* (Шат., Нас.), *віні* (Касп.). Укр. *вино* 'пікавая масць', рус. *вини* 'тс'. Запазычана з польск. *wino* 'масць пікі ў картах'; назва паходзіць ад *wino* 'вінаград', які быў намаляваны на картах (Насовіч, 58; Шанскі, 1, В, 100).

**Віна**₂ 'пасаг' (маг., Бр.), укр. *віно,* рус. ленінгр. *вина́* 'выкуп за маладую', рус. *вéно* 'пасаг', ст.-рус. *вѣно,* польск. *wiano,* в.-луж. *wěno,* чэш. *věno,* славац. *veno* 'тс'. Дыялектны варыянт з *-і-* ўзнік, відаць, пад уплывам украінскай мовы, гэта не зусім дакладны запіс вузкага *-ê-*. Параўн. таксама ўсх.-польск. *wino* 'пасаг'. Да *вéна* (гл.).

**Віна́**₁ 'нядобры ўчынак, правіннасць' (БРС, КТС). Укр. *вина́* 'віна, абвінавачванне', рус. *вина́* 'віна, пачатак, крыніца, падстава'; 'правіннасць, учынак, грэх', пск. 'правіннасць, абавязак', ст.-рус. *вина* 'вина, правіннасць, грэх, абвінавачванне' (XII ст.); 'асуджэнне, пакаранне' (з XVII ст.), польск. *wina* 'віна, правіннасць, грэх', н.-луж. *wina,* в.-луж. *wina,* чэш. *vina,* славац. *vina* 'тс', макед. *вина* 'віна, злачынства', балг. *вина* 'віна', ст.-слав. **вина.** Прасл. *vina*<і.-е. **u̯ei-n-a,* роднаснае ад літ. *vaina* 'памылка', лат. *vaĩna* 'віна, недахоп', ***vainât*** **'вініць, абвінавачваць, ганіць',** 'прычыняць шкоду'. Іншыя і.-е. мовы маюць фармант *-t-,* які далучаецца да асновы **u̯ei-,* напр., лац. *vitium.* Гл. Праабражэнскі, 1, 84; Брукнер, 625; Фасмер, 1, 316; Шанскі, 1, В, 99; КЭСРЯ, 81; Скок, 3, 594; БЭР, 1, 148; Голуб—Копечны, 416; Махэк₂, 690.

**Віна**₂ 'прычына' (Кар., КТС), рус. *вина́* 'пачатак, прычы-

на, крыніца, зачэпка', ст.-рус. *вина* 'прычына, падстава', польск. *wina*, н.-луж., в.-луж. *wina* 'тс', чэш., славац. *vina* 'прычына чаго-небудзь дрэннага, благога', ст.-слав. **вина** 'прычына'. Відавочна, гэта семантычны перанос ад *віна*$_1$ (гл.). Карскі (Труды, 204) лічыць лексему *віна* 'прычына' паланізмам.

**Віна**$_3$ 'плата суддзю і інш. чыноўнікам' (Гарб.), укр. *вина* 'суровая пошліна', ст.-рус. *вина* 'асуджэнне, пакаранне, кара'; 'грыўня'; 'плата за шкоду'; 'пошліна', польск. *wina* 'грыўня, грашовая плата за правіннасць', лат. *vaīna* 'вінаватасць'. Да *віна́*$_1$ (гл.). Лексема гэта, відаць, у бел. мову перайшла са ст.-рус. мовы (юрыдычнай тэрміналогіі).

**Вінава́йца** 'вінаваты, які абвінавачваецца, віноўнік' (Шат., КТС), ст.-бел. *виновайца* 'тс' (1580 г.); 'даўжнік' (Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Нас.). Запазычана з польск. *winowajca*, ст.-польск. *winowaćca* 'віноўнік' (Булыка, Запазыч., 64; Брукнер, 622); параўн. яшчэ польск. 'мужчына, які ашукаў дзяўчыну і з'яўляецца бацькам дзіцяці'.

**Вінавальны** (грам.) — назва склону (БРС). Новаўтварэнне, калька з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 118).

**Вінава́т(ы)** 'чалавек, які зрабіў злачынства'; 'які мае доўг' (КТС, БРС, Нас., Касп., Бяльк., Шат.). Укр. *винуват, винуватий* 'вінаваты'; 'мае доўг', рус. паўн.-зах. *винова́тый* 'вінаваты, павінен', сіб. 'грэшны', ст.-рус. *виноватый* 'які з'яўляецца прычынай, крыніцай чаго-небудзь (з XVII ст.); 'вінаваты ў чым-небудзь (з XV ст.), ст.-польск. *winowat, winowaty* 'павінны, абавязаны', в.-луж. *winowaty* 'вінаваты, абавязаны', чэш. уст. *vinovatý* 'вінаваты', славац. *vinovatý* 'вінаваты ў нечым'; 'які прызнаецца ў віне, правіннасці', макед. *виноват* (народнапаэт.) у выражэнні *вино виновато*, балг. *виноват* 'вінаваты, грэшны', ст.-слав. **виноватъ** 'вінаваты'. Прасл. *vinovatъ*. Вытворнае ад *віна́*$_1$ (гл.) і суф. *-ават-ы*. Сюды ж прысл. *вінавата*, абстрактны назоўнік *вінаватасць* (КТС) і ст.-бел. *виноватество* 'вінаватасць', якую Карскі (Труды, 204) лічыць паланізмам.

**Вінаваўца** 'вінаваты' (КТС). Утворана ад дзеяслова *вінаваць* (гл.) і суф. *-аўца* (<польск. *-awca* па аналогіі да *wychowawca*).

**Вінаваціць** 'абвінавачваць, лічыць вінаватым' (КТС, БРС, Гарэц., Шат., Мядзв., Яруш., Касп.), *вінуваціць, вінаваціць* 'тс' (Бяльк.). Укр. *винува́тити, винова́тити* 'тс', рус. *винова́тить* 'абвінавачваць'. Утворана ад *вінаваты* (гл.). Сюды ж зваротны дзеяслоў *вінаваціцца* 'рабіцца вінаватым, даўжніком' (Нас.); 'апраўдвацца, дакараць сябе, адчуваючы віну, каяцца' (КТС).



**Вінава́ць** 'абвінавачваць, лічыць кагосьці вінаватым' (Нас., Юрч., Сін.), *вінува́ць* (Юрч., Фраз., 2). Укр. *винува́ти* 'абвінавачваць,vініць', рус. амур. *ви́новать* 'тс', ст.-рус. *виновати* 'быць прычынай чаго-небудзь', польск. уст. *winować* 'вініць', ст.-польск. *winować* 'абвінавачваць, прыпісваць віну', в.-луж. *winować* 'абвінавачваць; лічыць даўжніком', чэш. *vinovat'* 'вініць'. Паўночнаслав. утварэнне ад *віна́*$_1$ (гл.)<прасл. *vina* і суф. *-ovati* (>*-ава́ць*).

**Вінагоннік** 'вінны завод' (КТС, К. Чорны). Утворана ад прыметніка *вінагонны*<рус. *виногонный* (завод) і суф. *-нік*.

**Вінагонка** 'вінакурня' (КТС, К. Чорны). Новатвор ад *віно́* і *гнаць* (гл.) замест звычайнага *курыць* пры існуючым *самагонка* (гл.).

**Вінагра́д** 'пладовая павойная расліна, Vitis vinifera L.' (БРС, Кіс., Сцяшк. МГ), *віныгра́д* 'тс' (Бяльк.); 'фруктовы сад' (Нас.); 'садавіна' (Нас.); 'садовыя расліны' (Сцеп.), фалькл. *вінаградзік* 'вінаграднік' (Кліх). Укр. *виноград* 'вінаград'; 'гронка вінаграду'; 'вінаграднік'; 'садавіна', рус. смал. *виноград* 'садовы плод (любы)'; 'сад'; 'віно', эпітэт жаніха, кастр. 'аздоба хамута ў выглядзе лістоў вінаграду з гронкамі', ст.-рус. *виноградъ* 'вінаграднік, фруктовы сад' (з XII ст.); 'ягада вінаграду' (XVII ст.); 'вінаграднае віно' (з XVIII ст.), польск. *winograd* 'вінаград, ягада вінаграду, віно', ст.-польск. *winograd* 'вінаграднік', чэш. *vinohrad*, славац. *vinohrad*, славен. *vinógrad* 'тс', серб.-харв. *ви̏ноград*, ст.-слав. **виноградъ.** Прасл. *vinogordъ*. У бел. мове запазычана з ц.-слав. Звычайна лічаць слав. *vinogordъ* запазычаннем з гоц. *weingards*, ст.-в.-ням. *wîngart(o)*, с.-в.-ням. *wîngart(e)*, н.-в.-ням. *Wingert* 'вінаграднік' (Уленбек, AfslPh, 15, 492; Лёвэ, KZ, 39, 317—333; Мух, AnzIF, 9, 197; Брукнер, AfslPh, 42, 141; Шанскі, 1, В, 101; Стэндэр-Петарсан, Slav.-germ., 365; Кіпарскі, Fremdes, 225; КЭСРЯ, 82). Скок (3, 595) мяркуе, што *vinogordъ* узнікла на слав. глебе і з'яўляецца складаным словам (параўноўвае ст.-слав. **виноградъ і врътоградъ,** ад *vino*>*віно́* (гл.) і *gordъ*> *гарод, горад*) (гл.), якое азначала агароджанае месца.

**Вінаградаўнік** 'разнавіднасць дзікага вінаграду, Ampelopsis Mchx.' (Кіс.). Запазычана з рус. *виноградовник* 'тс'.

**Вінагра́дар** 'чалавек, які разводзіць вінаград' (КТС, БРС). Запазычана з рус. *виноградарь* 'тс'. Да *вінагра́д* (гл.).

**Вінаграднік** 'поле, дзе расце вінаград' (БРС, КТС). Запазычана з рус. *виноградник* 'тс'. Да *вінагра́д* (гл.).

**Вінадар** (паэт.) 'той, хто дорыць віно' (КТС, Р. Барадулін). Новаўтворанае складанае слова. Да *віно* і *дарыць* (гл.). Параўн. ст.-рус. *винодати* 'дарэнне віна' (XII ст.).

**Вінакур** 'вытворца спірту' (БРС, КТС). Укр. *винокур*, рус. *винокур*, польск. (з «Літвы» ў Карловіча) *winokur* 'тс'. Усх.-слав. утварэнне ад *віно* і *курыць* (гл.) 'выпальваць'. Тут *віно* ўжыта не ў першасным значэнні 'віно вінаграднае', а ў другасным 'алкаголь, спірт, гарэлка'. Прынамсі, у XIX — пач. XX ст. спіртныя напіткі выраблялі вінакурныя заводы. Такім жа чынам утворана і чэш. *vinopal*<*vino*+*páliti*, *pálenka* 'самагон', польск. *gorzelany*, *gorzelnik*, *gorzeć* 'паліць, гарэць, выпальваць'. Сюды ж *вінаку́рны*, *вінаку́раны*, *вінакурства* (БРС, КТС), а таксама новатвор (калька з рускай мовы) *вінакурэнне* (КТС).

**Вінакурня** 'вінакурны завод, бровар' (БРС, КТС). Укр. *виноку́рня*, рус. *виноку́рня*, ст.-рус. *винокурня* (з XVII ст.) 'тс'. Утворана па тыпу іншых Nomina loci пры дапамозе суф. *-ьн'а* (які служыць для ўтварэння назваў закрытых памяшканняў) ад дзеяслова *вінакурыць* 'гнаць віно, гарэлку' (ці ад назоўніка *вінаку́р*).

**Вінапо́лька** 'вінная крама' (КТС, Касп.). Рус. *винополия* 'казённая вінная крама', тул. *винополка*, арл. *винополь*, пск., кур., пенз., арл. *винополька* 'тс'. Бел. лексема запазычана з рус. *винополька*, якое з'яўляецца лексічным скарачэннем, узнікшым у выніку намінацыі рус. *винная монополия*>*винополия*.

**Вінарка** 'бутэлька для віна' (КТС) утворана ад лексемы *віна́рня* 'вінны пограб'; 'вінная крама'. Суф. *-ка* той самы, што і ў лексем *бутэлька* (гл.), *мане́рка* 'біклага' (гл.).

**Вінаро́б** 'вытворца віна' (КТС, БРС). Утворана, паводле калькі, з рус. *винодел* пры наяўнасці ўкр. *винороб* 'тс'. Сюды ж *вінаробны*, *вінаробчы*, *вінаро́бства* (КТС, БРС).

**Вінаспад** (паэт.) 'багацце він' (КТС, К. Крапіва). Новаўтварэнне па тыпу *вадаспад* (гл.).

**Вінасховішча** 'месца, дзе захоўваюць віно' (КТС). Складанае новаўтварэнне — калька з рус. *винохранилище*.

**Вінаход** 'чалавек, які вельмі шпарка ходзіць, бегае, лятун' (міёр., З нар. сл.). Укр. *винохід* 'іназходзец', рус. *виноходец*, *виноходь*, *виноход* 'тс', польск. *inochód*, чэш. *jinochod*, *mimochod*, славац. *mimochod* 'тс'. Бел. лексема з'яўляецца пераносам ад 'конь-іназходзец'. Пачатковае *в-* прыстаўное.



**Вінача́рп** (уст. жарт.) 'асоба, якая падносіла пітво на банкетах ці бяседах' (БРС). Укр. *виночерпій*, *виночерпець*, рус. *виночерпий*, ст.-рус. *виночерпий*, *виночерпецъ* 'тс' (з XIV ст.). У бел. мове калька з грэч. οἰνοχόος 'тс' праз ст.-рус.

**Вінгор** 'рыба ўгорыч, Anguilla anguilla L.' (Дразд.). Узнікла шляхам кантамінацыі бел. *вугор* і польск. *węgorz*, пры якой *-ę-*>*-e-*, якое на палескай тэрыторыі перайшло ў *-i-*.

**Ві́нда** 'прыстасаванне для пад'ёму грузаў: бярвенняў, вады; пад'ёмнік у млыне' (КТС, БРС, Бір. Дзярж., Сцяшк. МГ, Шат.), ст.-бел. *винда* 'дамкрат, прыстасаванне для падымання будаўнічых матэрыялаў, лябёдка, калаўрот-пад'ёмнік' (з XVII ст.). Запазычана праз ст.-польск. *winda* (з XVI ст.) з ням. *Winde*<*winden*//*wenden* 'варочаць' (Булыка, Запазыч., 64; Корчыц, Дасл. Гродна, 1967, 131; Брукнер, 622).

***Віндас**, ст.-бел. *виндасъ* 'цяслярская сякера' (Дасл. Гродна), віц. *бі́нда́с* 'від сякеры для адсякання тоўстых трэсак; калун'; 'балван, дурань' (Касп.). Запазычана з польск. *bindas* 'цясло'<ням. *Bindeaxt*<н.-ням. *bindex* (Варш. сл.; Корчыц, Дасл. Гродна, 131).

**Віндзыцыраваць** 'забіраць' (КТС, Р. Няхай). Запазычана з ням. *vindizieren*. Да *віндыка́цыя* (гл.).

**Віндроўэр** 'уборачная машына, якая косіць збажыну, укладвае яе ў рады для далейшага дасыхання і даспявання' (КТС, Я. Пярмяк). З рус. *виндроуэр*<англ. *windrower*<англ. *windrow* 'паласа скошанага сена, збажына'.

**Віндыка́цыя** 'права ўласніка выпатрабаваць сваю рэч з чужога незаконнага валодання' (БРС). Запазычана з лац. *rei vindicatio* праз рус. *виндикация* ці польск. *windykacja* 'тс'.

**Вінегрэ́т** 'халодная страва, прыгатаваная з дробных кавалачкаў нарэзанай гародніны (з рыбай ці з мясам), запраўленая алеем ці воцатам; сумесь розных прадметаў' (БРС, КТС), гродз. *вінагрэ́т* (Сцяшк. МГ), усх.-маг. *вінігрэт* (Бяльк.). Запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 80). Гродз. *вінагрэт*, магчыма, з польск. *winegret* (цвёрдае *-н-*)<франц. *vinaigrette* 'соус з воцату, алею і солі'<франц. *vinaigre* 'воцат'<*vin* 'віно' і *aigre* 'кіслы' (Даза, 752; Фасмер, 1, 316; Шанскі, 1, В, 99—100; КЭСРЯ, 82).

**Вінен**₁ 'павінен' (БРС, КТС, Яруш., Шат.), ст.-бел. *виненъ* (з XVI ст.). Запазычана з польск. *winien* (Карскі, Труды, 204).

**Вінен**$_2$ 'вінаваты' (Янк. II). Укр. *вйнен, вйннен,* польск. *winien* 'тс', славац. *vinen,* ст.-слав. **виньнъ.** Да *віна*$_1$ (гл.).

**Вінёўка** 'гатунак позніх кісла-салодкіх груш' (БРС, КТС, Мат. Гом.), укр. *виннюха* 'гатунак віннакіслых яблык', *виннічки* 'тс', рус. варон. *виновка* 'гатунак вінных яблык', польск. *winniczka, windyczka* 'гатунак дрэва і фруктаў грушы, Pirus communis', *winnik* 'гатунак яблык', славен. *vínica* 'тс'. Утворана ад прыметніка **віновы.* Да *віно* (гл.). Мяккае *-н-*, відавочна, пад уплывам *вішнёўка.*

**Вініл** і вытворныя *вініліт, вінілхларыд* і шэраг іншых хімічных злучэнняў. Запазычана з ням. *Vinyl*<лац. *vinum* 'віно'+грэч. ὕλη 'матэрыя, аснова' (праз рускую мову, рус. *винил* і інш.).

**Вініца** 'прызнавацца ў віне'; 'слухацца, падпарадкоўвацца'; 'правініцца' (КТС). Укр. *винйтися* 'прызнавацца ў віне', рус. *виниться* 'прызнаваць за сабою віну, прасіць прабачэння'; 'быць абвінавачаным', смал. 'прызнаваць чыю-небудзь уладу, падпарадкоўвацца', польск. *winić się* 'прызнаваць сваю віну'. Зваротная форма да *вініць* (гл.).

**Вініць** 'вінаваціць' (БРС, КТС, Нас., Бяльк.), укр. *винити* 'вініць', рус. *винить,* арханг. *винуть* 'тс', ст.-рус. *винити* 'быць прычынай чаго-небудзь, вінаваціць, абвінавачваць, асуджаць, караць', польск. *winić* 'прызнаваць вінаватым, абвінавачваць'; 'караць, абкладваць штрафам'; 'плаціць за шкоду, кампенсаваць', в.-луж. *winić* 'абвінавачваць', чэш. *viniti* 'вініць, лічыць каго-небудзь вінаватым, прыпісваць каму-небудзь адмоўную рысу', славац. *viniť* 'абвінавачваць', макед. *вини* 'вініць каго-небудзь', балг. *виня* 'вініць, абвінавачваць'. Прасл. *viniti* ўтворана ад назоўніка *віна*$_1$ (гл.) і суф. *-iti.*

**Вінкель** 'дэталь у плузе, да якой прымацоўваюцца падэшва і паліца' (маст., Шатал.), усх.-беласт. *v'ink'el* (Смул.) 'вугольнік для вымярэння вуглоў' (Сцяшк. МГ, Інстр. II, БРС, КТС). Укр. *вінкель* 'вугольнік', рус. *винкель* 'тс', польск. *winkiel* 'вугольнік'. Запазычана з ням. *Winkel* 'вугал, вугольнік'. Пра шлях запазычання меркаваць цяжка, таму што ў помніках ст.-бел. пісьменнасці слова не адзначана; у рус. літаратурнай мове яно фіксуецца з 1709 г. У бел. гаворкі лексема *вінкель* магла трапіць з мовы рамеснікаў (нямецкіх каланістаў) або праз польскую мову значна раней.

**Віннасць** 'віна' (Гарэц., Нас.); 'пакора, пакорнасць, абавязак' (Нас.). Укр. *винність* 'вінаватасць', паўн.-рус. *винность* 'стан вінаватага', уладз., арханг., перм., арл. 'вінаватасць, віна', ст.-рус. *винность* 'тс' (з XVII ст.), польск. *winność* 'абавязак вярнуць доўг'; 'віна'. Запазычана з польскай мовы, дзе семантыка лексемы бліжэй да бел., чым у рускай.



**Віннік**$_1$ 'чалавек, які ўзяў на сябе якія-небудзь абавязацельствы' (Гарэц.). Вытворнае з суф. *-нік (<ьпъ+ікъ)* ад назоўніка *вінá*$_1$ 'доўг, абавязак'; параўн. рус. пск. *вина* 'тс'. Такім жа чынам утварылася блізкае да вышэйадзначанага укр. *вйнник* 'даўжнік', ст.-рус. *винникъ* 'віноўнік, вінаваты' (XII ст.), польск. *winnik* 'вінаваты', чэш. *vinník,* славац. *vinník* 'тс'.

**Віннік**$_2$ 'вінакур, майстар па вырабу гарэлкі' (Нас., КТС, КЭС, лаг.). Укр. *винник,* рус. *винник* 'тс', паўн.-дзвін. 'рамізнік, які возіць віно (гарэлку)', урал. 'чалавек, які патаемна гандлюе віном (гарэлкай)', ст.-рус. *винникъ* 'віначэрп' (з XI ст.); 'вінакур' (з XVI ст.), польск. *winnik* 'вінакур'. Утворана пры дапамозе суф. *-нік* ад *вінó* (гл.).

**Вінніца** 'вінакурня' (Нас., КТС, Карл.), укр. *вйнниця,* рус. смал., кур., сіб. *винница,* ст.-рус. *винница* 'тс' (з XVII ст.). Узнікла шляхам семантычнага пераносу з *вінніца* 'вінаграднік'; 'месца на вінаградніку, дзе гналі віно (гарэлку)'. Ст.-бел. *винница* 'вінаграднік, вінаград' запазычана з польск. *winnica* (Булыка, Запазыч., 64; Карскі, Труды, 310).

**Вінны**$_1$ 'вінаваты' (БРС, Шн.; КЭС, лаг.; Бяльк., Мат. Гом.); 'той, хто мае доўг' (КЭС, лаг.; Нас.); 'слухмяны, пакорлівы' (Нас.). Укр. *винний* 'вінаваты'; 'даўжнік', рус. пск. *винный* 'прычынны', наўг., калін. 'магчымы, такі, які можа адбыцца', ст.-рус. *винный* 'прычынны'; 'вінаваты, абвінавачваемы'; 'даўжнік', польск. *winny* 'вінаваты, які заслугоўвае пакарання', в.-луж. уст. *winny* 'вінаваты', чэш. *vinný* 'тс', славац. *vinný* 'вінаваты, вінны'. Паўночнаслав. прыметнік, утвораны пры дапамозе суф. *-ьп-ъ* ад асновы назоўніка *віна́*$_1$ (гл.).

**Вінны**$_2$ 'які мае адносіны да віна', *вінны спірт, вінны перагар, вінны колер, вінны смак* і інш. (БРС, КТС, Янк. Мат.; КЭС, лаг.; Бяльк.), укр. *винний* 'вінны, вінаградны', рус. *винный* 'вінны', паўн.-рус. 'напоўнены віном', калуж. *винная трава* 'грушанка, Pirola secunda L.' польск. *winny* 'вінны, вінаградны', в.-луж. *winny,* чэш. *vinný,* славац. *vínny,* балг. *винен* 'тс', *винена болест* 'эпілепсія', ст.-слав. **виньнъ.** Прасл. *vinьnъ,* якое ў некаторых паўднёваслав. мовах даўно змяніла свой канчатак *-ьпъ* на *-ов, -ован, -јен, -ьски* (Скок, 3, 595), відаць, таму, каб пазбегнуць аманіміі з *вінны* 'вінаваты'. Тое ж мы маем і ў іншых слав. мовах. Утворана ад *вінó* (гл.) пры дапамозе суф. *-ьпъ.*

**Вінны**$_3$ 'піковы (пра масць у картах)' (КТС, Нас.). Утворана ад *віна*$_1$ (гл.).

**Віновы**$_1$ 'піковы' (Касп.), укр. *виновий* 'тс'. Утворана ад *віна*$_1$ (гл.) і суф. *-ов-ы*. Гл. яшчэ **Унбегаун**, Sel. Papers, 1969, 257.

**Віновы**$_2$ *калодзезь* (фалькл.) 'вінны, адкуль бяруць віно' (віц., паст., Шырма, Песні). Адносны прыметнік, утвораны пры дапамозе суф. *-ов-ы* (як *сасновы*) ад *віно́* (гл.).

**Віно́** 'віно, алкагольны напітак, пераважна вінаградны'; 'гарэлка' (БРС, КТС), *віно́ зелянó, віно* — прыпеў у песні (беласт., Ант.). Укр. *вино* 'віно'; 'вінаград', рус. *вино* 'віно, гарэлка', ст.-рус. *вино* 'вінаград' (з XII ст.), *вино* (з XI ст.) 'гарэлка, спірт', польск. *wino* 'віно'; 'вінаград', н.-луж., в.-луж. *wino* 'віно', чэш. *víno* 'віно'; 'вінаград, гронкі вінаграду'; 'агрэст', славац. *víno* 'віно'; 'дзікі вінаград', славен. *víno* 'віно', серб.-харв. *вѝно*, макед. *вино*, балг. *вино* 'тс'. Прасл. *vino*. Фасмер (1, 316) лічыць, што гэта слова з'яўляецца старажытным культурным міжземнаморскім тэрмінам; параўн. грэч. (*F*)οἴνη 'лаза', (*F*)οἶνος 'віно', лац. *vīnum*, арм. *ginī*, алб. *vēnë*, гоц. *wein*, ст.-в.-ням. *wîn*, груз. *γvino*, араб. *wayun*, ст.-яўр. *jajin*, зах.-сям. *wain*, асір. *īnu*. Адсутнасць роднасных назваў віна ў індыйскіх і іранскіх мовах сведчыць пра тое, што віно паходзіць з Міжземнамор'я (Малая Азія — Каўказ). Шляхі пранікнення: Вальдэ—Покарны (1, 226), Стэндэр-Петарсан, Лёвэ (IF, 13, 5) мяркуюць, што *віно* паходзіць з гоц. мовы; Ірэчэк (AfslPh, 31, 443), Романскі (JIRSpr., 15, 132), Скок (ZfslPh, 2, 391—400) — з лац. крыніцы, Пагодзін (Anz IF, 13, 132) — з фракійскай мовы. Младэнаў (66), Вальдэ (839), Геаргіеў (Исследов., 265), БЕР (1, 149) зыходзяць пры тлумачэнні першакрыніцы з і.-е. моўных сродкаў — ад кораня **u̯ei*>прасл. *vi-ti*>*віць, вѣтвь*, лац. *vitis*. Міклашыч (392) лічыць слова паўночнаеўрапейскім. Бернекер (1, 25) лічыць слав. *vino* вельмі старым, не пазней VI ст. н. э. (В. У. Мартынаў, вусн. паведамл.) і роднасным да ст.-слав. **винѩга**, серб.-харв. *вѝњага*, славен. *vinjága* 'вінаград' (параўн. літ. *vỹnuogė* 'вінаград'). Махэк$_2$ (690) лічыць першакрыніцай слав. *vino* балканскую латынь і, магчыма, герм. мовы. Гл. яшчэ Покарны, 1121; Клюге, 389; Скіт, 717; Рудніцкі, 1, 391—392.

**Віноўка** 'сорт яблык' (Сцяшк.), рус. варон. *винóвка* 'сорт вінных яравых яблык'. Утворана ад прыметніка *віновы* (параўн. польск. *winowy* 'вінны') і суф. *-к-а*. Гл. яшчэ *вінёўка*.

**Віноўнасць** 'вінаватасць' (КТС). Відаць, запазычана з рус. *виновность* 'тс'.



**Віно́ўнік** 'вінаваты ў чым-небудзь; той, хто з'яўляецца прычынай чаго-небудзь', рус. *виновник* 'крыніца прычыны чаго-небудзь', тамб. 'ландыш, Convallaria majalis', горк. 'мудранка, Paris quadrifolia L.', ст.-рус. *виновникъ* 'вінаваты; даўжнік' серб.-харв. *вѝновник* 'тс', макед., балг. *виновник* 'вінаваты'. Лексема ўтворана ад асновы прыметніка *vin-ov-ьnъ* (*віноўны*) і суф. *-нік*. Сюды ж *віноўніца* (<*vinov-ьn-ic-a*).

**Вінт**$_1$ 'болт са спіральнай нарэзкай шруба' (КТС, БРС). Укр. *гвінт*, рус. *винт*, макед., балг. *винт* 'тс', чэш. народн. *vint* 'нарэзка шруба'. Запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 27)<польск. *gwint* 'вінт'<ням. *Gewinde* 'нарэзка'<*winden* 'абвіваць, намотваць, круціць' (Брукнер, 165; Шанскі, 1, В, 101; Фасмер, 1, 317). Цалкам магчыма, што бел. *вінт* паходзіць непасрэдна з польск. мовы. Сюды ж *вінтавы́*.

**Вінт**$_2$ 'частка рухавіка парахода ці самалёта ў выглядзе лопасцей, замацаваных на валу'. Запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 98).

**Вінт**$_3$ 'карцёжная гульня' (БРС, КТС). Запазычана з рус. мовы; параўн. *винт* 'тс'<ням. *Gewinde*. Да *вінт*$_1$ (гл.).

**Вінтоўка** 'ружжо з вінтавымі нарэзамі ў канале ствала' (БРС, КТС). Укр. *гвінтівка*, рус. *винтовка*, ст.-рус. *винтовка* (з XVII ст.). Утворана ад прыметніка *винтовой* пры дапамозе суф. *-к-а* па мадэлі *водянка* і інш. (КЭСРЯ, 82; Шанскі, 1, В, 102; Фасмер, 1, 317; Унбегаун, Sel. Papers, 1969, 243.) Бел. лексема запазычана з рускай мовы. Сюды ж *вінтовачны*.

**Віну́ць** 'прыгалубіць, прыгортваць, прысвойваць, абгортваць' (Нас.), *віну́цца* 'гарнуцца, хіліцца, туліцца'; 'быць стараннным, руплівым'; 'прыставаць' (Гарэц., Нас.). Польск. *winąć* 'віцца', *winnąć się* 'слацца, абвалакваццa'; 'круціцца', чэш. кніжн. *vinouti* 'прыціскаць', *vinouti se* 'туліцца, гарнуцца', славац. *vinúť* 'туліць, прыгарнуць (да сябе)', *vinúť sa* 'туліцца, гарнуцца'; 'кружыцца вакол чаго-небудзь'; 'узнімацца, віцца вакол чаго-небудзь'; 'ціха выходзіць з сярэдзіны (пра гук)', серб.-харв. *вѝнути* 'вільнуць (хвастом)'; 'узняць, ускінуць'. *вѝнути се* 'ўзляцець, узняцца'. Прасл. *vinǫti*. Утворана пры дапамозе суф. *-nǫ* ад дзеяслова *viti* 'віць' (гл.). У гэтай лексеме суф. *-nǫ-* не мае значэння аднаразовасці.

**Вінцэрад** 'непрамакальны плашч' (КТС), рус. раст. *винцера́д* 'плашч з капюшонам', дан. *винцера́да* 'плашч ад дажджу', кубан. 'непрамакальны плашч', польск. *wincerada* 'непрамакальны плашч, які носяць маракі'. Запазычана з рус. мовы<іт. *fina* 'тонкая' і *cerata* 'кляёнка' (Фасмер, 1, 318).

**Вінчэ́стэр,** *вінчэ́сцер* 'тып паляўнічага ружжа' (БРС, КТС). Укр. *вінче́стер*, рус. *винчестер*, польск. *winchester*. Назва паходзіць ад уласнага імя амерыканца А. О. Winchester, які сканструяваў ружжо ў 1865 г. У бел. мову лексема магла прыйсці з рус. або польск. мовы.

**Віншава́нне** 'вітанне, слаўленне каго-небудзь з выпадку радаснай падзеі' (КТС, БРС, Нас., Шпіл.). Іменнае ўтварэнне ад дзеяслова *віншаваць* (гл.).

**Віншаваць** 'вітаць, славіць каго-небудзь з выпадку знамянальнай даты ці радаснай падзеі' (БРС, КТС, Шпіл., Мал., Гарэц., Касп., Нас.), ст.-бел. *виншовати* 'жадаць' (з XVI ст.). Укр. *віншувати, вінчувати,* польск. *winszować* 'віншаваць, выказваць пажаданні', уст. 'жадаць што-небудзь каму-небудзь'; 'прасіць'. Бел. лексема запазычана з польск. *winszować* (<с.-в.-ням. *wünschen*) (Булыка, Запазыч., 64; Чартко, Дасл. (Гродна), 1967, 54; Карскі, Белорусы, 161).

**Віншавальнік** 'той, хто віншуе' (БРС). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *віншаваць* (гл.) і суф. *-льнік,* які служыць для абазначэння асоб паводле іх дзейнасці або схільнасці да якога-небудзь дзеяння.

**Віншо́ўнік** 'віншавальнік' (Шпіл., Нас.); параўн. яшчэ славац. *vinšovník* 'тс'; 'зборнік віншаванняў'. Утворана ад прыметніка **віншоўны*<ст.-польск. *winszowny* 'віншавальны'.

**Віньетка** 'аздабленне ў выглядзе невялікага малюнка на загаловачным лісце кнігі ў пачатку або ў канцы раздзела' (БРС, КТС). Укр. *віньєтка,* рус. *виньетка* (з 1863 г.). Бел. лексема запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 76)<франц. *vignette* 'віньетка, застаўка'<*vigne* 'вінаград, аздоба з галінак і лісцяў вінаграду' (Даза, 751; Шанскі, 1, В, 102; Махэк$_2$, 690; БЕР, 1, 149). Фасмер (1, 318) мяркуе, што рус. *виньет* запазычана з франц. *vignette,* а рус. *виньетка* — з ням. *Vignette.* Апошняе Шанскі (1, В, 102) лічыць памылковым.

**Віньетыст** 'чалавек, які робіць віньеткі' (КТС). Утворана ад *віньетка* (гл.) і суф. *-іст.*

**Віны** 'прычыны' Карскі (Труды, 204) лічыць паланізмам. Да *віна́*$_1$ (гл.).

**Віня** 'белая намаразь, якой пакрываюцца дрэвы зімой, іней' (Мат. Гродз., Сцяшк. МГ). Фанетычны варыянт літаратурнай формы *іней, в-* прыстаўное, першапачаткова, відаць, было *віняй* м. р., як і навагр. *віняй* (З нар. сл.). Пасля страты канцавога *-й* слова *віня* перайшло ў разрад імёнаў ж. р.



**Віпціннік** 'вінаграднік, гароднінны сад' (Нас., гіст.). Няясна. Магчыма, звязана з літ. *vìpti* 'крывіцца, адтапырвацца', ст.-прус. *wipis* 'галіна'.

**Вір**$_1$ 'глыбокае месца ў рацэ ці возеры, дзе вада завівае, закручваецца' (БРС, КТС; барыс., гродз., Нас.; Мал., Яруш., Нас. Сб., Мядзв., Грыг., Шат., Сцяшк. МГ, Касп., Бяльк.; бых., Янк. Мат.; слаўг., лёзн., Яшк.; КЭС, лаг.); 'любое небяспечнае і невядомае месца' (Нас., гродз., Шн., 2); 'акно ў дрыгве' (КЭС); 'хуткі ручэй' (Нас., віц.; Яшк.); 'рух, плынь ракі' (Яруш., Нас.); 'невялікая травяная яма з вадой на сухім месцы' (палес., Яшк.). Укр. *вир* 'вір', паўн., зах., с.-рус. *вир* 'вір, яма'; 'дрыгва, вакно ў дрыгве', перм., калін. 'месца на млыне, куды падае вада з плаціны', цвяр. *выр* 'хуткая плынь'; 'яма з вірам', алан. 'лінія (пры гульні ў лункі)', польск. *wir* 'віхор, вір'; 'юрок для матання нітак', чэш. *vír* 'вір, віхар, рух'; 'зарубка на дрэве сякерай ці пілой пры вырубцы'; 'касмык шэрсці на персях каня, які служыць характарыстыкай пароды каня', славац. *vír* 'вір, віхор', славен. *vȋr* 'крыніца, вір', серб.-харв. *вȋр* 'тс', макед. *вир* 'лужына, сажалка, вадаём', балг. *вир* 'глыбокае месца ў рацэ'; 'затока, сажалка'; 'небяспечнае месца ў рацэ', ст.-слав. **виръ** 'вір'. Прасл. *virъ.* Утворана ад дзеяслова *vьrěti* (як і *жыр, мір* і інш.). Параўн. яшчэ літ. *vỹrius* 'вір', лат. *virags* 'вір, віхар', грэч. βιρός 'дрыгва', арам. *viró* 'глыбокае месца ў вадзе' (Фасмер, 1, 318; Махэк$_2$, 690; Брукнер, 623, БЕР, 1, 150; Рудніцкі, 1, 393; Мартынаў, Зб. Аванесаву, 189—190).

**Вір**$_2$ 'вір вадзяніка' (барыс., Шн., 2), *віры́* 'д'яблы' (Нас. Сб.); 'нячысцікі, што жывуць у вадзяных провах, бяздонні' (Нас.). Бел. лексема ўзнікла шляхам пераносу значэння.

**Вір**$_3$ 'вірок, прылада для звівання нітак у клубок' (Бяльк.). Утворана пры дапамозе суф. *-rъ* ад *vi-ti.* Гл. яшчэ *вірак, вірок, юрок.*

**Віра**$_1$ 'паднімай!' (БРС, КТС) — выклічнік з марской і будаўнічай тэрміналогіі. Укр. *віра,* рус. *вира* 'тс'. Для марскога тэрміна Фасмер (1, 318) тлумачыць паходжанне з іт. *virare* 'паварочваць'. Бел. і ўкр. будаўнічы выклічнік мог прыйсці і з малд. *а вира* 'паварочваць'.

**Віра**$_2$ 'выкуп за забітага чалавека' (БРС). Укр. *віра,* рус. *вира* 'тс', ст.-рус. *вира* 'штраф на карысць князя за забойства вольнага чалавека' (з XII ст.), чэш. уст. *víra* 'грашовы штраф за забойства (у старарускім і старагерманскім праве)'. Міклашыч (392), Уленбек (AfslPh. 15, 492), Праабражэнскі (1,

85) лічаць гэта запазычаннем з германскіх моў; параўн. ст.-в.-ням., с.-в.-ням. *vër-geld* (узята толькі першая частка слова), н.-в.ням. *Wergeld* 'віра', гоц. *wair* 'мужчына', ст.-ісл. *verr* 'тс'. Аднак, відавочна, маюцца цяжкасці з вакалізмам кораня. Хутчэй за ўсё лексема *віра* з'яўляецца роднаснай да літ. *výras* 'мужчына, мужык, муж', лат. *vīrs* 'мужчына', прус. *wijrs*, ст.-інд. *vīráḥ* 'мужчына, герой', лац. *vir* 'мужчына, муж, мужык', яшчэ ст.-інд. *vāiram* 'віра, варожасць'.

**Віра₃** 'частаванне старэйшых таварышаў, якое наладжвае хлопец, дасягнуўшы сталага ўзросту' (Бяльк.) звязана з літ. *výras* 'мужчына, мужык, муж', лат. *vīrs* '(дарослы) мужчына'. Да *віра₂* (гл.).

**Вірабурна:** «Вольных песень стыхійныя хвалі вірабурна прыволлем буяняць» (КТС, П. Трус.). Новаўтварэнне ад *вір* (гл.) і *бурна* (гл. *бура*).

**Вірава́ты:** *віравáтая вада* 'глыбокае месца на рацэ з кругавым цячэннем вады' (Сцяшк. МГ). Утворана ад дзеяслова *віраваць* (гл.) і суф. *-ат-ы*. Параўн. польск. *wirowaty* 'які ўтварае віры, віруе', чэш. *virovitý* 'поўны віру', серб.-харв. *вирòвит* 'які мае шмат віроў, ям (аб рацэ, возеры)'.

**Віравáць** 'утвараць віры, круціць, бурліць', (перан.) 'кіпець, бурліць' (БРС, КТС; КЭС, лаг.). Укр. *вирувати* 'бурліць, кіпець', польск. *wirować* 'паварочвацца кругом, круціцца вакол чаго-небудзь, над чым-небудзь'; 'надаваць чаму-небудзь віровы рух', *wirować (po wsi)* 'бадзяцца па хатах'. Утворана ад *вір₁* (гл.) і ітэратыўнага суф. *-ава-* (<прасл. *-ova-ti*). Сюды ж *віравацца, віраванне* (КТС).

**Віравы:** *віравая вада, віравы шчупак* 'які мае адносіны да *вір₁*' (КТС). Укр. *вировий* 'вірны, віровы, бяздонны, дрыгвяны', рус. *вировóй, выровóй* 'тс', польск. *wirowy* 'вярчальны; віхравы', чэш. *vírový, vířivý* 'тс', славац. *vírový* 'віравы'. Адназоўнікавы прыметнік, утвораны пры дапамозе суф. *-ав-ы* (<прасл. *ov-ъ*).

**Вірадаваць** 'перабіраць, грэбаваць, капрызіць' (КТС). Этымалагічна адносіцца да *верадзіць* (гл.). Гл. таксама *вірыдуваць*.

**Віра́ж** 'паварот самалёта, карабля з крэнам або паварот аўтамашыны па крывой лініі'; 'хімічны раствор для надання пэўнага колеру фатаграфічным здымкам'. Укр. *віраж*, рус. *вираж* і г. д. Рус. лексема паходзіць з франц. *virage* 'паварот' (з пач. XX ст.). Бел. *віраж*, відаць, запазычана з рус. мовы, хаця не выключана магчымасць паходжання з польск. *wiraż* 'паварот дарогі ў выглядзе дугі'; 'паварот, змена кірунку руху, бегу, язды'. Сюды ж *віражлівы, віражны, віражыць* (КТС).



**Вірак** 'юрок, невялікая палачка з засечкамі, пры дапамозе якой намотваюць ніткі' (Сцяшк. МГ). Да *вір₃* (гл.).

***Вірыплан** 'самалёт' (Яўс.), сюды ж уст. зэльв. *вераплан, вяраплан, яраплан* (Сцяц.) — сапсаваная народная форма ад *аэраплан*, якая запазычана, відаць, з рус. мовы (рус. *аэроплан*<франц. *aéroplane*<франц. *air* 'паветра' і *planer* 'лунаць') (Даза, 14; Шанскі, 1, А, 182).

**Вірасаві́к** 'жарабя, якое нарадзілася ў верасні месяцы' (КЭС, лаг.). Да *верасавік*<*верасовы*<*верасень* (гл.). Параўн. польск. *wrześniak* 'зайчанё, якое нарадзілася ў верасні'; 'конь-верасавік, які лічыцца трывалым, здаровым'; 'чалавек, які выглядае маладым і свежым, бо верасень — самы здаровы месяц' (КСПГ).

**Віратлі̇вы** 'вірысты' (БРС, КТС). Утворана ад *вір₁* (гл.) і самастойнага суф. *-атлів-ы* (Бел. гр., 1, 202). Сюды ж прыслоўе *віратліва* (КТС).

**Вірашча́ка** — страва (КЭС, лаг.). Фанетычны варыянт лексемы *верашчака* (гл.).

**Вірацéйка** 'вадзяная вужака' (КЭС, лаг.), рус. перм. *варатея* 'рыба, Cobitis taenia', укр. *веретенниця, веретільник, веретільниця* 'гадзюка вераценніца, Anguis fragilis', рус. паўн. *веретéльник* 'п'яўка', *веретéльница* 'маленькая, бязногая яшчарка'; 'вераценніца', паўд. *веретéница, веретени́ца* 'яшчарка', смал., пск., калуж. 'вераценніца', калуж. 'рыба, Cobitis taenia'; 'уюн, Cobitis fossilis', *веретеница* 'малюскі, ракавіна якіх падобна да верацяна', ленінгр. *веретённик* 'вераценніца', пск. *веретенница* 'тс', тамб. 'шабля-рыба з колкім ротам, падобная да пячкура', польск. *wrzecienica* 'марская рыба'; 'балотная гадзіна', н.-луж. *(w)rješeńca, wrješenica* 'кальчысты вужака, Coluber natrix', в.-луж. *wrjećeńca* 'лазаніца, Lysimachia L.'; 'жаўтапузік, Ophisantus apodus', чэш. *vřetenice* 'вераценніца', *vřetenka* 'род рыбы з сям'і Callionymidae, Callionymus', славац. *vreteníca* 'гадзюка Vipera berus', серб.-харв. *вретѐнар*, макед. *вретенарка* 'рыба Asper asper L.', балг. *вретéнарка* 'тс'. Усе да *верацяно, вярцець* (гл.). Цікавым з'яўляецца параўнанне Патабні (РФВ, 5, 126) з літ. *vérti* 'нанізваць, працягваць праз што-небудзь'.

**Вірашчэ́ць** 'шумець з трэскам (пра скваркі ў печы)' (КЭС, лаг.). Да *верашчэ́ць* (гл.).

**Вірая́** 'шула' (КЭС, лаг.). Да *верая́* (гл.).

**Вірга́цца** 'брыкацца (пра коней)' (зэльв., Сцяц.). Укр. *вергати(ся)* 'кідацца, шпурляцца'<*верéчи, вергу,* рус. *вергать* 'тс', польск. *wierzgać* 'брыкаць', *wirgać* 'тс'; 'перакульвацца', н.-луж. *wjergaś* 'кідаць(ца), шпурляцца', в.-луж. *wjerhać* 'шпурляць, рваць', *wjerhać so* 'змагацца', чэш. *vrhati (se)* 'кідаць(ца)', ст.-чэш. *vrci (vrhu),* славац. *vrhat' (sa)* 'тс', славен. *vr ę̀či,* серб.-харв. *вр̏ћи (вр̏гнем//вр̏жем), вр̏ћ,* харв.-кайк. *vreći* 'тс', макед. *врска* 'сцёбаць', *врсне* 'сцебануць', балг. *въргам* 'кінуць', ст.-слав. **врѣшти, врѣщи, врьгѫ** 'тс'. Прасл. *vьrgǫ, vьrgati* 'штурхаць, кідаць'. Ст.-слав. **извргъ** 'ізгой' з'яўляецца другой ступенню чаргавання кораня *vorg-*<і.-е. кораня ***u̯reg-/*u̯erg-* 'гнаць' (параўн. літ. *var̃gas* 'бяда, патрэба, нястача', гоц. *wrikan* 'праследаваць', ст.-англ. *wrecan* 'гнаць, помсціцца', ням. *rächen* 'помсціць', лац. *urgeo* 'цясніць, штурхаць, гнаць'). У слав. мовах маецца і рэдукаваны корань *vьrgati* (Трубачоў, История терм., 176—177; Мартынаў, Лекс. взаим., 153—155). Гл. таксама Праабражэнскі, 1, 73; Фік, 1, 549; Вальдэ, 821; Траўтман, 361; Міклашыч, 383; Голуб — Копечны, 423; Брукнер, 618; Махэк$_2$, 700; Фасмер, 1, 294—295; Скок, 3, 621. Младэнаў (667) збліжае лексему з ням. *Werk* 'работа, справа', *wirken* 'дзейнічаць'; 'ткаць'. Каралюнас (ZfSl, 2, 1974, 203—206) адносіць сюды літ. *vérgti* 'гнаць у рабства, рабіць рабом', *vérgas, ver̃gas* 'раб', лат. *ver̂gs, vèrgs* 'тс'. Бел.-польск. семантычная ізалекса.

**Віргліна** 'вяргіня' (рэч., Мат. Гом.). Да *вяргіня* (гл.). Тут адбылося выраўніванне суф. *-іня* на *-іна.* Устаўное *-л-* утварае больш характэрнае для бел. гаворак спалучэнне *-глі,* чым *гі-.*

**Вірзія́**$_1$ 'чалавек, які гаворыць абы-што'; 'лухта' (Бяльк.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне са старым суф. *-ьja* (як *суддзя*<<*sǫdьji*). Да *вярзці́* (гл.). Гл. яшчэ *вярзá.*

**Вірзія́**$_2$ 'вялікі чалавек' (Бяльк.). Кантамінаваная назва ад *вірзія*$_1$ і вядомага ва ўсх.-маг. гаворках рус. *верзила* 'бамбіза, вялікі чалавек', этымалогія якога няясная. Аднак, паводле семантыкі, лексему можна супаставіць з гоц. **wrisila,* якое магло даць слав. *vьrzila,* параўн. ст.-н.-франк. *wrisil,* ст.-сакс. *wrisilīk* 'гіганцкі, магутны'.

**Ві́рла** (экспр.) 'вока' (Касп.), *вірлавокі* 'чалавек з выпучанымі вачамі' (БРС; бялын., бых. Янк. Мат.; шкл., **Мат. АС**), сен. *верловокі* 'тс' (Касп.). Да *варлавокі* (гл.).



**Вірласты** 'вірлавокі' (КТС, А. Масарэнка). Утворана ад наз. *вірла* пры дапамозе суф. *-аст-ы.*

**Вірла́ты** 'вірлавокі' (БРС, Шат.); 'лупаты' (Янк. III); 'чалавек з выпучанымі вачамі' (гродз., Мат. АС). Утворана ад наз. *вірла, вірлы* (гл.) і суф. *-ат-ы,* як *вусаты, лабаты* і інш. *Вірла́тая яешня* 'яешня на патэльні, у якой бялок не змешаны з жаўтком' (Шат.). Перанос значэння паводле падабенства.

**Вірлач** 'вірлаты' (Сцяц., Мат. канф. МДПІ, Янк. III). Укр. *вирлач* 'тс'. Утворана ад *вірла, вірлы* (гл.) і экспрэсіўнага суф. *-ач.* На поўначы Беларусі (Дзісеншчына) ужываецца лексема з суф. *-ун: вірлу́н* 'вірлавокі чалавек' (Нар. сл.). Сюды ж *вірлачы* (абразл.) 'вочы' (Сцяц.).

**Вірліць** 'віраваць, вірыць' (КТС). Да *вір*$_1$ (гл.), *вірыць* (гл.). Суф. *-л-* (прасл. *-l-*) надае дзеяслову экспрэсіўнае адценне. Утворана паводле *бурліць* 'кіпець' і інш. Аб функцыі фарманта *-l-* гл. Вайян, Gram. comp. 3, 334—335; Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 351—354; Слаўскі, SP, 1, 53—54.

**Вірлы** мн. л., зневаж. 'вочы' (Жд., 1; докш., Янк. Мат.; дзісн., Нар. сл.). Да *вірла* (гл.).

**Ві́рнік** 'ніжняя частка ганчарнага круга' (Жд., 1). Польск. *wirniak* 'верхняя частка ганчарнага круга'. Утворана ад прыметніка *вірны* (гл.) і суф. *-ік.*

**Вірнік** 'нячысцік у вірыстай вадзе' (Нік., Оч.) паходзіць ад *вір*$_1$ (гл.) і суф. Nomina agentis *-нік.*

**Ві́рны** 'хвалісты, ветраны'; 'глыбокі, небяспечны' (Нас.); 'вірысты' (КТС). Сюды ж *вірна* 'неспакойна' (Нас.), чэш. *vírný* 'хуткі, раптоўны'; 'вірлівы, вірысты', славац. *vírny* (паэт.) 'вірлівы, вірысты'. Утворана ад *вір*$_1$ і суф. *-н-ы* (<*ьnъ-*).

**Віро́к**$_1$ 'крынічка, маленькі ручаёк (Сцяшк. МГ); 'хуткі ручаёк' (Нас.); 'глыбокае месца на рэчцы'; 'адкрытае месца сярод дрыгвы', *віро́к* і *вірак* 'малое азярцо на грудку' (слаўг., стол., Яшк.). Дэмінутыўнае ўтварэнне ад *вір*$_1$ і суф. *-ок* (<*-ъкъ*).

**Вірок**$_2$ 'юрок — кіёчак, якім намотваюць ніткі' (Бір. Дзярж., Бір. дыс., Жд., 1, Сцяшк. МГ, Касп., Шат., Бяльк.), рус. урал. *вирок* 'шпулька нітак', польск. усх. *wijurek* 'прыстасаванне, якім з матавіла звіваюць пражу ў клубкі'. Бел. лексема з'яўляецца дэмінутывам ад *вір*$_3$ (гл.), утвораная пры дапамозе суф. *-ок* (<*-ъkъ*).

**Віромка** '?' у кантэксце «...Нарабіла такой атруты і просіць: каторы старшы віромка, ідзця на водку...» (КЭС). Няясна. Магчыма, звязана з *вірa₃* (гл.), якое з'яўляецца роднасным з літ. *výras*, лат. *vīrs* '(дарослы) мужчына'.

**Віро́тны** 'падобны' (мазыр., Мат. Гом.), ваўк. *веро́тны* 'сапраўдны' (Арх., Фед.). Да *вяру́тны* (гл.).

**Ві́ртаначка** 'цёплая хустка' (ДАБМ, 946) <ад **ві́ртанка*, як *кру́чванка, набіва́нка* 'самаробныя хусткі' (там жа). Да *вярцёць* (гл. *vьrt-ěti*). Замена *-е-* на *-і-* ў гэтай гаворцы (в. Лунін Лунінецкага раёна) нерэгулярная (ДАБМ).

**Віртуо́з** 'артыст, які дасканала валодае тэхнікай свайго майстэрства' (БРС, КТС). Запазычана з рус. *виртуо́з* (Крукоўскі, Уплыў, 76) <франц. *virtuose* <іт. *virtuoso* 'выдатны, моцны, дабрачынны' (Шанскі, 1, В, 103—104). Фасмер (1, 319 выводзіць рус. лексему з іт. *virtuoso* <лац. *virtus* 'дабрачыннасць'. Сюды ж *віртуозны, віртуознасць*.

**Віруле́нтнасць** 'сукупнасць хваробатворных уласцівасцей; узбуджальнік заразных хвароб' (БРС, КТС) запазычана з рус. *вирулентность* 'тс', якое паходзіць з лац. *virulentus* 'ядавіты'. Сюды ж *вірулентны*.

**Ві́рус** 'дробныя мікраарганізмы, якія выклікаюць заразныя захворванні'. Запазычана з рус. мовы (Крукоўскі, Уплыў, 88) <лац. *virus* 'яд, слізь, вязкая вадкасць, сок'. У значэнні 'вірус' рус. слова ўжываецца з канца XIX ст.; да гэтага часу лац. *virus* азначала 'яд'; 'арганізм, які перадаваў хваробу пры непасрэдным кантакце' (Шанскі, 1, В, 104). Сюды ж *вірусны, вірусалогія*.

**Віру́тнік** 'узбаламучаны, кручаны, неўраўнаважаны' (барыс., Янк. I, Янк. БФ); 'злачынец, злодзей, разбойнік' (КЭС, лаг.), ст.-бел. *верутный, вирутный* 'заўзяты, страшэнны' (з XVII ст.), ст.-укр. *вѣрутний, вирутний* 'тс', польск. *wierutny* 'які мае адмоўныя ўласцівасці'. Магчыма, сюды ж балг. *вироглав* 'наравісты, капрызны; упарты, неслухмяны'. Звязана з *вір₁*, а не запазычана з польск. мовы, як сцвярджае Булыка (Запазыч., 60).

***Вірхала́с,** *вірхъла́сіна, вірхъла́ска* 'свавольнік' (міёр., З нар. сл.). Да *верхалаз, верх* (гл.).

**Вірхняк** 'бэлька' (карм., Мат. Гом.). Да *вярхня́к* (гл.).

**Вірш** 'віншавальны верш' (КТС), ст.-бел. *виршъ* (з XVI ст.). Запазычана са ст.-польск. *wirsz* 'радок, верш' <лац. *versus* 'радок, верш, баразна, штрых' (Булыка, Запазыч., 61) <лац. *verto* (Брукнер, 617).



**Вірыдува́ць** 'шалець, здзекавацца, самаўпраўнічаць' (Юрч.). Да *верадзіць* (гл.), якое было пашырана суф. *-ува-* (*-ава*). Параўн. укр. *вередува́ти* 'капрызіць', рус. паўд. смал. *вередова́ть* 'тс'. Гл. таксама *вірадаваць*.

**Вірысты:** *вірыстая рака* 'віравы, дзе многа віроў' (КТС). Бел. рэгіянальнае ўтварэнне ад назоўніка *вір₁* (гл.) і суф. *-іст-ы*.

**Віры́там** 'грамадой, натоўпам' (КЭС, лаг.). Няясна.

***Вірыць**, ст.-бел. *вирити, вирить* 'абвінавачваць' (Гарб.). Дзеяслоў, утвораны пры дапамозе суф. *-it-i* ад *віра₂* (гл.).

**Віры́ць** 'утвараць віры, круціць, бурліць'; 'бурліць, кіпець, вірыцца' (БРС, КТС). Польск. уст. *wirzyć się* 'віравадь', чэш. *víříti* 'кружыцца, узнімацца, віраваць', славац. *víriť* 'кружыцца', *víriť sa* 'кружыцца (пра снег, ваду, паветра)'. Утворана ад *вір₁* пры дапамозе суф. *-it-i*.

**Віра́я** 'акно ў балоце, бяздонне' (усх.-бел., КЭС), рус. *вере́я* 'кавалак лугу, лесу'. Утворана ад *вір₁* і малапрадуктыўнага суф. *-эя* (<*ěja*).

**Вір'янка** 'валер'ян, Valeriana officinalis L.' (ветк., Мат. Гом.) паходзіць з рус. размоўнага *валерьянка* 'тс' і з'яўляецца сапсаванай формай.

**Віс₁** 'назва травы' (Мат.). Карскі (Труды, 479) лічыць слова толькі палескім, супастаўляючы яго з варыянтам *віш*; параўн. лун. *віш* 'трава другога ўкосу', петрык. 'подсціл' і бяроз. *вышáр* 'тс' (Шатал.). Адпаведнікі знаходзім у гаворках польскай моўнай тэрыторыі: *wis//wisz* 'чарот, Scirpus L.', *wis* 'аер, Acorus L.'; 'від кіслай травы (асака?)'; 'мокры з чаротам луг', *wisowata łąka* 'благое сена', *wiszowaty* (аб сене) 'тс', н.-луж. *wis* 'чарот', а таксама ў славенскай мове: *viš* 'асака, Carex L.', серб.-харв. *виш* 'расліна'. У гэту групу ўваходзіць і палес. *вішар* (гл.), драг. *вышéр* 'старая, у свой час не скошаная трава, якую выкарыстоўваюць пераважна для подсцілу', сюды ж укр. *виш* 'тс', *вишáр* 'леташняя трава', польск. *wiszar* 'гушчар, нетры, зараснік', рус. кур. *виш* 'кусты, купіны ў паплавах, зарослыя леташняй травой', калін., сіб. *виша* 'губка, Bodiaga fluviatilis et lacustris'. Відавочна, звязана з літ. *viksvà* 'асака', *vikšris* 'сіт, Jungus L.', прус. *wissene* 'трава', *weysigis* 'луг', ням. *Wiese* 'луг', ст.-ісл. *veisa* 'іл' (Брукнер, 624—625).

**Віс₂** 'вісячае становішча цела гімнаста пры гімнастычных

практыкаваннях' (КТС), укр. *вис,* рус. *вис,* чэш., славац. *vis,* в.-луж. *wis,* польск. *zwis,* балг. *вис* 'тс'. У рускай мове гэта новая лексема (ССРЛЯ, 2, 389), якая паходзіць з чэш. мовы (КЭСРЯ, 63). Бел. слова запазычана з рус. мовы. Да *вісе́ць* (гл.).

**Віс₃** 'тое, што вісіць' (палес., Маш.), магчыма, в.-луж. *wis* 'схіл, склон, адхон, навісь, правес'. Палес. слова з'яўляецца (у фальклоры) дэсемантызаваным прасл. *visъ.* Да *вісе́ць* (гл.).

**Віс₄** 'мера вагі (для солі)' (Кольб., 52, 78). Відавочна, да *віс₃.*

**Віс-віс-віс** 'падзыўныя словы для кароў' (ДАБМ, 895), відазмененае зах.-палес. *быцю-быцю.* Параўн. мсцісл. *бысь-бысь-бысь* 'тс'. Аб магчымасці такіх фармальных фанетычных змен гл. Смаль-Стоцкі, Словотвір, 145.

**Ві́са** 'тое, што вісіць', звычайна ў загадцы гэта 'груша' (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), укр. *віса́* 'вага', рус. наўг., тамб. *виса* 'тое, што вісіць; яблык', арханг. *виси* 'павекі', вяц., каз. *ви́сы* 'валасы', сіб. 'апоўзіны', польск. усх. *wisa* 'тс', *wisza//wisa* 'тое, што вісіць (у загадцы)', балг. *виса* 'тое, што вісіць'; 'шчака'. Да *вісе́ць.* Гл. таксама Рудніцкі, 1, 439.

***Вісажа́р₁**, *вісыжа́р* 'назва сузор'яў' (Бяльк.). Да *весажо́р* (гл.).

**Вісажа́р₂**, *вісыжа́р* 'высокі чалавек' (Яўс.), пераноснае экспрэсіўнае значэнне ад *весажо́р.* Магчыма, гэта кантамінаваная лексема (з *высо́кі* і рус. *поджа́рый* 'сухарлявы').

**Вісакосны** *год* (КТС). Да *высакосны* (гл.).

**Вісачэ́зны** — павеліч. ад *віcокі* (Бяльк.). Да *віcокі* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-эзн-ы,* які выражае адценне надзвычай высокай ступені якасці.

**Вісачэ́ць** 'расці, станавіцца больш высокім'; 'паднімацца вышэй, узвышацца' (Нас.). Укр. *височити* 'ўзвышаць, рабіць высокім', чэш. *vysočeti* 'рабіцца вышэйшым'. Прасл. *vysoč-ěti.* Да *высокі* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-ě-ti,* які абазначае набыццё якасцей азначальнай асновы.

**Вісельнік** 'павешаны' (БРС; КЭС, лаг.); 'варты шыбеніцы' (Нас., Шат.), *вісяльнік* 'нядобры чалавек' (Жд., 2). Укр. *вішальник,* рус. *висельник,* ст.-рус. *висѣльникъ* 'варты шыбеніцы' (з XVII ст.). Відавочна, паходзіць ад *visel'ь* і суф. *-nikъ;* параўн. славен. *víselj* 'жолуд (у загадцы)'<*vis-ěti* і суф. *-el'ь.*



**Вісельніца** 'вісельня' (Бяльк.), рус. арханг., смал. *висельница,* славац. *viselnica,* славен. *visẹ̑lnice,* балг. *виселица.* Утворана ад назоўніка *вісельня* (гл.) і суф. *-n-ica.*

**Ві́сельня,** *вісільня* 'шыбеніца' (КЭС, лаг.; БРС, КТС) — ад **вісель* (параўн. рус. вяц. *висель* 'коўш', славен. *víselj* 'жолуд (у загадцы)', балг. *висел* 'нешта павешанае, тое, што вісіць' і суф. Nomen loci *-ня.*

**Вісе́ць** 'знаходзіцца ў вертыкальным становішчы без падпоры, выдавацца' (БРС, КТС, Касп.). Укр. *висіти,* рус. *висе́ть* 'вісець', ст.-рус. *висѣти* 'вісець; звісаць, навісаць' (з XIII ст.), польск. *wisieć* 'вісець; звісаць, абвісаць', в.-луж. *wisać* 'вісець', чэш. *viseti* 'знаходзіцца ў вертыкальным становішчы', славац. *visiet',* славен. *visẹ̑ti* 'вісець', серб.-харв. *ви̏сити, vȉsjeti,* макед. *виси,* балг. *вися* 'тс', ст.-слав. **висѣтн.** Прасл. *viseti* — другая ступень чаргавання з *весіць* (гл.) <*vĕsiti, vĕsъ.* Голуб—Копечны (417) мяркуюць, што гэта лексема — толькі славянская; яна не мае надзейных і.-е. адпаведнікаў (Фасмер, 1, 319). Ільінскі (ИОРЯС, 23, 1, 125) параўноўвае яе з літ. *vaipýtis* 'крыўляцца, грымасьнічаць', *vypsóti* 'быць разявай', ст.-в.-ням. *weibôn* 'калыхаць', лац. *vibrāre,* ст.-інд. *vèpatē* 'дрыжаць'. Згодна з Гольтгаўзенам (PBB, 66, 272), роднасная да ст.-нарв. *vē* 'сцяг'; Леві (IF, 32, 159) збліжае з грэч. ἄττω 'махаю'; зусім іншым з'яўляецца літ. *vaĩsius* 'плод' (бо яна звязана з *vìsti* 'множыцца', лат. *viest* 'выхоўваць, гадаваць') і не звязана з *viseti* насуперак Мюленбаху—Эндзеліну (4, 670); Педарсан (IF, 5, 44) звязвае з санскр. *viš;* Младэнаў (68) супастаўляе са сканд. *vīkja* 'паднімацца' і літ. *vikrùs* 'лоўкі, жвавы, кемлівы', Бернекер — з ням. *weihen* 'асвячаць', гоц. *weihs* 'святы'. Інакш Машынскі (Zasiąg, 198) — са ст.-в.-ням. *swīhhan* 'аслабець, паддацца'<і.-е. **(s)u̯eig-* 'гнуцца'. Абаеў (1, 88) параўноўвае прасл. *viseti* з асец. *awanzyn//awinzyn,* перс. *āvēz-, āvēxt-* 'вісець, вешаць', курд. *halavisin* 'вешаць'. (Праславянскі іранізм?).

**Віск** 'пранізлівы крык' (БРС, КТС, Гарэц., Нас.), укр. *виск,* ст.-рус. *вискъ* (з XVII ст.), польск. *wisk* 'віск'; 'піск'; 'крык', серб.-харв. *ви̏ска* 'крык, віск'; 'конскае іржанне', макед. *виск* 'іржанне'; 'віск', балг. *виск* 'іржанне', ст.-слав. **вискъ.** Прасл. *viskъ* — гукаперайmальнае ад *vi-* і суф. *sk-ъ.* Праабражэнскі (1, 83) параўноўвае з н.-в.-ням. *wiehern* 'іржаць', якое з'яўляецца ўзмацняльнай формай ад с.-в.-ням. *wihen,* ст.-в.-ням. *wihôn* (Клюге, 689). Гл. таксама *визг* (Фасмер, 1, 313; Шанскі, 1, В, 94).

**Віскат** 'віск' (БРС, КТС), рус. архангел. *визготок* 'віск'. Утворана ад *віск* (гл.) і суф. *-ат* (<прасл. *-otъ*<**-oto-*), які служыў для абазначэння гукавога дзеяння або слыхавых уражанняў (Вступ., 151).

**Віскатаць** 'вішчаць' (КТС) —адыменны дзеяслоў. Да *віскат* (гл.). Сюды ж *віскатанне* (КТС).

**Віскатлівы** (БРС, КТС). Утворана ад *віскат* (гл.) і суф. *-лів-ы*.

**Віскатня́** 'віск парасят'; 'дзіцячы плач' (Нас.). Утворана ад шматкратнага дзеяслова *віскаць* (гл.) і суф. *-атн-я*.

**Віскаць** 'пранізліва вішчаць' (КТС). Утворана ад *віск* (гл.) і суф. *-аць*.

**Віскі́** 'скроні' (капыл., КЭС, Жд., 3), укр. *висок*, мн. л. *виски́*, рус. *виски* 'тс', наўг., ярасл. 'старое адзенне'; 'валасы на галаве', арл. 'валасы на скронях', бранск. 'валасы на целе чалавека', пенз. 'жаночы галаўны ўбор', ст.-рус. *високъ* 'падвеска — частка конскай збруі (убору)' (з XVII ст.). Усходнеславянскае *високъ*. Узыходзіць да *visъ*, *visěti* (Гл. таксама *віс*з). Бел. лексема, такім чынам, спачатку абазначала 'тое, што вісіць'—'валасы (якія вісяць)'—'вісячыя валасы на скронях', потым —'скроні' (Фасмер, 1, 320; Шанскі, 1, В, 106).

**Віскі** 'моцная гарэлка (Англія, ЗША)' (БРС, КТС). Запазычана з рус. *виски* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 80)<англ. *whisky*, *whiskey*, якое з *whisquy-beath*<гэльск. *uisge-beatha* 'вада жыцця', што з'яўляецца калькай з франц. *eau de vie*<с.-лац. *aqua vitae* 'вада жыцця'; параўн. рус. *водка*<*вода* (Шанскі, 1, В, 105).

**Вісклівы** 'віскатлівы' (БРС, КТС). Утворана ад *віск* (гл.) і суф. *-лів-ы*.

**Віскнявы** 'віскатлівы' (відавочна, гом., КТС: І. Шамякін, М. Ракітны, І. Навуменка). Утворана ад *віск* (гл.) і суф.*-ляв-ы* (як *пісклявы*).

**Віскоза** 'клейкае цэлюлознае рэчыва, з якога выраблявецца штучны шоўк' (БРС, КТС). Паходзіць, паводле Крукоўскага, Уплыў, 83, з рус. *вискоза*, якое запазычана з зах.-еўр. моў і суадносіцца з познелац. *viscosus* 'ліпкі'<лац. *viscum* 'клей' (Шанскі, 1, В, 105).

**Віскоцце** 'віскатанне, віск' (КТС, М. Ракітны). Утворана ад *віската*<*viskotъ* і суф. *-ьje*, які вельмі рэдка далучаўся да назоўнікаў (*sъпьje*, *ustьje*). Назоўнікі, утвораныя пры дапамозе гэтага суфікса, могуць набываць абстрактнае абагульняльнае значэнне; параўн. драг. *нудо́тьте* 'нуда', *дрымо́тьте* 'дрымота'.



**Віскун** 'той, хто вішчыць' (КТС, М. Ракітны). Да *віск* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-ун* (<*-unъ*).

**Віскуха** 'тая, якая вішчыць' (КТС, І. Шамякін). Да *віск* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-уха* (<*-ux-a*).

**Віскуцень** 'пранізлівы вецер' (КТС, А. Кулакоўскі, М. Лобан), укр. *вискотня́* 'пранізлівы крык, віск', *ви́скоцень* 'лён, паспелыя галоўкі якога трэскаюцца, і насенне выпадае'; 'званочак'. Відавочна, паходзіць ад **віскот*<прасл. *viskotъ* (параўн. чэш., славац. *výskot*) і суф. *-ень*. Да *віск* (гл.).

**Вісла** (абразл. уст.) 'віславухі' (зэльв., Сцяц.). Утворана ад дзеепрыметніка *вісл-ы* (<*віслъ*) і суф. Nomen agentis *-a*. Да *вісе́ць* (гл.).

**Віславаты** 'абвіслы' (КТС) утворана ад дзеепрыметніка *віслы* і суф. *-ват-ы*. Да *вісець* (гл.).

**Віславухі** 'з абвіслымі вялікімі вушамі' (БРС, КТС, Мядзв., Нас., Касп., Сцяшк.). Укр. *вислоўхий* 'тс', рус. *вислоухий:* алан. 'глухі', перм., архангел., кастр., варон., паўдн.-сіб. 'вялы, павольны, някемлівы, нярупны, няўважлівы'. Усходнеславянскае. Да *віслы* (гл.) і *-ву́хі* (гл. *вушы*).

**Віслаголле** 'вісячыя галіны вярбы' (КТС). Да *віслы* (гл.) і *го́лле* (гл. *галіна*).

**Віслагу́бец** 'чалавек з тоўстымі абвіслымі губамі' (глус., Янк. Мат.). Да *віслы* (гл.) і *губы*+суф. *-ец* (<*-ьсь*). Сюды ж *віслагу́бы* і *віслагу́бый* (Янк. Мат.). Канчатак *-ый* — тыповы палескі пераход *ы→у*.

**Вісл́уха** 'гатунак ігрушы' (Бес.). Да *віслы* (гл.). Утворана пры дапамозе экспрэсіўнага суф. *-ух-а*. Параўн. серб.-харв. *вису́љак* 'гатунак ігрушы'.

**Віслы** 'абвіслы' (КТС) — дзеепрыметнік на *-lъ*. Да *вісе́ць* (гл.).

**Віслюга** 'вісус, залётнік' (Растарг.), рус. кур., арл. *вислюга* 'вісус, нясрытны, някемлівы', польск. *wisęga* 'вісус'. Слова пранікла з рус. моўнай тэрыторыі. Усх.-слав. утварэнне, відавочна, з суф. *-уга*(<*-uga*), які зліўся з суф. *-ǫga*.

**Віснуць** 'вісець, паволі спускаючыся ўніз; гарнуцца, хіліцца; аціраацца, быць неадступна' (БРС, Нас.). Укр. *виснути*,

рус. *виснуть* 'тс', польск. *wisnąć* 'звісаць'; 'павяваць, дзьмуць', каш. *v'isnǫc* 'абвісаць', чэш. *visnouti* 'тс', балг. *висна* 'вісець, навісаць; аціраццa'. Прасл. *visnǫti*. Інфінітыў, утвораны пры дапамозе суф. *-nǫ-ti*. Да *вісе́ць* (гл.).

**Вісо́зны** 'вельмі высокі' (Жд., 1). Утворана ад прыметніка *вісокі* (гл.) і суф. *-озн-ы*, які выражае адценне вельмі высокай ступені якасці.

**Вісо́к** 'скроня' (зэльв., Сцяц., Сняшк., Касп., Бяльк., паўсюдна КЭС, КТС), укр. *висок*, рус. *висок*. Усх.-слав. *високъ*<*visъ*. Да *віс*$_3$ (гл.). Гл. таксама *віскі*.

**Вісо́ка** 'высока' (Шат., Касп., Нас.) — прыслоўе да *вісокі*.

**Вісокасць** 'вышыня, узвышэнне' (Нас.). Укр. *високість* 'тс', рус. уст. *высокость* 'вышэйшае становішча'; 'вышыня', ст.-рус. *високость* 'дадатковы дзень высакоснага года, высакосны год' (з XII ст.), польск. *wysokość* 'вышыня' і г. д. Да *вісокі* (гл.). Магчыма, суф. *-асць* у *вісокасць* (пры наяўнасці агульнабеларускай лексемы *вышыня*) з'яўляецца ўплывам польск. мовы.

**Вісокі** 'высокі' (Шат., Касп., Бяльк., Нас.; пухав., З нар. сл.), рус. паўдн. *високий* 'тс'. Да *высокі* (гл.). Змена галоснага *-ы-* ў *-і-* абумоўлена не рэфлексацыяй прасл. *-у-*<**ū* (як у паўночнаўкраінскіх гаворках (Дзендзялеўскі, Конспект, 32)), а ўплывам лексемы *віс* (*вісець* і да т. п.).

**Вісмут** 'назва хімічнага элемента'. Запазычана з рус. мовы, куды (пач. XVIII ст.) трапіла з нямецкай. Там першапачаткова (с.-н.-ням. *Wesemot*) абазначала 'кобальтавыя руды, якія здабываліся ў Саксоніі ў XVI ст.'<*Wiesen* 'назва мясцовасці'+*muten* 'вырабляць (руду)', пасля — *Wismut* 'метал, здабыты ў Візэне' (Клюге, 866; Шанскі, 1, В, 106).

**Віспа** 'нізкі пакаты пясчаны бераг' (стол., Яшк.). Укр. *виспа* 'востраў', польск. *wyspa*. Бел. лексема запазычана з польск. мовы (з пераносам значэння 'востраў'→'нізкі бераг'). Польск. *wyspa* Брукнер (639) суадносіць з дзеясловам *suć, spę* 'насыпаць' (параўн. яшчэ рус. *сопка*, бел. *сопка*). Гл. *высып*.

**Віст** 'карцёжная гульня' (БРС, КТС), укр. *віст*, руск. *вист*, польск. *wist* і г. д. Запазычана праз рускую ці польскую мову з англ. *whist* 'карцёжная гульня'<*whist* 'тсс!..'— гукапераймальны выклічнік, які ўжывалі ў час гульні для падтрымання цішыні (Шанскі, 1, В, 107).

**Вісцёбка** 'стопка, камора, варыўня' (Тарн., ДАБМ), як і *вусцёпка, вістэ́пка* і інш., з'яўляецца фанетычным варыянтам



да *стопка* (гл.), *істобка* (гл.), *ізба́*<*jьstъba* (Мартынаў, Лекс. взаим., 120—126; Лекс. Палесся, 160).

**Вістэ́рко** 'люстэрка' (Жд., 1) пашкоджанае (народнае). Ад *люстэ́рка* (гл.)<польск. *lusterko*<іт. *lustro*. Пачатковае *в*-прыстаўное: *л'* магло адпадаць; параўн. драг. *ю́стро* 'люстэрка', тады на месцы зіяння ўзнікала *в-*.

**Вісу́чы** 'вісячы' (Касп.), рус. паўн., смал. *висучий* 'тс'. Да *вісець* (гл.).

**Ві́сус** 'свавольнік, гарэза, жэўжык, распуснік' (БРС, КТС, міёр., З нар. сл.); 'жорсткі, бязлітасны чалавек' (Жд., 2); 'вісельнік' (Нас.), зах.-укр. *висус* 'гультай, вісус, гарэза'. Запазычана з польск. *wisus* 'тс'<*wisuć* (Брукнер, 618).

**Вісюлька** 'лядзяш'; 'упрыгожанне ў выглядзе невялікіх падвесак' (КТС), рус. *висулька, висюлька* 'тс', паўн. 'шкляная вісячая завушніца'. Утворана ад *вісець* (гл.) і суф. *-'уль-к-а*.

**Вісю́чы** 'вісячы' (Нас.) — дзеепрыметнік той жа, што і *вісучы*, аднак пад уплывам *вісячы -с-* набыло мяккасць.

**Вітадо́л** 'балотная птушка-перавозчык (якая крычыць «вітадол»)' (Бяльк.). Гукапераймальнае ўтварэнне.

**Вітамі́н** (БРС). Запазычанне з польск. *witamin* праз рус. (Шанскі, 1, В, 108; Крукоўскі, Уплыў, 88).

**Вітаўё** 'жыллё, месцазнаходжанне' (Грыг.). Ад *віта́ць* з суф. *-аўё*, які ў бел. мове зрэдку ўжываецца пры ўтварэнні дэрыватаў з абазначэннем месца. Параўн. таксама рус. паўг. *вита́льня* 'багадзельня, прытулак для ўбогіх, падарожнікаў', укр. (стар.) *вітальня* 'гасцініца' і ст.-бел. *вітальніца* 'пакой, святліца, у якой прымаюць гасцей' (Крывіч, 12, 1926, 108 і наст.).

**Віта́ць**, *віта́ю* (БРС, Нас., Бяльк., Шат., Грыг., Гарэц., Мядзв.). Рус. *вита́ть* 'віншаваць; лунаць', укр. *віта́ти* 'віншаваць; прымаць гасцей; заходзіць', ст.-слав. **витати** 'жыць, знаходзіцца', польск. *witać*, чэш. *vítati*, славац. *s(vítat')*, в.-луж. *witać*, н.-луж. *witaś* 'віншаваць'. Сюды ж польск. *zawitać* і чэш. *zavítati* 'зайсці', якое Махэк$_2$ (692) беспадстаўна аддзяляе ад *vítati* 'віншаваць'. Да гэтага ж дзеяслова рус. *обита́ть*, ст.-слав. **обитати** (<**обвитати*, Фасмер, 3, 101). Слова роднаснае літ. *vietà* 'месца', лат. *vìeta* 'тс', *paviẽtât* 'мець жыллё' (Праабражэнскі, 1, 85; Брукнер, 625; Фасмер, 1, 321). Першапачатковае значэнне 'жыць, знаходзіцца', пазней на яго аснове развілося значэнне 'гасціць, знаходзіць прытулак' і потым 'гасцінна сустракаць, віншаваць', магчыма, пад уплывам він-

шавальнай формы *vitajь 'будзь з намі, застанься ў нас' (Рудніцкі, 1, 400; Шанскі, 1, В, 109). Літ. vitóti 'віншаваць, прымаць гасцей' з польск. (Скарджус, Slav, 239).

**Ві́тка** 'скрутак, прывязь з дубцоў' (БРС, Бяльк., Янк. І, 3 нар. сл.); 'межавы знак, галіна з заламаным верхам або шосцік з пучком сена на самым версе; дарожны і водны арыенцір' (Нас., Бяльк., Янк. Мат., Сцяшк., Бір. Дзярж., Яшк.); 'мяжа на лузе, пасеве' (Яшк.); 'луг, дзе нельга пасвіць жывёлу, пакуль не будзе скошаны травастой' (Яшк.); 'сцябло гарбуза' (Сцяшк.); 'кольца, якім замацоўваецца кола на касільне' (ДАБМ, 832). Польск. дыял. *witka* 'скрутак саломы для абазначэння заказанага месца ў полі', чэш. мар. *vitka* 'тс', серб.-харв. *вȕтка* 'прут для пляцення кошыкаў', балг. *ви́тка* 'кудзер, локан'. Да *віць, віты* (Махэк$_2$, 692; БЕР, 154; Скок, 3, 600). Параўн. ст.-бел. *вить, виць* 'лаза, скрутак шнуроў; урадавая папера' (<польск. *wić* 'тс', Булыка, Запазыч., 65).

**Віто́к** 'адзін абарот вінтападобнай лініі; нарэзкі і да т. п.' (БРС); 'рой' (Мат. Гом.). Рус. *вито́к*, укр. *вито́к* 'тс'. Да *віць, віты*.

**Вітра́ж** (БРС, КТС). Запазычанне з франц. *vitrage* 'сукупнасць акон якога-небудзь будынка, шкляныя дзверы, перагародка' (Шанскі, 1, В, 110) праз рус. (Крукоўскі, Уплыў, 75, 84).

**Ві́траныкі** 'дошкі, якія абараняюць саломенную страху з боку шчытоў' (Тарнацкі, Studia, Клім.). Гл. *ветранікі$_2$*.

**Вітры́на** (БРС, КТС). Запазычанне з рус. *витри́на* або польск. *witryna*. Апошнія ў сваю чаргу з франц. *vitrine* 'вітрына' (Шанскі, 1, В, 110).

**Віту́ха** 'матавіла' (Шат.; КЭС, лаг.; Інстр. II); 'дошчачка для снавання красён' (Шатал.); 'пустазелле, бярозка, Convolvulus' (3 нар. сл.); 'фасоля, якая ўецца' (Мат. Гом.). Рус. *обвива́льница*, польск. *powój* 'бярозка, Convolvulus'. Да *віць, віты*.

**Віту́шка** 'матавіла' (БРС, Сцяшк.); 'вялікае верацяно, на якое звіваюць пражу з 2—3 верацён для прасушкі' (Бір. Дзярж., Сцяшк. МГ); 'вясельны пірог' (КТС); 'фасоля, якая ўецца' (Мат. Гом., Інстр. II). Рус. *виту́шка* 'матавіла; калач, крэндзель'. Да *віць, віты* (гл.).

**Віту́шкі** 'аборы' (Анім., 131; Шатал.). Рус. *виту́шки* 'тс'. Да *віць, віты* (гл.).



**Віту́шнік** 'чалавек, які ходзіць у лапцях з «вітушкамі»' (Шат.). Да *вітушкі* 'аборы' (гл.).

**Ві́ты** (БРС). Рус. *вито́й, ви́тый*, ст.-слав. **(по)витъ**, серб.-харв. *вȕт*, чэш. *vitý*, польск. *wity*. Да *віць*. Роднасн. літ. *výtas*, лат. *vîts*, ст.-інд. *vītáḥ* 'заблытаны, віты' (Уленбек, 290; Траўтман, 346; Фасмер, 1, 322).

**Ві́хар** (БРС, Маш., Сцяшк., Бес., КТС) 'вір' (БРС, КТС), *віхры́* 'нячыстыя духі ў выглядзе віхру' (Нас.). Рус. *ви́хорь, вихрь*, укр. *вихо́р*, ст.-рус. *вихърь*, польск. *wicher*, н.-луж., в.-луж. *wichor*, чэш. *vichr*, славац. *víchor*, серб.-харв. *вȕхāр*, *вȕхор*, славен. *vihár*, балг. *вихър*. Ад асновы *vix-* (параўн. *віхаць, віхляць*) пры дапамозе суф. *-r-, -ъr-* (Скок, 3, 588; Шанскі, 1, В, 112), далей узыходзіць да *віць* (Праабражэнскі, 1, 87; Фасмер, 1, 324). Роднасныя ўсх.-літ. *víesulas* 'віхар', лат. *veîsuôls* 'тс' (Траўтман, 345; Петарсан, IF, 5, 70; Ільінскі, ИОРЯС, 20, 3, 77).

**Віха́ць** 'віхляць' (Нас.), *віха́цца* 'віхляцца' (БРС, Касп., Бяльк.), *віханьне* (Бяльк.). Рус. *вихать* 'вагаць, хістаць' таксама ў складаннях з прыстаўкамі (*вы́вихнуць* і г. д.), укр. *виха́ти* 'махаць', славен. *víhati* 'вывіхаць, махаць'. Паводле Праабражэнскага, 1, 86 і наст. і Гараева, 50, вытворнае з экспрэсіўным суфіксам *-x-* да *віць* (гл.). Існаванне прамежкавай ступені (назоўніка **vixъ*, які ад *віць* пры дапамозе суфікса *-x-*, як *смех, успех* і г. д.) (Шанскі, 1, В, 112), відавочна, не абавязковае. Буга (РФВ, 75, 153) параўноўвае з літ. *viskù, viskė́ti* 'вагацца, знаходзіцца ў руху', прычым мяркуемае літ. **viškù* пераўтворана ў *viskù* пад уплывам літ. *vizgù, vizgėti* 'варушыцца, шавяліцца'. Фасмер (1, 324) лічыць гэта няпэўным. Ілііч-Світыч (ВЯ, 1961, 4, 98) услед за Мацэнауэрам ставіць пытанне аб адпаведнасці слав. *-x-* балт. *-zg-* у сярэдзіне слова і слав. **vixati* непасрэдна супастаўляе з літ. *vizgėti, vizgúoti* 'віхляцца', *vìzginti* 'вярцець хвастом'. Параўн. *віхляць* (гл.).

**Віхла́$_1$** 'аб чалавеку рухавым, энергічным, у якога хутка ідзе работа' (Бір. Дзярж., 3 нар. сл.). Да *віхаць* 'хістацца', віхляць', *завіхацца* 'спяшацца, намагацца рабіць што-небудзь'. Параўн. польск. *wichlacz* 'махляр, падманшчык'; 'рухавы чалавек'.

**Віхла́$_2$** 'лаза, вярба, Salix L.' карэліц., свісл. (Весці АН БССР, 1969, 4, 124). Ад *віхаць, віхацца* 'качацца, хістацца, як, напрыклад, польск. *wikło, wikła* ад *wikłać* 'віхаць'. Далей яно звязана з *віць* (Бругнер, 613). Націск на канчатку ў назвах

дрэў (*асіна́, альшына́*) характэрны для гэтых гаворак (Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1969, 4, 124).

**Віхля́й** 'нядбайны чалавек', *віхля́йства* 'нядбайнасць' (Нас., Яруш.). Рус. *віхляй* 'тс'. Да *віхляць* (гл.) з суф. Nomina agentis *-ajь* (SP, 1, 88).

**Віхля́ць** (БРС, Нас., Бяльк., Гарэц., КТС), *віхлі́ць* 'віляць хвастом'; 'хітрыць' (КЭС, лаг.), *віхле́ць* 'прагнуць' (Юрч.); 'хітрыць' (КТС). Рус. *вихля́ть*, укр. *вихля́ти*, польск. *wichlać* і *wichlić*, з XVII ст. *wikłać* (Брукнер, 612), чэш. *vichlat'* 'інтрыгаваць', *viklati* 'вагацца', славен. *vihljáti* 'веяць, варушыць'. Відавочна, вытворнае ад *віхаць* (Фасмер, 1, 324). Махэк$_2$ (689) выводзіць непасрэдна ад *віць* пры дапамозе фарманта *-chlati*.

**Віхор** (БРС, Шат., Касп., Мядзв., Гарэц., КЭС, КТС) 'шчацінне на хрыбце ў свінні' (Бяльк., Шатал.); 'дух-гаспадар ветру' (Інстр. II); 'від танца' (Інстр. IV), *віхры́* 'пясчаныя ўзгоркі, нанесеныя ветрам'; 'кучаравыя валасы' (Сцяшк. МГ). Рус. *вихо́р*, укр. *вихор*, польск. *wicher*, чэш. *vicher* 'капуста, якая не завілася ў качан', славен. *vicher* 'завіток валасоў'. Да *віць* (Фасмер, 1, 324). Перанос націску адбыўся ў выніку ўздзеяння дэрыватаў тыпу *бугор, тапор* і г. д. (Шанскі, 1, В, 112). Міклашыч (388), Персан (322) параўноўваюць з *вяха́, вехаць* як ступені чаргавання. Гл. таксама *віхар*.

**Ві́храва** *трава* 'расліна астрагал, Astragalus glycyphyllus' (Кіс.). Рус. смал. *вихрева трава* 'тс'. Відавочна, да *віхар, віхр*, але канкрэтныя матывы намінацыі няясныя, магчыма, таму, што гэтыя расліны з тонкім сцяблом і складаным лісцем часта пераблытваюцца; параўн. рус. *вихорево гнездо* 'сплеценыя віхрам у клубок галінкі бярозы'.

**Віхру́н** 'рыжаваты голуб з каўняром з пер'я з абодвух бакоў шыі' (БРС). Рус. *вихру́н* 'тс'. Да *віхор*. Гл. Фасмер, 1, 324.

**Віхры́ць** 'кружыць віхрам (аб пыле, снезе)' (БРС, Нас., КТС). Рус. *вихри́ть*, укр. *вихри́ти*, польск. *wichrzyć*, чэш. дыял. *vichrit'* 'тс'. Да *віхар* (гл.).

**Віхта́** 'вага ў студні з жураўлём' (ДАБМ, 270). Няясна. Верагодна, аддзеяслоўнае ўтварэнне ад **віхтаць* 'хістацца, качацца', якое да *віхаць* з *т* устаўным у выніку экспрэсіўнага характару слова. Параўн. маг. *віхто́вы* 'скоры, рашучы, актыўны, энергічны'.

**Віхтава́ць** 'жывіць, карміць, даглядаць' (астрав., маст., Весці АН БССР, 1969, № 4, 132). З польскага *wikt*, дыял. *wicht* 'сталаванне, штодзённая страва', *wiktować* 'сталаваць, карміць, утрымліваць на сваіх харчах' (Арашонкава і інш., Весці АН БССР, 1969, № 4, 132). Параўн. таксама ст.-бел. *виктъ* 'харчы'<польск. *wikt*<лац. *victus* (Булыка, Запазыч., 63).



**Віху́ра** (паэт.) 'віхар, завея, буран' (БРС, Яруш., КТС). Польск. *wichura* 'тс'. Гл. *віхар*. У бел., калі меркаваць па месцы націску і па кніжным характары слова, відаць, запазычанне з польск.

**Ві́ца** 'прывязь з дубцоў, пры дапамозе якой звязваецца бярвенне з пакладзенымі на іх жэрдкамі' (З нар. сл.). Рус. *ви́ца* 'дубец, галузка; скрутак дубцоў для звязвання чаго-небудзь', польск. *wić* 'дубец, галузка', серб.-харв. *ви̏цкаст* 'стройны, гібкі', славен. *vȋă* 'дубцы івы, якімі ўмацоўваецца саламяная страха', балг. *ви́ца* 'гнуткі дубец', макед. *вица* 'тс'. Да *віць* (Міклашыч, 390; Праабражэнскі, 1, 86; Фасмер, 1, 324; БЕР, 156). Літ. *vycas*, лат. *vica* 'івавая галузка', эст. *vits* 'дубец' запазычаны з слав. (Фрэнкель, 1237).

**Віці́на**$_1$ 'дубец, галінка' (БРС, Др.-Падб.); 'кій, плыт' (Гарэц.); 'прывязь з дубцоў, пры дапамозе якой звязваецца бярвенне з пакладзенымі на іх жэрдкамі' (З нар. сл.), *віці́ны* 'перапляценне, на якое кладуць жэрдкі ў плоце' (Шатал.). Рус. *ви́тина* 'дубец; кошык, пляцёнка', серб.-харв. *ви̏тина* 'дубец, звычайна лазовы, для звязвання снапоў або перавязь з дубцоў'. Да *віць* (Праабражэнскі, 1, 86); (параўн. таксама ў словаўтваральных адносінах літ. *vỹtinė* 'дубец, галінка' ад *vỹtis* 'тс'). Гл. *віца*.

**Віці́на**$_2$ 'вялікая барка або лодка, асабліва від барак' (Федар., 6, 106, 7, 254; Шн., 1; Дзмітр., Гарэц., Др.-Падб.). Рус. *витйна, витйн, витйма* 'хадавое пласкадоннае судна толькі на Нёмане і яго прытоках і на Прыпяці', польск. *wicina* 'тс'. Этымалогія застаецца няяснай. Брукнер (613) лічыць слова літоўска-беларускім. Скарджус (ZfslPh, 26, 1957, 150 і наст.) адносіць яго да запазычанняў з літ. (слав. *витина, віціна*<літ. *vytìne* 'пласкадоннае судна, барка', якое з *vytis* або *vỹtas* 'плецены') і ў якасці аргумента на карысць запазычання ўказвае на геаграфію і ізаляванасць слова ў славянскіх мовах. Але з семантычнага і словаўтваральнага пунктаў погляду як літоўскае, так і славянскае паходжанне (ад *віць, віты*) роўнаверагодныя; параўн. польск. *okręt* 'карабель' з **obkrǫtъ* 'пляцёнка' (Трубачоў, Ремесл. терм., 230 і наст.). Фасмер (1, 321) дапускае славянскае паходжанне і роднаснасць з *ветвь, вйтвина*.

**Віццё** 'прывязь з дубцоў, пры дапамозе якой звязваюцца скручаныя (звітыя) бярозавыя (дубовыя, лазовыя) дубцы, што ўжываюцца пры звязванні чаго-небудзь' (Янк. II, З нар. сл., Шатал.). Першапачатковая зборны назоўнік ад **віць;* параўн. ст.-бел. *вить, виць* 'лаза, скрутак шнуроў' (<польск. *wić* 'тс', Булыка, Запазыч., 65).

**Віць**$_1$ 'балота з вокнамі' (Жучк., 14). Няясна. Магчыма, славянскага паходжання, ад *віць*$_2$ з наступным мяркуемым развіццём значэння: **віць* 'што-небудзь плеценае' (параўн. рус. *вить* 'тс')→'праход з плятня праз балота→балота'. У семантычных адносінах параўн. *гаць* 'праход праз топкае месца, дарога праз гаць' і *гаць* 'багна'. Не выключана балтыйскае паходжанне. Тапароў і Трубачоў (Лінгв. аналіз, 180) параўноўваюць таксама гідронімы *Вить, Веть* і інш. гэтага ж кораня з жэмайц. *Витути, Витагола.*

**Віць**$_2$ (БРС, Нас., Бяльк., Шат., Гар.). Рус. *вить,* укр. *вúти,* польск. *wić,* в.-луж. *wić,* н.-луж. *wiś,* чэш. *víti, viji,* славац. *vit',* серб.-харв. *вùти, вùјем,* славен. *víti,* балг. *вúя.* Роднасныя літ. *výti* 'віць', лат. *vît,* ст.-інд. *váyati* 'пляце, тчэ', лац. *vieo, viēre* 'плясці', гоц. *waddjus* 'вал' (Траўтман, 346; Вальдэ—Гофман, 2, 786 і наст.; Фасмер, 1, 322).

**Віцязь** (БРС). Рус *вúтязь,* укр. *вúтязь,* ст.-рус. *витязь,* в.-луж. *wićaz* 'герой; селянін, арандатар', чэш. *vítěz,* славац. *víťaz,* славен. *vitez,* серб.-ц.-слав. *витѧзь,* серб.-харв. *вùтêз,* балг. *вúтез,* макед. *витез.* Ст.-прус. *witing* (з 1299 г.) 'служылае дваранства' запазычана з польск. (Брукнер, AfslPh, 20, 485; ZfslPh, 2, 296). Большасць даследчыкаў лічаць славянскае слова запазычаным з герм., але канкрэтны шлях запазычання няясны. Фасмер (1, 322 і наст.) і інш. (Уленбек, AfslPh, 15, 492; Стэндэр-Петарсан, ZfslPh, 4, 44 і наст.; Шварц, ZfslPh, 2, 105; Янка, WuS, 1, 108 і наст.) узводзяць *vitędzь* да герм. **viking-,* ст.-ісл. *víkingr,* якія звязаны са ст.-саксон. *wîk* 'жыллё', ст.-в.-ням. *wîch* 'тс'; славянская форма ўзнікла ў выніку другой палаталізацыі і дысіміляцыі. Тлумачэнне слова як запазычання са ст.-ісл. *hvítingr* 'светлавалосы, знатны' (Янка, там жа; Экблом, ZfslPh, 16, 272 і наст.) не пераконвае, таму што яно не ўлічвае распаўсюджання слова ў в.-луж. і серб.-харв. мовах. Маркварт (Festschrift. V. Thomsen, 104) атаясамлівае англа-сакс. *Wicingas* з эруламі, якія рабілі набегі з III ст. н. э. і былі адціснуты датчанамі толькі ў VI ст., і тым самым тлумачыць наяўнасць слова ў серб.-харв. Шварц (там жа) указвае на магчымасць распаўсюджання слова лангабардамі або варнамі. Мартынаў (Лекс. взаим., 105) выводзіць слав. *vitędzь* з прагерм. *wīkinga* (з **wīginga),* якое ў сваю чаргу было ўтворана ад *wīgan* 'змагацца, забіваць' пры дапамозе суф. Nomina agentis *-inga,* г. зн. *wīginga* 'пабеданосны воін'. Версіі славянскага паходжання ад **vit* 'дабыча, трафеі' з суф. *ędzь* (Брукнер, 658; AfslPh, 42, 139 і ZfslPh, 6, 64) і ад *вітаць* 'абітаць' (Янка, Slavia, 9, 343; Младэнаў, 68) малаверагодныя. Падрабязна літаратуру гл. Фасмер, 1, 322 і наст. і Шанскі, 1, В, 111.



**Вíчанка** 'вікавая салома' (Мат. Гом.). Ад *вічаны (вік+ +ян)* пры дапамозе суф. *-ка.* Гл. *віка.*

**Вíчка** 'мышыны гарох' (Шатал.). Памяншальнае да *віка,* паколькі расліна гэта нагадвае віку.

**Віччынá** 'вяндліна' (Бяльк.), *вітчынá, вычынá* 'тс' (Вешт., дыс., палес.). Запазычанне з рус. *ветчинá* 'тс' (Гл. Вештарт, Бел.-рус. ізал., 18).

**Віш**$_1$ 'зазімаваўшая (няскошаная) трава' (Маш., Янк. I, З нар. сл., Мат. Гом., Шатал.), *віша* 'тс' (Некр., Янк. I, Бір. Дзярж., З нар. сл.). Рус. дыял. кур. *виш* 'зараснікі кустоў, вялікая колькасць купін, леташняй травы ў паплавах', ст.-рус. *вишь* 'зялёныя галінкі, хворацт', польск. *wisz* 'тс', н.-луж. *wiš* 'чарот, трава, якая расце на балоце', чэш. *viš, víš* 'назва пэўнай расліны або парасткаў', чэш. дыял. 'высокая лясная трава, якая расце на вільготных і балоцістых месцах', серб.-харв. *виш* 'від балотнай травы', славен. *vȋš* м. р., *vȋš* ж. р. 'асака, чарот'. Прасл. *višь.* Роднаснымі з'яўляюцца ст.-прус. *wissene* 'багун, Ledum palustre', літ. *viksvà* 'асака', *vikšvà, vìkšris* 'чарот, асака', *vìzgà* 'трава' (Траўтман, 363; Брукнер, KZ, 44, 334; Фасмер, 1, 325; Махэк$_2$, 691). У якасці роднасных прыводзяцца таксама нарв. *vîse* 'мяцёлка, верхавіна расліны, сцябло', *vîs* м. р. 'мяцёлка', *veis* 'сакавітае сцябло', *veisa* 'ціна', ст.-в.-ням. *wisa* 'луг' (Петэрсан, AfslPh, 36, 151; Хольтхаузен, IF, 32, 337). Магчыма, сюды ж рус. *виша, вишь* 'водная губка, Spongia fluviatilis'; параўн. нарв. *veise* 'ціна'. Гл. *віс.*

**Віш**$_2$ м. р. 'іней' (Мат. Гом.). Рус. арл., кур. *вишь,* ж. р., *вúшей, вúшай, вúшар* 'тс'. Магчыма, да *віш*$_1$, *вішар* (гл.) праз прамежкавую семантычную ступень 'вадзяная губка, Spongia fluviatilis, наплыў, рачная зеляніна', якая ўтрымліваецца ў рус. *вишь, виша*; апошнія лексемы Махэк$_2$ (691) аб'ядноўвае з *віш*$_1$. Фасмер (1, 326) пытанне аб сувязі рус. *виша* 'вадзяная губка' з *виш*$_1$ пакідае нявырашаным.

**Вішавáць** 'заставацца няскошанай (аб сенажаці, канюшыне)' (Янк. I). Палес. *вишоват* 'перастойвацца, перарастаць (аб

траве)' (Лысенко СПГ), польск. *wiszowaty* 'грубы, буйны (аб сене)'. Да *віш* (гл.).

**Вішанка** 'матрац' (Мат. Гом.). Ад **вішаны* пры дапамозе суф. *-ка*. **Вішаны* ў сваю чаргу ўзыходзіць да *віш*$_1$ (гл.). Параўн. заўвагу Махэка$_2$ (691), што ў Ходскай вобласці *vyšovku* (дэрыват ад **višь*) ужываюць пасля сушкі для вырабу матрацаў і сеннікоў.

**Вішар** 'няскошаная трава, якая засталася зімаваць' (Шат., Бес., Янк. I, Шатал.); 'топкае балота, дзе траву косяць толькі па лёдзе або яна там зазімоўвае'; 'трава ў выглядзе мурагу, якая не трэцца', 'благое балотнае сена' (Яшк.); 'гнілое сена' (Шатал.); 'расліна пажарніца' (Мат. Гом.). Укр. *вúшар* 'леташняя трава', польск. *wiszar* 'балотная трава, гушчар, мокры, зарослы травой луг'. Да *віш*$_1$ (Махэк$_2$, 691). Непрымальная думка Рудніцкага (1, 404) ад *шар* з прэфіксам *ви-*.

**Вішка** 'вяха для ўказання граніцы чаго-небудзь (поля, пашы, дарогі і г. д.)' (Касп., Яшк., Сцяшк. МГ); 'мяжа на лузе, на пасеве з уторкнутымі жэрдкамі' (Яшк.). Памяншальнае да *вяхá* (гл.).

**Вішнёўка** 'івалга' (Інстр. II). Да *вішня*, таму што івалга часта шкодзіць вішнёвым садам. Параўн. укр. назвы івалгі *черешоїд, черешенник* (Ніканчук, БЛ, 5, 67).

**Вішніна** 'вішнёвае дрэва' (Касп.). Рус. пск. *вúшина, вишенинá*, укр. *вишнúна* 'тс'. Ад *вішня* пры дапамозе суф. адзінкавасці *-іна*, па ўжыванню якога ў гэтай словаўтваральнай мадэлі бел. цесна звязана з заходнеславянскімі мовамі (параўн. Талстой, ВЯ, 1966, 5, 16 і наст.).

**Вішніўка**, *вышнівка* 'птушка дубанос, Coccothraustes coccothraustes L.' (Нікан.). Гл. *вішняк*.

**Вішня** (БРС, Касп., Бяльк., Кіс., Бес., КТС). Рус. *вúшня*, укр. *вúшня*, балг. *вишня*, серб.-харв. *вӣшња*, славен. *vîšnja*, чэш. *višně*, славац. *višňa*, польск. *wiśnia*, в.-луж. *wišeń*, н.-луж. *wišńa*. Прасл. **višьn'a* 'вішня'. Слова няяснага паходжання. Параўноўваецца са ст.-в.-ням. *wîhsila*, с.-в.-ням. *wîhsel* 'чарэшня' і далей з лац. *viscum*, грэч. ἰξός (<**uiks*) 'птушыны клей' (таму што клей з вішні ўжываўся як птушыны клей) (Літаратуру гл. Фасмер, 1, 325). Іншыя даследчыкі (Г. Майер, Alb. Wb., 473 і наст.; Фасмер, ИОРЯС, 12, 2, 225; Гр.-сл. эт., 44; Шрадер, 17, 30) лічаць гэта слова запазычаннем з грэч. βύσσινος 'пурпурова-чырвоны'. Параўн., напрыклад, назву фарбы ў ст.-рус. *вишъневый, вишьнявый (вишньневъ бархатъ)*.



Махэк$_2$ (692) лічыць гэта слова праеўрапейскім. Балтыйскія адпаведнікі запазычаны са славянскіх моў.

**Вішня́к** 'птушка дубанос, Coccothraustes coccothraustes L.' (Ніканчук). Ад *вішня*. Назва ўзнікла таму, што дубаносы часта шкодзяць садам, асабліва вішнёвым. Параўн. таксама *вішнёўка*.

**Вішча́ць** (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Бес., Бір. Дзярж., Сцяшк. МГ), *вішчэ́ць* (Інстр. III, Гарэц.). Рус. *визг, визжáть*, укр. *визгáти, вискáти, вищáти*, ст.-рус. *вискати* 'ржаць', ц.-слав. *виштати, вискѫти* 'пішчаць, шаптаць', балг. *вижд́я* 'вішчу', серб.-харв. *вӣска* 'ржанне, крык', *вӣснути вӣснêм* 'крыкнуць', польск. *wiskać, wiszczeć*. Прасл. **visk-*, **vizg-* 'вішчаць, іржаць' гукапераймальнага паходжання (Фасмер, 1, 313; Скок, 3, 597). Праабражэнскі (1, 83) супастаўляе таксама з н.-в.-ням. *wichern* 'іржаць'. Гл. *віск*.

**Вішэ́ць** 'вянуць' (Мат. Гом.). Да *віш*$_1$ (гл.). Магчыма, сюды ж і *вішэ́ць* 'расці ў бульбянік, а не ў клубні' (Інстр. I), але апошняе не зусім ясна.

**Віюро́к** (Шатал.). Гл. *юрок*.

**Вію́шка** 'пража, звітая на вялікае верацяно для прасушкі' (Жд., 1). Рус. дыял. *вьюшка* 'маток нітак'. Да *віць* (гл.).

**Віяду́к** (БРС). Запазычанне з франц. *viaduc* праз рус. або польск. мову (Шанскі, 1, В, 91; Крукоўскі, Уплыў, 85; Курс суч., 167).

**Віяланчэ́ль** (БРС). Запазычанне з італ. *violoncello* праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 84; Курс суч., 170).

**Во** (выклічнік, указальная часціца) (БРС, Касп., Гарэц., Бяльк., Мядзв., Шпіл.; КЭС, лаг.). Рус. *о*, укр. *о*, ст.-рус. *о*, ст.-слав. **о**, польск. *о*, в.-луж., н.-луж. *о*, чэш. *о*, славен. *ō*, балг. *о* (Младэнаў, 362). Гістарычна гэта могуць быць незалежныя формы, асабліва калі прыняць пад увагу розніцу ў даўжыні (Фасмер, 3, 95; Махэк$_2$, 404). Аналагічнае паходжанне ў грэч. ὦ, ὢ (выраз здзіўлення), лац. *ō, ōh*, ст.-інд. *ā*, ст.-ірл. *ā, a*, гоц. *ō* 'во, тфу', ст.-в.-ням. *ō-wê*, с.-в.-ням. *ô*, н.-в.-ням. *oh* (Вальдэ — Гофман, 2, 192; Фасмер, 3, 95).

**Во́бад**, мн. л. *абады* (БРС, КТС, Яруш., Грыг., Бяльк.; КЭС, лаг.; Шат., Касп.). Рус. *óбод* 'вобад', *обóда* 'кругавы шырокі рэмень конскай шляі па баках каня', укр. *óбід* 'вобад', ст.-рус., ц.-слав. *ободъ*, серб.-харв. *ȍбо̑д* 'край', славен. *obȏd* 'вобад сіта', польск. *obód* 'вобад'. Прасл. **obvodъ*. З *об-* і *вяду* (Фасмер, 3, 104).

**Во́бак** 'побач; убаку' (Нас., Др.-Падб., Гарэц., КТС). Рус. *о́бок,* польск. *obok,* в.-луж. *wobok.* З *о-* і *бок* (гл.).

**Во́балака** 'воблака' (Федар., 3 нар. сл.), *вобалак* (Рам., 8, 368). Рус. *о́болоко,* укр. *о́болоки,* ст.-рус. *оболокъ,* ст.-слав. **облакъ** 'воблака', польск. *obłok,* н.-луж. *hobłoka* 'лёгкае воблака, воблакі', чэш., славац. *oblak,* серб.-харв. *о̀бла̂к,* славен. *oblâk,* балг., макед. *о́блак.* З **ob-volkъ* ад *валаку, валачы* (гл.) (Фасмер, 3, 105).

**Во́барацень** 'расліна драсён змяіны, Polygonum Bistorta' (Кіс., Крывіч, 4). Няясна. Магчыма, ад *абарот, абарачваць,* таму што гэта расліна мае двойчы выгнутае карэнішча.

**Во́бач** 'убаку; побач' (Нас., Касп., КЭС, КТС). Рус. *о́бочь,* укр. *о́біч* 'тс'. Ад *вобак* пры дапамозе суф *-ь.*

**Во́бгінка** 'ручка касы' (ДАБМ, 818, мін.). Ад *абгінаны* (залежны дзеепрыметнік ад дзеяслова *абгінаць*) і суф. *-ка.*

**Во́б'едзі** 'аб'едкі сена' (Янк. I, 3 нар. сл., Мат. Гом.), *вобядзі* 'нявымалачаныя каласы, якія аддзяляюцца пры веянні збожжа' (3 нар. сл.), *воб'еддзе* 'аб'едкі сена' (Юрч.). Гл. *аб'еддзе.*

**Во́бжы** 'аглоблі ў сасе' (Мядзв., Бяльк., Касп.), *вобжъ* 'вочап у студні з жураўлём' (ДАБМ, 810, віц.). Гл. *абжа.*

**Во́бла** 'рыба, Leuciscum rutilus' (БРС, КТС). Рус. *вобла* 'тс'. Супастаўляецца з рус. *во́блый* 'круглы', серб.-харв. *о̏бао,* славен. *óbəl,* балг. *о́бъл,* чэш. *oblý,* польск. *obły,* в.-луж. *wobłi,* н.-луж. *hoblina,* прасл. **obьlъ* (Фасмер, 1, 330).

**Во́блака** (БРС, КТС, Гарэц., Мядзв.), *воблак, воблык* (Касп., Яруш., Бяльк., 3 нар. сл.). Рус. *о́блако.* Запазычанне з ц.-слав. *облакъ* (Праабражэнскі, 1, 628; Фасмер, 3, 102). Параўн. *вобалака.*

**Во́бласць** (БРС, Яруш., КТС). Рус. *о́бласть,* ст.-слав. **область,** чэш. *oblast,* славац. *oblasť.* Запазычанне з ц.-слав. (Крукоўскі, Уплыў, 48; Курс суч., 149). Новае значэнне 'буйная адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка' з'яўляецца семантычнай калькай з рус. (Крукоўскі, Уплыў, 144).

**Во́блівак** 'яйцо з тонкай шкарлупінай' (Шат., Мат. Гом., Інстр. I). Рус. *о́бливок* 'непалітая градка або яе частка; поле, якое абмінае дождж'. Да *абліць.* Гл. *вылівак.*

**Во́бліɣам** у выразе: «вобліɣам гэта табе выйдзе» (Бір. Дзярж.). Гл. *вобмег, вомег.*



**Во́блік** 'выгляд, аблічча' (Яруш., КТС). Запазычанне з рус. *о́блик,* якое з *об-* і *лик* 'твар' (Фасмер, 3, 103).

**Во́бліў** 'галалёдзіца' (Бяльк., Гарэц., Др.-Падб., Юрч., КТС), *вобліва* 'тс' (Яшк.), *воблевень* 'тс' (Мат. Гом), *вобліў, вобліўкі, вобліўя* 'лёд, якім пры галалёдзіцы пакрываюцца дрэвы; галалёдзіца' (Юрч.), *вобліўца* 'ападкі ў выглядзе кавалачкаў лёду' (Мат. АС, бых.). Рус. дыял. *о́блив* 'іней на дрэвах'. Да *абліць* (гл.). Параўн. *аблівака.*

**Во́бліца**$_1$ 'плотка' (3 нар. сл.). Памяншальнае ад *вобла* (гл.) або ўтварэнне ад **obьl-* пры дапамозе суфікса *-іца.*

**Во́бліца**$_2$ 'частка рукі ад далоні да локця' (Шатал.). Відавочна, вытворнае ад **обьлъ* 'круглы', г. зн. знешняя круглявая частка рукі ад далоні да локця. Параўн. славен. *oblica* 'знешні круглы бок аполка', серб.-харв. *о̀blica* 'нешта акругленае', польск. *oblica* 'папярочная дошка ў плоце, да якой прыбіваюць жэрдкі', рус. *о́бливина* 'круглы бок апошняй у бервяне дошкі, аполка; сам аполак'.

**Во́бмаль** 'малавата' (БРС, Янк. I, Бір. Дзярж., КТС, КЭС). Укр. *во́бмаль* 'тс'. Прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне ад *малы* з дапамогай прыстаўкі *(в)об-* і суф. *-jь* або ўтварэнне ад прыметніка *вомалы* з гэтым жа суф. Магчыма, узыходзіць да старажытнай мадэлі (параўн. серб.-харв. *о̏дуг,* чэш. *obdlouhý, obdloužný,* славац. *obdlžný,* н.-луж. *hobdłujki,* ст.-польск. *obdłużny* 'прадаўгаваты', в.-луж. *wobdłuz* прысл. 'прадаўгавата'), дзе прыстаўка **ob-* мае кольказнае значэнне (Трубачоў, Проспект, 66 і наст.). Філін (Зб. Аванесаву, 268 і наст.) адносіць сюды ж і рус. дыял. (паўн.-усх.) прыметнікі і прыслоўі з прыстаўкай *о-* ў тым жа самым значэнні (*вокрасный* 'чырванаваты', *восинь, восине* 'сінявата' і г. д.), што цалкам магчыма з прычыны частага чаргавання прыставак *о-(об-);* параўн. таксама бел. і укр. *вобмаль, вомаль* (гл.); усё гэта, відавочна, пацвярджае праславянскі характар гэтых утварэнняў.

**Во́бмарак** 'расліна букашнік, Jasione montana L' (Касп., Кіс., маг.). Укр. чарніг. *о́бморочник* (Аненкаў, 179). Ад дыял. *вобмарак* 'непрытомнасць', таму што адвар гэтай расліны ўжываецца ад галаўнога болю і пры непрытомнасці. У адносінах намінацыі параўн. такія назвы, як укр. *огник* 'расліна, Jurinea cyanoides', *подорва* 'дзікі (мышыны) гарошак', якія ўтвораны ад назваў хвароб, таму што ўжываюцца як лекі пры гэтых хваробах.

**Во́бмацкам** 'пры дапамозе дотыку' (БРС, Бяльк., КТС,

КЭС). Укр. *óбмацки* 'тс'. Да *абмацаць* (гл.). Першапачаткова тв. скл. назоўніка **вобмацак* (Шуба, Прыслоўе, 106); параўн., напрыклад, ***навобмацак.***

**Вóбмег** 'расліна, Conium maculatum', балігалоў плямісты'; 'блёкат' (БРС), *вобмегам (выйсці)* 'бокам' (Жд., 1). Рус. *óмег* 'то', *óмяк* 'цыкута', укр. *óмег,* ц.-слав. *омѣгъ* 'ядавітая расліна, Lupicida', польск. *omieg,* ст.-польск. *omięg, omiażdżyła się owca* 'аўца атруцілася цыкутай', чэш. *oměj, voměj, omih* 'Aconitum', славац. *omich, omega, omeda* 'тс', славен. *omej* 'тс'. Прасл. **oměgъ* звязана чаргаваннем з *мігаць* таму, што гэтыя (ядавітыя) расліны маюць адурманьваючае дзеянне (Мацэнаўэр, LF, 11, 352; Брукнер, 379). Назалізацыя ў польск. другаснага насуперак Міклашычу (221). Гіпотэза Мяркулавай (ЭИРЯ, 3, 18—19), якая звязвае слав. *oměgъ з* лац. *vomica* 'рвотны' і мяркуе, што гэта запазычанне з лац. *vomitus* 'рвота' бел. і польск. мовамі, малаверагодная з фанетычнага пункту погляду і ў адносінах канкрэтнай гісторыі запазычанага слова (напр., польск. *womitować, womitowy* і бел. *ваніты, воміт* 'рвота' не перацярпелі ніякіх змяненняў; *б* у бел. *слове* — вынік замены *о-* на *об-* пад уплывам народнай этымалогіі ў выніку ўспрымання *о-* як прыстаўкі. Параўн. *омег* і *амежнік.* Гл. таксама Фасмер, 3, 138; Махэк$_2$, 414.

**Вóбмельгам,** *вобмільгам* — прысл. 'хутка, у імгненне вока' (КТС). Да *мільгаць.* Першапачаткова тв. скл. назоўніка **вобмельг.*

**Вóбмешка** 'пасыпка, запраўка корму хатняй жывёле' (БРС); 'мука грубага памолу' (Жд., 1, Янк. II, Інстр. I, Мат. Гом.); 'дробная мякіна' (Шат.). Укр. *óбмішка* 'вотруб'е або мука, што падмешваюць у корм жывёле', польск. *obmieszka* 'тс'. Да *абмяшаць* з суф. *-ка.*

**Вóбраз** 'мастацкае адлюстраванне ідэй і пачуццяў у гуках, словах, фарбах і інш.'; 'створаны мастаком ці акцёрам характар, тып' (БРС, КТС) ; 'абраз' (БРС, КТС, Нас., Касп., Шат., Мал.). Гл. *абраз.* Першае і другое значэнні з'явіліся пад уплывам рускай мовы (Крукоўскі, Уплыў, 149). Дэрываты *вобразны* і *вобразнасць* — гэта калькі адпаведных рускіх слоў.

**Вóбрацень** 'памылка ў снаванні красён' (Бяльк.). Ад *абараціць* з суф. *-ень.* У семантычных адносінах параўн. *перамота* 'тс'.

**Вóбраць** 'аброць' (БРС, КТС, Бір. Дзярж.), *вобруць* (Шат., КТС, Сцяшк. МГ, З нар. сл.). Гл. *аброць.*



**Вóбруб** 'плошча зямлі ў адным кавалку' (КЭС). Рус. *óбруб* 'дзеянне па дзеяслову *абрубіць;* калодзежны зруб', укр. *обрýб* 'асобны кавалак зямлі, участак', польск. *obrąb, obręb* 'абмежаваная тэрыторыя, участак, граніца', в.-луж. *wobrub* 'край, абрубка адзежы', чэш. *obruba,* серб.-харв. *òbrub(a)* 'край адзежы, кашулі'; 'нізкая каменная агароджа калодзежа'. Да *абрубіць.* Параўн. *абрубак.*

**Вóбсыпка.** (Яруш.). Гл. *восыпка.*

**Вóбуй** 'абутак' (Бяльк., Гарэц., Сцяшк., З нар. сл., Мат. Гом.). Рус. вяц. *óбуй,* чэш. дыял. *vobuj* 'тс'. Да *абуць* (гл.) з суф. *-jь* (Вахрас, Наим. об., 132 і наст.). З гэтай суфіксацыяй, відавочна, даволі архаічнае ўтварэнне (Гл. SP, 1, 80 і наст.).

**Вóбуў,** *вобуўя* 'абутак' (Юрч.). Запазычанне з рус. *обувь,* якое да *абуць* (гл.). (Фасмер, 3, 109; Вахрас, Наим. об., 132 і наст.).

**Вóбцас** 'стрымгалоў, адразу, хутка' (БРС, КТС, Сцяшк. МГ), *вобсас* 'тс' (Бір. Дзярж.), *вобцусам* 'стрымгалоў, рашуча' (Жд., 1). Запазычанне з лац. *obcessus* 'шалёны, у якім сядзіць д'ябал' праз польск. *obces, obcesem* 'дзёрзка, нахабна, бесцырымонна' (Варш. сл., 3, 439; Шуба, Прыслоўе, 185).

**Вóбшчаства** 'грамадства'; 'грамада, суполка' (КТС), *вобчыства* 'грамада' (Бяльк.). Запазычанне з рус. *общество* (Крукоўскі, Уплыў 21—22).

**(В)óбшыўка** 'каўнер, верхняя частка спадніцы, фартуха' (БМ, 121, палес.). Гл. *абшыўка, абшэўка.*

**Вóбык** 'звычай' (Яруш.). Рус. *óбык,* серб.-харв. *обіка* 'тс'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *абыкнуць* 'звыкнуць'. Параўн. рус. дыял. *абыкнуць* 'тс'.

**Вóбыск** (БРС, КТС). Рус. *óбыск,* ст.-рус. *обыскъ.* З **обискъ* ад *іскаць* (Фасмер, 3, 112) або аддзеяслоўнае ўтварэнне з *абыскаць.* У бел. мове запазычанне з рус. (Крукоўскі, Уплыў, 34; Жураўскі, Мат. да IV Міжн. з'езда слав., 51).

**Вóва** 'нешта страшнае, чым палохаюць дзяцей'; 'вош' (Клім.); 'воўк' (дзіц.) (Клім., Шат.). Рус. *вóва* 'нешта страшнае; мянушка ўсялякага сабакі', укр. *вóва* 'нешта страшнае, чым палохаюць дзяцей', славац. *vova* 'тс' (Дзендзялеўская, SR, 1974, 1, 39). Слова з дзіцячага маўлення.

**Вóвудзень** 'авадзень' (Шатал.). Гл. *авадзень.*

**Вóгалаў** 'аброць без повада' (Бяльк.; Юрч., Нар. сін.). Рус. *óголовь, оголóвок,* укр. (лемк.) *оглáв, оглáвець,* ц.-слав.

*оглавъ* 'вуздэчка', польск. *ogłów*, чэш. *ohlav, ohlávka,* балг. *оглáвник,* макед. *оглав, оглавник,* серб.-харв. *о̏глāв* 'тс'. Прасл. *ogolvъ*. З *о-* і *галава.* Паводле Брукнера, 376, запазычанне з ц.-слав., якое распаўсюдзілася ў слав. мовы, аднак гэтаму пярэчыць рус. форма. У бел., мяркуючы па тэрыторыі, не выключана запазычанне з рус.

**Вóгер**₁ *вóгір* 'жарабец' (Нас., Бяльк., Касп., Яруш., Шн., 1, Шатал.). Рус. *огéр,* укр. *óгер,* польск. *ogier* 'тс'. Запазычанне з тур. *ajkir, öjgür* (Северцян, 1, 107—108). (Параўн. Карскі, 1, 176; Брукнер, 382; Фасмер, 3, 155).

**Вóгер**₂ 'светлы пераліў хваль на рацэ' (Сцяшк. МГ). Няясна.

**Вóгер**₃ 'зух, хлюст, задавака' (Юрч.). Гл. *вагера*₁.

**Вóгкі,** *вóхкі* (БРС, Бес., КТС). Укр. *вóгкі.* З *vъlgъkъ* (гл. *волкі)* (Рудніцкі, 1, 457).

**Вóглам** 'толькі' (Мат. Гом.). Відавочна, з *агулам, увогуле* (гл.). Параўн. рус. дыял. *оглом* 'агульна, без разбору'.

**Вóглы** (БРС, КТС). З **волглы* 'тс'. Гл. *волкі.*

**Вóгніва** 'крэсіва' (Бяльк.). Мяркуючы па тэрыторыі і адзінкавасці фіксацыі, запазычанне з рус. *огниво* 'тс'.

**Вóгнік**₁ 'хвароба скуры, высыпка на твары (ад прастуды) (БРС, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Гарэц., Др.-Падб., Бір. Дзярж., КЭС, Жд., 1, Шн., 1, Арх. ГУ; нараўл., Інстр. II, Сцяшк., Мат. Гом., Шатал.). Рус. *óгник,* дыял. *вóгнік,* укр. *вóгник* 'тс', польск. *ognik* 'чырвоны прышчычак, запаленне', чэш. *oheň* 'тс', серб.-харв. *ógnjica* 'хвароба', балг., макед. *óгница* 'гарачка, ліхаманка'. Да *агонь* (Махэк₂, 410; Скок, 2, 546). Чэкман (SFPS, 13, 118 і наст.) звязвае таксама з **gniti, *gnojь, *ogniti* 'быць у ліхаманкавым стане'. Аб сувязі з *агнём* гл. таксама Сержп., Пр., 199.

**Вóгнік**₂ 'сушаніца лясная, змеявік' (Гарэц.). Да *вогнік*₁, таму што парашком з лісця і кветак расліны прысыпаюць мокнучы лішай (Гарэцкі, 43).

**Вóгніска** 'вогнішча, касцёр, месца, дзе быў касцёр' (Яшк., гродз., Шат., З нар. сл., навагр.); 'дрыгвяністае балота' (Яшк., гродз.). Запазычанне з польск. *ognisko* 'вогнішча', на што ўказвае суф. *-isko* (гл. Арашонкава, Весці АН БССР, 1963, 2, 85 і наст.; Гіст. лекс., 100). Значэнне 'дрыгвяністае балота' у польск. мове не зафіксавана; яно, відаць, развілося на беларускай глебе. У семантычных адносінах параўн. *выжара* 'выгараўшая яма ў торфе'; 'багністае балота'.



**Вóгнішча** 'касцёр; месца, дзе быў касцёр' (БРС, КТС, Нас., Бяльк., Касп., Др.-Падб., Яруш., Яшк.); 'пажарышча' (Шат.). Рус. *óгнище* 'астаткі кастра, месца, дзе быў касцёр', укр. *огнúще* 'тс', ст.-рус. *огнище* 'ачаг; месца, дзе быў касцёр', чэш. *ohniště* 'тс', балг., макед. *óгнище* 'ачаг', серб.-харв. *о̀гњӣште* 'тс', в.-луж. *vohnišćo* 'месца, дзе быў агонь'. Прасл. **ognistjьe*. Ад *агонь* (гл.) з суф. *-išče* (Махэк₂, 410; Скок, 2, 546).

**Вóдаль** 'на невялікай адлегласці (ад чаго-небудзь), убаку (Нас., Касп., Бяльк., КТС), *вóдаля* 'тс' (Шат.). Рус. *óдаль,* укр. дыял. *óдаль* 'тс'. З *о-* і *даль* (гл.) у форме він. або род. скл. адз. л.; прыстаўка *о-* надае значэнне непаўнаты якасці (Шуба, Прыслоўе, 113). Форма *водаля,* відавочна, у выніку кантамінацыі з *воддаля* (гл.).

**Вóдар** (БРС, КТС). Запазычанне з польск. *odór* 'непрыемны пах, смурод', якое ў сваю чаргу з лац. *odor* 'пах' (гл. Булахаў, БМ, 51; Курс суч., 64).

**Вóдарасць** (БРС, КТС). Калька рус. *вóдоросль* або запазычанне ўст. рус. формы *водорость* (Даль, 1880, 1, 221). Аднак параўн. і польск. *wodorost.* Аб утварэнні рускай формы гл. падрабязна Шанскі, 1, В, 126.

**Вóдбліск** (БРС, Яруш., КТС). Рус. *óтблеск,* укр. *вíдблíск,* польск. *odblask,* серб.-харв. *о̀дблесак,* балг. *отблясък,* макед. *одблесок.* Аддзеяслоўнае ўтварэнне да *адбліскваць.*

**Вóдва** 'выток ракі' (Яшк.). Магчыма, ад *вод-* (гл. *вада*) і суф. *-ва* ў зборным значэнні. Але параўн. гідронім *Водва* (дакладна балтскага паходжання — літ. *Vaduva/Vadva*) і актыўнасць гэтага гідранімічнага тыпу (на *-ва*) у Верхнім Падняпроўі (гл. Тапароў, Трубачоў, Лингв. анализ, 154 і наст.; 166 і наст.; Атрэмбскі, LP, 1, 235).

**Вóдварацень** 'лішак асновы ў шырыню пры накіданні ў ніты і бёрда, які ідзе назад' (Шатал.). Да *адвараціць* з суф. *-ень.*

**Вóдведы** 'наведванне хворага' (БРС, Мат. Гом.), *водветкі, водвідкі* 'звычай наведвання парадзіх' (Касп., Янк. Мат., КТС). Гл. *адведкі.*

**Вóдгалас** (БРС, Яруш., КТС). Рус. *óтголос,* укр. *вíдголос,* польск. *odgłos,* серб.-харв. *odglas,* славен. *odglàs,* макед. *одглас.* Аддзеяслоўнае ўтварэнне да **адгаласіць;* параўн. рус. *отголосить,* польск. *odgłosić się* і г. д.

**Вóдгул** 'рэха' (Пал.). Укр. *вíдгул* 'тс'. Прэфіксальнае

ўтварэнне ад *гул* (гл.) па ўзору *водклік, водсвет* і г. д. *Во́дгулле* 'водгалас' (БРС), *во́дгульля* 'рэха' (Бяльк.) ад *водгул* з суф. зборн. *-ьje*.

**Во́ддалек** 'воддаль' (БРС), *воддалік* (Янк. II). З *вод-* і род. скл. назоўніка **далеко* (які ад *даль* пры дапамозе суф. *-ькъ*) з наступным адпадзеннем канцавога галоснага (Шуба, Прыслоўе, 113).

**Воддалеч** 'воддаль, на адлегласці' (КТС). Ад *воддалек* пры дапамозе суф. *-jь*.

**Во́ддаль** (БРС, КТС, Гарэц.; КЭС, лаг.). З *водаль* (гл.) у выніку яго пераасэнсавання як слова з прыстаўкай *од-, вод-* (Шуба, Прыслоўе, 113). У варыянце *воддаля* (Жд., 2, КТС) прыстаўка заканамерная (*од* (*от*) + род. скл. *даль*; параўн. рус. *о́тдали*, укр. *ві́ддалі*), але канчатак, відаць, з род. скл. м. р.

**Во́ддых** 'адпачынак' (Інстр. III, КТС). Рус. *о́тдых*, укр. дыял. *ві́ддих*, польск. *oddech*, чэш. *oddech*, *oddych*, славац. *oddych*, балг. *о́тдих*. У бел., мяркуючы па рэдкасці ўжывання і часу (апошнія дзесяцігоддзі), з'яўляецца запазычаннем з рус.

**Во́ддышка** 'адпачынак' (Янк. I). Гл. *аддышка*.

**Во́дзе** 'тут' (Касп., Жд., 1). Рус. *во́де* 'тс'. З *во-* і *дзе* (гл.).

**Во́дзека** 'вось тут' (Шат., Жд., 1, Шатал.). Рус. *во́дека* 'тс'. Ад *водзе* (гл.) пры дапамозе часціцы *ка* (Карскі, 2—3, 65 і наст.).

**Во́дзер** 'адзёр' (Сцяшк.). Гл. *адзёр*.

**Во́дзечка** 'тут' (Шат.). Ад *водзе* пры дапамозе часціцы *-ka* з суф. *-ч-*, які надае ласкальны характар (Карскі, 2—3, 69).

**Водзыў** 'ацэнка чаго-небудзь'; 'адазванне' (БРС, КТС). Запазычанне з рус. *отзыв*, таму што дзеяслову *адазвацца* ў бел. мове не ўласцівы значэнні 'адазвацца аб кім-небудзь, чым-небудзь'. Сфера ўжывання (навуковая і публіцыстычная літаратура) сведчыць аб пашырэнні гэтага слова толькі ў апошнія часы.

**Во́дкідак** 'верацяно з ніткамі' (Янк. I), *воткідзень* 'тс' (Мат. Гом.). Да *адкідаць* з суф. *-ак, -ень*.

**Во́дклік** 'водгалас' (Др.-Падб., Яруш., КТС). Рус. *о́тклік*, славен. *odklik*, макед. кніжн. *отклик*. Да *адклікнуцца* (гл.) з суф. *-ъ*.



**Во́дкуп** (БРС, КТС). Рус. *о́ткуп*, укр. *ві́дкуп*, польск. *odkup*, в.-луж. *wotkup*, чэш., славац. *odkup*, серб.-харв. *ȍtkûp*, славен. *odkúp*, балг., макед. *откуп*. Да *адкупіць*.

**Во́дле₁** 'згодна з чым, адпаведна чаму' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Запазычанне з польск. (ГБЛМ, 1, 145). Падрабязна гл. *вэдле*.

**Во́дле₂** 'побач, вакол' (Нас.). Рус. *во́дле, во́дли* і *во́зле*, укр. *ві́для, ві́зля, ві́злі*. польск. *wedla, wedle*, чэш. *vedle*, славац. *ved'la*, славен. *vȁdlje*, серб.-харв. *вȁдље* 'адразу, у тую ж хвіліну'. Звязваецца звычайна з рус. *длина*, прасл. **dьlgъ* і інш. Параўн. таксама ст.-рус. *д(ь)ля* 'даўжыня' (Брукнер, 89; Фасмер, 1, 334, 517). Паводле Праабражэнскага, 1, 90, зыходнай формай была *vъ-dьli*, а ст.-чэш. форму *vedlé* Голуб—Копечны (98) рэканструююць як **vъdьlьje*.

**Во́дліж** 'адліга' (Жд., 1). Укр. *ві́дліж* 'тс'. Ад *адліг-* (гл. *адліга*) пры дапамозе суф. *-jь*, відавочна, не без уплыву польск. *odwilż* 'тс'. Рудніцкі (1, 415), наадварот, для ўкр. *відліж* мяркуе паходжанне з польск. *odwilż* і ўплыў *відлига*, што больш складана і патрабуе яшчэ метатэзу *л*.

**Во́длуг** 'адносна чаго, згодна з чым' (Нас., Шат., Касп., Бяльк., КТС). Гл. *вэдлуг*.

**Во́дляг** 'наводмаш' (Федар., 2, 159). Укр. *ві́дліг* 'тс'. Ад *адлягаць*. Параўн. *наводмаш, наводліў* з аналагічнай структурай.

**Во́дмель** 'неглыбокае месца ў рацэ, возеры' (БРС, Яшк., Інстр. I, КТС). Рус. *о́тмель*, укр. *ві́дміль*, ст.-польск. *odmiel* 'тс'. Прэфіксальнае ўтварэнне ад *мель* (гл.) (Юркоўскі, Ukr. hydrogr., 132).

**Во́дпаведзь** (БРС). Рус. *о́тповедь*, укр. *одповідь*, польск. *odpowiedź*, в.-луж. *wotpowjedź*, славен. *vȍtpovjez*, чэш. *odpověd'*, славац. *odpoved'* 'тс'. Аддзеясloўнае ўтварэнне (ст.-рус. *отъповѣдѣти*) пры дапамозе суф. *-ь*.

**Во́дпаты**, *водпыты* 'водведкі' (КЭС). Аддзеяслоўнае ўтварэнне да *адпытаць*, як *водведы* (гл.), да *адведаць*.

**Во́дпуск** 'адпачынак, часовае вызваленне ад службы, працы' (БРС, КТС). Запазычанне з рус. *отпуск* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 148).

**Во́дра** 'адзёр' (Янк. II, КЭС, Сцяшк. МГ, Шатал., КТС), *вуо́дра* 'тс' (Бес.), *во́дрыца* 'экзема' (Касп.). Рус. дыял. *во́дрик* 'хвароба накшталт воспы', польск. *odra* 'воспа, адзёр'. З **obdьra*, **obdьrica*, якія ўтвораны ад асновы дзеяслова

*абадраць (*obdьrati)* (Мяркулава, Этимология, 1970, 166—167). Сюды ж з іншай асновай: *водар* 'адзёр' (Інстр. II) і іншай суф. *водрык* 'тс' (Мядзв.). Параўн. *адзёр.*

**Во́друб** 'адасоблены ўчастак зямлі, які выдзяляўся ва ўласнасць асобных сялян з зямельнага ўладання сяла; хутар' (БРС, Яшк.). Запазычанне з рус. *отруб* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 41).

**Во́дсеў** 'адсяванне; поле, з якога зняты яравыя і па якому адразу сеюцца азімыя' (Юрч., Яшк., КЭС). Рус. *о́тсев*, укр. *відсів*, польск. *odsiew.* Аддзеяслоўнае ўтварэнне да *адсяваць.*

**Во́дступ** 'вольнае месца, якое пакідаецца ў пачатку радка рукапіснага або друкаванага тэксту' (БРС); 'адкрытая прастора паміж лясамі, дварамі, будынкамі' (Яшк.). Рус. *о́тступ*, укр. *відступ*, польск. *odstęp*, чэш. *odstup*, серб.-харв. *о̀дступ,* балг. *отстъп*, макед. *отстап*. Аддзеяслоўнае ўтварэнне да *адступіць.*

**Во́дшыб** у выразе: *жыць на водшыбе* 'адасоблена, убаку' (БРС, Шат.). Рус. *отшиб*, укр. *відшіб*. Да **адшыбіць* (гл., напр., *шыбаць*); параўн. рус. *отшибить*, *отшиб.*

**Во́жаг**, *вожыг* 'дзяржанне вілак, качаргі, памяла і г. д.'; 'палка з вострым канцом' (Гарэц., Др.-Падб., Мядзв., Сцяц.); 'палка з апаленым канцом' (Бяльк.). Рус. *о́жег, о́жог, о́жиг* 'палка, якая ўжываецца замест качаргі', укр. *о́жог, о́жуг* 'тс', польск. *ożeg*, каш. *ožåk*, чэш., славац. *ožeh*, дыял. *vožeh* 'дзяржанне вілак, качаргі; палка, якой разграбаюць вугалле', серб.-харв. *ȍžeg* 'тое, чым разграбаюць агонь'; славен. *ožèg* 'качарга; палка з апаленым канцом', макед. *ожег* 'жалезная качарга', балг. дыял. *ожег* 'качарга'. Прасл. *ožegъ, ožogъ* першапачаткова 'палка з апаленым канцом'. Да *жгу*, *жэгчы* (Махэк₂, 424; Брукнер, 388). Параўн. *ажагі.*

**Во́жжы** 'лейцы' (Бяльк.). Адзінкавасць фіксацыі ўказвае на запазычанне з рус. *вожжи.* Параўн. шырока распаўсюджанае *вожкі* 'тс'.

**Вожка,** *вожкі* 'лейцы' (Нас., Шат., Касп., Бяльк., Янк. I, Янк. II, Юрч., Бір. Дзярж., Др.-Падб., Мядзв., Маш., Маслен., Мат. Гом., З нар. сл.). Рус. *вожжа́, во́жжи*, укр. *віжка*, польск. дыял. *wodze* 'вузда', славен. *vȏjka*, славац. *vodzka*. Большасць даследчыкаў як зыходную аднаўляюць форму **vodia* (ад *voditi)* (Праабражэнскі, 1, 90; Фасмер, 1, 332; Махэк₂, 572; Брукнер, 629; Міклашыч, 376). Параўн. таксама літ. *vãdžios* 'лейцы, павады', лат. *važa* 'павадок, ланцуг' < *vadît* 'вясці' (Фрэнкель, 1126). У гэтым выпадку беларуская форма рэкан-



струюецца, як **vod-i̯-ка.* Грот (Філал. раз., 2, 424) узводзіць гэта слова да *вазіць, вязу,* але гэтаму супярэчаць заходнеславянскія і славенская формы. У рус. мове застаецца нявытлумачаным *-жж-;* падрабязна гл. Фасмер, 1, 332; КЭС, 63; Шанскі, 1, В, 129.

**Вожык** (БРС, Нас., КТС, Шат., Касп.). Рус. *ёж,* укр. *їж,* ст.-рус. *ожь, ожик,* польск. *jeż,* каш. *jež,* в.-луж. *jěž,* н.-луж. *jež,* чэш. *ježek,* серб.-харв. *jȇж,* славен. *jež,* балг., макед. *еж.* Прасл. *ezi̯o.* Роднасныя: літ. *ežỹs,* лат. *ezis* 'вожык', ст.-в.-ням. *igil* (н.-в.-ням. *Igel)* 'вожык', арм. *ozni,* грэч. ἐχῖνος 'вожык'. Далей, магчыма, роднасна грэч. ἔχις 'змяя', арм. *iž* 'тс', ст.-інд. *áhi* 'змяя', г. зн. першапачаткова гэта была табуістычная назва 'пажыральнік змей' (Петарсан, Kelt. Gr., 1, 99; Покарны, 144, 292 і наст.; Голуб—Копечны, 153; Фасмер, 2, 10; Махэк₂, 226; Слаўскі, 1, 572 і наст.). Другія даследчыкі асноўным значэннем протасл. *ezi̯o* лічаць 'калючы' і ўзводзяць да і.-е. кораня **egh-* 'калоць, пракалоць' (Бернекер, 266 і наст.; Праабражэнскі, 1, 212 і наст.; Машынскі, JP, 37, 299; Шанскі, 1, Д, 252; там жа падрабязна гл. літаратуру). Аб пачатковым *о-* ва ўсходнеславянскіх мовах гл. Шахматаў, Очерк, 141; Ільінскі, Slavia, 2, 232 і наст.; Бернштейн, Фонетика, 225 і наст.

**Воз** (БРС, Бяльк., Касп., Грыг., Дзмітр., Маш., Інстр. I), *вуоз,* 'воз; сузор'е' (Бес.). Рус. *воз,* укр. *віз,* род. скл. *во́зу,* ст.-слав. **возъ,** балг. *воз,* серб.-харв. *вȏз,* славен. *vȏz*, чэш. *vůz*, славац. *voz*, польск. *wóz,* в.-луж. *woz.* Прасл. *vozъ* (Махэк₂, 704). Іншая ступень чаргавання ў *везці, вязу* (гл.). Роднасныя: літ. *ùžvažas,* ст.-ісл. *wagn* 'павозка', грэч. Ϝόχος 'тс', ст.-інд. *vahanam* 'язда; судна', *vahas* 'той, хто едзе'; звязана чаргаваннем з гоц. *wigs* 'дарога' (Гл. Траўтман, 357; Праабражэнскі, 1, 70; Фасмер, 1, 333).

**Во́здух** 'паветра' (Бяльк.). Запазычанне з рус. *во́здух* 'тс'.

**Во́зера** 'прыродны вадаём або штучны ставок' (БРС, Яруш., Шат., Касп., Бяльк., КТС); 'ста́рык на лузе'; 'крыніца' (Яшк.). Рус. *о́зеро,* дыял. *о́зер,* укр. *о́зеро,* ст.-рус. *озеро,* ст.-слав. **ѥзеро, ѥзеръ,** польск. *jezioro,* чэш. *jezero,* славац. *jazero,* в.-луж. *jezor,* н.-луж. *jazor,* каш. *jezor,* серб.-харв. *jȅzero,* славен. *jezȇro, jȇzer* м. р., *jézera* ж. р., балг. *е́зеро* 'возера; крыніца ў рацэ або вільготнай глебе'. Прасл. **ęzęra* — форма з перагаласоўкай *jezero* (БЕР, 1, 482). Роднаснымі з'яўляюцца літ. *ẽžeras, ãžeras* 'возера, сажалка, стаў', лат. *ezers* 'тс', ст.-прус. *assaran* 'тс' (Бернекер, 1, 455), грэч. Ἀχέρων 'найменне ракі ў апраметнай', ἀχερούσία 'балоцістыя воды' (Траўтман, 73). Далей ёсць падставы для збліжэння з слав. *езъ* (гл. *яз*) (Мейе,

BSL, 25, 11 і наст.; 29, 38 і наст.; БЕР, там жа; Слаўскі, 1, 571; Машынскі, JP, 37, 299; Тапароў, Прус., 131 і наст.). Гл. таксама Фасмер, 3, 125.

**Во́зкрі** (Бяльк.). Гл. *вазгры*.

**Во́знік** (БРС, Нас., Бяльк.). Ад *воз* з суф. *-нік*, які ў бел. мове быў прадуктыўным пры ўтварэнні Nomina agentis яшчэ ў старажытны перыяд (Суффикс. словообр., 65). Але, па даных КГС, гэта слова адзначана толькі ў значэнні 'возны конь'. Сучаснае *вознік* 'возчык' з'явілася па лексіка-семантычнаму спосабу словаўтварэння.

**Во́ін** (БРС, КТС). Рус. *во́ин*, укр. *во́їн*, ст.-рус. *воинъ*, ст.-слав. **воинъ**, балг. паэт. *воин*, серб.-харв. *во̀јнӣк*, славен. *vojnik*, чэш., славац. *vojín, voják*. Утворана пры дапамозе суф. адзінкавасці *-инъ* ад прасл. **vojь* з магчымым значэннем 'група войска' (Махэк$_2$, 696; БЕР, 172). Іншая ступень чаргавання ў ст.-слав. **повинѫти** 'пакарыць, заваяваць'. Роднаснымі з'яўляюцца літ. *vejù, výti* 'гнаць (ца), праследаваць', *vajóti* імперф,. ст.-інд. *vèti* 'праследуе, імкнецца да', авест *vayeiti* 'гоніць, праследуе', лац. *vēnor, -āri* 'паляваць', ст.-ісл. *veiðr* 'паляванне', ст.-в.-ням. *weida* 'тс', грэч. ἵεμαι 'імкнуся, жадаю', ірл. *fiad* 'дзічына', лац. *proelium* (з**provoiliom*) (Фасмер, 1, 334; Траўтман, 345 і наст.; Шанскі, 1, В, 141 і наст.).

**Вой** выкл. (БРС, КТС, Нас., Шат., Бяльк.). Рус. *ой*, укр. *ой*. Гукаперайманне (Праабражэнскі, 1, 641; Фасмер, 3, 126).

**Во́йкала** 'хто бесперастанна войкае' (Нас.). Да *войкаць*.

**Во́йкаць** (БРС, Нас., Шат., КТС). Рус. *о́йкать*, укр. *о́йкати*, славац. *jojkat'* 'тс'. Да *вой* пры дапамозе суфікса *-ка*, які ўтварыўся ў працэсе перараскладання дзеясловаў, утвораных ад выклічнікаў, меўшых гэта *-к*, як *бурк-, буркати* і г. д. (Смаль-Стоцкі, Прім. словотвір, 83).

**Во́йска** (БРС, КТС, Нас., Бяльк., Шат., Мал., Сцяшк.). Рус. *во́йска*, укр. *ві́йсько*, ст.-рус. *воиско*, ст.-слав. **воиска**, польск. *wojsko*, чэш., славац. *vojsko*, в.-луж. *wójsko*, балг. *войска*, макед. *војска*, серб.-харв. *во̏јска*, славен. *vójska*. Прасл. *vojьsko*. Гл. *воін* (Фасмер, 1, 335). У словаўтваральных адносінах гэта nom. kol. ад *vojь* 'воін' (Махэк$_2$, 698). Інакш Шанскі (1, В, 143) і Скок (3, 612), якія разглядаюць яго як субстантывіраваны прыметнік з суф. *-ьsk* ад *vojь*.

**Войт** гіст. 'сельскі стараста, прыказчык у часы прыгону' (БРС, Нас., Касп., Гарэц., Мядзв., Шпіл.). Запазычанне з польск. *wójt*, якое ў сваю чаргу са с.-в.-ням. *Voget* 'дазорац, праціцель' лац. *vocātus, advocātus* (Міклашыч, 393; Фасмер, 1, 335; Кюнэ, Poln., 115; Булыка, Запазыч., 67). Менш. верагодна Жураўскі (БМ, 61) аб непасрэдным запазычанні беларускага слова з с.-в.-ням. *Voget, Voit* 'дазорац, правіцель'.



**Во́йчым** 'няродны бацька' (Нас., ҚЭС, Гарэц., Др.-Падб.). Гл. *айчым*.

**Во́ка**$_1$, мн. л. *во́чы* (БРС, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Гарэц., Яруш., Грыг.). Рус. *о́ко*, мн. л. *о́чи*, укр. *о́ко*, ст.-рус. *око*, ст.-слав. **око**, род. скл. **очесе**, пар. л. **очи**, польск., чэш., славац. *oko*, балг. *око́*, пар. л. *очи́*, серб.-харв. *о̏ко, о̏чи*, славен. *okȏ*, род. скл. *očẽsa*, пар. л. *očī*, в.-луж. *woko*, н.-луж. *hoko*. Прасл. *oko*, аснова на *-es* у адз. і мн. л., на *i-* ў пар. л. Роднаснымі з'яўляюцца літ. *akìs* 'вока', лат. *acs*, ст.-прус. *ackis*, грэч. ὄσσε н. р. пар. л. (з **oqįe*), ст.-інд. *akṣī* 'тс', арм. *akn*, род. скл. *akan* 'вока, дзірка', лац. *oculus* 'вока', гоц. *augô*, тахар. A *ak*, B *ek* 'вока', грэч. ὄψομαι 'убачу', ὄμμα 'вока' (Траўтман, 4 і наст.; Праабражэнскі, 1, 642 і наст.; Фасмер, 3, 128, Махэк$_2$, 411). Сюды ж этымалагічна належаць і *во́ка* 'лятак у калодачным вуллі' (З нар. сл.); 'прасвет, адтуліна паміж сплячэннем нітак у сетцы' (З нар. сл.); 'лаз у склеп' (Шатал.). Параўн. чэш. *oka* 'адтуліна паміж сплячэннем нітак у сетцы', польск. *oka* 'тс', а таксама значэнні рус. *глазок* 'вочкі (сеткі)'; 'лятак'.

**Во́кал, во́кала** (БРС, Нас., Грыг., Гарэц., КТС), *во́кыла* (Бяльк.). Гл. *вакол*.

**Во́карак** 'кумпяк' (Вешт. дыс.), *во́кырак* 'тс' (Бяльк.). Запазычанне з рус. *о́корок* 'тс', аб чым сведчыць тэрыторыя распаўсюджання (Магілёўшчына і некаторыя цэнтральныя ўсходнія гаворкі Палесся).

**Во́кідзь** 'густы снег, які падае камякамі' (Янк. III), *о́кыд'* 'снег, які выпадае ранняй вясной пасля таго, як зімні снег ужо растаў, *окіт'*- 'вясенні снег, які выпадае на кароткі час і звычайна скора растае' (Талст., 13). Рус. дыял. *о́кидь* 'шэрань, іней', карп. *окидь* 'іней, лёд, снег на ветках дрэў; вясенні замаразак' (Талст., 13), мар.-славац. *okyd'* 'сыры снег, які ў вялікім мностве ляжыць на дрэвах'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *окідаць* (Махэк$_2$, 313); не звязана з серб.-харв. *кити́на* 'камякі снегу на галінках дрэў', *о̀китити* 'упрыгожыць', як гэта лічыць Талстой, 13, таму што яны належаць да гнязда *кітка* і г. д. (Скок, 2, 73). У семантычных адносінах параўн. *воблі́ў* (гл.) 'галалёдзіца, лёд, якім пры галалёдзіцы пакрываюцца дрэвы', ад *абліць*.

**Во́кладка** (БРС, КТС, Яруш.) 'тронак' (Шатал.). Запазычанне з польск. *okładka* 'тс' або самастойнае ўтварэнне ад *акласці, акладу* з дапамогай суф. *-ка.*

**Во́клік** (БРС, Яруш.). Рус. *о́клик,* укр. *о́клик.* Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *аклікнуць.*

**Во́кліп** (прысл.) 'вярхом, без сядла' (Нас.). Запазычанне з польск. *oklep, na oklep* 'тс', якое ў сваю чаргу да *klepać* 'ударадь, хлопаць' (Брукнер, 233). У семантычных адносінах параўн. рус. дыял. *о́хлябь, о́хлюпя, охлю́пкой,* укр. *охляп* 'вярхом, без сядла', якія належаць да *хлюпать, хлябать* 'стукаць, хлопаць' і сведчаць супраць версіі Карскага (Белорусы, 130) аб сувязі з літ. *klypstù, klỹpti* 'у час хадзьбы згінаць ногі крыва'.

**Во́кліч** 'словы, якімі аклікаюць каго-небудзь' (БРС, Гарэц.). Ад *воклік* пры дапамозе суф. *-jь.*

**Во́кнішча** 'акно ў балоце' (БРС, КТС); 'невялікае, але вельмі глыбокае прыроднае возера'; 'вір на рацэ, возеры' (Нас., Яшк., Касп.). Лексема пашырана на ўсёй усходнеславянскай тэрыторыі; параўн. рус. дыял. *акнишче* 'аконца ў дрыгве', *окни́ще* 'дрыгва, грузкае месца', бойк. *вікнішче* 'прорва, бездань' (Талстой, Геогр., 207 і наст.). Да *акно* (гл.) у аналагічным значэнні.

**Во́крапна** 'трохі боязна' (КЭС). Гл. *акро́пны.*

**Во́крык** (БРС, Яруш., КТС). Рус. *о́крик,* укр. *о́крик,* польск. *okrzyk,* чэш. *okřik,* балг. *о́крик.* Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *акрыкнуць.*

**Во́кунь** (Нас., З жыцця). Гл. *акунь.*

**Во́кут** 'агароджанае месца для жывёлы (на полі ці ў лесе)' (ДАБМ,783; маг., Яшк.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад **акутаць* (параўн. літар. *ахутаць* 'пакрыць, абгарнуць'), як *закута* 'хлеў' ад *закутаць* 'зачыніць, загарадзіць плотам' (Котков, Очерки, 279; Лучыц-Федарэц, Лекс. Палесся, 186). Аб суаднесенасці варыянтаў *акутаць — ахутаць* у бел. мове гл. Казлова, дыс.

**Вол** (БРС, Янк. Мат., Бяльк., Бес., КТС, Ліс.), *вюл* 'вол' (Дразд.). Рус. *вол, вола́,* укр. *віл, вола́,* ст.-рус. *волъ,* ст.-слав. **волъ,** польск. *wół,* в.-луж., н.-луж. *woł,* каш. *vòl,* чэш. *vůl,* славац. *vol,* серб.-харв. *вȏ,* славен. *vòl,* макед. *вол.* Старая аснова на *-u;* параўн. ст.-рус., ст.-слав. прыметн. **волоуи.** Прасл. *volъ.* Агульнапрынятай этымалогіі няма. Мейе (242) і Вальдэ (857) звязваюць з *вялікі,* г. зн. 'вялікая жывёліна' ў адрозненне ад



грэч. μῆλον 'дробная жывёла', ірл. *mil,* якія роднасныя *малы.* Менш верагодна збліжэнне Младэнава (75) з польск. *wołać* 'зваць', прычым ён указвае на аналагічнае *бык.* Махэк$_2$ (703) параўноўвае з ням. *schwellen* 'набухаць', што таксама няпэўна, як і супастаўленне Гараева (54) з ням. *Bulle* 'бык, вол'. Непрымальная версія Праабражэнскага (1, 95) з *волох.* г. зн. 'раманская жывёліна'. Грубор (JF, кн. 8, 13 і наст.). якога падтрымлівае Трубачоў (Происх., 43 і наст.), выводзіць слав. *volъ* ад і.-е. **u̯el-* 'ціснуць', спасылаючыся на старажытную тэхніку пакладання, г. зн. *volъ—castratus, compressis testikulus.* Менш пераканаўчая версія Якабсона (БЕР, 174), які ўзводзіць вол да **vel-* 'валяць' (*волъ* —'жывёліна, якая павалена для кастрацыі', паколькі *валяць* 'кастрыраваць' з'яўляецца толькі рускай інавацыяй). Як праславянскую апафанічную ступень да прабалт. **velti* (літ. *vélti* 'валяць, катаць, біць, мяць', лат. *vel̃t* 'тс') рэканструюе слова Мартынаў (БЛ, 9, 11 і наст.): **volъ* 'той, хто нешта валяе, коціць, б'е', паколькі валы выкарыстоўваліся старажытнымі славянамі для малацьбы снапоў, прычым вол цягнуў за сабой цяжкі кавалак дрэва, які выконваў функцыю біча або цэпа'. Параўн. літ. *volê* 'драўляная калатушка', рус. *вал* 'валёк'. У семантычных адносінах параўн. літ. *árti* 'араць', *árklas* 'плуг', *arklỹs* 'конь' (Гл. таксама Фасмер, 1, 335 і наст.; Шанскі, 1, В, 146; Скок, 3, 610).

**Во́лава** (БРС, Яруш., Грыг., Нас., Касп., Шат.). Рус. *о́лово* 'волава', ст.-рус., ст.-слав. **олово** 'свінец', укр. *о́лово,* польск. *ołów,* чэш., славац. *olovo,* балг. *о́лово,* серб.-харв. *ȍлово,* славен. *olôv, ólovo* (Далабко, ZfslPh, 3, 131), в.-луж. *wołoj,* н.-луж. *wółoj* 'свінец'. Роднаснымі з'яўляюцца літ. *alvás* 'свінец' лат. *al̂va, al̂vs* 'волава', ст.-прус. *alwis* 'свінец'. Далей гэта слова збліжаюць з назвамі колераў: ст.-в.-ням. *ëlo* 'жоўты', лац. *albus* 'белы', грэч. ἀλφός (Траўтман, 7; Фартунатаў, AfslPh, 4, 580; Персан, 300). Іншыя гіпотэзы і літаратуру гл. Фасмер, 3, 135; Махэк$_2$, 413.

**Во́лага** 'тлушч як прыправа, а таксама варанае мяса, рыба і наогул прыправа да ежы' (Шн., 1); 'сырое топкае месца' (Жучкевіч, Топон., 14). Гл. *валога.*

**Во́лак** 'сухая частка дарогі паміж дзвюма рэкамі, праз якую даводзіцца перацягваць лодкі' (БРС, КТС); 'вялікі браднік' (КТС, Шат.); 'невад' (Бяльк.); 'гужавая лясная дарога; дарога, па якой вазілі (валачылі) таварны лес на рум' (Яшк.); 'зімняя дарога ў лесе, па якой вывозяць волакам бярвенне' (Бяльк.); 'рыбацкая сетка — мех' (З нар. сл.); 'рыбац-

кая сетка — мех на двух шастах' (Анік., 59, Янк. I, Крыв.); 'верхні брус будынка, на які накладваюцца кроквы' (Некр., 219); 'чалавек, які валачэ карабель' (Др.-Падб.). Рус. *вóлок* 'сухая частка дарогі, праз якую даводзіцца перацягваць лодкі волакам'; 'гушчар, з якога зрубленае дрэва можна выцягнуць толькі волакам'; 'лясная гужавая дарога'; 'дарога'; 'плыўная сетка — мех', укр. *вóлок* 'браднік'; 'вяроўка, з дапамогай якой цягнуць валамі копы сена і г. д.'; 'нерасколаты цурбан, бервяно', польск. *włok* 'браднік, невад', в.-луж. *włoka* 'шлейф, полаз, башмак плуга; невад', чэш. *vlak* 'невад; валакуша; цягнік', славац. *vlak* 'цягнік' балг. *влак* 'невад', серб.-харв. *vlȃk* 'цягнік; невад', дыял. *vlākă* 'лясная дарога, па якой вывозяць дровы' (Куркіна, Этимология, 1968, 97), славен. *vlȃk* 'невад', а таксама *vlak, vláka* 'шлях, якім перапраўляюць сена, дровы і інш. з гары ў даліну' (Куркіна, там жа). Прасл. *volkъ* ад **velkti>валачы* (гл.) (Фасмер, 1, 341; Махэк₂, 693; Рудніцкі, 1, 468). Роднаснае літ. *ãpvalkas* 'адзежа, халявы ботаў', *ùžvalkas* 'пакрывала', лат. *valks* 'спуск вады; скразняк', *uzvalks* 'верхняе плацце', грэч. ὁλχός 'баразна', лац. *sulcus* 'тс' (Траўтман, 350; Мейе, Études, 223).

**Вóлакі,** *волоки* толькі мн. л. 'рэшткі несабранага збожжа пры жніве, якія чапляюцца за ногі жняі'; 'усё, што можа зачапіцца за ногі пры хадзьбе' (З нар. сл.). Да *валачыць, валаку* (гл.).

**Вóлас₁** (БРС, Бір., Шат., Касп., КТС). Рус., укр. *вóлос,* ст.-слав. **власъ,** польск. *włos*, в.-луж. *włós,* н.-луж. *łos*, каш. *vlos*, чэш., славац. *vlas*, серб.-харв. *влȃс*, славен. *lȃs*, балг., макед. *влас.* Прасл. *volsъ.* Роднасныя авест. *varəsa-* 'волас чалавека або жывёліны, асабліва на галаве', с.-перс. *vars* 'волас', ст.-інд. *válśaḥ* 'галінка', магчыма, грэч. οὖλος 'кучаравы' або λάχνη, λάχνος 'воўна', літ. *valaĩ* мн. л. 'валасы конскага хваста, вуда', а таксама ст.-рус. *володь* 'волас', ц.-слав. *владь,* рус. дыял. *вóлоть* 'ніць, волас', бел. *валотка* 'колас, мяцёлка проса і г. д.' (Траўтман, 340; Лідэн, Stud., 48; Фасмер, 1, 342; Махэк₂, 693; Шанскі, 1, В, 151).

**Вóлас₂** 'незажываючая рана' (Мат. Гом., Інстр. II). Рус., укр. *вóлос* 'гнойны нарыў на пальцы'. Параўн. і чэш. *živý vlas* 'ніткавы чарвяк'. Да *волас₁*. Па павер'ю ўсе гнойныя запаленні, язвы і нарывы ўзнікаюць ад вадзянога ніткаватага чарвяка, які быццам бы ўтварыўся з конскага воласа (Дабр.). Аб сувязі з *воласам* гл. Іванаў, Тапароў, Иссл., 52 і наст. Параўн. таксама *валасень.*

**Воласць** (БРС, Нас., Бяльк., Яшк.). Рус. *вóлость*, укр. *вóлость*, ст.-рус. *волость* 'вобласць, тэрыторыя, дзяржава, улада', ст.-бел. *вóлость* 'воласць', ст.-слав. **власть,** польск. *włość,* чэш. *vlast,* славац. *vlasť* 'айчына', серб.-харв. *влȃст,* славен. *lȃst*, род. скл. *lastî* 'уладанне, маёмасць', балг. *власт* 'улада'. Прасл. *volstь<voldtь* (<*уладаць*) (Махэк₂, 693; Скок, 3, 604). Роднасныя: лат. *vàlsts* 'дзяржава', літ. *valsčius* 'воласць' (Траўтман, 340 і наст.; Буга, РФВ, 75, 133 і наст.; Фасмер, 1, 344). Некалькі інакш аб словаўтварэнні КЭСРЯ (65) і Шанскі (1, В, 151 і наст.), якія выводзяць ад **vцlda* 'ўлада' з дапамогай суф. *-tь: *voldtь >volstь>volostь.*



**Вóлат** 'гігант, асілак' (БРС, Касп., Гарэц., КТС). Рус. *волот*, дыял. *велет* 'тс', укр. *вéлет, велетень* 'тс', ст.-рус. *волотъ,* ц.-слав. *влатъ* 'гігант', зах.-слав. *Veletabi* 'племя вільцы ў Макленбургу' (=**veletove*). Было некалькі спроб высветліць этымалогію гэтага слова, але галоўная цяжкасць — хістанне *о/е* — застаецца нявырашанай. Брукнер (AfslPh, 42, 138) *велет* звязвае са ст.-слав. **велии** 'вялікі', а варыянт *волот* лічыць больш позняй аналагічнай формай. Сабалеўскі (РФВ, 64, 117) спрабаваў тлумачыць хістанне галосных як розныя асіміляцыі, але гэтага недастаткова. Міклашыч (394) супастаўляе з с.-лац. *Veletabi,* назвай заходнеславянскага племені. Дапускаецца роднасць з лац. *valeo* 'я ў сілах, здаровы', тахар. A *wäl-* 'панаваць', тахар. B *walo, wlo* 'пан, гасудар' (Бенвеніст, Festschr. H. Hirt, 2, 234). Версія Шахматава (AfslPh, 33, 87 і наст.), паводле якой слова запазычана з кельц. (параўн. ірл. *flaith* 'валадар'), памылковая па фанетычных прычынах (Фасмер, 1, 344). Аб сувязі тэрмінаў *волот, велет* з *волос, велес* гл. Іванаў, Тапароў, Иссл., 62 і наст.

**Вóлей** 'лепш' (Нас.; Шн., 1, 431). Гл. *валей.*

**Вóлеко** 'частка пустой прасторы борці, якая выдзёўбваецца коса ўверх' (Маш.), *вóлек* 'частка пустой прасторы борці ад верхняга краю скразнога паза да верху' (Анох.); 'верхняя частка калоды' (Мат. Гом.). Гл. *аталек.*

**Вóлік₁** 'рагач, рагаты жук' (Дэмб., 2; Ліс). Укр. *вóлик* 'жук-насарог'. Да *вол* (гл.); названы, відавочна, па знешняму выгляду, па наяўнасці рагоў.

**Вóлік₂** 'гультай' (З нар. сл.). Няясна. Да *воля, вольніца*?

**Вóлікі** 'коцікі вярбы' (Шатал.). Няясна, магчыма, памянш. ад *вол* (гл.); параўн. у семантычных адносінах *коцікі* (гл.).

**Вóліць** 'упрошваць, пераконваць' (Нас.). Рус. *вóлить* 'жадаць, хацець', ст.-слав. **волити, волѭ** 'хацець, аддаваць

перавагу', польск. *wolić* 'аддаваць перавагу', чэш. *voliti*, славац. *volit'* 'выбіраць', славен. *vóliti* 'тс'. Паводле Фасмера, 1, 338, Махэка₂, 704, звязана з *воля* (гл.). Роднаснымі з'яўляюцца гоц. *waljan* 'выбіраць', ст.-в.-ням. *wellan* 'тс', ст.-інд. *varáyati* 'выбірае, дамагаецца' (Торп., 400; Уленбек, 272).

**Во́лкі** 'сыры, вільготны' (БРС, Нас., КТС, КЭС, Касп.), *волкываты* 'тс' (Бяльк.). З **волгкі*. Рус. *во́лгкий*, укр. *во́гкий*, польск. *wilgi*, чэш., славац. *vlhký*, славен. *vólgək*. Прасл. **vьlgъkъ*. Роднаснае літ. *vilgau*, *vìlgyti* 'мачыць', *vìlkšnas* 'волкі', ст.-прус. *welgen* 'насмарк', ст.-в.-ням. *wëlc* 'волкі, мяккі, завялы', *wolchan* 'воблака', ірл. *folcain* 'мачу' (Траўтман, 358; Фасмер, 1, 337; Махэк₂, 694). Іншая ступень чаргавання: *валога* (гл.), ст.-слав. **влага**.

**Во́лміна**, *волмішча* 'прытэрасная частка поймы, некалі і зарослыя старыя рэчышчы, якія акружаны вярбой, вольхай і парэчкамі' (Жучк.); 'катлавіна, мокрая ўпадзіна з травой' (Яшк.). Ст.-рус. *волмина* ўпамінаецца адзін раз у грамаце Варлаама Хутынскаму манастыру (1192 г.); значэнне не зусім яснае. Прыблізна — нейкае ўгоддзе на востраве на р. Волхаў. Бясспрэчна, гэтыя тэрміны звязаны з гідронімам Волма (Кіпарскі, ВЯ, 1956, № 5, 133), які з'яўляецца роднасным ст.-інд. *ūrmis* 'хваля', авест. *varəmi-* ж. р. 'тс', ст.-в.-ням. *walm* 'жар', ст.-англ. *wielm* 'кіпенне, хваля, цячэнне'; параўн. ст.-польск. *welm* 'fluctus' (Фасмер, 1, 339; Развадоўскі, PS, 6, 48 і наст.). Старую этымалогію Міклашыча, паводле якой ст.-рус. *волмина* супастаўляецца з лац. *ulmus* 'від вязу, ільма' (г. зн. яно абазначала нейкае дрэва, падобнае да вязу), адкуль слав. **vъlm-*, падтрымліваюць Ляпуноў і Філін (Філін, Труды Отдела др.-рус. лит., 14, 1958, 590 і наст.). Апошні адносіць сюды рус. наўг. *волмяг* 'зараснікі вербняку' і назву грыба 'Agaricus torminosus' *волмяжник*, *волмяк*. Параўн. *валмо*.

**Во́льна** 'павольна' (Нас., Касп.); 'магчыма, дазволена' (Нас.). Да *воля* (гл.). Параўн. таксама *паволі*.

**Во́льніца** 'звальненне ад прыгоннага права' (Гарэц., Др.-Падб.); 'месца, дзе робіцца продаж вольнага (не на водкуп) віна' (Нас., Яшк.). Рус. *во́льница* 'тс', польск. *wolnica* 'свабодны продаж купцамі, якія не належалі да гандлёвага цэха гэтага горада'; 'вольны збор дрэва', 'вольны ўваход у лес'. У бел. мове, магчыма, як самастойнае ўтварэнне ад *вольны*, так і запазычанне з рус.

**Во́льха** (БРС, Кіс., КТС, Шн., 1, Яруш.), *вильха́* 'тс' (Ліс.). Рус. *о́льха́*, дыял. *волюха́*, *вольха́*, *ёлха*, *ело́ха*, укр.



*вільха́*, *і́льха*, ст.-рус. *ольха*, серб.-ц.-слав. *јельха*, балг. *елха́*, серб.-харв. *jóha*, *jóva*, дыял. *jȅlša*, славен. *jélša*, дыял. *ólša*, *jólša*, чэш. *olše*, славац. *jelša*, польск. *olcha*, *olsza*, в.-луж. *wólša*, н.-луж. *wolša*. Прасл. **jelьxa* і **olьxa* (Мейе, BSL, 25, 161). Роднаснае літ. *al̃ksnis*, *alksnỹs*, *aliksnis*, *ẽlsknis* 'вольха', лат. *èlksnis*, *àlksnis* (Буга, ИОРЯС, 17, 1, 16 і наст.), ст.-в.-ням. *elira*, *erila*, н.-в.-ням. *Erle* 'вольха', ст.-ісл. *ǫlr*, *alr*, лац. *alnus* 'тс' (**alisnos*); далей збліжаюць са ст.-в.-ням. *ëlo* 'жоўты, рыжаваты' (Бернекер, 1, 453 і наст.; Траўтман, 6.) Паводле Персана, 893, ужо ў і.-е. назіралася хістанне **elis-*: **olis-* (напрыклад, ён прыводзіць ст.-ісл. *ǫlr* 'вольха', *jǫlstr* 'від вярбы', швед. *jälster*). Гл. таксама Фасмер, 3, 137 і наст.; Махэк₂, 413; Скок, 1, 772.

**Во́ля**₁ (БРС, Бяльк., Юрч., КТС, Шат., КЭС). Рус. *во́ля*, укр. *во́ля*, ст.-рус., ст.-слав. **волꙗ**, польск. *wola*, ст.-польск. *wolá*, чэш. *vůle*, славац. *vol'a*, балг. *во́ля*, макед. *волја*, серб.-харв. *во̏ља*, славен. *vólja*, в.-луж., н.-луж. *wola*. Прасл. *vol'a*. Роднаснае літ. *valià* 'тс', лат. *vaļa* 'сіла, улада', ст.-ісл. *val* н. р., ст.-в.-ням. *wala* ж. р. 'выбар', н.-в.-ням. *Wahl* 'тс', *wollen* 'хацець', ст.-інд. *várah* 'жаданне, выбар', авест. *vāra-* 'воля, адбор', кімр. *guell* 'лепей' і звязана, такім чынам, чаргаваннем са ст.-слав. **велѣти**, рус. *довлеть*, *велеть* (Траўтман, 348 і наст.; Праабражэнскі, 1, 95; Фасмер, 1, 348; Махэк₂, 704; Шанскі, 1, В, 157 і наст.).

**Во́ля**₂ 'валляк' (Гарэц., Яруш., Шат., Юрч., КЭС, Бес., Сцяшк., З нар. сл., Шатал), *во́ле* (Нас., Бяльк., Шатал.), *во́лье* (Янк. Мат., Сержп., Грам. 54), *во́ло* (Клім.). Гл. *валлё*.

**Во́ляк** 'селядцовая жыжка' (Шн., 3). З *(в)о-* і *ляк* (гл.).

**Во́маль** прысл. 'мала, малавата' (Юрч.). Да *мал-*. Адносна словаўтваральнай мадэлі гл. *вобмаль*.

**Во́марак** 'непрытомнасць' (Нас., Бяльк.). З *(в)о-* і *морак* (гл.). Гл. Праабражэнскі, 1, 529; Фасмер, 3, 104.

**Во́міт** 'рвота' (Нас.). Запазычанне з польск. *womit* 'тс', якое з лац. *vomitio* 'рваць' (Кюне, Poln., 115). Гл. *ваміт*.

**Во́мпіць**, *во́нпіць* 'сумнявацца' (Нас., КТС, Бір. Дзярж.), *во́нпіцца* 'клапаціцца' (Касп.), *во́мпіцца* 'злавацъ' (Жд., 1), *во́нпыты* 'баяцца, адчуваць, што не мінуць пакарання' (З нар. сл.). Запазычанне з польск. *wątpić* 'сумнявацца' (Карскі, Беларусы, 147; Жураўскі, SI Or, R. 10, 1961, 40; Кюне, Poln., 115; Булыка, Запазыч., 68).

**Во́мрак** 'морак' (Нас.). Рус., укр. *омрак*. ст.-рус. *омракъ*. Запазычанне з ц.-слав. *омракъ* (Праабражэнскі, 1, 529).

**Во́мут** 'вір' (КТС). Гл. *амут*.

**Во́મшар** 'мохавае балота' (Шат., Прышч. дыс., З нар. сл.). Гл. *амшар*.

**Во́н₁** прысл. 'прэч' (БРС, КТС, Касп., Бяльк., КЭС). Рус. *вон*, ст.-слав. **вънъ**, балг. *вън*, макед. *вон* 'звонку', серб.-харв. *вăн*, слав. *vèn*, чэш. *ven*, славац. *von*, ст.-польск. *wen*, в.-луж. *won*, н.-луж. *wen*. Роднаснымі з'яўляюцца ст.-інд. *vánam* 'лес', ст.-інд. месн. скл. адз. л. *vánē* 'ў лесе'. Параўн. аналагічныя літ. *laũkan* 'прэч, вон', *laukè* 'звонку', якія паходзяць з *laũkas* 'поле' (Гл. Зубаты, Studie, 2, 196—198; Гуйер, Введение, 101; Фасмер, 1, 225). Прасл. *vъnъ* першапачаткова, напэўна, уяўляла сабой він. скл. назоўніка; яно з'явілася яшчэ ў той час, калі дом і вёску акружаў лес, і абазначала паняцце, процілеглае паняццю 'дома, у хаце' (Шанскі, 1, В, 158; Махэк₂, 683). Іншыя гіпотэзы менш пераканаўчыя; Траўтман (360) узводзіць *вънъ* да ст.-прус. *wins* 'паветра', *winna* 'вонкі', *winnen* він. скл. адз. л. 'пагода', аналагічныя лат. *ârā* 'вон, вонкі', літ. *óras* 'паветра, пагода'. Як заўважае Фасмер (там жа), у такім выпадку было б цяжка вытлумачыць рус. дыял. *сво́ну* 'звонку'. Прэльвіц (40), а таксама Сразнеўскі (1, 391) параўноўваюць з грэч. *ἄνευ* 'без, акрамя, удалечыні', ст.-інд. *anō* 'не', гоц. *inu* 'без', ст.-в.-ням. *āno*, н.-в.-ням. *ohne* 'без'.

**Во́н₂**, *вона́* (займ.) 'ён, яна' (Нас.), *вонэ́* 'яны' (Шатал.). Ад *онъ* з пратэт. *в*. Гл. *ён*.

**Во́нах** 'пах' (Бяльк.). Ад польск. *wąchać* 'нюхаць' (аб апошнім гл. Брукнер, 604) з *а* ўкладным для ўстаранення сцягвання зычных.

**Во́нка** 'вон, прэч' (Др.-Падб.), *во́нкі* 'тс' (КТС, Бяльк.). Рус. смал. *во́нки* 'прэч', бранск. *во́нки* 'на двор', укр. *во́нка*, балг. *вънка*, чэш. дыял. *venka* (*j*), славац. *vonka*. Расшырэнне *вон₁* ужо ў позні час пры дапамозе прыслоўных часціц *-ка*, *-кі* (Карскі, 2—3, 77; Махэк₂, 683).

**Во́нках** 'на дварэ, звонку' (КТС, Нас., Касп., Бяльк., Др.-Падб., Гарэц., Шн., 2), ст.-бел. *вонкахъ*, н.-луж. *wenkach* 'на вуліцы, звонку'. З *вонка*, *вонкі* ў форме месн. скл. мн. л. (Карскі, 2—3, 77; таксама Трубачоў, Слав. языкозн., 5, 189).

**Во́нчык**, *во́чнік* 'сушаніца лясная, Gnaphalium silvaticum L.' (Кіс.). Няясна. Магчыма, ад *вока*, як рус. *очанка* 'Euphrasia' (Фасмер, 3, 177), з першапачатковай формай *вочнік*, адкуль потым, як рэзультат метатэзы, *вончык*.

**Вонь** часц. 'вунь' (Шат., Янк. III, Жд., 1; З нар. сл.), *вондзя* 'тс' (Касп.), *воньдзека* (Янк. I). Рус. *вон*, дыял. *вонь*, укр. *он* 'вунь, там'. Звязана з *ён*, *яна*, *яно* (Праабражэнскі, 1, 95; Фасмер, 1, 348). Гл. таксама *вунь*.



**Во́нюшка** 'адоніс веснавы, гарыцвет веснавы, Adonis vernalis' (Бейл.). Да слав. *vonja* 'пах, смурод'. Дэрываты ад гэтай асновы распаўсюджаны ў славянскіх мовах для абазначэння розных раслін з рэзкім пахам. Параўн. *ванючка*, рус. *вонючка*, укр. *вонючка*, чэш. *vonice* і г. д.

**Во́падзь** (жывёлы) 'паморак' (Нас., Гарэц., Бяльк.), *вопаць* 'эпілепсія' (Арх. Бяльк., слонім.). Параўн. рус. смал. *вопадь* 'пошасць, эпідэмія', бранск. *вопадь* 'пагібель' (Раст.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *ападаць*. Адносна другога значэння параўн. таксама рус. *падучая* 'эпілепсія'.

**Во́падзя** 'стрымгалоў' (Гарэц.). Першапачаткова дзеепрыслоўе ад *ападаць*. У семантычных адносінах параўн. чэш. *horempádem* 'тс'.

**Во́пасли** 'пасля' (Грыг.), *вопысля* (Бяльк.). Ад *во-* і *пасля* (гл.). Параўн. рус. *опосля́* 'тс'.

**Во́паўзень** 'апоўзень' (Юрч.). Гл. *апоўзень*.

**Во́перадка**, *во́пeратка* 'складзеная папалам вяровачка для кідання камення' (Сцяц.). Звязана з польск. *oprata* 'лейцы', *obrętka* 'вуздэчка', якая ў сваю чаргу ўзыходзіць да ўсходнеславянскага **ob-rъtъ*. Па народнай этымалогіі было, відавочна, звязана са словам *упе́рад*, адкуль *е*. Параўн. таксама чэш. *oprať*, *oprata* 'лейцы', дыял. *voprato* 'рамень для карзіны, ношы', *oprátka* 'пятля для павешання'. Гл. таксама *аброць*.

**Во́пінка** 'вялікая хустка' (Янк. I). Гл. *апінянка*.

**Во́піс** (БРС). Рус. *о́пись*, укр. *о́пис*, польск. *opis*, в.-луж. *wopis*, славін. *vopjisk*, чэш., славац. *opis*, балг., макед. *опис*, серб.-харв. *о̏пис*. Аддзеяслоўнае ўтварэнне да *апісаць*.

**Во́плескі** (БРС, Гарэц.). Да *пляскаць* 'біць (у далоні)'. Параўн. рус. *рукоплескания*.

**Во́прамець** 'стрымгалоў, вельмі хутка' (Нас., Гарэц., Яруш., Др.-Падб., Бяльк.), *во́прамяць* 'тс' (Бір. Дзярж.), *во́прамеццю* 'тс' (Шат., З нар. сл., калін.). Запазычанне з рус. *о́прометь* 'імклівы бег', *о́прометью* 'стрымгалоў, з усіх ног', калі меркаваць па адсутнасці ў бел. гэтага кораня і па захаванню рус. марфалагічнай формы (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 40).

**Во́пратка** 'адзенне' (БРС, КТС, Бяльк., Касп., Яруш., Сцяшк., Інстр. I). Рус. смал. *упрятка* 'адзенне', бранск. *во́п-*

*рэткі* 'тс'. Ад *апратаць* (гл.) з дапамогай суф. *-ка*. Падрабязна гл. Мяркулава, Этимология, 1974, 64 і наст.

**Вопса** 'рашуча, раз'юшана, энергічна кінуцца куды-небудзь, на каго-небудзь' (Янк. I), *вопсаддзю* 'тс' (Янк. III), *вопсасам* 'неадчэпна, смалою лезці' (Сцяц., зэльв.). Гл. *вобцас*.

**Во́пух** 'пухліна' (Жд., 1, Мат. Гом.). Рус. *о́пух, во́пух,* укр. *о́пух* 'тс'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *апухнуць* (гл.).

**Во́пыт** (БРС, КТС). Да *апытаць*. Рус. *о́пыт,* укр. *о́пит,* 'распытванне, допыт', польск. *opyt* 'тс', серб.-харв. *о̀пит* 'вопыт, эксперымент' (запазычанне з рус.— Скок, 2, 666), балг., макед. *опит* 'тс' (таксама, відавочна, з рус.). Па даных КГС, у беларускіх помніках слова ўжываецца толькі ў адным значэнні 'допыт'. Значэнні 'навуковы эксперымент' і 'сукупнасць ведаў' з'яўляюцца, відавочна, запазычанымі з рус. мовы, дзе яны развіліся таксама даволі позна, у XVIII ст. (Каткоў, Сказки..., 84—85). Вытворныя ад гэтай лексемы *вопытны, вопытніцтва*—гэта калькі адпаведных рус. слоў *опытный, опытничество* (Крукоўскі, Уплыў, 110).

**Вор**₁ 'мех, мяшок' (Нас., Сцяшк., Янк. БП), *ворак* 'мяшочак' (Нас., Сцяшк., Шатал., Вешт.); 'мяшочак для адкідвання сыру' (Мат. Гом.). Запазычанне з польск. *wór, worek* 'мех, торба' (Кюне, Poln., 115; Булыка, Запазыч., 69).

**Вор**₂ 'хлеў' (Нас., Рам., 8, 327); 'двор для жывёлы' (Бяльк.). Рус. *вор, во́ра* ж. р. 'плот, агароджа', дыял. таксама 'агляд рыбалоўнага садка', укр. *вори́на* 'жэрдка для агароджы', ст.-рус. *воръ* м. р., *вора* ж. р. 'тс', чэш. *vor* 'плыт'. Звязана з рус. *верать* 'усоўваць, хаваць, укладваць, капацца', ст.-слав. **въврѣти** 'ўсунуць', чэш. *-vříti* '-крываць'. Роднасныя таксама літ. *vãras* 'жэрдка ў плоце, агароджы', *apìvaras* 'загон', гоц. *warjan* 'перашкаджаць', оск. *veru* наз. скл. мн. л. 'дзверы' (Фасмер, 1, 350; Махэк₂, 697). Гл. таксама *ворык*.

**Вор**₃ 'злодзей, выкрадальнік' (Нас., Бяльк.). Запазычанне з рус. *вор* 'тс'.

**Во́раг** 'непрыяцель, праціўнік' (БРС, КТС, Нас., Бяльк., Шат., Касп., Яруш., Булг., Шпіл.). Рус. *во́рог* 'непрыяцель; нячысцік, чорт', укр. *во́рог,* ст.-рус. *ворогъ,* ст.-слав. **врагъ,** польск. *wróg* 'непрыяцель', чэш. *vrah* 'забойца', славац. *vrah* 'тс', балг. *враг,* серб.-харв. *вра̂г,* славен. *vrâg* 'чорт, д'ябал'. Прасл. **vorgъ* 'вораг'. Роднаснымі з'яўляюцца літ. *vargas* 'бяда, няшчасце, беднасць', *vérgas* 'нявольнік', лат. *vàrgs* 'няшчасны, хворы, убогі'; 'бяда, бедства', *vãrgt* 'хварэць, чахнуць, быць няшчасным', *vęrgs* 'нявольнік', ст.-прус. *wargs* 'злы', магчыма, і лац. *urgeō* 'напіраю, ганю', гоц. *wrikan* 'праследаваць', ст.-англ. *wrecan* 'выганяць, помсціць', ст.-в.-ням. *rehhan* 'мсціць' (Вальдэ—Покарны, 1, 319 і наст.; Траўтман, 342; Фасмер, 1, 352; Шанскі, 1, В, 164). Аналагічна Трубачоў (История терм., 176 і наст.), які выводзіць слав. *vorgъ* з і.-е. **u̯reg-/u̯erg-* 'гнаць', г. зн. першапачаткова слав. слова азначала 'выгнаннік, адрынуты' і толькі пазней — 'вораг, непрыяцель'. Па фанетычных прычынах памылкова супастаўленне Абаева (Осет. яз., 581) з асец. *warz* 'любіць' (Трубачоў, там жа). Мала верагодна супастаўленне са ст.-ісл. *wargr* 'воўк, злачынец' (Міклашыч, 395; Мікала, WuS, 2, 218) або разгляд слав. слова як запазычання з герм. (Махэк₂, 698), таму што герм. запазычана з слав. (Мартынаў, Лекс. взаим., 153 і наст.).



**Во́ран** 'звычайная варона' (Дразд.). Па адзінкавасці фіксацыі хутчэй за ўсё — запазычанне з рус. *ворон* 'крумкач'.

**Во́рань** 'узаранае для сяўбы поле, ралля' (Яшк.), *во́ранка* 'аранне зямлі' (КТС). Укр. *о́ранка,* 'ўзорванне зямлі, час арання', польск. *oranina* 'ўзаранае поле', чэш., славац. *oranina* і г. д. Ад *оран-,* асновы залежнага дзеепрым., з дапамогай суф. *-ь, -ка.*

**Во́рапень** 'гультай, лежабок' (Бяльк.). Магчыма, з *варапай* (гл.) з прычыны генералізацыі адмоўнай ацэнкі. Але параўн. рус. дыял. *воропи́счина* 'дубіна, палка' і літ. *vir̃ptis* 'жэрдка, шост', *vir̃pstas* 'тс' (Іванаў, Тапароў, Иссл., 248), якія ставяцца ў сувязь з *вороп, варапай.* У такім выпадку мы, магчыма, маем справу з пераносным значэннем *ворапень* *'дубіна, жэрдка' (перанос 'дубіна'→'лежабок, дурань' звычайны) і з захаваннем архаічнай семантыкі.

**Во́рат** 'дзірка ў мяху, праз якую насыпаюць што-небудзь' (Нас.); 'каўнер' (Бяльк., Грыг., КЭС, віц.); 'каўнер, прарэх' (Шатал.). Рус., укр. *во́рот* 'каўнер', ст.-рус. *воротъ* 'шыя', ст. слав. **вратъ,** балг. *врат,* серб.-харв. *вра̑т,* славен. *vrât* 'шыя', польск. *wrot* 'вяртанне', в.-луж. *wrót* 'паварот'. Звязана чаргаваннем з *вярцець* (Фасмер, 1, 354). Прасл. *vortъ*—аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *vortiti* (гл. *варочаць*), першапачаткова Nomen actionis 'паварот, тое, што варочаецца' (Брукнер, 632; Скок, 3, 618 і наст., Шанскі, 1, В, 167 і наст.). У бел. мове значэнне 'каўнер', калі меркаваць па лакалізацыі, магчыма, пад рус. уплывам.

***Во́рата**₁, *во́рото* 'завеса, пятля для варот' (Шушк.). Гл.

*вароты.* Адносна марфалагічнага афармлення параўн. чэш. дыял. *vráto* (н. р. адз. л.) 'створка варот'.

**Во́рата₂** 'памылка пры снаванні красён' (Мат. Гом.). Да **вараціць, варочаць.* У семантычных адносінах параўн. *вобрацень* 'тс'.

**Во́рах** 'куча зерня або гною' (Выг. дыс.); 'куча прысыпанай зямлёй бульбы' (Ліс.); 'шум, шорах' (Нас.); 'страх, дрыжыкі' (Касп.), *во́рашна* 'страшна' (Касп.), *во́рахам* (расці) 'кучай' (З нар. сл.); 'куча' (Шатал.). Рус. *во́рох* 'куча, груда', укр. *во́рох* 'тс', рус. ц.-слав. *врахъ* 'ворах', балг. *врах* 'ток; снапы, якія прызначаны для абмалоту', польск. *zawroch* 'мяцеліца, віхар'. З другой ступенню вакалізму: рус.-ц.-слав. *вьрху, врѣшти* 'малаціць', балг. *връха* 'малачу', славен. *vršiti* 'вытаптаць снапы скацінай'. Роднаснымі з'яўляюцца лат. *vârsms* 'хлеб, які прызначаны для абмалоту'; 'ворах правяленага зерня', лац. *verrō, -ere* 'валаку, мяту' (з **versō*), грэч. *ἔρρω* 'з цяжкасцю хаджу, цягнуся', ст.-в.-ням. *wërran* 'путаць' (Вальдэ₂, 283; Траўтман, 362; Эндзелін, IF, 33, 126; Выгонная, Лекс. Палесся, 86). Магчыма, *vьršiti* звязана з і.-е. назвай вала (ст.-інд. *vṛ̥ṣaḥ* і інш.). Параўн. *вол* (Мартынаў, вусн. паведамл).

**Во́рвань** 'лой, які вытапліваецца з сала марскіх жывёлін' (БРС, КТС). Запазычанне з рус. *ворвань* 'тс' (Шанскі, 1, В, 163), дзе яно са ст.-швед. *narhval,* швед., дац. *narval,* ст.-ісл. *náhrvalr* 'кіт' (Фасмер, 1, 351).

**Во́рвыль,** *во́рволь* 'ворвань' (Бяльк., КТС), *ворвол'а* 'каламазь' (КЭС). Гл. *варволь.*

**Во́ркіш** 'гатунак ячменю' (Мядзв.). Гл. *оркіш.*

**Во́рлікі** 'вадазбор звычайны, Aquilegia vulgaris L.' (БРС, Кіс., Гарэц., Нас., Касп.). Рус. *орлика,* серб. *ȍрлица,* чэш. *orlíček.* Назва ўтворана ад лац. *aquila* 'арол', таму што лісце венчыка гэтай расліны падобныя да кіпцюроў арла (Сімановіч, 42). Махэк₂ (417) лічыць, што гэта назва з'явілася ў выніку памылковай этымалогіі — няправільнага члянення лац. *aquilegia.*

**Ворс,** *ворса* (БРС, КТС, Нас., Касп.) 'адходы воўны пры часанні ў выглядзе асобных кароткіх валокнаў' (Влад.); 'мяккая воўна' (Мядзв.). Рус. *ворс,* укр. *ворс.* Відавочна, сумеснае ўсходнеславянскае запазычанне са ст.-перс. *vars* 'волас'; параўн. таксама авест. *varəsa* 'волас', н.-перс. *gars* 'тс', роднаснае рус. *волос* (Фасмер, 1, 355; Шанскі, 1, В, 169; Брукнер, 627). З слав. запазычана літ. *varsà* 'жмут шэрсці, валасоў' (Буга, KS, 199; Скарджус, Slav., 233).



**Во́рчык₁** 'барак, пры дапамозе якога запрагаюць каня ў плуг; брусок з жалезным крукам на сярэдзіне, за які зачэпліваюцца пастронкі' (БРС, КТС, Нас., Касп., Гарэц., Бяльк., Др.-Падб., Мядзв., Сцяшк.). Рус. *о́рчик* 'перакладзіна, барак для пастронкаў вупражы каня', укр. *во́рчик,* польск. *orczyk* 'тс'. Запазычана з с.-в.-ням. *ortschit,* н.-в.-ням. *Ortscheit* 'тс' праз польск. мову (Міклашыч, 225; Мацэнаўэр, 265; Більфельдт, 29). С.-в.-ням. слова ўтворана з *ort* 'вастрыё, канец' і *schit* 'палена' (Фасмер, 3, 155). Праабражэнскі (1, 659) дапускае магчымасць зваротнага ўздзеяння польск. *orczyk* на ням. і набліжае *орчик* да *арчак* (гл.), *о́рчак* 'лука, драўляны каркас сядла', што менш верагодна.

**Во́рчык₂** 'прыпрэжаны конь' (Мат. Гом.). Гл. *варчак.*

**Во́рык** 'двор для жывёлы ці хлеў' (Бяльк., Яшк., маг.). Рус. *ворок* 'тс'. Да *вор₂* (гл.).

**Восакар** 'ясакар' (Шатал.), *во́сакарань* 'тс' (З нар. сл.). Гл. *ясакар,* у дадзеным выпадку з іншай пратэзай; параўн. рус. *осокорь, выскорь* 'тс'.

**Во́сапа** 'аса, Wespa vulgaris' (Касп.), *во́спа* 'тс' (З нар. сл., маг.). Няясна. Магчыма, як лічыць Трубачоў (Слав. языкозн., 5, 177), з **vospa,* рэлікта старой метатэзы, якую знаходзім у лац. *vespa* 'аса' (<**vospa*) і цяперашнім ням. *Wespe* пры больш распаўсюджаным першапачатковым тыпу **vo(p)sa* з і.-е. **uobhsā;* параўн. літ. *vapsà,* ст.-в.-ням. *wafsa.* Гл. таксама *аса, асва.*

**Восва** 'аса' (Бяльк., Гарэц., Мат. Гом., Інстр. II), *восма, восва* 'тс' (Жд., 1). Гл. *аса, асва.*

**Восем** (БРС, Яруш., Бяльк., КТС, Шат.). Рус. *во́семь,* укр. *ві́сім,* ст.-рус., ст.-слав. **осмь** 'восем', балг. *о́съм,* серб.-харв. *ȍсам,* славен. *ósem,* чэш. *osm,* славац. *osem,* польск. *ośm,* в.-луж. *wosom,* н.-луж. *wosym.* Прасл. **osmь* 'восем' — новаўтварэнне ад *osmъ* 'восьмы', падобна *šestь : šestъ, devętь : devętъ* і г. д. (Праабражэнскі, 1, 99; Фасмер, 1, 231). І.-е. **ok̑tō(u);* параўн. літ. *aštuonì,* лат. *astuôni,* ст.-інд. *aṣṭā́u, aṣṭā́,* авест. *ašta,* арм. *ut'*, грэч. *ὀκτώ,* лац. *octō,* гоц. *ahtáu,* ірл. *ocht,* тахар. *ɔkadh* (Траўтман, 15; Торп, 8; Майргофер, 1, 63). У і.-е. **ok̑tōu* 'восем' бачаць форму пар. л. ад **oketā* 'барана', першапачаткова 'чатырохзубая' (літ.-ру гл. Фасмер, там жа). Гл. таксама Махэк₂, 419; Шанскі, 1, В, 170; Супрун, Числит., 11 і наст.

**Во́семка** 'васьмёрка ў картах' (Гарэц., Бяльк.). Запазычанне з польск. *ósemka* 'тс'. Аб уплыве польскай картачнай тэрміналогіі на ўсходнеславянскую гл. Чэрнышаў, РР н. с., 11, 61.

**Во́сенскі** 'асенні' (Касп.), *восінскій* 'тс' (Бяльк.). Серб.-харв. *jѐсе̄нски* 'тс', рус. *о́сень* — *о́сенски* 'ўсю, цэлую восень'. Да *восень* (гл.); з гэтай суфіксацыяй, магчыма, архаізм.

**Во́сень** (БРС, Нас., КТС, Бяльк., Яруш., Мал., Грыг.). Рус. *о́сень*, дыял. *есень*, укр. *о́сінь*, ст.-рус. *осень*, серб.-ц.-слав. *ѥсень*, польск. *jesień*, чэш., славац. *jeseň*, балг. *есента́*, серб.-харв. *jѐсе̑н*, славен. *jesȇn* (Далабко, ZfslPh, 3, 131). Роднаснымі з'яўляюцца ст.-прус. *assanis* 'восень,' гоц. *asans* ж. р. 'жніво', ст.-в.-ням. *aran*, *arn* 'ураджай' (Траўтман, 71; Мейе, Etudes, 432). Прасл. *osenь* (Слаўскі, 1, 563). Далей наближаюць таксама да грэч. ὀπώρα 'канец лета, жніво' з **op-osarā* 'пасля жніва' (гл. Фасмер, 3, 158; Праабражэнскі, 1, 661). Трубачоў (Дополн., 3, 159) лічыць малаверагодным набліжэнне да хец. *zenn-* 'канчаць' у Бенвеніста (BSL, 56, 29 і наст.) і супастаўленне слав. слова з венг. *ősz* у Махэка₂ (176), паколькі апошняе ўзыходзіць да зусім іншай праформы. Мартынаў (Лекс. взаим., 132 і наст.) разглядае слав. слова як дэрыват ад **os-* (бел. *восць*, рус. *ость* і г. д. 'вусікі на коласе') з суф. *-enь*, а герм. *asani* як пранікненне з слав. Інакш Тапароў (Прус., 130 і наст.).

**Во́сець** (БРС, Касп., Янк. Мат., Янк. II, Шн., 1, Сцяшк., КЭС, ДАБМ, 827, Бір. Дзярж., Мат. Гом.). Гл. *асець*.

**Во́сілка** 'ручка вядра або чайніка' (БРС, КТС, Янк. Мат., Янк. III, Сцяшк. МГ, Мат. Гродз.). Памяншальнае да *сіло*, утворанае прэфіксальна-суфіксальным спосабам; параўн. рус. *осилок* — памянш. ад *сило*.

**Воск** (БРС, Бяльк., КТС), *вўоск* (Бес.). Рус. *воск*, укр. *віск*, ст.-рус. *воскъ*, польск. *wosk*, чэш. і славац. *vosk* 'воск, масціка', в.-луж., н.-луж. *wosk*, каш. *vosk*, палаб. *wask*, ст.-слав. **воскъ**, балг. *во́сък*, серб.-харв. *во̏сак*, славен. *vósek*. Прасл. *voskъ* (Махэк₂, 697). Роднаснымі з'яўляюцца літ. *vãškas*, лат. *vasks*, ст.-в.-ням. *wahs*, н.-в.-ням. *Wachs*. Магчыма, што роднасным будзе і грэч. ἰξός 'птушыны клей' (Траўтман, 343; Фасмер, 1, 231; Клюге, 830). Торп (381) і Праабражэнскі (1, 99) лічаць слова запазычаннем з герм., але ў гэтым выпадку нельга растлумачыць метатэзу *ks/sk* (Кіпарскі, 95; Брукнер, 631; Фасмер, 1, 357; Шанскі, 1, В, 170 і наст.).

**Во́сланкі** 'збітыя дошкі, якія кладуць на дно воза' (Шатал.). Рус. *ослоны* 'жэрдкі, на якія кладуць снапы для прасушкі', укр. *ослін*, *ослонок* 'прадаўгаватая лаўка', польск. *osłonka* 'дошка на дне воза', у польск. дыял. на чэшскай тэрыторыі *uosuony-osłony* 'бакавыя дошкі на калёсах', чэш. *oslon* 'чаленік', в.-луж. *wosłon* 'дошкі', серб.-харв. *óslon* 'апора, падтрымка', славен. *oslon* 'дошкі для насцілкі ў калёсах'. Прасл. *oslonъ* 'дошка, жэрдка'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад **osloniti* (Махэк₂, 419). Гл. *засланіць*.



**Во́сма** 'асва' (Жд., 1). З *восва* (гл.) у выніку нерэгулярных дыялектных фанетычных змяненняў; параўн., напр., *шворын* — *шморын* (Бяльк.).

**Во́спа** (БРС, Шат., Бяльк., Яруш., Бес., КЭС). Рус. *о́спа*, дыял. *во́спа*, укр. *віспа*, ст.-рус., ц.-слав. *осъпа*, польск. *ospa*, в.-луж. *wospica* 'адзёр', н.-луж. *wospica* 'тс', чэш. *ospica* 'сып', славац. *ospice* мн. л. 'тс', балг. *о́спа* 'тс', серб.-харв. *о̏спа* 'воспа', славен. *óspice* мн. л. 'адзёр'. Прасл. **o-sъp-a* з **obsъpa* (Махэк₂, 419; Мяркулава, Этимология, 1970, 146 і наст.). Да *сыпаць* (гл.). Параўн. Праабражэнскі, 1, 664 і наст.; Фасмер, 3, 164.

**Во́страў** (БРС, КТС, Касп., Яруш., Яшк.), *во́страва* 'поле паміж лугамі' (Яшк.). Рус. *о́стров*, укр. *о́стрів*, ст.-рус., ст.-слав. **островъ** 'востраў', польск. дыял. *ostrów* 'участак поля пасярод сенажаці', каш. *ostróv* 'узвышанае месца на полі або на сенажаці', чэш., славац. *ostrov*, балг. *о́стров*, серб.-харв. *о̏стрво*, славен. *ostróv*, в.-луж. *wotrow*, н.-луж. *wótšow*, палаб. *våstrü'v*. Прасл. *o-strovъ* 'тое, што абцякаецца, рачны востраў'. Да *струмень* (гл.). Роднаснымі з'яўляюцца літ. *sravà* 'цячэнне, крывацёк', *prasrava* 'цячэнне вады', лат. *stràva* 'цячэнне'. З іншай ступенню вакалізму: літ. *srovė̃*, *strovē̃* 'цячэнне', лат. *stràva*, *strāve* 'тс', усх.-літ. *sraujà*, ст.-інд. *girisravā* 'горны паток' (Міклашыч, 318; Траўтман, 279 і наст.; Фасмер, 3, 165). Параўн. у семантычных адносінах серб.-харв. *о̏tok* 'востраў'. Асаблівасці семантыкі слова *востраў* у бел. мове гл. Талстой, Геогр., 116 і наст.

**Востры**, *войстры* (БРС, Нас., Яруш., КТС, Шат., Касп., Бяльк.). Рус. *о́стрый*, укр. *о́стрий*, *го́стрий*, ст.-рус., ст.-слав. **остръ**, польск. *ostry*, чэш., славац. *ostrý*, балг. *о́стър*, серб.-харв. *о̏шта̄р*, *о̏штра*, *о̏штро*, славен. *óster*, *ȏstra*, *óstro*, в.-луж. *wostry*, н.-луж. *wótšy*. Для прасл. рэканструюецца *ostrъ* (Махэк₂, 421). Роднаснае літ. *aštrùs*, лат. дыял. *astrs* 'конскі волас', ст.-інд. *áśriḥ* ж. р. 'край, вугал, грань, лязо'; *aśániḥ* 'вастрыё стралы, кідальная зброя', грэч. ἄκρος 'верхні,

крайні', ἄκρον 'вяршыня, край, канец', лац. *ācer* 'востры', арм. *asein* 'ігла', ст.-ірл. *ēr* 'высокі' (**akros*), алб. *áthëtë* 'кіслы, даўкі', грэч. ὄκρις 'вастрыё, вяршыня гары', лац. *ocris* 'mons confragosus', ст.-ірл. *ochar* 'вугал, выступ' (гл. Траўтман, 15; Праабражэнскі, 1, 666; Майргофер, 1, 61; Фасмер, 3, 167; там і інш. літ.).

**Во́стрыца** бат. 'Deschampsia P. B.' (КТС, Кіс.). Рус. *остри́ца* 'Sagina', укр. *остри́ця* 'Asperugo procumbens', польск. *ostrzyce*, чэш. *ostřice* 'Carex'. Ад *востры* (гл.) паводле формы лісця (Махэк$_2$, 421).

**Во́ступ** 'запаведнае глухое месца ў лесе' (Яшк., КТС); 'квартал лесу, пушчы' (Яшк.); 'аблава на ваўкоў' (КТС); 'грамада людзей на аблаве, якая падымае шум і крык, каб ваўкі беглі на стральцоў' (КЭС), *во́ступ воўчы* 'месца, дзе водзяцца ваўкі' (Касп.). Гл. *оступ*.

**Во́сце** выкл. здзіўлення (Нас.). Рус. *во́сьте* 'тс'. З *вось* (гл.) і *те*. Фасмер (4, 34) лічыць *те* скарочанай формай рус. займ. *тебе*, ст.-слав. **тебѣ**, а не старой формай дав. скл. адз. л. ст.-рус., ст.-слав. **ти** 'табе', як мяркуюць Гараеў (362 і наст.) і Дурнаво (Очерк, 293). (Гл. Фасмер, 4, 34).

**Во́сцеж** выкл. (2-я асоба мн. л.) (Нас.) «Восцеж вам на закуску!» З *вось+те* і часц. *ж*, дзе *це* (<*те*) — канчатак 2-й асобы мн. л. загаднага ладу, як у рус. *нуте*, *полноте* і г. д. (Фасмер, 4, 34).

**Во́сці** 'прылада для палявання на рыб' (БРС, Шат., Касп., Бяльк., Мядзв., КЭС, Янк. Мат.), *восць* 'тс' (З жыцця); 'асцюкі' (БРС, КТС), *вось* 'тс' (Шатал.). Рус. *ость* 'тс', польск. *ość*, чэш., славац. *ost'*, н.-луж. *wósć* 'вастрыё, калючка, косць рыбы', славен. *ôst* 'тс'. Параўн. літ. *akštis*, *akstìs* 'драўляны ражон; палачка, на якую насаджваюць рыбу пры вэнджанні', усх.-літ. *akstyns* 'калючка', лат. *aksts*, грэч. ἀκοστή 'ячмень', гоц. *ahs* 'колас', лац. *acus* 'асцюкі, мякіна' (Траўтман, 5; Буга, РФВ, 65, 305; Фасмер, 3, 167). Для параўнання гл. яшчэ *асцюк*.

**Во́сып** (БРС, КТС). Рус. *о́сыпь*, укр. *о́сип* 'подаць зярном', польск. *osyp* 'дзеянне па дзеяслову *osypać*', серб.-харв. *òsip* 'сып'. Да *асыпаць* (гл.).

**Во́сыпка** 'мука або атрубы, якімі пасыпаюць корм жывёле' (БРС); 'высыпка на целе, прышчы' (БРС, Шат.). Укр. *о́сипка* 'здробнены ячмень, які даюць баранам у час злучкі і маладым баранчыкам; плата мукой або просам пастуху', польск. *osypka* 'мука, якой пасыпаюць корм жывёле', чэш. *osypka* 'сып'. Ад *восып* (гл.) з дапамогай суф. *-ка*. Параўн. *высыпка*.



**Вось**$_1$ (БРС, Нас., Гарэц., Касп., Бяльк., КЭС, КТС). Рус. *ось*, укр. *вісь*, род. скл. *воси*, ст.-рус., ц.-слав. *ось*, балг. *ос*, серб.-харв. *ôс*, славен. *ôs*, род. скл. *osî*, чэш., славац. *os*, польск. *oś*, в.-луж. *wóska*, н.-луж. *wós*, палаб. *vüs*. Генетычна тоеснымі да славянскіх форм з'яўляюцца літ. *ašìs* 'вось', лат. *ass*, ст.-прус. *assis*, ст.-інд. *ákṣaḥ* м. р., авест. *aša-*, лац. *axis*, ірл. *aiss* 'павозка', грэч. ἄξων 'вось', ст.-в.-ням. *ahsa* ж. р. 'вось' (Траўтман, 14 і наст.; Праабражэнскі, 1, 667; Фасмер, 3, 168; Майргофер, 1, 16).

**Вось**$_2$ выкл. (БРС, Нас., Яруш., Гарэц., КЭС, Шат.), *вося* (Нас.). Рус. *восе*, ст.-рус. *восе* 'тс'. З *во* (гл.) і *се* 'вось, гэта' (Фасмер, 1, 356). Сюды ж і *вось* 'потым' (Жд., 1); параўн. рус. *во́сеть* 'нядаўна'.

**Во́сьдзека**, *восьдзечка* 'вось тут, блізка' (Шат.). З *вось+ +дзе+ка*, дзе *-ка* — вядомая пры ўтварэнні прыслоўяў часціца; *-ч-* перад *-ка* надае прыслоўю ласкальны характар (Карскі, 2—3, 68 і наст.).

**Во́сьні** 'сны' (Касп.). Рус. *восня* 'тс', *воснях*, *восна́х* 'у сне'. Назоўнік *восня*, відавочна, з'явіўся вынікам скарачэння прысл. **воснях*, якое ў сваю чаргу ўтворана ад *во-* і *сон* у месн. скл. мн. л.

**Во́сяка** 'вось тут' (Шат.). Ад *вося* (гл. *вось*) і часц. *-ка*.

**Во́та** 'абяцанне' (Нас.). Запазычанне з лац. *votum* 'тс' праз польск. *wota* (Кюне, Poln., 115).

**Во́так** 'вадкасць, што выцякае з застарэлых ран' (КЭС). Рус. *оток* 'ацёк, падскурная вадзянка', ст.-рус. *отокъ* 'тс', польск. *otok* 'вадкасць', чэш. *otok*, серб.-харв. *ȍток*, балг., макед. *оток* 'пухліна, ацёк'. Прасл. *otokъ*. Да *цяку*, *цячы* з іншай ступенню агаласоўкі. Ад прасл. *otokъ* 'востраў' адрозніваецца акцэнтуацыяй, словы паходзяць ад аднаго і таго ж дзеяслова, але семантычна разышліся (Скок, 3, 450).

**Вотаўсця** 'таўставата' (Шат.). Рус. *во́толсто* 'тс'. Ад прыслоўя *тоўсце* і прыстаўкі *во-*, якая, магчыма, з *о-*, *об-* у колькасным значэнні (больш падрабязна гл. *вомаль*, *вобмаль*, там і літ.). Не зусім ясна з'яўленне *-е*, хаця зрэдку яно і сустракаецца; параўн. рус. *во́близке* 'паблізу', *во́сине* 'сінявата'.

**Вотліг** 'адліга' (Бяльк.). Гл. *адліга*.

**Во́тлынь** 'затока' (Яшк., слаўг.). Утварэнне ад дзеяслова **атлынуць;* параўн. *адлынуць* 'атхлынуць' (Бяльк.) з суф. *-jь* або з **вотхлынь*, якое з *адхлынуць;* параўн. маг. *атхлань* (гл.).

**Во́тмаладзь** 'зараснік маладых парасткаў на бярозавых, альховых высеках' (Яшк., жыт.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад **атмаладзіць*; параўн. польск. *odmłodzić.*

**Во́тмеле** 'пясчаная каса ў рацэ' (Яшк.). Гл. *водмель.*

**Во́тмут,** *вотмуць* 'вір на рацэ; глыбокае месца ў рацэ ці возеры' (Яшк., слаўг., цэнтр. і ўсх. Палессе). Польск. *odmęt* 'тс', палаб. тапонім *Votmąt.* Аднакаранёвае і *вомут* (гл.) (Талстой, Георг., 214); з *ot-* і *-mǫt.*

**Во́тмык** 'глыбокае месца ў рацэ, дзе раней быў млын' (Яшк., слаўг.). Няясна. Магчыма, нейкае пераўтварэнне з *вотмут*, *вотмыт*, але канкрэтны шлях незразумелы.

**Во́тмыт** 'вір, яма; вельмі глыбокае месца ў рацэ ці возеры' (Яшк., слаўг.). Відавочна, з *вотмут* (гл.), у адпаведнасці з народнай этымалогіяй суаднесенага з *мыць, вымываць.*

**Во́траніца** 'адгароджанае бярвеннямі месца для ссыпу мякіны ў таку' (Шатал.). Ад *вотраны (*гл. *вотрыны)* з суф. *-іца.*

**Во́труб'е** (БРС, Нас., Касп., Мядзв.), *во́траби* 'вотруб'е' (Грыг.), *во́трубы* 'высеўкі' (Сцяшк.). Рус., укр. *о́труби,* ст.-рус. *отруби,* польск. *otręby, otręba* (каля 1500 г.), чэш. *otruba,* славац. *otruby*, в.-луж. *wotruby*, н.-луж. *wótšuby*, каш. *otrąbë*, серб.-харв. *otrubi*, славен. *otrôbi.* Прасл. **otrǫba, otrǫbi.* Да *рубіць* (гл.), літаральна 'тое, што адсечана ад зерня' (гл. Праабражэнскі, 1, 670; Фасмер, 3, 173; Махэк$_2$, 423; Брукнер, 386 і наст.). Міклашыч (228) і Шпэхт (267) мяркуюць, што слова роднаснае *цярэць* і ўтворана ад адпаведнай асновы з дапамогай суф. *-ǫbь.* Машынскі (Pierw., 318) падтрымлівае гэту этымалогію, спасылаючыся на рус. *вы-торкі* 'вотруб'е'. Апошняя версія, прымальная ў семантычных адносінах, мала верагодна з пункту погляду словаўтварэння.

**Во́трыны,** *вотрана* 'адходы пры ачыстцы зерня' (Яруш., Касп., Бяльк., Мядзв., Шн., Жд., 1, Шатал.), *во́трына* 'пустыя каласы і дробная салома, якія застаюцца пасля малацьбы' (Нік., Оч., 102). Рус. *во́тря, во́трина* 'тс', укр. *три́ни* 'перацёртая салома', польск. *trzyny* 'апілкі', чэш. *oteřiny, třiny* (sena) 'дробныя рэшткі сена, якія рассыпаліся', славац. *oteriny* 'апілкі', серб.-харв. *три̏не* 'мякіна', славен. *trica* 'адходы пры ачыстцы льну', балг. *три́ци* 'мякіна'. Прасл. *trina, trini* (параўн. літ. *trinù, trìnti* 'праціраць, пілаваць, зношваць адзежу', лат. *trinu, trît* 'тс'. Да *terti* (гл. *цярэць*) (Праабражэнскі, 2, 167; Фасмер, 3, 172; Брукнер, 579; Махэк$_2$, 658 і наст.). Семантыка і словаўтварэнне іншаславянскіх адпаведнікаў сведчаць супраць гіпотэзы Тапарова (Прус., 174) аб магчымасці адняесення рус. і бел. слоў да кораня **vě(ja)ti* (г. зн. *вотрыны* 'тое, што адвеяна'; параўн. рус. *отвéй, отвéв* 'дробнае шалупінне, якое атрымліваецца пры веянні') і выдзялення тут суф. *-tr-*. Да кораня *ter-,* як мяркуе Кошалеў, адносіцца рус. *трын-трава* (ЕіЛ, 19, 4, 105). Адносна форм без *-ін-* гл. *атора.*



**Во́тум** (БРС). Запазычанне з лац. *votum* праз рус. *во́тум* (Крукоўскі, Уплыў, 80). Ст.-бел. *вотум* 'голас' з польск. *wotum*<лац. *votum* (Булыка, Запазыч., 19).

**Во́тхлань** 'чысцец' (Шн., 2). Гл. *атхлань.*

**Во́тчым** 'айчым' (Касп., Шат.). Рус. *во́тчим, о́тчим,* укр. *вітчим,* рус.-ц.-слав. *отъчимъ,* польск. *ojczym,* в.-луж. *wótčim,* чэш. *otčim*, славен. *očim.* Гл. *айчым.*

**Во́тчына** 'спадчыннае зямельнае ўладанне, бацькаўшчына' (БРС, Нас.); 'пасека, прыдатнае для пчол месца' (Маш., рэч.; Яшк., стол., слаўг.). Ст.-бел. *отъчина* 'спадчыннае зямельнае ўладанне, бацькаўшчына', ст.-рус. *отъчина,* ст.-слав. **отъчина** 'тс', рус. перм., казан. *вотчина* 'спадчыннае ўладанне'; 'пасека'. Да *отьсь* (гл. *ацец*) (Фасмер, 1, 359; Трубачоў, История терм., 27 і наст.). Значэнне 'пасека' развілося, відавочна, з абазначэння аднаго з відаў маёмасці, атрыманай у спадчыну; параўн. ст.-рус. *отчина бортная* (Сразнеўскі, 2, 831), н.-луж. і в.-луж. *dźědźica* 'сасна з борцю' (Шустэр-Шэўц, Probeheft, 53) ад *dědіti* 'дставаць маёмасць у спадчыну'. *Вотчына* ў першым значэнні ў суч. бел. літ. мове, магчыма, запазычанне з рус. (Крукоўскі, Уплыў, 28). Параўн. *вотчыч.*

**Во́тчыннік** 'спадчынны ўладальнік' (БРС, Нас.). Рус. *во́тчинник* 'тс'. Да *вотчына* (гл.). У сучаснай бел. мове з'яўляецца запазычаннем з рус. (Крукоўскі, Уплыў, 28).

**Во́тчыч** 'пчаляр' (Маш., рэч., Янк. II, глус.), *воцціч* (Мат. Гом.), *отчыч* (КТС) 'тс'. Рус. *вотчинник* 'уладальнік вотчыны (пасекі), пчаляр', укр. палес. *вочичь* 'пчаляр'. Да *вотчына* 'пасека' (Малько, БЛ, 9, 57). У семантычных адносінах параўн. ст.-в.-луж. *dedicz, dediczer* 'пчаляр, бортнік' (Шустэр-Шэўц, Probeheft, 53). Гл. таксама *воччан.*

**Воўк** (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк.). Рус. *волк,* укр. *вовк,* ст.-рус. *вълкъ,* ст.-слав. **влькъ,** польск. *wilk,* каш. *vêlk, vilk,*

в.-луж. *wjelk*, н.-луж. *wel'k*, чэш., славац. *vlk*, серб.-харв. *ву̑к*, славен. *vôlk*, балг. *вълк*, макед. *волк*. Прасл. *vьlkъ*. Роднаснае літ. *vilkas*, лат. *vilks*, гоц. *wulfs*, алб. *ulk*, ст.-інд. *vṛ́kas*, авест. *vəhrka-*, грэч. λύκος, лац. *lupus* (запазычана з сабін.) (Траўтман, 359; Вальдэ, 447; Уленбек, 291; Богач, LF, 33, 103 і наст.; Шпехт, KZ, 66, 26 і наст.). Узыходзіць да і.-е. *u̯el-* 'рваць', г. зн. *воўк* 'той, які разрывае, раздзірае' (Праабражэнскі, 1, 92; Фасмер, 1, 338; Шанскі, 1, В, 148). Сюды ж *валачыць* (гл.). У грэч. λύκος і лац. *lupus*, якія ўзыходзяць да і.-е. **lukos*, адбылася табуістычная метатэза (Трубачоў, ВСЯ, 3, 123). Абаеў (ОЯФ, 1, 592 і наст.) указвае на верагоднасць захавання спрадвечна лац. **vulcus*, **volkus* 'воўк' у *Vulkānus* 'бог Вулкан'. Карнуа (Трубачоў, Дополн., 338) параўноўвае апошнюю лексему з грэч. Ϝελχανός 'Зеўс у крыцян' і хец. *u̯alh-* 'біць', адкуль этрус. *vel*, *velx*.

**Во́ўна** (БРС, Нас., Бяльк., Касп., Шат.). Рус. *во́лна*, укр. *во́вна*, ст.-рус. *вълна*, польск. *wełna*, в.-луж. *wołma*, н.-луж. *wałma*, чэш., славац. *vlna*, серб.-харв. *ву̏на*, славен. *vólna*, балг. *вълна*, макед. *волна*. Роднасныя літ. *vilna* 'ваўняны волас', лат. *vilna* 'воўна', ст.-прус. *wilna* 'кафтан', ст.-інд. *ū́rṇā* 'воўна', авест. *varənā*, лац. *lāna* з **vlāna*, грэч. λῆνος, λᾶνος 'воўна', магчыма, арм. *gelmn* 'воўна, лямец'; іншая ступень чаргавання: лац. *vellus* 'руно' (Траўтман, 359; Фасмер, 1, 339). Узыходзяць да і.-е. **u̯el-* 'торгаць, рваць' (Праабражэнскі, 1, 92; Махэк, LF, 64, 344; БЕР, 206 і наст.).

**Во́ўчае во́ка** 'воўчыя ягады' (Бяльк.). Ад *воўк*. Матывы намінацыі гл. *воўчае лыка*.

**Во́ўчае лыка** 'расліна, Daphne mezereum L.' (Касп., Бяльк., Кіс.). Рус. *волчье лыко*, укр. *вовче лико*, польск. *wilcze łyko*, серб.-харв. *ву̏чје лико*, балг. *вълчо лико*. Ад *воўк*. Прыметнік *воўчы* ўказвае на атрутнасць расліны (Мяркулава, Очерки, 98).

**Во́ўчанкі** (*во́ўчэнкі*) 'агульная назва неядомых грыбоў' (Шатал.). Ад *воўчаны*, якое ў сваю чаргу ад *воўк*. Аб матывах намінацыі гл. *вужоўкі*.

**Во́ўчая ступня** 'герань крывяна-чырвоная, Geranium sanguineum L.' (Касп.), *воўчая стапа* 'тс' (Дэмб., 1, 284). Рус. *волчья стопа* 'Geranium pratense L.', укр. *вовча стопа* 'Geranium sanguineum L.' Гл. *ступня*. Відавочна, паводле формы лісця, параўн. назвы для Geranium pratense L. рус. *орлиная лапка*, *медвежья лапка*, укр. *вовчі лапки* (Аненкаў, 156).



**Во́ўчая крапіва** 'залозніца вузлаватая, Scrophularia nodosa L.' (Шат.). Расліна названа па падабенству да крапівы. Аб семантыцы прыметніка гл. *воўчая мята*.

**Во́ўчая мята** 'чысцік лясны, Stachys germanica L. і балотны Stachys palustris L.' (Шат.). Гл. *мята*. Прыметнік указвае на тое, што расліна «несапраўдная», дзікарослая; азначэнне *воўчы* пастаянна ўжываецца ў адносінах да неядомых і дзікарослых раслін (Мяркулава, Очерки, 90, 110).

**Во́ўчыя спічкі** 'зязюлін лён, Polytrichum commune L.' (Шат.). Відавочна, ад *спічка* <*спіца* (гл.) па знешняму падабенству (кароткае прамастойнае сцябло з прызматычнай каробачкай наверсе). Прыметнік *воўчы*, які часта сустракаецца ў назвах дзікарослых раслін, не звязан непасрэдна з *воўк*, а паказвае «несапраўднасць» расліны; параўн. *воўчая мята*.

**Во́ўчыя ягады** 'расліна, Daphine' (БРС, Бяльк., Кіс.); 'паслён чорны' (Касп.). Рус. *волчьи ягоды*, укр. *вовчі ягоди*, польск. *wilcza jagoda*. Гл. *ягады*. Аб матывах намінацыі гл. *воўчае лыка*.

**Во́ўчэк** 'рыба, падобная да ярша, але з таўсцейшай галавой, шырокім ротам і больш цёмнай афарбоўкай лускі'. (Дэмб., 2, 543). Гл. *ваўчок*.

**Вох** выкл. (БРС, КТС, Нас.), адсюль — *вохаць*, *вохнуць* (БРС, Бяльк., КТС, Нас., Касп.). Параўн. рус. *ох*, *охать*, ст.-рус. *охъ*, укр. *ох*, *о́хати*, чэш., польск. *och*. Гукапераймальнае (Міклашыч, 220; Праабражэнскі, 1, 624; Фасмер, 3, 174).

**Во́хкаць** (БРС, Шат., Бяльк.). Укр. *е́хкати* 'тс'. Дэмінутыўная форма ад *вохаць*; гэтыя формы пашыраны ва ўкр. мове і менш — у бел. (Чарнецкі, Мовазнаўства, 1970, 5, 28 і наст.).

**Во́хра** (БРС, КТС), *вохра́* (Нас.). Рус. *о́хра*, укр. *во́хра*. Запазычанне з лац. *ochra* (ад грэч. ὤχρα 'вохра', ὠχρός 'бледны, жаўтаваты') праз польск. *ochra* (Праабражэнскі, 1, 672; Фасмер, 3, 176).

**Во́хтымирь** арг. 'восем' (Рам., 9) з лац. *octō* 'восем' і арг. часціцы; параўн. інш. лічэб. *сентимир* 'сем', *девянтимир* 'дзевяць' (гл. Рам., 9, 5).

**Во́цат** (БРС, Нас., Бяльк., Шат., Касп., Бір. Дзярж., Гарэц., КТС). Запазычанне з польск. *ocet* (Кюне, Poln., 82, 114), якое з гоц. *akeit*<лац. *acētum* 'воцат' (Брукнер, 373). Магчыма і непасрэднае запазычанне ў слав. мовах з лац. *acetum* (Фасмер, 3, 176 і наст.). У фанетычных і культурна-гіста-

рычных адносінах магчымы абодва варыянты (Кіпарскі, Gemeinslav., 177 і наст.; Скок, 3, 540).

**Во́цатнік** бат. 'дрэва або хмызняк, Rhus typhina' (БРС). Кіслыя плады воцатніку часам ужывалі для падкіслення вінаграднага воцату, адкуль і назва.

**Вочависта** 'відавочна, напэўна' (Яруш.). Ст.-бел. *очевисте, очевисто, очивисте, очивисто* 'асабіста, відавочна'. Запазычанне з польск. *oczywiście* 'тс' (Булыка, Запазыч., 238).

**Во́чап** 'шост, за які прычэпліваецца вядро ў студні' (БРС, Бяльк., Шат., Касп., Мядзв., Янк. II, Сцяшк., Бір. Дзярж.); 'бэлька, якая кладзецца зверху ўпоперак на бэльках і цягнецца ўздоўж хаты' (Інстр. I). Рус. *óчап* 'калодзежны журавель'; 'жэрдка для калыскі', укр. *очепа* 'крук, бусак, якім прыцягваюць плыт к берагу'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *ачапіць* (гл.) (Фасмер, 3, 177; 4, 299). Гл. таксама *чапяла, цэп, ачэп.*

**Во́чапка** 'дужка вядра, вешалка (у адзежы), рэмень у цэпе' (БРС, КТС, Сцяц., Нар.); 'ручка (у кашалі)' (Мат. Гом.). Ад *ачапіць* (гл.) пры дапамозе суф. *-к-*.

**Во́чарадзь** 'чарга' (Шн., 2, КТС, Бяльк., Сцяшк., З нар. сл., Інстр. I). Новае запазычанне з рус. *óчередь,* аб чым сведчыць ужыванне гэтага слова толькі ў адзіным значэнні 'людзі, якія размяшчаюцца ў пэўнай паслядоўнасці для атрымання чаго-небудзь', у той час як у іншых значэннях ужываецца бел. *чарга.*

**Во́чка** 'дзірка, адтуліна'; 'ячэя ў сетцы'; 'значок на ігральнай карце' (БРС); 'дзірка ў калодзе-вуллі для ўваходу пчол' (Сержп., Бортн., 21); 'пятля ў вязанні' (Шат.); 'пятля ў нітах, у якую кідаюць нітку асновы' (Шатал.). Памянш. да *вока* (гл.). Сюды ж, відавочна, і *вочка* 'газоўка' (Мат. Гом.).

**Во́чнік** 'урач-акуліст' (БРС), «вочны сведка» (Нас.). Да *вока, вочы.* У першым значэнні калька рус. *глазник.*

**Во́чча** 'бацька' (у пачатку малітвы «Отче наш...») (Нас., Нік., Оч.). Рус. *вотча* 'тс'. Са ст.-рус. *отче,* кліч. скл. ад *otьcь.*

**Во́ччан** 'пчаляр' (Бяльк.). Гл. *вотчыч.*

**Во́ччым** 'айчым' (Бяльк., Юрч., Шатал.). Гл. *айчым.*

**Во́чым,** *во́чымна* 'надта' (Шн., 1, рэч.; Сцяшк., КТС). Запазычанне з рус. *очень, оченно* 'тс'; параўн. бел. *óчынь*<рус. *óчень* (Шуба, Прыслоўе, 184).

**Вош** (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Бес., КТС, Ліс.). Рус. *вошь,* укр. *вош,* ст.-рус. *въшь,* польск. *wesz,* чэш. *veš,*



в.-луж. *woš,* н.-луж. *weš,* серб.-харв. *ва̑ш, у̑ш,* славен. *ûš,* балг. *въ̀шка,* макед. *вошка.* Хутчэй за ўсё з і.-е. **ues-/*uos-* (**us*>>*vъx-ь*>*vъšь*) 'паядаць, пажыраць' (Мартынаў, вусн. паведамл.). Роднаснымі лічаць літ. *vévesa* 'гусіная вош' (рэдуплікацыя ад **ues-,* Мікала, IF, 26, 295 і наст.), *víevesa, vievesà* з **veivesa* (Буга, РФВ, 67, 247 і наст.; Траўтман, 336); далей параўноўваюць з гоц. *frawisan* 'пажыраць', з літ. *usnìs,* лат. *usna* 'чартапалох', алб. *usht* 'колас' (Фрэнкель, 1172). Шульцэ, якога падтрымліваюць Голуб—Копечны (413) і Махэк₂ (686), аб'ядноўвае прасл. **vъšь,* літ. *utẽ,* ст.-інд. *yū-ka,* герм. *lûs* 'вош' у адной праформе на **l'u-,* што неверагодна па фанетычных прычынах. Мала верагодна і версія Міклашыча (396) (сувязь з літ. *utẽ* 'вош', лат. *uts* 'тля'). Апошнія аддзяляюцца ад этымалагізуемай групы (Эндзелін, RS, 11, 37; Фасмер, 1, 359 і наст.; Шанскі, 1, В, 180).

**Во́шва** (Гарэц.). Гл. *ошва.*

**Во́шкі** 'расліна свінакроп, тарыца звычайная, Spergula vulgaris' (Інстр. II, Кіс.). Рус. *во́шки* 'тарыца, Spergula arvensis'. Назва, відавочна, утворана ад *вош* (гл.) па выгляду дробнага насення.

**Во́шта** 'навошта' (Касп.). З *во-* і *што* (гл.) або скарачэннем з *навошта* (гл.).

**Во́шуст** 'ашуканец' (З нар. сл., карэліц.). Ст.-бел. *ошустъ.* Запазычанне з польск. *oszust* 'тс' (Булыка, Запазыч., 234).

**Во́шчыпкам,** *во́шчупку* 'вобмацкам' (Бяльк.). Запазычанне з рус. *óщупью* 'тс' пры ўдзеле словаўтваральнай мадэлі тыпу *вобмацкам* (гл.). Параўн. рус. дыял. *во́щупкой* 'тс'.

**Во́шыўка** 'абшыўка рукава, манжэта' (Бяльк.). Рус. *во́шивка* 'тс'. Гл. *ашыўка, ашэўка.*

**Вуа́ль** (БРС, КТС). З рус. *вуаль* (Крукоўскі, Уплыў, 79), дзе ў сваю чаргу з франц. *voile* (Фасмер, 1, 365).

**Вувто́рак** (Бес.). Гл. *аўторак.*

**Ву́гал,** род. скл. *вугла́* (БРС, Нас., Др.-Падб., Шат., Касп., Бяльк., Інстр. I, КЭС, Жд., 1) 'частка сушы, якая вуглом уразаецца ў балоцістае месца або сенажаць' (Яшк.), *вуго́л* 'месца, дзе межы поля ўтвараюць прамы вугал' (Яшк.). Рус. *у́гол,* род. скл. *угла́,* укр. *ву́гол,* ст.-рус. *уг(ъ)лъ,* ст.-слав. **ѫгълъ**, польск. *węgieł,* род. скл. *węgła,* чэш. *úhel,* славац. *uhol,* в.-луж. *nuhł,* н.-луж. *nugeł,* балг. *ъ̀гъл,* серб.-харв. *у̏гао, у̏гал,* род. скл. *у̏гла,* славен. *vǫ̑gəl,* род. скл. *vǫ̑gla.* Прасл. *ǫgъlъ* (Махэк₂ 666; Скок, 3, 536). Роднаснымі з'яўляюцца

лац. *angulus* 'вугал', умбр. *anglom-e* 'ad angulum', арм. *ankiun, angiun* 'тс', ст.-інд. *áṅgam* н. р. 'член', *aṅgúriḥ, aṅgúliḥ* 'палец', *aṅgulīyam* 'пярсцёнак', а таксама лат. *ancus* 'крывы, выгнуты', *unkus* 'тс' ст.-інд. *aṅkáh* 'круг' (Вальдэ—Гофман, 1, 46; Майргофер, 1, 19). Думка Вальдэ (KZ, 34, 513) аб запазычанні слав. **ǫgъlъ* з лац. *angulus* адмаўляецца большасцю даследчыкаў (Праабражэнскі, 2, 117 і наст.; Фасмер, 4, 145; Махэк₂, там жа).

**Ву́галка** 'грэбля праз балота ' (Жд., 2). Няясна. Магчыма, ад *ву́гал* 'частка сушы, якая вуглом уразаецца ў балоцістае месца або сенажаць' (Яшк.).

**Ву́галь** (БРС, Нас., КТС, Шат., Касп., Гарэц., Бяльк., Мядзв.). Рус. *у́голь*, укр. *ву́гіль*, ст.-рус. *оуг(ъ)ль*, ст.-слав. **жгль** 'вугаль', балг. *въгле* н. р. 'вугаль', серб.-харв. *у̏гаљ*, славен. *vȏgel*, чэш. *uhel*, славац. *uhol*, польск. *węgiel*, в.-луж. *wuhl*, *wuhel*, н.-луж. *hugel*. Прасл. *ǫgъlъ* (Махэк₂, 666; Скок, 3, 537). Роднаснае літ. *anglìs*, ст.-прус. *anglis*, він. скл. адз. л. *añglį*, усх.-літ. *ánglis*, лат. *ùogle*, ст.-інд. *áṅgārah* 'вугаль', н.-перс. *angišt* 'тс' (Траўтман, 8; Фрэнкель, 10; Фасмер, 4, 146). Сольмсен (Unters., 218) дапускае магчымасць роднасці з *агонь*. Аб гэтым гл. таксама Тапароў, Прус., 87.

**Ву́гар** 'высокае месца, бугор' (Прышч., дыс.). Рус. *уго́р* 'круты бераг ракі, круча, пакаты пад'ём угору'. Ад *у-* і *гара* (Фасмер, 4, 146).

**Вуга́рак** 'лучына' (Касп.). Запазычанне з рус. дыял. (пск., смал., наўг.) *угарак* 'агарак' ад *угореть* 'паменшыцца ў выніку гарэння'.

**Вуга́рына** 'прывязка ў цэпе' (Яшкін, БЛ, 4, 69 і наст.). Ад *вугор*₁ з суф. *-ін-*, таму што гэта прывязка рабілася са скуры вугра; параўн. таксама літ. дыял. *uñgurio skūra* 'прывязка ў цэпе' ад *ungurȳs* 'вугор' (Яшкін, там жа).

**Вугня́віць** 'гаварыць гугнява' (Юрч.); 'хныкаць' (Шатал.), *вугня́вы* прым. 'чалавек, які гаворыць у нос, гугнявы' (Янк. Мат., Юрч., Шатал.), *вугна́ты* 'тс' (Мат. Гом.). Гл. *гугнявіць*; *в* з'явілася вынікам успрымання *г* як пратэзы і замены яго пратэтычным *в*.

**Вуго́р**₁ 'рыба, Anguilla' (БРС). Рус. *у́горь*, ц.-слав. *жгорищь* (позняе), польск. *węgorz*, каш. *wangorz*, чэш. *úhoř*, славац. *úhor*, в.-луж., н.-луж. *hugoŕ*, серб.-харв. *у̏гор*, славен. *ogór*. Прасл. *ǫgorь*. Роднасныя: ст.-прус. *angurgis* 'вугор', літ. *ungurȳs* 'тс' (з **angurȳs*). Лічаць, што *вугор* роднаснае *вуж* (гл.) і іншым словам таго ж кораня; параўн. літ. *angìs* 'вуж, змяя', лац. *anguis* 'змяя', *anguilla* 'вугор', ст.-в.-ням. *uns* 'вуж', ст.-ірл. *esc-ung* 'вугор' (літаральна 'вадзяная змяя'). У гэтым выпадку значэнне **ǫgorь* 'падобны на змяю' (Траўтман, 8; Шпехт, 31; Фасмер, 4, 146; Махэк₂, 667; Фрэнкель, 10). Аднос-на суфіксацыі параўн. ст.-в.-ням. *angar*, ням. *Engerling*, ст.-грэч. ἴμβηρις (гл. Тапароў, Прус., 88).



**Вуго́р**₂ 'прышч (на скуры, целе)' (БРС). Рус. *у́горь*, укр. *вуго́р*, род. скл. *вугра́* 'тс', польск. *wągr*, чэш. *uher*, славац. *uhor*, в.-луж. *wuhra*, н.-луж. *huger*, серб.-харв. *у̏грк* 'чарвяк, лічынка', балг. *въга́рец* 'тс', славен. *ogŕc* 'чарвяк, вугор, лічынка'. Прасл. **ǫgrъ* роднаснае літ. *ánkštara*, усх.-літ. *inkštìras* 'фіна, лічынка', ст.-в.-ням. *angar* 'хлебны чарвяк', н.-в.-ням. *Engerling* 'лічынка хрушча' (Траўтман, 8; Фасмер, 4, 146; Махэк₂, 666). Магчыма, што *вугор*₁, *вугор*₂ і *вуж* маюць агульнае паходжанне. Падрабязна гл. Фасмер, там жа.

**Ву́гріў** 'сонечная, захаваная ад ветру мясціна, дзе добра грэе сонца' (З нар. сл.). Рус. *угрева* 'ўчастак зямлі, які лепш награваецца сонцам дзякуючы схілу ў паўднёвы бок', укр. *вигріви* 'месца, дзе грэе сонца', *чэш. výhřev* 'ціхае месца, дзе добра грэе сонца'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *уграваць* (гл. *грэць*).

**Ву́да**₁ 'ляжка' (КЭС, навагр.), *вуды* (экспр.) 'ногі' (Весці АН БССР, 1969, 4, 133, нясвіж., дзятл.). Ст.-бел. *вуда, удъ* 'частка цела' (усе прыклады, за выключэннем аднаго, у евангельскіх тэкстах) (КГСБМ). Рус. *уд* 'тс' (прыклады ў Даля таксама з евангельскіх тэкстаў), ст.-рус. *оудъ* 'член; кавалак', *оудо* н. р., мн. л. *оудеса* 'тс', ст.-слав. **оудъ** 'частка цела', польск. *ud, udo* 'частка цела, галоўным чынам нага ад бядра да калена', чэш., славац. *úd* 'частка цела', балг. *уд*, серб.-харв. *у̑д*, славен. *ýd* 'тс'. Прасл. *udъ*. Задавальняючай этымалогіі слова няма. Мяркуецца, што гэта — утварэнне ад і.-е. **au-* 'прэч' і кораня **dh(ē)-* 'што-небудзь аддзеленае' (Голуб — Копечны, 400) або ўтварэнне з прыстаўкай *u-* ад старажытнага кораня ў ступені рэдукцыі *-dъ*<і.-е. **dh(ē)-* (Трубачоў, Ремесл. терм., 236). Няпэўна Младэнаў (649), які звязваў *уд* з *уз-да, об-уть*. Якабсон (LJSLP, 1/2, 1959, 273) падтрымлівае старую этымалогію Гараева (385) аб тым, што *уд* нельга аддзяліць ад рус. *у́дить* 'спець, набракаць' і ад *вымя* (<**ūd-men*). Іншыя этымалогіі і літ. гл. Фасмер, 4, 148. У сучасных беларускіх гаворках *вуда*, калі меркаваць па адсутнасці жывых прыкладаў на ўсходнеславянскай тэрыторыі, а таксама па тэрыторыі распаўсюджвання і значэння слова,

14. Зак. 1876

з'яўляецца, відавочна, запазычаннем з польск. *udo* 'частка нагі ад бядра да калена'.

**Ву́да₂** (БРС, Нас., Шат., Бяльк.), *вуда́* (Гарэц., Касп.), *ву́дка* (Крыв.). Рус. *уда́, у́дочка*, укр. *ву́дка*, ст.-рус. *оуда*, ц.-слав. *ѫда, ѫдица*, балг. *въдица* (Младэнаў, 94), серб.-харв. *у̏дица*, славен. *ódica*, чэш. *udice*, польск. *wędа, wędkа*, в.-луж. *wuda*, н.-луж. *huda*. Найчасцей тлумачаць з прыстаўкі *an- або *on- і і.-е. кораня *dhē-*, гэта значыць 'тое, што прыкладзена'. Роднаснымі лічаць лат. *uodne* 'планка, на якой стаіць санны кузаў', *eñdas* 'частка сялянскіх саней'; параўн. таксама літ. *iñdas* 'сасуд', славен. *nâda* 'падстаўка'. Гл. Траўтман, 48; Махэк₂, 666; Фасмер, 4, 148. Менш верагоднай з'яўляецца версія Мейе, Etudes, 320, які лічыць зыходным *onkda* і параўноўвае яго са ст.-інд. *añkáḥ* 'гак', грэч. *ὄγκος* 'тс', лат. *uncus* 'сагнуты'. Іншую літ.-ру гл. у Фасмера (там жа).

**Вуда́к** 'рыбак, які ловіць рыбу вудай' (Янк. III). Да *вуда* пры дапамозе суф. *-ак* па аналогіі з *рыбак*.

**Ву́даль** 'злая натура' (Нас.); 'зух, зухаватасць' (Нас., Гарэц., Бяльк., Юрч.). Запазычанне з рус. *у́даль* 'зухаватасць', на што ўказвае геаграфія слова.

**Вудаўё** 'вудзільна' (Др.-Падб., Касп., З нар. сл.). Ад *вуда* пры дапамозе суф. *-аўё (ов-ьjе)*, дзе *-ов-*, відавочна, першапачаткова меў значэнне прыналежнасці (Карскі, 2—3, 24). У словаўтваральных адносінах параўн. таксама дыял. *грабаўё* 'грабільна' і *касаўё* 'касільна'.

**Вудзе́рак** 'поле на месцы ўзаранага дзірвану, цаліна' (Яшк.). Гл. *выдзірак*.

**Вудзі́дла** 'вудзільна' (Бір. Дзярж.). Да *вудзіць₃* пры дапамозе запазычанага з польск. суф. *-дло* (Гіст. мовы, 1, 129).

**Ву́дзіць₁** 'смярдзець, смуродзіць, псаваць паветра' (Весці АН БССР, 1969, 4, 132, зэльв.). Ц.-слав. *ѫдити* 'вэндзіць', укр. *вудити* 'тс', польск. *wędzić*, чэш. *uditi*, славац. *údiť*, славен. *(v)oditi* 'тс'. Параўн. таксама чэш. дыял. *oudno* 'душна, млосна'. Другая ступень чаргавання ў рус. *вянуть*, бел. *вянуць* і г. д. Роднаснае ст.-в.-ням. *swintan*, с.-в.-ням. *swinden*, н.-в.-ням. *schwinden*, ст.-в.-ням. *swedan* 'паліць павольна і з вялікім дымам' (Фасмер, 1, 375; Брукнер, 608 і наст.; Махэк₂ 666; Рудніцкі, 1, 493). Змяненне значэння, відавочна, адбылося ў сувязі з запазычаннем польск. *wędzić* 'вэндзіць' і адцясненнем *вудзіць* на перыферыю.

**Ву́дзіць₂** 'красці' (Жд., 2) Рус. смал *вуднуць* 'сekануць, украсці' (Дабр.), *ву́дзіць* 'біць' (Раст.). Няясна. Магчыма, роднаснае чэш. *uditi* 'дзяліць, расчляняць', серб. *у́дити* 'расчляняць, рэзаць на кавалкі, рассякаць' і далей да *уд* (гл.) (Брукнер, 592).



**Ву́дзіць₃** (БРС, Нас., КТС, Бяльк.). Да *вуда* (гл.).

**Вудо́ба** 'месца, дзе побач з населеным пунктам знаходзіцца поле, лес, луг, папас і рэчка' (Яшк., слаўг., рэч.). Рус. дыял. *удобье* 'ўгоддзі'. Ст.-рус., ст.-слав. **оудобь** 'лёгкі, магчымы'. Ад *у* і *доба* (гл.) (Фасмер, 4, 149). Параўн. *неўдобіца, неудобка* (Выгонная, Лекс. Палесся, 40 і наст.).

**Вудо́тка** 'маленькая рыба, дробязь, аўдотка' (Бяльк.). Гл. *аўдотка*.

**Ву́дрыг** *плакаць* прысл. 'моцна, усхліпваючы, плакаць' (З нар. сл., калінк.). З *в-* і *дрыг* (да *дрыжаць, дрыготка*) з устаўным *у*, дзе *дрыг* першапачаткова вінавальны склон (параўн. рус. *навзрыд, вдребезги* і г. д.).

**Вудылі́цца** 'пузырыцца' (Нас.). Да *вудыль* (гл.).

**Вудыль,** *вудылек* 'бурбалка, вадзяны пузыр' (Нас.). Верагодна, з *вудыр* 'тс' (гл.).

**Вуды́р** 'гнойны нарыў, прышч' (Нас.); 'вадзяны пузыр' (КЭС); 'болька пры апёку або націску на мазоль' (Бір. Дзярж.). Гл. *ваўдыр* (відавочна, *вудыр*<*вуўдыр*<*ваўдыр*).

**Вудырыцца** 'пузырыцца' (Нас.). Да *вудыр* (гл.).

**Вуж₁** (БРС, Нас., КТС, Шат., Касп., Грыг.). Рус. *уж, ужа́*, укр. *вуж*, ст.-рус. *вужь*, польск. *wąż, węża*, чэш., славац. *užovka*, н.-луж. *huž* 'змяя, чарвяк', славен. *vôž*. Прасл. *ǫžь. Роднаснымі з'яўляюцца літ. *angìs*, він. скл. *añgì* 'ядавітая змяя', лат. *ùodzs, uôdze* 'гадзюка', ст.-прус. *angis* 'змяя', лац. *anguis* 'змяя', ст.-в.-ням. *unc* 'змяя', ірл. *esc-ung* 'вугар' (г. зн. вадзяная змяя). Звязана з *вугор₁* (гл.) (Траўтман, 8; Фрэнкель, 10; Фасмер, 4, 150 і наст.).

**Вуж₂** 'прывязка, якой прымацоўваецца біч да цапільна' (ДАБМ, 829, 138); 'тоўстая вяроўка' (Хрэст. дыял., 333); 'частка хамута, гуж' (Сцяц.). Гл. *вужышча*. У формах *вужва, ужва* (ДАБМ, к. 259) *-ва* нельга вытлумачыць іначай, як з *гужва* (гл.); параўн. прасл. *gǫžьvь, дзе яно заканамернае. Верагоднай з'яўляецца і роднасць *gǫžь і *ǫza (Бернекер, 1, 343; Брукнер, 137; Праабражэнскі, 1, 167), асабліва калі тлумачыць *г* як пратэзу (Якабсон, Word, 8, 1952, 388); параўн.

*вугнявіць-гугнявіць*, укр. *вуж-ґуж* і г. д. Інакш гл. Фасмер, 1, 471.

**Вужава** зелле 'граздоўнік звычайны, Botrychium lunaria Sw.' (Кіс., 24); 'вужоўнік, Ophioglossum L.' (Крывіч, 4, 1923). Рус. *змеиный язык*, серб. *змиjински език* і *змиинска травчица* 'тс'. Назва з'яўляецца, магчыма, варыяцыяй перакладу лац. назвы (*ophis* — змяя і *glossa* — язык) (Сіманавіч, 325).

**Вужавíнне** 'скінутая ў час ліняння скура вужа' (БРС). Вытворнае ад асновы прыметніка *вужов-* пры дапамозе суф. *-інне*, як *бацвінне*.

**Вужáка**$_1$ 'змяя, вуж' (БРС, Нас., Касп., Бяльк., Яруш., Гарэц., Мядзв., Інстр. II, Мат. Гом.); 'мінога, Lamperta mariae Berg' (З жыцця); 'злая, хітрая жанчына' (Нас.). Рус. *ужáка*, укр. *вужáка*. Ад *вуж*$_1$ (гл.) пры дапамозе суф. *-ака*.

**Вужáка**$_2$ 'ядавіты грыб'. Ад *вуж*. Гл. *вужоўкі*.

**Вýжар,** *вужáрына* 'выпаленае месца ў лесе, на балоце; яма ад выгаранага торфу і травы' (Яшк.). Гл. *выжар*.

**Вýжачкі** 'расліна касач жоўты, Iris pseudacorus L.' (Гарэц., Кіс., 68). Рус. *ужик, узик* 'шабельнік балотны, Comarum palustre', укр. *ужачкі* 'касач жоўты'. Як заўважае Аненкаў (178), рус. *ужик*, відавочна, з *узик* ад *узкий* паводле формы лісця. Параўн. іншыя назвы гэтай расліны: *касач*, рус. *косатик, сабельник*. Але ў гэтым выпадку для бел. і укр. слоў цяжка вытлумачыць словаўтварэнне. Відавочна, тут больш прыймальным з'яўляецца разгляд гэтай назвы як памяншальнай ад *вужака*>*вужачка*>*вужачкі*.

**Вужвá** 'прывязка, якой прымацоўваецца біч да цапільна' (ДАБМ, 829, 138, Ліс.). Гл. *вужышча*. Параўн. таксама *вуж, вужык*.

**Вужлáк** 'нарасць, жаўлак' (БРС). Няясна. Магчыма, ад *гуз, гузак* 'нарасць, жаўлак, шышка' з іншай суфіксацыяй і заменай *г* на *в* у выніку ўспрымання яго як пратэзы (гл., напр., *вугнявіць* з *гугнявіць* і дыял. *вузыр* 'камель снапа' з *гузыр* 'тс'). Параўн. каш. *gužel, gužlak* 'шышка, нарасць'.

**Вужля́нак** 'пралаза, праныра, дасціпны чалавек' (Бяльк.). З *выжлянё* (гл. *выжел*) з дапамогай суф. *-ак*.

**Вужнíшча** 'вяроўка' (Мат. Гом.). Гл. *вужышча*.

***Вужóвае малакó**, *вужóвэ молоко* 'малачай кіпарысавы, Euphoria cyparissias L.' (Бейл.). Ад *вуж*. Параўн. сербскую народную назву малачая звычайнага Euphorbia L.— *змиjско* (*змиjино*) *млеко* і ням. *Wolfsmilch* (Сіманавіч, 191). Аб матывах намінацыі гл. *вужовыя ягады*.



**Вужóвыя я́гады** 'паслён чорны, Solanum nigrum L.' (Бейл.). Ад *вуж* 'змяя, гад'. Прыметнік указвае на неядомасць расліны. Параўн. таксама *воўчыя ягады*.

**Вужóўка** 'скручаны, звіты дубец' (Сцяц.). Гл. *вужышча, вуж*$_2$.

**Вужóўкі** 'неядомыя грыбы' (Янк. I, Мат. Гом., 219), *вужóўкі* 'тс' (Арх. ГУ, жыт.), *вужáкі* 'тс' (Інстр. II). Ад *вуж*, 'гад, змяя'. Мадэль 'жывёліна'—'грыб' указвае на непрыдатнасць да яды або малаўжывальнасць для чалавека. Гл. Аненкаў, 13; Мяркулава, Очерки, 157. Параўн. таксама бел. дыял. *мядзведзі* 'неядомыя грыбы'.

**Вужóўнік** 'расліна, Ophioglossum L.' (БРС, Кіс.); 'вераніка шчытковая, Veronica scutellata' (Касп.). Рус. *ужóвник* 'тс'. Ад *вуж*. Назва ўтворана на базе перакладу грэч. назвы: *ophis* 'змяя', *glossa* 'язык' (Аненкаў, 232). Параўн. серб. *гадjи jезик, змиjски jезик*, ням. *Natterzunge* (Сіманавіч, 325). Але не выключана і самастойнае ўтварэнне на слав. глебе ад *вуж(овы)*, таму што расліна ўжываецца пры ўкусе змей (параўн. *вужака* 'змяя'). Семантычная мадэль 'назва хваробы'—'назва лекавай расліны' сустракаецца даволі часта; гл. *вогнік*$_2$.

**Вýжык** 'прывязка, якой прымацоўваецца біч да цапільна' (Шатал., Сцяц., ДАБМ, 325, 356, 769), *вýжка* 'тс' (ДАБМ, 221). Памянш. да *вуж*$_2$ (гл.).

**Вýжын** 'вячэра' (Нас.). Запазычанне з рус. *ужин*.

**Вужышча** (БРС, Янк., Бір. Дзярж., Сцяшк., Хрэст. дыял., 233). Рус. *ýже* н. р. 'вяроўка', *ужище, ужища* 'тс', ст.-рус. *уже* 'вяроўка, ланцуг', ст.-слав. ѫже 'вяроўка', балг. *въже* 'вяроўка', серб.-харв. *ýже*, род. скл. *ýжета, ýжа* 'тс', славен. *vộže* н. р. 'канат', палаб. *vǫže* 'вяроўка'. Прасл. **vǫže* з **vǫzio*, роднаснае *вузел, вязаць* (гл.) (Фасмер, 4, 152; Скок, 3, 583).

**Вужэ́лак** 'маленькі сабака' (Гарэц., Др.-Падб.); 'маленькі, вельмі рухавы, пралаза' (З нар. сл.). Запазычанне з польск. *wyżełek* — памянш. ад *wyżeł* 'паляўнічы сабака'. Параўн. *вужлянак*. Гл. *выжал*.

**Вужэць** 'рабіцца вузкім' (Нас.). Да *вузкі* (гл.) ад асновы кампаратыва **вуж-* (параўн. рус. *ýже*).

**Вýза** 'вашчына, соты' (Гарэц., Мядзв., Др.-Падб., Касп., Бяльк.), *вузá* 'тс' (Сцяшк.); 'пчаліны клей, прополіс' (БРС),

рус. *узá* 'тс', дыял. *вýза* 'ячэйка ў сотах', польск. дыял. *węga*, *węźnia* 'аснова з воску, на якой пчолы робяць ячэйкі', чэш. дыял. *uzda*, *huzda* 'сухія соты'. Да **vǫza*, звязанага з *вузел, вязаць* (Гараеў, 385; Фасмер, 4, 152; Ніч, JP, 28, 14; Махэк₂, 673). Значэнне 'пчаліны клей' (БРС) замацавалася, відаць, пад уплывам рус. літаратурнай мовы.

**Вýзак** 'вузкі' (Шат.), рус. *ýзок*, дыял. *вýзак* (Растаргуеў, Бранск.), серб.-харв. *ȕзак*, славен. *ózek*. Прасл. *ǫzъkъ* — кароткая форма прым. (гл. *вузкі* 'тс').

**Вýзалавак** 'драўляны брусок над пярэдняй воссю ў возе' (свісл., Шатал.), *вýзалаўка* 'тс' (Жд., 2). Да *вузгалавак* 'тс' са спрашчэннем спалучэння зычных, звязаным з дээтымалагізацыяй слова, гл. *вузгалаўе*.

**Вýзвалак** 'брус у калёсах, што ляжыць на пярэдняй восі' (навагр., Шатал.). Гл. *вузалавак* 'тс', магчымы ўплыў з боку дзеяслоўных форм тыпу *ўзваліць* 'пакласці што-небудзь цяжкае', *узвалачы* 'сцягнуць наверх і інш.'; падабенства да *ўзвалак* 'высокае, узвышанае месца', відаць, выпадковае.

**Вýзварат** 'прамежак паміж плотам і полем' (Янк. I); 'выган, выпас' (калінк., Мат. Гом.). Гл. *вывзварат, узварот*.

**Вýзверыцца** 'люта, раз'юшана, па-зверску глянуць' (глус., Янк. II). Гл. *вызверыцца* 'тс', адносна фанетыкі Карскі (1, 237 і наст.), Асоўскі (LSL., 3A, 1934, 49 і наст.), ДАБМ (карта 39).

**Вýзгал** 'узгалоўе пасцелі' (Касп.). Ад *узгалоўе* 'тс' (прасл. *vъz-golvьje*) шляхам адсячэння канцавой часткі слова, успрынятай як паказчык зборнасці, параўн. *куст* — *кустоўе* зборн. 'кусты', параўн. таксама іншыя назвы ўзгалоўя — ***галóвы, галавáшкі*** і пад.; дээтымалагізацыяй у выніку дэкампазіцыі, відаць, тлумачыцца і перацяжка націску на пачатак слова, а таксама наяўнасць пратэзы перад націскным прыставачным *уз-*, паколькі звычайна пратэза з'яўляецца перад націскным каранёвым *у* (Нарысы, 139); параўн., аднак, рус. *узг* 'вугал, край', *узгол* 'вугал', польск. *wązg* 'пала', этымалогія якіх няпэўная (Фасмер, 4, 153).

**Вýзгалавак** 'плашка, у якой замацоўваюцца ручкі ў возе' слонім., ваўк., маст., бераст., свісл., шчуч. (Сцяц., Словаўтв.), *вýзголовок* 'тс' (палес., Маслен.), *вýзгалаўка* 'тс' (Янк. II), *узгалавак* 'тс' (Сержп., Грам.). Народны тэрмін хутчэй за ўсё ўзнік шляхам метафарычнага пераносу з бытавой сферы, пра што могуць сведчыць адпаведныя словы ў іншых слав. мовах;



параўн. польск. *wezgłówek* 'падушка', серб.-харв. *ýзглавак* 'тс', балг. *възглáвка* 'тс', а таксама іншую назву той жа дэталі *падýшка*, аднак адсутнасць нетэрміналагічнага ўжывання слова ў беларускай мове дазваляе бачыць у ім самастойнае ўтварэнне тыпу *ўзмежак*, згодна Карскаму (2—3, 91), з прыназоўнікавага спалучэння *ўз галавы́* 'каля галавы', дзе *галавá* — пярэдняя частка воза ці адна з дэталей у ім; параўн. *галóўкі* 'загнутыя канцы палазоў' і *вýзгалавак* 'пярэдняя частка саней' (Сцяц.); сувязь тэрміналагічнай і бытавой сферы ўжывання дэманструюць *узгалавáшка* 'дэталь у возе' (Пятк., 1) і маг. *гылывáшкі* 'галовы, узгалоўе, месца ў пасцелі, дзе ляжыць галава' (Бяльк.). Параўн. таксама рус. *головяшка* 'пярэдні загнуты канец саннага полаза'. Сцяцко (Словаўтв., 179) разглядае *вýзгалавак* як прыставачна-суфіксальнае ўтварэнне ад *галавá*. Параўн. *вýзгалаўе*.

**Вýзгалавень** 'накладка на пярэднюю вось воза пры перавозцы бярвення' (Шат.), *вýзголовень* 'плашка, у якой замацоўваюцца ручкі (у возе)' (лун., Шатал., Маслен.), *ýзголовень* 'тс' (Маслен.). Гл. *вýзгалавак,* суфіксацыя характэрна для назваў дэталей у возе і санях; параўн. палес. *нáголовень* 'вяз, які злучае галоўкі саней' і пад.

**Вýзгалаўе** 'падушка (у возе)' (БРС); 'накладка на пярэднюю вось воза пры перавозцы бярвення' (Шат.; лях., Янк. Мат.), *вузгалóўе* 'частка воза — драўляны брусок над пярэдняй воссю' (карэліц., Янк. II). Тэрміналагічнае значэнне другаснае, узнікшае шляхам пераносу слова з бытавой сферы; параўн. *узгалóўе* 'месца ў галавах' і пад. утварэнні ў слав. мовах, якія могуць мець і больш канкрэтныя значэнні: укр. *узголóв'я* 'тс', польск. *wezgłowie* 'падушка', славен. *vzglâvje*, серб.-харв. *ȕзглāвље* 'месца ў галавах' і 'падушка', балг. *възглаве* 'падушка' і інш., што дазваляе рэканструяваць прасл. *vъz-golvьje* 'ўзгалоўе; падушка'. Параўн. *вузгал, вузгалавак*.

**Вуздá** 'частка конскай збруі' (Нас.), *вуздэ́чка* 'тс' (БРС), *вузьдзéчка* 'аброць (звычайна з цуглямі, раменная)' (Бяльк.), укр. *вуздá* 'тс' (а таксама 'доўгая вяроўка ў крылляў невада, для выцягвання яго'), рус. *уздá* 'тс', польск. *uzda* 'тс', чэш. *uzda* 'тс', славац. *uzda* 'тс', в.-луж. *wuzda* 'тс', н.-луж. *huzda* 'тс', палаб. *väuzda* 'тс', балг. *юздá*, *уздá* 'тс', макед. *узда* 'тс', серб.-харв. *ýзда* 'тс', славен. *úzda* 'тс'. Прасл. *uzda*; адносна ўтварэння існуе некалькі версій: найбольш пашырана ў літаратуры (Фасмер, 4, 153) думка пра складаны характар слова — з і.-е. **ous-* 'рот' (гл. *вýсны*) і **dhē* 'ўстаўляць' (гл.

*дзець*), аналагічна па ўтварэнню да *$\varrho$da* (гл. *вýда*); аднак больш пераканаўчай з'яўляецца этымалогія Данічыча і Гараева — да *вýзы, вязáць*; параўн. рус. *нá-уз* 'частка конскай збруі', тады *вуздá* (з *-д-* суфіксальным) значыла б літаральна 'прывязь' (Аткупшчыкоў, Из истории, 140; там жа агляд версій і літаратура).

**Вýздзер** 'ніжняя частка снапа' (івац., Жыв. сл.), *вýздэр, ýздэр* 'частка снапа ад перавясла да зрэзу' (пін., Шатал.), *вýздро, вздро, вуздыр* 'тс' (брэсц., Нар. лекс.). Ад *гузыр* 'тс' з пераасэнсаваннем пачатковага *г* у якасці пратэтычнага і заменай яго *в-* пратэзай; параўн. *гуздыр* 'тс' (лун., Шатал.), *д* устаўное, як у *здрачóк* 'зрэнка' і пад. Параўн. *вузыр*.

**Вýздзіла** 'цуглі' (КСТ), укр. *уздúла* 'вуздэчка', рус., прыбалт. *вýздилы* 'цуглі'. Магчыма, кантамінацыя *вуздá (узда)* і *вудзіла* (гл.).

**Вýздро**. Гл. *вуздзер*.

**Вуздэ́чка** (БРС), *вузьдзéчка* 'аброць' (Бяльк.), *вуздéчка, вуздэ́чка, уздэ́чка, гузьдéчка* 'тс' (Маслен.), укр. *вуздéчка*, рус. *уздéчка*, дыял. *вуздéчка* і *вуздэ́чка* 'тс' (Растаргуеў, Бранск.). Па фанетычных і акцэнталагічных прычынах хутчэй за ўсё запазычана з польск. *uzdeczka* 'тс'; параўн. Карскі, 1, 166; Нарысы, 121.

**Вýзел**, род. скл. *вузлá* (БРС, Касп., Шат., КСТ), *вýзял* (Грыг.), *вузёл* (Бяльк., Яўс.). Укр. *вýзол, вузóл, ýзол*, рус. *ýзел, вýзел, ýзол*, польск. *węzeł*, славац. *uzol*, чэш. *uzel*, в.-луж. *wuzoł*, палаб. *vǫzál*, славен. *vózel, ózel*, серб.-харв. *ȕзао*, род. скл. *ȕзла*, макед. *вазол, јазол, јазел, вънзел*, балг. *въ́зел*. Прасл. *vǫzьlъ* 'вузел' звязана з *вязаць* (Фасмер, 4, 154; Махэк₂, 673; Брукнер, 609; БЕР, 1, 203; Рудніцкі, 1, 495); указваюць на магчымую сувязь з літ. *ąžuolas* 'дуб', лат. *uôzuõls*, ст.-прус. *ansonis* 'тс' (гл. Зубаты, BB, 18, 259; Мюленбах — Эндзелін, 4, 427), што магло значыць 'вузлаватае дрэва' (Фрэнкель, 28); параўн. таксама ст.-рус. *вязожелдь* 'падуб, Ilex aequifolium' і макед. дыял. *wъzal* 'сук'.

**Вузéльчык** 'птушка, падобная на мухалоўку' (Жд., 2). Ад *вузéльчык*, памянш. ад *вýзел* (гл.), відаць, з прычыны малых памераў птушкі; параўн. таксама *вузéльчык* 'малы пакуначак у хусцінцы' (Бяльк.).

**Вузéчніца** 'простая кішка' (КСП). Ад *гузéчніца* 'тс' (да *gǫzъ* 'зад') са зменай «ілжэпратэзы» *г* на *в*.

**Вузёл** гум. 'сур'ёзны, дзелавы хлапчук' (Яўс.). Да *вузёл*



(гл. *вýзел*); параўн. укр. *узлик, узличок* 'ласкальны зварот да дзіцяці' (Грынч.); адносна ўмоў пераціжкі націску параўн. тэрытарыяльна блізкія формы *буён, ясён, зярён, вясёл* (Растаргуеў, Говоры, 32).

**Вузірáць** 'выглядаць' (КСТ). Гл. *вызірáць*, адносна фанетыкі гл. Карскі, 1, 237 і наст.; Бузук, Спроба, 23 і наст.; Асоўскі, LSL., ЗА, 1934, 49 і наст.; ДАБМ, карта 22.

**Вýзкі** (БРС, Байк. і Некр., Грыг., Касп., Шат., Бяльк.), укр. *вузькúй*, рус. *ýзкий, вýзки* (Растаргуеў, Бранск.), польск. *wązki*. чэш. *úzký*, славац. *úzky*, в.-луж. *wuski*, н.-луж. *wuzki*. Да *вýзак* (гл.), прасл. *ǫzъkъ*, роднаснае да літ. *añkštas* 'тс', лац. *angustus* 'вузкі, цесны', ст.-інд. *aṁhúṣ* 'вузкі', гоц. *aggwus* 'тс' і інш. (гл. Фасмер, 4, 154; Брукнер, 605; Рудніцкі, 1, 496).

**Вузлавáты** (БРС, Грыг., Бяльк.), укр. *вузлувáтий*, рус. *узловáтый*, польск. *węzłowaty*. Утворана пры дапамозе складанага суфікса *-ав-ат-*, вядомага пераважна на паўночнаславянскай тэрыторыі, ад *вýзел* (гл.) са значэннем ступені пэўнай якасці.

**Вýзлаўя** 'перадок у возе' (дзярж., Нар. сл.). Гл. *вузгалаўе*.

**Вузля́к** 'вузел' (карэліц., Шатал.), *вузьля́к* 'памянш. ад вузёл' (Бяльк.). Да *вýзел*, няясная словаўтваральная матывацыя, паколькі для беларускіх утварэнняў на *-ак* памяншальна-ласкальнае значэнне нехарактэрна (З жыцця, 68); магчыма, пад уплывам прадуктыўнай на ўсходзе Беларусі мадэлі *вальлё — вальля́к* 'валлё (у птушкі)', *вульлё — вульля́к* 'вулей', дзе суфікс надае слову падкрэсленае значэнне адзінкавасці з-за збліжэння першых слоў са зборнымі назоўнікамі тыпу *галлё* (адносна пастаяннага змяшэння дэмінутыўных утварэнняў з сінгулятывамі гл. Мартынаў, Деривация, 56 і наст.). Менш верагодна ўздзеянне словаўтваральнага тыпу з гэтым суфіксам, які характэрны для назваў маладых істот, утвораных ад адпаведных назоўнікаў, і шырока вядомы на паўночным захадзе і ў цэнтры Беларусі (параўн. *цяля́к, каця́к, вуця́к*) і мае літоўскія адпаведнікі (Атрэмбскі, Gramatyka, 280); магчымасць уздзеяння гэтага словаўтваральнага тыпу падтрымліваецца фармальным збліжэннем зыходнай формы з *казёл*.

**Вýзмежжа** 'ўскраіна поля каля мяжы' (слаўг., Яшк.). Ад *узмéжжа* (гл.) з *в* пратэтычным у выніку пераносу націску на прыстаўку і дээтымалагізацыі.

**Вузмук** 'шост, да якога прымацаваны сеткавы мяшок у рыбалоўнай прыладзе («паплаў»)' (рэч., калінк., Браім). Ад-

дзеяслоўнае ўтварэнне са значэннем прылады дзеяння; зыходнымі прыставачнымі дзеясловамі могуць быць **уз-мыкаць* або **вы-смыкáць* 'вырываць, выхопліваць'; гл. *мы́каць, смы́каць,* семантыка якіх паказвае прызначэнне дэталі (параўн. «вузмукі маглі свабодна рухацца па вертыкалі ўздоўж жэрасцей», г. зн. пры дапамозе іх лёгка можна выхапіць сетку з вады), фанетыка характэрна для гаворак поўдня Беларусі.

**Вузнáць** 'пазнаць' (Бяльк.). Запазычана з рус. *узнáть* 'тс' вусным шляхам (пратэза).

**Вузрóслы** 'дарослы' (Бяльк.). Ад *узрасці́* 'вырасці', гл. *узрóст,* як *узнясці́, узнёслы* 'патэтычны', аднак пратэза перад прыставачным *у* сведчыць хутчэй пра запазычанне з рус. *взрóслый* 'дарослы'.

**Вýзорнуць** 'вынырнуць' (КТС). Літаратурная форма была б *вызарнуць,* паралельная да *вызірнуць,* гл. *зірнýць* 'глянуць' з чаргаваннем галоснага; параўн. *зоркі* 'зоркі, пільны' і пад.

**Вýзы** 'цесныя сувязі; тое, што звязвае, аб'ядноўвае (вузы братэрства і пад.)' (БРС, КТС). Кніжнае запазычанне з рус., дзе са ст.-рус. *оуза,* ст.-слав. **ѫза, вѫза** (Крукоўскі, Уплыў, 29), параўн., аднак, яшчэ ў Зізанія *оузы, ланцѹхи, вѫзане.*

**Вузы́р** 'камель снапа' (Сцяц.). Гл. *гузы́р* 'тс' з заменай *г* на *в* у выніку атаясамлівання першага гука з пратэзай. Клец. *вузы́р* 'вузкі канец бервяна' (Нар. лекс.) у выніку народна-этымалагічнага збліжэння з *вузкі* або самастойнае ўтварэнне ад таго ж кораня па тыпу *пухір.*

**Вузяльні́ца** 'хвароба пшаніцы і ячменю, калі ў каласах з'яўляецца чорны парашок' (Мат. Гродз.). Магчыма, ад *вýзел,* бо колас, заражаны гэтай хваробай, выдаецца вузлаватым ці на падставе верavання, што завязаны вузел з жытніх сцяблоў можа прыносіць гаспадару поля няшчасце; параўн. *зáвітка.*

**Вуй**₁ 'дзядзька па маці' (Янк. БП, 537); 'дзядзька' (Сцяшк. МГ), *вýйко* 'дзядзька, брат маці' (Бесар.), укр. *вýйко* 'дзядзька, брат бацькі', рус. *уй, вуй* 'дзядзька, брат маці', польск. *wuj, wujek,* чэш. *ujec,* славац. *ujec, ujko, ujo,* в.-луж. *wuj,* н.-луж. *hujk,* балг. *вуйкá, вýйко, вýйчо,* макед. *вујко,* серб.-харв. *ȕјāк, ȕјац,* славен. *ujəc.* Прасл. **ujь* — дакладны адпаведнік ст.-прус. *awis* 'дзядзька'; параўн. таксама літ. *avýnas* 'дзядзька', гоц. *awō* 'баба', ст.-в.-ням. *ô-heim,* ст.-ісл. *aue* 'пляменнік', лац. *avus* 'дзед', *avunculus* 'дзядзька', якія ўзыходзяць да і.-е. **au̯os (au̯i̯os?)* (Младэнаў, 74; Фасмер, 4, 155; Махэк₂, 668; Трубачоў, История терм., 81 і наст.; БЕР, 1, 198; Брукнер,



637; Шаур, Etymologie, 47; адносна суфікса *-jь* гл. Слаўскі, SP, 1, 8 і наст.).

**Вуй**₂ выкл. 'ой' (Шат.). Гл. *уй* 'тс'.

**Вуйé** 'дышла ў сахі' (Тарн., Studia). Гл. *вайе.*

**Вýйма**₁ 'прарэха ў штанах' (КСТ). Гл. *вы́йма.*

**Вýйма**₂ 'процьма, маса, вялікая колькасць' (мсцісл., З нар. сл.); 'шмат' (Мат. Гом.), *уйма* 'тс' (Цых.), рус. *ýйма* 'множства' ад *узяць, вазьмý,* першапачаткова 'колькі можа змясціцца'.

**Вуйма**₃ '?', параўн. у «Энеідзе навыварат»: «А грэкі вуйму нарабілі, як ляда Трою ўсю спалілі». Адпавядае польск. *ujma* 'страта, шкода, крыўда', чэш. *újma* 'шкода, страта'; сюды таксама рус. смал. *вуйма* 'дзіва, цуд; бяда'. Да *уя́ць, уня́ць* 'узяць, убавіць, зменшыць'; параўн. незак. трыванне *ýймавáць* 'браць, змяншаць' (Некр. і Байк.) і інш. прыставачныя ўтварэнні ад **ję̨ti* (гл. *узяць, няць*); зыходнае значэнне слова ўзнаўляецца, як 'рабунак, грабёж', з далейшым развіццём 'шкода, крыўда', у сувязі з чым няма падстаў дапускаць запазычанне з іншых моў.

**Вýка** 'лапата для веяння збожжа' (палес., Выг. дыс.). Няясна, магчыма, дэфармаванае *вéйка* (зах.-палес. **вы́йка*) 'тс'.

**Вýкідаць** 'выгадаваць, выкачаць (кабана)' (брагін., З нар. сл.). Гл. *вы́кідаць* 'тс'; адносна фанетыкі параўн. *вýзверыцца* (гл.).

**Вукляя́** 'ўклейка, Alburnus lucidus' (Касп.). Гл. *укляя́, уклéйка.*

**Вýкрасіць** 'выбіць, высечы крэсівам (агонь)' (КСТ), літаратурнае *вы́красаць* і *вы́красіць* 'тс'. Гл. *красáць.*

**Вукрóп** 'кіпень, вар' (Бяльк.). Гл. *укрóп, кроп.*

**Вýкрут** 'вір' (Яшк.). Згодна Талстому (Геогр., 214), да **vy-krǫtъ* 'тс'; гл. *вы́крут, вы́круціць,* фанетыка характэрная для гаворак поўдня Беларусі.

**Вýксус** 'воцат' (Жд., 3). Запазычана з рус. *ýксус.*

**Вулáн**₁ 'фальбона' (Сцяшк.). Вуснае запазычанне з рус. *волáн* 'тс'. Гл. *валан.*

**Вулáн**₂ 'улан' (Бірыла, Бел. антр., 2). Гл. *улан.*

**Вýлачка** 'вулічка' (Нас., Бяльк.); 'завулак' (бых., Янк.

Мат.) 'вузкая дарожка, абгароджаная з двух бакоў' (КЭС, лаг.). Гл. *вуліца, вулка.*

**Вулды́р** 'гуз' (Жд., 2, 3), *вулды́рь* 'гуз, гузак, пухір' (Бяльк.), рус. *волды́рь* 'тс' (няяснага паходжання, гл. Фасмер, 1, 338). Няма падстаў разглядаць асобна ад *булды́р* 'пухір, бурбалка, бугор' (параўн. Гараеў, 53; Праабражэнскі, 1, 91), з метатэзай *бурды́ль* і асабліва *бурду́ль* 'пухір', вытворных ад дзеясловаў з «вобразнай» семантыкай, гл. *бурдзе́ць* 'пачынаць закісаць' (З нар. сл.); параўн. інш. семантычныя паралелі: *брузды́ль* 'пухір на целе' і *брузда́цца* 'абліваццa ў час яды' (Бяльк.), літ. *vir̃dulas* 'пухір, бурбалка' ад *vìrti, vérda* 'кіпець' (Атрэмбскі, Gramatyka, 125). Фармальная блізкасць утварэнняў з пачатковымі *в* і *б* прывяла да перапляцення значэнняў 'пухір' і 'гуз'; ёсць падставы меркаваць, што зыходным для ўтварэнняў з *в* было значэнне 'гуз, круглы прадмет' і аснова *вурд-* (**vr̥d-*), гл. навагр. *ву́рда* 'вяртушка зробленая з бярцовай косці свінні, буркаўка' (Жыв. сл.); параўн. балг. *въ̀рдáлям* 'перакульваць', серб.-харв. *вр̀дати* 'вярцецца, круціцца', тады *вулды́р*<**вурдыль* з метатэзай. Адносна суфіксацыі, асабліва чаргавання *-ыль/-уль,* параўн. Слаўскі, SP, 1, 112.

**Ву́лей** (БРС, Грыг., Бяльк., Шат., Сцяшк. МГ, Анох.), *ву́ляй* (чэрв., рагач., З нар. сл.), *уле́й* (віл., воран., З нар. сл.), *вуль, уль* (Касп., глыб., віл., слаўг., бялын., З нар. сл., палес., Анох., Нар. лекс.), укр. *ву́лій, ву́лень, ву́лік,* дыял. *вуль* (Лысенка СПГ), *ву́лий* 'бочка для залення бялізны', рус. *у́лей,* польск. *ul,* чэш. *úl,* славац. *úľ,* н.-луж. *hul* 'вулей, выдзеўбаная калода', палаб. *väul,* славен. *úlj* 'дуплістае дрэва, борць, вулей', серб.-харв. *у̏љаник* 'вулей', мн. л. *ȳљеви* 'чарва', макед. *улиште* 'вулей', балг. *у́лей,* дыял. радоп. *вул'* 'дрэва з дуплом, драўляная труба для вады ў млыне, вулей'. Прасл. *ulьjь, uljь* 'дупло, пустая калода, вулей'; дакладны семантычны і словаўтваральны адпаведнік слав. *uljь* — літ. *aulỹs,* лат. *aũlis*; паколькі такая форма ўспрымалася як зборны назоўнік, то для ўзмацнення адзінкавасці атрымала дадатковы фармант *ulь-jь*; параўн. *салаве́й* (**solvь-jь*) (Мартынаў, Деривация, 56 і наст.); характэрна, што нарашчэнне атрымала таксама адпаведная літоўская форма *avilỹs* (Атрэмбскі, Gramatyka, 122). Іншыя і.-е. адпаведнікі: ст.-прус. *aulis* 'галёнка', *aulinis* 'халява', грэч. *αὐλός* 'труба, дудка', лац. *alvus* 'поласць жывата, трыбух', *alveus* 'поласць, карыта, вулей', што дазваляе рэканструяваць і.-е. **au-lo-s* 'труба, падоўжная поласць' (Фасмер, 4, 159; Брукнер, 593; Младэнаў, 651; Махэк2, 668; Слаўскі, SP, 1, 80, 83 адносна суфікса *-jь:* «выступае ў



функцыі фарманта, які пашырае розныя архаічныя словаўтваральныя катэгорыі, накладваючыся на першасныя ўтварэнні»). Беспадстаўна Булыка (Запазыч., 329) выводзіць ст.-бел. *уль* з польск. *ul.*

**Ву́лечка** 'качаня' (Мат. Гом.); 'качанятка, часам куранятка' (Янк. II). Згодна Янкоўскаму (там жа), памянш.-ласк. ад падзыўнога *вуль-вуль-вуль* (гл.).

**Ву́лівок** 'яйка з вельмі слабой шкарлупой' (усх.-палес., З нар. сл., КСТ). Гл. *вы́лівак.*

**Ву́лі-ву́лі-ву́лі** выкл. 'падзыўное слова для качак, гусей' (свісл., Шатал.); 'падзыўное слова для авечак' (в.-дзвін., Шатал.); 'падзыўное слова для галубоў' (мсцісл., З нар. сл.). Гл. *вуль-вуль-вуль* 'тс'.

**Ву́лік** 'вулей' (КСТ), укр. *ву́лік* 'тс'. Да *вуль* 'тс', гл. *ву́лей;* адносна суфіксацыі параўн. польск. *słowik,* чэш. *slavík,* балг. *сла́вик* (прасл. *solvikъ,* аб прычынах нарашчэння гл. Мартынаў, Деривация, 56 і наст.).

**Ву́ліў** 'лівень' (КСТ). Гл. *вы́ліў,* адносна фанетыкі гл. *ву́зверыцца.*

**Ву́ліўка** 'чарпак для вылівання вады з лодкі' (КСТ). Гл. *вы́ліўка.*

**Ву́ліца** (БРС, Грыг., Байк. і Некр., Шат., Касп., Бяльк., Сцяшк. МГ, ДАБМ, карта 48) 'галоўная вуліца ў сяле' (КСТ), укр. *ву́лиця,* рус. *у́лица,* ст.-рус. *улица* 'плошча, вуліца, праход', польск. *ulica,* чэш. *ulice,* славац. *ulica,* в.-луж. *wulica,* славен. *úlica,* серб.-харв. *у̏лица* 'падворак, вуліца', макед. *улица,* балг. *у́лица* 'вуліца'. Прасл. *ulica* 'прабіты праход, вуліца', дэмінутыўнае ўтварэнне ад *uljь* (*ulьjь,* гл. *ву́лей*) 'выдзеўбаная калода, вулей', што ўзводзіцца да балта-слав. *-aulei̯a-* (Слаўскі, SP, 199), першапачатковая семантыка 'агароджаны праход'; параўн. ізасему з разарваным арэалам: славен. *ulica* 'агароджаная з двух бакоў вузкая дарога для прагону жывёлы на выган ці на вадапой' і рус. уладз., маск., паўн.-рус. *улица* 'агароджаны праход для жывёлы', а таксама серб.-харв. (Герцагавіна) *улица* 'праход да дома, агароджаны з двух бакоў высокай каменнай сцяной' і палес. *ву́лічка* 'вузкі праход паміж двума будынкамі ці тынамі' (Лысенка СПГ). Сюды ж лельч. *ву́ліца* 'складка ў доўгай світцы ззаду' (Нар. лекс.). Больш агульнае значэнне 'звонку, па-за хатай' развілося на базе супрацьпастаўлення «замкнутай» і «незамкнутай» прасторы; інакш Лучыц-Федарэц (Лексіка Палесся, 176 і наст.), якія на падставе палес. *гу́ліца, гу̂лыца* 'двор або яго

частка' і серб. у̏лица 'двор; вуліца' першапачатковым лічыць значэнне 'двор', адпаведна гэтаму прасл. *ulica* збліжаецца з грэч. αὐλή і лац. *aula* 'двор, падворак'. Параўн. таксама Ваян (Зб. Іўшычу, 390 і наст.), які насуперак Фасмеру (4, 159 і наст.) па акцэнталагічных прычынах адмаўляе сувязь з *вýлей* і звязвае з лац. *aula*; Куркіна (Этимология, 1968, 99) услед за Машынскім (Pierw. zasiąg, 158 і наст.) выводзіць прасл. *ulica* з **ulъ* 'роў', рус. 'овраг'.

**Вýлка** 'вуліца' (Нас., Грыг.); 'вулічка' (Гарэц.); 'завулак, правулак' (Бяльк., Янк. I, Касп., КСТ); 'дарога, якая праходзіць папярок вёскі, прыблізна пасярэдзіне' (Шат.); 'праход з асноўнай вуліцы' (Жд., 3); 'вузкая дарожка, абгароджаная з двух бакоў' (КЭС), укр. палес. *вýлка* 'вулачка', рус. *ýлка* 'двор, прастора па-за хатай', ст.-рус. *улъка* 'завулак'. Дэмінутыўнае ўтварэнне, паралельнае да *вýліца*; параўн. *гáлка//гáліца* і інш., суфіксацыя на *-ъka* характэрна для паўн.-слав. моў, для паўд.-слав. — *іса* (Слаўскі, SP, 1 94).

**Вулкáн**. Запазычана з рус. *вулкáн* (Крукоўскі, Уплыў, 73, 86), што з лац. *Vulcanus* 'бог агню'.

**Вулканізáцыя** 'рамонт гумавых прадметаў шляхам зваркі'. Праз рус. *вулканизáция* з англ. *vulkanization* (Шанскі, 1, В, 213).

**Вуллé** 'вулей' (Янк. I), *вýлле* 'тс' (Мат. Гом.), *вульé* 'тс' (палес., КСТ), *вуллё* 'тс' (Крывіцкі, вусн. паведамл.), *гýльля* 'вулей' (брэсц., Сігеда, вусн. паведамл.), укр. палес. *вýльє, вýльлє* 'невялікая пасека', рус. бранск. *вуллё* 'вулей'. Ад *вуль (гуль)* 'тс', гл. *вулей*, з суфіксальным ускладненнем, магчыма, пад уплывам семантычна блізкага *дуплé* 'дупло' (жыт., Арх. ГУ), *дуплё* 'тс' (Бяльк.) (<*duplьje*); адносна суфіксацыі гл. Слаўскі, SP, 1, 85 і наст.; Мартынаў, Деривация, 56 і наст.; аднак гэта форма можа ўспрымацца як зборны назоўнік, гл. *вульлё*, мн. л. ад *вулей* (Шат.), *вульлё* 'тс' (Растаргуеў, Бранск.), параўн. *галлё*, у выніку чаго для падкрэслівання значэння адзінкавасці дадаецца іншы суфікс, параўн. *вульля́к* 'вулей' (Бяльк.), *вулья́к* 'тс' (Растаргуеў, Бранск.).

**Вулóхвыцца** 'ганарыцца, выстаўляць сябе, узносіцца' (Бяльк.). Няясна, магчыма, ад *лахвá* 'прыемнасць; лёгкае жыццё' (рус. *лафá* 'ўдача, шчасце') або ад *лáхаць* 'лётаць, хадзіць; пляткарыць' (гл.).

**Вуль-вуль-вуль** 'падзыўныя словы для галубоў' (Касп., Шат., З нар. сл.); 'падзыўныя словы для галубоў і качак' (Сцяц., КСТ); 'падзыўныя словы для качанят або куранят' (Янк. II); 'падзыўныя словы для качак і гусей' (віл., воран., пін., Шатал.); 'падзыўныя словы для авечак' (в.-дзвін., Шатал.; мядз., Нар. сл.), укр. *вуль-вуль-вуль* 'падзыўныя словы для галубоў', польск. *wul-wul-wul* 'падзыўныя словы для гусей'. Хутчэй за ўсё ад *гуль-гуль-гуль* 'падзыўныя словы для галубоў' з заменай пачатковага *г*, атаясамленага з *г* пратэтычным, на *в*; перанос падзыўных слоў на іншых птушак, відаць, праз стадыю іх ужывання ў дачыненні да малых істот (куранят, качанят) у якасці ласкавага звароту (параўн. народнае *гóлуб* у ласкавым звароце да людзей).



**Вульгáрны** (БРС). Запазычана праз рус. *вульгарный* (Крукоўскі, Уплыў, 76) з англ. *vulgar* (Шанскі, 1, В, 215 і наст.).

**Вýльлей** 'вулей' (Мядзв.). Відаць, кантамінацыя *вуллé* 'тс' і *вýлей* 'тс'.

**Вульля́к** 'вулей' (Бяльк.). Гл. *вулле*.

**Вум** 'розум' (Грыг., Др.-Падб., Шат., Бяльк., Жд., 3, КСТ, Нар. сл.), *ум* 'тс' (ваўк., Федар., 4), укр. *ум*, рус. *ум*, *вум* (Растаргуеў, Бранск.), ст.-рус. *умъ*, польск. *um*, чэш. *um*, славац. *um*, славен. *um*, серб.-харв. *у̑м*, макед. *ум*, балг. *ум*, ст.-слав. ѹмъ. Роднаснае да літ. *aumũ* 'розум', *otenis, otena* 'прытомнасць', *otễ* 'звычка' (Фасмер, 4, 161; Махэк₂, 669; Младэнаў, 651; Фрэнкель, 26). Фрэнкель (там жа) прыводзіць іншыя балт. паралелі і ўказвае на неабходнасць аддзяліць іх ад слоў, утвораных пры дапамозе розных прэфіксаў ад і.-е. кораня *-men-* (слав. **mьněti*) тыпу *aũmonis* 'бессэнсоўны' і пад. Параўн. таксама Атрэмбскі, Gramatyka, 180, які сцвярджае, што ўсе літ. словы на *-monis* працягваюць даўнія ўтварэнні з асновай *-men-*.

**Вýм'е** 'вымя' (палес., З нар. сл.). Гл. *вымя*, адносна фанетыкі гл. *вýзверыцца*.

**Вýменціць** 'старанна, хутка і чыста выесці' (Янк. II). Гл. *выменціць*.

**Вумненне** 'думка' (Яруш.). Відаць, прыставачнае ўтварэнне ад **mьněti*, гл. *помніць* 'памятаць', або ў выніку кантамінацыі *вум* (гл.) і рус. *мнение* 'думка, меркаванне'.

**Вýмнічаць** 'мудраваць' (Грыг.). Запазычана з рус. *ýмничать*, хутчэй за ўсё вусным шляхам з рускага гарадскога прастамоўя.

**Вýмя** 'вымя' (Бяльк.), *вýмянё* 'тс' (зэльв., навагр., Сцяшк. МГ, Сцяц., Жыв. сл.). Відаць, не можа разглядацца як вынік

другаснай лабіялізацыі *ы* ў *вымя* (гл.), паколькі арэал пераходу *ы*>*у* пасля губных не дасягае тэрыторый фіксацыі форм з *у* (ДАБМ, карта 39). Спецыфічны лексікалізаваны характар адзначанай фанетычнай з'явы выкліканы, відаць, пазіцыяй *ы* паміж двух губных гукаў; параўн. таксама в.-луж. *wutjo*, н.-луж. *wutje* 'вымя', дзе лабіялізацыя — рэгулярная з'ява, паралельная да паўд.-бел. *вум'е* (гл.).

**Вун**₁ 'ён' (КСТ). Паралельнае да *вон* 'тс' з моцнай лабіялізацыяй; параўн. Бузук, Спроба, 56.

**Вун**₂ 'вунь' (Яруш., Мядзв., Юрч., Яўс.); 'вунь там' (Касп., КСП); 'там, трохі далей' (КЭС, лаг.). Паралельнае ўжыванне форм з мяккасцю канцавога зычнага і без мяккасці характэрна для ўказальных займеннікаў і ў іншых мовах; параўн. рус. *вон* і *вонь* (СРНГ), польск. *han* і *hań* і інш. (гл. Саднік-Айцэтмюлер, 3—4). Гл. *вунь*.

**Вýна** 'вунь' (Яўс.), *вýнака* 'вунь' (шчуч., З нар. сл.), *вýнакі* (Яўс.). Да *вун*₂ з т. зв. «пустымі» суфіксамі (Шуба, Прыслоўе, 62).

**Вýнацька** 'вунь там' (Гарэц., Бяльк., Касп.), *вýнацкі* 'тс' (Нас.). Памяншальна-ласкальнае ўтварэнне ад *вун, вуна, вунака;* параўн. *тýтацька, тýтацькі,* змякчэнне, магчыма, экспрэсіўнага характару, аднак арэал распаўсюджання ўказвае на раён былога цокання; параўн. у інш. раёнах *тýтака, тýтачка, тýтачкі, тýтачы* (Карскі, 2—3, 69).

**Вýнашай** 'бярэмя трасты' (усх.-палес., Шур, вусн. паведамл.). Гл. *вынашай* 'тс'; адносна фанетыкі параўн. *вýзверыцца.*

**Вýндзя** 'там далей, але відаць' (КЭС, лаг.). Складанае прыслоўе *вун* (гл.)+*дзе* з адлюстраваннем т. зв. моцнага якання.

**Вундэркíнд** (КТС). Запазычанне з ням. *Wunderkind* літаральна 'цудоўнае дзіця', магчыма, праз пасрэдніцтва рускай мовы (Крукоўскі, Уплыў, 76).

**Вунé** 'вунь' (лельч., Куч.), *вýнека* 'тс' (Мат. Гом.). Да *вунь*, адносна суфіксацыі гл. Шуба, Прыслоўе, 62, 64.

**Вýнія** (БРС, Байк. і Некр.). Гл. *унія.*

**Вунія́т** 'падманшчык, дрэнны чалавек' (Бяльк.). Гл. *уніят.*

**Вýнках** 'вунь там' (Нас.). Форма старога меснага склону ад *вунка, вункі* (гл. *вун*); параўн. прыслоўі *вóнках* 'звонку'



ад *вóнка, вонкі, далóўках* 'унізе' ад *далóўкі, далóўка* і інш. (Карскі, 2—3, 77).

**Вунь** прысл. (БРС, Гарэц., Байк. і Некр., Касп., Шат.). Звязана з дыял. *вун*, рус. *вонь, вон*, дыял. *вѡн*, укр. *он, онь*, што ў сваю чаргу звязваюць з асабовым займеннікам *ён* (*он, вон*) (Сабалеўскі, Лекции, 96; Праабражэнскі, 1, 133; Фасмер, 2, 348). Змена галоснай у выніку лабіялізацыі пачатковага націскнога *о* (параўн. навагр. *вонь* 'вунь', З нар. сл.); параўн. *унь* 'вунь' як пераходны этап ад палес. *онь* да *вунь*. У сваю чаргу палес. *онь* з указ. часціцы *о* (літаратурнае *во*) і дэйктычнай часціцы *-нь*; параўн. іншую форму для ўказання на блізкі прадмет *вось* (*ось*<*о*+*сь*).

**Вýньдзека** 'вунь там' (Касп., Жд., 1) *вýньдзіка* (докш., Янк. Мат.), *вýньдзяка* (Сцяшк.) з *вунь* (гл.)+*дзе*+*ка* (т. зв. «пусты» суфікс, характэрны для прыслоўяў; параўн. размоўныя формы *тýтака, тáмака, сённека* і інш., Шуба, Прыслоўе, 62), аналагічна да серб.-харв. *днђека* 'тс'.

**Вунянё** 'вунь' (Жд., 1), *вýнянё, ýнянё* 'тс' (капыл., Жыв. сл.). Больш празрыстую структуру дэманструе палес. *онёнё* 'тс', утворанае шляхам падваення ўказальнага прыслоўя *онь* (*вонь*) і ўказальнай часціцы *о* ў канцы; адпаведна *вунянё* з *онёнё* шляхам лабіялізацыі пачатковага *о* і пераходу другога галоснага ў *я* ў першым складзе перад націскам.

**Вýпадок** 'хвароба, смерць, упадак' (КСТ). Відаць, да *выпадак* (у знач. 'няшчасны выпадак') з характэрнай для поўдня Беларусі заменай *ы* на *у* пасля губных; параўн. семантычную паралель: *годзіна* 'непагадзь' і *ліха годзіна* 'тс' (Нар. сл.).

**Вýпар** 'крывасмок, вампір' (Касп., Сцяшк., барыс., Шн., 2, 404); параўн. у запісах Федароўскага: «Каб ты па смерці вупарам хадзіў» (слонім., навагр., Федар., 4, 417); 'ваўкаваты, пануры чалавек' (карэліц., З нар. сл.; Жыв. сл.);' упарты чалавек' (Сцяц.; КЭС, лаг.; Жд., 3; Цых.); 'надзьмуты чалавек' (Жд., 2). Семантыка і форма слова — вынік кантамінацыі слоў *упыр* 'крывасмок, вампір' (гл.) і *ýпірáцца* 'упарціцца'; супадзенне націску з польск. *upior* 'крывасмок' не дае падстаў лічыць бел. слова запазычаннем, бо само польск. слова лічыцца запазычаннем з усх.-слав. з-за пачатковага *u-*; аналагічнае развіццё значэння параўн. у рус. *упы́рь* 'крывасмок' і *упы́рь* 'упарты чалавек' (Фасмер, 4, 165 і наст.). Гл. *упор, упіра* 'упарты чалавек', 'неслух'.

**Вупíсваць** (рожу) 'праводзіць лініі нажом вакол хворага

15. Зак. 1876

месца' (КСТ). Гл. *выпісваць* 'пісаць', адносна фанетыкі параўн. *вузіра́ць* (гл.).

**Вуплува́ць** 'выплываць' (Бяльк., КСТ). Супадаючыя формы з усходу і поўдня Беларусі тлумачацца па-рознаму: магілёўская форма адлюстроўвае фанетычныя змены, звязаныя з сістэмай дысімілятыўнага акання і моцнай лабіялізацыяй *ы* паміж губнымі (*вып->вуп-*, Яшкін, Узаемадзеянне, 65; Вайтовіч, Ненаціскны вакалізм, 43 і наст.), палеская форма ўтворана ад *плуць* 'плыць' з пераходам *ы>у* пасля губных (Вайтовіч, там жа, 45 і наст.).

**Вупраж** (БРС, Бяльк., КСП), рус. *у́пряжь*. Ад *упрага́ць* 'запрагаць' (параўн. Нас., Байк. і Некр.), у шмат якіх раёнах выцеснена паланізмам *збруя* (Сцяцко, Словаўтв., 190); рус. *упряжь* Фасмер (4, 165) лічыць непасрэдным утварэннем ад *прягу*.

**Ву́пугаць** 'з'есці прагна' (Янк. II.). Гл. *вы́пугаць, пу́гаць*.

**Ву́пусток** 'цяля, жарабя ад аднаго да двух гадоў' (усх.-палес., З нар. сл.). Гл. *вы́пустак*.

**Вур** 'плот з жэрдак' зах.-палес. (Бел-укр. ізал.). Да *вор* 'тс' з лабіялізацыяй, параўн. *вун* 'ён'.

**Вура́днік** 'ураднік' (Бяльк.). Гл. *ура́днік* (*в* пратэтычнае).

**Ву́рачча** 'урочышча' (стаўб., Прышч. дыс.). З больш ранняга **урочье*, часцей *уро́чышча* (гл.) (ад *уро́к* 'умова, дагавор'), г. зн. 'устаноўленае месца, якое мае сваю назву'; цяжка вытлумачыць перанос націску на пачатак слова, магчыма, у выніку пераасэнсавання пачатковага складу слова як прыстаўкі *ву-* (*вы-*), якая заўсёды выступае пад націскам.

**Вурва́лак** 'кусок палена, цурбалак' (дзярж., З нар. сл.; Нар. сл.). Ад *вы́рваць* 'адарваць, аддзяліць' з пераходам *ы>у*, гл. *вы́рвалак* 'вялікі кавалак' (Бяльк.), або *урва́ць* 'захапіць, адарваць'; параўн. *урвала́к* 'жарт, каламбур' (сакольск., Арх., Федар.), што адпавядае польск. *kawał* 'тс' (і 'кусок, кавалак'). Параўн., аднак, *бурва́лак* 'палена і інш.' (гл.), для якога ўказваюць літоўскую крыніцу (Арашонкава і інш., БЛ, 3, 36), і паралельныя формы гродз. *ушва́лак* і *бушва́лак* 'кусок палена' (Цых., ад **шваліць*?), брагін. *ушва́рак* 'тс' (Шатал., ад *шва́рнуць* 'шпурнуць'?) і інш., адносна спарадычнай замены *в* на *б* у ізаляваных словах параўн. Машынскі, Kultura, 2, 2, 856, 884.

**Вурвалле** 'пласт зямлі' (КТС). Відаць, да *урва́ць, вы́рваць*, гл. *ву́рвалак*.



**Ву́рвіняц** 'жэўжык, свавольны хлапчук' (З нар. сл.). Ад *вы́рвацца. рваць*, першапачаткова 'той, хто вырваўся з-пад шыбеніцы (калі абарвалася вяроўка)'; параўн. польск. *urwaniec* 'шыбенік', рус. *сорване́ц* 'тс', *ато́рва* 'тс' (З нар. сл.); *у* на месцы *ы* — характэрная фанетычная асаблівасць гаворак поўдня Беларусі; параўн. *вы́рвас* 'тс'.

**Урга́н** 'бугор' (Грыг., Гарэц.); 'пухір' (Яруш.); 'цвёрды грузачок, пухір на скуры' (мсцісл. З нар. сл.), *варга́н* 'вярзіла, боўдзіла' (віл., Грынблат, вусн. паведамл.), рус. бранск. *вурга́н* 'сіняк', маск. *ворга́н* 'вір, яма ў рацэ'. Хутчэй за ўсё аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *вурга́ніць* 'кідаць, перакульваць' (гл.), якое, відаць, нельга разглядаць асобна ад *варга́ніць* 'тс' (гл.); балгарская паралель *въ̀рга* 'гуз на целе', якую Бернар (Балк. ез., 3, 1961, 83) выводзіць з *въ̀рга́лям* 'куляць, пераварочваць' (<і.-е. **wer-gh-* 'круціць'; параўн. лат. *sa-vergt* 'моршчыцца, сціскацца' (БЕР, 1, 210)) і *въ̀ргам* 'куляць, перакідаць', а таксама серб.-харв. *варгањ* 'грыб баравік' (Мяркулава, Очерки, 164), магчыма, даюць падставы для рэканструкцыі прасл. *vъrganъ* 'нарост, грыб'; адносна фанетыкі і семантыкі параўн. таксама *вурдыль, вургуль* (гл.).

**Вурга́ніць** 'валіць адно на другое без парадку, рабіць абыяк' (Нас.). Відаць, немагчыма разглядаць асобна ад *варга́ніць* 'тс'; узыходзіць да незафіксаванага **вурга́ць, вургану́ць* 'кідаць, штурхаць', што адпавядае балг. *въ̀ргам* 'перакульваць, валіць', чэш. *vrhati*, славац. *vrhat'* 'кідаць' і інш.; адносна семантыкі параўн. таксама балг. арг. *въргóлю* 'рабіць, працаваць'.

**Вургу́ль** 'цвёрды нарост пад скурай' (мсцісл., З нар. сл.). Відаць, не можа разглядацца асобна ад *варгу́ль* 'нарост на дрэве' (палес., Цыхун, вусн. паведамл.); як і паралельнае да яго балг. радоп. *въргу́л* 'камяк зямлі ці невялікі моцны камень', *варгу́л'ка* 'тс' з'яўляецца хутчэй за ўсё самастойным аддзеяслоўным утварэннем, параўн. *бурду́ль* 'пухір' і *бурдзе́ць* 'закісаць', незафіксаваны дзеяслоў павінен быў бы мець форму **вурга́ць* (гл. *вурганіць*) 'кідаць, штурхаць' з характэрнай для назоўнікаў з такім значэннем суфіксацыяй.

**Ву́рда** 'вяртушка, буркаўка' (навагр., Жыв. сл.). Гукапераймальнае.

**Вурдала́к** 'ваўкалак' (КТС). Рус. *вурдала́к* лічыцца выключна кніжным словам, узнікшым у выніку недакладнай перадачы *волкола́к, вуркола́к* (Вінаградаў, ДСИЯ, 6, 9 і наст.; Трубачоў, Дополн., 1, 366; Шанскі, I, В, 216); адсутнасць фік-

сацыі бел. слова ў народнай мове не дае падстаў для яго этымалагізацыі на мясцовай глебе і прымушае разглядаць як кніжнае запазычанне з рус. мовы. Аднак балг. іхцім. *вурдала́* 'дрэнны чалавек, з якім цяжка знайсці агульную мову' (калі гэта не запазычанне) і іншыя факты робяць праблематычным сцверджанне аб штучным паходжанні гэтага слова; хутчэй за ўсё гэта слова паўднёваславянскага паходжання (магчыма, уведзенае Пушкіным, гл. Вінаградаў, там жа), дзе яно можа суадносіцца з балг. *върда́лям* 'перакідаць, перакульваць', як балг. *върколáк* 'ваўкалак' з *въркáлям* 'валяцца па зямлі', што адлюстроўвае «тэхналогію» пераходу чалавека ў такі стан; параўн. *перакі́нуцца* (воўкам або інш. зверам), рус. *óборотень* і пад. (Згодна ўяўленням палешукоў, такі чалавек мог стаць зверам, часцей за ўсё воўкам або зайцам, забіўшы нож у дрэва і перакуліўшыся цераз галаву ці пакачаўшыся па зямлі, КСТ). Менш верагодна вывядзенне гэтага слова з цюрк. *obur-da-lak* 'пражэрлівы' ад кораня *obur* 'абжора' (Дзмітрыеў, Лекс. сб., 3, 40).

**Вуржэ́ць** 'гудзець' (КТС). Гукапераймальнае.

**Вурза́лак** 'кусок дрэва; вялікі камяк у страве; бясформенны кавалак' (КСП). Магчыма, да *ву́рзаць* 'прагна есці, глытаць' ці 'стукаць, біць', гл. *ву́рзнуць*, націск і словаўтварэнне, магчыма, пад уплывам назоўнікаў з падобнай семантыкай (*кава́лак*, *бурва́лак*, *вурва́лак* і інш.).

**Ву́рзаць** 'хлябтаць, сёрбаць' (Касп., Шн., 3, 35), рус. *ворзать* 'прагна глытаць, хлябтаць'. Рус. слова Шахматаў (ИОРЯС, 16, 4, 20) звязвае з *варза́ть* 'рабіць абы-як, дрэнна; брудзіць; жартаваць' (гл. таксама Фасмер, 2, 275 і 351), паходжанне якога застаецца няясным. Магчыма, звязана з прус. *warzus* 'губы' якое Брукнер (602) з пэўнымі агаворкамі звязвае з польск. *warga*, аднак больш верагодна — гукапераймальнага паходжання; параўн. чэш. *vrzati* 'скрыпець, выдаваць гук', пра апошняе гл. Махэк₂, 701.

**Вурзга́ўка** 'дзіцячая цацка, буркаўка' (в.-дзвін., Шатал.), *ву́рзгалка* 'тс' (КСП). Ад *ву́рзгаць* 'утвараць гук, падобны на гудзенне' (гл.).

**Ву́рзгаць** 'утвараць гук, падобны на гудзенне' (в.-дзвін., Шатал.), *ву́рзгаць* 'сёрбаць' (круп., Нар. сл.), *вурзго́ліць* 'есці' (міёр., Нар. лекс.). Відаць, звязана з *ву́рзаць* 'хлябтаць, сёрбаць' гукапераймальнага паходжання, параўн. славац. *vŕzgat'* 'скрыпець', могуць быць зблізканы з літ. *burzgěti*, *bùrzga* 'гудзець, бурчаць' (параўн. Махэк₂, 701); адносна дэ-



тэрмінатыва *-г-* гл. шматлікія прыклады з славянскіх моў: Куркіна, Этимология, 1972, 64 і наст.

**Вурзець** 'павольна ісці, плесціся' (Янка Купала, Ванк. дыс.). Няясна; магчыма, звязана з *ву́рзаць* 'хлябтаць, сёрбаць' або з *ву́рда* 'буркаўка, вяртушка', тады зыходная форма была б **вурдзець* 'куляцца, бурчаць', відаць, гукапераймальнае.

**Ву́рзнуць** 'ударыць, стукнуць' (КСП, Шн., 2; Яўс.); 'стукнуць нагой' (З нар. сл.); 'хутка выслізнуцца з рук' (Шат.), *ву́рзнуцца* 'выцяцца, рэзнуцца' (Бяльк.); 'моцна ўдарыцца' (Яўс.). Гукапераймальнае; параўн. таксама чэш. *vrznouti* 'ударыць, стукнуць' (адносна якога гл. Махэк₂, 702), магчыма, другаснае збліжэнне з *рэ́заць, рэзану́ць*, якое як і польск. *wyrznąć* мае значэнне 'выразаць' і 'стукнуць, выцяць'.

**Ву́рка** 'хітрэц, жулік' (Яўс.), рус. арг. *у́рка* 'жулік, злодзей', укр. арг. *у́рка, урка́ч* 'злодзей'. Магчыма, цюркскага паходжання, параўноўваюць з казах. *ўры*, каракалп. *уры* 'злодзей' (Горбач, Арго, 24), аднак не выключана магчымасць этымалагізацыі на мясцовай глебе; параўн. *вурну́ць* 'украсці' (парнае да незафіксаванага **вура́ць*?) (гл.).

**Вуркама́н** 'нелюдзімы, але хітры чалавек' (Яўс.). Ад *ву́рка* (гл.) з экспрэсіўным суфіксам *-ман*, вядомым у беларускай і інш. славянскіх мовах (Слаўскі, 4, 243); сюды ж рус. дан. *воркома́н*, відаць, збліжанае з *вор* 'злодзей'.

**Вуркатаць** (БРС). Да *вурча́ць*, суфіксацыя *-ат-* (*-от*) характэрна для ўтварэння гукапераймальных слоў. Параўн. рус. *воркот*, чэш. *vrkot*, славац. *vrkotat'*, укр. *воркотати*, польск. *warkotać*, *wurkot* і інш. (Голуб — Копечны, 336; Фасмер, 2, 351; Махэк₂, 700; Брукнер, 602; Шанскі, 1, В, 164).

**Ву́ркаць** 'бурчаць, грукацець', 'гыркаць, сварыцца, злосна адказваць' (КСТ). Гл. *вурча́ць, вы́ркаць*.

**Вуркуга́н** 'нахабны злодзей' (З нар. сл.). Разам з укр. арг. *вуркага́н, уркага́н* 'злодзей' да *ву́рка* (*у́рка*) 'тс' (Рудніцкі, 1, 500); прыклады экспрэсіўнай суфіксацыі такога тыпу прыводзіць Крывіцкі (З нар. сл., 133).

**Вурну́ць** 'украсці' (Жд., 2). Няясна, магчыма, «імітацыйны» дзеяслоў для перадачы хуткага руху, суадносны з выклічнікам *вур*; гл. *вуркаць* (параўн. Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 84).

**Ву́ровень** 'цяслярская прылада' (КСТ). З рус. *у́ровень*, 'тс' з пратэзай.

**Вуро́дзіна** 'уродзіна, ненармальны, з фізічнымі недахопамі чалавек' (Бяльк.). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *уро́д* 'тс', адносна сінгулятыўнага суфікса *-іна*, які можа надаваць слову экспрэсіўнае значэнне, гл. Слаўскі, SP, 1, 120 і наст.; параўн. выкарыстанне значэння адзінкавасці для экспрэсіі ў словазлучэннях тыпу польск. разм. *prosiaku jeden* (літаральна 'парсюк адзін' у дачыненні да таго, хто не ўмее сябе культурна паводзіць за сталом і г. д.). Прымаючы пад увагу геаграфію слова, можна дапусціць запазычанне з рус.; параўн. бел. народнае *вы́радак* 'тс'.

**Ву́родзіць** 'нарадзіць (дзіця)' (КСТ). Гл. *радзіць*.

**Ву́рочкі** экспр. 'вочы' (КСТ). Гл. *вы́рачкі, вы́рачыць*.

**Вурца́ць** 'бурчаць' (віц., Рам., 8). Да *вурча́ць* 'тс' з цоканнем (пра распаўсюджанне гэтай з'явы на тэрыторыі Беларусі і суседніх тэрыторыях гл. Бузук, Спроба, 41, карта № 8).

**Вурча́ць** 'бурчаць, гудзець' (Нас., Касп.), *вурчэ́ць* 'тс' (Бяльк.; КЭС, лаг.); 'гыркаць (пра сабаку)' (КСТ), сюды ж форма з цоканнем — *вурца́ць* (Рам., 8, 140) і *вурча́ць* 'жраць' (Грыг.), укр. *ворча́ти*, рус. *ворча́ть*, польск. *warczeć*, чэш. *vrčeti*, славац. *vrčat'*, в.-луж. *warcać*, н.-луж. *warcaś*, славен. *vŕčati*, серб.-харв. *вр̏чати*. Прасл. **vъrkěti;* параўн. літ. *ur̃kti* 'бурчаць', *ũrkioti* 'варкаваць; сварыцца' (Фасмер, 2, 356; Брукнер, 602; Шанскі, 1, В, 169).

**Ву́рэч** 'сенакос або паша', *вы́рэч* 'тс' (КСТ). Відаць, з **урэчча* 'месца ля ракі', якое захавалася ў тапоніме Урэчча.

**Вуры́ць** 'апетытна есці, гучна сёрбаючы' (полац., Нар. сл.). Гукапераймальнае.

**Вус,** укр. *вус*, рус. *ус*, польск. *wąs*, чэш. *vous*, славац. *fúz*, в.-луж. *wusy* мн. л., палаб. *vǫs* 'барада', славен. *vôs* 'вус', балг. дыял. *въс* 'барада, волас'. Прасл. **vǫsъ* або **ǫsъ;* параўн. ст.-прус. *wanso* 'першая расліннасць на твары', ст.-ірл. *fés* 'барада', грэч. ἴονϑος 'юначая барада' (**vi-vondho-*) і інш. (Махэк₂, 697; Фасмер, 4, 169 і 477; БЕР, 1, 214; Брукнер, 604; Слаўскі, 1, 266).

**Вусаві́на** 'кусок поля, які ўдаецца ў лес' (КСП). Відаць, ад *вус;* параўн. *вусы* 'кліны ў адзенні' і пад.

**Вуса́ч** 'вусаты чалавек' (Мат. Гом.); 'рыба з сямейства карпавых' (КТС), *вусач* 'ячмень' (Жд., 3, відаць, жартоўнае); параўн. таксама укр. *вуса́ч*, рус. *уса́ч*, польск. *wąsacz*, чэш. *vousáč*. Ад *вус* (адносна суфіксацыі гл. Грам. бел. мовы, 1, 102; Вярхоў, Бел. мова, 76; Сцяцко, Словаўтв. 245; Слаўскі, SP, 1, 102).



**Ву́свіца** 'збанок' (Янк. 1). Утворана ад *ву́сце (устье> >*устьица>*уствица)* або ад *вуста́;* параўн. ст.-чэш. *ústicě* 'шкляная пасудзіна' (Махэк₂, 671, ад *ústa*); параўн. таксама семантычна падобныя ўтварэнні тыпу *гарла́ч* і інш.

**Ву́селкы** 'почапкі' (брэсц., З нар. сл.). Гл. *вусялка*.

**Вусе́ль** 'вусач' (брагін., Шатал.). Ад *вус*, да словаўтварэння параўн. *чубе́ль* 'чубаты чалавек', *гарбе́ль* 'гарбаты чалавек' і пад., якія абазначаюць «асобу паводле адмоўнай прыкметы» (Сцяцко, Словаўтв., 244; Грам. бел. мовы, 1, 120).

**Ву́сеніца₁** 'вусень' (Сцяшк. МГ), укр. *у́сениця, гу́сениця*, рус. *гу́сеница*, польск. *gąsienica*, ст.-польск. таксама *wąsienica*, кашуб. *vansevnica*, чэш. дыял. *housenice*, славац. *húsenica*, в.-луж. *husańca*, н.-луж. *gusеńca*, палаб. *vǫ́sənåicə*, славен. *gosênica, vosênica*, серб.-харв. *гу̀сеница*, балг. *гъ́сеница, въ̀сеница*. Прасл. **vǫsěnica(*ǫsěnica)*, утворанае ад **vǫsъ (*ǫsъ)* 'вус' (Бернекер, 1, 341; Младэнаў, 118; Фасмер, 2, 477; Брукнер, 604; Махэк₂, 180; Слаўскі, 1, 266; Скок, 1, 635); формы з *г*, якія маюць праславянскі характар, тлумачаць па-рознаму: Слаўскі (1, 266) і Якабсон (Word, 8) як вынік пратэзавання; Ваян (RÉS, 18, 77) пад уплывам *gǫsь* 'гусь'; Фасмер (2, 477) пад уплывам ст.-слав. **гоуштерица;** Скок (1, 635) кантамінацыяй з *guščerica* 'яшчарка' (з-за афарбоўкі).

**Ву́сеніца₂** 'нарыў паміж капыта ў каровы'; 'гнаявік у капытах (у каня, каровы)' (КСТ). Відаць, да *ву́сеніца* 'вусень'; параўн. семантычную паралель славац. *liška* 'лішай (хвароба)' і 'вусень, матылёк', што, як паказаў Важны (O jménech, 106 і наст.), звязана з уяўленнямі пра насякомых як разносчыкаў хвароб.

**Ву́сень** 'лічынка матылька' (БРС, Шат., Сцяшк. МГ) *ву́сень* зборн. 'тс' (КСТ), укр. *ву́сень, гу́сень*. Магчыма, утворана шляхам другаснай дэрывацыі ад *ву́сеніца* (гл.) як парная па роду форма тыпу *лось — ласіца*.

**Ву́сербаць** 'хутка з'есці, сёрбаючы' (Янк. II). Гл. *вы́сербаць, сёрбаць*.

**Ву́сеўкі** 'рэшткі ад прасейвання мукі' (Мат. Гом.). Гл. *вы́сеўкі*, адносна фанетыкі параўн. *вузверыцца*.

**Вусёнак** 'частка жака; рукаў, па якому рыба заходзіць у жак ці нерат' (Касп.). Ад *ву́сце* 'горла ў жаку ці нераце'; па-

раўн. смал. *вустёнок* 'уваход для рыбы ў вяршу, мярэжу' (Мат., смал.).

**Ву́скарка** 'скварка' (Мат. Гом.), *ву́скорка* 'тс' (КСТ), *ву́скварок* 'тс' (КСТ). Гл. *вы́скаркі, вы́скваркі, в* у корані страчана ў формах з оканнем у выніку зліцця спецыфічнага для поўдня Беларусі *в* (часта ўспрымаецца як *ў*, Бузук, Спроба, 56) і моцна лабіялізаванага *о.*

**Ву́скідзь** 'вывернутае дрэва' (Байк. і Некр., Куч.). Параўноўваецца з назвай населенага пункта на тэрыторыі в.-луж. гаворак *Wuskidź* у якасці спецыфічнай беларуска-лужыцкай ізалексы (Трубачоў, Слав. языкозн., 5, 189). Фанетыка бел. і в.-луж. слоў сведчыць, аднак, пра другасны характар гэтых форм, узнікшых у выніку лабіялізацыі, паколькі формы з *вы*вядомы на больш шырокай тэрыторыі (рус. *выскидь*, чэш. *výskyd'* і г. д.). Гл. *выскадзь, выскідзь* 'тс'.

**Ву́скороцень** 'дэталь у санях'; 'полаз' (КСТ). Гл. *вы́скараценъ.*

**Ву́скрэбок** 'маленькая булка хлеба з рэшты цеста' (КСТ, Куч.); 'апошняе дзіця ў сям'і' (КСТ). Гл. *вы́скрабак* 'тс'; да фанетыкі параўн. *вузверыцца.*

**Ву́смерць** прысл. 'да смерці' («Полымя», 1970, № 2, 118). Няясна, магчыма, прыназоўнікавае ўтварэнне — *у+смерць*, як *на+смерць* з нехарактэрнай для бел. мовы перацяжкай націску; параўн. рус. *на́смерть.* Апошняе дазваляе меркаваць аб магчымым запазычанні слова з рус. мовы, відаць, вусным шляхам, дзе яно магло паходзіць са спалучэння *в+смерть* (дакладней — *во́ смерть*).

**Ву́сны** (БРС, Байк. і Некр.), 'губы' (Касп.), *вусні́на* 'губа' (Касп.), рус. маск. *усти́на* 'тс', славен. *ustna, ustnica* 'губа', *ustni* 'губы', серб.-харв. *у̏сна* 'губа', *у̏сни* мн. л., макед. *усна* 'губа', *усни* мн. л., балг. *у́стна* 'губа', мн. л. *у́стни.* Прасл. **ustьna* 'губа', вытворнае ад **usta* (Махэк₂, 671) хутчэй за ўсё ў выніку семантычнага згортвання словазлучэння **ustьna gǫba>ustьna.* Параўн. таксама Трубачоў, Слав. языкозн. 5, 177, дзе звяртаецца ўвага на беларуска-паўднёваславянскі характар слова. Гл. *вуста.*

**Вусо́зны** 'высачэзны' (КСТ). Гл. *высо́зны.*

**Вусота́льны** 'надта высокі' (КСТ). Да *высата́* 'вышыня' з заменай *ы>у* пасля губных.

**Вуста** 'вусны' (Бяс., 775), укр. *вуста́,* рус. *уста́,* польск. *usta,* чэш. *ústa*, славац. *ústa.* в.-луж. *wusta,* н.-луж. *husta,* славен. *ústa,* серб.-харв. *у́ста,* макед. *уста,* балг. *уста́.* Прасл. **usta,* роднаснае ст.-прус. *austo* 'рот', літ. *áuščioti* 'балбатаць, шаптаць', ст.-інд. вед. *ósthaḥ* 'губа', авест. *aošta-* 'губа', лац. *ausculum* 'роцік' і інш. Параўн. таксама літ. *uostà* 'вусце, гавань' (Младэнаў, 656; Фасмер, 4, 172, з літ-рай; Махэк₂, 671; Брукнер, 596).



**Ву́стаўка** 'ўстаўка з іншага палатна ў кашулі' (КЭС, лаг.); 'клін, які ўстаўляецца ў пройму рукава' (Жд., 1); 'устаўка для надточкі кашулі ў плячах' (Шат., Сакал.; Тарнацкі, Studia); 'вышыўка ў верхняй частцы рукава сарочкі' (З нар. сл.), *ву́стоўка* 'гестка' (петрык., пін., Шатал.). Ад *устаўля́ць,* гл. *уста́ўка* 'тс', пратэза з'явілася, відаць, у выніку перацяжкі націску; параўн. *ву́сцілка.*

**Ву́стрыца** (БРС, Байк. і Некр.). Запазычана з рус. *у́стрица*, якое з галандскага *oester,* што ўзыходзіць да лац. *ostreum* з грэч. ὄστρεον 'ракавіна' (Міклашыч, 228; Фасмер, 4, 173).

**Ву́студзень** 'дэталь, што звязвае галоўкі саней з капылом' (КСТ). Гл. *вы́студзень* 'тс'.

**Вусука́** 'сена з забалочанай сенажаці' (брэсц., Сігеда, вусн. паведамл.). Да *асака́* (<*осока*) з пераходам *о>у* пад уплывам пратэтычнага *в.*

**Ву́сце** 'месца ўпадзення ракі' (БРС, Сцяшк. МГ, Байк. і Некр.), *ву́сьці* 'тс' (КЭС, лаг.), *ву́сьця* 'тс' (Грыг.). *ву́сьте* 'праход у печы' (Дразд.), *вусць* 'чалеснікі' (Сцяшк.), укр. *у́стя,* рус. *у́стье* і *усть,* польск. *ujście,* чэш. *ústí,* славац. *ústie,* славен. *ústje,* серб.-харв. *у̏шħе,* макед. *устие,* балг. *у́стие.* Прасл. **ustьje,* вытворнае ад **usta* (Брукнер, 596; Махэк₂, 671; Фасмер, 1. 173); параўн. таксама ст.-рус. *усто* 'вусце ракі' (Слова аб палку Ігаравым). Поўную лексічную адпаведнасць прасл. **ustьje* і лац. *ostium* (варыянт *austium*) канстатуюць Порцыг (Членение, 197), Трубачоў (Проспект, 85).

**Ву́сцейка** бат. (у расліны) (БРС). Калька з рус. *у́стьице.*

**Вусцерка** 'рыба, Blicca bjoerkna' (КТС). Гл. *гусцера* 'тс'.

**Ву́сцілка** (БРС), *ву́сцелка* і *высці́лка* 'вусцілка' (КСТ), укр. *усті́лка* 'тс'. Ад *усціла́ць, высці́лаць,* гл. *сцялі́ць;* адносна націску параўн. *ву́стаўка.*

**Вусці́льна** 'дзяржанне ў восцях' (нараўл., Арх. ГУ). Ад *восці́льно* 'тс'; гл. *во́сці,* з лабіялізацыяй *о* пад уплывам папярэдняга зычнага.

**Ву́сцінка** 'адтуліна ў жаку' (КСТ). Да *ву́сце* 'тс' (гл.).

**Ву́сціш** абл. 'ціша' (БРС). Утвораны шляхам зваротнай дэрывацыі назоўнік ад *усці́шыць*; гл. *ціха, ціш.*

**Ву́сцішна** 'ціха, спакойна' і 'жудасна, страшна' (БРС); 'страшнавата' (З нар. сл.). Гл. *ву́сціш* з развіццём семантыкі 'ціха, аж страшна'.

**Ву́сць** 'чалеснікі' (Сцяшк. МГ); параўн. рус. *усть* 'вусце'. Відаць, ад *ву́сце* 'ўваход у печ', успрынятага як форма мн. л. або зборн.; параўн. *чале́снік, чале́снікі* і *чэ́люсць, чэ́люсце* 'тс'.

**Ву́сцянак** 'затычка' (Мат. Гом.) Няясна, магчыма, да *ву́сце* 'адтуліна' (з пераносам значэння з таго, што затыкаюць, на тое, чым затыкаюць).

**Ву́ська** 'жэрдка, якая ляжыць на стыку дзвюх крокваў' (Шатал.). Няясна.

**Ву́ськаць** 'падбухторваць, павучаць; цкаваць' (Яўс.). Ад *вусь, усь* 'вокліч, якім нацкоўваюць сабак', рус. *усь* 'тс', укр. *усь* 'тс', па паходжанню алегра-форма ад *кусь (-кусі)* (Булахоўскі, Труды ИРЯ, 1 (1949), 187; адносна суфіксацыі гл. Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 67 і наст.).

**Ву́сьпіткам,** *вы́сьпіткам* 'нагой' (калінк., З нар. сл.). Параўн. укр. *вуспятки, успятки,* якое з няпэўным значэннем 'абцасы' прыводзіцца ў Грынч. Гл. *вы́спятак.*

**Ву́сьцебнуць** 'выпрагчы з ярма' (мазыр., З нар. сл.). Гл. *вы́сцебнуць* 'тс'.

**Ву́сьцельга** '«вяз», які звязвае «галоўку» полаза з першым (пярэднім) капылом у санях' (Янк. I, 53), *ву́сьцеглі* 'тс' (але адна *ву́сьцельга,* КСТ). Параўн. палес. *усця́гля, уся́гля* 'тс' (Маслен.), дзе не адбылася перастаноўка зычных у апошнім складзе і можна ўзнавіць першапачатковую форму з коранем *сцяг-;* у такім выпадку ўнутраная форма слова 'тое, што сцягвае' (галоўку полаза з капылом); параўн. іншую назву гэтай дэталі *сця́га* (гл.).

**Ву́сьцень** 'вусце' (Бяльк.). Ад *ву́сце,* афармленае прадуктыўнай суфіксацыяй на *-ень* (Вярхоў, Аб нек. асабл., 33 і наст.); да лакатыўнага значэння параўн. мсцісл. *за́расцень* 'зараснік'.

**Вусы́**₁ 'кліны ў адзенні' (Сакал., Малчанава, Мат. культ., 150; Некр. 166: «белая світка з вусамі»). Да *вус* (гл.) з-за падабенства па форме; параўн. апісанне рэаліі (Бел. нар. адзенне, 61).



**Вусы́**₂, *вусэ́* 'прыстасаванне з трох жэрдак у выглядзе трохвугольніка, якое кладзецца на воз для перавозкі сена' (навагр., Нар. сл.). Відаць, да *вус* (бо «тарчаць» з двух бакоў воза); параўн. *вуса́тые калёсы* 'даўнейшы воз з драўлянай воссю' (мядз., Жыв. сл.).

**Ву́сы**₁ 'шнуры, якія прытрымліваюць адтуліну жака ў раскрытым стане' (КСТ); 'пяньковыя вяроўкі для ўмацавання плыта' (жытк., З нар. сл.). Да *вус* (гл.) на падставе вобразнай метафары (бо «разведзены» ў два бакі).

**Ву́сы**₂ 'асцюкі ў коласе' (Жд., 2), *ву́са* 'тс' (брэсц., Сігеда, вусн. паведамл.); параўн. укр. *ву́си* 'тс'. Да *вус* (гл.) з-за падабенства па форме.

**Ву́сяка** 'вось, якраз' (Шат.). Са спалучэння *вось як* шляхам універбацыі, лабіялізацыі *о* ў пазіцыі пасля *в* і далучэння прыслоўнага суфікса *-а;* параўн. *ту́та (<тут), та́ма (<там)* і г. д., або ад *вось* пры дапамозе «пустога» суфікса *-ка,* як *ву́нека* ад *вунь;* параўн. *авосе́ка* 'вось' (Шуба, Прыслоўе, 62; Карскі, 2—3, 69).

**Ву́сякацца** 'высмаркацца' (Янк. II, Мат. Гом.). Гл. *вы́сякацца* 'тс'.

**Ву́сялка** 'шнур для дзіцячай калыскі' (брэсц., Нар. лекс.), *ву́селкы* 'почапкі' (брэсц., З нар. сл.), *гу́сялка* 'адна з вяровачак, на якую падвешваецца калыска; вяроўка, якая прывязваецца абодвума канцамі да калыскі, служыць для калыхання нагою' (драг., З нар. сл.), *усялка* 'тс' (кобр., Нар. лекс.). Няясна; калі прыняць у якасці зыходнай форму з пачатковым *в,* то хутчэй за ўсё да *во́сілка* 'почапка, дужка (напр., у вядры)', аднак пры гэтым узнікаюць пэўныя фармальныя цяжкасці ў адносінах вакалізму (пры тлумачэнні пераходу *і* або *е* ў *я*); пры зыходнай форме з *г,* магчыма, ад *гу́сяць* — «спешчанай» дзеяслоўнай формы да *гу́шкаць* 'калыхаць'; 'падкідаць', тады формы з *в* у выніку змены ўспрынятага ў якасці пратэзы пачатковага *г,* параўн. *вузы́р* 'ніжняя частка снапа'< <*гузы́р* 'тс' і інш.

**Ву́сяльніца** 'вусень' (навагр., Жыв. сл.). Да *ву́сеніца* (гл.); адносна суфіксацыі параўн. *вучальнік* (з *вучаннік?*).

**Вут-вут-вут** 'падзыўныя словы для качак' (КСТ); 'падзыўныя словы для гусей' (карэліц., Шатал.). Ад *ву́тва* (памянш. *ву́тоўка*) або *ву́тка* 'качка', перанос падзыўных слоў на гусей — з'ява другасная, параўн. *вуль-вуль-вуль* (гл.), магчыма, у выніку дээтымалагізацыі пасля выцяснення спрадвечнай назвы на частцы беларускай тэрыторыі паланізмам *ка́чка.*

**Вута́к** 'самец качкі, селязень' (Мат. Гом.); параўн. на беларуска-літоўскім пагранiччы *вута́к* 'качаня' (Балто-слав. сб. 382), укр. палес. *ву́так* 'селязень'. Другаснае ўтварэнне ад *ву́тва* 'качка', (<**ǫty, ǫtъve*), узнікшае ў сувязі з пераасэнсаваннем формы зыходнага слова ў якасці зборнага назоўніка, параўн. *дзятва́* 'дзеці', і вычляненнем асновы *вут-*, суфіксацыя, як у *гуса́к* (З жыцця); форма са значэннем 'качаня' ўтворана з суф. *-ак*, які на паўночным захадзе і ў цэнтры Беларусі выступае ў назвах маладых істот тыпу *цяля́к, хлапча́к* і да т. п.

**Ву́тва** 'качка' (Дразд.), *ву́тва* зборн. 'качкі' (парыц., Янк. Мат.), *ву́тва, вутва́* 'тс' (КСТ), укр. *утва́*, рус. *утва́* зборн., славен. *ôtva*, серб.-харв. *у̏тва* 'дзікая качка'. Прасл. **ǫty*, род. скл. *ǫtъve*, роднаснае літ. *ántis* 'качка', ст.-прус. *antis*, ст.-інд. *ātíṣ* 'вадзяная птушка', лац. *anas*, *anatis* (Фасмер, 4, 174, з літ-рай). Гл. *вутка, вуціца, вуця*.

**Ву́тка** 'качка' (Касп., Шат., Грыг., ДАБМ, карта № 297), рус. *у́тка*, укр. *ву́тка*. Прасл. **ǫtъka;* параўн. літ. *antuka* 'кулік', *ãntukas* 'Saxicola oenanthes' (Буга, РФВ, 72, 202; Фасмер, 4, 174). Гл. *ву́тва, ву́ціца*. У знач. 'выдумка' і 'медыцынская пасудзіна' запазычанне ў літар. мову з рус. (Крукоўскі, Уплыў, 29, 99), дзе ў сваю чаргу першае—калька з франц. *canarde* 'качка' і 'газетная выдумка'.

**Ву́ткач** 'назва птушкі' (брэсц., Сігеда, вусн. паведамл.). Ад *вут-вут*, што перадае характэрны крык гэтай птушкі; параўн. укр. *ву́тловка* 'ўдод, Upupa epops'.

**Ву́тлушыць** 'падушыць' (КСТ). Гл. *вы́тлушыць* 'тс'.

**Ву́тлы** 'хілы, слабы, нядужы' (Сцяц., Чэрн.); 'малы, нявідны' (Сцяшк.), укр. *ву́тлий*, рус. *у́тлый*, ст.-рус. *утьлъ* 'дзіравы', польск. *wątły* 'слабы, нядужы, недаўгавечны', чэш. *útlý* 'слабы, крохкі', славац. *útly*, в.-луж. *wutły* 'вялы, глухі, худы', славен. *vótəl* 'поўны', серб.-харв. дыял. *у̑тал* 'дзіравы', ст.-слав. **ѫтьлъ.** Прасл. **ǫtьlъ* першапачаткова 'бяздонны' з **ǫ-* (адмоўе) і **tьl* ад *tьlo* 'дно', згодна з Мейе (Études, 232), Ваянам (RÉS, 2, 203 і наст.), Махэкам (Recherches, 34) і Мартынавым (Лекс. взаим., 141), збліжаюць таксама з *тлець* (Брукнер, 605).

**Ву́тнуць** 'ударыць' (нараўл., Арх. ГУ). З *вы́тнуць* 'тс' з характэрным для поўдня Беларусі пераходам *ы* пасля губных у *ў* пад націскам. Гл. *цяць*.

**Вуто́к** 'папярочныя ніткі ў палотнах' (Дразд.). Гл. *уто́к*.



**Ву́точка** 'рабро ў кошыку' (КСТ). Відаць, ад *вы́тачка* з характэрным для поўдня Беларусі пераходам *ы>у* пасля губных.

**Ву́трэнь** 'ранняя служба ў царкве' (КСТ), *ву́трiня* 'тс' (Бяльк.), укр. *ву́треня* 'тс', рус. бранск. *ву́трын* 'тс'. Ад ц.-слав. *оутрьнь* 'ранні, ранішні' або *въ оутрьнии* 'зранку, раніцой'; параўн. таксама балг. *ву́трин, ву́трина, ву́тирна* 'раніца'.

**Ву-у**, выкл. для перадачы выцця воўка (полац., Нар. лекс.). Гукапераймальнае.

**Вуўршнік** 'ручнік' (Бяльк.). Няясна, магчыма, кантамінацыя *выціра́льнік* і *рушнік* (з метатэзай *уршнік*) з *ы>у* ў «моцна лабіялізаванай» пазіцыі (паміж *в* і *у*).

**Вух₁**, выкл. для перадачы рохкання свінні (мсцісл., Нар. лекс.). Гукапераймальнае.

**Вух₂** 'ах, вох' (Грыг., КТС); 'бух' (КТС). Гукапераймальнае; параўн. укр. *ух*, рус. *ух* 'тс'.

**Ву́ха,** *ву́хо*, укр. *ву́хо*, рус. *у́хо*, польск. *ucho*, чэш., славац. *ucho*, в.-луж. *wucho*, н.-луж. *hucho*, славен. *uhô*, серб.-харв. *у̏хо*, макед. *уво*, мн. л. *уши*, балг. *ухо́*, мн. л. *уши́*. Прасл. **uxo*, роднаснае літ. *ausìs* 'вуха', лат. *àuss*, ст.-прус. він. скл. мн. л. *āusins*, лац. *aurìs* 'вуха', грэч. *οὖς*, гоц. *ausō* (Брукнер, 592; Младэнаў, 658; Фасмер, 4, 179, з літ-рай).

**Вухава́дны** 'сварлівы' (Мат. Гом.). *Ад ву́ха* і *ва́дзіць* (гл.), тут хутчэй за ўсё ў значэнні 'шкодзіць', тады першаснае значэнне — 'той, які шкодзіць вушам (сваім крыкам і да т. п.)'.

**Вухаве́ртка** заал. (БРС). Запазычана з рус. *уховёртка;* параўн. *шчыка́ўка* 'тс' (Некр. і Байк.).

**Вухадралы** '?' (Ракітны, КТС). Відаць, іранічнае ўтварэнне ад *вуха* (гл.) і *драць*.

**Ву́харэц** 'зух' (Бяльк.). Няясна; параўн. рус. *ухарь* 'тс', якое Фасмер (4, 178) лічыць вытворным ад выкл. *ух*, гл. *вух*, *ух*, хутчэй ад дзеяслова *ухать*, гл. *вухаць;* параўн. таксама бранск. *ву́ха* 'бойкі, вынаходлівы хлопец' і мсцісл. *уга́р* 'разудалы' (Юрч., Сін.). Магчыма, звязана з *вухры́ць* 'настаўляць, вучыць' (гл.); параўн. *наву́хрыць* 'намуштраваць', *падву́хрыць* 'падвучыць каго, падбіць' (Бяльк.). Прымаючы пад увагу мсцісл. *угар*, можна дапусціць сувязь з польск. *ogar*, чэш. *ohař*, ц.-слав. *огаръ* 'ганчак', далейшая гісторыя якога застаецца няяснай (магчыма, запазычанне з усходніх моў; гл. Фасмер, 3, 117; Махэк₂, 410 і інш.).

**Ву́хаць** 'крычаць «*вух!*»' (КСП); параўн. укр. *ухати* 'крычаць *ух!*', рус. *ухать* 'тс'. Дзеяслоў, вытворны ад выкл. *вух*, адносна словаўтварэння гл. Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 60.

**Ву́хватка** 'спосаб паводзін (пры падабенстве)' (КСТ). Гл. *ухва́тка*.

**Ву́хватнік** 'ляпёшка, якую пякуць перад тым як саджаць хлеб у печ' і *ву́хвацень* 'тс' (КТС). Ад *выхваціць* (дыял. *вухваціць*) 'выхапіць'; параўн. іншую назву *выхапень* 'тс'.

**Ву́хкаць** 'вухаць' (КТС). Так зв. «імітацыйны» дзеяслоў ад выклічніка *вух* (гл.); параўн. Васілеўскі, Прадукт. тыпы, 68, 84.

**Ву́хла** асудж. 'някемлівы, нездагадлівы чалавек' (міёр., З нар. сл.). Вытворнае ад *ву́х-а*, гл. *вухла́сты*; параўн. паўднёваславянскую паралель: макед. *ушло, ушла* 'лапавухі чалавек'.

**Вухла́сты** 'з вялікімі вушамі' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Байк. і Некр.). Адназоўнікавы прыметнік; параўн. *галава́сты, спіча́сты* (ад *галава, спіца*) з характэрнай суфіксацыяй; ад незафіксаванага **вухлы* экспр. 'вушы'.

**Вухна́ль** 'падкоўны гвозд' (Мядзв., Нас., Шат., БРС), *вухна́лік* (Нас. Доп., Байк. і Некр.), укр. *(в)ухна́ль, (г)ухналь*, рус. *ухна́ль*. Праз польск. *ufnal, hufnal* з ням. *Hufnagel* 'тс' (Брукнер, 592; Фасмер, 4; Рудніцкі, 1, 502; Кюнэ, Poln., 111).

**Вухры́ць** 'вучыць, настаўляць' (Юрч., Сцяшк. МГ). Няясна, магчыма, звязана з *ву́харэц* (гл.).

**Ву́цегці** 'выцягнуць' (КСТ). Гл. *выцягнуць*.

**Ву́цераб** 'поле пасля выкарчоўкі' (Мат. Гом.). Гл. *выцераб;* да фанетыкі параўн. *вузверыцца* (гл.).

**Ву́ці-ву́ці-ву́ці** 'падзыўныя словы для качак' (мсцісл., З нар. сл.; гродз., Цых.) 'падзыўныя словы для гусей' (віл., міёр., карэліц., зэльв., Шатал.). У аснове падзыўнога слова форма мн. л. ад назоўніка *ву́ця* дзіц. 'качка'; параўн. Смаль-Стоцкі, Приміт., 31; перанос падз. слова на гусей — другасная з'ява, параўн. *вут-вут-вут* (гл.).

**Ву́цірка** 'рушнік' (Мат. Гом.). Гл. *выцірка, выціраць*.

**Ву́ціца** 'качка' (віц., Шн.), укр. *у́тиця*, рус. *у́тица*, ст.-рус. *утица*, н.-луж. *hušica* 'качка'. Вытворнае ад прасл. **ǫtь* 'качка', гл. *вутва, вутка*.

**Вуцо́вае** *дрэ́ва* 'дрэва, якому робяць прышчэпліванне' (Жд., 1). Няясна, магчыма, з **авацо́вае дрэва* < польск. *drzewo owocowe* 'фруктовае дрэва' (Лабко, вусн. паведамл.).



**Вуць-вуць-вуць** 'падзыўныя словы для качак' (Грыг., КСТ, круп., Нар. сл.; полац., Нар. лекс.); параўн. укр. і рус. *вуть-вуть-вуть* 'тс'. У аснове — слова дзіцячай мовы *ву́ця (ву́тя, у́тя)* 'качка'; параўн. Смаль-Стоцкі, Приміт., 31, 148.

**Ву́цькі** 'качаняты' (Жд., 2). Памянш. ад *вуця, вуці* 'тс'.

**Вуцю́г** 'прас' (Бяльк.). Запазычана вусным шляхам (пратэза!) з рус. *утюг* 'тс'.

**Вуцю́к** 'качаня' (Дразд.), *вутюкы́* 'качаняты' (стол., Жыв. сл.). Ад *ву́ця*, адносна суфіксацыі гл. Грынавецкене і інш., Балто-слав. сб., 381; Мартынаў, Деривация, 31 (пад уплывам балтыйскага *-(i)ukas.*).

**Вуця́** 'качаня' (брагін., Ант., 246: «Пытай, маці, да ў шэрага вуцяці... Да шэрае вуця да й на моры начуе...»); параўн. укр. *утя́*, род. скл. *утя́ти* 'тс' (але дзіцячае *у́тя*, род. скл. *у́ти* 'качка'), *вутя́* (палес.), рус. *утя́, ву́тя* (бранск.) 'тс'. Відаць, архаізм; узыходзіць да прасл. **ǫtę(t)*.

**Ву́ця**, род. скл. *ву́ці* дзіцячае 'качка' (КЭС); параўн. укр. *у́тя* 'тс'. Хутчэй за ўсё трансфармаванае, згодна з асаблівасцямі ўтварэння т. зв. дзіцячых слоў (скарачэнне да двух складоў, змякчэнне канцавых зычных, спецыяльная суфіксацыя і пад.), зыходнае слова тыпу *ву́тва (ву́таўка), ву́тка (ву́тачка), вуцяня́* і пад.; параўн. *ко́ця (<кот, коцік), ко́ся (<конь, конік)* і г. д.

**Вуця́к** 'качар' (Касп.; міёр.. круп., Нар. сл.). Новаўтварэнне, паралельнае да *вутка* 'качка'; параўн. *гусак, гуска* і пад.

**Ву́цяць** 'ударыць' (КСТ, Янк. II). Гл. *выцяць*.

**Вучальні́к** 'вучань' (Шат., З нар. сл.). Няясна, магчыма, кантамінацыя *вучань* і *вучанік* (гл.) з падваеннем *н(вучань+нік)*, якое ў выніку распадабнення дало *-льн-* (уплыў назоўнікаў на *-альнік*?); аднак не выключаны ўплыў з боку польск. *uczelny* 'які служыць для вучобы', *uczelnia* 'школа, вучэбная ўстанова' і інш.; параўн. і чэш. *učednik* 'вучань', ст.-чэш. *učedlník* 'тс', адносна якіх гл. Махэк₂, 666,

**Вучані́к** 'вучань' (Бяльк.), ст.-бел. *ученикъ* 'тс'; параўн. укр. (кніжнае) *учени́к* 'вучань, паслядоўнік', рус. *учени́к* 'вучань', серб.-харв. *у̏ченӣк* 'вучань, навучэнец', славен. *učenik* 'настаўнік', макед. *у̀ченик* 'вучань, навучэнец', балг. *учени́к* 'тс'. Да

**uč-ьn-ikъ*, утворанага ад прыметнікавай асновы *uč-ьn-*, гл. *вучаны;* адносна ст.-бел. і ст-.-укр. форм выказваецца меркаванне аб іх запазычанасці кніжным шляхам праз царкоўнаславянскую мову са ст.-слав. **оученикъ,** параўн. Суф. словообр.; 85, ва ўсякім разе гэта павінна быць вельмі ранняе запазычанне, паколькі слова з'яўляецца звычайным у ст.-бел. і вядома было ст.-рус.; параўн. Гіст. лекс., 224. Можна меркаваць, што яго ўжыванне падтрымлівалася ў мове ў сферах, звязаных з кніжнаславянскай традыцыяй (царква, бурсакі, жабракі з т. зв. духоўнымі песнямі), дзе яно мела значэнне перш за ўсё 'паслядоўнік (пэўнага вучэння)', значэнне 'вучань у школе, школьнік' больш позняе. Можна дапусціць таксама паўторнае запазычанне слова ў апошнім значэнні з рускай мовы ў навейшы час.

**Вучані́ца** 'школьніца' (Гарэц., Байк., Некр., КТС), ст.-бел. *ученица* (з XVII ст.; Гіст. лекс.), укр. *учени́ця,* рус. *учени́ца,* польск. *uczennica* (з неарганічным падваеннем, гл. Брукнер, 593), чэш., славац. *učnice, učnica.* Можа разглядацца як вытворнае ад *вучанік* (гл.) або самастойнае ўтварэнне ад *ву́чаны (*uč-ьnъ),* аднак даволі позняя фіксацыя ў пісьмовых помніках не выключае запазычання, магчыма, з польск.

**Ву́чаны** 'навучаны, вопытны' (КТС, Федар., 4, КСТ). Ад *вучы́ць.*

**Ву́чань** (БРС, Гарэц., Нас., Шат., Байк. і Некр.), укр. *учень,* польск. *uczeń,* чэш. *učeň.* Ад **učьnjь* па тыпу *вязень* (Махэк₂, 666; Брукнер, 593). Гл. *вучыць.*

**Вучо́ба** (БРС, КТС), рус. *учёба.* Утворана пры дапамозе суф. *-ьba* ад дзеяслова **učiti,* гл. *вучыць;* параўн. укр. *учба,* чэш. *učba,* рус. *учебный* 'які мае адносіны да вучобы', чэш. *učebný* 'тс'; бел. слова ізаляванае і, відаць, з'яўляецца новым запазычаннем з рус.; параўн. Юргелевіч, Курс, 133.

**Вучо́ны** (БРС, Байк. і Некр., Касп., Шат.), ст.-бел. *ученый* 'тс'<*ученыи муж* (Скарына). Згодна з Крукоўскім (Уплыў, 149), семантычная калька з рус. *ученый.*

**Вучы́лішча** 'спецыяльная навучальная ўстанова' (БРС, КТС); 'школа' (Касп., Бяльк.), рус. *учи́лище,* чэш. *učiliště,* славен. *učilišče* 'вучылішча, школа', серб.-харв. *у̏чилиште,* макед. *училиште* 'школа', балг. *учи́лище* 'тс'. Утворана ад асновы **učil-* пры дапамозе суфікса, які абазначае месца дзеяння, гл. *вучыць.*

**Вучы́цель** 'настаўнік' (Касп.; КЭС, лаг.), укр. *учитель, вчитель,* рус. *учитель,* польск. *uczyciel* (да XVI ст.), *nauczyciel,*



чэш. *učitel,* славен. *učitelj,* серб.-харв. *у̏читељ,* макед. *учител,* балг. *учи́тел.* Хутчэй за ўсё запазычана са ст.-слав. **учитель,** пра што сведчыць суфіксацыя (Юргелевіч, Курс, 132; Суф. словообр., 59 і наст.).

**Вучы́цілка** 'настаўніца' (Касп.), *вучыце́лька* 'тс' (гродз., Цых.). Да *вучыцель;* форма з націскам на другім складзе ўзнікла пад уплывам польск. *nauczycielka* 'тс'.

**Вучы́ць** (БРС, КТС, Байк. і Некр., Нас., Шат.), *вучы́цца* (Нас., Касп., Байк. і Некр., БРС, Грыг.), укр. *учи́ти,* рус. *учи́ть,* польск. *uczyć,* чэш. *učiti,* славац. *učiť,* в.-луж. *wučić,* н.-луж. *hucyś,* славен. *učíti,* серб.-харв. *у̏чити,* макед. *учи* 'вучыць', балг. *у́ча* 'вучу'. Прасл. **učiti* звязана чаргаваннем з **-vyknǫti* (параўн. *пры-выкнуць, з-выкнуць),* роднаснае ст.-прус. *iaukint* 'трэніраваць, практыкаваць', літ. *jaukìnti, jaukìnù* 'прывучаць, утаймоўваць', *jaũkas* 'прынада', *jaukùs* 'рахманы'; 'ручны', ст.-інд. *úcyati* 'знаходзіць задавальненне, мае звычку', *ókas* 'задавальненне', гоц. *biūhts* 'звычны' (Бернекер, 593; Махэк₂, 666; Младэнаў, 658; Фасмер, 4, 179 і наст.).

**Вучэ́бны** (КТС). Запазычана з рус. *учебный* (Крукоўскі, Уплыў, 59).

**Вучэ́нне** (БРС, КТС, Байк. і Некр.). Да *вучыць* (гл.), адносна словаўтварэння гл. Суф. словообр., 151, 179.

**Вуша́к** 'бакавы брус у дзвярной або аконнай асадзе' (КТС); 'слуп з пазамі ў раме дзвярэй' (БРС; КЭС, лаг.; Байк. і Некр., Гарэц., Касп., Шат.; бялын., Янк. Мат., В. В.), палес. *ушак, вушак* (Шушк., КСТ) таксама 'шула ў плоце' (Куч.), польск. *uszak.* Ад *ву́ха,* што звязана з метафарай «дзверы — галава»; параўн. назву верхняй часткі рамы дзвярэй *шапка* (Сцяц., Словаўтв., 20) або з формай выраза для замацавання дзвярэй, параўн. *правушына* (гл.). У карысць апошняга сведчыць, відаць, рэдкае серб.-харв. *у̏ша̑к:* «на̏био држаљу у уша̑к» (СДЗб., 17, 47), значыць, магчыма, нейкую дэталь з правушынай, што дазваляе бачыць ва ўсіх пералічаных словах самастойныя ўтварэнні з суфіксам *-jakъ;* адносіны беларускага і польскага слоў няясныя (запазычанне з бел.?), аднак Варш. сл. дае і значэнне 'крукі, завесы, на якіх трымаюцца дзверы', якое магло быць зыходным для дадзенага слова. Ці не сюды ж балг. дыял. *куша́к* 'папярэчная перакладзіна ў старых дзвярах', збліжанае, магчыма, з цюркізмам *куша́к* 'пояс'? Параўн. *вушня́к* (гл.).

**Ву́шалка** 'гушкаўка' (Цых.). Ад *гу́шалка* 'тс' з менай ілжэпратэзы *г* на *в.*

**Вýшальніца** 'вусень' (свісл., Шатал.). Да *вýсеніца* (гл.) з «шапялявым» вымаўленнем мяккага *с* і распадабненнем неарганічнага падваення зычных: **вусянніца*>*вушальніца;* параўн. *вучальнік, вýсяльніца* (гл.).

**Вушáнка** 'зімовая шапка з вушамі' (БРС, КТС, Інстр. I, КСТ), рус. *ушанка.* Да *вуха, вушы* шляхам семантычнай кандэнсацыі з «шапка з вушамі».

**Вушáт** 'цэбар' (Шатал., Жд., 3), *вушáтак* 'невялікі цабэрак для розных патрэб з двума вушкамі' (З нар. сл.). Ад *вушáты* (кароткая форма прыметніка *ушатъ*), г. зн. які мае вушы; параўн. гродз. *ушáты* 'цэбар' (Нар. сл.) у выніку семантычнай кандэнсацыі з *ушаты цэбар,* рус. *ушат* 'цэбар з вушамі' (Фасмер, 4, 180). Булыка (Запазыч. 332) лічыць ст.-бел. *вушаток, ушаток* (з 1550 г.) запазычаннем з польск. *uszatek* 'тс'; параўн. іншую назву пасудзіны па характэрнай прыкмеце — *насатка* (гл.).

**Вушáтка** 'шапка з вушамі' (навагр., З нар. сл.). Ад *вушáты (<вушатая шапка).*

**Вушáты** 'з вялікімі вушамі' (Нас., Байк. і Некр., КСТ). Ад *вýха, вýшы* з суфіксацыяй, характэрнай для прыметнікаў са значэннем 'які мае пэўную асаблівасць'; параўн. *барадаты, насаты* і інш.

**Вýшка** 'восілка (у вядры ці інш.)'; 'прывязка, якою прымацоўваецца цапілна' (ДАБМ, камент. 828, Нас., БРС). Памянш. ад *вуха* ў адносінах да прадметаў, знешні выгляд якіх нагадвае вуха.

**Вýшкі** (ў лапцях) (Інстр. 1, 80), 'жабры' (карэліц., Шатал.). Да *вýха,* назвы такога тыпу характэрны для частак прадметаў, што нагадваюць вуха па форме, параўн. *вýха, вýшка* ў іголцы і інш., ці маюць падобнае размяшчэнне.

**Вушкó** 'ямка ў печы, збоку, для попелу, гарачага вуголля' (Шушк., 156). Да *вýха,* памянш. форма для абазначэння дэталі печы на падставе метафары «ўваход у печ — галава».

**Вушлáты(й)** 'аблавухі' (міёр., Нар. сл.). Ад незафіксаванага **вушлы* 'вушы' па тыпу прыметнікаў *барадаты, насаты* і пад.; параўн. макед. *ушла* 'аблавухая жанчына'.

**Вушлáчка** 'курыца, у якой па баках галавы вырастае чубок'; 'зімовая шапка' (навагр., Жыв. сл.). Ад *вушлаты* (гл.).

**Вýшлы** 'растаропны' (Мат. Гом.); 'знаходлівы, хітры' (Цых.). Хутчэй за ўсё запазычана з рус. *ушлый* 'пранырлівы', дзеепрыметнік ад *уйти* 'пайсці', раней таксама 'пазбегнуць';



параўн. утвораныя ад таго ж кораня *пóшлы* 'моцны, дужы', *няпóшлы* 'нямоглы' (Панюціч, Лексіка, 81), *нядóшлы* 'тс' і пад. Сюды ж, відаць, і *вýжлы* 'праворны, спрытны' (Яўс.) праз народна-этымалагічнае збліжэнне з *вуж.*

**Вýшмала,** *вýшмъла* 'пра чалавека (звычайна пра хлопчыка) з насунутай на вочы шапкай' (мядз., міёр., Малько, вусн. паведамл., З нар. сл.), *вýшмалы* 'вушы' («дам па вушмалах», КСП). Падабенства да літ. *ãšmalas* 'рукавіца з футра', нягледзячы на семантычную аддаленасць, прымушае бачыць тут запазычанне, аднак сувязь з *вýха, вýшы* не выклікае сумнення; экспрэсіўным характарам слова, відаць, тлумачыцца рэдкая суфіксацыя (інфікс *-ма-,* як у *таўсмáты<тоўсты,* параўн. *вушлаты).*

**Вýшнік** 'навушнік' (Байк. і Некр., Гарэц.). Магчыма, наватвор 20-х гадоў ад *вýха, вушны́* для перакладу рус. *наушник.*

**Вушня́к** 'вушак' (Шатал., Жд., 3, Мат. Гом.). Відаць, мясцовае ўтварэнне ад *вушны́ (слуп?),* г. зн. які мае *вýшы* 'правушыны, выразы і пад.'; цікавай паралеллю да гэтага можа быць серб.-харв. дыял. *ушнȋк* 'нейкая дэталь' («ударио у ушњик», СДЗб. 17, 47), польск. *uszniak* 'пасудзіна з вухам'.

**Вушы́вец** 'макрыца' (Шат., Інстр. II); параўн. *вушы́вы* 'вашывы' (КЭС, лаг.). Да *вош; у* на месцы *а (<о)* у выніку лабіялізацыі пад уплывам пачатковага *в.*

**Вýшышкаць** 'патраціць да капейкі' (брагін., З нар. сл.). Да *шы́шкаць* 'траціць'.

**Вы** — асабовы займ. 2 асобы мн. л., укр. *ви,* рус. *вы,* польск. *wy,* чэш. *vy,* славац. *vy,* славен. *vȋ,* серб.-харв. *вû,* балг., макед. *вие.* Агульнаславянскае, ускосным склонавым формам адпавядаюць ст.-прус. *wans* — він. скл. мн. л. 'вас', лац. *vōs,* авест. *vō,* ст.-інд. *vas* — энклітыка він. скл. падв. л., род. скл. мн. л., грэч. ὑμᾶς і інш.; старажытная форма наз. скл. мн. л., якой адпавядаюць ст.-прус. *ious,* літ., лат. *jũs,* авест. *yužəm, yūš,* ст.-інд. *yūyám,* гоц. *jus* (і.-е. **i̯ūs*) была страчана пад уплывам ускосных склонавых форм (Фасмер, 1, 366; Брукнер, 637; Махэк₂, 704; Младэнаў, 65; Праабражэнскі, 1, 103). *Вы* ў звароце да адной асобы адз. л. засвоена праз польск. з заходнееўрапейскіх краін, дзе пачало ўжывацца ў такім значэнні ў сярэднія вякі (Махэк₂, 704; Шанскі, 1, В, 218).

**Вы** — прыстаўка, характэрная пераважна для паўночнаславянскіх моў (укр. *ви-,* рус. *вы-,* польск. *wy-,* чэш. *vy-,* в.-луж. *wu-*), якой у паўднёваславянскіх па значэнню часцей за

ўсё адпавядае *из-*. Роднасная ст.-в.-ням. *ūz* (сучасн. ням. *aus* 'з'), гоц. *ūt*, ст.-інд. *ud* 'на, уверх, з' і інш. Пры калькаванні ў беларускай літар. мове звычайна служыць для перадачы рус. *из* (<ц.-слав.); параўн. рус. *истребовать* — бел. *вытрабаваць*, рус. *извергнуть* — бел. *вывергнуць* і пад. (Крукоўскі, Уплыў, 124).

**Вы́бавіць** 'выманіць, выцягнуць' (БРС, КТС) 'выратаваць' (КЭС, лаг.), 'з вялікімі цяжкасцямі дастаць што-небудзь або каго-небудзь з цяжка праходнага, загубнага месца, увогуле з загубных умоў' (Янк. I), рус. 'избавить' (Гарэц., Яруш.); 'вызваліць' (Жд., 1), *выбаўляць* (Гарэц., Др.-Падб.), *выбавіцца* 'выйсці, вызваліцца' (Сцяшк., Нас. Доп.), *выбаўленьне* рус. 'избавление' (Гарэц.); параўн. яшчэ ў Скарыны: *выбавил* (Воўк-Леванові́ч, 400-лецце, 282), *выбавити,* ужытае Скарыной паралельна да *збавити, избавити* (Сл., Ск., 1), што, магчыма, сведчыць пра кальку непасрэдна са ст.-слав. **избавити;** укр. *вибавити,* ст.-рус. *выбавити*, польск. *wybawić*. Ад *бавіць, бавіцца* 'затрымліваццa, цягнуць час, марудзіць', адсюль *выбавіць* першапачаткова 'вывесці з такога стану або ўмоў', ст.-бел. *выбавяти* 'вызваляць, выручаць' з польск. *wybawiać* 'тс' (Булыка, Запазыч., 72); параўн. бел. форму незак. тр. *выбаўляць.*

**Выба́іваць** 'выгаворваць, папракаць' (Нас.). Гл. *бáяць* 'гаварыць'.

**Вы́бай** 'выбаіна' (Гарэц., Байк. і Некр., КСП), *вы́баіна* (Мат. Гом.), *выбо́іна* (Шат., БРС), *выбо́й* (КЭС, лаг., Жыв. сл.), укр. *ви́бій* 'ямка ў земляной падлозе; выбоіна', *вибо́їна,* рус. *вы́бой, выбо́ина* 'тс', польск. *wybój* 'выбоіна'. Ад *выбіць.*

**Вы́байсьціць** 'вылаяць, адбэсціць' (З нар. сл.). Да *бэ́йсьціць* 'лаяць', што, відаць, з *бэ́сціць* 'тс' (гл.).

**Вы́балачыць** 'павыходзіць, з'явіцца' (Сцяшк.). Няясна, магчыма, да *валачыць* 'цягнуць' з распадабненнем *в, б* (гл.). Параўн. таксама рус. *вы́болочься* 'выскачыць (са скуры)'.

**Вы́бар** 'выдзяленне якога-небудзь прадмета ці інш. з рада падобных; магчымасць такой аперацыі', укр. *вибір,* рус. *выбор*, польск. *wybór,* чэш. *výběr,* славац. *výber,* каш. *vœbŏr.* Утворана ад *вы́брацъ* (гл. *брацъ*) бязафіксным шляхам. *Вы́бары* 'абранне, галасаванне' хутчэй за ўсё з рус. *выборы* 'тс'.

**Вы́барак** 'лепшы з лепшых які-небудзь прадмет' (Нас., Байк. і Некр.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *выбрацъ,* значэнне 'тое, што выбрана з шэрагу яму падобных'; параўн. *вы́баркі* 'рэшткі'.



**Вы́баркі** 'рэшткі з выбраных лепшых частак' (Нас., Бяльк.), укр. *ви́бірки* 'рэшткі; брак', рус. *вы́борки*, польск. *wybiórki* 'адпадкі'. Суфіксальнае ўтварэнне ад *вы́брацъ,* форма мн. л. у процілегласць форме адз. л. (параўн. *выбарак*) мае значэнне з адценнем адмоўнасці — 'тое, што засталося, як выбралі лепшае'; параўн. пераважнае ўжыванне формы мн. л. або зборн. для абазначэння球 рознага тыпу адкідаў: *высеўкі, аціры* і інш.

**Вы́барны** 'выбарны, адборны' (БРС, Байк. і Некр.). Утворана ад *выбіра́ць* 'аддзяляць з масы аднародных прадметаў лепшыя', гл. *выбо́рны.*

**Вы́барсаць** 'выцягнуць абору з лапця' (бялын., Янк. Мат., Янк. I, Шат.). Ад *барса́ць* 'зацягваць абору ў лапці'.

**Вы́барчы** (БРС, КТС). Частковая калька з рус. *избирательный* (Крукоўскі, Уплыў, 118).

**Вы́баршчык.** Частковая калька з рус. *избиратель* (Крукоўскі, Уплыў, 118).

***Вы́баўкнуць,** *вы́бовкнуты* 'вынырнуць' (пін., Нар. лекс.). Да *бо́ўкнуць* 'упасці ў ваду'; сюды ж, відаць, і драгіч. *вы́бовчаный* 'выпучаны', якое Клімчук (Бел.-укр. ізал.) звязвае з карп. *бовчь* 'паглыбленне ў рацэ'.

**Выбаўля́ць.** Гл. *выбавіць.*

**Вы́баўткі** 'вадкасць, узбоўтаная і вылітая ў іншы посуд' (Нас.). Ад *вы́баўтаць, бо́ўтаць* (гл.).

**Выбача́ць** 'дараваць, прабачаць' (Нас., Грыг., Яруш., Шпіл., Касп., Гарэц., Байк. і Некр., Бір. Дзярж., БРС, КТС), *выбачэ́нне* 'прабачэнне' (Нас., Яруш., Гарэц., Байк. і Некр., БРС), *выбачанне* 'літасць' (Нас.), укр. *вибача́ти* 'дараваць, прабачаць', *вибачення* 'прабачэнне'. З польск. *wybaczać* 'тс', *wybaczenie* 'прабачэнне', *wybaczanie* 'тс', што ў сваю чаргу ад *baczyć* 'звяртаць увагу, глядзець пільна'. Параўн. палес. *выбачиты* 'выпусціць з вачэй (з поля зроку)', г. зн. 'не глядзець, не звяртаць увагі, прабачаць' (Булг., 194; Брукнер, 10); гл. *ба́чыць.*

**Выбе́гі** рус. 'уверткі' (Нас.). Ад *выбе́гіваць* 'пазбягаць'; параўн. рус. (са ст.-слав.) *избегать,* польск. *wybiec, wybiegiwać* у спец. значэнні 'выкруціцца, пазбегчы, уцалець', што, магчыма, сведчыць аб запазычанасці беларускага слова.

**Вы́беркі** 'маніцы' (З нар. сл.), *выбе́ркі* 'рэшткі; брак' (Арх. Федар.). Ад *выбіра́ць;* параўн. *выбіра́нкі, выбаркі* (гл.).

**Вы́бздыкнуць,** *вы́бздыкнуць* 'раптоўна выскачыць (пра вя-

роўку з рук і пад.)' (КСТ), *вўбіздыкнуцца* 'вырвацца' (КСТ). Відаць, ад гукапераймальнага *бздык! (біздык!),* параўн. польск. *bzdęk,* якія служаць для перадачы раптоўных рухаў і гукаў.

**Выбіра́нкі** 'каноплі, якія раней паспелі (іх выбіраюць, каб даць магчымасць астатнім расці)' (Сцяц.), *выбіра́нцы* 'тс' (Жд., 1), *выбірніцы* 'тс' (ДАБМ, Камент., 869, З нар. сл.), *вы́біранкі* (Шат.). Ад *выбіра́ць;* параўн. *вы́беркі.*

**Выбо́рны** 'адборны' (Яруш., Касп., Нас.). Паводле Булыкі, Запазыч., 73, ст.-бел. *выборный* 'адборны, цудоўны, выдатны' з польск. *wyborny;* параўн. таксама чэш. *výborný* 'выдатны'.

**Выбо́ры** 'зборы ў дарогу' (Нас., КЭС, лаг.). Ад *выбіра́цца* 'збірацца ў дарогу, накіроўвацца куды-небудзь', аднак, магчыма, запазычана з польск. *wybory* 'зборы ў дарогу, пераезд', пра што сведчыць незвычайная для ўтварэнняў з прэфіксам *вы-* акцэнтуацыя.

**Вы́брузнуцца** 'выспацца' (Юрч.). Ад *бру́знуць* 'спаць'.

**Вы́брукаваць.** Гл. *брукаваць, брук.*

**Выбруха́ніцца** 'выставіць жывот наперад з гонару' (Нас.). Да *бру́ха* 'жывот', *брухáн* 'чалавек з вялікім жыватом'.

**Вы́брухітаць** 'вытаптаць' (Сцяц.). Ад *брухіта́ць* 'таптаць' (гл.).

**Выбрыда́ць** 'выходзіць' (Яруш.). Ад *брысці* (гл.).

**Вы́брык** 'выхадка' (БРС), *вы́брыкі* 'дзіўныя паводзіны, фокусы' (Цых.), укр. *вибрик* 'выхадка, жарт; скок', польск. *wybryk* 'падскок, выхадка'. Параўн. *выбры́кваць* 'падскокваць' (да *брыкаць*), на значэнне бел. і ўкр. слоў, магчыма, уплывала польск., параўн. рус. курск. *ехать выбриком* 'ехаць галопам', данск. *вы́брики* 'брыканне'.

**Вы́брындзіцца** 'калі ў падоле адзежыны рубец абаб'ецца ды ніткі целяпаюцца' (КЭС, лаг.). Да *бры́ндаць* 'матляцца'.

**Вы́брысці** 'выйсці' (Янка Купала, Ванк. дыс.). Да *брысці* (гл.).

**Вы́брытаць** 'разблытаць, расплясці' (Федар.). Ад *брытаць* (гл.).

**Выбрыціць** 'выгаліць' (Шат.). Ад *брыціць* 'галіць'.

**Вы́брыць** 'выйсці' (Яруш.). Відаць, з *выбрысць* (да *брысці,* гл.).

**Вы́брэд** 'брод, пераход ці пераезд праз возера ці раку' (Чэрн.); 'пакрытая вадой лясная дарога' (беласт., «Ніва», 1974 г.). Да *брод, брысці* (гл.); параўн. *вўбродок* 'тс' (КСТ).



**Вы́буркнуць** 'выказаць што-небудзь тайнае' (Нас.), *выбуркнуцца* 'прагаварыцца, выдаць тайну' (Нас., Юрч.). Да *бу́ркнуць* 'сказаць невыразна, не падумаўшы'.

**Вы́бусіць** арг. 'вырабіць' (капыл., Бел. дыял.). Да *буса́ць* (гл.).

**Вы́бух** 'узрыў, вывяржэнне' (БРС, Гарэц., Байк. і Некр.), укр. *ви́бух* 'тс', польск. *wybuch* 'тс'. Ад *выбуха́ць* (да *бу́хаць,* гл.); аднак адсутнасць рус. формы, магчыма, сведчыць пра запазычанне з польск. мовы; параўн. *вы́бухнуць.*

**Вы́бухаць** праст. 'выпіць, выліць, з'есці чаго-небудзь многа' (БРС, Жд,. 3). Да *бу́хаць* 'стукаць, біць, есці з шумам, хутка піць, ліць'; параўн. аналагічныя ўжыванні іншых дзеясловаў са значэннем 'біць, стукаць і інш.': *трахнуць, хлопнуць* і г. д.

**Вы́бухнуць** 'узарвацца, успыхнуць' (БРС, Байк. і Некр., Гарэц.). Ад *бу́хнуць* 'стукнуць, гупнуць'; параўн. *выбух.*

**Выбухо́вы** (БРС). Калька з рус. *взрывной* (Крукоўскі, Уплыў, 121); параўн. *выбух* (гл.).

**Выбухто́рваць** 'выліваць' (Мат. Гом.). Ад *бухто́рыць* 'ліць' (гл.).

**Вы́бушаваць** 'выкінуць' (Жд., 3). Відаць, да *бушаваць* 'шумець, энергічна рабіць'.

**Выбыва́ць** 'выходзіць, выязджаць, знікаць' (БРС). Да *быць* 'знаходзіцца, быць у наяўнасці' (аднак словаўтварэнне сведчыць хутчэй пра запазычанасць).

**Вы́быць** 'перажыць, выцерпець; адысці з пэўнага месца' (КЭС, лаг.; Шн., 2). Да *быць* 'знаходзіцца' (гл.).

**Выбэ́ндюваты** 'капрызіць, перабіраць' (брэсц., Нар. лекс.). Няясна, незвычайны фанетычны воблік слова прымушае бачыць у ім запазычанне хутчэй за ўсё з польскай мовы (ці не наватвор ад польск. *będzie* 'будзе'?).

**Вы́вад**$_1$ (БРС) 'заключэнне' (Др.-Падб., Яруш.), укр. *вивід* 'вывад, вынік', рус. *вывод* 'заключэнне, вынік', польск. *wywód* 'доказ, тлумачэнне, высвятленне', чэш. *vývod* 'вывад, заключэнне', славац. *vývod* 'тс'. Утворана бязафіксным спосабам ад дзеяслова *выво́дзіць (да вадзіць),* значэнне 'заключэнне, вынік' другаснае на падставе першаснага 'вывядзенне каго-

небудзь або чаго-небудзь за межы чаго-небудзь' (Шанскі, 1, В, 219; Брукнер, 628).

**Вы́вад**₂, *ву́вод:* «ейцэ на вуводзі», г. зн. 'наклюнутае' (КСТ). Утворана шляхам зваротнай дэрывацыі ад *выво́дзіць* 'выседжваць (яйка)'.

**Вы́вадак** (БРС, Інстр. III, Цых.), укр. *ви́водок,* рус. *вы́водок.* Ад *вы́вад* 'тс'; параўн. укр. *ви́від* 'вывадак, род', рус. *вывод* 'тс', вытворнага ад *выво́дзіць* 'прыводзіць, нараджаць (пра птушак, звяроў)'.

**Вы́валака** рус. 'тягостный выход в болезни' (тлумачэнне Насовіча, Нас. Доп.); параўн. рус. смал. *выволакивать с горя* 'вызваляць з бяды'. Ад *вы́валачыцца* 'вылезці, выкараскацца'; параўн. польск. *wywlec się* 'тс', семантычная паралель — рус. *выва́ливаться* 'выздараўліваць'.

**Вы́вальгіс** 'гультай, абібок' (Цых.). Фанетыка (*г* узрыўное) паказвае на запазычанне і канец слова нагадвае літ. *vaĩgis* 'ежа'. Магчыма, частковая калька з невядомага літоўскага экспрэсіўнага назоўніка тыпу *пра́жора;* параўн. *išvál-gyti* 'з'есці, выесці'.

***Вы́вальніцца,** *ві́вальніцца* 'выпарыцца ў печы' (КСТ). Ад *ва́льня* 'лазня, парылка' (гл.).

**Вы́варат**₁ 'адваротны бок тканіны' (Нас., Яруш., Байк. і Некр., БРС), укр. *ви́ворот,* рус. *вы́ворот.* Да *вывара́чваць, вы́вернуць* 'перавярнуць, павярнуць іншым бокам'.

**Вы́варат**₂ 'вывернутае дрэва' (БРС, Янк. I, Інстр. III), *выва́ратнік* 'тс' (Мат. Гом.). Гл. *вывараць.*

**Вы́варатка.** Насовіч тлумачыць рус. 'хозяйственный оборот' (Нас.), *вываро́тка* 'выкрутка' (Байк. і Некр., Нас.). Ад *вываро́чвацца* 'выкручвацца, пазбягаць цяжкага становішча'. Гл. *варочаць.*

**Вы́варацень** 'адваротны бок (тканіны)' (Шат., Уладз.). Гл. *выварат*₁.

**Вы́вараць** 'вывернутае з карэннем дрэва' Касп., Шат.; докш., бялын., Янк. Мат.), *вы́варацень* 'тс' (Шат., Байк. і Некр., Інстр. III), *вы́вараціна* 'тс' (Касп.). Ад *вы́вараціць,* гл. *варочаць.*

**Вы́вахаць** 'выветрыць усё смецце з зерня' (Сцяшк.). Да польск. *wachać* 'махаць, калыхаць, веяць', *wahać* 'тс'.

**Вы́вет** 'вылік, выключэнні' (Гарэц., Др.-Падб.), ст.-рус. *вывѣтъ* 'выключэнне' (з XV ст.). Корань той жа, што і ў *сa-*



*вет,* рус. *ответ* і інш.; параўн. ст.-рус. *вѣтъ* 'рада, дагавор' (Фасмер, 2, 367), на думку Мельнічука (Восточносл. и общ. яз., 109), вытворнае ад **větiti* 'гаварыць', для якога было характэрным першапачатковае значэнне 'адзначаць галінкай, выключаць' (прасл. *větь* 'галінка'), тады *вывет* 'абмежаванне', параўн. у Зізанія ц.-слав. *извѣтъ,* перакладзенае ст.-бел. *вымовка.*

**Вывідняць** 'развідняць' (Цых.). Гл. *відняць.*

**Вы́вінуцца** 'выкруціцца' (Янк. БП, 344). Да *віць* (гл.).

**Вы́віх,** *вы́віхнуць* (БРС), укр. *ви́вих, ви́вихнути,* рус. *вы́вих, вы́вихнуть,* польск. *wywichnąć.* Ад *віх, віха́ць* 'махаць,ківаць у розныя бакі' (Шанскі, 1, 3, 219; Фасмер, 2, 367).

**Вы́гаварка** 'вымаўленне' (Нас.) і *выгаворка* 'тс' (Байк. і Некр., Нас.), рус. *выговор* 'тс'. Суфіксальнае ўтварэнне ад дзеяслова *вы́гаварыць* 'вымавіць'; параўн. *вы́піўка* з *выпіць* і інш.

**Выгаго́йла** 'вымагальнік' (Жд., 3). Няясна.

**Вы́гада**₁ 'разлік' (БРС, Касп., Яруш., Шат.) і *выго́да* 'тс' (Шат.), укр. *ви́года,* рус. *вы́года.* Ад *выгадаць* 'мець прыбытак', што да *гадзіць* 'пападаць, цаляць' (гл.); параўн. рус. дыял. *годи́ть* 'мерыцца, цэліцца', серб.-харв. *га́ђати* 'цэліцца, страляць, кідаць' і інш.

**Вы́гада**₂ (БРС) 'раскоша, прыемнасць' (Касп.); 'паша', рус. 'угодье' (Мядзв.: «Выгадай або пашай называецца ўся прастора памешчыцкай зямлі, куды сялянам дазваляецца ганяць жывёлу, за што яны павінны адрабляць у памешчыка пэўны час»). Гл. *выгода.*

**Выга́ды** 'выдумкі, забаўкі, прыхамаць' (Нас., Яруш., Гарэц.), укр. *вигад* 'вынаходства', *вигадка* 'выдумка, прыхамаць', польск. дыял. *wygadki* 'выдумкі, пустыя размовы'. Ад *выга́дываць* 'прыдумваць', што ўзыходзіць да *гадаць.*

**Вы́ган** 'паша, участак каля вёскі, куды выганяюць жывёлу' (Касп., Шат., Янк. I, Яруш., З нар. сл., Інстр. I, Яшк., БРС); укр. *ви́гін,* рус. *вы́гон,* польск. *wygon,* чэш. *výhon,* славац. *výhon.* Ад *выганя́ць,* гл. *гнаць;* параўн. структурны адпаведнік літ. *išgana* 'выган, прагон', *gãnýti* 'пасвіць'.

**Выганя́сты,** *выго́ністы* 'гонкі, выносны' (Янк. III). Ад *выганя́ць* 'хутка расці' (да *гнаць*), суфіксацыя *-ясты, -істы,* характэрная для ўтварэння якасных прыметнікаў, часцей ад назоўнікаў; параўн. чэш. паралель *výhon* 'расток, адростак', *vyhnati* 'выпусціць расток'.

**Вы́гар** (БРС), *вы́гарына* 'яма ад выгарэлага торфу' (пух., Жыв. сл.), *вы́гарка* 'тс' (Касп.); 'тарфяны кар'ер' (Шатал.). Да *гарэць* (гл.); параўн. *выжар, выжарына.*

**Выглаша́ць** 'аб'яўляць', рус. 'оглашать' (Яруш.). З польск. *wygłaszać* 'прамаўляць, голасна паведамляць', адпаведная беларуская форма была б **выгалашаць* (з поўнагалоссем); параўн. *галасі́ць* 'крычаць на ўвесь голас'.

**Выглёнда** 'вышка' (Чэрн.). Запазычана з польск. *wygląda,* найбольш блізкае значэнне, якое даецца ў слоўніках — 'акно' (Варш. сл.); магчыма, самастойнае ўтварэнне ад *wyglądać* 'выглядаць'.

**Вы́гляд** 'від, знешнасць' (Байк. і Некр.); 'погляд' (Нас.); 'знешнасць' (Касп., Гарэц.). Утворана ад *выглядáць* 'вызіраць; мець выгляд' (гл.).

**Выгляда́ць** 'чакаць' (Яруш.); 'пазіраць; мець выгляд' (БРС, Гарэц., Яруш., КЭС, лаг.), укр. *виглядáти* 'тс', рус. *выгля́дывать* 'вызіраць, паказвацца, мець выгляд', польск. *wyglądać* 'вызіраць, цікаваць, чакаць'. Да *глядзець*; параўн. аналагічныя ўтварэнні з іншымі дзеясловамі—*вы-зіраць,* рус. *вы-сматривать* 'тс', значэнне 'мець выгляд' другаснае; параўн. рус. *выглядеть* 'тс', польск. *wyglądać* 'тс', чэш. *vyhližet* 'тс', рус. *выглядеть* лічаць калькай з ням. *aussehen,* чым тлумачыцца незак. тр. дзеяслова, незалежна ад наяўнасці прыстаўкі *вы-* (Фасмер, 2, 367; Шанскі, 1, В, 220).

**Вы́гледка** 'люстэрка', *ву́гледка* 'тє' (КСТ). Мясцовае ўтварэнне ад *выглядáць, глядзець* (гл.).

**Выгля́ды** 'перадвясельны звычай, калі засватаная дзяўчына прыязджае глядзець гаспадарку маладога' (КЭС, лаг.), *выгля́дзіны* (Касп.), *вы́гляды* 'тс' (Мат. Гом.). Ад *выглядáць* 'глядзець, імкнуцца ўбачыць нешта'; параўн. рус. *смотрины.*

**Выгнёстый** 'выгнуты' (брэсц., Нар. лекс.). Відаць, першапачаткова **выгінясты,* што магло быць запазычана з польск.; параўн. *wyginiać* 'выгінаць'; малаверагодна сувязь з *гнясці* 'ціснуць, біць'.

**Выго́да** 'камфорт' (БРС, Байк. і Некр.); 'зручнасць, утульнасць, спакой' (Гарэц.); 'дастатак, задавальненне' (КЭС, лаг.); 'прыволле, добрыя ўмовы' (Цых.), *выго́ддзе* 'прывольнасць, зручнасць' (Гарэц., Шат., Байк. і Некр.), *выго́дна* 'прывольна' (Гарэц., Байк. і Некр.). Параўн. формы з іншым націскам: рус. *выгода,* укр. *ви́года* 'зручнасць, утульнасць, спакой'; *вигíддя* 'зручнасць, прыволле', польск. *wygoda* 'зручнасць, камфорт; задавальненне патрэб'. Ад *вы́гадзіць* 'дагадзіць, дапасаваць'; параўн. *гадзíць* 'мірыць, дастасоўваць', параўн. рус. *уго́дье* 'паша, прыволле', геаграфія і націск, магчыма, сведчаць пра запазычанне з польск. *wygoda*, параўн. з іншым націскам: *вы́гада* (гл.), а таксама *выгода* (Федар. 4).



**Вы́грасіць** 'выкрасаць агонь' (мін., Нар. лекс.). Гл. *выкрасіць* з азванчэннем *к,* характэрным для некаторых гаворак Міншчыны, звычайна ў інтэрвакальным становішчы; параўн. *стаган* (з рус. *стакан* 'шклянка') і пад., тут, магчыма, у выніку адштурхоўвання ад *вы́красіць* 'пафарбаваць'.

**Выгро́зы** 'прачуханка', рус. 'пристрастка' (Байк. і Некр.), *выгро́за* 'староннасць, прадузятасць' (Бяльк.). Да *выгражáць* 'пагражаць, палохаць'; параўн. польск. *wygrażać* 'тс', што ўтворана ад *гразіць* 'пагражаць' (гл.); не зусім яснае семантычнае развіццё, калі прыняць, што ў Бялькевіча правільна вызначана значэнне слова; параўн. таксама чэш. *vyhrůžka* 'пагроза', рус. 'острастка' і *vyhrožovati* 'пагражаць, палохаць'.

**Вы́грузкі** 'гразкае месца на дарозе' (бяроз., Шатал.). Відаць, да *гру́зкі* 'дрыгвяністы' (гл.).

**Выгэ́льцваць** 'выскокваць' (Сцяц.). Да незафіксаванага *гэ́льцаць,* магчыма, варыянт ад *гэ́цаць* 'скакаць'.

**Вы́даба** 'сукупнасць хатніх рэчаў, патрэбных гаспадыні' (ст.-дар., Нар. сл.), *вы́дабіць* 'выштукаваць, вымеркаваць' (дзярж., Нар. сл.). Да *даба* (гл.); параўн. *на́даба* 'патрэба', *надо́ба* 'адзенне' і інш.

**Выдава́ць** 'выпускаць у свет (кнігу або інш.)', рус. 'издавать', *выда́нне, выдаве́ц, выдаве́цтва* (Яруш., БРС, Гарэц., Байк. і Некр.), укр. *видавáти* 'выдаваць (кнігі)', *видання, видавець//видавник, видавництво* 'выдавецтва, выданне', польск. *wydawać* 'тс', *wydanie*, *wydawca*, *wydawnictwo.* Польскія словы, паводле Брукнера, 84, развілі спецыяльнае значэнне пад уплывам ням. мовы; такі ўплыў праз пасрэдніцтва польскай мовы ці непасрэдна можна дапусціць і для бел. і ўкр. слоў. Паводле Крукоўскага, Уплыў, 149, калька з рус. *издавать.*

**Выда́к** '?'. Параўн.: «В игре крамнясь есть фраза:— Нашо каминчики? — Твоим дитям зубы выбываты.— За що? — Що поилы мак и выдак(?)» (Доўнар-Зап., Игры, 204), *выда́к* 'мак-самасей' (драг., Нар. лекс.). Гл. *віда́к, віду́к* 'мак-самасей'.

**Выдаля́ць** (БРС, Нас., Касп., Байк. і Некр.), польск. *wydalać* 'адпраўляць, выганяць'. Магчыма, запазычанне з польск.

**Выда́так** 'расход' (Нас., Касп., Байк. і Некр.), *выда́ткі* рус. 'издержки' (Байк. і Некр., БРС), укр. *вида́ток* 'расход; умалот', польск. *wydatek* 'расход; атрыманая прадукцыя'. Суфіксальнае ўтварэнне ад *вы́даць* 'патраціць (грошы)' і інш., магчыма дапусціць запазычанне з польск.

**Выда́тнік** (БРС). Наватвор 20-х гадоў ад *выда́тны*; згодна з Крукоўскім (Уплыў, 127), калька з рус. *отличник*; параўн. таксама Трубачоў, Этимология, 1971, 384 (семантычная калька — еўрапеізм).

**Выда́тны** (БРС, Яруш., Гарэц.), *выда́тна* 'вельмі добра'. Да *даць, даваць,* параўн. *выдавацца* 'вылучацца, адрознівацца' (КЭС, лаг.), *здатны, прыдатны* і інш., польск. *wydatny,* рус. *выдающийся.* Адносіцца да т. зв. еўрапеізмаў—семантычных калек з узораў тыпу ням. *aus-gezeichnet,* франц. *ex.-cellent,* параўн. Трубачоў, Этимология 1971, 384.

***Вы́даўбаць,** *вы́дыўбаць* 'выдзеўбаць' (Бяльк.). Ці не запазычанне з рус. *вы́долбать* 'тс'.

**Выдвара́ць** 'вытураць, высяляць' (БРС, КТС); 'перабіраць, капрызіць' (БРС), *выджвара́тися* 'блазнаваць, крыўляцца' (Бес.). Рус. *выдворя́ть* 'выганяць, высяляць', рус дыял. *выдворя́ться* 'крыўляцца, капрызіць; хваліцца', укр. *видвара́ць* 'выганяць, высяляць'. Ад *двор.* Значэнні 'крыўляцца, капрызіць' з'яўляюцца, відавочна, калькай польск. *dworować* 'служыць'; 'кпіць'; параўн. чэш. *dvořit' si* 'ганарыцца чым-небудзь', *dvořský* 'дасціпны, цікавы, забаўны (чалавек)'. У польск. і чэш. мовах яны ўстанавіліся па ўзору ням. *Hof machen, hofieren,* франц. *faire la cour* (Брукнер, 105; Махэк₂, 136 і наст.).

**Вы́дзел** 'доля, часць' (БРС, КТС); 'участак' (Грыг.); 'выдзяленне пад мерку ці вагу' (КЭС, лаг.). Рус. *вы́дел* 'выдзяленне долі, часці', дыял. *вы́делок* 'клін або паласа зямлі, выдзеленая пад ворыва', ст.-рус. *выдѣлъ* 'доля, часць', укр. *ви́діл.* польск. *wydział* і г. д. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *вы́дзеліць* (гл. *дзяліць*).

**Вы́дзелка** 'выраб (скуры)' (Бяльк.), *выдзе́лыванне* 'тс' (Юрч.), *ви́делка* 'пабудова ячэек' (Анох.). Запазычанне з рус. *вы́делка* (параўн. бел. *выраб*).

**Выдзе́лываць** 'рабіць, выконваць' (Бяльк.); 'вымазвацца, пэцкацца'; 'вырабляць' (Юрч.). Запазычанне з рус. *выде́лывать.*

**Вы́дзер** 'сала на кішках' (Касп., Шатал.). Рус. *вы́дер* 'тс'.



Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выдраць* (гл. *драць*) (Вештарт, Лекс. Палесся, 135). Параўн. *здор.*

**Выдзё́р** 'упершыню апрацаваны ўчастак зямлі' (Выг. дыс., бяроз.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выдзіра́ць* 'карчаваць лес'. У семантычных адносінах параўн. рус. *дерть, роздерть* 'карчэўе'. Параўн. *выдзірак₁, выдранка.*

**Вы́дзерка** 'выдранё, малая выдра' (Дразд., Інстр. II). Запазычанне з польск. *wydzierka* 'малая выдра'. Перанос націску адбыўся, відаць, пад уплывам *выдра* (гл.).

**Вы́дзіктаваны** 'вымуштраваны' (Жд., 1). Да *дзіктаваць* (гл.).

**Вы́дзірак₁** 'ачышчанае ад карчэўя і кустоў поле' (Сцяшк.); 'цалінны ўчастак, які ўпершыню прыараны да поля' (Яшк., стол.), *вы́дзеркі* 'поле сярод лесу на месцы аблогі' (Яшк., нясвіж.), *вы́дзеркі, ву́дзеркі* 'ўпершыню апрацаваны ўчастак зямлі' (Шатал.). Да *выдзіраць, драць.* Параўн. *выдзёр, выдранка.*

**Вы́дзірак₂** 'выступ з печы, на якім можна сесці' (Янк. I). Да *выдзіраць(цца)* (гл.).

**Выдзіра́ць** 'выдзіраць, вырываць, выцягваць' (БРС, Касп., Яруш., Бяльк.); 'упершыню апрацоўваць участак зямлі' (Выг. дыс., палес.), *выдзіра́цца* 'насміхацца, дражніцца' (Шатал.). Гл. *драць, дзерці.*

**Выдзі́рства** 'грабежніцтва, прыгнёт' (Нас.). Запазычанне з польск. *wydzierstwo* 'тс'. Параўн. ст.-бел. *выдерца* 'мучыцель', таксама запазычанне з польск. (Булыка, Запазыч., 73).

**Вы́длыж** 'уздоўж; звыш меры' (Касп.). Запазычанне з польск. *wzdłuż* 'уздоўж'.

**Вы́дма** 'дзюна, пясчаны ўзгорак' (БРС), *вы́дзьма* 'тс' (Яшк., капыл.); 'частка засеянага поля, занесеная пяском, пясчанае поле' (Выг. дыс., малар.). Укр. *вы́дма* 'пясчанае месца, з якога ў ветраную пагоду заносіць пяском суседнія палі', польск. *wydma* 'дзюна, асабліва на марскім беразе; месца, занесенае пяском', каш. *vidma* 'гарыстае і неўрадлівае поле'. Да *дзьмуць, выдзьмуць* (гл. Брукнер, 86). Форма *выдма* (параўн. рэгулярнае *выдзьма* ад *выдзьмуць*) можа быць і запазычаннем з польск. *wydma.* Параўн. яшчэ польск. *dmy* 'дзюны' ад таго ж кораня.

**Вы́дра₁** 'жывёла, Lutra vulgaris' (БРС, Нас., Бес.). Рус. *вы́дра,* укр. *ви́дра,* ст.-рус. *выдра,* польск. *wydra,* в.-луж. *wudra,* н.-луж. *hudra,* чэш., славац. *vydra,* серб.-харв. *ви̏дра,* сла-

вен. *vidra*, балг., макед. *вйдра*. Роднасным з'яўляецца літ. *ūdra* 'выдра', ст.-прус. *wudro*, лат. *ûdris*, ст.-інд. *udráḥ* 'вадзяная жывёла', авест. *udrā-* 'выдра', грэч. ὕδρος, ὕδρα 'гідра, вадзяная змяя', ст.-ісл. *otr* 'выдра', ст.-в.-ням. *ottar* 'тс'. Назва ўтворана ад назвы вады; параўн. грэч. ὕδωρ 'вада', рус. *вада* (Траўтман, 334; Вальдэ, 449; Фасмер, 1, 367; Шанскі, 1, В, 222).

**Вы́дра**$_2$ 'хітры, пранырлівы чалавек' (Нас., Мат. Гом.). Пераноснае значэнне *выдра*$_1$, але не выключана магчымасць і ўтварэння ад *выдраць, выдзіраць*; параўн. *вырва*.

**Вы́дранка** 'поле сярод лесу на месцы аблогі' (Яшк., слаўг.); 'упершыню апрацаваны ўчастак зямлі' (Шатал.). Ад залежнага дзеепрым. *выдраны*(<*выдраць*) з суф. *-ка*. Параўн. *выдзер, выдзеркі*.

**Вы́дранчыць** 'высцебаць' (Шат.). Запазычанне з польск. *wydręczyć* 'вымучыць, высцебаць, выціснуць'.

**Выдру́к** 'выдранё' (Сцяшк.). Ад *выдра*$_1$ пры дапамозе суф. *-ук*, які ў гэтай словаўтваральнай катэгорыі можа быць літоўскім па паходжанню (Гл. Балто-слав. сб., 381—382).

**Выдрэ́ць** 'рабіцца смялей, станавіцца дзёрзкім' (Нас.). Ад *выдра*$_2$ 'пранырлівы, хітры чалавек'.

**Вы́дубіць** 'вырабіць скуру' (БРС, КТС, Янк. I); 'выцягнуць, вывалачы' (Янк. I, Мат. Гом.). Гл. *дубіць*. Другое значэнне, відавочна, з'яўляецца семантычным запазычаннем з польск.; параўн. *wydębić* 'дабыць, атрымаць што-небудзь з цяжкасцю'.

**Вы́дукаваць** 'вывучыць, даць адукацыю' (Нас.), *вы́дукаць* 'тс' (Мат. Гом.). Да *адукаваць, адукацыя*, дзе *а* ўспрымаецца як прыстаўка або ў выніку сцягвання: *выадукаваць*>*выдукаваць*.

**Вы́дурыць** (БРС, Бяльк., КТС), *вы́дурыцца* 'вырасці' (КТС). Рус. *вы́дурить, вы́дуриться* 'тс', укр. *ви́дурити* 'тс'. Гл. *дурыць*.

**Вы́дуць** 'выдзьмуць' (Яруш.). Запазычанне з рус. *вы́дуть* 'тс'.

**Вы́дыбаць** 'вылезці, выбрацца адкуль-небудзь' (КТС), *вы́дзыбаць* 'выцягнуць з цяжкасцю з непрыемнага становішча' (Нас.), *вы́дзыбацца* 'выцягнуцца, вырасці вялікім' (Янк. II). Рус. *выдыба́ць* 'вылязаць, выкарасквацца аднекуль'. Ад *дыбаць* (гл.).



**Вы́дымка** 'дрыгва, зыбкае месца' (Яшк., кобр.). Ад **выдымаць* (гл. *уздымаць*). У семантычных адносінах параўн. польск. *wezdma*<*wzdąc, wzdymać* 'нізкае, балоцістае, зарослае травой месца, дзе вада падымае, уздымае дзярніну' (Нітшэ, 70).

**Вы́езд** 'дзеянне па дзеяслову *выездзіць*' (БРС), *вы́ізд* 'адна з дзвюх доўгіх вяровак, якімі падцягваюць невад к берагу' (З нар. сл., полац.). Рус. *выезд* 'вы́езд', дыял. 'лодка, якая выязджае з сялення да парахода', укр. *виїзд*, польск. дыял. *wyjazd* 'выезд'; 'вясельны абрад, вечарынка ў маладога перад жаніцьбай', чэш. *výjezd*. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выездзіць*.

**Вы́емка** (БРС), *вы́емка, вы́ем, вы́емак* 'тс' (Яшк.). Рус. *вы́емка*, укр. *ви́їмка*. Ад *вы́ем* (бязафікснага ўтварэння ад *вынѧти* 'выняць', *выиму*; гл. Шанскі, 1, В, 222) або непасрэдна з тым жа суфіксам ад асновы цяпер. часу гэтага дзеяслова.

**Вы́ерсканіць** 'вылаяць, зняважыць' (Шпіл.). Няясна. Магчыма, ёсць сувязь з лат. *ērsināt* 'злавацца', літ. *ẽrzdinti* 'тс'.

**Вы́жал** 'ганчак, паляўнічы сабака' (БРС, КТС, Нас., Касп., Гарэц., Сцяшк.). Рус. *вы́жлец, вы́жлик, вы́жлок*, укр. *ви́жел*, польск. *wyżeł*, чэш. *vyžel, vyžle*, славац. *vyžla*, серб.-харв. *ви̏жао, ви̏жле*, славен. *vížel*. Няяснае слова, якое не мае перакanaўчай этымалогіі. Фасмер (1, 367) думае, што яно запазычана з ням. **Wisel* '(сабака) павадыр', с.-в.-ням. *wîsel* 'пчаліная матка', ст.-в.-ням. *wîso* 'правадыр, важак'. Меліх (Зб. Мілецічу, 148 і наст.), Махэк$_2$ (705), Голуб — Лейер (514) лічаць слова запазычаннем з венг. *vizsla* 'сабака-сышчык'; 'жвавы, пільны', але гэта гіпотэза не тлумачыць слав. *ы* і адсутнасць слова ў балг. і ст.-слав. мовах. Іншыя гіпотэзы, напрыклад Ільінскага (ИОРЯС, 23, 1, 130), аб сувязі гэтага слова з лац. *vigil* і Лёвенталя (WuS, 11, 54) з гоц. *augō* 'вока' таксама неперакананаўчыя. Найбольш верагодным цяпер з'яўляецца збліжэнне Брукнера (640), якога падтрымлівае Трубачоў (Происх., 24), з польск. *wyga* 'стары сабака', якое ад *vy-ti*. Наз. *vyžьlъ* уваходзіць у словаўтваральны рад з суф. *-ьлъ* і з'яўляецца назвай сабакі па брэху, выццю (Шанскі, 1, В, 223). Адносна суфіксацыі гл. таксама SP, 1, 113.

**Вы́жалапаць** 'выжлуктаць, выхлебтаць' (Сцяц., Зэльв.). Запазычанне з польск. *wyżłopać* 'выхлебтаць, прагна выпіць, апаражніць', якое ў сваю чаргу з літ. *žliaũbti* 'прагна есці, лопаць, аплятаць' (Малько, Бел.-польск. ізал., 90).

**Вы́жан** 'зжатае месца на ніве' (Бяльк.). Рус. *вы́жин*, укр.

*віжин* 'жніво'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выжынаць* (гл. *жаць*).

**Выжануць** 'выгнаць' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Сцяшк.). Запазычанне з польск. *wyżenąć* 'тс', новага інфінітыва дзеяслова *gъnati* ад асновы цяперашняга часу *žen-* (гл. *гнаць*).

**Выжар** 'месца, дзе калісьці выгарала балота, трава, лес; яма з вадой на месцы выгаралага торфу' (Маш., Сержп., I, Некр., Талстой, Георг., 197); 'багністае балота' (ДАБМ, 993); 'малая яма, запоўненая вадой' (Талстой, Геогр., 197); *выжáры* 'балота' (Сцяшк.), *выжары* 'балота, на якім выгараў торф' (Шатал.). Укр. палес. *віжар* 'невялікая лагчынка' (Марусенка, Полесье, 220), польск. *wyżar* 'выгараўшае месца на балоцістай ці тарфяністай глебе, дзе ў вільготную пагоду збіраецца вада' (Нітшэ, 209). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выжарыць*. Але арэал распаўсюджання і незвычайная для ўсходнеславянскіх моў семантыка дзеяслова наводзяць на думку аб магчымасці калькіравання літ. *išdaga* 'выгар, выжар' (<*dagà* 'гарачыня, спёка') (Чэкман, вусн. паведамл.).

**Выжáра** 'выпаленае месца ў лесе або на балоце' (БРС); 'запоўненая вадой яма на балоце ад выгараўшага торфу, акно' (БРС, Шат.). Гл. *выжар*.

**Выжарня** 'выгараўшае месца ў лесе, акно ў балоце' (стаўб., Прышч. дыс.). Ад *выжар* або *выжара* (гл.) пры дапамозе суф. *-ня*.

**Выжáрына** (БРС), *выжарына* 'гразкае месца на балоце ці сенажаці' (Шат.). Ад *выжар* або *выжара* пры дапамозе суф. *-іна*.

**Выжáрышча** (с.-г.) 'падсека, месца ў лесе, выпаленае пад сяўбу' (БРС). Ад *выжар* пры дапамозе суф. *-ішча*.

**Выжбарыцца** 'выпарыцца, добра напарыцца ў лазні' (Бяльк.). Відавочна, з *вышпарыцца*; гл. *шпарыць* 'абліваць кіпятком; біць, ўдараць'. У адносінах замены *шп* — *жб* параўн. бел. *шпурляць*, польск. *szpurać*, укр. і рус. *жбурлять*, *жбурляти*.

**Выжла** 'гончая сука' (БРС, Сцяшк.); 'хітры, пранырлівы чалавек; пра таго, хто віжуе' (Нас., Шат., Сцяшк., Сцяц., З нар. сл., Мат. Гом.). Гл. *выжал*.

**Выжымáйла** 'скнара' (Бяльк.). Ад *выжымаць* пры дапамозе прадуктыўнага для ўтварэння прозвішчаў у бел. мове суф. *-айла*. Але ў сувязі з практычнай адсутнасцю гэтага суф. у Nomina agentis у іншых слав. мовах параўн. яго словаўтваральную актыўнасць у літ. мове (Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 132). Параўн. таксама *выжымальшчык* (гл.).



**Выжымáльшчык** 'прыгнятальнік' (Бяльк.). Ад *выжымаць* (гл.) пры дапамозе суф. *-шчык*. Параўн. *выжымайла*.

**Выжымáць** 'выціскаць' (Бяльк.), *выжымáцца* 'натужвацца; выкідваць штукі, рабіць выбрыкі' (Бяльк.), *выжаць* спарт. 'павольна ўзняць штангу, гіру і г. д.' (БРС). Запазычанне з рус. *выжать, выжимать* 'выціскаць'.

**Выжымкі** 'рэшткі льнянога семені' (Жд., 1); 'макуха' (Мат. Гом.); 'жамерыны' (Шатал.). Рус. *выжемкі* 'тс'. Ад *выжымаць* (у слоўніках дзеяслоў зафіксаваны толькі на Магілёўшчыне, але, відавочна, распаўсюджаны шырэй) з суф. *-к-* або ад **выжым* (параўн. рус. *выжим* — дзеянне па дзеяслову *выжымаць*) з тым жа суфіксам.

**Выжыць** 'застацца жывым' (БРС, Нас., Касп., Бяльк.); 'выслужыць, зарабіць што-небудзь' (Нас.), *выжыты* 'дамагчыся свайго прытворствам, капрызам' (Клім.). Гл. *жыць*. Параўн. рус. дыял. *выжить* 'выслужыць, зарабіць што-небудзь'.

**Вызалаціць** (БРС), *вызлаціць* (Нас., Касп.). Гл. *залаціць*. Форма *вызлаціць* можа быць запазычаннем з польск. *wyzłocić* 'тс' або вынікам моцнай рэдукцыі *а* ў форме *вызалаціць* (ДАБМ, к. 8).

**Вызвал** 'вызваленне ад чаго-небудзь' (Нас.). Рус. смал. *вызвол* 'вызваленне, выручка', укр. *визвіл* 'тс'. Безафіксальнае вытворнае ад *вызваліць* (гл.).

**Вызваліць** (БРС, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Яруш., Шпіл., Грыг.). Рус. *вызволить*, укр. *визволити*. Ст.-рус. запазычанне з польск. *wyzwolić* 'зрабіць вольным'. Упершыню фіксуецца ў «Жалаванай грамаце вялікага князя Аляксандра Вітаўта літоўскім жыдам» (1388 г.) (Сразнеўскі, 1, 443). Відавочна, слова першапачаткова было запазычана ў заходнія дыялекты ст.-рус. мовы (Шанскі, 1, В, 224).

**Вызвалíцель** (БРС, КТС). Да *вызваліць* (гл.). Калька рус. *освободитель* (Крукоўскі, Уплыў, 116), магчыма і запазычанне з польск. *wyzwoliciel* 'тс'.

**Вызвалка** 'тое ж, што і вызвал' (Нас.), *вызвалкі* 'дапамога, пазыка' (Нік., Оч.). Рус. смал. *вызволка*, укр. *визволка* 'пазыка, дапамога'. Утварэнне ад *вызвал* з суф. *-к-*.

**Вызванец** 'ізгой' (Крывіч, 12, 1926, 14). Ад *вызываць*; параўн. прыклад: «Ксендз з амбоніі ізноў вызываў Кастуся за гіцлёўства» (там жа). Слова з'яўляецца калькай польск. *wy-*

17. Зак. 1876

*wołaniec* 'тс', якое ад *wywołać* 'вызываць'. У семантычных адносінах параўн. рус. *оглашённый*.

**Вызварат,** *вýзварат* 'прамежак паміж плотам і полем' (Янк. I), *вазварóт, вузворóт, візворот* 'месца павароту плуга' (Выг. дыс., палес.). Укр. дыял. *візворот* 'месца павароту плуга'. Да *вараціць*. Паралелі ад *vort-* з іншай прэфіксацыяй і суфіксацыяй у іншых слав. мовах гл. Выгонная, Лекс. Палесся, 49—50.

**Вы́зваратка** 'гаспадарчы абарот' (Нас.). Ад *вызварат*, аддзеясловунага ўтварэння да дзеяслова **вызвараціць* з дапамогай суф. *-ка* або непасрэдна ад гэтага дзеяслова.

**Вы́звараціна,** *вузвараціна* (Янк. I). Гл. *вызварат*.

**Вы́звездзіць** 'зрабіцца зорным (пра неба)' (Інстр. I, Мат. Гом., 222). Запазычанне з рус. *вы́звездить* 'тс'.

**Вы́зверыць** (вочы) (БРС, КТС). Гл. *вызверыцца*.

**Вы́зверыцца** 'закрычаць са злосцю'; 'паглядаць зверам' (БРС, Шат., КТС, Некр., Янк. Мат., Янк. II, Жд., 1, Інстр. III, Клім.). Да *звер*. Параўн. таксама *звярэць, азвярэць*.

√ **Вызвыча́іць** 'выйсці з ужытку' (Нас., Гарэц.). Да *звычай* (гл.).

**Вызнава́ць** (веру) (БРС, Нас.). Да *знаць* (гл.), як рус. *исповедовать* да *ведати*.

**Вызнача́льнік** (БРС). Да *вызначыць*. Структурная калька рус. *определитель* (Крукоўскі, Уплыў, 121).

**Вызрава́ць** 'высяпваць' (Шат.). Запазычанне з рус. *вызревать* 'тс'.

**Вы́зукаваць** 'да тонкасцей вывучыць чые-небудзь уласцівасці' (Гарэц.). Сюды ж, відавочна, *вызюка́ць* 'вызываць' і *вызю́кацца* 'адклікнуцца, прагаварыцца' (Нас.). Рус. дыял. *зук* 'гук', *вы́зукать* 'вычарпаць', чэш. дыял. *zukat'* 'ударацьь, стукаць', *zugat'* 'прагна есці або піць', серб.-харв. *зу̏кати, зу̏кам* 'гусці; шапнуць, кінуць слова', балг. *зу́квам* 'крычаць на ўсё горла'. Гукапераймальнае. З іншай ступенню чаргавання гл. *зык, зыкаць* (Фасмер, 2, 108 і наст., Махэк₂, 719; БЕР, 656). Развіццё семантыкі можна высветліць праз магчымае існаванне прамежкавага значэння 'вывучаць чые-небудзь уласцівасці, распытваючы пра іх'.

**Вызыба́ць** 'расхістаўшы, выцягваць'; 'вызваляць з бяды' (Нас.); 'выганяць' (Хрэст. дыял., 33, віц.), *вызыбацца* 'вырасці' (КТС). Рус. дыял. калуж. *вызыба́ть* 'падымаць, выцягваць', валаг. 'выкідваць', смал., пск. 'атрымліваць (доўг)'. Да *зыбаць* (гл.).



**Вызы́ка,** *вызы́чка* 'пазыка, дапамога' (Нас.). Бязафікснае ўтварэнне ад *вызычаць* (гл.) і памяншальнае да яго. Адноснае *к* на месцы заканамернага *т* гл. *пазыка, пазычаць*.

**Вы́зырка** 'вышка, маяк' (З нар. сл., брэсц.). Ад *вы́зырыць* 'выглядзець' пры дапамозе суф. *-ка*. Параўн. *зырыць*.

**Вызыча́ць** 'пазычаць' (Нас.). З *пазычыць* (гл.) шляхам замяшчальнай прэфіксацыі (*па-* на *вы-*).

**Вызюга́н** 'вялізны воз' (З нар. сл., мсцісл.). Ад *воз* пры дапамозе пашыранага ў гэтай гаворцы суф. *-уган/-юган* (Крывіцкі, там жа). Суфікс з'яўляецца канглютынацыяй прадуктыўнага ва ўсх-слав. мове суф. *-ug(a), -'ug(a)*, які ўтварае экспрэсіўныя Nomina agentis (SP, 1, 68), і суф. *-anъ*, які таксама служыць для ўтварэння экспрэсіўных слоў (SP, там жа, 130). Суфікс пашырыўся з катэгорыі назваў асоб; параўн. з гэтай жа гаворкі *бычуга́н, злыдзюга́н* і г. д.

**Вы́ідзь** 'пражора' (Бяльк.). Утварэнне ад дзеяслова *выядаць* пры дапамозе суф. *-jь*.

**Вы́ір** 'агароджа' (ДАБМ, 811). Гл. *вор₂* (*ыі* — з этымалагічнага *о*, якое ў закрытых складах у гэтай гаворцы дае розныя дыфтонгі (гл. ДАБМ, к. 35).

**Вый** 'енк, лямант' (Бяльк.). Да *выць* (гл.). Утварэнне ад 1-й асобы адз. л. — *выю*; параўн. рус. *вой, вою*; *ы* ў формах цяпер. часу і назоўніках, якія ад іх утвораны, з *ъи* (Карскі, 1, 234).

**Вы́йгранка** 'выйгрыш, карысць, выгада' (БРС, КТС). Да *выйграць* з суф. *-ка*.

√ **Вы́йма,** *ві́йма* 'лішак асновы ў шырыню пры кіданні ў ніт і бёрда (вынік памылкі)' (Влад.), *вы́ма* 'тс' (Шатал.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выйма́ць*.

v **Выйма́ць** 'вымаць' (Нас., Гарэц., Касп., Бяльк.). Рус. дыял. *выйма́ть*, укр. *виймáти*, польск. *wyjmować*, в.-луж. *wujimać*, чэш. *vyjmouti*, славац. 1-я асоба *vyjme*. Утвораны з дапамогай прэфікса *вы-* ад праславянскага дзеяслова *j-ьmę, -ęti* або ад формы незакончанага трывання гэтага дзеяслова — *emię*, *jьmati*, пасля *имать*; параўн. літ. *imù, im̃ti*, ст.-прус. *imma, īmt*, лац. *emō, ēmi* 'бяру' (Траўтман, 103 і наст.; Фасмер, 2, 19; Махэк₂, 231; Шанскі, 1, В, 227 і наст.). Параўн. *узяць*.

**Вы́йсце** (БРС). Запазычанне з польск. *wyjście*. Параўн. *выхад*.

**Вык**₁ 'выццё' (КТС, Гарэц., Юрч.). Рус. смал. *вык* 'выццё, плач'. Ад *выць* з суф. *-к* (як *ry-къ* ад *ryti, revti*) (Аб суфіксацыі гл. SP, 1, 89).

**Вык**₂ 'віка, Vicia' (Бяльк.). Рус. *вы́ка*, укр. *віка*, польск. *wyka*, чэш. *vika*. Запазычанне з польск. *wyka*, якое ў сваю чаргу са ст.-в.-ням. *wiccha* 'віка', лац. *vicia* (Міклашыч, 397; Мацэнаўэр, 367; Фасмер, 1, 368). Параўн. *віка*.

**Выкаблу́чыцца** 'сагнуцца, скруціцца ў дугу' (Сцяшк.), *выкаблу́чвацца* 'выкручвацца, выхваляцца' (Мат. Гом.). Рус. *выкаблу́чиваться* 'ў час танцаў рабіць нечаканыя і смешныя рухі; крыўляцца'. Да *каблук* (гл.).

**Вы́казка** 'адкрыццё тайны' (Нас.);'выдача, данос' (Касп.). Рус. *вы́казка* 'тс'. Да *выказаць* пры дапамозе суф. *-ка* або памяншальнае ад **выказ*; параўн. рус. *вы́каз*, укр. *ви́каз* 'данос, выяўленне'.

**Вы́калат** 'абмалот; салома' (Мат. Гом.). Рус. *вы́колот* 'выкалочванне'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выкалаціць* 'абмалаціць'.

**Вы́калатак,** *вы́колоток* 'сноп, абмалочаны без развязвання' (Выг. дыс., палес.). Рус. дыял. *вы́колоток* 'тс'. Ад *выкалаціць* 'абмалаціць, аббіць снапы' з дапамогай суф. *-ак* або ад *выкалат* (гл.) з тым жа суф.

**Вы́калаціць** 'абмалаціць, аббіць (снапы)' (БРС); 'выбіць дробную салому з буйных снапоў саломы; выбіць (што-небудзь)' (Шат.); 'вытрасці што-небудзь' (Касп.). Гл. *калаціць*.

**Вы́калупаць** (БРС, Яруш.), *вы́клупацца* (Нас.) 'выматваць, атручваць' (Мат. Гом.). Гл. *калупаць*. Адносна абсалютнай рэдукцыі галоснага перад *л* гл. Крывіцкі, З нар. сл., 132.

**Вы́канадзіць** 'выпрасіць безупыннай просьбай' (КЭС, лаг.). Рус. калуж. *ка́надить* 'збіраць грошы, скнарнічаць, зберагаць'. Гл. *канадзіць*.

**Вы́канаць** (БРС, Нас., Яруш.; КЭС, лаг.; Касп., Бяльк.). Запазычанне або структурная калька польск. *wykonać*. Гл. таксама *канаць*.

**Вы́кап** 'полаз з выкапанага караня' (Шатал.). Рус. *вы́коп* 'дзеянне па дзеяслову *выкопать*', польск. *wykop* 'выкопванне і тое, што выкапана: роў, яма', чэш. *výkop*, в.-луж. *wukop* 'тс'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выкапаць*.



**Вы́капаны** 'вельмі падобны' (Юрч., Клім., Шатал.). Запазычана з польск. *wykapany* 'тс', якое да *капаць* (гл.). Параўн. *выліты*, а таксама фразеалагізмы *капачкі, брызачкі, кропелькі падабраць* 'быць вельмі падобным' (Янк. БФ, 180). Месца націску змянілася, відаць, пад уплывам іншых утварэнняў з прыст. *вы-*.

**Вы́капень** (БРС). Да *выкапаць*. Калька рус. *ископаемое* (Крукоўскі, Уплыў, 118).

**Вы́караніць** (БРС, Гарэц., Нас., Шат., Бяльк.). Рус. *вы́коренить*, укр. *ви́корінити*, польск. *wykorzenić* і г. д. Да *корань* (гл.).

**Вы́карыць** 'запарушыць (вочы)' (Жд., 1). Не вельмі ясна, відавочна, да *кара* (гл.); аднак семантычнае развіццё незразумелае.

**Вы́кат** 'выраз, дэкальтэ' (Бяльк., Юрч., З нар. сл., Шатал., Мат. Гом.); 'лупатасць' (Бяльк., Юрч.). Рус. *вы́кот*, укр. *ви́кот* 'тс'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *вы́каціць, выка́тваць*.

**Вы́качаць** (БРС), *вы́кынчыць* 'выкачаць бялізну' (Бяльк.) з *н* устаўным, відаць, экспрэсіўнага паходжання, *вы́качацца* 'выгадавацца, выжыць' (БРС, КЭС, лаг.). Гл. *качаць*. Адносна апошняга значэння параўн. рус. дыял. *вы́качаться* 'акрыяць пасля хваробы', укр. *ви́качуватися* 'валяцца, ляжаць доўга'.

**Вы́кід** 'тое, што выкінута' (КТС), спарт. 'выкідванне, выцягванне рэзкім рухам' (БРС), *вы́кіды* 'выбрыкі' (Бяльк.). Бязафіксныя вытворныя ад *выкідваць;* параўн. рус. *вы́кид* 'дрэва, хлам, што вада выкінула на бераг', *вы́кіды* 'штукі, выбрыкі' з'яўляецца вынікам семантычнай кандэнсацыі словазлучэння *выкідываць штукі (выбрыкі, крэндзязюліны* і г. д.).

**Выкіда́нка** 'стаўная аднасценная або трохсценная сетка' (Крыв.). Утварэнне ад *выкіданы* пры дапамозе суф. *-ка*. Апошняе да *выкідаць*.

**Вы́кідаць** (БРС, Шат., Касп., Яруш., Бяльк.), *вы́кідацца* 'стараннай працай, руплівасцю выйсці з цяжкага становішча'; 'вырасці ў беднасці'; 'акрыяць' (Янк. III); 'вырасці, выхавацца'; 'перанесці, пражыць пэўны час' (Шат.), законч. трыванне *выкінуцца* 'нечакана з'явіцца' (КЭС, лаг.). Гл. *кідаць*. Значэнне 'акрыяць' або калька з літ., параўн. *pasitaisýti*

'акрыяць, паправіцца' і *taisýti* 'выкідваць (штукі)', або вынік незалежнага развіцця семантыкі дзеясловаў з прыстаўкай *вы-* і са значэннем руху знутры, якія вельмі часта набываюць пераносныя значэнні 'выйсці з цяжкага становішча, пазбавіцца ад бяды'; 'вырасці (у беднасці)' і г. д.; параўн. *выкачацца, выкруціцца.*

**Вы́кідыш** (БРС, Касп.). Рус. *вы́кидыш.* Утворана з дапамогай суф. *-ыш* ад *выкід* (гл.) (Шанскі, 1, В, 224). Магчыма ўтварэнне і ад асновы дзеяслова *выкідаць* з тым жа суфіксам.

**Выкіса́ць** 'вымакаць (аб гародніне)' (Выг. дыс.). Да *кіснуць* (гл.).

**Вы́кіцяць** 'вымазаць, выпэцкаць' (Клім.). Укр. *киця́ти* 'ўдараць'; 'у гульні ў жмуркі дакранацца да каго-небудзь, пасля чаго ён пачынае вадзіць', польск. *kicać* 'прыгаць, скакаць (звычайна аб дробных жывёлах)', *kic!* 'выклічнік для адгону жывёлы'. Гукапераймальнае (Брукнер, 226).

**Вы́клад** 'выказванне, выкладанне' (БРС); 'форма посуду' (Вярэн.), *выкла́ды* 'закладная тэхніка ўзорнага ткання, у якой дадатковыя каляровыя ўткі ткуць толькі частку ўзору, але не ідуць ва ўсю шырыню палатна' (Влад.). Рус. дыял. *вы́клад* 'вышыўка', *вы́кладь* 'каляровае тканнё звычайна чырвонымі ніткамі па беламу полю'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выкладаць.* У першым значэнні можа быць семантычным запазычаннем з польск. *wykład* 'тс'.

**Выклада́нне** 'выманне'; 'выказванне думкі'; 'абучэнне, навучанне' (БРС); 'спосаб ткання посцілак, калі кожны ўзор выкладаецца' (З нар. сл.), *выклода́ніје* 'закладная тэхніка ўзорнага ткання' (Влад.). Да *выкладаць* (гл.). Параўн. *выклад.*

**Выклада́ць** 'вучыць, займацца педагагічнай дзейнасцю' (БРС, Гарэц., Яруш., Касп.), 'вымаць' (БРС, Нас., Гарэц.), 'выказваць (думку), тлумачыць' (БРС, Нас., Гарэц., Яруш.); 'кастрыраваць' (Юрч., Шатал.), *выклада́ти* 'ткаць тэхнікай узорнага ткання' (Влад.). Гл. *кладу, класці.* У значэнні 'вучыць, займацца педагагічнай дзейнасцю' слова з'яўляецца калькай рус. *излагать* (Крукоўскі, Уплыў, 149); мяркуюць (Гіст. мовы, 2, 142), што значэнне 'выказваць (думку)' — таксама калька рус. дзеяслова, але хутчэй гэта семантычнае запазычанне з польск. *wykładać* 'выказваць, тлумачыць', на што можа ўказваць фіксацыя гэтага значэння ўжо ў Насовіча.



**Вы́кладка** (БРС, Бяльк.). Рус. *вы́кладка,* укр. *ви́кладка,* чэш. *výkladka.* Да *выкладаць* пры дапамозе суф. *-ка.*

**Вы́клікаць** (БРС, Яруш., КТС). Гл. *клікаць.* У значэнні 'выклікаць незадавальненне, гнеў' з'яўляецца калькай рус. *вы́звать* 'тс' (Гіст. мовы, 2, 142).

**Выкліна́ць** (БРС, Нас., Шат., Касп.). Гл. *праклінаць.*

**Выключа́льнік** (БРС). Да *выключаць.* Калька рус. *выключа́тель* (Крукоўскі, Уплыў, 117 і наст.).

**Выключа́ць** (БРС, КТС). Да *ключ* (гл.). У значэнні 'не дапускаць, устараняць' з'яўляецца калькай рус. *исключать* (Гіст. мовы, 2, 141).

**Выключа́цель** (БРС). Запазычанне з рус. *выключате́ль* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 56).

**Выклю́чны** (БРС, КТС). Да *выключаць.* Калька рус. *исключительный* 'тс' (Гіст. мовы, 2, 141).

√ **Вы́кнуць** 'прывыкаць, прызвычайвацца' (Гарэц., Др.-Падб.). Рус. *вы́кнуть, вы́кну,* укр. *приви́кнути,* ст.-рус., ст.-слав. **вык-нѫти,** польск. *nawyknąć,* в.-луж. *wuknyć* 'вучыцца'. Роднаснымі з'яўляюцца літ. *jùnkstu, jùnkti* 'прывыкаць, рабіцца прывычным', лат. *jûkt,* літ. *jaukìnti* 'прывучаць', ст.-прус. *iaukint* 'практыкавацца', літ. *jaukùs* 'лагодны, прыемны', ст.-інд. *úcyati* 'мае звычай', *ókaḥ* 'задавальненне', арм. *usanim* 'прывыкаю, вучуся', гоц. *biūhts* 'прывычны', ст.-ірл. *do-uccim* 'разумею, знаю' (Вальдэ, 865; Траўтман, 335; Фасмер, 1, 368; Фрэнкель, 196 і наст.).

**Выкрада́льнік** (БРС). Да *выкрадаць* (гл. *красці);* структурная калька рус. *похити́тель* або самастойнае ўтварэнне па тыпу *выкрывальнік, злучальнік* і г. д.

**Выкрунта́сы** 'хітрыкі, выкручванне' (БРС, Нас., КТС, Бір. Дзярж., Мал.); 'выгін дарогі' (Касп.). Запазычанне з польск. *wykrętasy* 'хітрыкі'. Параўн. *выкрутасы.*

**Вы́крут** 'хітрыкі' (БРС, КТС, Гарэц., Др.-Падб.); 'буралом' (Нікан.). Рус. *вы́крут* 'дзеянне па дзеяслову *выкрутить*', укр. *ви́крут* 'хітрыкі', польск. *wykręt* 'тс'. Бязафікснае вытворнае ад *выкруціць* (гл. *круціць*) (Шанскі, 1, В, 225).

**Выкрута́сы** 'хітрыкі, выкручванне' (БРС, Др.-Падб., Гарэц., Інстр. III); 'выгін ракі' (Шат., Яшк.). Рус. *выкрута́сы,* укр. *викрута́си,* польск. *wykrętasy* 'тс'. Вытворнае ад *выкрут* пры дапамозе суф. *-ас* (Шанскі, 1, В, 225). Усё да *крутой*

(Фасмер, 1, 368). Аб магчымым балтыйскім паходжанні суф. гл. Карскі, Белорусы, 137; Лаўчутэ, Лекс. балт., 19.

**Вы́крутка** 'выйсце' (БРС, КТС). Рус. бранск. *вы́крутка,* укр. *ви́крутка* 'хітрасць'. Памяншальнае да *выкрут* (гл.) або непасрэднае вытворнае ад *выкруціцца* пры дапамозе суф. *-ка.*

**Выкрыва́льнік** (БРС). Да *выкрываць,* структурная калька рус. *разоблачи́тель* (Крукоўскі, Уплыў, 121).

**Вы́крэст** 'хрышчоны яўрэй' (Нас.). Рус. *выкрест* 'тс'. Бязафікснае ўтварэнне ад *выкрэсціць* (гл. *хрысціць*). Параўн. Фасмер, 1, 368.

**Выкспэнсо́вываць** 'расходаваць, выдаткоўваць' (Нас.). Насовіч (84) параўноўвае з лац. *expensare,* але ў бел. мове, відавочна, запазычанне з польск. *wyekspensować* 'тс'.

**Вы́кста** 'хрышчоны яўрэй' (Нас.). Утварэнне пры дапамозе суф. *-а* да дзеяслова *выксціць* (гл.). Сюды ж *вы́кстка* — форма ж. р. да гэтага слова.

**Вы́ксціць** 'ахрысціць' (Нас.). Паланізаваная форма з *вы́крэсціць* 'тс' (Нас.).

**Вы́куп** (БРС, Бяльк., КТС). Рус. *вы́куп,* укр. *ви́куп,* польск. *wykup,* чэш., славац. *výkup,* в.-луж. *wukup.* Бязафікснае ўтварэнне ад *выкупіць* (гл. *купіць*) (Шанскі, 1, В, 225).

**Вы́купка** 'выкуп' (Нас., Касп.). Рус. *вы́купка* 'тс'. Ад *вы́куп* (гл.) з дапамогай суф. *-ка.*

**Вы́куркаляваца** 'звесці канцы з канцамі' (КЭС, лаг.). Запазычанне з польск. *wykarkulować* 'разлічыць, скамбінаваць' або самастойнае ўтварэнне ад *калькуляцыя, калькуляваць* (гл.).

**Вы́курстаць** 'выселіць, выгнаць' (КЭС, лаг.). Польск. уст. з Літвы *kurstać* 'будзіць, абуджаць, падганяць'. Запазычанне з літ. *(pa)kìrsti* 'абуджацца, адкрываць вочы (пасля сну)', якое звязана абляутам з *kar̃das* 'паўторны гук', *kardìntis* 'станавіцца прыкметным', апошнія словы ў сваю чаргу звязаны з *kir̃sti* 'біць, удараць, рубіць' (параўн. слав. *čersti* 'рэзаць') (гл. Фрэнкель, 258 і наст.).

**Вы́кшчэны,** *вы́кшчэнец* 'той, які стаў хрысціянінам' (Нас.). Да *выксціць* (гл.).

**Вы́лажыць** (БРС), 'кастрыраваць' (Шат., Шатал.). **Гл.** *лажыцца, легчы.* У апошнім значэнні параўн. ням. *legen (einen Hengst legen lassen* 'кастрыраваць жарабца'). Але гэта значэнне магло з'явіцца і як вынік суаднесенасці дзеясловаў *вылажыць* і *выкласці.*



**Вы́лазка** (БРС). Рус. *вы́лазка,* укр. *ви́лазка.* Ад *вылазіць* з дапамогай суф. *-ка* або ад **вылаз,* бязафікснага вытворнага да *вылазіць* з тым жа суфіксам; параўн. рус. *вы́лаз,* укр. *ви́лаз.*

**Вылам** (БРС), рус. *вы́лом* 'дрэва, якое вырвана з коранем', укр. *ви́лом* 'адтуліна, пралом', польск. *wyłom, wyłam* 'глыбокая даліна ў гарах', чэш. дыял. *vyłoma* 'дзедзічная маёмасць'. Бязафікснае ўтварэнне ад *вы́ламіць.*

**Вылапо́кій** 'з вытарашчанымі вачамі' (З нар. сл., мсцісл.). Рус. смал. *волопо́кий* 'лупаты'. Метатэза з *лупаво́кій* 'тс'.

**Вы́латаць** 'дабыць, знайсці, выпрасіць' (КЭС, лаг.). Гл. *лата, латацца.*

**Вы́лаў** (БРС, Сцяшк., Інстр. II). Рус. *вы́лов,* укр. *ви́лов,* польск. *wyłow,* чэш. *výlov.* Бязафікснае ўтварэнне ад *вылавіць* (гл.).

**Вы́лва** 'вадзяны грэбень, падняты ветрам, хваля' (Яшк.). Мяркуючы па месцы націску, запазычанне з польск. *wełna, wełma.* Але канчатковае *-ва* тлумачыць цяжка.

**Вы́лезці** (БРС, Гарэц., Яруш., Касп.), *вы́лізьць* (Бяльк.), *вылаза́ты* 'выходзіць (аб коласе)' (Выг. цыс., стол., нараўл.). Гл. *лезці.*

**Выленга́цца** 'аддавацца ляноце' (Нас.), *вылангáцца* 'вылежвацца' (Юрч.). Укр. дыял. *вилінга́тися* 'тс'. Запазыч. з польск. *wylęgiwać się* 'тс'. Памылкова Рудніцкі (1, 389), які выводзіць ад *wylęgiwać się* 'выхадзіць, вылупліваца (аб птушанятах)'.

**Вы́лівак** 'яйка з вельмі слабай шкарлупінай' (БРС, Нас., Бяльк., Янк. I, Сцяшк., Інстр. I, Жд., 2, Вешт. дыс., З нар. сл.), *вы́лівак* 'тс' (З нар. сл.). Рус. *вы́ливок,* укр. *ви́ливок.* Ад *вылі́ваць* (гл. *ліць*) 'несці яйкі з мяккай шкарлупінай' і суф. *-ак.*

**Выліва́шка** 'шуфлік, чарпак з кароткай ручкай для вылівання вады з лодкі' (З нар. сл., полац.). Да *выліваць* пры дапамозе складанага суф.*-ашка.* Параўн. таксама польск. *wylewka,* чэш. *vylivka* 'тс'.

**Вы́лівкі** 'памыі' (Нас.). Да *выліваць* пры дапамозе суф. *-к-.*

**Вы́лік** (БРС). Крукоўскі (Уплыў, 119) лічыць калькай рус.

*вы́чет*, але магчыма і самастойнае бязафікснае ўтварэнне ад *вы́лічыць*; параўн. польск. *wylik, wyliczyć*. Гл. таксама *лічыць*.

***Вылiко́нна,** *вылыко́нна булочка* 'велікодны рытуальны асвячоны хлябец, які захоўваўся ўвесь год' (Клім.). З *велікодны* з асіміляцыяй *д>н*.

***Вылі́рызны,** *вылі́рызный* 'вялікі, вельмі буйны' (Клім.). З *велізарны* (гл.) у выніку метатэзы.

**Вы́літак** (Шатал.). Гл. *вылівак*.

**Вы́літы** 'выплюхнуты' (БРС); 'вельмі падобны' (Янк., Жд., 2). Рус. *вы́литый* 'вельмі падобны', укр. *ви́литий*. Утворана лексіка-семантычным спосабам ад *вы́літы* 'выплюхнуты', якое ў сваю чаргу з *вы́ліць* (Шанскі, 1, В, 225).

**Вылiча́льнік** (БРС). Да *вы́лічыць*. Калька рус. *вычисли́тель* (Крукоўскі, Уплыў, 121).

**Вылiча́ць** 'плакаць, галасіць' (Жд., 2). Гл. *велічаць* (г. зн. плакаць, прыгаворваючы або «велічаючы» каго-небудзь). Адносна разыходжання значэнняў параўн. *хула* і *хвала* (напр.: «Хула табе, Божухна!» — Шн., 1), якія прапаноўваюць аб'яднаць пад агульным значэннем 'гаварыць' (Фасмер, 4, 283).

**Вы́лічыць** (БРС, Нас., Яруш., Касп., Шат., Бяльк.). Крукоўскі (Уплыў, 121) лічыць калькай рус. *вычислить*, але хутчэй гэта самастойнае ўтварэнне; параўн. польск. *wyliczyć*. Гл. таксама *лічыць*.

**Выло́га** 'борт у адзенні' (Жд., 1). Ужо ст.-бел. *вылоги, вилоги* 'тс'. Запазычанне з польск. *wyłoga* 'тс' (Булыка, Запазыч., 74).

**Вы́лупак$_1$** 'хлопчык з вылупленымі вачамі, лаянка хлопца' (Нас., Некр., КЭС, лаг.); 'адзінае дзіця' (Нік., Оч.); 'птушаня, якое толькі што вылупілася з яйца' (Нас.). Рус. *вы́лупок* 'тс', укр. *ви́лупок* 'дзіця (зняважліва)', польск. *wyłupek* 'штонебудзь вылупленае (арэх, птушаня)'; 'небарака', чэш. дыял. *výlupek, vejlupek* 'арэх, які вылупіўся з шалупіння'. Ад *вылупіць(-цца)* у розных значэннях з суф. *-ъкъ*.

**Вы́лупак$_2$** 'франт', *вы́лупка* 'франціха' (Касп.). Да *вылупіцца* 'прыбрацца' (гл.). Параўн. таксама рус. *вылупёна* 'франціха'.

**Вы́лупіць** 'абадраць, ачысціць ад скуры, лупін' (БРС, Нас., Яруш., Касп.); 'вырваць, паглуміць' (Сцяшк.); 'вытарашчыць вочы' (Нас., Бяльк.); 'пабіць, адлупцаваць' (БРС, Нас., Шат.); 'выставіць напаказ' (Нас.), *вы́лупіцца* 'вылезці з яйца (аб птушанятах)' (Нас.); 'накінуцца на некага з крыкам, ашчэрыцца' (Нас., Шат.); 'прыбрацца, упрыгожыцца' (Касп.). Гл. *лупіць*. Апошняе значэнне запазычана, магчыма, з рус. мовы; параўн. рус. пск., цвяр., валаг., каз. і г. д. *вылу́паться* 'прыбірацца, выстройвацца'.



**Вылучэ́нец** (БРС). Да *вылучыць* (гл. *лучыць*). Неалагізм, які ўзнік у 20-х гадах для перадачы рус. *выдвиженец* (Гіст. мовы, 2, 258).

**Вылына́ць** 'выхадзіць' (Яруш.). Запазычанне з укр. *вилинути* 'вылецець', *ли́нути* 'ляцець, імкнуцца', калі меркаваць па галоснаму пасля *л*. Сюды ж *лінуць* (гл.).

**Вы́людак** 'звер, кат' (БРС, Крывіч, 12, 1926, 3). Рус. *вы́людье* 'вырадак, маральная пачвара'. Прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне ад *люд-* па тыпу *вырадак*.

**Вы́людзя** 'лепшае адзенне, што адзяваюць на свята' (КЭС, лаг.). Запазычанне з рус. *вы́людье* 'тс' (пск., цвяр., наўг., кастр., валаг.). Параўн. таксама рус. *вы́людиться* 'прыбрацца для выхаду ў госці, на гулянне'.

**Вы́люднець,** *вы́людскавацца* 'выправіцца, стаць, як усе людзі' (Янк., Клім., Жд., 1), *вы́людзець* 'вырасці, стаць сур'ёзным' (Шат.). Рус. бранск. *вы́людеть* 'вырасці, развіцца, стаць падобным да іншых', укр. *ви́людніти* 'тс'. Гл. *алюдзець, людчець*. Адносна магчымасці запазычання з гоц. *liudan* 'расці' гл. Мартынаў, БЛ, 1, 16 і наст.

**Выляжа́нка** 'гультайка; распусная жанчына' (Нас.). Да *вылежвацца* пры дапамозе суф. *-анка*.

√ **Вымаўля́ць** 'замаўляць, лячыць замовакю' (Бяльк.). Гл. *замаўляць*.

**Вымага́льнік** (БРС). Ад *вымагаць* (гл.) пры дапамозе суф. *-льнік*.

**Вымага́ць** (БРС, Нас., Гарэц., Касп., Шат., Бяльк., Яруш., КЭС, лаг.; Бір. Дзярж.). Рус. *вымога́ть*, укр. *вимага́ти*, польск. *wymagać*, чэш. *vymáhati*, славац. *vymáhat'*. Ад *вы-* і *-магаць*, дзе другая частка, відавочна, узята з дзеясловаў тыпу *памагаць*, якія з'яўляюцца ітэратывамі ад дзеясловаў зак. тр.; параўн. рус. *вымочь — вымагаць* (Шанскі, 1, В, 226). Аб дээтымалагізацыі гэтага дзеяслова гл. Булахоўскі, Труды ИРЯ, 1, 1949, 194.

**Вы́мак** 'месца, дзе вымак ці вымерз пасеў' (Яшк.). Рус. *вы́моки*, укр. *ви́мок* 'тс'. Бязафікснае ўтварэнне ад *вымакнуць*.

**Вы́мал** 'мель, каса, абмялелае месца' (Гарэц.). Рус. *вы́мол* 'яма, калдобіна', укр. *ви́мул* 'яма, выбітая вадой' (Марусенка, Полесье, 221), польск. *wymuł* 'канава, паглыбленне, вымытае вадой', в.-луж. *wumjeł*, чэш. *výmol*, славац. *výmol'* 'тс'. **Ад** *vymelti* (гл. *малоць*) : з нулявым афіксам (**Гл. Махэк₂**, 368). Памылкова Нітшэ (66), які звязвае гэта з *мул* 'іл'. Адносна вакалізму назоўніка гл. Варбот, Словообр., 24, 29.

**Вы́малат** 'вымалачаная салома' (Сцяшк.). Рус. *вы́молот* 'вымалочванне; умалот', укр. *ви́молот* 'умалот', польск. *wymłot, wymłót* 'тс', чэш., славац. *výmlat* 'вымалочванне'. Бязафікснае ўтварэнне ад *вы́малаціць*.

**Вы́марачны** (БРС). Рус. *вы́морочный*, укр. *ви́морочний*. У беларускіх дзелавых помніках фіксуецца ў 1610 г. (КГС). Да *вымі́раць, мор.* У рус. мове непасрэдна ад *вы́морка* 'стан па дзеяслову *вымі́раць*' (Шанскі, 1, В, 226 і наст.).

**Вы́марскацца** 'выпрацавацца, затраціць многа сілы і мець патрэбу неадкладна папоўніць сілы' (Янк. I). Янкоўскі (I, 55) параўноўвае з чэш. *mrskati* 'біць, сцябаць'. Але, відаць, канкрэтнай крыніцай бел. слова з'яўляецца польск. *wymerskać* 'выбіць, насцябаць'. Аб апошнім гл. Брукнер, 323 і наст.; Махэк₂, 380.

**Вы́мач** 'вымаклае месца ў пасевах' (Юрч., Яшк.); 'лажок у канцы ці сярэдзіне поля' (Яшк.). Ад *вы́мак* (гл.) з суф. *-jь*. Параўн. рус. *вы́мочка* 'пустое месца ў полі, дзе вымаклі пасевы'.

**Вы́ме** 'названне па імені' (Нас.). З пратэтычнага *в* і *імя, ймя* (гл.), *ы*, відаочна, пад уплывам дзеяслоўных форм; параўн. *выменовываць*.

**Вы́мекнуцца** 'прагаварыцца' (Жд.). Няясна. Відаочна, звязана з *намёк* (гл.), рус. *мекать* 'думаць, меркаваць', *намекать* і інш. Апошняе, на думку Брукнера (KZ, 48, 196), з рус. *метить*, але гэта няпэўна. Гл. Фасмер, 2, 594.

**Вы́менка** 'назва па імені'; 'упамінанне' (Нас.). Ад *выменовываць, вы́меніць* з дапамогай суф. *-ка*.

**Выменóвываць,** *вы́меніць* 'называць па імені, назначаць' (Нас.). З *вы-* і *іменовываць, іменаваць* з наступным сцягненнем. Гл. *імя.*

**Вы́мергаваць** 'вымераць, выдзеліць' (Шат.), *вы́мяргаваць* 'вымяркаваць' (Жд., 1), *вы́міргаваць* 'сэканоміць' (КЭС, лаг.). Відаочна, кантамінацыя дзеясловаў *вы́маргаваць* 'вымераць моргамі' (гл. *морг*) і *вымеркаваць* 'разлічыць' (гл. *меркаваць*).



**Вы́мерхацца** 'прагаладацца, аслабець ад вялікай затраты сілы' (БРС, Касп., Янк. III, Касп., Мат. Гом.), *вы́мірьхацца* 'тс' (З нар. сл., маг.), *вы́мяркацца* 'захацець есці пасля хадзьбы' (Бір. Дзярж.), *вимéрхувать, ви́мерхать* 'стаміцца' (Ліс.). Укр. *ви́мерховати* 'прагаладацца'; параўн. таксама польск. *merchać, myrchać* 'раскідваць, мяшаць салому, прыводзіць яе да непрыгоднасці'. У беларускай мове, відаочна, запазычанне з укр., дзе яно ўтворана ад дыял. *мéрха, ми́рха* 'падла'. Параўн. таксама чэш. *mrcha* 'кляча'; 'падла; сцерва (лаянка)', польск. *marcha, mercha* 'кляча; сцерва', славен. *mrha* (лаянка), запазычаныя з с.-н.-ням. *marhe* 'конь, кляча' (Брукнер, 322; Клюге, 1960, 454, 463; Махэк₂, 379).

**Вымінáка** 'асоба, якая апрацоўвае лён церніцай' (Жд., 1). Ад *вымінаць* пры дапамозе суф. *-ака*, даволі распаўсюджаным у гэтай катэгорыі ў бел. і ўкр. мовах (гл. Карскі, 2—3, 35). Параўн. *мяць*.

**Вымóва** 'заўвага, якая з'яўляецца пакараннем за правінннасць' (БРС, КЭС, лаг.); 'вымаўленне' (Нас., Касп.); 'умоўленая рэч звыш платы' (Нас.). Крукоўскі (Уплыў, 119) лічыць слова калькай рус. *вы́говор*, але хутчэй гэта запазычанне з польск. *wymowa* 'вымаўленне', якое пад уплывам рус. слова пашырыла свае значэнні.

**Вымóга** 'просьба з пагрозай' (КЭС, лаг.). Бязафікснае ўтварэнне ад *вымагаць* (гл.) або запазычанне з польск. *wymoga* 'тс'.

**Вымóўнасць** 'вобразнасць, дар слова' (Гарэц., Др.-Падб.). Запазычанне з польск. *wymowność* 'тс'.

**Вы́мпел** (БРС). Запазычанне праз рус. *вымпел* 'тс' з н.-ням., гал. *wimpel*, с.-н.-ням. *wimpel, wumpel* (Фасмер, 1, 368).

**Вы́мудры** 'мудрагельства, хітрасці' (БРС, Гарэц., Нас., Бяльк.). Рус. смал. *вы́мудры* 'тс'. Бязафікснае ўтварэнне ад *вымудраць* (гл. *мудры*).

**Вы́мухрыць** 'вымуштраваць' (Бяльк.). Відаочна, звязана з *замухрышка* (гл.), рус. *мухры́га* 'неахайны, таксама маларослы чалавек', *мухры́жнік* 'махляр, ашуканец', якія, магчыма, да *мухлявáць* (гл.) (Фасмер, 3, 19).

**Вымыгáйла** 'вымагальнік' (Бяльк.). Ад *вымагаць* пры дапамозе суф. *-айла*. Адносна суфіксацыі параўн. *выжымайла*.

**Вымысел** (БРС), *вымысл* (Нас.). *вымыслы* 'хлусня; капрызы, выдумкі' (Шат.). Рус. *вымысел*, польск. *wymysł*, чэш. *vymysl*, славац. *výmysiel*, в.-луж. *wumysł*. Бязафікснае ўтварэнне ад *вымысліць* (гл. *мысліць*).

**Вымя** (БРС, Нас., Яруш., Шат., Касп., Бяльк., Грыг.), *вымянё* (Сцяшк.), *вымэне* (Бес.), *вымне, вымянё* (Шатал.), *вым'е* (З нар. сл.), *йиме, ім'е* (Ліс.). Рус. *вымя*, дыял. *выме*, укр. *вим'е*, ст.-рус. *вымя*, род. скл. *вымене*, польск. *wymię*, в.-луж. *wumjo*, н.-луж. *humje*, чэш. *vymě*, славац. *vemä*, серб.-харв. *виме*, славен. *vime*, балг. *виме*, макед. *виме*. Роднаснае ст.-інд. *ū́dhar*, род. скл. *ū́dhnas*, лац. *ūber, -eris* 'шчодры; урадлівы; вымя', грэч. οὖθαρ, род. скл. οὔθατος 'вымя', ст.-в.-ням. *ûtar* 'вымя', ст.-англ. *ūder* (Траўтман, 334; Вальдэ, 810; Праабражэнскі, 1, 104; Мікала, BB, 22, 243). Іншая ступень чаргавання ў рус. *ýдеть, ýдить* 'набухаць' (Фасмер, там жа; Геаргіеў, 148), якія Якабсон (IJSLP, 1, 1959, 273) далей супастаўляе з *уд* (гл. *вуды*). Фасмер (1, 368 і наст.) прыводзіць таксама супастаўленне Фартунатава (у Когена, ИОРЯС, 17, 4, 402) з лац. *sūmen*, магчыма, з **sū-ūdhmen* 'свіное вымя' і і.-е. праформу аднаўляе як **ūd(h)men*. Аднак, як пераканаўча паказаў Хэмп (Этимология, 1970, 263 і наст.), трэба адмовіцца ад гэтага параўнання і форму **ūd(h)men* лічыць балтаславянскай інавацыяй, як гэта меркавалі яшчэ Траўтман (там жа; з і.-е. **ūdh-r, ūdh-n-*), Фрыск (2, 442 і наст.) і Махэк$_2$ (704 і наст.). Параўн. літ. *tešmuõ* 'вымя' ад *tė̃šti* 'набракаць (аб часткі цела або аб вымені)'. Такім чынам, **ūd(h)men* (<*ōudhr, ūdhnés*), відавочна, 'набраканне' (гл. Хэмп, там жа).

**Вымяра́льнік** (БРС). Да *вымяраць* (гл. *мерыць*). Калька рус. *измеритель* (Крукоўскі, Уплыў, 120 і наст.).

**Вымяра́льшчык** (БРС). Да *вымяраць*. Калька рус. *измеритель* (дзеючая асоба) (Крукоўскі, Уплыў, 124).

**Вымятка** 'даведка, выпіска' (Некр.). Рус. перм. *выметка* 'даведка'. Няясна. Магчыма, ад *vymetati*, калі гэта не вынік перапрацоўкі *вынятка* 'выпіска, даведка' пад уплывам **выметаць*. Параўн. рус. *метать*.

**Вынагро́да** 'ўзнагарода, кампенсацыя' (Нас.). Запазычанне з польск. *wynagroda* 'тс' (Цвяткоў, Запіскі, 60).

**Выналёзок** 'вынаходка' (Нас.). Запазычанне з польск. *wynalazek* 'тс'. Ст.-бел. *выналязокъ* 'вызначэнне, пастанова' і *выналязца* 'вынаходца' таксама з польск. (Булыка, Запазыч., 74).



**Выналёзці** 'вынайсці' (Нас.). Запазычанне з польск. *wynaleźć* 'тс'.

**Вынасак** 'зносак' (Мат. Гом.). Да *вынасіць* з суф. *-ак*.

**Вынахо́дца** (БРС). Да *вынаходзіць* з прадуктыўным для Nomina agentis суф. *-ца;* апошні замацаваўся пад польскім уплывам (Гіст. мовы, 1, 99); параўн., напр., укр. *винаходець* 'тс'.

**Вынаш** 'пук сухога лёну, вынесены з сушкі за адзін раз' (Влад.). Ад *выносіць* (гл. *насіць*) з суф. *-jь*. Адносна суфіксацыі гл. Слаўскі, SP, 1, 80 і наст. Параўн. *вынашай*.

**Вынашай** 'пук сухога лёну, вынесены з сушкі за адзін раз' (Жд., 1), *вынашай* 'тс' (Шатал.), *вынашэй* 'тс' (Влад.), *вынашая* 'тс' (Жд., 1; Шчар., 150; Сцяшк.). Ад *выносіць* з суф. *-ějь, -ajь* першапачаткова як Nomen actionis (Слаўскі, SP, 1, 86 і наст.; Сцяц., Словаўтв., 23). Чэкман (Baltistica, 8, 2, 152) лічыць калькай літ. *išnaša* 'тое, што выносіцца з дому', якое ўтворана ад *išnèšti* 'выносіць' па вельмі прадуктыўнай мадэлі. Але параўн. чэш. *vynáška* 'вынас' і рус. кастр. *выносник* 'тры—чатыры снапы яшчэ гарачага лёну, якія вынесены з сушкі для таго, каб церці'.

**Вынік** (БРС, КЭС, лаг.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *вынікаць*.

**Вынітак** 'разарваная кабылка ў нітах' (Шатал.). Да *вынітыцца, выніціцца* (гл.) з суф. *-ак* (Фалінская, Бел.-польск. ізал., 139).

**Выніцаваць** 'пераніцаваць' (Нас., Шпіл.). Запазычанне з польск. *wynicować* 'тс'; параўн. ст.-бел. *выницовати* (Булыка, Запазыч., 74).

**Выніціцца** 'раскудзеліцца' (Шатал.), *вынітыцца* (Влад.), *выныттысь* (Клім.) 'парвацца (пра пятлю ніта)'; 'прыйсці да непрыдатнасці'. Польск. *nicić się* 'парвацца (пра пятлю)', *wynicić się* 'тс' (Фалінская, Бел.-польск. ізал., 139). Да *ніт* (гл.).

**Выно́сны** 'прамы, высокі (аб дрэве)' (БРС, Клім.), *выно́сісты, выно́слівы* 'высокі, тонкі' (Мат. Гом.) Рус. *выносной* 'моцны, трывалы; ураджайны (год)', чэш. *vznešený* 'ўзняты, знатны', дыял. *výnosný* 'багаты, радавіты'. Утварэнне ад *выносіць* з суф. *-н-*; параўн. таксама ўкр. *вино́ситися* 'падымацца, узнімацца, узносіцца' (Гл. Махэк$_2$, 396).

**Вынятак** 'выбар, выключэнне' (Др.-Падб., КЭС, лаг.).

Укр. *віняток* 'выключэнне', польск. *wyjątek* 'тс', чэш. *výňatek* 'урывак'. Ад формы залеж. дзеепрым. *выняты*, дзеясл. *выняць* з суф. *-ак*. Гл. Махэк$_2$, 231.

**Вы́нятка** (БРС, Яруш.). Гл. *вынятак*.

**Вы́няць** (БРС, Шат.; КЭС, лаг.), *выніць* (Нас., Бяльк.). Рус. дыял. *вы́нять*, укр. *віняти*, польск. *wyjąć*, чэш. *vyndati*, славац. *vyňat'*. Утворана з дапамогай прыстаўкі *вы-* ад агульнаслав. *jęti* (гл. *узяць*); *н* — устаўное (Шанскі, 1, В, 228). Форма *вынуць* (Бяльк.), цікавая поўным знікненнем кораня (Трубачоў, Дополн., 1, 369), запазычаная з рус. *вынуть*.

**Вы́паветрыцца** 'знікнуць ад пошасці' (Нас.). Гл. *паветрыць(цца)*. Параўн. рус. *поветрие* 'эпідэмія, якая хутка распаўсюджваецца'.

**Выпаго́дзіцца** (БРС, Нас.). Да *пагода* (гл.).

**Вы́пад** (БРС) 'назначэнне; выпадак' (Нас.). Рус. *вы́пад*, укр. *випад*, польск. *wypad*, чэш., славац. *výpad*, в.-луж. *wupad*. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выпадаць* (гл.). У значэнні спартыўнага тэрміна (у фехтаванні) запазычана з рус., дзе з'яўляецца, магчыма, лексічнай калькай ням. *Ausfall* (Унбегаун, Le calque, 38). Гл. таксама Шанскі, 1, В, 228.

**Вы́падак**$_1$ (БРС, Шат.), *выпа́дак* (Нас., Гарэц., КЭС, лаг.). Рус. *вы́падок* 'ападкі', укр. *випадок* 'выпадак', польск. *wypadek*, в.-луж. *wupadk* 'тс'. У бел. запазычанне з польск., дзе, відавочна, калька ням. *Ausfall* (параўн. Брукнер, 390). Змяненне націску ў форме *вы́падак* пад уплывам іншых дэрыватаў з прыст. *вы-*.

***Выпадак**$_2$, *вы́пыдык* 'хвароба ў коней, выпадзенне поўсці' (Бяльк.). Рус. дыял. *выпадок* 'хвароба'. Да *выпада́ць* з суф. *-ак*.

**Выпада́ць** (БРС, Нас., КЭС, лаг.; Гарэц., Яруш.). Гл. *падаць*. У значэнні 'адбывацца, здарацца' семантычнае запазычанне з польск. (параўн. *wypadać* 'тс').

**Вы́пал** 'выстрал; паленне (у печы)' (Нас.). Рус. *вы́пал* 'дзеянне па дзеяслову *выпаливать*', 'выстрал', польск. *wypał*, в.-луж. *wupał* 'тс'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выпаліць* (гл. *паліць*).

**Вы́палакаць** 'выпаласкаць' (Мат. Гродз.). Запазычанне з укр. *полокати* 'паласкаць'.

**Вы́паласкі** 'памыі' (Нас.). Рус. дыял. *вы́полоски*, укр. *виполоски* 'тс'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выпаласкаць* (гл. *паласкаць*).



**Выпа́ліна** (БРС). Да *выпаліць* (гл. *паліць*) з суф. *-іна*.

**Вы́паля́нка** 'выпаленае месца ў лесе' (Яшк.). Да *выпаліць* з суф. *-анка*.

**Вы́парадчыць** 'прыводзіць у парадак; дакладна выконваць даручэнні' (Нас.). Гл. *парадак*.

**Вы́парак** 'выпаратак' (Нас.). Польск. *wyporek* 'тс'. Да *пароць* (Брукнер, 639; Махэк$_2$, 571). Параўн. *выпаратак*.

**Вы́паратак** (БРС). Рус. дыял. *вы́пороток* 'неданосак', таксама лаянка ў адносінах маленькіх, але дзёрзкіх дзяцей, укр. *випориток* 'неданосак, мёртванароджаная жывёліна', польск. *wyprótek*, *wyporek* 'тс', чэш. *spratek* 'цялё-неданосак'. Ц.-слав. *испрътъкъ* 'infans exsectus' (Міклашыч, Lex. paleosl., 267). Фасмер (1, 369) і інш. (Мацэнаўэр, LF, 13, 19 і наст.; Міклашыч, 258) лічаць расшырэннем дзеепрыметніка на *-to-* ад *пароць*, як, напрыклад, рус. *взятка*. Аднак паколькі існуе форма рус. *за́порток* 'тухлае яйцо', то параўноўваюць і са ст.-інд. *pr̥thukaḥ* 'дзіця, хлопец', асец. *firt'on* 'жывёла', грэч. πόρτις, πόρταξ, πόρις 'цялё, цялушка', ст.-в.-ням. *farro*, *far* 'бык', літ. *perìu* 'выседжваю (птушанят)' (Праабражэнскі, 2, 110; Клюге, 147). Махэк$_2$ (571) таксама ўказвае на другасны характар збліжэння слав. слоў з *porjǫ*, *porti*.

**Вы́пас** 'пасьба; паша' (БРС, Некр., Яшк.). Рус. *вы́пас*, укр. *випас*, польск. *wypas*, чэш., славац. *výpas*, каш. *vëpas*. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выпасваць* (гл. *пасвіць*).

**Вы́пасажыць** 'выжыць, выдварыць' (БРС, Жд., 1, Жд., 2); 'даць пасаг пры выхадзе замуж' (Нас.). Укр. *випосажити* 'даць пасаг', польск. *wyposażyć*, чэш. дыял. *výposažiti* 'тс'. Да *пасаг* (гл.) (Брукнер, 432; Махэк$_2$, 472).

**Вы́паўзень** 'змеянё' (Касп.). Рус. пск., смал. *вы́ползень* 'вужавінне'. Утварэнне ад *выпаўзці* (гл. *паўзці*) з дапамогай суф. *-ень*.

***Выпаўзык**, *вы́пыўзык* 'вужавінне' (Бяльк.), *вы́пуўзык* 'праныра, пралаза' (там жа). Запазычанне з рус. дыял. (цэнтр. і ўсх.) *вы́ползок* 'вужавінне; змеянё; злы чалавек', якое да *выпаўзці*.

**Вы́перадзіць** (БРС, Нас.). Рус. *вы́передить*, укр. *випередити* 'тс'. Гл. *пярод*.

**Вы́перадкі** (БРС, Нас., Касп., Гарэц., Яруш., Шпіл., КЭС,

лаг.). Рус. *выпередки*, польск. *wyprzodki, wyprzódki*. Ад *выперадзіць* з суф. *-к-*.

**Выпераза́ць** 'моцна сцебануць чым-небудзь гнуткім' (Нас.), *выперазацца* 'моцна ўдарыцца аб што-небудзь' (Нас.), *выперзіцца* 'зваліцца, упасці' (Бяльк.). Гл. *перазаць, падперазаць*.

**Вы́піндырыць** 'выставіць напаказ, убраўшы пышна; выгаварыць' (Нас.). Запазычанне з польск. *wypindrować* 'дзіўна адзецца'. Параўн. польск. *pinda* 'француха'. Магчыма, сюды ж чэш. дыял. *pinda* 'стары паношаны гальштук'. Брукнер (414) супастаўляе з прыпевам *pindu-ryndu*. Далей няясна.

**Выпіра́ць** 'выпіраць' (Бяльк.). З *выпіра́ць* (гл. *перці*) з гіперкарэктным мяккім *р*.

**Вы́пітка** 'выпіўка' (З нар. сл., навагр.). Укр. *ви́питок* (у выразе *под випитком* 'падвыпіўшы'), польск. *wypitka*, каш. *vёpitka*. Да *выпіць* ад залежн. дзеепрым. *выпіты* з суф. *-ка*. Гл. *піць*.

**Вы́пламеніць** 'выпаліць, знішчыць' (Гарэц.), *вы́пломеніць* 'тс' (Нас.). Запазычанне з польск. *wypłomienić* 'тс' (Цвяткоў, 60).

**Вы́плат** (БРС). Запазычанне з польск. *wypłat* 'тс', асабліва параўн. выраз *па wypłat* 'выплачваючы грошы часткамі, на выплат'.

**Вы́плаў** 'выток рэчкі' (Яшк., слаўг.). Польск. (стар.) *wypław* 'вусце ракі'. Да *выплавіць* (Нітшэ, 184). Гл. таксама *плавіць*.

**Выпло́д** 'нашчадак, атожылак' (Нас.), *вы́плад* 'тс' (Гарэц.), *выпло́д* 'парода, племя' (Бяльк.), *вы́плад* 'вынішчэнне, вывядзенне (асабліва дробных жывёлін і насякомых)' (КЭС). Чэш. *výplod* 'дзеянне па дзеяслову *vyploditi*'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне да *выпладзіць* (гл. *пладзіць*).

**Выплыва́ннік** 'ранні баравік (яны растуць, калі «выплывае» жыта)' (З нар. сл., навагр.), *выплыва́нік, выплыва́нічак* 'тс' (Янк. I). Польск. *wypływnik* 'тс'. Да *выплываць* 'каласіцца' (гл.).

**Выплыва́ць** 'з'яўляцца на паверхні вады' (БРС, Нас., Яруш., КЭС, лаг.); 'каласіцца' (БРС, КЭС, лаг., Шн., 1); 'асыпацца ад пераспеласці' (Шат.). Гл. *плыць, плыву*. Урбуціс (Baltistica, 2 (1), 46) з'яўленне ў бел. мове значэння 'каласіцца' тлумачыць уплывам літоўскай мовы ў выніку змешвання двух дзеясловаў: *išplaũkti* 'выплываць' і *(iš)plaukti* 'выкаласіцца'.



**Выпо́ўзіны** 'вужавінне' (БРС), (*вужачча*) *выпаўзіны* 'тс' (КЭС, лаг.). Рус. *выползина* 'тс'. Да *выпаўзаць* (гл. *паўзці*) з суф. *-ін-*.

**Выпрабава́льнік** (БРС). Да *выпрабаваць* (гл. *прабаваць*). Калька рус. *испыта́тель* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 121).

**Вы́права** 'падрыхтоўка і забеспячэнне ў дарогу; адзенне, бялізна, посуд і г. д., якія, акрамя пасагу, падрыхтоўваюцца дзяўчыне пры выхадзе замуж' (Нас.), *выпра́ва* 'адпраўленне ў дарогу' (Гарэц., Др.-Падб., Яруш.). Укр. *ви́права*, польск. *wyprawa* 'тс', в.-луж. *wuprawa* 'догляд, клопаты'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выправіць* (гл.).

**Вы́правіць** 'зрабіць правільным, ліквідаваць недахопы; адправіць, накіраваць, падрыхтаваць у дарогу' (БРС, Яруш., КЭС, лаг.). Рус. *вы́править*, укр. *ви́правити*, польск. *wyprawić* 'адправіць, сабраць (у дарогу)', славац. *vypraviť* 'тс'. Ад *правіць* у яго першапачатковым значэнні 'рабіць прамым' (параўн. рус. *править*), якое ў сваю чаргу ад *правы* 'які мае быць' (Шанскі, 1, В, 229). Сюды ж, відавочна, *вы́правытыся* 'здохнуць, выпруціцца' (З нар. сл.), г. зн. 'зрабіцца прамым'; у семантычных адносінах параўн. *выпруціцца, апруцянець*.

**Выпрага́цца** 'высмажвацца, спальвацца; выбівацца з сіл' (Нас.). Гл. *пражыць*. Сюды ж, магчыма, і *вы́прагчыся* 'здохнуць' (Шатал.), г. зн. 'страціць апошнія сілы'.

**Выпрага́ць** (БРС). Рус. *выпряга́ть, прягу́, прячь*, укр. *випряга́ти, прягти*, ст.-рус. *напрягу, напрячи*, польск. *sprząg* 'вупраж', *sprzęgać* 'сцягваць, счэпліваць', в.-луж. *spřah* 'вупраж', *přahać* 'нацягваць', н.-луж. *pśěg, pśěgaś*, чэш. *spřež* 'вупраж', *spřahati* 'сцягваць', славац. *spriahať* 'злучаць', серб.-ц.-слав. *напрѧшти, напрѧгѫ*, серб.-харв. *спре́ћи спрѐгнути* 'сцягваць', славен. *vprẹ́žem, vprẹ́či* 'запрагчы', балг. *запряга́м*. Прасл. **pręgǫ*, **prękti*; іншая ступень чаргавання ў **prǫgъ* (гл. *пруг, пругкі*). Сюды ж належаць літ. *sprangùs* 'тое, што засядае, вязне', *spriñgti, springstù* 'душыцца пры глытанні', *sprengė̃ti* 'душыць', лат. *sprañgât* 'зацягваць', *sasprañga* 'вяровачка', н.-в.-ням. *Sprenkel* 'сіло', с.-в.-ням. *sprinke* 'пастка', ст.-в.-ням. *springa* 'тс' (Персан, Beitr., 869; Траўтман, 278). Гл. таксама Фасмер, 3, 393; Махэк$_2$, 490; Мартынаў, Лекс. взаим., 222.

**Выпрамéньваць** (БРС). Да *прамень* (гл.). Структурная

калька рус. *излучáть,* таксама, як і *выпрамéньванне,* калька рус. *излучéние* (Крукоўскі, Уплыў, 121).

**Выпрамнíк** (БРС). Да *вы́праміць.* Структурная калька рус. *выпрямúтель* 'тс', таксама, як і *выпрамля́льны,*— калька рус. *выпрямúтельный* (Крукоўскі, Уплыў, 117 і наст.).

**Вы́прастаць** (БРС, Нас., Бяльк., Касп., Шат., Гарэц., Др.-Падб., Мядзв.). Рус. *вы́простать,* укр. *ви́простати.* Ад *просты* (Праабражэнскі, 2, 134; Фасмер, 3, 146). Шанскі (1, В, 229) утварае ад рус. *простáть* 'апаражняць, апрастаць', але семантыка дзеяслова (выпрамляць, распрамляць, вызваляць рукі, крылы) хутчэй сведчыць аб сувязі з адным з першасных значэнняў прыметніка *просты* 'прамы, адкрыты, вольны'.

**Вы́пратаць** 'прыбраць, памыць, падмесці' (Касп., Дзмітр., Шн., 1); 'збіць' (Нас.); 'ачысціць студню ад гразі, хлеў ад гною і г. д.' (Бір. Дзярж.). Гл. *пратаць.*

**Вы́праўка** 'постаць, выгляд' (БРС); 'выправа; даведка' (Нас.). Да *выправіць* (гл.). У апошнім значэнні, відаць, запазычанне з рус. *вы́правка* 'даведка', у бел. *вы́правіць* 'дастаць дакументы ў афіцыйнай установе' не зафіксавана. Падрабязней аб гэтым дзеяслове гл. Шанскі, 1, В, 229.

**Выпрацавáць** (БРС). Да *працаваць.* Калька рус. *вы́работать* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 119). Калькай, відавочна, з'яўляецца і *выпрацóўка*; параўн. рус. *вы́работка.*

**Выпрóханы** 'такі, што выпрасілі' (Гарб.). Рус. кур. *прохáть,* укр. *прохáти, ви́прохати.* Новаўтварэнне ад *прасіць* (Фасмер, 3, 385). У бел. мове, калі ўлічыць адзінкавасць фіксацыі, магчыма запазычанне з укр.

**Вы́прудзіць** 'ачысціць бялізну ад насякомых (Нас.)', *вы́прудзіцца* 'памерці, здохнуць' (Шат., Бір. Дзярж., Жд., 1). Гл. *прудзіць.* Адметная семантыка зваротнага дзеяслова, магчыма, развілася пад уплывам *вы́пруціцца* (гл.); параўн. семантычнае адценне ў Шатэрніка 'памерці, распластаўшыся'.

**Вы́пруціць,** *вы́пруціць ногі* 'выцягнуць ногі, памерці' (Янк., БФ), *вы́пруціцца* 'выцягнуцца, як прут' (Янк. Мат.); 'памерці' (Касп., Шат., Янк. III, Інстр. III). Укр. *випрýчувати* 'звальняць, вырываць (руку), выцягваць (палку, дубец)', польск. *wyprętowač* 'выцягнуцца, як прут'. Гл. *апруцянець.*

**Вы́пса** 'пагардлівая назва састарэлага' (Нас., Гарэц.); 'сабачая морда' (Бяльк.). Рус. смал. *вы́пса* 'лаянка'. Традыцыйна лічыцца літуанізмам; яшчэ Карскі (Белорусы, 128) параўноўваў з літ. *vypsau, vypsóti* 'стаяць або сядзець з насмешлівым выразам твару'. Урбуціс (Baltistica, 5 (1), 53) указвае і на зафіксаванае ў картатэцы (адзін раз) LKŽ *vypsá* 'мянушка чалавека'. У семантычных адносінах вельмі прывабліва звязаць гэта слова з *выпсець* (гл.); параўн., напр., думку аб сувязі рус. *хрыч* са ст.-рус. *гричь* 'сабака' (Трубачоў, Происх., 27), але словаўтварэнне тлумачыць у гэтым выпадку цяжка.



**Вы́псець** 'даходзіць да дзяцінства ў старасці'. Запазычанне з польск. *wypsieć* 'змарнець, сапсавацца і г. д.', якое ад *pies* (Брукнер, 445).

**Вы́пузіць** 'накарміць дзіця да выпучвання жывата' (Нас.). Да *пуза* (гл.).

**Вы́пук** 'узгорак, акругленае ўзвышша' (слаўг., Яшк.). Рус. дыял. табольск. *вы́пук* 'пукатасць'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выпукнуць* (гл. *выпуклы*).

**Вы́пуклы** (БРС). Рус. *вы́пуклый,* укр. *ви́пуклий,* польск. *wypukły,* чэш., славац. *vypuklý.* Дэрыват ад *вы́пукнуць* 'уздуцца, набракнуць' (Махэк$_2$, 498; Шанскі, 1, В, 230), якое ў сваю чаргу з'яўляецца вытворным ад *пук, пукаць(ца)* (Мацэнаўэр, LF, 15, 172; Фасмер, 1, 370); у розных славянскіх мовах з'яўляецца, відаць, самастойным утварэннем (Брукнер, 639).

**Вы́пуск** 'дзеянне па дзеяслову *выпускаць*' (БРС); 'выган, агароджанае месца для жывёлы' (Бяльк., ДАБМ, 785; Нікан., Ліс.), *вы́пуск* 'тс' (Нікан.), *віпуск* 'абложная зямля' (ДАБМ, 858). Рус. дыял. *вы́пуск* 'выган', польск. *wypusk* 'агароджаны выган недалёка ад дома'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выпускаць* (гл. *пускаць*).

**Вы́пуст** 'зямля, карыстаннем якой пагашаюць доўг (у актах XVI—XVII стст.)' (Яшк.); 'месца пасеву, якое вытравіла, вытаптала жывёла (Нас.)', 'выган' (Бел. арх., 1, 33, 41, 75). Укр. *ви́пуст* 'месца каля вёскі, куды выпускаюць жывёлу', польск. дыял. *wypust* 'выган', чэш. *vу́pust* 'месца, аддаленае ад чалавечага жылля'. Відавочна, аддзеяслоўныя ўтварэнні ад двух розных дзеясловаў: *вы́пусціць* (у значэнні 'выган') і *вы́пусташыць* (гл. *пустошыць*) (у апошніх значэннях) з усячэннем у другім выпадку экспрэсіўнага суфікса. Параўн. таксама рус. *вы́пустовать* (пск., смал.) 'спустошыць, патравіць жывёлай'.

**Вы́пустак** 'аднагадовае цяля, жарабя' (БРС, Янк. I, Шат., З нар сл., Шатал., Мат. Гом., Клім.). Ад *вы́пусціць* з суф. *-ак*;

параўн. азначэнне Янкоўскага (1, 56): 'маладняк, які першы год выпускаецца разам са статкам на пашу'.

**Вы́пушка** (БРС). Рус. *вы́пушка*. Да **выпушыць* (параўн. рус. *выпушить*) з суф. *-ка*. Гл. таксама *пушыць*.

**Вы́путрыцца** 'прагаладацца' (Сцяц. Зэльв.). Няясна.

**Вы́пушчак** 'выпустак' (Клім.). Ад *выпусціць* з суф *-jак*.

**Выпярэ́джваць** (БРС). Рус. *опережа́ть*, укр. *випереджа́ти*, польск. *wyprzodzić* і г. д. Да *пярэдні* (гл.).

**Выр,** *вырь* 'вырай, цёплыя краіны, куды адлятаюць птушкі на зіму' (Яшк., бых., Рам., 8), *вырь* 'паварот' (Нас.), *выръ, виръ* 'вір' (Шн., Песни). Няясна. Магчыма, зваротнай дэрывацыяй ад *вырай, вырья* або ўкраінізаваная форма ад *вір* (гл.), якая потым была зблiжана з *вырай* у семантычных адносінах. Але параўн. рус. цвяр. *вырь, бырь* 'вір', *выр* 'месца хуткага цячэння вады, вір; яма, над якой утвараецца вір', якія па фанетычных прычынах не могуць быць аб'яднаны з *вір* (Фасмер, 1, 370). Гл. яшчэ Безлай, ССл, 1976, 5, 65 і наст., дзе аб сувязі рус. *вырь, вырий* і славен. *ir(ij)* 'балота', а таксама іншы славенскі матэрыял.

**Вы́раб** (БРС, Гарэц., Шат., Бяльк.), *вы́раба* 'вырабатка' (Яруш.), *выро́ба* 'працэс выраблення посуду' (Вярэн.). Укр. *ви́ріб*, польск. *wyrób*, чэш. *výroba* 'вытворчасць, выраб'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *вырабіць*, неалагізм пачатку XX ст. (Гіст. мовы, 2, 140).

**Вы́рабіць** (БРС, Нас., Шпіл., Касп., Шат.), *вы́робыты* (поле) 'апрацаваць' (палес., Выг. дыс.), *вы́рабіцца* 'выбрацца, вызваліцца' (Янк. Мат., Шн., 2, Шат.), *вырабля́ць* 'дурэць, жартаваць' (Шат.), *вырабля́цца* 'дурэць, сваволіць' (Гарэц.). Гл. *рабіць*.

**Вы́рад** 'вырадак' (Нас. Зб., Гарэц., Др.-Падб., Яруш.). *выро́д* 'выраджэнне' (Бяльк.). Рус. *вы́род* 'дзеянне па дзеяслову *вырадзіць*', укр. *ви́рід* 'вырадак', н.-луж. *wurod*. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *вырадзіць* (Шанскі, 1, В, 231).

**Вы́радак** (БРС, Др.-Падб., Яруш., Касп., Шат., Бяльк.), *ву́радак* 'вырадак' (мазыр., Шн., 2). Рус. *вы́родок*, укр. *ви́родок*, польск. *wyrodek* 'тс'. Утворана ад *вырад* (гл.) з суф. *-ак* (Шанскі, 1, В, 231).

**Вы́радзіцца** 'прыгожа апрануцца' (Янк. Мат.). Запазычанне з рус. *вырядиться* 'тс'.



**Выража́ць,** *выража́ты, выраджа́ти* 'падрыхтоўваць, збіраць у дарогу' (Булг., Бес.). Запазычанне з укр. *виряжа́ти* 'тс'.

**Вы́раз** (БРС, Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Запазычанне з польск. *wyraz*.

**Выраза́ць** (БРС, Касп., Яруш.), *вы́рызвацца* 'з'яўляцца (аб калоссях, усходах)' (малар., стол., Выг. дыс.), *вырэ́звацца* 'ўзыходзіць (пра сонца)' (Шатал.). Гл. *рэзаць*. Апошняе значэнне — украінізм; параўн. *вирізуватися* 'выходзіць (аб месяцы)'.

**Вы́разіць** (БРС). Рус. *вы́разить*, укр. *ви́разити*, польск. *wyrazić* 'выразіць, паказаць', чэш. *vyraziti* 'выгнаць, выразіць'. Ад *раз* (гл.). У рус. і чэш. калька ням. *ausdrücken* 'выціскаць, выражаць', якое ў сваю чаргу з'яўляецца калькай лац. *exprimere* ў некаторых яго значэннях (Мейе, 247; Шанскі, 1, В, 230 і наст.). У беларускай мове *выразіць* і *выраз*, магчыма, калька польск. або рус. слоў.

**Выра́знасць** (БРС). Да *выра́зны*. Калька рус. *вырази́тельность* (Крукоўскі, Уплыў, 118). Але не выключана, калі меркаваць па націску, і запазычанне з польск. *wyrazność*.

**Выра́знік,** *выра́зніца* (БРС). Утварэнне ад *выра́зны*. Структурныя калькі рус. *вырази́тель* і *вырази́тельница* (Крукоўскі, Уплыў, 118).

**Выра́зны** (БРС, Нас.). Відавочна, запазычанне з польск. *wyrazny* 'тс', калі ўлічыць націск і фіксацыю ўжо ў Насовіча насуперак Гіст. мовы (2, 141 і наст.), дзе яно лічыцца новаўтварэннем пачатку XX ст.

**Вы́рай,** *вы́рый* 'цёплыя краіны, куды птушкі адлятаюць восенню; чарада пералётных птушак (або адна птушка), якія першымі з'яўляюцца вясной' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Гарэц., Мал., Нікольскі, Федароўскі, 1), *вы́рії* 'птушкі, якія прылятаюць вясной і адлятаюць восенню' (КЭС), *выро́я* (Мядзв.), *вырья, вы́рія* 'тс' (Яшк.). Рус. *и́рей, и́рий*, род. скл. *и́рья* 'паўднёвы цёплы край, куды птушкі адлятаюць на зіму; казачная краіна', *вы́рей* 'жаваранак; усякая птушка, якая адлятае восенню'; 'казачная краіна', ст.-рус. *ирии*, род. скл. *ирья* 'паўднёвыя краіны', укр. *ви́рей, ви́рій*, польск. дыял. *wyraj* 'тс'. Па традыцыйнай версіі запазычанне з іран. **airyā (dahyu-)* 'арыйская краіна'; параўн. асец. *ir* 'асеціны' (Фасмер, 2, 137 і наст.; там жа падрабязна і інш. літаратура). Гіпотэза Брукнера (195) аб прыстаўцы *i-* і сувязі з *рай* непераканаўчая. Ільінскі (РФВ, 74, 139) выходзіць з **vyrojь*, што тлумачыць укр.

*вірій,* але па прычыне існавання ст.-рус. *ирии* укр. форма, відавочна,— вынік народнай этымалогії. Паводле Мартынава, БЛ, 1975, 7, 69, крыніцай усходнеслав. слоў (польск. *wyraj*<<бел. *вырай*) з'яўляецца заходнебалт. pluralia tantum **iuriai* (ст.-прус. *iuriay* 'мора'), якое адпавядае рус. *ирей* (*iū*>*ii*). Бел і ўкр. формы ўзніклі ў выніку пераўтварэння фразеалагізма **vъ irejь* 'у вырай'. Апрача таго, на сучаснай Гродзеншчыне (старажытная заходнебалтыйская тэрыторыя) існуе паданне пра тое, як птушкі збіваюцца зімой у вялікі шар, які апускаецца ў мора. Аб сувязі славянскіх слоў з балт. формамі гл. таксама Безлай, ССл., 1976, 5, 65 і наст.

**Вы́рай₂** 'новы населены пункт, новая асобная гаспадарка' (Яшк., слаўг.). З **vyrojь*?

**Вы́рак** 'адрачэнне; прыгавор' (БРС, Байк.), *выро́к* 'лёс, доля; судовы прыгавор' (Нас.). Запазычанне з польск. *wyrok* (Кюне, Poln., 115; Жураўскі, SlOr, 10, 40; Булыка, Запазыч., 74). Націск на другім складзе Кюне (там жа) тлумачыць уплывам ускосных склонаў.

***Вы́рапіць,** *вы́рапити* (очи) 'вытарашчыць вочы' (Бес.). Няясна. Магчыма, звязана з *рыпець, рыпаць* (гл.), рус. *рыпе́ть,* польск. *rypać*, славац. *rapkať* і г. д.; асабліва параўн. укр. *ря́піти* 'тс'. Адносна семантыкі параўн. *вызверыцца* 'закрычаць са злосцю' і 'вытарашчыць вочы', г. зн. дзеяслоў, відавочна, меў сінкрэтычнае значэнне 'крычаць, вытарашчыўшы вочы'.

**Выратава́льнік** (БРС). Ад *выратаваць* (гл. *ратаваць*). Відавочна, структурная калька рус. *спаси́тель.*

**Вы́рач** 'балота' (Жд., 1). Няясна. Магчыма, ёсць нейкая сувязь з *выр* 'вір'.

**Вы́рачка** 'пахучка звычайная, Clinopodium Vulgare L' (Кіс., Сцяшк. МГ, З нар. сл.); 'чалавек, які пільна ўглядзеўся ў што-небудзь, каго-небудзь' (З нар. сл.). Ад *вы́рачыць* 'вытарашчыць вочы'. Расліна названа так таму, што мае «кветкі-вочкі»; параўн. яе польскую назву *storzysz* ад *storzyć* 'ганарыцца, важнічаць'.

**Вы́рачыць** 'вытарашчыць вочы' (БРС, Сцяшк. МГ, Янк. БП, 457). Рус. дыял. *вы́рачить*, польск. *wyraczić* 'тс'. Ад *рак* (гл.).

**Вырва₁** 'яма (ад дажджу)' (Яшк.). Укр. *ви́рва* 'круты схіл гары, круча', польск. *wyrwa* 'канава, яма, якая ўтварылася ад дзеяння вады', чэш. мар. *výrva* 'тс'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *вырваць* (гл. *рваць*) (Махэк₂, 526; Нітшэ, 66). Адносна энанціасеміі значэнняў ('яма'— 'круча') гл. Талстой, Геогр., 98 і наст.



**Вы́рва₂** 'вельмі бойкая і гарэзлівая дзяўчына' (З нар. сл.). Рус. смал. лаянкавае слова *вы́рва,* польск. *wyrwa* 'насмешнік, франт'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *вырваць.*

**Вы́рвас** 'гарэза, вісус, сваволнік' (Нас., Гарэц.), *вы́рвас, вырвасю́га* 'жулік; вельмі бойкі і гарэзлівы хлопчык' (Бяльк.). Паводле Лаўчутэ, Лекс. балт., 19, слав. утварэнне на аснове літ. *vir̃ve, virvė̃* 'вяроўка', лат. *vìrve, vìrva* 'тс' з балтыйскім суф. *-ас.*

**Вы́рвіна** 'абрыў на Дзвіне' (Яшк.). Ад *вырваць* (гл.) з суф. *-іна.* Параўн. *вырва, рваць.*

**Вы́ркаць** 'пярэчыць, спрачацца' (Шпіл.). Рус. дыял. *вы́ркать* 'лаяцца, бурчаць; стукаць, грукаць дзвярамі'. З *vъrkati.* Параўн. рус. *ворчаць, воркотать,* польск. *warczeć* (поруч з *wyrczeć*), *warkać* 'бурчаць', чэш. *vrkati,* славац. *vrkati,* славен. *vŕkati.* Гукаперайманне (Махэк₂, 700; Фасмер, 1, 356).

**Вы́руб** 'участак, дзе высечаны лес' (Мат. Гом., Інстр. II); 'зруб' (Мат. Гом.); 'вышыня зруба ад падлогі да столі' (Інстр. II). Рус. дыял. *вы́руб* 'паляна з карчамі і кустамі; від плоту; дзеянне па дзеяслову *вырубіць*', польск. *wyrąb*, в.-луж. *wurub.* Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *вырубіць*<*рубіць* (гл.).

**Вы́рубка** (БРС), 'выемка ў канцы бервяна, у якую кладзецца другое бервяно ў вугле' (Інстр. II). Рус. *вы́рубка* 'месца, дзе былі высечаны дрэвы', в.-луж. *wurubki* 'тс'. Ад *выруб* або ад *вырубіць* з суф. *-к-.*

**Вы́ругаць** 'аблаяць' (Бяльк.). Запазычанне з рус. *вы́ругать* 'тс'.

**Вы́руніць** 'выпусціць сцябло з пучка зелені' (Нас.). Гл. *рунь, рунець.*

**Вы́ручыць** (БРС, Бяльк., Яруш.). Рус. *вы́ручить,* укр. *ви́ручити.* Ст.-рус. вытворнае з прыст. *вы-* ад згубленага *ручити* 'паручыцца', якое ад *рука* (Сразнеўскі, 3, 200). Булахоўскі (Деэтимологизация, 187) лічыць, што зыходным быў вобраз 'падаць руку выратавання'. Значэнне 'выручыць грошы' ўзнікла лексіка-семантычным спосабам на базе першага значэння і, як лічыць Булахоўскі (там жа), праз прамежкавае прадстаўленне 'выратавацца ад страты' (Шанскі, 1, В, 231).

**Вы́садак,** часцей *вы́садкі* мн. л. (БРС, Нас., Бяльк., Шат., Касп., Янк. Мат., Янк. І, Бір. дыс., З нар. сл.). Рус. *вы́садкі,*

укр. *вúсадок,* польск. *wysadek,* чэш. *vysadek* 'пасадка'. Да *высадзіць* (гл. *садзіць*) з суф. *-ак, -к-*.

**Высакóсны** (БРС). Рус. *высокóсный,* укр. *високóсний,* балг. (з рус.) *високóсен,* макед. *високосен.* Ст.-рус. *висекостъ* сустракаецца ў помніках з XIII ст. Утворана ад *високосъ* (<больш старажытнага *високостъ*) 'дадатковы дзень у лютым' з дапамогай суф. *-ьн* (Шанскі, 1, В, 106). *Високостъ,* відавочна, з **висекъстъ,* адкуль *висекостъ,* потым у выніку асіміляцыі — ст.-рус. форма. Крыніцай ст.-рус. слова з'яўляецца с.-грэч. βίσεξτος з лац. *bissextus,* літаральна 'двойчы шосты' (Гл. Шанскі, там жа; Фасмер, 1, 320; Рудніцкі, 1, 399). Форма *высакосны* зблíжана з *высокі* (Савінаў, РФВ, 21, 37).

**Вы́салапіць** (БРС, Нас., Гарэц., Грыг., Чач., Клім., Бес., Шн., 2, Нік., Оч., Шпіл., Янк. БФ), *вы́салапіцца* 'выказацца' (Мат. Гом.). Укр. *вúсолопити* 'тс', рус. *вы́солопить* (толькі пагран. рус. гаворкі). Беларуска-ўкраінская ізалекса, якая не мае адпаведнікаў у іншых славянскіх мовах. Слова-крыніцу (**salpiti*) Мартынаў (Бел.-укр. ізал., 46) прапаноўвае аднесці да літ.-лат. лексічнай групы: літ. *sul̃pti, sul̃piti* 'ссаць, прысёрбваць', лат. *sulpît* 'ссаць, аблізваць'. У сувязі з тым што бел. і ўкр. формы паслядоўна фіксуюць поўнагалоссе, гэта запазычанне павінна было адбыцца да метатэзы плаўных. Гл. яшчэ *салупаць* і Трубачоў, Слав. языкозн., 177.

**Высачыня́** (БРС, Шат., Касп., Мядзв.), *высачэ́нь* (Бяльк.). Укр. *височúна, височиня́, височúнь.* Ад *высокі* з суф. *-іна, -ень; н'* з суф. *-ыня* (параўн. *гаспадыня*), які з *-ын'і* (Карскі, 2—3, 28).

**Вы́свенціць** 'асвяціць' (Шат.); 'вылаяць' (Жд., 1). Запазычанне з польск. *wyświęcić* 'асвяціць'.

**Вы́светліць** (БРС). Да *светлы* (гл.).

**Вы́секаць** 'высмаркаць нос' (Янк. II, Бір. дыс., Шатал., брэсц., пін., З нар. сл.), *вы́снекаць, вы́снякаць* 'тс' (Бір. дыс., Сцяц.). Укр. *вúсякати* 'тс', *сякáти* 'фыркаць, смаркацца', рус. *иссякнуть* 'вычарпацца', польск. *siąkać, siąknąć, sięknąć* 'канчацца, вычэрпвацца; смаркацца', в.-луж. *sakać, saknyć* 'высыхаць, вычэрпвацца', чэш. *sáknouti* 'сачыцца, мачыць', славац. *siakat', siaknut'* 'фыркаць, смаркацца', серб.-харв. *пресѐкати, -кâм* 'вычарпаць', балг. *сéквам, сéкна* 'вычэрпваюся'. Прасл. **sęknǫti* роднаснае слав. **sǫčiti,* ц.-слав. *исжчити* (гл. *сучы́ць*) (Фасмер, 3, 826). У іншых і.-е. мовах роднаснымі з'яўляюцца літ. *senkù, sèkti* 'апускацца', *seklùs* 'мелкі', лат. *sîkt, sīkstu, sîku* 'засыхаць', ст.-інд. *ásakrak* 'невычэрпны', ст.-англ. *sîhte*



'балоцісты' (з **siŋhti*), ірл. *sesc* 'сухі, бясплодны; той, які не дае малака', кімр. *hysp* 'сухі' (Траўтман, 256). Іначай Махэк$_2$ (536), які звязвае таксама са слав. *sokъ.* Беларускія формы з *-н-*, відавочна, пад уплывам польскіх назалізаваных форм з наступнай метатэзай.

**Вы́селкі** (БРС), *вы́селак* 'выселкі' (слаўг., Яшк.). Рус. *вы́селки.* Ад *вы́селіць* (гл. *сяліць*) з суф. *-к-, -ак.*

**Вы́сеўкі** (БРС, Касп., Жд., 1, Інстр. I, Інстр. III, Бес.), 'высеўкі, чыстае крупяное зерне' (Выг. дыс.), *висевки* 'высеўкі' (Ліс.). Рус. *высевки,* укр. *висівки,* польск. *wysiewki,* чэш. дыял. *výsevek.* Ад *высеваць* (гл. *сеяць*) з суф. *-к-*.

**Вы́сечы** 'высечы' (БРС, Нас., Бяльк.), 'вы́красаць (агонь)' (Шат.). Гл. *сячы.* Значэнне 'выкрасаць агонь' утворана лексіка-семантычным спосабам на базе першага значэння (Шанскі, 1, В, 231).

**Вы́сілак** (БРС). Запазычанне з польск. *wysiłek* (Гіст. мовы, 2, 143).

**Вы́скаліць** (БРС, Нас., Бяльк., Касп., Шат.), *вы́скаліцца* 'ярка засвяціць (пра сонца)' (Шатал.). Гл. *скаліць.* Адносна другога значэння параўн. укр. *вúскалитися* 'з'явіцца, засвяціць (аб сонцы)' і рус. смал. *вы́скаліло* безасаб. 'праглянула сонца'.

**Выскаля́ка** (БРС). Да *выскаляцца* (гл. *скаліць*) з суф. *-ака.*

***Вы́скарачэнь,** *вы́скорочен', вы́скоротен', вúскорожэнь, вúскорошэн', вúскочэн'* 'загнуты канец полаза — нос саней; планка, якая ідзе ад загнутага канца полаза саней да першага капыла' (Маслен.). Бясспрэчна, звязана з рус. *вы́скорь* і далей *выскордь* 'дрэва з аголеным карэннем, якое звалена бурай', таму што полаз часта рабілі з выгнутага кораня (параўн. *кóпаны полоз* 'полаз з выгнутага кораня', Маслен., 183). Ад **vyskъriti,* якое да і.-е. **(s)ker-* 'рэзаць, аддзяляць' (аналагічна рус. *выскордь*<**vyskъrdnǫti,* якое да **s(ker)-d-;* гл. Мяркулава, Этимология, 1973, 55 і наст.). Бел. формы, відавочна, з расшырэннем дзеепрыметніка на *-to-*, г. зн. першапачатковая форма *вы́скоротен'*. Але не выключана і ўтварэнне па аналогіі з *вываращень* (гл.). Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 370 і наст.

**Вы́скачка** (БРС, Яруш.), *вы́скычка* 'бег з падскокам' (Бяльк.). Рус. *вы́скочка* 'выскачка', укр. *вúскічка* 'белка'. Ад *выскачыць* з суф. *-к-*.

**Вы́скваркі** (БРС), *вы́скварка, вы́скарка* 'тс' (Шатал.),

*вы́скаркі* 'ўнутранае топленае сала' (Касп.). Рус. *вы́шкварки* 'скваркі', укр. *ви́шкварка, ви́шкварки* 'тс'. Ад *высквáрыць* (гл. *скварыць*) з суф. *-к-*.

**Вы́скідзь** 'вываранець' (Янк. I, Шат.), *вы́скіць* 'тс' (Некр.), *вы́скадзь* 'тс' (Серб.). Рус. *вы́скидь, вы́скодь* 'тс', чэш. *výskyd'* 'корань (з зямлёй і каменнем) вывернутага дрэва; вываранець'. Ад **вы́скіднуць* (з *вы-, с-* і *кідаць*) (Фасмер, 1, 370; Махэк₂, 705).

**Вы́скрабак** 'булачка з цеста, якое выскрабаецца з дзежкі'; 'апошняе дзіця ў сям'і' (З нар. сл.), *выскрабáчка* 'маленькая булачка хлеба, спечаная з рэштак цеста'. Ад *выскрабаць* (гл. *скрэбці*) з суф. *-ак, -ачка.*

**Вы́скрабкі** (БРС). Укр. *ви́скрібкі*, польск. *wyskrobek*, звычайна мн. л. *wyskrobki*, в.-луж. *wuškrabk*, чэш. дыял. *vyškrabek* 'булачка з рэштак цеста'. Ад *выскрабаць* з суф. *-к-*.

**Вы́скырка** 'жанчына, якая смяецца дзе трэба і дзе не трэба' (З нар. сл.). Ад *вы́скірыць* (зубы); параўн. дыял. *скірыці зубы* 'абы-чаго смяяцца', *скірыцца* 'тс' (гл.) з суф. *-к-*. Параўн. *шчэрыць* (зубы).

**Высланéц** 'ганец; той, каго паслалі за якой-небудзь справай' (Нас.), *вы́сланец* 'ссыльны' (Касп.). Рус. пск. *высланéц* 'ссыльны'. У першым значэнні запазычанне з польск. *wysłaniec* 'пасол, дэлегат; ганец', у другім — дэрыват да *выслаць* з суф. *-ец.*

**Вы́слуга** (БРС). Рус. *вы́слуга*, укр. *ви́слуга*, польск. *wysługa*. Аддзеяслоўнае ўтварэнне (зваротная дэрывацыя) ад *выслужыць* (гл. *служыць*). Параўн. Махэк₂, 557.

**Высóкі** (БРС, Бяльк., Яруш.). Рус. *высóкий*, укр. *висóкий*, ст.-рус., ст.-слав. **высокъ**, польск. *wysoki*, в.-луж. *wusoki*, н.-луж. *wusoki, husoki*, чэш., славац. *vysoký*, серб.-харв. *ви̏сок, ви̏ше*, славен. *visòk, vîše*, балг. *висóк, више*. Пашырана з *выс-* з дапамогай суф. *-ок* (параўн. рус. *высь*). Прасл. **v-ūps-окъ*. Роднаснымі з'яўляюцца грэч. ὑψηλός 'высокі', ὕψι 'высока', ὕψος 'вышыня', ст.-в.-ням. *ûf* 'на', ірл. *ós, uas* 'навярху, над' (>**aupso*), гальск. *uxello-* 'высокі', ст.-ірл. *uasal* 'тс' (Фасмер, 1, 371; Махэк₂, 705; Брукнер, 639; Шанскі, 1, В, 231 і наст.).

**Вы́спа** 'востраў' (БРС, Шат., Мядзв., Шн., 1, Яшк.); 'узгорак, узвышанае месца' (Інстр. I, Яшк.), 'высокі бераг ракі' (Яшк.). Ст.-бел. *выспа* 'востраў'. Запазычанне з польск. *wyspa* 'востраў' (Булыка, Запазыч., 74 і наст.), якое да *высыпаць* (гл. *сыпаць*) (Нітшэ, 199).



**Вы́спятак** (БРС, Нас., Гарэц., Мядзв., Янк. III, Грыг.). Рус. дыял. *вы́спяток* 'удар нагой, наском або абцасам бота', *вы́спят*[illegible] 'пятка нагі', укр. *ви́сп'яток* 'насок бота', *у́спяткі* 'абцасы'. Дэрыват ад *пята, пятка* (Рудніцкі, 1, 399); не зусім яснай з'яўляецца прэфіксацыя. Памылкова Каткоў (Очерки по лексике..., 188), які выводзіць рус. дыял. *вы́спетки* ад *выступки* 'боты, чаравікі' (у выніку метатэзы і рэгрэсіўнага ўплыву *к*).

**Вы́стай** 'агароджанае месца для жывёлы (у полі або лесе)' (ДАБМ, 784), 'стары лес' (Яшк., слаўг.). Рус. *вы́стой* 'дзеянне па дзеяслову *выстойваць*', в.-луж. *wustaj* 'адносіны, пункт погляду'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выстаяць* (гл. *стаяць*).

**Выстарчáць** 'набываць стараннем, клопатамі' (Нас.); 'дастаўляць усё па жаданню, хацець чаго-небудзь нязбытнага' (Бір. Дзярж.), *вы́старчыць* 'хапіць'. (Сцяц.); 'выпрасіць' (Праблемы філал., 4). Ст.-бел. *выстарчити* 'схапіць'. Запазычанне з польск. *wystarczać* 'хапаць, быць дастатковым' (Булыка, Запазыч., 75).

**Вы́стаўка**₁ (БРС). Запазычанне з рус. *выставка* 'тс' (Гіст. мовы, 2, 144).

**Вы́стаўка**₂ *(выстовка, вустойка, вустовка)* 'гестка, устаўка' (Шатал.). Ад *выставіць* (гл. *ставіць*) з дапамогай суф. *-к-*.

**Вы́страбіць** 'вылаяць' (Жд., 1). З *выстраміць* 'тс'. Гл. *страміць.*

**Вы́страл** (БРС). Рус. *вы́стрел*, укр. *ви́стріл*, польск. *wystrzał*, чэш. *výstřel*, славац. *výstrel*, балг. *ви́стрел* (<рус. *выстрел*). Бязафіксны дэрыват ад *вы́страліць* (гл. *страляць*) (Шанскі, 1, В, 234).

**Вы́странчыць** 'вельмі дагадзіць ва ўсім' (Янк. Мат., Выг. дыс.), *вы́странчыўшы* дзеепрысл. 'зрабіўшы ўсё належнае' (Сцяшк.). Ад польск. *stręczyć* 'раіць, рэкамендаваць'. Аб апошнім гл. Брукнер, 518.

**Вы́стрыгаць** 'скроіць' (Жд., 1). Запазычанне з польск. *wystrzygać* 'выразаць, выкраіць'.

**Вы́стрыгнуць** 'выставіць, высунуць' (Сцяц., зэльв.). Запазычанне з польск. *wystryhnąć* 'накіраваць, выправадзіць, выставіць; модна, прыгожа апрануць', якое, відавочна, было збліжана фанетычна з *стрыгчы, выстрыгчы.*

**Вы́ступ** (БРС), 'участак лесу, поля, лугу, які ўразаецца ў іншы масіў' (Яшк.). Рус. *вы́ступ*, укр. *ви́ступ* 'выступленне',

польск. *występ*, в.-луж. *wustup*, чэш. *výstup* 'тс'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выступіць* (гл. *ступіць*).

**Вы́ступкі** 'старыя боты ці валёнкі з адрэзанымі халявамі' (Бір. Дзярж.); 'лёгкі жаночы абутак' (Сцяшк.); 'апоркі, старыя боты ці валёнкі з адрэзанымі халявамі' (З нар. сл.), *вы́ступці* 'туфлі' (Бес.). Рус. *вы́ступки, вы́ступцы* 'старыя боты з адрэзанымі халявамі, вялікія і нязграбныя боты для хадзьбы па гною; від жаночых чаравікаў на абцасах; пантофлі', укр. *ви́ступці* 'туфлі'. Ад іменнай або дзеяслоўнай асновы *выступ-* (гл. *ступаць*) з суф. *-к-* (Вахрас, Наим. об., 76).

**Вы́сып** 'пясчаны ўзгорак, астравок; выспа' (Сцяц., зэльв.). Ст.-бел. *высепъ, высопъ* 'востраў'. Запазычанне з польск. *wysep, wysyp* 'тс' (Булыка, Запазыч., 74 і наст.), апошняе да *высыпаць* (Нітшэ, 24). Але параўн. рус. дыял. *вы́сыпок* 'наносны астравок, наносная пясчаная мель' і ўкр. *ви́сип* 'насыпная горка, невысокая горка'.

**Вы́сыпаць** 'высыпаць' (БРС, Нас., Яруш., Шат., Бяльк., Касп.); 'закінуць, расцягнуць (на вадаёме сетку-трыгубіцу)' (Янк. II), *высепа́те* 'рабіць градкі ў агародзе' (КЭС), *высыпа́цца* 'з'яўляцца (аб калоссі), каласаваць' (Выг. дыс., Шатал.). Да *сыпаць*.

**Вы́сыпка** 'дзеянне па дзеяслову *высыпаць*'; 'хвароба скуры, восыпка' (БРС, Яруш.); 'палатняная дзяруга, на якую высыпаюць сушыць зерне' (Янк. Мат.); 'раптоўнае з'яўленне ў якім-небудзь месцы ў вялікай колькасці лепшых парод дзічыны: вальдшнэпаў, бакасаў і г. д.' (Дэмб., 2). Рус. *вы́сыпка* 'раптоўнае з'яўленне дзічыны', укр. *ви́сипка* 'сып', польск. *wysypka* 'тс'. Да *высыпаць* з суф. *-к-*.

**Вытаба́ніць** 'выпрасіць' (Касп.). Няясна.

**Выталу́піць** 'вытарашчыць, вылупіць вочы' (Крывіч, 12, 1926, 111). Відавочна, з **вы-то-лупіць* (гл. *лупіць*), дзе *-то-* ўзмацняльная ўстаўка; параўн., напрыклад, чэш. *roz-to-milý*, рус. *рас-то-пырить* (параўн. Фасмер, 3, 446).

**Вы́тарачыць** 'вытарашчыць вочы' (З нар. сл., навагр.). Рус. дыял. *вы́торочить* 'абшыць, аблямаваць' і 'высунуць, вытарашчыць вочы'; 'выстраіцца, убрацца', *вы́торочки* 'вочы, зрэнкі'. У бел. запазычанне з рус., таму што слова цалкам ізаляванае. Не зусім ясна, ці звязана рус. *выторочить* 'тарашчыць вочы' з *вы́торочить, торо́чить, торока* (гл. *таро́кі*). Магчыма семантычнае развіццё: *выторочить* 'зволньіць з тарокаў'→'выцягнуць, высунуць вонкі'→'вытарашчыць вочы'.



**Вы́тачка** (БРС), *вы́тычка* 'вытачка, клінок, устаўлены ў адзежы' (Бяльк.). Мяркуючы па адсутнасці слова ў Насовіча і па яго геаграфіі, можна лічыць запазычаннем з рус. *вы́тачка* 'тс', якое ад жарг. кравец., шавец. *тача́ть* 'шыць, шыць суцэльным швом'. Апошняе к *тачыць, ток, цяку* (гл.) (Фасмер, 4, 29).

**Вы́тачкі** 'вотрубі' (Касп.), *вы́тычкі* 'дробныя зярняткі' (Бяльк.). Рус. дыял. дан. *вы́точка* 'корм для галубоў; адсеў збожжа, круп і г. д.', укр. *ви́точкі* 'рэшткі ад ачысткі збожжа на рэшаце'. Хутчэй за ўсё, калі меркаваць па геаграфіі, запазычанне з укр., таксама як і рус.; параўн. укр. *точити* (зерно) 'ачышчаць збожжа на рэшаце', адносна апошняга значэння дзеяслова *тачыць* параўн. таксама чэш. дыял. *točiti obilí* 'ачышчаць збожжа на рэшаце' і *tok* 'сіта, рэшата' — адваротны дэрыват ад *točiti* (Махэк$_2$, 646).

**Вытвара́ць** 'вырабляць штукі, свавольнічаць' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Янк. III, Мядзв.). Рус. *вытворя́ть*, укр. *витворя́ти* 'тс'. Утворан як форма незакончанага трывання дзеяслова *вы́тварыць*, які ад *тварыць* (параўн. польск. *wytworzyć* 'зрабіць, стварыць') (гл. Шанскі, 1, В, 235). Семантычны зрух 'тварыць'>'рабіць што-небудзь незвычайнае' атрымаўся, відавочна, не пры пераходзе ў прастамоўна-аргатычнае асяроддзе ўжывання (Шанскі, там жа), а з'явіўся вынікам эліпса словазлучэння *вытвараць штукі, свавольства*, дзе дзеяслоў выступае ў сваім прамым значэнні.

**Вытво́ра** 'той, хто вытварае' (Янк. III). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *вытвараць* (гл.).

**Вытво́рнік** (БРС). Ад *вытварыць, тварыць*. Калька рус. *производи́тель* (Крукоўскі, Уплыў, 121). Калькамі Крукоўскі (там жа) лічыць і іншыя дэрываты ад гэтага кораня: *вытво́рца, вытво́рчасць, вытво́рчы*. Але ў апошнім выпадку практычна нельга размежаваць калькі і магчымыя запазычанні, адпаведна калькі, з польскай мовы; параўн. польск. *wytworczy, wytwórca, wytworczość*.

**Вы́тлук** 'свавольнік' (Бяльк.); 'нахабнік, нягоднік' (Янк. III). Запазычанне з польск. *wytłuk* 'мужчына або жанчына непрыстойнага жыцця, распуснік, лайдак'. У варыянце *вы́тлуч* 'тс' (Шат.) *-ч-*, відавочна, пад уплывам дзеяслова *та́ўчы* або па аналогіі з іншымі словамі з *-ч-* суфіксальным тыпу *слухач, дзеяч, штурхач*.

**Вы́тлуміць** 'выманіць' (Нас.); 'задушыць, звесці са свету' (Шат.). Запазычанне з польск. *wytłumić* 'заглушыць, заду-

шыць' або вытворнае ўжо на беларускай глебе ад запазычанага з польскай *тлуміць* (<*tłumić*) (гл.).

**Выто́к** 'пачатак ракі, патоку' (БРС, Інстр. I, Яшк.), *вытóка* 'тс' (Сцяшк., Яшк.). Польск. *wytok* 'балота', чэш. *výtok* 'выток'. Да *выцечы* (гл. *цячы*) (параўн. Махэк₂, 637 і наст.).

**Вы́траскі** 'тое, што вытрасена' (Др.-Падб.), *вы́трускі* 'дробная салома з каласамі пасля малацьбы' (Бір. Дзярж.). Ад *вытрасці, вытрусіць* з дапамогай суф. *-ка.* Параўн. рус. *вы́трепки* 'дробная жытняя салома, якая застаецца пасля малацьбы'. Гл. таксама *трэсці.*

**Вы́трашчка** 'чалавек з вытарашчанымі, вылупленымі вачамі' (Шат.). Укр. *витрищáка* 'тс'. Ад *вытрашчыць* (гл.). пры дапамозе суф. *-ка.*

**Вы́трашчыць** (вочы) 'вылупіць' (БРС, Шат.). Мяркуючы па ізаляванасці слова ў бел., можна лічыць запазычаннем з польск. *wytrzeszyć* (oczy) 'тс'; параўн. яшчэ чэш. *vytřeštiti* (oči), славац. *vytrieštať* 'тс'. Пэўнай этымалогіі гэтых слоў няма. Брукнер (579) звязвае з *trěsk-*, але гэта не дакладна. Фасмер (4, 23) адхіляе і роднасць з рус. *вытаращить, таращить* (глаза). Іначай Махэк₂ (657), як і рус., і заходнеслав. словы выводзіць ад і.-е. *ster-* 'быць нерухомым' (**ster-skati*) і параўноўвае з літ. *(pa)stérti* 'ўтаропіцца', ням. *stieren* і *starren* 'тс'. Няпэўна.

**Вытропваць** 'танцаваць з выкрутасамі' (Жд., 2). Гл. *тропаць.*

**Вытрыбе́нькі** 'капрызы, прыхамаці' (Касп.). Рус. дыял. (дан., кур.) *вытребéньки,* укр. *витребéньки* 'тс'. У бел. мове таксама, як і ў рус., запазычанне з укр., дзе да *витребувати* 'патрабаваць, прасіць' (Рудніцкі, 1, 402).

**Вы́трымка**₁ 'ўрывак, цытата' (БРС). Магчыма, калька рус. *вы́держка* 'тс', хаця і этымалагічна памылковая, таму што рус. *вы́держка* ад *выдёргивать,* а не *выдержать.* Ад *вытрымаць* (гл. *трымаць*) пры дапамозе суф. *-ка.*

**Вытылі́нгаваць** 'іграць на язык' (Жд., 2), *вытылінкванне* (птушак) (КЭС, слуц.). Ад гукапераймальнага выклічніка *тылі-тылі*; параўн. рус. *тилúкать, тилилúкать* 'выпускаць тонкія, высокія гукі', укр. *тілікати* 'дрэнна граць на скрыпцы', выкл. *тылі-тылі,* чэш. *tikati* 'шчабятаць (аб птушанятах)'. Гл. таксама Махэк₂, 643.

**Вы́тырнуцца** 'вытыркнуцца, высунуцца' (Бяльк.). Рус. дыял. пск., смал. *вы́торнуть* 'высунуць, выштурхаць', пецярб. *вы́торнуцца* 'выглянуць, з'явіцца'. Гл. *торкаць, тыркаць.*



**Вы́тычка**₂ 'выскачка' (Нас., Гарэц.). Утварэнне ад залежнага дзеепрыметніка дзеяслова *вытыкаць* 'высоўваць' (гл. *тыкаць*) з суф. *-к-.*

**Выхава́нне** (БРС, Нас., Яруш., Гарэц., Байк.). Запазычанне з польск. *wychowanie* 'тс' (Кюнэ, Poln., 115), дзе яно з'яўляецца калькай франц. *éducation* (Унбегаўн, RES, 12, 45). З польск. *wychowanka* запазычана таксама бел. *выхавáнка* 'прыёмная дачка, выхаванка', а бел. *выхавáнец* 'прыёмны сын, выхаванец' з'яўляецца калькай польск. *wychowaniec* 'тс' (Кюнэ, там жа). Улічваючы даўняе выкарыстанне (параўн. у Ф. Скарыны *выхование* — Воўк-Левановіч, Мова выданняў, 282) і шырокае распаўсюджанне гэтых слоў, нельга прыняць пункт гледжання Крукоўскага (Уплыў, 127) аб калькаванні рус. *воспитанник, воспитанница* ў бел. *выхаванец, выхаванка.*

**Вы́хаваць** (БРС, Нас.). Запазычанне з польск. *wychować* 'выхаваць'. Гл. *выхаванне.*

**Выхады́** 'вантробы' (Касп.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выхадзіць (гл. хадзіць).* Параўн. рус. *выходник* 'сасуд у целе чалавека або жывёліны'.

**Выханда́сы** 'жэсты, міміка', *выхандáснік* 'мім' (Шпіл.). Няясна. Магчыма, роднаснае *хандóга* 'той, хто любіць чыстату, ахайнасць' (гл.), *выхандóжыцца* 'прыбірацца, упрыгожвацца' (Нас.), рус. *худóгий* 'дасведчаны, вопытны', укр. *худóга* 'майстар, мастак', польск. *chędogi* 'чысты, ахайны', *chędożyć* 'чысціць, прыбіраць; цвічыць' (Аб апошніх гл. Брукнер, 178 і наст.; Фасмер, 4, 282). Адносна суфіксацыі параўн. *выкрутасы.*

**Вы́хартацца** 'прагаладацца' (Касп.), *вы́хартавацца* 'тс' (Юрч.). Рус. дыял. пск., смал. *вы́хортаться* 'прагаладацца ад хадзьбы, работы', пск., цвяр. *хортать* 'жыць абы-як, перабівацца', чэш. *chrt* 'хорт (сабака)' і 'вельмі худы чалавек'. Усё ад *хорт* (гл.) (Фасмер, 4, 268; Махэк₂, 207).

**Вы́хаяць** (БРС). Гл. *ахайны, хай.*

**Вы́хват** 'чапяла' (Сцяшк.). Рус. дыял. смал. *вы́хватень* 'тс'. Аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *выхваціць (гл. хваціць).*

**Вы́хвацень** 'ляпёшка з хлебнага цеста' (Вешт. дыс.); 'корж' (Мат. Гом.), *выхватка* 'малы хлябок, спечаны на ска-

варадзе' (Сцяшк.). Ад *выхваціць*. Параўн. у семантычных адносінах чэш. дыял. *vychopeň*, польск. *wychopień* 'тс'.

**Выхілка** 'манера, звычка' (Жд., 2), *выхілкі* 'тс' (Марц.), *выхілкі* 'высмейванне і перадражніванне чужых слоў' (КЭС, лаг.). Ад *выхіляць(ца)* (гл. *хіліць*) пры дапамозе суф. *-к-*.

**Выхрыст** (БРС, Яруш.). Гл. *выкрэст*.

**Выхухаль** 'андатра, мускусны пацук' (БРС). Рус. *выхухоль*, дыял. *хохуля*. Пэўнай этымалогіі не мае. Хутчэй за ўсё запазычанне з калм. *ö xoxul* (Новікава, Namen, 24). Гл. таксама Фасмер, 1, 372; 4, 273. У бел., відавочна, запазычана з рус.

**Выцераб** 'высека; выкарчаваная для пасеву зямля' (БРС, Сцяшк., Яшк.), *выцерабы* 'поле на месцы расчышчанага лесу' (Інстр. І). Польск. *wytrzeba* 'тс'. Ад *выцерабіць* (гл. *церабіць*). У іншых слав. мовах беспрыставачныя ўтварэнні, напр., рус. *тéреб*, укр. *теребíвля*, польск. *trzebież* і г. д.

**Выцерак** 'месца ў пасевах збажыны, дзе ляжаў чалавек' (Яшк.). Ад *выцерці* (гл. *церці*) з суф. *-ак*.

**Выцёр** 'шомпал' (Сцяшк.). Запазычанне з польск. *wycior* 'тс'.

**Выцінáнка** 'папяровая фіранка з выразанымі ўзорамі' (З нар. сл., гродз.). З польск. *wycinanka* 'тс' (Крамко, З нар. сл.), якое да *wycinać* (гл. *тнуць*).

**Выцінáць** 'найграваць, напяваць' (БРС); 'патончвацца ў ігры, спеве' (Касп.); 'пець не словамі, а мелодыяй' (Бір. Дзярж.), *вытнуць* 'выдатна сыграць на чым-небудзь' (Сцяшк.). Укр. *витинáти* 'высякаць, выразаць'; 'рабіць што-небудзь з запалам, з сілай (*витинáти гопака*)', польск. *wycinać* 'тс'. Да *тнуць*, *цінаць* (гл.). У семантычных адносінах параўн. рус. *откалывать (трепака)*.

**Выцмыга** 'прайдоха, прайдзісвет' (Нас., Гарэц., Др.-Падб.). Ад *выцмыгаць* (гл. *цмыгаць*) 'выбегаць, вынюхаць, выцягаць'.

**Выцубіць** 'не спяшаючыся, неадрыўна выпіць чаго-небудзь многа' (Янк. ІІІ). Відавочна, сапсаваная форма *выцудзіць* ад *цудзіць*, *цуджу* 'цадзіць, піць многа' (гл.), рус. *цедить* 'тс'.

**Выць** 'вокліч, якім адганяюць парасят' (Мядзв., З нар. сл.). Гл. *вецю-вецю*.

**Выцяжка** 'суцэльныя загатоўкі для ботаў' (Інстр. І, Янк. ІІ), *выцяжкі* 'тс' (Сцяшк.). Рус. *вытяжка*, укр. *вúтяжка* 'тс'. Да *выцягваць* (гл. *цягаць*).



***Вычавіць**, *вычавіті* 'выціснуць' (Шатал.). Запазычанне з укр. *вúчавити* 'тс', дзе хутчэй за ўсё гукапераймальнае, як рус. *чавкать*.

**Вычаўкі** 'мякаць гарбуза' (Шатал.). Ад *вычавіць* (гл.) з суф. *-к-*.

**Вычвáра** 'той, які вытарашчыў вочы, глядзіць, як яшчарка' (Нас.), *вычвáрак* 'дзёрзкі, смелы хлопец' (Нас.). Да *пачвара* (гл.).

**Вычварáць** 'вырабляць штукі, выдумляць, строіць жарты' (БРС, Шат., Яруш., Некр., Янк. БФ; КЭС, лаг.). Магчыма, утварэнне ад *пачвара* (гл.) (<польск. *poczwara*) з дапамогай замяшчальнай прэфіксацыі і, відавочна, калі меркаваць па значэнню, не без уплыву дзеяслова *вытвараць* (гл.).

**Вычык** 'свірстун лугавы, палявы' (Нас., Інстр. ІІ, З нар. сл.). Рус. смал. *вычик* 'невялікая птушка накшталт саракуша'. Гукапераймальнае ад крыку птушкі *ві-чык, ві-чык*.

**Вычынка** 'апрацоўка скуры' (Янк. ІІІ). Ад *вычыніць*<*чыніць** 'дубіць, апрацоўваць скуры'; параўн. укр. *чинити*, рус. дыял. паўдн. *чинить* 'тс'.

**Вычыня́ць** 'ачышчаць ад каласкоў зерне' (Сцяшк.); 'вымятаць калоссе з абмалочанага збожжа' (Шатал.). Польск. *wyczyniać* 'тс'. Гл. *чыніць*. У бел. можа быць як запазычаннем з польск., так і семантычным архаізмам; параўн. славен. *činiti, činim* 'прасяваць зерне'.

**Вычытáць** 'плакаць, галасіць з прыгаворваннем' (Сцяшк., ДАБМ, 910), *вычытваць* 'тс' (Сцяц.). Ад *чытаць* (гл.).

**Вышакóміцца** 'ганарыцца, лічыць сябе вышэйшым за другіх' (Бяльк.). Магчыма, ад прысл. **вышаком хадзіць*, **вышаком насіць галаву*, але гэта няпэўна. Гл. *высокі*.

**Вышка** (БРС, Яруш., Бяльк.). Рус. *вышка*, укр. *вúшка*, польск. *wyszka* 'вышыня', чэш., славац. *výška* 'тс'. Утворана ад асновы *выш-*, як, напрыклад, у кампаратыве *вышэй*, якая ўзыходзіць да *выс-* (гл. *высокі*), з дапамогай суф. *-ка* (Махэк₂, 705). Некалькі іначай аб словаўтварэнні Шанскі (І, В, 239).

**Вышкі** 'гара, насціл над хлявом, у адрыне для сена або саломы' (БРС, Бяльк., Шат., Касп., Гарэц., Янк. ІІ, Бес., Бір. дыс., Шушк., Інстр. ІІ, Тарнацкі, Studia, Ліс., Сцяшк., З нар.

сл.); 'узвышанае месца, якое робіцца пад столлю хаты для сушкі рэчаў' (Нас.); 'палаткі' (Шн., 2); 'месца, дзе садзяцца куры' (Інстр. III). Рус. *вышка* 'вышкі', *вышкі* 'верхні этаж у доме', *вышкі* 'паліца (над дзвярамі) у адрыне'; 'палаткі', укр. *вішка, вишки* 'вышкі' (паўн.-укр.; гл. Бел.-укр. ізал., 22), польск. *wyszka* 'высокае месца ў хаце, паліца', дыял. *wyszki* 'вышкі', славац. *vyška* 'камора, кладоўка над хатай або пабудаваная асобна'. Ад асновы *выш-* (параўн. *вышка*) з дапамогай суф. *-к-*.

**Вышмо́льганый** 'вельмі забруджаны' (Клім.). Да *шмульгаць* (гл.).

**Вы́шнік**$_1$ 'дама ў картах' (Нас., Гарэц., Бяльк.). Укр. *вішник* 'тс'. Запазычанне з польск. *wyżnik* 'тс', якое калькіруе чэш. *svršek* 'дама'. Чэш. у сваю чаргу з'яўляецца перакладам ням. *Ober* 'дама або карта вышэй *Unter'a* — валета' (Чэрнышаў, РР н. с., 1928, 2, 61).

**Вы́шнік**$_2$ 'гара, вышкі' (Бяльк.). Ад *вышні* або ад *выш-* (гл. *вышка*). Параўн. *вышкі*.

**Вы́штамаваць** 'зрабіць выемку паза па канту' (Сцяшк.). Запазычанне з польск. *wysztamować* 'зрабіць дзіркі долатам у бервяне для ўстаўлення іншага бервяна'.

**Вышурэ́нне** 'вышароўванне, вымыванне з дапамогай жорсткай рэчы' (Бяльк.). З *вышараванне* да *шараваць* (гл.) з пропускам суфікса, відавочна, для падкрэслівання аднаразовасці дзеяння.

**Вы́шыкацца** 'патроху высыпацца' (Касп.); 'зрабіцца пустым' (Грыг.). Гл. *шыкаць*. Прыклад з Грыгаровіча «...*вышыкалісь ракі*...» паказвае, відавочна, і на значэнне 'шаптацца, скончыць шаптацца>задыхнуцца, заснуць (аб раках)'; параўн. рус. *перешептáться*, укр. *вішептатися* 'перастаць шавяліцца, задыхнуцца (аб раках)'.

**Вышыня́** (БРС, Яруш., Шат., Мал.), *вышыня́, вы́шынь, вышы́нь* 'вышыня'; 'гара, узвышша' (Яшк.). Рус. *вышина́*, укр. *вишина́*, польск. *wyżyna*, в.-луж. *wyšina*, чэш., славац. *výšina*, серб.-харв. *висйна*, славен. *višína*, балг. *висина́, висине́*, макед. *вишина*. Ад асновы *выш-* (якая, напрыклад, у *выш* 'вышыня'<*vysjь*; гл. таксама *высокі*) з дапамогай суф. *-іна*. Некалькі іначай аб словаўтварэнні Махэк$_2$, 705; Шанскі, 1, В, 239.

***Вы́шыць,** *вы́шыты* 'сплесці (скрынку з саломы)' (драг., Выг. дыс.). Гл. *шыць*. У семантычных адносінах параўн. укр.



*пошивáти* 'крыць страху саломай', польск. *poszyć*, чэш. *poší(va)ti*, серб.-харв. *pòšiti* 'тс'.

**Вы́юдзгаць** 'вымараць, закараві́ць' (Янк. Мат.). Не вельмі яснае слова. Ці не звязана з *вэ́дзгаць* 'тс' (гл.)? Тады *вы́юдзгаць*<**вы́вэдзгаць* (з выпадзеннем інтэрвакальнага *-в-* і заменай яго *-j-*).

**Вы́я** 'шыя' (Інстр. I). Гэтага слова няма ў іншых лексічных крыніцах, таму можна лічыць, што яно ўнесена ў «Інструкцыю» ў якасці пробнага. Аднак мэтазгодным будзе ўсё ж такі прывесці яго этымалогію. Гэта слова вядома ў ст.-рус. і ст.-слав. мовах (**выꙗ**) і ў палаб. (*vâijo*). Паводле Фасмера, 1, 373, цёмнае слова. Ён не прымае параўнанне з авест. *uyamnas* 'deficiens' (так Лёвэнталь, ZfslPh, 8, 129) і сувязь з *вить, viti* (так Гараеў, 60). Але, як думае Шанскі (1, В, 239—240), у рус. мове *вы́я* запазычана са ст.-слав. (так ужо лічыў Сразнеўскі). Шанскі (там жа) лічыць, што **vyja* ўтворана ад дзеяслова **vyti* 'выць'. Магчыма, што гэта і так; прынамсі, гэта этымалогія здаецца лепшай, чым тыя, што былі вылучаны раней.

**Вы́явіць** 'выкрыць', *выявіцца* 'выкрыцца' (КЭС, лаг.; БРС, Яруш.), *выяўляць*, сюды ж *вы́яўны* 'выразны, голасны'; 'што добра вызначаецца' (Янк. Мат.; КЭС, лаг.), *вы́яўна* 'выразна, голасна, зразумела'. Усё да вельмі разгалінаванай групы славянскіх слоў, якія ўзыходзяць да **(j)av-*: **(j)aviti*, **(j)avьnъ* і г. д. Гл. *я́ўны*.

**Вы́ясніць,** *вы́ясніцца* (у розных значэннях). Гл. *ясны*.

**Выяўле́нчы** (БРС). Відавочна, калька з рус. *изобразительный*.

**Вэ́гаўка** 'гушкалка' (Сцяшк. МГ). Мабыць, фанетычная трансфармацыя слова **вага́ўка* (да *вага́цца* 'калыхацца, гайдацца'). *Вэ́гаўка* атрымала свой вакалізм *-э-* па суадносінах тыпу *багно́—бэ́гна, барса́ць—бэ́рсаць, вархо́л—вэ́рхал* (дзе пад націскам нібы «аднаўляецца» э).

**Вэ́дзгаць** 'мазаць'. Гл. *вэ́згаць*.

**Вэ́дле** 'побач' (Жд.). Параўн. ст.-бел. *ведле, ве́для, вэдля* (Булыка, Запазыч.) 'адпаведна, паводле'. Укр. дыял. *вегля́, ві́для* (ст.-укр. *ведля, ведлѣ*). Запазычанне з польск. *wedle* (<*vъ-dьle*). Гл. Рудніцкі, 1, 331; Булыка, Запазыч., 58. Параўн. Брукнер, 606. Гл. яшчэ Булахаў, Веснік БДУ, № 1, 1973, 59—61. Але бел. формы тыпу *во́дле, во́длі* могуць быць не запазычанымі (хоць такая магчымасць у прынцыпе не вы-

ключаецца: *вóдле*<*wedle*, з адаптацыяй першай часткі да ўсх.-слав. слоў з *во-*<*въ-*), а спрадвечна ўсх.-слав. (аб гэтым гл. Фасмер, 1, 334).

**Вэ́длік** 'сноп' (Сцяшк. МГ). Слова не зусім яснае па паходжанню. У іншых крыніцах яго няма, няма і ў суседніх мовах (рус., укр., польск.). Можна толькі прывесці некаторыя меркаванні наконт магчымасці этымалагізавання. У бел. мове ёсць слова *мэ́длік* (з шматлікімі фанетычнымі і марфалагічнымі варыянтамі; гл. ДАБМ, 874—877, № 286), якое азначае 'малая ўкладка снапоў у полі'. Можна думаць, што *вэ́длік* узнікла дысіміляцыяй з *мэ́длік* (*м—л*>*в—л*), а значэнне 'сноп' (калі сапраўды такое ёсць) развілося з 'малой укладкі снапоў' ('малая ўкладка снапоў>сноп').

**Вэ́длуг,** *вóдлуг* 'паводле, у параўнанні' (Мал., Шат., Сцяц., Жд., Янк. Мат.), *вэ́длуг* (тураў., Выг. дыс.), *вэ́длук* (Бір. Дзярж.). Ст.-бел. *ведлугъ* (Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. *według* (<*vъ-dъlg-*, *vъ-dьlg-*; аб польскім слове гл. Брукнер, 90). Бел. форму *водлуг* можна лічыць адаптацыяй (першая частка трансфармавалася паводле ўсх.-слав. *во-*<*въ*). Таму вельмі няпэўнымі здаюцца меркаванні Яшкіна, Бел.-польск. ізал., 154—155 (форма *-длуг* ясна ўказвае на польскую фанетыку: *długi*). Гл. яшчэ Булахаў, Веснік БДУ, № 1, 1973, 59—61.

**Вэ́дрык** 'божая кароўка' (З жыцця), укр. *вéдрик*. Паводле Трубачова, Эт. сл., 1, 180—182, *вэ́дрык* — вынік трансфармацыі асновы *bedr-, засведчанай у назвах божай кароўкі ў слав. мовах (агляд гл. у Трубачова, там жа). Іншая версія: сувязь з *vedr- 'яснае надвор'е і да т. п.' (гл., напр., Г. Ф. Шило, Названия божьей коровки в украинских говорах («Совещание по общеславянскому лингвистическому атласу». М., 1969, с. 37).

**Вэ́згаць** 'мазаць, размазваць, маляваць' (Мал.), *вэ́дзгаць* 'мазаць, брудзіць, пэцкаць, размазваць' (Янк. Мат., Бір. Дзярж.), *вэ́дзгаць* (Шат., БРС), *вэ́дзгацца* 'пэцкацца, абрабляцца' (КЭС, лаг.). Параўн. рус. дыял. (пск., цвяр., калуж., смал.) *вáзгать* 'пэцкаць, брудзіць', *вáзгаться* 'пэцкацца, брудзіцца' (СРНГ). Група слоў не вельмі яснага паходжання. Лічыцца (гл. Шэфтэловіц, KZ, 54, 240 і далей) роднасным з рус. *возгря́*, ст.-слав. **возгри**, славен. *vózger*, чэш. *vozher*, славац. *vozger*, польск. *wozgrza*, в.-луж. *wozhor* 'сапля' (але паходжанне гэтай групы слоў таксама не зусім яснае). Гл. Фасмер, 1, 267, 333; Брукнер, 631; Махэк$_2$, 697. Вакалізм беларускага слова адрозніваецца ад рускага (апошні можна лічыць зыходным). Відавочна, *-э-* замест старога *-а-* ўзнікла па ма-



дэлі тыпу *бэ́рсаць* — *барсáць* (гл.) з націскным *-э́-* і ненаціскным *-а-*. Але ў такім выпадку трэба для бел. формы лічыць *вазгáць (з націскам на апошнім складзе). Форма *вэ́дзгаць* з *-дз-* замест *-з-*, відаць, другасная (як аб гэтым сведчаць формы ў рус. мове). Не выключаецца і ўплыў слоў з аналагічнай семантыкай і падобнай фанетычнай структурай (напр., слова *пэ́цкаць*, дзе група *-цк-* — гэта глухі варыянт групы *-дзг-*). З бел. мовы запазычана польск. дыял. *wedzgać* 'тс'.

**Вэ́ксаль** 'вэксаль' (Шат., БРС). Рус. *вéксель*, укр. *вéксель*. Першакрыніцай запазычання з'яўляецца ням. *Wechsel* (у рус. мове гэта слова сустракаецца ў Пятроўскую эпоху ўпершыню ў 1700 г.). Можна меркаваць, што для бел. і укр. моў крыніцай было рус. *вéксель*, хоць не выключаецца і непасрэднае запазычанне з ням.

**Вэ́лен** 'вэлюм'. Гл. *вэ́лян*.

**Вэль** 'вуаль, вэлюм у маладой' (Малчанава, Мат. культ., 167). Гэтага слова няма ні ў польск., ні ў рус., ні ва ўкр. мовах, і ў зах.-еўрап. мовах не знаходзіцца нічога, што б магло быць крыніцай бел. слова. Таму можна меркаваць, што яно ўтворана на беларускай глебе: відавочна, гэта скарачэнне або слова *вэ́люм* або ж *вэ́лян* (можа, не без уплыву ідэнтычнай па семантыцы лексемы *вуáль*). Толькі выпадкова бел. слова супадае з серб.-харв. *вȅо* (род. *вȅла*) і славен. *vel* 'пакрывала, вуаль' (паўдн.-слав. лексемы ўзяты з іт. *velo*<лац. *vēlum*), таму што аб запазычанні бел. мовай з серб.-харв., славен. або іт. не можа быць размовы.

**Вэ́люм** (БРС, Сцяшк. МГ, Сіг.). Гэта слова засведчана ў ст.-бел. мове з XVII ст. «ходила в мниской одежи и велюмъ на голове носила» (Булыка, Запазыч.) і лічыцца запазычаннем з лац. *vēlum* (Булыка, там жа). Але сучаснае бел. *вэ́люм* хутчэй за ўсё ўзята не з лац. мовы, а з польск. *welum* (а гэта, зразумела, з лац.).

**Вэ́лян** 'вэлюм' (Сцяшк. МГ), *вэ́лен* (Шат., Жд.). З польск. *welon* 'велюм', якое лічыцца запазычаннем з іт. *velo* (а гэта з лац. *vēlum*). Гл. Słownik wyrazów obcych, wyd. 8-e. Warszawa, 1962, стар. 698. Параўн. *вэ́люм*.

**Вэ́мбрух** 'бручка' (ДАБМ, 858, Інстр. II). Слова няяснага паходжання. Напэўна, запазычанае.

**Вэ́нгер,** *венгóр*, *вíнгор* 'вугор'. Гл. *вэ́нгож*.

**Вэ́нгож** 'вугор Anguilla L.' (Крыв.). Запазычанне з польск.

*węgorz* 'тс' (а гэта да прасл. **ǫgorь* 'тс'; гл. Брукнер, 609; Махэк₂, 667; Фасмер, 4, 146). Параўн. яшчэ *вугóр*. Таксама запазычаны з польскай мовы і іншыя назвы вугра: *вэ́нгер, вэнгóр, вінгор* (Крыв.), *вангóш, вангóр* (гл. Зданцэвіч, Бел.-польск. ізал., 33). Формы на *-ор*, відавочна, адлюстроўваюць адаптацыю да адпаведных бел. слоў (*вугóр*).

**Вэ́нгра** 'венгерац' (Шат.). Кантэкст: «Па сяле ходзіць вэнгра з лякарствамі». Таму можна меркаваць, што гэта слова мела таксама значэнне 'вандроўны гандляр'. Параўн. рус. *венгéрец, венгр* 'венгерац', а таксама 'бродячий торговец, продававший по городам и поместьям товары и лекарства, по происхождению главным образом словак из Венгрии' (Фасмер, 1, 290, са спасылкай на Мельнікава-Пячэрскага). З польск. *węgier* 'венгерац' (гл. Фасмер, там жа). Гл. таксама дадаткі Трубачова (там літ-ра адносна *венгéрец* 'гандляр').

**Вэ́нгрын** 'той, хто кастрыруе' (Сцяц.), *вэ́нгер* 'канавал' (Шатал.). *Вэ́нгрын* 'канавал', бясспрэчна, паходзіць ад этнічнай назвы венграў. Параўн. слав. **valachъ* 'валах, румын; канавал; конь'. Аб сувязі падобных назваў (для канавала) з этнічнымі гл. Брукнер, 600; Махэк₂, 675. Параўн. яшчэ *вэ́нгра*.

**Вэ́ндзацца** 'бадзяцца без работы, сланяцца'. Гл. *вэ́ндзіцца*.

**Вэ́ндзаць** 'пракурваць на дыме мяса, вэндзіць' (КЭС, лаг.), *вэ́ндзаны*. Таго ж паходжання, што і *вэ́ндзіць* (гл.), г. зн. запазычанне з польск. мовы (але *вэ́ндзаць* адлюстроўвае іншы марфалагічны дзеяслоўны тып). Але паколькі ў польск. мове іменна такой формы няма (гл. Варш. сл.), то можна лічыць, што ў бел. мове гэта марфалагічны неалагізм.

**Вэ́ндзіцца** 'вэндзіцца; марудзіць, затрымлівацца' (Сцяшк. МГ). Значэнне 'марудзіць, затрымлівацца' другаснае. Аналагічнае развіццё і ў рус. мове (рус. *копти́ться* 'сядзець, нічога не рабіць'). Магчыма, сюды адносіцца і *вэ́ндзацца* 'бадзяцца, сланяцца без работы' (Шат.), якое, відаць, утворана ад *вэ́ндзаць* 'вэндзіць' (так жа, як *вэ́ндзіцца* 'марудзіць'<*вэ́ндзіцца, вэ́ндзіць*).

**Вэ́ндзіць** (БРС, Сцяшк. МГ, Інстр. I). Запазычанне з польск. *wędzić* 'тс' (Кюнэ, Poln., 113), а гэта да прасл. **(v)ǫd-* 'капціць'; параўн. польск. *wędzić*, чэш. *bouditi, uditi*, славен. *ovoditi, oditi*, укр. *буди́ти, вуди́ти* і г. д. (Фасмер, 1, 232; Брукнер, 608; Махэк₂, 666). Гэта слова запазычана таксама рускімі гаворкамі ў Літве (*вéндить*; гл. СРНГ).



**Вэ́ндка** 'вуда' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *wędka* 'тс' (ад *węda* 'тс': прасл. **ǫda*). Параўн. *вýда* (гл.).

**Вэндлі́на** 'вяндліна'. Гл. *вяндлі́на*.

**Вэнь** 'вунь' (Шат., Сцяшк. МГ), *вэ́ньдзека, вэ́ньдзяка* 'тс' (Янк. Мат., Шат., Сцяшк. МГ), *вэн* 'вось там, вунь' (Бяльк.), *вэ́ндзя* 'там' (Жд.). Гл. *вунь*.

**Вэ́рлах** 'вэрхал'. Фанетычнае пераафармленне (метатэза плаўных) слова *вэ́рхал* (гл.), якое адлюстроўвае польскае *warchoł* 'тс'.

**Вэртэпа** 'яселькі' (Кольб.). Укр. *вертéп* 'тэатр лялек, у якім ігралі калядную містэрыю', рус. *вертéп* (у Даля прыводзіцца толькі як паўдн.-укр.), польск. дыял. *wertep* 'тс' (з усх.-слав. моў). Мабыць, ідэнтычнае па паходжанню з словам **vьrtьpъ* 'пячора, круча, яр і да т. п.' (параўн. бел. *вярцéп* 'вялікі роў, які зарос кустамі', *вéрцеп* 'старарэчышча з вірам' (Яшк.), укр. *вертéп, вертéпа*, рус. *вертéп, вертéпа*). Паводле падання, Хрыстос нарадзіўся ў пячоры. Параўн. Брукнер, 607.

**Вэ́рхал** (БРС) 'гоман, малая звадка' (КЭС); 'беспарадак' (Бір. Дзярж.); 'лямант, гвалт' (Жд.). Таго ж паходжання, што і *вáрхал* 'тс' (гл.), г. зн. запазычанне з польск. *warchoł*. Форма *вэ́рхал* (падобнай формы ў польскай мове няма) другасная, узнікла ў бел. мове, відаць, з формы тыпу *вархóл* (апошняя, напр., засведчана ў гаворках Слаўгарадчыны; гл. Яшкін, Бел.-польск. ізал., 157) пры перанясенні націску на першы склад. Параўн. *багнó*, але *бэ́гна, барсáць*, але *бэ́рсаць* і да т. п. Яшкін (там жа) лічыць *вэ́рхал, вáрхал* не запазычаннем, а агульным утварэннем для беларуска-польскай зоны. Гэта няправільна, бо ў польск. мове слова з'яўляецца спрадвечным і адлюстроўвае (разам са шматлікімі вытворнымі; гл. Брукнер, 601—602) прасл. адносіны.

**Вэрч** 'скрутак лыка, лазы' (Інстр. III), укр. *верч* 'скрутак, пучок', рус. *верчь* 'тое, што спрадзена без верацяна (канапляная пража, вяроўка і г. д.)'. Параўн. таксама і рус. *вéрча* 'ад пражы; палавік, сатканы з ануч'. Утварэнне ад дзеяслова **vьrtěti*. Усх.-слав. формы адлюстроўваюць старое вытворнае з *-j-* суфіксацыяй (*vьrt-jь*). Гл. Рудніцкі, 367.

**Вэ́ршка** 'рыбалоўная снасць' (Бес.). Фанетычна — гэта палеская форма, марфалагічна — памяншальнае ўтварэнне да слав. *vьrša* (гл. *вéрша*). Але *вэ́ршка* — не памяншальная форма, а ўтварэнне з самастойнай семантыкай. Параўн. укр. *вéршка* 'рыбалоўная прылада — кошык з пруцця лазы', а *вéрша* 'плецены з пруцця конус' (гл. Грынч.).

**Вэ́са** 'штосьці, што вісіць' (КЭС). Дыялектная форма да слав. **visa* (:*visěti*). Параўн. рус. *ви́са*, укр. *ви́са* 'тс'.

**Вэ́соч** 'вышыня' (Клім.). Дыялектная форма (замест *высоч*) да слав. *vysočь* (:*vysokъ* 'высокі'). Але хутчэй *вэсоч* (**высоч*) — гэта скарачэнне слова тыпу укр. *височінь* 'вышыня', таму што *вэсоч*, здаецца, больш нідзе не сустракаецца.

**Вэтава́ць** 'помсціць' (Нас.), *павэтава́ць*, *адвэтава́ць*. Запазычанне з польск. *odwetować*, *powetować* 'кампенсаваць' (а гэта з ням. крыніцы; гл. Брукнер, 607). Іншага паходжання ст.-бел. *ветовати* 'заяўляць вета, пратэставаць' (Булыка, Запазыч., 61): <польск. *wetować*<лац. *vetō*, *-are* (Брукнер, 607—608).

**Вягало**, *вягела* 'мянтуз, мянёк' (Лаўманэ, Лекс. балтызмы, 16). Запазычанне з літ. *vėgėlė* 'тс' (параўн. таксама лат. *vēdzele* 'тс'). Гл. Лаўманэ, там жа (з дакладнай геаграфіяй пашырэння беларускага слова). Паходжанне літ. слова няяснае (гл. Фрэнкель, 1212; там і некаторыя меркаванні Эндзеліна). *Вя́гело* ў бел. гаворках таксама 'нехлямяжы чалавек'. Пра сувязь значэнняў 'нехлямяжы' і 'мянтуз' гл. у Лаўманэ, там жа, 16—17.

**Вядвабны** 'шаўковы' (Дзмітр.). Дыялектная форма (з пратэтычным *в-*) слова *ядва́бны* 'тс' (гл.). Параўн. аналагічную з'яву ў слове *вя́зьмін* (гл.)<*язьмін*, *вярмо́*<*ярмо́*.

**Вя́дзець** 'вянуць, сохнуць' (Шат.). Да слав. **vęd-nǫti* 'вянуць' (гл. *вя́нуць*), але марфалогія слова застаецца няяснай. Параўн. укр. (з «прэфіксам» *че-*) *чев'я́діти* 'занепадаць, хварэць', таксама *чав'я́діти*.

**Вядзме́дзь**, таксама *нядзведзь* 'мядзведзь' (Інстр. II). Рус. дыял. *ведме́дь*, укр. *ведмі́дь* (дыял. *медві́дь*). Гэтыя словы ўзніклі перастаноўкай складоў з прасл. **medvědь* (**medhu-ēd-is*), літаральна 'мёдаед': ст.-рус., ст.-слав. **медвѣдь**, бел. *мядзве́дзь*, рус. *медве́дь*, польск. дыял. *miedźwiedź*, чэш. *medvěd*, балг. *медве́д*, серб.-харв. *мѐдвјед* і г. д. Першапачатковая і.-е. назва захоўваецца ў грэч. ἄρκτος, лац. *ursus*, ст.-інд. *ṛ́kšas* 'мядзведзь'. Славяне замянілі першапачатковае і.-е. слова апісальным выразам з меркаванняў табу (падобнае сустракаецца, напр., у ням. мове, дзе *Bär* 'мядзведзь' азначае літаральна 'карычневы'). Гл. Фасмер, 2, 589; Бернекер, 2, 30 і далей; Клюге, 50—51.

**Вядзя́я** 'від сеткі для лоўлі рыбы' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з літ. *vedėja*, *vedė́jà* 'тс' (да этымалогіі літ. слова гл. Фрэнкель, 1211).



**Вядо́мы** (БРС, Шат., Яруш., Грыг., Бяльк., Касп., Нас.). Укр. *відо́мий*, польск. *wiadomy*, чэш. *vědomý* і г. д. Слав. **vědomъ* (да **věděti*). Магчыма таксама лічыць, што ўсх.-слав. словы — запазычанні з польск. Адносна *вядо́ма* (БРС, КЭС, лаг.; Бяльк., Касп.) Мядзведзкі, напр., лічыў, што гэта слова запазычана з польск. мовы.

**Вядро́** 'вядро'. Ст.-рус. *вѣдро*, рус. *ведро́*, укр. *відро́*, польск. *wiadro*, чэш. *vědro*, ст.-слав. **вѣдро**, балг. *ведро́*, серб.-харв. *вѐдро* і г. д. Прасл. **vědro* 'вядро'. Гэта слова адносіцца да і.-е. асновы на *-r/n-*: **u̯ed-r-*: **u̯ed-n-* 'вада'; гл. *вада́*. Гэта значыць, што першаснае значэнне слова «вядро» — 'пасуда для вады'. Да семантыкі параўн. грэч. ὑδρία 'вядро для вады' (ὕδωρ 'вада'). Прасл. вакалізм *-ě-* — ступень падаўжэння. Параўн. Фасмер, 1, 283—284; Брукнер, 610 (з вельмі дзіўнай заўвагай: «tylko małorus. *wedro*, zamiast **widro*, niezgodne w samogłosce»); Махэк$_2$, 681; БЕР, 1, 127. Няпэўная сувязь з літ. *vẽdaras* 'страўнік', ст.-інд. *udáram* 'бруха; чэрава, лона' (супраць Фасмер, 1, 284).

**Вядру́гі** 'гразкая частка дарогі' (Сцяшк. МГ). Няясна. Магчыма, паланізм. Параўн. польск. *wydrążać* 'выдоўбваць'. Спачатку *вядру́гі* мела значэнне 'калдобіны, выбаі'.

**Вяз** 'дрэва вяз, Ulmus' (БРС, Арх. Бяльк., Кіс., Яруш., КЭС, лаг.; Шат., Бяльк., Сцяшк. МГ), *вя́зіна* 'тс' (Касп.). Ст.-рус. *вязъ*, рус. *вяз*, укр. *в'яз*, польск. *wiąz*, чэш. *vaz*, серб.-харв. *вȇз*. Прасл. **vęzъ* 'тс'. І.-е. **u̯ing̑-* (?) 'вяз': літ. *vìnkšna*, лат. *vìksna* 'тс' (**u̯enž-snā*<**u̯eng̑-snā*), алб. *vith*, *vidhë* (**u̯inža-*<**u̯ing̑-*) і г. д. Гл. Фасмер, 1, 374; Траўтман, 360. Вельмі няпэўнай з'яўляецца думка пра сувязь з прасл. **vęzati* 'вязаць'.

**Вяза́ць.** Ст.-рус. *вязати*, рус. *вяза́ть*, укр. *в'яза́ти*, польск. *wiązać*, чэш. *vázati*, ст.-слав. **вѧзати**, балг. *ве́жа*, *ве́звам*, серб.-харв. *вѐзати* і г. д. Прасл. **vezati*, **vežǫ* (**vęzįǫ*) 'тс' і **vęzti*, **vęzǫ* (параўн. ц.-слав. *оувѧзти*, ст.-чэш. *viezti vazu*). Паходжанне ўсёй групы слоў не вельмі яснае. Агляд этымалогій гл. у Фасмера, 1, 374. Параўн. Махэк$_2$, 679.

**Вя́звэнка** 'цёплая хустка' (Шатал.). Да *вяза́ць*, дакладней да дзеяслоўнай асновы *вязв-* (параўн. *звя́зваць* і да т. п.).

**Вя́зень.** Ст.-бел. *вязень* 'вязень, палоны' (з XVI ст.; Булыка, Запазыч.). Рус. (старое) *вя́зень*, укр. *в'я́зень*, польск. *więzień*, чэш. *vězeň*. Параўн. ст.-рус. *вѧзити* 'быць палонным, звязаным', ст.-укр. *вязити*, рус. дыял. *вязи́ть* 'засадзіць каго-небудзь (у турму)', польск. *więzić*, ст.-чэш. *věziti*. Але можна

таксама меркаваць, што *вязень* запазычана з польск. *więzień* (так Булыка, Запазыч., 75).

**Вязы́** 'ашыек' (Шатал.). Рус. дыял. *вя́зы*, укр. *в'язи*, чэш. *vaz*, славац. *väzy*. Відаць, утварэнне ад **vęzati* 'вязаць' (*'тое, што звязвае галаву з тулавам'). Параўн. Фасмер, 1, 374.

**Вя́зьмін** 'жасмін' (Др.-Падб., Гарэц., Яруш.). Дыялектная форма (з пратэтычным *в-*) слова *язмін* (гл.), запазычанага з польскай мовы. Да фанетыкі параўн. *вядва́бны*<*ядва́бны*, *вярмо́*<*ярмо́*.

**Вязьмо́** 'скрутак з саломы' (Касп., Нас., Бяльк.). З **vęzьmo* (да **vęzati* 'вязаць', суф. **-ьmo*).

**Вя́каць** (БРС, Касп., Нас., Бяльк.). Рус. *вя́кать* 'тс'. Параўн. серб.-харв. *вѐкнути* 'бляяць', славен. *vékati* 'крычаць, скардзіцца'. Мабыць, гукапераймальнае (так Фасмер, 1, 375; там і агляд іншых версій).

**Вялаве́ц** 'куст ядлоўцу' (Сцяшк. МГ). Сюды адносіцца і *вялаўцы́* 'кустоўнік, кусты', *вілашнік, вілава́чаннік, вілава́чанне* (Яшк.). З *ялаве́ц*, а гэта, відаць, з польск. *jałowiec* 'ядловец'. Гл. *ядло́вец*.

**Вяле́бны** 'хвалебны; прападобны' (Нас.), *вяле́бнасць* (Нас.). Ст.-бел. *велебный, велебность* (з XV ст.; Булыка, Запазыч.). З польск. *wielebny, wielebność* 'тс' (Кюнэ, Poln., 113; Булыка, Запазыч., 59). Параўн. *ве́льбіць*.

**Вяле́ць** 'загадаць' (Бяльк.). Рус. *веле́ть*, укр. *веліти*, ст.-рус., ст.-слав. **велѣти**, чэш. *veleti*, балг. *ве́ля*, серб.-харв. *вѐљу*, славен. *veléti*. Прасл. **velěti*, **vel'ǫ*. Гэта аблаутная форма да **vol'a*. Роднаснае літ. *vélti* 'хацець', ст.-інд. *vṛṇā́ti* 'выбірае', лац. *volō* 'хачу' і г. д. Гл. Фасмер, 1, 288; Траўтман, 348.

**Вялі́кі** (БРС, Касп., Бяльк.). Шмат вытворных з рознымі суфіксамі: *вялі́зны, вялі́зазны* (Шат.), *вялі́зарны* 'тс' (Шат.). Ст.-рус., ст.-слав. **великъ**, рус. *вели́кий*, укр. *вели́кий*, чэш. *veliký, velký*, польск. *wielki*, балг. *вели́к*, серб.-харв. *вѐлик* і г. д. Прасл. **velikъ*, а гэта ад прасл. **velьjь* 'тс'. Этымалогія ўсёй групы слоў не вельмі ясная, ёсць многа версій. Агляд гл. Фасмер, 1, 289.

**Вя́ліцца** 'прагна хацець чаго-небудзь' (Нас.). Можна меркаваць, што гэты дзеяслоў звязаны з *вя́ліць* (гл.) і спачатку ўжываўся як метафара.

**Вя́ліць**, *вя́лы*. Рус. *вя́лить, вя́лый* і г. д. Да слав. **vęd-* 'вянуць' (гл.). Выходным для ўсх.-слав. слоў з'яўляецца **vędl-* (аддзеяслоўнае ўтварэнне на *-l-*).



**Вяльмава́ць** 'частаваць' (Касп.). Мабыць, вытворнае ад *ве́льмі* (першапачаткова 'вельмі частаваць').

**Вяльмо́жа** 'вяльможа' (БРС). Ст.-рус. *вельможа*, рус. *вельмо́жа*, укр. *вельмо́жа* (з XV ст. у форме *вельможа, велможа*), польск. *wielmoża*, чэш. *velmož*, ст.-слав. **вельможа**, балг. *велмо́жа*. Складанае слова (першая частка да **velьjь* 'вялікі', гл., другая да **mog-ti* 'магчы'). Гл. Праабражэнскі, 1, 71; Фасмер, 1, 290; Брукнер, 616; БЕР, 1, 133. Махэк₂ (683) мяркуе, што чэш. *velmož*, як і рус. *вельмо́жа*,— гэта зваротныя ўтварэнні ад прыметніка **velьmožьnъ* (гэта азначае, што назоўнік з'явіўся пазней). Сюды ж бел. *вяльмо́жны* (Мал., Нас., Шат.). Ст.-бел. *вельможный, велеможный* (з XVI ст.; Булыка, Запазыч.), рус. *вельмо́жный*, укр. *вельмо́жний*, польск. *wielmożny* (старое і *wielemożny*) і г. д. Бел. *вяльмо́жства* 'магутнасць' (Гарэц.), здаецца, не мае адпаведнікаў у польск. мове і ўтворана на бел. глебе. Можна ставіць пытанне, ці бел. *вяльмо́жа, вяльмо́жны* не з'яўляюцца запазычаннямі з польскай мовы (так думае Булыка, Запазыч., 59)? Да гэтага трэба дадаць, што і ўкр. *вельмо́жа, вельмо́жний* маюць не фанетычную форму (замест **вільмо́жа, *вільмо́жний*). Уплыў ст.-слав., рус. або польск. мовы?

**Вяльмо́жны.** Гл. *вяльмо́жа*.

**Вяльмо́жства** 'магутнасць'. Гл. *вяльмо́жа*.

**Вянгля́рня** (Шат.). З польск.*węglarnia*(Шат.).

**Вяндлі́на** (БРС, Сцяшк. МГ), *вянглі́на* 'тс' (Сцяшк. МГ, Шат., Нас.). З польск. *wędlina* 'тс' (Шат.). Нас. памылкова звязваў гэта слова з *вя́ліць*.

**Вяно́к** 'вянок' (Сцяшк. МГ); 'кутас у поясе' (Шатал.); 'нізка цыбулі' (Сцяшк. МГ, Шатал.). Слав. **věnъkъ* да **viti* 'віць'. Першапачаткова 'сплеценае'. Аб этымалогіі ўсёй групы слоў гл. *ве́нік*.

**Вя́нуць.** Ст.-рус. *вянути*, рус. *вя́нуть*, укр. *в'янути*, ст.-слав. **оувѧдати**, чэш. *vadnouti*, польск. *więdnać*, балг. *вя́на*, серб.-харв. *ве́нути* і г. д. Прасл. **vędnǫti, -vędati*. Лічыцца роднасным са ст.-в.-ням. *swintan*, ням. *schwinden* 'тс'. Гл. Фасмер, 1, 375. Ад **vęd-* суфіксам *-l-* утворана **vędl-* 'вялы', якое ляжыць у аснове дзеяслова *вя́ліць*.

**Вя́пла** 'разява, расцяпа'. Запазычанне з літ. *vëpla* 'тс'. Урбуціс, Baltistica, 5 (1), 1969, 53; Непакупны, Праблемы філал., 92.

**Вяпру́к** 'кабан' (БРС, Мал., Шн., Нас., Бяльк., Сцяшк.

МГ); 'кастрыраваны кабан' (Інстр. II, ДАБМ, 885); 'парсюк, дзікі парсюк, дзік' (Сцяшк. МГ). Да пашырэння слова *вяпрýк* 'пакладаны кабан' і роднасных форм (*вапéр, япрýк* і інш.) гл. ДАБМ, карта № 292. Форма *вяпрýк* вядома на значнай частцы беларускай тэрыторыі ў гаворках і пранікла ў літаратурную мову. Параўн. яшчэ рус. дыял. (смал.) *вапер, ваперь, вепирь, вапрюк* 'тс' (СРНГ). Слова гэта праславянскае (**veprь*; параўн. рус. *вепрь,* укр. *вепр, вéпер,* польск. *wieprz,* чэш. *vepř,* ст.-слав. **вепрь**, балг. *вéпър,* серб. *вêпар* і г. д.). Непасрэдна **veprь* адлюстроўваецца ў бел. *вапéр, вя́пер, вéпер* (гл., там і этымалагічныя версіі). Да *вяпрýк*; параўн. яшчэ Мартынаў, Лекс. Палесся, 8.

**Вярабя́к** 'верабей' (шчуч., З нар. сл.). Да *верабей* (гл.). Суф. *-як* узнік, магчыма, пад уплывам літ. *-iùkas: žvirbliùkas, žvirbliũkštis* 'верабейка'.

**Вярбá** 'расліна, Salix L., Salix alba L., Salix fragilis L.' (БРС, Кіс., Яруш., Бяльк., Касп., Гарэц.), *вэрбá* 'вярба' (Бес.), укр. *верба,* рус. *верба* 'тс', астрах. 'назва любога дрэва', польск. *wierzba,* каш. *věřba* 'вярба', н.-луж., в.-луж. *wjerba,* чэш. *vrba*, славац. *vŕba,* славен. *vŕba,* серб.-харв. *вр̀ба,* макед. *врба,* балг. *върба* 'вярба', ст.-слав. **врьба, врьбиѥ**. Прасл. *vьrbá* 'лаза, гнуткая расліна'. Да першаснага значэння параўн. такія формы, як *вербалоз* і інш. Прасл. лексема роднасная да літ. *vir̃bas* 'дубец, сцябло, лазіна', лат. *vir̂bs* 'палачка', прус. *wirbe* 'канат, ліна', грэч. ῥαπίς, ῥάβδος 'дубец', лац. *verbēna* 'дубцы лаўра', *verbera* 'дубцы, якімі секлі, каралі', ст.-в.-ням. *rëba* 'вінаградная лаза'. Узыходзіць да і.-е. **u̯erbes*<*u̯er-* 'гнуць, віць' (Траўтман, 360). Гл. яшчэ Праабражэнскі, 1, 72; Міклашыч, 383; Мюленбах — Эндзелін, 4, 602; Вальдэ, 819; Брукнер, 617; Скок, 3, 620; Фасмер, 1, 293; Младэнаў, 91; БЕР, 1, 208; Шанскі, 1, В, 54—55. Махэк$_2$ (699) і КЭСРЯ (74) лічаць *vьrbá* суфіксальным утварэннем, дзе *-ba* надае значэнне зборнасці. Аб суфіксе *-ba* гл. яшчэ Мартынаў, Дерив., 16—19. Сюды ж віц., гродз., гом. *вербалоз* 'вярба казіная', маг., гродз. 'вярба пяцітычынкавая' (Кіс.), *вярбóвы* (БРС, КТС, Шат.).

**Вярба-брэднік** 'вербалоз, казіная вярба, Salix caprea L.' (маг., Кіс.). Да *вярба* і *брэд$_2$, брóднік* (гл.).

**Вярбéж** 'зараснік маладой вярбы, Salix L.'; 'моцны вецер і халады ў вербную нядзелю' (слаўг., Яшк.). Да *вярбá* (гл.). Выкарыстанне суф. *-еж* тут спарадычнае: звычайна ён далучаецца да дзеяслоўных асноў (Бел. гр., 1, 102).



**Вярбéль** 'верабей' (Інстр. II). Відазмененае польск. *wróbel* 'верабей' (параўн. бел. мін. *карвáць* замест *кравáць* 'ложак').

**Вярбéльнік** 'птушкамлечнік парасоністы, Ornithogalum umbellatum' (віц., Кіс.; Крывіч, 4, 1923). Відавочна, з **вярбейнік*; параўн. рус. *вербейник* 'лазаніца, Lysimachia L.' Да *вярбá* (гл.). У іншых слав. мовах таксама ёсць шматлікія назвы раслін, якія паходзяць ад *vьrbá*; параўн. польск. *wierzbownica* 'скрыпень, Epilobium', *wierzbówka,* в.-луж. *wjerbka* 'тс', *wjerbinka* 'лазаніца', *wjerbička* 'стрэя', чэш. *vrbice* 'драсён, Polygonum L.'; 'скрыпень, Epilobium L.', славац. *vrbica* 'чальчак, Lythrum L.', макед. *врбовка,* серб.-харв. *vŕbovica,* славен. *vŕbovec* 'скрыпень, Epilobium L.', балг. *върбовница* 'драсён земнаводны, Polygonum amphibium L.', *върбовка* 'скрыпень'; 'фарбоўнік, Isatis tinctoria L.', *върбовник* 'лазаніца звычайная, Lysimachia vulgaris L.' і інш.

**Вярбíна** (разм.) 'вярба'; 'дрэва вярбы' (БРС, Шат., Касп.). Утворана ад *вярба* (гл.) і суф. *-іна* са значэннем адзінкавасці.

**Вярбíшнік** 'кізляк, наумбургія гронкакветкавая, Naumburgia thyrsiflora (L.) Rchb.' (маг., Кіс.); 'звычайная лазаніца, Lysimachia vulgaris L.' (маг., Кіс.), рус. *вербúшник* 'дзіванна звычайная, Verbascum thapsus L.'. Да *вярбá* (гл.). Лексема ўтворана пры дапамозе суф. *-іш-нік.* Магчыма, гэта запазычанне з рус. мовы.

**Вярблю́д** (БРС), укр. *верблюд,* рус. *верблюд,* ст.-рус. *верблюдъ (верблудъ), верьбудъ (вербюдъ)* (з XII ст.), польск. *wielbłąd,* в.-луж. *wjelbłud,* чэш. *velbloud,* славац. *vel'blúd,* славен. *velblòd,* балг. *велблюд,* ст.-слав. **вельбѫдъ, вельблѫдъ**. Прасл. *velьbǫdъ* запазычана з гоц. *ulbandus*<грэч. ἐλέφας, ἐλέφαντος 'слон'. Першапачаткова, відаць, было *vъlbǫdъ,* пасля відазмянілася пад уплывам народнай этымалогіі, якая атаясамлівала яго са словамі **велии** 'вялікі' (<*velьjь*) і **блѫдити** (<*blǫditi*) 'блукаць', а ў выніку дысіміляцыі *-л-* у складзе *вельб-* з'явілася *-р-* (Праабражэнскі, 1, 72; Шанскі, 1, В, 55—56; Фасмер, 1, 293; Кіпарскі, Gemeinslav., 213). Сюды ж *вярблю́джы, вярблю́джына, вярблю́дзіца* (БРС).

**Вярблю́дка** 'расліна вярблюдка, Corispermum L.' (БРС, Кіс.), укр. *верблюдка* 'скрыпень чатырохгранны, Epilobium tetragonum L.', рус. *верблюдка* 'вярблюдка'. Бел. назва расліны запазычана з рус., дзе суадносіцца з лексемай *верблюд;*

параўн. рус. *верблюдка//верблюжья трава* (Даль, 1, 438). Да *вярблюд* (гл.).

**Вярбня́к** 'зараснік вярбы, вербалозу' (БРС, Мат. Гом.), укр. *вербняк* 'вярбовы гай'. Утворана ад *вярба* (гл.) і суф. *-няк,* якія ва ўсх.-слав. мовах утварае назвы гаю ад назвы дадзенага віду дрэў.

**Вярбо́ўка** 'набор, наём, прыцягванне добраахвотнікаў у якую-небудзь арганізацыю'. Бел. лексема ўтворана ад дзеяслова *вербаваць,* які (таксама як і рус. *вербовать*) быў запазычаны з польск. *werbować* 'набіраць у войска'; 'старацца знайсці сабе аднадумцаў, добраахвотнікаў'<ням. *werben* 'набіраць рэкрутаў' (Фасмер, 1, 294; Шанскі, 1, В, 56; Брукнер, 608). Гл. *вербаваць.*

**Вярбяніца** 'чальчак вербалісты, Lythrum salicaria L.' (гродз., Кіс.). Утворана ад прыметніка *vьrběnъ* і суф. *-іса.*

***Вярве́чка,** *вэрвэ́чка* 'частка абутку' (Бес.). Да *вяро́вачка* (гл.). Пад уплывам польскай мовы відазмяніўся суфікс, націск слова на перадапошнім складзе, а ў сувязі з гэтым адбылося скарачэнне групы *-ров-*>*-рв-.*

**Вяргі́ня** 'кветка, Dahlia Cav., Dahlia variabilis Desf.' (БРС, Кіс., Шат., Касп.; глус., Янк. Мат.), укр. *жоржина,* рус. *георги́н(а),* польск. *georgina,* в.-луж. *jurina,* чэш. *jiřina,* славац. *georgina,* славен. *georgina,* серб.-харв. *георги̏на,* макед. *георгина,* балг. *георгина.* Кветка Dahlia ў ням. мове была названа ў гонар рускага батаніка І. Г. Георгі ў 1801 г. *Georgine* (Клюге, 119; Фасмер, 1, 402) і ў першай палавіне XIX ст. запазычана ў рус. мову (Гараеў, 1896; Шанскі, 1, Г, 55—56). У бел. гаворкі — з польск. або з рус. мовы. Пачатковае *г-* *(g-)* вымаўлялася як [й] або [г], якія замяніліся прыстаўным *в-.* Глус. *вяргіня* 'табака з прыемным пахам' (Янк. Мат.) з'яўляецца пераносам паводле падабенства.

***Вяргу́ля,** *вэргу́ля* 'верхняя частка вулля-калоды' (нараўл., Анох.). Укр. чарніг. *варгуля* 'гуз (на галаве)'. Узыходзіць да хойн., браг. *варгу́ля, варгу́ля* 'нарасць на дрэве, якую адрэзвалі і накрывалі ёю калоду-вулей' (Г. А. Цыхун, вусн. паведамл.). З польск. *warga, wargula* 'губа'. Гл. яшчэ *віргу́ль.*

**Вярза́** 'балака, гаварун, балбатун' (Грыг.), укр. *верзі́ця* 'пустамеля', рус. перм. *верзи́ла* 'той, хто гаворыць лухту, недарэчнасці'. Да *вярзці* (гл.).

**Вярзёнка** 'шырокі пояс, плецены з воўны' (палес., Сак.). Утворана ад прыметніка *вярзёны* (<*вьрзенъ*) і суф. *-ка.* Да *вярзці* (гл.).



**Вярзе́я** 'пустая размова, брахня' (Бяльк.). Утворана ад дзеяслова *вярзці* (<*вьрз-ти*) і суф. *-ея* (<*ěja*), які з'яўляецца варыянтам (ж. р.) балта-славянскай суфіксальнай інавацыі *-ějь* (Мартынаў, Дерив., 23—24, 52; Слаўскі, SP, 1, 87). Аб прадуктыўнасці суф. у бел. гаворках гл. Сцяцко, Афікс. наз., 36.

**Вярзці́** 'трызніць' (БРС); 'гаварыць абы-што, блюзніць' (Бір. Дзярж., Мат. Гом., Касп., Грыг.); 'ілгаць' (Бяльк.); 'балбатаць, малоць' (Яруш.); 'невыразна гаварыць' (КЭС, лаг.), *вярзці́ся* 'здавацца, блюзніцца, невыразна снавацца (пра думкі), плясціся' (БРС, Гарэц., КЭС, лаг.). Укр. *верзти́* 'гаварыць лухту', *верзти́ся* 'блюзніцца', рус. паўдн. *ве́рзить, верзти́* 'бесталкова і доўга рабіць што-небудзь', пск. *верзи́ть* 'гарбець над якой-небудзь справай', паўдн. *ве́рзить* 'малоць лухту, ілгаць, хлусіць', смал. *верзи́ть* 'гаварыць абы-што', пск., архангел. *ве́рзиться* 'сніцца, здавацца'. Сучасныя ўсх.-слав. лексемы суадносяцца са ст.-рус. *вьрзать* 'вязаць', ц.-слав. *отврѣшти, отвръзж* 'адвязаць', ст.-слав. **оуврѣсти, оуврѣзж** 'адчыняць', макед. *врзе* 'звязаць, завязаць', *врзма* 'вузел', балг. *връзам, връжа* 'спалучаць у вузел, сцягваць', серб.-харв. *вр̏сти се* 'круціцца на адным месцы, кружыцца (аб думках)', *вр̏зина* 'пляцень', славен. *vŕzniti, vŕznem* 'адчыняць' (<прасл. *verz-ti* 'блытацца, запінацца'); апошняе звязваецца з літ. *ver̃žti* 'завязваць, зацягваць, ціснуць', ст.-в.-ням. *wurgjan* 'давіць, душыць', ст.-ісл. *virgill* 'вяроўка', грэч. *ἐρχατάω* 'агароджваю', *ὄρχατος* 'агароджа, сад', мундж. *wurž* 'нітка', афг. *wuža* 'жыла'. Прасл. асновы *vrz-/verz-/vorz-* узыходзяць да і.-е. **u̯erg'h-.* Семантычны пераход бел. *вярзці* 'гаварыць абы-што' і г. д. < 'вязаць' аналагічны да *плесці* 'маніць, вярзці, ілгаць'<'плесці, сплятаць'. Гл. таксама Міклашыч, 386; Голуб—Копечны, 424; Фасмер, 1, 298—299; Младэнаў, 91; Скок, 3, 629—630; Буазак, 287; Траўтман, 355; Моргеншэрнэ, 95; БЕР, 1, 188—189; Варбот, Этимология, 1963, 202.

**Вя́ркаць** 'пішчаць, скавытаць, плакаць' (Шат.); 'слаба крычаць на розныя галасы' (КЭС, лаг.), *вя́ркыць* 'гаварыць павучальным тонам' (Бяльк.), *вяркъць* 'скавытаць, плакаць' (міёр., Нар. лекс.). Рус. архангел. *вяркать* 'бурчаць', свярдл. *вя́ргать* 'бурчаць, сварыцца, груба гаварыць', урал. *ва́ргать* 'сярдзіта бурчаць, сварыцца, быць незадаволеным'. Запазычана з балтыйскіх моў; параўн. літ. *ver̃kti* 'плакаць', *vérkauti* 'крычаць (аб саве)'; 'усхліпваць', *pravir̃kti* 'заплакаць', лат. *verksêt* 'ціха плакаць' (Лаўч., дыс., 71).

**Вярло́ма** 'баршчоўнік сібірскі, Heracleum sibiricum L.'

(маг., Кіс.; Нас.), відавочна, экспрэсіўнае слова, якое можна звязаць з бел. *вярлю́й* 'мядзведзь', серб.-харв. *вр̏љати* 'кідаць'. Утворана ад *вярнуць* і *ламаць* (гл.), пры называнні падкрэсліваецца магутнасць расліны, яе моцнае сцябло; параўн. яшчэ маг. *барэц* (Кіс.), а таксама назвы з іншымі матывацыямі рус. *опаль* ад *палить* (пры дотыку да лісцяў на целе ўзнікаюць апёкі), рус. *снидь* (<*снедь*<*ěsti* 'есці' — маладыя лісты ўжываюцца ў ежу ў якасці салата).

**Вярмо́** 'ярмо' (Шн., 2; Шн., 1; Сцяшк.; Жд., 1); 'вупраж для вала' (Мат. АС Гродз.). Да *ярмо́* (гл.). Пачатковае *в-* — пераасэнсаванне пратэзы *i̯-* ў гродзенскіх гаворках, дзе маецца і адваротная з'ява; параўн. *вавёрка* — *яёрка* (ДАБМ).

**Вярна́цца** 'вяртацца' (петрык., Мат. Гом.). *-рт-* змянілася на *-рн-*, відаць, пад уплывам *вярну́цца*.

**Вярну́цца** (БРС, Бяльк.) 'нахіляцца, паварочвацца' (БРС). Укр. *верну́тися* 'вярнуцца; кружыцца (аб галаве)', рус. *вернуться* 'вярнуцца назад', ст.-рус. *вернутися* 'тс', славен. *vŕniti se* 'вярнуцца, вяртацца', серб.-харв. *вр̏нути се*, макед. *врне се*, балг. *върна се* 'тс' паходзяць ад кораня *vert-/vort-/vъrt-* і суф. *nǫti (sę)*. Гл. яшчэ *вярну́ць*.

**Вярну́ць** 'аддаць узятае або атрымаць згубленае'; 'прымусіць або папрасіць вярнуцца назад'; 'заняцца пакінутай справай' (БРС, Яруш.); 'звярнуць з дарогі' (КТС, Гарэц., Бяльк., Касп.); 'нахіліць, хіліць'; 'ісці (аб дыме з коміна)'; 'капаць зямлю' (БРС); 'нагаворваць' (БРС, Шат.); 'згарнуць кудзелю да прадзіва' (Жд., 1). Укр. *вернути* 'атрымаць назад'; 'абярнуць адзін раз'; 'паварочваць'; 'схіляць да чаго-небудзь'; 'вяртаць', рус. *верну́ть*: арханг. 'прызводзіць у абарачэнне', йонаўск. 'схіляць да чаго-небудзь'; 'вяртаць назад', каш. *vernǫc*, славен. *vŕniti* 'вяртаць, вярнуць', серб.-харв. *вр̏нути* 'вярнуць'; 'звярнуць, павярнуць, збочыць', макед. *врне* 'вярнуць', балг. *върна* 'вярнуць'; 'аддаць назад'; 'прымусіць вярнуцца'. Прасл. *vьrnǫti*<*vьrtnǫti* (Шанскі, 1, В, 61).

**Вярня́каць** 'гаварыць абы-што, неўпапад' (браг., З нар. сл.); 'дакучаць' (мазыр., Мат. Гом.). Запазычана з рус. мовы; параўн. *варнакать:* разан., кур. 'хлусіць, балбатаць'; 'вярзці', цвяр. паўдн. 'рабіць што-небудзь, абы-як, неахайна'; 'гаварыць глупства, балбатаць, малоць языком абы-што', варон. 'гаварыць няясна, незразумела', дан. *варнякаць* 'тс', а гэта да рус. *варнак* 'катаржнік, злачынец, зладзюга, бадзяга, хуліган, жулік', ад якога і ўкр. *варна́к* 'тс'. Гл. яшчэ Рудніцкі, 1, 317.



**Вяро́вачка** 'тонкая вяроўка, маленькая вяроўка' (БРС), *вярёвычка* 'тс' (Бяльк.). Да *вяро́ўка* (гл.).

**Вяро́вачнік** 'майстар, які ўе вяроўкі' (БРС), рус. *верёвочник:* урал. 'той, хто цягне невад з вады', гур'еўск. 'уладарнік невада'. Бел. лексема ўтворана ад прыметніка *вяровачны* і суф. *-нік*.

**Вяро́вачнікі** 'плецены абутак з вяровак' (Інстр. III). Беларускае. Утворана ад прыметніка *вяровачны* пры дапамозе суф. *-ік-і*.

**Вяро́вачны** 'зроблены з вяроўкі' (БРС), *вяро́вычный* 'тс' (Бяльк.), укр. *вірьовочный*, рус. *верёвочный*, ст.-рус. *веревочный*. Усходнеславянскае. Утворана ад ст.-рус. *вьрвък-а* і суф. *-ьнъ*. Да *вяроўка* (гл.). Гл. яшчэ *вяроўчаны*.

**Вяро́за** 'вярзенне, падман, хлусня' (КТС). Да *вярзці*. Заканчэнне слова *-оза*, магчыма, ўжыта Якубам Коласам у якасці суфікса па аналогіі да *пагроза* дзеля рыфмы.

**Вяро́ўка** (Сцяшк. МГ, Касп., БРС, КТС, Шат.), *вярёўка*, *вяроўка* (Бяльк.) 'вяроўка, якой звязваюць снапы, сена, салому на возе' (Янк. I), палес. *вэроўка, вôроўка, вароўка* 'вяроўка, якой паднімаюць вулей на дрэва'; 'прыстасаванне для пад'ёму бортніка на дрэва' (Анох.). Укр. *вірьовка*, рус. *верёвка, вярёвка*, ст.-рус. *веревка* 'вяроўка, матуз' (з XVI ст.). Усходнеславянскае ўтварэнне (суф. *-ъка*). Узыходзіць да ст.-рус. *вьрвь;* параўн. ст.-слав. **врьвь**<прасл. *vьrvь*, якое з'яўляецца роднасным да літ. *virvẽ*, лат. *vìrve* 'вяроўка', ст.-прус. *wirbe* 'канат', літ. *vérti* 'прасоўваць нітку', лат. *vērt* 'нанізваць', грэч. *Fερύω* 'цягну, валаку', *Fρυτήρ* 'вяроўка, цеціва', ст.-інд. *varatrā* 'дзяга, вяроўка'. Прасл. *vьrvь* утворана ад *verti* 'звязваць, зачыняць'<і.-е. **u̯er-* (Міклашыч, 382; Гараеў, 1896, 43; Майргофер, 19, 154; Мюленбах—Эндзелін, 4, 619; Праабражэнскі, 1, 73; Траўтман, 362; Фасмер, 1, 294—285; КЭСРЯ, 75; Брукнер, 623—624; БЕР, 1, 187; Скок, 3, 633; Младэнаў, 79).

**Вяро́ўчаны** 'вяровачны' (КТС, К. Чорны, І. Чыгрынаў), укр. *вірьовча́ний*. Відавочна, утворана ад *вяроўк-а* і суф. *-ьнъ*. Гл. таксама *вяровачны*.

**Вяро́ўчына** 'кавалак вяроўкі' (КТС, Мат. Гом.), глуск. *вяро́ўчына* і *вяраўчына* 'тс' (Янк. II). Да *вяроўка* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. адзінкавасці *-ін-а*.

**Вярох** 'верх прадметаў, на які можна пакласці што-небудзь' (Нік., Заг.), паўн.-рус. (паўсюдна) *верех* 'верх'; 'верхні

паверх дома'; 'гара (у будынку)'; 'верхні слой, паверхнасць'. Відаць, бел. лексема складае адзіны бел.-рус. арэал. Гук -*о*- другасны, новы; ён узнік паміж дзвюма зычнымі, збег якіх цяжка вымаўляецца (Карскі, 1, 201). Параўн. гэту з'яву ў інш. словах: ваўк. *zubìdr* 'зубр' (Федар., 1), лід. *мудз'ор* 'мудры' (КЭС).

**Вярста́$_1$** 'мера даўжыні = 1,067 км' (БРС, КТС, Бяльк., Сцяшк. МГ), *вэрста́* (Бес.), ст.-бел. *верста* = 1554,6 м. Укр. *верста, верства* 'вярста, верставы слуп', рус. *верста* 'рад, парадак, лінія, прамая лінія'; 'вярста, верставы слуп'; 'высокі чалавек', ст.-рус. *верста, вьрста, връста* 'вярста' (з XI ст.), польск. *wiorsta*, чэш., славац. *versta*, славен. *vŕsta*, серб.-харв. *вр̏ста*, балг. *верста*. Прасл. *vьrsta* 'паварот плуга' побач з *vьrstь* узыходзяць да дзеяслова *vьrtěti>vьrt-ta>vьrsta* (Гараеў, 1896, 66; Праабражэнскі, 1, 76; Міклашыч, 384; Брукнер, 603; КЭСРЯ, 76; Фасмер, 1, 300; Скок, 3, 629; БЕР, 1, 189; Махэк$_2$ 700—701; Голуб—Копечны, 423; Патабня, Из записок, 1, 13—16; Скурат, Меры, 28—31). Яна першапачаткова абазначала 'даўжыню баразны, якая ўтваралася ад аднаго да другога павароту плуга (сахі)', пасля — 'даўжыню баразны' і, нарэшце,— 'меру даўжыні'. Мае і.-е. адпаведнікі: літ. *varsnà, var̃snas* 'гон', *var̃štas* 'паварот плуга, вярста' (Траўтман, 355), ст.-інд. *vr̥ttáḥ* 'круглы', *vr̥ttam* 'круг' (Майргофер, 21, 246), лац. *vorsus, versus* 'баразна, рад, радок', оск.-умбр. *vorsus* 'мера поля'; 'абарот', н.-перс. *gird* 'круг'. Вальдэ$_2$ (824) аспрэчвае гэта.

**Вярста́$_2$** 'мера дроў, складзеных на ўсю шырыню і вышыню папярочнай сцяны хлява або іншага будынка' (Інстр. III, Шат.), ст.-дар. 'доўгая сціртa дроў' (З нар. сл.), *вірста́* 'парэзаныя і пашчапаныя дровы, складзеныя сціртою' (лаг., КЭС), а таксама *вярста* 'капа сена' (Жд., 3) і лях. *верста́* 'ўкладка сена на краі стога' (Мат. канф. МДПІ, 1966). Да *вярста́$_1$* (гл.), значэнне якой 'баразна', але ў дадзеным выпадку азначала 'пласт, слой', якое ў адных гаворках канкрэтызавалася ў 'пласт дроў'→'дровы, пластамі складзеныя ў штабель', у другіх — 'пласт сена'→'капа сена (якая ўтваралася з пластоў)'. Значэнне 'пласт, слой' характэрна зах.-слав. мовам: польск. *warstwa*, н.-луж. *warsta*, в.-луж. *woršta, worštwa*, чэш. *vrstva, vrstev, brstva*, славац. *vrstva*, дзе яно таксама магло канкрэтызавацца: чэш., славац. *vrstva* 'спосаб укладання снапоў (у стозе, у пуні)', в.-луж. *worštwa* 'сціртa дроў, засек для снапоў', *worštowc* 'штабель дроў'.

**Вярста́к** 'сталярны варштат' (КТС, Інстр. II, Шат.), палес. *вэрста́к, вярста́к* 'тс' (Уладз.), рус. *верстак*. Відазмененае ст.-бел. запазычанне *верстатъ* (<ст.-польск. *warstat*), пераразмеркаванае дысіміляцыяй *тат>так*. Гл. яшчэ *вярста́т*.



**Вярста́льшчык** (БРС, КТС). Запазычана з рус. мовы. Да *вярста́ць* (гл.). Сюды ж *вярста́льшчыца*.

**Вярста́т** 'ткацкі станок' (Шат., Інстр. II, Уладз.); 'варштат, сталярны станок' (Сцяшк.), ст.-бел. *верстатъ, варстатъ, ворстатъ* 'майстэрня, варштат' (1582 г.). Запазычана са ст.-польск. *warsztat*<ням. *Werkstatt* 'майстэрня, месца працы' (Гараеў, 1896, 67; Праабражэнскі, 1, 76; Фасмер, 1, 300; Брукнер, 603; Шанскі, 1, В, 64; Булыка, Запазыч., 56).

**Вярста́ць$_1$** стаўб. 'ткацкі станок', карэліц. 'варштат' (З нар. сл.), палес. *вэрста́т', вэрста́ц'* (Уладз.), укр. палес. *верста́ть* 'ткацкі станок'. Да *варста́т* (гл.). Канцавое -*ць*- — вынік другаснага змякчэння (Карскі, 1, 350), магчыма, пад уплывам слова з той жа семантычнай групы *стаці́вы* 'бакавая частка красён'. Параўн. таксама ст.-рус. *верстать* 'сталярны варштат' (1686 г.).

**Вярста́ць$_2$** (паліграф.) 'размяшчаць набор паводле старонак' (БРС, КТС). Запазычана з рус. мовы, дзе *верста́ть* 'тс' узнікла лексіка-семантычным шляхам на базе дзеяслова *верстать* 'выраўноўваць' (Фасмер, 1, 300; Шанскі, 1, В, 64); параўн. *верстать:* сіб. 'размяркоўваць', вяц. 'дзяліць раллю', алан., кастр. 'выраўноўваць', валаг. 'абрэзваць, выраўноўваючы'; 'ставіць (салдат) у адзін рад', ст.-рус. *верстати* 'размяркоўваць, уключаць, ахопліваць падаткамі'; 'выраўноўваць'; 'вызначаць на службу' (1577 г.), якія ўтвораны ад *верста* (гл. *вярста́*) і суф. -*ати*. Сюды ж *вярста́цца, вярста́тка* (БРС, КТС).

**Вярта́льны** 'вярчальны' (КТС). Новаўтварэнне ад *вяртаць* (гл.) і суф. -*альн-ы*, які звычайна далучаецца да асноў запазычаных назоўнікаў (Бел. гр., 1, 216—217).

**Вяртахла́** 'неўраўнаважаная, легкадумная жанчына' (дзярж., Нар. сл.) утворана, відавочна, ад *вяртуха́ць (гл.) і экспрэсіўнага суф. -*л-а*, які ўтварае назоўнікі, што абазначаюць асоб паводле іх якасных прыкмет. Экспрэсіўнасць слова садзейнічала таму, што націск перайшоў на апошні склад, а гэта ў сваю чаргу — выпадзенню галоснай асновы перад суф. -*л-а* (якая маецца, напрыклад, у словах: *завадзіла, запявала, абдзірала* і г. д.).

**Вярта́цца** 'варочацца, прыходзіць назад' і *вяртаць* 'тс'; 'аддаваць назад'; 'кідаць, перакульваць, варочаць' (БРС,

КТС, Яруш., Бяс.). Укр. *вертати* 'варочаць, вяртацца, паварочваць, скідаць, звальваць', рус. *вертать*: смал., наўг. 'аддаваць назад узятае, захопленае', пенз. 'вяртаць каго-небудзь назад', смал., наўг., паўд. *вертаться* 'вяртацца, варочацца назад', польск. *wracać się* 'вяртацца', *wracać* 'вяртацца; вяртаць', н.-луж. *wrośiś* 'паварочваць'; 'скручваць, вярцець'; 'абарачацца'; в.-луж. *wróćeć* 'вяртаць, браць назад', *wróćeć so* 'вяртацца'; 'адбівацца, адскокваць', чэш. *vraceti* (*se*) 'мяняць кірунак, пасылаць назад'; 'вяртаць назад'; 'аддаць (нейкую рэч)', славац. *vracat'* 'мяняць у адваротны бок кірунак руху каго-небудзь'; 'прыводзіць да пачатковага стану'; 'аддаваць, вяртаць', славен. *vráčati* 'вяртаць, варочаць'; 'аддаваць доўг', *vráčati se* 'вяртацца', серб.-харв. *вр̏тати се* 'вяртацца', *вра̏ћати* 'вяртаць, аддаваць'; 'варочацца назад', *вра̏ћати се* 'вяртацца', балг. *връщам* 'аддаваць назад, вяртаць'; 'вяртацца'. Прасл. *vьrtěti, vortiti*. Прасл. *vьrtati* — фактатыў на *-ati* ад *vьrtěti, vьrtję* (Скок, 3, 631). Да *вярце́ць* (гл.).

**Вяртлі́вы** 'вёрткі' (Жд., 3), укр. *вертливий*, рус. *вертлявый* 'тс', арханг. *вертливый* 'ненадзейны, нясталы, зменлівы', ст.-рус. *вертливый* 'тс' (з XIII ст.), славен. *vrtljiv* 'які абарачаецца', серб.-харв. *вр̀тљив* 'тс'; 'жывы, рухомы'; 'ветраны, несур'ёзны', макед. *вртлив* 'які абарачаецца, нясталы', балг. *връ́тлив* 'тс'. Прасл. *vьrt(ь)livъ*<*vьrtěti*. Да *вярцець* (гл.).

**Вяртлю́г** 'бугарок у верхняй частцы бядровай косці'; 'злучальнае звяно дзвюх частак механізма, якое дазваляе адной з іх вярцецца вакол сваёй восі' (БРС, КТС); 'мера пры куплі-продажу' (Інстр. III); 'невялікае бярэмца сена' (Бяльк.). Укр. *вертлюг* 'нерухомы вінт, на якім што-небудзь абарачаецца'; 'бугарок у верхняй частцы сцегнавай косці', зах.-укр. *верклю́г* 'прыстасаванне ў выглядзе літары Г для падвешвання кацялка над агнём', рус. вяц. *вертлю́г* 'прыстасаванне для ткання ў выглядзе дошчачкі з дзіркамі'; 'пятля і крук'; 'канец восі ў машыне, якая ўстаўлена ў гняздо'; 'непаседа', ст.-рус. *вертлюгъ, вертлугъ* 'прыстасаванне, пры дапамозе якога абарачальны прадмет злучаецца з нерухомым'; 'прыстасаванне, якое забяспечвае рухомасць ствала гарматы'; 'тазасцегнавы сустаў'. Усходнеславянскае ўтварэнне ад назоўніка *вьртьлъ*>>*ве́рцель* (гл.) і суф. *-уг* (Слаўскі, SP, 1, 68), якое атрымала значэнне 'абарачальны шпень' (Шанскі, 1, В, 66). Сюды ж дэмінутыў *віртлюжок* 'скрутачак у выглядзе перавясла' (Юрч., Фраз., 2). Крукоўскі (Уплыў, 162) мяркуе, што *вяртлюг* запазычана з рус. мовы.

**Вяртля́вы** 'вёрткі' (КТС), укр. *вертлявий*, рус. *вертля́вый*



'тс'. Усходнеславянскае ўтварэнне ад асновы *вьртьл-* і суф. *-ав-ы*. У бел. літар. мове, відаць, запазычанне з рус. мовы. Гл. таксама *вяртлі́вы*. Сюды ж *вяртлявасць* 'вёрткасць' (КТС).

**Вяртля́г** 'вал (сена)' (гом., Мат. Гом.). Вузкарэгіянальнае ўтварэнне ад *вярцець* (гл.). Суф. *-'аг*, магчыма, з прасл. *-agъ* (як *krčagъ*; гл. ЭИРЯ, 2, 39; Слаўскі, SP, 1, 65).

**Вярто́к** 'вяроўка ці скручаны дубец, якім прымацоўваецца аглобля да саней; заварацень' (навагр., Нар. сл.), рус. *верто́к* 'паварот', урал., валаг. *вертка дать* 'зрабіць рэзкі паварот'; 'улізнуць, ухіліцца ад чаго-небудзь'. Бел. лексема — самастойнае ўтварэнне ад *вьрт-ъкъ*. Да *вярце́ць* (гл.).

**Вярту́н** 'жвавае дзіця' (Жд., 3); 'непаседа, дураслівец' (БРС, Шат.); 'вяртлявы чалавек' (Бяльк.); 'від жука з сямейства Gyrinidae' (БРС, КТС); 'турман' (БРС); 'від хваробы хваіны' (БелСЭ); 'вір' (КТС). Укр. *вертун* 'вяртлявы чалавек, непаседа'; 'страказа'; 'турман', *вертуне́ць* 'кажан', рус. *вертун* 'непаседа'; 'кулік'; 'ручны свердзел', свярдл. 'круглае палена', кастр. 'мянёк', урал. 'матыліца', пск. 'ненадзейны, ветраны чалавек', *вертунок* 'турман'. Усходнеславянскае ўтварэнне ад асновы *вьрт-* (*vьrt-*) і суф. *-ун* (<*unъ*). Да *вярце́ць* (гл.).

**Вярту́ты** мн. л. 'баранкі' (петрык., Мат. Гом.), відавочна, пранікла з укр. мовы; параўн. укр. бук. *верту́т, верту́та* 'рулет, від пірага з макам, тварагом, павідлам'. Не выключана рэгіянальнае ўтварэнне ад *вярце́ць* (гл.). Суфікс *-ут-* мае экспрэсіўны характар, прынамсі, у бел. гаворках (Сцяцко, Афікс. наз., 70, 129).

**Вярту́ха** 'непаседа, жвавая жанчына', укр. *вертуха* 'тс', рус. *верту́ха*: пск., калуж. 'вяртуха (аб жанчыне, дзяўчыне)', арханг. 'драсён павойны, Polygonum convolvulus L.', пск. *вертуха́* 'рыба, якая верціць хвастом'. Да *вярце́ць* (гл.). Утворана ад дзеяслоўнай асновы пры дапамозе экспрэсіўнага суфікса *-ух-а* (<*-иха*).

***Вяртуха́ць**, *віртуха́ць* 'мільгаць', *віртуха́ньня* 'мітусня' (Яўс.). Да *вярту́ха* (гл.).

**Вярту́шка** 'прыстасаванне для вымярэння хуткасці і кірунку плыні ў рэках і азёрах, марах і акіянах' (БРС). Запазычана з рус. мовы, дзе *вертушка* 'тс'.

**Вяру́тны** 'сапраўдны' (ваўк., Янк. БФ), укр. *вірутний* 'сапраўдны, арыгінальны', запазычана са ст.-польск. *wierudny* 'сапраўдны', суч. польск. *wierutny* 'тс' (Булыка, Запазыч., 60—61). Да *вера* (гл.).

**Вярханскі** *шар* 'сонца' або 'месяц' у загадцы: «Па гары гаранскай каціўся шар вярханскі...» (староб., Заг., 1972). Лексема *вярханскі* ўтворана ад *верх* (гл.) пры дапамозе суф. *-ан-скі* па аналогіі да *гаранскі*; параўн. рус. *горенский* таксама ў загадцы: «На горе горенской стоит дуб смоленский...» (СРНГ, 7, 34).

**Вярхніца** 'драбіны ў калёсах' (пух., З нар. сл.), рус. кастр. *вéрхница* 'верхняя падоўжная аснова калёс', польск. *wierzchnica* 'верхняя частка чаго-небудзь'. Утворана ад *верхні* (<*vьrxьnь*) і суф. *-іца* (<*-ica*).

**Вярхня́к**$_1$ 'бэлька паміж вушакамі', *вірхня́к* 'тс' (Мат. Гом.), укр. параўн. *верхня́к* 'верхні гарызантальны брусок у аконнай і дзвярной асадзе', рус. урал., зах.-сіб. *вéрхник, верхля́к*, варон., бран., том. *верхня́к* 'верхні вушак акна, дзвярэй', славен. *vȓhnjak* 'тс'. Узнікла ў выніку семантычнай кандэнсацыі злучэння *верхні вушак*.

**Вярхня́к**$_2$, *вырхня́к* 'падстрэшак' (малар., Нар. сл.), а таксама *верхняк* 'верхні сашнік у сасе' (Выг.), утвораны ад прыметніка *верхні* і суф. *-ак*.

**Вярхня́к**$_3$, *вэрхня́к* 'верхні жарновы камень' (Дразд.), талач. *вірхня́к* 'тс' (Шатал.), укр. *верхняк*, ст.- і паўдн.-рус. *верхня́к* 'верхні камень у млыне', урал. *вéрхник* 'тс', славен. *vrhnják* 'тс'. Усходнеславянска-славенская ізалекса. Да *верхні*. Утворана пры дапамозе суф. *-ак* (<*-akъ*). Параўн. *верхнік*$_2$.

**Вярхóвіца** 'верх галавы, сярэдзіна верхняй часткі галавы, дзе бывае лысіна' (навагр., стаўб., З нар. сл.); 'лоб' (стаўб., КЭС), *верхóвіца* 'цемя' (петрык., Шатал.) узнікла ў выніку субстантывацыі прыметніка **вярховы* 'верхні' (<*vьrx-ovъ-*) пры дапамозе суф. *-іц-а* (<*ic-a*). Да *верх* (гл.). Параўн. ст.-рус. *верхъ* 'цемя, макаўка' (з XVI ст.), *верховица* 'цемя, макаўка, верхняя частка галавы' (з XVII ст.), рус. вяц., горк. *верховка* 'цемя галавы раскольніка, якое выстрыгалася, паводле звычаяў веры, як у ксяндза', літ. *viršū́nė* 'вяршок, макаўка, вершаліна', *viršùgalvis, galvóviršis* 'цемя, макаўка'.

**Вярхóвушка** 'від лінейкі, экіпаж' (Касп.). Да *вярховы*< *верх* (гл.); параўн. ст.-рус. *верховой, верховый* 'які прызначаецца для язды вярхом'. Суфікс *-(ов)ушк-а* мае размоўнае адценне. Такое ж адценне экспрэсіўнасці заключаецца ў драг. *лёхковýшка* 'легкавая машына', грэдз. *легкавýшка* 'тс' (Сцяш.).

**Вярхóвы** 'размешчаны вышэй па цячэнню ракі' (БРС), укр. *верховúй* 'тс', рус. *верховóй* 'які знаходзіцца вышэй па рацэ'; параўн. таксама *верховье* 'мясцовасць, якая ляжыць бліжэй да вяршыні ракі', *верховщик, верховец, верхота, верховщина* 'жыхары, якія жывуць у верхнім цячэнні ракі'. Да *верх* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-ов-ы* (<прасл. *vьrx-ov-ъ* 'верхні').



**Вярхóм** 'конна' (БРС), *вярьхом* 'тс' (Бяльк.), укр. *верхом*, рус. *верхом*, польск. *wierzchem* 'тс'. Узнікла як адгалінаваны амонім з дзеепрыслоўя *верхам* (<*vьrx-ъть*) 'зверху, наверсе', якое ўяўляе сабой творны склон адзіночнага ліку ад *верх* (Шанскі, 1, В, 70).

**Вярхóўе**$_1$ 'частка ракі ля яе вытокаў' (БРС, КТС), укр. *верхів'я*, рус. *верховье* 'тс'. Усходнеславянская лексема (на астатняй слав. тэрыторыі слова мае іншыя значэнні; параўн. славен. *vrhóvje* 'горы'), утвораная ад *vьrx-ъ*, дзе *-ъ* паходзіць з *ŭ*<**-ou*; яго рэфлекс мы назіраем у пазнейшым суф. *-ov-* (Экерт, ВСЯ, 4, 104). Спачатку *vьrxovьje* абазначала 'верх чаго-небудзь'; 'вяршыня гары', потым (ва ўсходніх славян) — 'месца на вяршыні, адкуль рака выцякае' (Шанскі, 1, В, 69).

**Вярхóўе**$_2$ 'першы ачос ільну' (Касп.); 'нізкагатунковая пража з пачасся льну' (Уладз.), *вярхóўя* 'горшы гатунак ільнянога валакна' (Бяльк.); 'зрэб'е, ачоскі з атрапанага льну' (Янк. II, III, барыс., Янк. Мат.), пін. *вэрхóв'е* 'зрэб'е' (Шатал.). Рус. *верховье*: йонаўск. (ЛітССР), прэйл. (ЛатССР), пск., смал. 'першыя вычаскі', таксама с.-урал. 'слой ільновалакна', пск., йонаўск., прэйл. 'пража з першых вычасак', йонаўск. 'палатно з гэтай пражы'. Бел. інавацыя. Да *вярхóўе*$_1$<прасл. *vьrxovьje* 'вярхі чаго-небудзь'.

***Вярхóўе**$_3$, *вярхóўя* (зборн.) 'вярхі дрэў' (Бяльк.), укр. *верхів'я*, польск. *wierzchowie*, славен. *vrhǫ̂vje* 'тс', якое магло б быць другасным. Да *вярхóўе*$_1$<прасл. *vьrxovьje* 'вярхі, верхнія часткі чаго-небудзь'.

**Вярхоўка**$_1$ 'вяршаліна (маладняку)' (КТС), укр. *верхівка* 'вяршыня расліны', рус. урал. *верхóвка* 'вяршыня дрэва'. Утворана ад *вярховы* і суф. *-к-а*. Да *верх* (гл.).

**Вярхóўка**$_2$ 'верхаводка, Leucaspius delineatus' (Інстр. II, Нік.; Очерки; Жук., 214), рус. *верховка*: наўг., цвяр., басейн р. Волгі 'дробная рыба, якая плавае ў верхніх слаях вады, верхаводка', польск. *wierzchówka* 'гатунак плоткі'. Паўн.-слав. інавацыя утвораная ад *вярховы* (*vьrx-ov-ъ*) і суф. *-к-а*. Да *верх* (гл.).

**Вярхóўка**$_3$ 'вецер (на Азоўскім моры)' (КТС). Запазычана з рус. мовы (пры перакладзе твораў К. Паўстоўскага).

**Вярхо́ўнік** (гіст.) 'начальнік, старшыня справы' (БРС), укр. *верховник,* рус. *верховник,* ст.-рус. *верховникъ, врьховникъ* 'асоба, якая валодае вярхоўнай уладай, начальнік'; 'служка пры двары, дваровы' (з XV ст.). Бел. лексема запазычана з рус. мовы.

**Вярхо́ўны** 'вышэйшы' (БРС, КТС, Касп.), укр. *верховний* 'тс', рус. *верховный* 'верхні'; 'тоўстае палатно са зрэб'я'; 'жыхар з вярхоўя ракі'; 'конны', ст.-рус. *верховный, вьрховьний, вьрьховнии, връховный* 'верхні; 'вышэйшы, галоўны'; 'конны'; 'палацавы' (з X ст.), славен. *vrhǫven,* серб.-харв. *вр̀ховни,* макед. *врховен,* балг. *върховен* 'вярхоўны'. Да ст.-слав. прыметніка **врьховьнии** 'галоўны, вышэйшы' (у царкоўным сэнсе). Відавочна, царкоўнаславянізм; гл. Шанскі, 1, В, 69. Утворана ад **врьхъ** і суф. *-ьн-ъ.* Крукоўскі (Уплыў, 110) мяркуе, што бел. лексема — калька з рус. мовы.

**Вярхо́чак** (ласк.) 'верх' (мядз., Нар. сл.) — дэмінутыў да *верх* (гл.), утвораны пры дапамозе суф. *-очак.* Карэннае *-х-* (а не *-ш-,* як у *вяршок, вяршочак*) дае падставу меркаваць, што гэта магло быць вельмі старое ўтварэнне пры дапамозе суф. *-ък-+-ькъ>-ъčькъ.*

**Вярхо́чысьце** 'трэція ачоскі льну' (Касп.). Да *верх* (гл.) і *-чысьце,* якое ў выніку распадабнення паходзіць з *чэсьсе* (<*česьje*<*česati*). Народная этымалогія атаесамлівае апошняе з *čistiti*>*чысціць.*

**Вярху́шка**$_1$ 'вяршыня дрэва, травы' (КТС, Бяльк., дзвін., Нар. сл.), рус. *верхушка* 'верхняя частка чаго-небудзь'. Відавочна, новае ўтварэнне (размоўнага стылю) ад *верх* (гл.) і суф. *-ушк-а* (магчыма, пад уплывам рус. мовы).

**Вярху́шка**$_2$ 'верхняя частка лёгкіх' (КТС); 'прывілеяваная частка грамадства, класа' (КТС) — рус. кніжнае лексічнае пранікненне XX ст.

**Вярце́жны** 'абарачальны' (КТС, Я. Сіпакоў), рус. арханг. *вертежный* 'легкадумны, ненадзейны'. Лексема з'яўляецца новатворам ад **вярцеж* (параўн. рус. *вертёж* галавакружэнне <*vьrt-+-ěžь*), магчыма, пад уплывам рус. *вертежный, вертежничать* і г. д.

**Вярце́ль** 'хвост' (Заг.), рус. пск. *верте́ль* 'верць!'. Да *вярцець* (гл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне з суф. Nomina acti *-l'ь.*

**Вярце́нне** 'вярчэнне (станка)' (КТС, Ц. Гартны), укр. *вертіння* 'вярчэнне, свідраванне', рус. *вертение* 'вярчэнне' — рэгулярны аддзеяслоўны назоўнік, які, аднак, у літаратурнай мове не замацаваўся. Да *вярце́ць* (гл.). Параўн. таксама *вярчэнне* (гл.).



**Вярце́п** 'вялікі роў, які зарос кустамі' (слаўг., Яшк.); 'прытон' (РБС), укр. *вертеп* 'пячора'; батлейка, зах. *верте́па* 'прорва, яр, роў', *ве́ртіб, ве́ркіп* 'яміна на полі з вадою або без яе', рус. перм., смал., калуж. *верте́п* 'яр з непраходнымі кустамі, лесам', перм. 'узгорак з лагчынамі', *верте́па* 'крутая гара, пакрытая непраходным лесам', маск. *вертепи́жина* 'яміна з вадою на дарозе', цэнтр.-рус. *вертебя* 'карставы яр', тул. *вертебинище* 'яр', ст.-рус. *вертепъ, вьртьпъ* 'цясніна'; 'яр'; 'пячора, склеп, тайнае сховішча'; 'прытон'; 'сад', польск. *wertep, wertepy* 'мясцовасць, цяжкая для пераадолення, дарога з калдобінамі'; 'батлейка', ст.-польск. *werteb* 'бездарожжа', *werteba* 'яр, роў', славен. *vrtèp* 'пячора', макед., балг. *варто́п, врто́п, върто́п, въртуп* 'вір'; 'карставая яма'; 'глыбокае месца ў рацэ'; 'невялікі гай сярод голай мясціны'; 'быстрыня'; 'месца на лузе з патаптанай травою'; 'зігзагападобны яр'; 'паварот ракі, дарогі, гары'; 'лагчына'; 'прорва'; 'лужына', балг. *въртопел* 'вір'; 'лагчына'; 'паварот ракі, дарогі, гары', ст.-слав. **врътъпъ, вьртьпъ** 'пячора'; 'сад'; 'пекла', **врьтопъ** 'пячора'.

Некаторыя этымолагі разглядаемую лексему выводзяць з *vьrtъ* 'сад' (Сразнеўскі, 1, 464), утвораную пры дапамозе суф. *-ьръ/-ъръ* (Фасмер, 1, 300; КЭСРЯ, 76; Шанскі, 1, В, 65), маючы на ўвазе павойны, пакручасты характар раслін (у садзе). Семантыка, звязаная са сцэнамі нараджэння Хрыста, сведчыць на карысць запазычання ўсх.-слав. лексемы *вярцеп* (*вертеп*) з ц.-слав. мовы (Брандт, РФВ. 25, 215). Значэнне 'прытон (разбойнікаў)' другаснае; яно паходзіць з асноўнага 'прорва, яр, лагчына, непраходнае месца, гушчар', якое маецца ў паўдн.- і ўсх.-слав. мовах. Польскае *werteb(a)* Брукнер (607) лічыць запазычаннем з укр. мовы. Можна меркаваць, што лексема з'яўляецца вельмі старым складаным словам, утвораным ад і.-е. **u̯ert-* 'вярцець' і **upos* 'вада', якое мела значэнне 'вір, непераходнае глыбокае месца' (Гараеў, 1896, 69; БЕР, 1, 212; Георгіеў, БЕ, 11, 1965, 302 і наст.; Кабылянскі, Мовознавство, 1967, 6, 43; Уладзімірская, ЭИРЯ, 6, 1968, 28—40; Клепікава, Карп. диал. и оном., 51 і наст.). Другая частка і.-е. **upos* знайшла сваё ўвасабленне ў балг. *вапа* 'катлавіна', *въпа* 'яма, лагчына', серб.-харв. *ва̏па* 'выпарэнне', ст.-слав. **вапа** 'возера, лужына'. Гл. таксама *вярцёбы.*

**Вярце́п'е** 'стромы пагоркаў, зарослыя алешнікам, лазняком, ажыннікам і г. д.' (паўн.-віц., Нар. лек.) — зборны наз. ад *вярцеп* (гл.) і суф. *-ьje>-'е.*

**Вярцéсты** 'пакручаны (аб капусце)' (навагр., КТС) у загадцы ўжываецца побач з рыфмаваным *круцесты*, якое на суседняй тэрыторыі мае форму *крутасты* (пруж., кобр., пін.). Да *вярцець* (гл.); мяккі зычны асновы з'яўляецца прычынай суфіксальнага варыянта.

**Вярцéць** 'круціць' (БРС, КТС, Яруш.); 'абмотваць, абкручваць' (БРС); 'хітраваць' (Юрч.), укр. *вертіти* 'вярцець'; 'свідраваць', рус. *вертеть* 'тс'; 'абарочваць', 'вярнуць каго-небудзь'; 'падманваць', уладз., валаг. 'боўтаючы, збіваць што-небудзь', перм. 'пячы (у роце)', вяц. 'ванітаваць'. Ст.-рус. *вертѣти, врътѣти* 'вярцець;' 'свідраваць'; 'загортваць, згортваць'. Польск. *wiercić* 'круціць'; 'свідраваць'; 'круціўшы, расціраць што-небудзь', н.-луж. *wjeršeś* 'вярцець, круціць'; 'свідраваць', в.-луж. *wjerćeć* 'тс', чэш. *vrtěti* 'вярцець, круціць'; 'думаць, варочаць мазгамі', славац. *vrtiet'* 'круціць', славен. *vrtéti* 'тс', серб.-харв. *vȑtjeti, вр̏тети* 'круціць'; 'ківаць (галавой)'; 'віляць, махаць (хвастом)'; 'сукаць'; 'свідраваць', макед. *врти* 'абарачаць, вярцець, круціць'; 'мяняць палажэнне'; 'зварочваць (з дарогі)'; 'гартаць (старонку)'; 'віцца (аб сцежцы)'; 'пераварочваць, ніцаваць'; 'перакручваць'; '(добра) весці гаспадарку'; 'тачыць (дрэва)', балг. *въртя́* 'вярцець, круціць, абарочваць'; 'віцца'; 'добра валодаць (зброяй, інструментам)'; 'весці гаспадарку'; 'варочаць (справамі)', ст.-слав. **врьтѣти, врътѣти** 'вярцець, круціць'. Прасл. *vьrtěti* (аснова *vьrt-/vert-/vort-*) мае адпаведнікі ў літ. *ver̃sti, verčiù* 'валіць, перакульваць'; 'ніцаваць'; 'пераўтвараць'; 'перакладаць (на іншую мову)'; 'прымушаць', лат. *vḕrst* 'звяртаць (увагу)'; 'паварочваць'; 'абярнуць', ст.-прус. *wīrst* 'станавіцца', *wartint* 'абарачаць', гоц. *wairþan* 'станавіцца', лац. *verto, -ere* 'паварочваць, вярцець'— усе ўзыходзяць да і.-е. *u̯ert-* (<*u̯er-*). Гл. Праабражэнскі, 1, 77; Вальдэ, 824; Траўтман, 354; Фік, 1, 131; Торп, 397; Мюленбах — Эндзелін, 4, 566; Міклашыч, 384; Брукнер, 617; Фасмер, 1, 301; Шанскі, 1, В, 65—66; КЭСРЯ, 76; Махэк₂, 701; БЕР, 1, 212; Голуб — Копечны, 423; Младэнаў, 91; Скок, 3, 631—633.

**Вярцёбы** мн. 'вір' (гом., Мат. Гом.) — азванчэнне асновы па ўзору назоўнікаў з суф. *-об-а*: *карчоба, пашчоба* і інш. (Сцяцко, Афікс. назв., 33—34). Да *вярцéп*. Параўн. таксама укр. *вертьóг* 'ухаба, яма ў пяску, выбітая ветрам'.

**Вярцёл** 'завостраная палка, на якой смажыцца сала' (КТС, А. Куляшоў). Да *вéрцел* (гл.). Параўн. ст.-рус. *вертелъ* (XVII ст.).

**Вярцёлка₁** 'мінога рачная, Lampetra fluviatilis' (Бяльк.); 'шчыпаўка, Cobitis taenia' (слаўг., З жыцця). Назва паходзіць ад таго, што, ратуючыся ад небяспекі, рыба імгненна зарываецца ў зямлю (Яшкін, З жыцця, 124). Утворана ад *вярцець* (гл.) і суф. Nomina instrumenti *-лька* (<*lъ-jь+k-a*).



**Вярцёлка₂** 'зашчапка, засаўка ў весніцах' (КТС). Да *вярцéць* (гл.).

**Вярцёлка₃** 'ямка ў рацэ' (КТС). Да *вярцець* (гл.).

**Вярцёлка₄** 'жанчына, якая шукае лёгкіх уцех' (КТС). Рус. пск., цвяр. *вертёлка* 'шалахвостка'; 'баявая і хуткая ў рухах жанчына ці дзяўчына'. Да *вярцéць* (гл.).

***Вярцёха**, бяроз. *вэртёха* 'матавіла'— рэгіянальнае ўтварэнне, складзенае з асновы *вярцець* (гл.) і экспрэсіўнага суф. *-'ох-а (-ёх-а)* (Сцяцко, Афікс. наз., 63).

**Вярцэ́мак** 'мяла' (гродз., З нар. сл.). Запазычана, відавочна, з польск. мовы, дзе новае і ст.-польск. *wercimak* (з XVI ст.) мае тое ж значэнне.

**Вярця́чка₁** 'вадзяная казяўка, Gerinus natator' (ветк., Мат. Гом.), укр., рус. *вертя́чка* 'вадзяны жук з сям. Gyrinidae'. Утворана ад *вярцець* і суф. *-'ачк-а* (<*-'akjьk-a*). Аналагічна, паводле ўласцівасці, утвараецца найменне казяўкі ў чэш. *vírník* ці славац. *krútňavec* 'тс'.

**Вярця́чка₂** 'глісная хвароба, матыліца, цэнуроз жывёл' (КТС), укр., рус. *вертячка* 'тс'. Да *вярцець* (гл.); суф. *-ачк-а* абазначае працэс дзеяння.

***Вярця́шка**, бяроз. *вэртя́шка* 'гліняная міска'. Узыходзіць да *вэ́ртяга*; параўн. *вэ́рцяха* (гл.), а таксама ўкр. *вертьога* 'від посуду'. Утворана пры дапамозе суф. *-ьк-а* ад наз. *верцяга*. Да *вярцéць* (гл.).

**Вярча́льны** 'які верціцца' (КТС). Калька з рус. мовы, утвораная з дапамогай бел. кораня і афікса (Крукоўскі, Уплыў, 120—121).

**Вярча́нка** 'коўдра, вытканая з рыззя' (навагр., Нар. сл.) — аддзеяслоўны назоўнік, утвораны пры дапамозе суф. *-ан-к-а*. Да *вярцецеь* (гл.).

**Вярша́к** 'верхавы яздок' (Нас., Др.-Падб., Гарэц.). Узнікла ў выніку лексічнай кандэнсацыі з *верхавы яздок* пад уплывам *вязак, важак*.

**Вяршалíна** 'верхняя частка дрэва з суччам' (Некр., БРС, КТС). Да *вершалíна* (гл.).

**Вярша́лле** 'вяршаліны (хваін)' (КТС), ушац. *вірша́льля* 'вяршаліны дрэў' (Нар. лекс.). Утварылася ад **вьршаль* (гл. *вершалина*) пры дапамозе суф. Nomina collectiva *-bje*.

**Вярша́льнік** 'верхаўё лесу' (парыц., Некр.). Вузкі рэгіяналізм, утвораны ад **вьршаль* (гл. *вершалина*) і зборнага суф. *-нік*.

**Вяршкі́**₁ 'кончыкі пальцаў' (гродз., дзятл., Сцяшк. МГ), адз. лік. *вяршок* — да прасл. *vьrx-ъkъ*<*vьrxъ* (Фасмер, 1, 302). Гл. *вяршок₂*.

**Вяршкі́**₂ 'верхні слой малака, смятана' (БРС, КТС, Бяльк.). Да *вяршок₃* (гл.). Параўн. таксама рус. смал., бранск. *вершки* 'салодкая смятана', варон. 'смятана'.

**Вяршко́ўка** 'дошка (аполак)' (светлаг., б.-каш., Мат. Гом.); 'дошка ў залежнасці ад таўшчыні' (Інстр. III). Утворана пры дапамозе суф. *-оўка* ад дзеяслова **вершкаваць*, магчыма, запазычанага з рус. уладз. *вершковать* 'вызначаць расцэнкі на лес у залежнасці ад таўшчыні (вяршаліны і камля)'.

**Вяршні́к**₁ 'верхні вушак'; 'перакладзіна, папярочка' (БРС); 'планка ў санях, насаджаная на капылы наверх вязоў' (дзярж., Нар. сл.), рус. наўг., пенз., с.-урал., сіб. *вершник* 'верхні вушак (дзвярэй, акон)', ярасл. 'верхняя перакладзіна ў варотах'. Утворана пры дапамозе суф. *-нік* (<*-ь-nikъ*) ад *vьrx-ьnь*. Да *верхні* (гл.). Параўн. таксама *вярхняк₁*, *вяршняк*.

**Вяршні́к**₂ 'верхні гаршчок у самагонным апараце' (КТС, І. Пташнікаў), славен. *vrhnják* 'тс'. Да *вяршнік₁* (гл.).

**Вяршня́** 'вяршыня' (Яруш.) — старая лексема, утвораная пры дапамозе суф. *-ьn'a* ад асновы *vьrxъ-*. Да *верх*, *ве́рхні* (гл.).

**Вяршня́к** 'верхні касяк акна' (Касп.); 'верхняя частка дрэў' (КТС), рус. том. *вершня́к* 'верхні касяк акна, дзвярэй', славен. *vŕšnjak* 'верхні камень вадзянога млына'. Узнікла ў выніку субстантывацыі прыметніка *vьrx-ьnь* пры дапамозе суф. *-'akъ*.

**Вярш́ок**₁ 'верхняя частка чаго-небудзь'; 'вяршаліна' (БРС, КТС; КЭС, лаг.); 'тое, чым накрываюць гаршчок' (Інстр. І), укр., рус. *вершок* 'тс', польск. *wierszek*, н.-луж., в.-луж. *wjeršk*, чэш. *vršek*, *vršik*, славац. *vŕšok*, славен. *vršek*, серб.-харв. *вр̏шак*, макед. *вршка* 'верхняя частка чаго-небудзь', балг. *вр̀ъшка* 'адрубленая вяршаліна сасны', *връшец* 'верхняя частка чаго-небудзь'. Да *верх* (гл.). Утворана пры дапамозе дэмінутыўнага суф. *-ок* (<*-ъkъ*).



**Вяршо́к**₂ 'мера даўжыні ≈4,4 см' (БРС, КТС, Касп., Бяльк., Сцяшк.), укр. *вершок*, рус. *вершок*, ст.-рус. *вершок* (з XVI ст.) 'тс'. Узыходзіць ад прасл. *vьrx-ъkъ* 'верхняя частка чаго-небудзь, у прыватнасці верхняя частка ўказальнага пальца' (Фасмер, 1, 302). Не пераконвае Праабражэнскі (1, 78), КЭСРЯ (77), Булахоўскі (Труды ИРЯ, 1, 151), якія развіццё семантыкі разглядаемай лексемы ўяўляюць наступным чынам: 'вяршыня' → 'лішак, які з'яўляецца зверху пры насыпанні збожжа' → 'мера даўжыні'. Бел. *вяршок* пранікла з рус. мовы (Шанскі, 1, В, 71).

**Вяршо́к**₃ 'верхні слой на адстоеным салодкім малацэ' (Інстр. І, Шат.), *выршо́к* (драг., КЭС), укр. *вершок* 'тс', рус. уладз., валаг., дан. *вершок* 'тс'. Усх.-слав. утварэнне. Да *верх* (гл.), *вяршок₁* (гл.).

**Вяршо́к**₄ 'адтуліна, верхняе аконца пад столлю для выпуску чаду ў курных хатах, у лазнях' (Нас., Серб., Інстр. І, КЭС, лаг.). Укр. чарніг. *верх*, рус. смал. *вершок* 'тс', пск. *вершнік* 'невялікае ваконца ў лазні'. Бел. утварэнне. Да *верх* 'тс' (гл.).

**Вяршо́к**₅ 'конусападобнае горла ці лаз у рыбацкіх пастках' (Тарн.), *ве́ршок* (Крыв.). Рус. ленінгр. *вершник* 'верх конусападобнай часткі невада'. Да *верх* (гл.). Сюды ж *увершок*, *овершок* (гл.).

**Вяршо́к**₆ 'першая маленькая булачка з хлебнага цеста, якую часцей за ўсё аддаюць скаціне' (мазыр., Вешт.). Да *верх*, *вяршок₁* (гл.).

**Вяршо́чак** 'смятана' (КТС) — дэмінутыў да *вяршок₃* (гл.).

**Вяршы́на** 'верх чаго-небудзь' (рагач., Мат. Гом.); 'верхняя частка дрэва' (Шат.); 'смятана' (Бяльк., ветк., Мат. Гом.). Вытворнае з суф. *-іна* (<*ina*) ад *верх* (гл.) <*vьrx-ъ*. Сюды ж *вяршы́нка* 'вяршкі, смятана' (докш., Янк. Маг.; КЭС, лаг.; смарг., Сцяшк., Жд., 1) і *вяршы́нкі* (полац., Нар. сл.), *вяршы́ны* 'тс' (Касп.).

**Вяршы́ня** 'верхняя частка чаго-небудзь: гары, будынка, дрэва' (КТС, БРС). Беларуская інавацыя, якая ўзнікла ў выніку пераўтварэння прасл. *vьrš-ina* пад уплывам лексем з суф. *-yn'i* ці, у прыватнасці, літ. *viršūnė* 'тс', што выклікала змякчэнне зычнай у суфіксе. Параўн. таксама *вяршы́на* (гл.). Сюды ж *вяршынны*.

**Вяршы́цель** 'той, хто вяршыць справамі, распараджаецца' (КТС, БРС). Запазычана з рус. *вершитель* 'тс'.

**Вяршыцелька** 'жанчына, якая распараджаецца' (БРС, КТС). Беларускае ўтварэнне ад *вяршыцель* і суф. *-к-а*.

**Вяршы́ць** 'складваць, канчаць стог, сцірту' (Выг., КТС), (перан.) 'вырашыць чый-небудзь лёс' (БРС), укр. *вершити* 'вяршыць'; 'насыпаць звыш краёў', рус. *вершить* 'канчаць складваць стог, снапы (на возе), верх страхі'; 'вырашаць лёс', польск. *wierszyć* 'укладваць спадзісты верх, страху'; 'мець першаснасць перад кім-небудзь', чэш. *vršiti* 'складваць у вышыню, збіраць у кучу', славац. *vŕšiť* 'кідаць, укладваць у кучу'; 'узвышацца'; 'заканчваць', славен. *vršiti* 'тс', серб.-харв. *вр̏шити* 'выконваць, рабіць, вяршыць', макед. *врши* 'выконваць, рабіць'; 'малаціць'; 'дамаўляцца на заручынах', балг. *върша* 'выконваць, рабіць, прызначаць', *вършéя* 'малаціць'. Прасл. *vьršiti* 'канчаць, завяршаць, рабіць што-небудзь, рабіць верх', якое мела ў прасл. мове яшчэ значэнне 'малаціць з дапамогай скаціны' (Выгонная, Лекс. Палесся, 83—87; Скок, 3, 624; БЕР, 1, 214; Шанскі, 1, В, 71; Булахоўскі, Труды ИРЯ, 1, 1949, 183).

**Вяршэ́нства** 'панаванне, гегемонія, узначальванне' (БРС) утворана ад дзеяслова *вяршыць* (гл.) і суф. *-эн-ств-а,* магчыма, паводле ўзору рус. *совершенство* ці польск. *pierwszeństwo*.

**Вяршэ́чак** 'вяршаліна' (КТС, П. Місько) — абласны варыянт лексемы *вяршочак,* суф. *-эчак* складае арэал, супольны з украінскімі гаворкамі; параўн. укр. *вершечок.*

**Вяры́гі** 'жалезныя ланцугі, аковы, якія насілі на целе рэлігійныя фанатыкі' (БРС, КТС), ст.-бел. *верига, вериги* 'ланцуг, путы' (з XV ст.), укр. *вериги,* рус. *вериги* 'тс', арханг. 'смецце ў зерні збожжа', алан. 'невялікі стог сена', ст.-рус. *верига, вериги* 'металічны дрот, ніць'; 'ланцуг'; 'вярыгі'; 'кайданы' (з XII ст.), славен. *veriga* 'ланцуг, звяно ланцуга'; 'клямка, засаўка', серб.-харв. *вѐрига* 'ланцуг', *вѐриге* 'вярыгі', макед. *верига* 'ланцуг'; 'горны хрыбет', балг. *верига, веруга* 'ланцуг'; 'путы, аковы, кайданы'; 'ланцуг гор'; 'рад падзей'; 'бярозка палявая, Convolvulus arvensis L.', ст.-слав. **верига,** утворанае ад **вьрѣти** (<*verti* 'звязваць') пры дапамозе суф. **-ига** (Шанскі, 1, В, 59). Звязана з літ. *vérti* 'адчыняць, зачыняць'; 'нанізваць', лат. *vērt* 'тс', грэч. ἀείρω 'злучаю, звязваю'. Са ст.-слав. праз ц.-слав. і ст.-бел. слова прыйшло ў сучасную мову. Фасмер (1, 299) звязвае рус. *верига* са словам *верать* 'усоўваць, запіхваць, тыцкаць'. Сюды ж прымыкае *вярыжны* (*брацiя вярыжная* — КТС).

***Вяры́нічка,** *wierýniczka* 'кайстра, палатняная торба' (Маш.) — дэмінутыў ад *вярэнька* (гл.).



**Вяры́цельны** 'які сведчыць пра даручэнне каму-небудзь чаго-небудзь' (КТС, БРС). Паходзіць ад назоўніка **вярыцель*<ст.-бел. *вѣритель* (з XVI ст.) і суф. *-нъ-*. Рус. *верительный,* зафіксаванае з 1704 г., утворана самастойна (Шанскі, 1, В, 60).

**Вярэ́да** 'крыўда' (КТС, Х. Шынклер). Да *верад* (гл.).

**Вярэ́дзіць** і *вярэдзіцца* (БРС, КТС). Да *верадзіць, верадзіцца* (гл.). Сюды ж *вярэдліва* (КТС).

***Вярэ́даўнік** 'пылюшнік жоўты, Thalictrum flavum L.' (віц., Кіс., Інстр. II), драг. *вырдоўнэ́к* 'паўночнік палявы, Knautia arvensis (L.) Coult.' утворана пры дапамозе суф. Nomen instrumenti *-нік (аў-нік)* ад *верад-оў-*<*verdъ* (гл.). Лекавыя ўласцівасці расліны паслужылі асновай для ўтварэння назвы не толькі ў бел. мове, пра што сведчаць іншыя сінонімы лексемы: *раннік, гаец, гойнік* (віц., Кіс.), але і ў іншых слав. мовах; параўн. рус. *вередовец, вередная (вередовая) трава,* укр. *вередник,* славен. *vrędnik, vrędnica* і г. д.

**Вярэ́днік** 'крапінец чубаты, Polygala comosa Schkuhr.' (Касп.), *верaднік* 'тс' (маг., Кіс.). Матывацыя няясная. Магчыма, да *вéрад* (гл.).

***Вярэ́йкі,** *варэ́йкі* 'дошкі або жэрдкі, якія выконваюць функцыю прымітыўных варот' (хойн., Нар. сл.); 'крайнія зубы грабянёў' (КТС). Да **-вірацъ*<*ver-/vor-/vьr-*. Гэты корань маецца ў бел. *абора*<*ob-vora*. Суф. *-эйк-* пашыраны ў зах.-бел. гаворках (Сцяцко, Афікс. наз., 37). Параўн. таксама чэш. *zavírati* 'зачыняць', *závora* 'засоўка, закрутка', *závorky* 'шлагбаум', славац. *vora* 'агароджа', укр. *вір* 'агароджа з жэрдак', *вір'я* 'тс'.

***Вярэ́йцы,** цэнтр.-палес. *верéйцы* 'рэдкія варотцы з жэрдак, праз якія ўязджаюць у двор' (Серб.); 'падваротня ў гумне' (лельч., Нар. сл.). Да *вярэйкі* (гл.).

**Вярэ́каць** 'гаварыць абы-што' (КТС, М. Паслядовіч). Сюды ж, паводле аўтараў СРНГ, 4, 42, і іншыя блізкія экспрэсіўныя лексемы: рус. *варакать,* пск. *варгасить* 'гаварыць недарэчнасці, бязглуздзіцу', арханг., ленінгр., перм., с.-урал. *варакосить,* паўдн.-рус., смал. *варнакать* 'тс', варон. 'гаварыць няясна'. Непераканаўча Фасмер (1, 273—275). Бел. *вярэкаць,* магчыма, узнікла ў выніку кантамінацыі *вярзці* і **рэкці* (<*rěkti*); параўн. драг. *рэ́кало* 'чалавек, які доўга і нудна гаворыць недарэчнасці, бязглуздзіцу' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.).

21. Зак. 1876

**Вярэ́кша** — жартаўлівы зварот да дзіцяці (Працы, 6), рус. смал. *верекса* 'міфалагічная істота, якая выклікае ў дзіцяці хваробу, ад чаго дзіця плача, капрызіць'. Звязана з літ. *ver̃k-ti, verkšlénti* 'плакаць', *verksnỹs, verkšnà* 'плакса'. Аб бел. суф. *-ш-а* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 75—76.

**Вярэ́ма** 'лазняк' (слуц., Мал.). Няясна.

**Вярэ́ні** 'від абутку з лыка' (Інстр. I); 'лапці, сплеценыя з вяровак' (Сак., Шат.) — парны лік наз. *вярэ́ня,* роднаснага да рус. цвяр. *веренька* 'пяхцер', тул. 'вяроўка', а апошнія — з **верень* 'рад' (Шанскі, 1, В, 57) < *verenь;* параўн. ст.-англ. *worn* 'ланцуг'; 'шмат', ірл. *foirenn* 'атрад', літ. *vir̃vinis* 'вяровачны'. Гл. таксама Фасмер, 1, 296, там літ-ра. Звязана з наступным словам.

**Вярэ́нька** 'торбачка на хлеб, сплеценая з бяросты' (Некр., Шат.); 'берасцяная кашолка' (Працы, 6), лун. *вэрэ́нька* 'кошык для ягад' (Шатал.), укр. *вере́ня* 'раднінка', бук. *вере́нь, вере́ня* 'дзяруга', рус. *вере́нька* 'плецены кошык', уладз., кастр. 'венцер'. Звязана з літ. *vérti* 'нанізваць, уцягваць нітку', лат. *vērt* 'нанізваць', грэч. ἀείρω 'звязваю', алб. *vjer* 'вешаю' і інш., а таксама з *вярэні* (гл.). Сюды ж *вярэ́ня* 'кошык' (Шн., 3); 'торбачка' (мін., Жыв. сл.); 'някемлівы, мешкаваты чалавек, няўдалы' (Янк. I, докш., Янк. Мат.).

**Вярэ́паўка** 'земляная жаба, рапуха' (Жд., 2, Некр., Шат.); 'тоўстая, непаваротлівая і неахайная жанчына' (Некр., Шат.); 'няўклюда' (слуц., Жыв. сл.). У іншых славян лексема адсутнічае. Магчыма, узнікла ў выніку кантамінацыі літ. *varlė̃* і бел. **рэпаўка;* параўн. укр. *ропа́вка,* якое да слав. *rop-ucha.* Інакш Краўчук (ВЯ, 10, 1976, 71). Фасмер (3, 503) звязвае апошняе з *ропа́* 'гной', Траўтман (246) і Мюленбах—Эндзелін (3, 478, 479) — з літ. *ropóti,* лат. *rāpot* 'поўзаць'. Трубачоў (Фасмер, 3, 503) усе рус., бел., укр. формы з пачатковым *роп-* лічыць запазычаннем з польск. *ropucha* < *chropucha* (Брукнер, 463). Гл. *варопаўка.*

**Вярэ́паць** 'плявузгаць' (КТС, М. Паслядовіч). Узнікла ад *вярэкаць* (гл.) пад уплывам лексемы *вярэ́паўка.*

***Вярэ́цея,** усх.-палес. 'нізкае балоцістае, амаль непраходнае месца', *веретьé* 'расчышчаная паляна ў лесе', цэнтр.-палес. *вэрэ́тія* 'ўзвышанае сухое месца сярод балота', зах.-палес. *вэрэ́тыя* 'невялікі астравок сушы сярод балота', *вэрэ́тыйка* 'падмыты край берагу' (Талстой, Геагр.), беш. *верацея* 'ўзгорак сярод балота з асіннікам' (Касп.), паўн.-рус. *вере́тéя, вере́ти́я, вере́тья́* 'сухое месца на балоце, ля рачной абалоны,



зарослае лесам, кустамі'; 'паляна ў лесе'; 'стромы бераг'; 'узгорак у лесе' і інш., разан. *веретье* 'высокае месца'; 'бальшак', дан. 'лясная плошча паміж двума азёрамі', славен. *vrétje, rétje* 'крыніца'; 'месца, дзе знаходзіцца некалькі крыніц'. Прасл. *vertьje* 'тое, што заключаецца; хавацца, зачыняцца' (Голуб—Копечны, 424). Талстой (Геагр., 134) прапануе наступны семантычны пераход: 'крыніца (месца пад зямлёй, дзе «зачынена» вада'; параўн. рус. *ключ* 'крыніца')'→'нізкае месца на балоце'→'высокае, сухое месца сярод балота'. Гл. таксама *верацея.* Параўн. Фасмер, 1, 297, 299.

**Вярэ́ці** 'месца на два ці чатыры бакі абапал чаго-небудзь' (ст.-дар., Яшк.). Да *вярэ́цея* (гл.).

**Вярэ́юшка** 'шула' (Шн., 1) — дэмінутыў ад *верая́* (гл.).

**Вярэ́я** 'шула, слуп' (Сцяшк., воран., Шатал.). Да *верая́* (гл.).

***Вясе́лік₁,** палес. *вэсэ́лык* 'журавель, Grus grus L.' (Дразд.), укр. *веселик* 'тс'— табуістычная «назва жураўля, якую трэба ўжываць тады, калі жураўлі прылятаюць, вясною, каб не журыцца цэлы год» (Грынчанка, 1, 141). Магчыма, гэта проціпастаўленне народнай этымалогіі лексемы *вясна,* якая звязваецца з лексемай *вясёлы,* у прыватнасці з яе значэннямі 'здаровы, радасны, ясны, каляровы, сонечны, асветлены, з буйной раслiннасцю, якi радуе багаццем, буйнасцю і г. д.' Тое ж адносна наступных слоў: *вяселік₂, вяселік₃.* Сюды ж *высёлык* 'эўфемістычная назва жураўля, заўважанага першы раз у гэтым годзе' (Клім.).

**Вясе́лік₂** 'смаржок, Gyromitra (Helvella) esculenta' (Янк. I); 'красавіковы грыб смаржок' (КТС, К. Цвірка). Відавочна, да *вясна* (гл.) > **вясеннік* > *вяселік.* Магчыма, аднак, што назва была матывавана знешняй незвычайнасцю; параўн. *весялуха₅* і ўкр. *весе́лка вонюча* 'грыб Phallus impudicus'. Аднак славац. *veseliarky* 'Armillariella mellea, асенні апенак'.

***Вясе́лік₃,** *вэсэлык* 'вясёлка' (іван., ДАБМ). Утворана ад *veselъ* і суф. *-ikъ.* Названа, паводле шматкаляровасці, якая весяліць, радуе вока чалавека. Параўн., аднак, *вясёлка₁, вcase-лу́ха₂.*

**Вясе́лле,** *вясе́лля, вес̑еле, высільле, вясе́лё* 'вясельная дружына'; 'вяселле' (БРС, Нас, Булг., Мядзв., Гарэц., Шат., Мал., Грыг., Бяс., віл., З нар. сл., Сцяшк., ДАБМ, к. 338), укр. *весілля* 'тс', рус. паўдн., смал., пск., валаг., арханг., урал. *весе́лье* 'вяселле', свярдл., арханг. 'вечарынка', ст.-рус. *ве-*

*сельe* 'радасць, забава, пацеха'; 'вяселле', польск. *wesele* 'весялосць, радасць, забава'; 'бяседа'; 'банкет'; 'вяселле'; 'шлюб у касцёле'; ' хрэсьбіны', н.-луж. *wjasele* 'радасць, весялосць', в.-луж. *wjeselo* 'радасць, пацеха, асалода, забава', чэш. *veselí* 'вясёлы, радасны настрой, весялосць'; 'вясёлая забава'; 'вяселле', славац. *veselie* 'вяселле', уст. 'весялосць, забава, добры настрой', славен. *vesélje* 'радасць, пацеха, забава, асалода', серб.-харв. *весе̑ље* 'бяседа, забава, весялосць', макед. *веселие* 'весялосць, банкет, бяседа'; 'урачыстасць, свята', балг. *веселие* 'весялосць, свята'. Да прасл. *veselьje*, якое ўтворана ад *вясёлы* (гл.) і абстрактнага суф. *-ьje*.

**Вясе́лліка** 'вяселлейка' (Нас.). Утворана пры дапамозе памяншальна-ласкальнага суф. *-ейк-а* ад наз. *вяселле* (гл.).

**Вясе́льнік** 'запрошаны на вяселле госць' (КТС, Я. Брыль, С. Александровіч, шчуч. Сцяшк., лельч., Мат. Гом.), драг. *высі́лнык* 'удзельнік вяселля' (Клім.). Утворана ад прым. *вясе́льны* (гл.) і суф. *-ік*. Параўн. таксама польск. *weselnik*, чэш. *veselník* 'тс'.

**Вясе́льніца** 'нявеста' (КТС, Я. Купала). Да *вясельны* (гл.).

**Вясе́льны** 'які мае дачыненне да вяселля' (Нас., КТС, БРС, Мал., віл., З нар. сл.). Утворана пры дапамозе суф. *-н-ы* (<*ьnъ*) ад *вясе́лле* (гл.).

**Вя́сельны** 'які мае дачыненне да *вя́сла*, зроблены з вясла'. Утворана ад *вя́сла* (гл.) і суф. *-н-ы* (<*ьnъ*).

**Вясе́льца** 'вясло лодкі' (Бяльк., КТС) — памяншальная форма лексемы *вясло́* (гл.).

**Вя́сельца** (КТС) — памяншальная форма лексемы *вя́сла* (гл.).

**Вясе́льшы** 'весялейшы' (Нас., Сцяшк. МГ) — параўнальная ступень прыметніка *вясёлы*, утвораная пад уплывам польск. *weselszy*.

**Вясе́лячы** *(газ)* 'закіс азоту, які ап'яняе чалавека' (БРС). Запазычанне (калька) з рус. *веселящий (газ)*.

**Вясе́нка,** *вясенька* (КТС) — памяншальна-ласкальная форма, утвораная пры дапамозе суф. *-к-а* ад *вясна́* (гл.).

**Вясе́нні** 'веснавы' (БРС, КТС), *вясеньній* 'тс' (Бяльк.), укр. *весінний*, рус. *весенний*, ст.-рус. *весненыи, весньный*, польск. *wiosenny*, чэш. мар. *vesní*. Утворана пры дапамозе суф. *-н-і* (<*-ьnъ*). Да *вясна́* (гл.).



**Вясёланка,** *вясёлонка* 'святліца' (брасл., Карскі, Труды) — рэгіянальнае ўтварэнне ад *вясёлы* (гл.) са значэннем 'светлы', параўн. рус. калуж. *весёлая ночь* 'светлая, месячная ноч', *вясёлка* 'адкрытае месца, якое асвятляецца і саграваецца сонцам', і памяншальна-ласкальнага суф. *-он-к-а*.

**Вясёласць** 'весялосць' (КТС), *вясёлысьць* 'тс' (Бяльк.), укр. *веселість*, рус. *весёлость* 'тс', польск. *wesołość* 'вясёлы настрой, пацеха, радасць, добры гумар'; 'вясёлы спосаб правядзення часу', н.-луж. *wjasołosć*, в.-луж. *wjesołosć* 'весялосць, радасць', чэш. *veselost* 'весялосць, забава, пацеха', паўдн.-усх. 'вяселле', славац. *veselost'* 'весялосць, забава', славен. *vesȇlost*, серб.-харв. *ве̏селост*, макед., балг. *веселост*. Прасл. *veselostь*, утворанае з суф. *-ostь* ад прым. *veselъ*>*вясёлы* (гл.). Бел. літаратурная форма мае націск на канчатку.

***Вясёлачка,** *вясёлычка* — памяншальнае ад *вясло́* 'вясло ў чаўне' (Бяльк.). Утворана пры дапамозе суф. *-ачк-а*. Паводле рэдкасці суфікса н. р. і тэрытарыяльнай абмежаванасці ўжывання, можна меркаваць, што слова было запазычана з рус. гаворак, дзе маецца арханг., алан., валаг., перм. *весёлышко* 'тс', суфікс якога быў відазменены на бел. глебе пад уплывам *-ечк-а* (як *лісцечка, гняздзечка*).

**Вясёлка**$_1$ 'радуга' (БРС, КТС, Янк. II, Касп., Гарэц., Сцяшк. МГ, Грыг., Мядзв., пух., З нар. сл.), *wiesiółka, wiesiółka* (Маш.), укр. *весе́лка*, а таксама *веселиця, веселичка, веселівка, весівка*, рус. пск., смал., валаг. *весёлка* 'тс'. Да *вясёлы* (гл.). Усх.-слав. арэал пашырэння лексемы можна звязаць з літ. *linskmýnė* 'вясёлка'↔*liñksmas* 'вясёлы' (Непакупны, Связи, 64—65) і вепск. *il'oi-kal'oi* 'вясёлка'↔*ilo* 'весялосць, смех'; падобная ж матывацыя ў бел., рус. *радуга*<<*radǫga*↔*radъ* 'рады' (Фасмер, 3, 431). Параўн. таксама *весялу́ха*$_2$ (гл.). Сюды ж *вясёлкавы*. Афанасьеў (Представл., 3) атаясамлівае *висялуха* з *висеть* 'якая вісіць у паветры'.

**Вясёлка**$_2$ 'таемнік, Lathraea squamaria L.' (мін., Кіс.) — рэгіянальнае ўтварэнне ад *вясёлы* (гл.) і суф. *-к-а*. Названа расліна паводле шматколернасці (бледна-ружова-чырвоная) суквецця. Параўн. тое ж у рус. *весёлые глазки* 'браткі, Viola tricolor L.'

**Вясёлка**$_3$ 'смаржок, Gyromitra esculenta' (Інстр. II), гом. *вясёлкі* 'смаржкі' (Працы, 6), узд. 'порхаўка, Phallus impudicus', укр. *весе́лка вонюча* 'тс', *весе́лка чо́ртова* 'Phallus caninus Huds.' Да *вясна*>**вясеннік*<*вясенні грыб*. Паводле народнай этымалогіі, ад *вясёлы* ў сувязі з незвычайнасцю формы (выгляду) грыба. Гл. таксама *весялуха*$_5$, *вяселік*$_2$.

**Вясёлка**$_4$ 'барадаўчатая бяроза, Betula verrucosa Ehrh.' (лёзн., КЭС); 'звычайная дробналістая бяроза' (паўн.-віц., Нар. лекс.), рус. смал., пск. *весёлка* 'кучаравая бяроза з гладкімі бліскучымі лістамі', смал. *весёлочка* 'тс'. Пад уплывам народнай этымалогіі — да *вясёлы*. Больш імаверна да *вясна* (гл.). Параўн. таксама ўкр. назву вясенняга месяца сакавіка *березень*.

**Вясёлкі** мн. 'дзіцячы сад' (брагін., Мат. Гом.) — відазмененае *ясёлкі*<*яслі* з прыстаўным *в*-.

**Вясёлы** 'пранікнуты весялосцю, радасцю; прыемны для погляду, не пануры'; 'той, хто дае, выклікае радасць'; 'яркі, светлы' (БРС, КТС, Бяльк.), драг. *высёло́* (прысл.) 'прыгожае месца, асветленае, з буйнай расліннасцю, магчыма, на ўзвышшы' (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), укр. *веселий*, рус. *весёлый* 'вясёлы, радасны', каз. 'хуткі', смал. 'ласкавы', у спалучэннях 'рознакаляровы (камень, кветкі)'; 'асветлены, светлы, ясны (пра ноч)'; 'шматлікасць (рыбы, суквецця)', ст.-рус. *веселый* 'вясёлы, які радуе багаццем, дастаткам'; польск. *wesoły* (ст.-польск. *wiesioły*), н.-луж. *wjasoły*, в.-луж. *wjesoły* 'вясёлы', чэш. *veselý* 'тс', валаш. *veseła* 'карова з белымі нагамі і хвастом', мар. *veselý* 'светлы, чырвоны (колер)', славац. *veselý* 'вясёлы', славен. *vesę̂l* 'тс', серб.-харв. *вȅсео* 'прыгожы, пагодлівы (дзень, месяц'; 'светлы, ззяючы'; 'ясны, каляровы'; 'буйны, свежы (расліна)'; 'хуткі, жвавы'; 'цудоўны, незвычайны', макед., балг. *весел* 'вясёлы', ст.-слав. **веселъ**. Прасл. *vesel-ъ* мела значэнне 'буйны, пышны, паўнакроўны; каляровы, які іграе жывымі, яснымі колерамі, які радуе, вясёлы'. Самымі блізкімі і.-е. адпаведнікамі з'яўляюцца лат. *vęsęls* 'здаровы, поўны, цэласны, цэлы, непашкоджаны', прус. *wessals*, ілір. анамаст. *Veselia* 'Felicitas' (Будзімір, RIEB, 1, 284; Краэ, IF, 57, 113). Відавочна, *-elъ* з'яўляецца суфіксам, тады корань *ves-* < і.-е. **u̯es-* са значэннем 'добра' (Мюленбах—Эндзелін, 4, 543) ці 'жыць' (Праабражэнскі, 1, 78); таксама Младэнаў (63) і Покарны (826) звязваюць гэты корань з лац. *vēscor* 'атрымліваць асалоду ад ежы', санскр. *vas-* 'ем', *vásu-* 'добры', кімр. *gwest* 'бяседа', гоц. *wisan* 'банкетую', ірл. *feis* 'есці'. Фасмер (1, 303) адносіць сюды яшчэ авест. *vaŋhu-*, *vohu*, гальск. *ves(u)-* (ва ўласных імёнах *Vesunertus, Vesclevesis*), ірл. *fiu* 'варты, роўны'. Фік (545), Буасак (234) і Гараеў (1896, 46) адносяць аснову *ves-* да і.-е. **u̯ek'* 'хацець' (ст.-інд. *vaś-mi* 'хачу, жадаю', грэч. ἑκών 'ахвотны', ἕκηλος 'спакойны'). Тое ж Махэк$_2$ (685), які праводзіць паралель паміж слав. *vesel-ъ* і ням. *lustig* (<*Lust* 'радасць, захапленне, жаданне, ахвота', 'юрлівасць'), суадносячы яго з лексемай *vášeň* 'страсць'. Торп (405), Скок (3, 578), КЭСРЯ (77) звязваюць *вясёлы* з лексемай *вясна́* (гл.), што зусім імаверна, калі прыняць пад увагу значэнні лексемы ў паасобных слав. гаворках: 'месца з буйной расліннасцю'; 'рознакаляровыя кветкі'; 'свежыя, буйныя расліны'; 'здаровы, цэласны', а таксама ўкр. *квітень*, польск. *kwiecień* — назвы вясенніх месяцаў. Сюды ж прысл. *вясёла* (КТС).



**Вясёнка**$_1$ 'вясна' (КЭС, лаг.). Да *вясенка* (гл.).

**Вясёнка**$_2$ 'вясенняе жаночае паліто' (навагр., З нар. сл.) запазычана з польск. *jesionka* 'дэмісезоннае паліто'. Пачатковае *в*- прыстаўное, па аналогіі да *вясна*.

**Вя́ска** 'сена, салома, канюшына, увязаныя ў рэзгіні ці ў вяроўку або лейцы' (докш., Янк. Мат.). Да *вязка, вяза́ць* (гл.).

**Вяско́вец** 'жыхар вёскі' (БРС, КТС) — уласнабеларускае. Утворана пры дапамозе суф. *-овец* ад *вёска* (гл.). Сюды ж *вяскоўка, вяскоўскі* (КТС), *вясковы* 'сельскі' (БРС, КТС, Яруш., Бяльк.).

**Вясло́**$_1$ 'звязка, пучок дробных нанізаных прадметаў' (БРС, КТС, Шат., Янк. I, Інстр. III, Масл.), *вя́сло* (Касп., Нас.), *вя́сла* (Янк. Мат., Гарэц.), сувалк. *v'osła* 'скрутак лыка' (LP, 1960, 351), ст.-бел. *весло*, укр. жытом. *весло* 'звязка якіх-небудзь аднародных прадметаў', рус. тамб., кур., маск., разан. *вя́сло* 'жгут саломы, якім звязваюць снапы', *свясло́* 'перавясла', вяц. 'пучок ільну па 20 жменей', ст.-рус. *съвѧсло*. Усх.-слав. утварэнне ад *вязаць* (гл.). і суф. *-сло* (<*-slo*).

**Вясло́**$_2$ 'вага ў студні з жураўлём' (в.-дзвін., ДАБМ), укр. *весло́* 'каромысла'. Да *весіць* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-сло* (<*slo*). Відавочна, гэта калька з літоўскага (латышскага) слова; параўн. *svirtis* 'журавель у студні', 'рычаг'↔літ. *svyrẽti* 'звісаць, вісець над чым-небудзь', *svirti* 'нахіляцца, звісаць'. Сюды ж *весілка* 'ручка чайніка' (гл.).

**Вясло́**$_3$ 'прыналежнасць лодкі' (БРС, КТС, Мядзв., Янк. I, Бяльк., Шат., Сцяшк. МГ); 'прылада для кіравання плытом у выглядзе абчасанага бервяна, якое прымацоўваецца наперадзе і ззаду плыта' (зах.-дзвін., Нар. сл.). Укр. *весло* 'вясло', рус. *весло* 'тс', бранск., арл., разан., том. 'лапатка для замешвання цеста', польск. *wiosło* 'вясло, драўляная лапатка'; 'ногі водных птушак', н.-луж. *wjasło*, в.-луж. *wjesło* 'вясло', чэш., славац. *veslo* 'вясло'; 'нага воднай птушкі', славен. *véslǫ* 'вясло'; 'паклёпніцкі язык', *vésla* ж. р. 'вясло'; 'хлебная лапата'; 'вялікая лыжка', серб.-харв. *вѐсло* 'вясло'; 'плаўнік (у рыб)',

макед., балг. *весло* ’вясло’, ст.-слав. **весло.** Прасл. *veslo* (<*vez-slo*)<**veg’h-slom*. Да *вязці* (гл.). Параўн. Гараеў, 1896, 74; Міклашыч, 387; Праабражэнскі, 1, 79; Фасмер, 1, 303; КЭСРЯ, 77; Шанскі, 1, В, 73; Брукнер, 623; Младэнаў, 63; БЕР, 1, 137; Голуб—Копечны, 415; Махэк$_2$, 685; Скок, 3, 579. Сюды ж *вясляр, вяслярны, вяслярства* (КТС).

**Вясна́** ’пара года паміж зімою і летам’; ’светлая, радасная пара жыцця — маладосць’ (БРС, КТС, Бяльк., Касп.), палес. *высна́* (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *вэсна́* (Бес.), пін. *вестна* (Шн., 2) з устаўным *-т-, вісна́* (Бяльк., Касп.), *вісна ў вочы лезя* — «гавораць тады, калі пабыць доўга на двары пры снезе і сонцы, а пасля прыйсці ў хату і нічога адразу не бачыць» (КЭС, лаг.), *вясна вочы крадзе* — пра вясенняе сонца, якое слепіць вочы (віл., Нар. сл.). Укр. *весна́,* рус. *весна́* ’вясна’, арханг., кастр. ’вясенняе разводдзе’, паўн. ’першы вясенні дождж’, с.-урал. ’вяснушкі, рабацінне на твары’, перм. ’ліхаманка, трасца’, свярдл. ’трава, якою лечаць ліхаманку’, польск. *wiosna* ’вясна’; ’вясеннія палявыя работы’; ’галодная пара перад новым ураджаем’, чэш. усх.-мар. *vesno* ’вясна’, *odvesno* ’вясною’, *vesna* (паэт.) запазычана з рус. мовы, тое ж славац. *vesna, Vesna* ’багіня вясны ў старажытных славян’, славен. *vêsna* ’вясна’; ’міфічная жаночая істота, якая стракоча, бухае, трашчыць’; ’пра чалавека, які моцна кашляе’, серб.-харв. *вѐсна* ’вясна’, ст.-слав. **весна.** Прасл. *vesna* ’пачатак лета’— старажытная і.-е. рознаскланяльная аснова на *-r-//-n-:* наз. скл. **u̯esr-,* род. скл. *u̯es-n-es;* у слав. мовах за аснову прыняты ўскосны склон, у балт. мовах — прамы: літ. *vãsara*<<*vesȩrà* (Экерт, LKLR, 143—154), лат. *vasara* ’лета’; параўн. таксама грэч. *ἔαρ,* лац. *vēr,* ст.-ісл. *vár,* ст.-фрыз. *wars,* арм. *garun,* ст.-інд. *vasantás* ’вясна’, *vasar-* ’рана’, авест. *vaŋri-* ’вясною’. Узыходзіць да і.-е. кораня **au̯es* ’асвятляць’. Некаторыя этымолагі звязваюць з лексемай *вясёлы* (гл.). Параўн. таксама Міклашыч, 386; Гараеў, 1896, 75; Праабражэнскі, 1, 79; Педарсан, KZ, 32, 246; Траўтман, 356; Буасак, 209; Майргофер, 20, 172; Мюленбах — Эндзелін, 3, 484; Голуб—Копечны, 413; Махэк$_2$, 685; Брукнер, 623; Фасмер, 1, 303; Шанскі, 1, В, 73; КЭСРЯ, 77.

**Вя́снішча** ’галодны перыяд вясною перад новым ураджаем, калі выйшлі запасы харчоў’ (КЭС, лаг.). Да *вясна́* (гл.). Утворана пры дапамозе павелічальна-зневажальнага суф. *-ішч-а.*

**Вяснушка.** Звычайна мн. л. *вяснушкі* ’рабацінне’ (БРС, КТС; з 1954 г.). Відавочна, пранікла з рус. мовы. Да *вясна́*



(гл.). Сюды ж *вясну́шкава́ты* (БРС, КТС), *вяснушкавы* (КТС), *вяснушчаты* (КТС).

**Вясну́шкі** ’журавіны (вясенні збор)’ (Касп.), рус. уладз. *веснушка* ’падснежныя журавіны’, уладз. *весну́шки* ’журавіны’. Бел.-рус. ізалекса, утвораная пры дапамозе суф. *-ушк-а* (<*-их-а*) ад *вясна́* (гл.).

**Вясня́к$_1$** ’вясковы жыхар, селянін’ (Нас.). Запазычана з польск. *wieśniak* ’тс’. Аналагічна *весняцкі* ’сялянскі’<польск. *wieśniacki, веснячка* ’сялянка’<польск. *wieśniaczka.*

**Вясня́к$_2$** ’сад, пасаджаны або перасаджаны вясною’ (слаўг., Яшк.), рус. *весняк* ’малады лясны зараснік, які вырастае вясной’. Да *вясна́* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. Nomen collectivum *-няк.*

**Вясня́к$_3$** ’цёплы паўднёвы вецер’ (слаўг., Яшк.), рус. арханг., разан. ’вясенні паўдн.-усх. вецер’. Да *вясна́* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-як.*

**Вясня́нка$_1$** ’вяснушка на твары’ (ветк., Мат. Гом.), укр. *весня́нки,* рус. кастр., пск. *веснянки* ’тс’. Усходнеславянскае ўтварэнне, ад *вясняны* (гл.)<*vesnьnъ* і суф. *-к-а.*

**Вясня́нка$_2$** ’вясенняя песня’ (БРС), *вяснянкі* ’благавешчанскія вясеннія песні’ (Шн., 1), укр. *веснянка* ’вяснянка’, рус. *веснянки* ’вясеннія песні, якія спяваюцца ў карагодах ад благавешчання да ўзнясення’. Польск. *wiośnianka.* Новае запазычанне. Усх.-слав. лексема, утвораная ў выніку семантычнай кандэнсацыі выражэння *вясенняя песня,* як, напрыклад, *чыгунка* (<*чыгуначная дарога*).

***Вяснянка$_3$,** *весня́нка* ’яравая пшаніца’ (Выг.). Да *вясна́* (гл.). Утварэнне, аналагічнае да папярэдняга слова.

**Вясня́нка$_4$** ’насякомае з сям’і Plecoptera’ (БРС). Запазычана, відаць, з рус. мовы. Названа так таму, што выхад з вады і вылет даспелых насякомых пачынаецца ранняй вясною.

**Вяснянка$_5$** ’апенька’ (б.-каш., Мат. Гом.), відавочна, ’летняя апенька, Pholiota mutabilis’. Да *вясна́* (гл.). У дадзеным выпадку *вясна* азначала ’вясна і лета’, таксама як ў балт. мовах. І наадварот, у некаторых слав. гаворках (напр., сілезскіх) *lato* ’перыяд вясны і лета’. Утварылася шляхам семантычнай кандэнсацыі з *вясняная апенька.* Сюды ж *вясьнянкі* ’вясеннія апенькі’ (Інстр. II).

**Вясня́ны** ’вясенні’ (Сцяшк., МГ, КТС), драг. *высне́ны* ’тс’ (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), *вясня́на во́йна* ’воўна ад

стрыжаных увесну авец', *вясняны дзень* 'абрадавы вясенні дзень' (Сцяшк. МГ), укр. *весняний,* рус. дан. *весняный.* Да *вясна* (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-ян-ы.*

**Вясня́чка** 'яравая пшаніца' (слонім., Сцяшк. МГ) — вузкарэгіянальнае ўтварэнне ад *вясна́* (гл.) і суф. *-ячк-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 182).

**Вясталка** 'жрыца старажытнарымскай багіні Весты — захавальніцы дамашняга агню' (БРС, КТС), укр., рус. *весталка,* польск. *westalka* і г. д. Запазычана з польск. ці з рус. мовы, у якой < з франц. *vestale* (Фасмер, 1, 304) або непасрэдна з лац. (у канцы XVIII ст.) паводле Шанскага, 1, В, 74.

**Вястун** 'веснік, прадвеснік' (БРС, КТС), рус. пск. *вестуно́к* 'веснік', польск. *zwiastun* 'прадвеснік, вястун'. Бел. лексема — пранікненне польск. *zwiastun* (без прэфікса *z-*, які, аднак, захаваўся ў слове *звестка* (гл.)). Да *ведаць, весць* (гл.). Сюды ж *вясту́нка* (БРС, КТС).

**Вясьці** 'весці, цягнуць' (КТС, Бяльк., Касп., міёр., З нар. сл.), *вясьці́сь* 'весціся, быць, паводзіцца, устанавіцца звычаю' (Бяльк.). Да *ве́сці* (гл.).

**Вясціна** 'вестка' (КТС). Утворана пры дапамозе сінгулятыўнага суф. *-іна* ад *весць* (гл.).

**Вясы**$_1$ 'вага, вагі' (Бяльк., Інстр. III, Сцяшк. МГ) запазычана з рус. *весы* 'тс' (Шанскі, 1, В, 77; КЭСРЯ, 77).

**Вясы**$_2$ 'вага ў студні з жураўлём' (б.-каш., ДАБМ) магло ўзнікнуць як перанос *вясы*$_1$ або як пераклад бел. *вага* 'вага ў студні з жураўлём' пад уплывам рус. *весы* 'вага'.

**Вя́тка** 'натоўп, гурт людзей, арцель, чарада' (Гарэц., КСП, КТС, Нар. сл., Садоўскі, вусн. паведамл.). Рус. *вятка* 'тс' (смал., Даль, пск., СРНГ); 'вячоркі' (смал., Садкова, вусн. паведамл.). Слова з даволі вузкім арэалам распаўсюджання. Параўн., напрыклад, заўвагу Козырава: «*Вятка...* — специфически смоленская лексика» (Бел.-рус. ізал., 59). Недахоп даных прымушае выказаць толькі здагадку. Можна дапусціць, што гэта рэпрэзентацыя старой асновы *jat-* (*-iti*) (параўн. серб.-харв. *jätiti* (*se*) 'збірацца'). Па форме (далучэнне пратэзы) гэта, у такім разе, утварэнне тыпу *вячай, вятройка* (гл.). Да семантыкі параўн. паўднёваславянскую лексіку: серб.-харв. *jäto* 'чарада, абшчына, брацтва', славен. *jâta* 'чарада, статак', балг. *ято* 'чарада' і да т. п., аб якіх гл. Скок, 1, 761. *Вятка,* такім чынам, дэмінутыў ад *jat-a* або іначай суфіксальнае ўтварэнне ад дзеяслоўнай асновы *jat-*. Усю праблематыку апошняга гл. пад *ятка*$_2$.



**Вятлі́на** (Байк. і Некр.). Укр. *vettýna* 'Salix vitellina L.' (Макавецкі, Sł. botan.); 'Salix viminalis L.' (там жа), рус. дыял. *ветли́на* 'Salix L.' Ад *ветла* з суф. *-іна.* Гл. *ветла* (там і літ-ра). Адносна суфікса *-іна* гл. ГБМ, 1, 115; Крывіцкі, З нар. сл.; Слаўскі, SP, 120—123. Усходнеславянскае ўтварэнне; рус. *ветлина* 'бульбоўнік і інш.' або другаснае, або адлюстроўвае першасную дыфузнасць значэння.

**Вятлю́к** 'маладзік' (Бяльк.). Па фармальнаму падабенству гэта ўтварэнне, якое з'явілася ў выніку дээтымалагізацыі першаснага *вятох* (аб магчымасці такога працэсу гл. *вятух*). Пэўныя цяжкасці выклікае, аднак, наяўнасць *л.* Дапускаючы суфіксацыю *-юк,* тыповую для гэтага раёна, можна думаць, што маглі ўзнікаць і трансформы **-люк* як вынік перараскладання слоў тыпу *шчаўлюк, шаплюк, гаплюк, камлюк* і да т. п.; параўн. асабліва *ціцярлюк* 'цецярук' (Бяльк.), дзе *л,* праўда, магло ўтварыцца фанетычным шляхам. Параўн. яшчэ фармальна падобнае *жаўтляк* 'жоўты агурок'. Іншая версія — існаванне формы тыпу **ветлы* (<**ветхлы*?), якую, магчыма, пацвярджае н.-луж. *wjatły* 'зношаны, стары, струхлелы'. Ва ўсякім выпадку суфіксацыя памяншальная, і гэта тлумачыць значэнне 'маладзік' разглядаемага слова.

**Вято́к,** *веточок* 'маладзік' (Нас., Чач.). Польск. *wietek, wiotek,* чэш. валаш. *vetek* 'першая або апошняя квадра месяца', якія з прасл. *vetъхъ* ' стары'; больш падрабязна гл. пад *ветах.* Што датычыцца бел. *вяток,* то яно, зыходзячы з даных геаграфіі (гродз., вілен., Нас.), семантыкі і фанетыкі, запазычана з польскай мовы. Праблематычным застаецца час, калі адбылося запазычанне. Магчыма, гэта даволі новае слова перыяду моцнага польскага ўплыву, а магчыма, і вельмі старое кантактнае запазычанне, калі польск. *wietek, wiotek* займала больш шырокую тэрыторыю (зараз толькі на поўдні, гл. Купішэўскі, Słownictwo, карта 3 і ст. 47—48). У такім разе семантычныя змены тыпу 'стары месяц'—'маладзік' і да т. п. адбываліся таксама рана. Параўн. яшчэ бел. паўн.-зах. *вётак* 'назва старога месяца' (Маш.. Atlas, 2, карта 1). Верагодна таксама дапускаць незалежнае ўзнікненне бел. слова як утворанага з памяншальнай суфіксацыяй *-ок* і пад. (параўн. *вятлюк)* або фанетычным шляхам; параўн. *жанік*<*жаніх.*

**Вято́х** 'апошняя квадра месяца' (Байк. і Некр., Гар., Інстр. I, Карскі, 2—3, Касп., КСП, КТС); 'месяц' (Шатал.). Слова вядома на большай частцы беларускай тэрыторыі (за выключэннем поўдня). За межамі — рус. дыял. *ветох* 'тс' (волх., смал., наўг., гарад., СРНГ); 'месяц' (смал., СРНГ). Ад *vetъхъ*

са зменай націску пасля субстантывацыі прыметніка (або ў выніку семантычнай кандэнсацыі канструкцыі *vetъхъ mě-senьсь*). Гл. першаснае *ветах.*

**Вятра́к** 'ветраны млын' (Байк. і Некр., БРС, Бяльк., Выг., Касп., КСТ, КТС, Маш., Шат., Яруш.). Укр. *вітряк,* рус. *ветряк,* польск. *wiatrak,* чэш. *vetrák, větřák,* славац. *vetrák* 'тс'. Паўночнаславянскае ўтварэнне ад асновы *ветр-* з суф. *ак/'ак.* Улічваючы характар рэаліі, цяжка дапускаць старажытнасць утварэння. Параўн. яшчэ в.-луж. *větrak* 'вентылятар', *wětrak* 'ветрагон'.

**Вя́транка** 'ветраная воспа' (БРС, КТС, Інстр. II, Мат. Гом.). Рус. *ветрянка* 'тс'. Утварэнне на базе выразу 'ветраная воспа' шляхам семантычнай кандэнсацыі з суф. *-к-*; гл. Фасмер₁, 307, КЭСРЯ, 2, 78. Бел. *вятранка,* верагодна, з рус. мовы.

**Вятро́ўка** 'ятроўка' (Жд., 2), *ветроўка* (КТС). Утворана ад *ятроўка* (гл.) у выніку далучэння пратэзы *в-* (аб тэрыторыі распаўсюджання пратэзы гл. ДАБМ, к. 47). Параўн. *вячай/ячай, вікона/ікона* і інш. Больш падрабязна аб такой з'яве гл. пад *вячай.* Гл. яшчэ *ватроўка* 'ятроўка, жонкі родных братоў адна для другой'.

**Вятро́ўкі** 'басаножкі' (Сцяц., Нар., Сцяц., З нар. сл., Жд.); 'жаночыя туфлі з адкрытай пяткай' (Інстр. I, Сцяшк. МГ). Запазычана з польскай мовы; гл. Сцяц., Нар., 152; Крамко, З нар. сл., 85 (у апошняга «ў перыяд да 1939 г.»). Геаграфія слова (толькі заходняе) на карысць гэтай думкі. Параўн. польск. *wiatrówka* 'летняе адзенне' (Варш. сл.).

**Вятро́ўнік** 'Filipendula Mill., рус. лабазник' (Кіс.), *вятроўнік,* 'Spiraea L.', *вятроўніца* 'Spiraea L.?, рус. таволга' (БРС, РБС, КТС). Цяжка зразумець, якую расліну мелі на ўвазе складальнікі БРС, таму што рус. *таволга* адпавядае розным лац. тэрмінам. Параўн. Лек. расл., 6, 205, дзе рус. *таволга* і *лабазник* з'яўляюцца сінонімамі (ВСС, 1, 374, 845 і інш.). Кісялеўскі (125) рус. *таволга* разумее толькі як 'Spiraea L.' Гэтыя ваганні тэрмінаў адлюстраваны і ў народнай мове; параўн. назвы *спірнік, спірэй, спірэя лясная* для Filipendula hexapetala Gilib. (*Spiraea filipendula* L.), гл. Кіс., 54; параўн. Макавецкі, Sł. botan., 153—154, 357. Бел. *вятроўнік* можна параўнаць з паўн.-рус. *ветрянка* 'дубец', *ветерье* 'куст', якія лічацца роднаснымі ст.-інд. *vētráḥ* 'чарот', славен. *vîtra* 'скрутак, лаза, парастак'; гл. Фасмер, 1, 307, якія далей да *вить, ветвь.* Да гэтага магчыма дадаць чэш. дыял. *vitra* 'жгут, дубец' (<*vi-ti*; гл. Махэк₂, 692—693). Бел. *вятроўнік,* магчыма,



прымыкае да адзначаных слоў. Гэта пацвярджаецца яшчэ і наступным. Рус. *лабазнік,* тоеснае бел. *вятроўнік,* немагчыма аддзяліць ад рус. *лабазка* 'Spiraea ulmaria' (Фасмер, 2, 443, іншая назва гэтай расліны — Filipendula ulmaria Maxim.). У сваю чаргу *лабазка* лічыцца роднасным словам тыпу рус. *лабазина* 'дубец, палка', укр. *лабуз* 'сцяблы пустазелля', польск. *łobozg* 'пустазелле', *łabuż* 'вадзяныя расліны, трыснёг, чарот'; гл. больш падрабязна Фасмер, 2, 442—443. Параўн., дарэчы, у Даля: «Более известна под именем таволги Spiraea crenata, коей тонкие и крепкие прутья идут у нас на шомпола и кнутовища» (Даль, 4, 709) і назвы для Spiraea ulmaria — чертогрыз, топырка (Даль, 1, 135).

Больш верагодным уяўляецца, аднак, што бел. *вятроўнік* утворана іншым шляхам. Параўн. укр. лем. *вітерник* 'хвароба, калі на скуры з'яўляюцца прышчы, . высыпка' і 'расліна для лячэння гэтай хваробы'. Аналагічна рус. дыял. *ветреник* 'Anemone silvestris L.'; 'расліна, якая ўжываецца для лячэння свербу'; 'Pulsatilla patens Mill.(=Anemone patens L.)', якой лечаць жывёл ад свербу, *ветренка* (*прострел!*) 'Pulsatilla patens Mill.', адвар і настой якога—добры сродак ад рэўматызму, *ветрунок* 'тонкія пялёсткі бярозы, якія калышуцца на ветры і якія выкарыстоўваюць як сродак ад фурункулаў' (СРНГ). Бел. *вятроўнік* 'Filipendula ulmaria Maxim.' ужываецца пры рэўматызме, падагры, хваробах скуры; гл. Лек. расл., 6, 209.

Іншую матывацыю знайсці цяжка (параўн., праўда, лац. *Anemone* і рус. *ветреница*; гл. Заверуха, Квіти, 53), хаця, безумоўна, ёсць розныя прычыны, па якіх расліна можа атрымаць назву з такой асновай. У балгарскай мове, напрыклад, шмат назваў з асновай *вятър-* абазначаюць зусім розныя расліны: *купену, валошку, зарніцу, касцянец, эспарцэт, букашнік* і г. д.

**Вятро́ўніца** 'вятроўнік' (РБС, КТС). Гл. *вятроўнік.*

**Вятру́га** 'моцны вецер' (Байк. і Некр., КТС). Укр. *вітрюга* 'тс' (Грынч.). Ад асновы *ветр-* і суф. *-уга,* у дадзеным выпадку з узмацняльным адценнем. Адносна словаўтварэння гл. Слаўскі, SP, 68.

**Вятры́ла** 'ветразь' (КСТ). Хутчэй за ўсё, як і ўкр. *вітрило* (Шаўчэнка), запазычана з рускай мовы. Рус. *ветрило* са ст.-слав. **вѣтрило**; параўн. балг. дыял. *вѐтрило, ветри́ло* 'парус, ветразь'. Рус. дыял. назвы тыпу смал. *ветри́ло* 'прыстасаванне для ахова стога ад ветру' сюды непасрэдна не адносяцца.

**Вятры́ска** 'моцны вецер' (КТС, Сцяшк.). Польск. *wiatrzysko, wietrzysko* 'віхар', в.-луж. *wětrisko* 'жахлівы вецер' н.-

луж. *wētšisko* 'навальніца' (Шведя), чэш. дыял. *větřisko* 'моцны вецер'. Думку аб супольнай інавацыі гл. Цыхун, Бел.-польск. ізал., 146—147. Адносна суфікса, які лічыцца запазычаннем ў бел. мове з польск. (ГБМ, 1, 97), гл. Слаўскі, SP, 96. Адносна геаграфіі суфікса параўн. АЛА, мат. і дасл., 1971, к. 23.

**Вятры́шча** 'моцны вецер' (КСТ, КТС). Рус. *ветри́ще*, балг. *ве́трище* 'тс'. Даволі звычайнае ўтварэнне з суф. *-išče*, які ў дадзеным выпадку выконвае ўзмацняльную функцыю; гл. Слаўскі, SP, 96. Можна дапусціць архаічнасць утварэння.

**Вятрэ́ча** 'моцны, злы вецер, ветранае надвор'е' (КСТ, Янк. III). Ад асновы *ветр-* з дапамогай суфікса *-еча* па тыпу *гушчэча, пустэча* і г. д.; гл. Казлова, Бел. мова і мовазн. 2, 66—71. Паводле Трубачова, Слав. яз. 5, 177—178, бел. *-еча* < < прасл. *-otja*, якое рэканструюецца на падставе шэрага бел.-укр.-серб.-харв.-славен. ізалекс. Параўн. бел. *халадне́ча*, укр. *холодне́ча*, серб.-харв. *хладно̀ћа*, бел. *гале́ча*, укр. *голе́ча*, рус. смал. *гале́ча*, серб.-харв. *голо̀ћа*, славен. *golôča* і да т. п.; гл. Трубачоў, Проспект, 59—60. Наяўнасць *-е-* ў бел. і ўкр. суфіксах тлумачыцца або як вынік варыянтнасці *-otja/etja*, або як дысімілятыўнае змякчэнне *-otja* > *-etja* па тыпу рус. *ребенок* < *робенок* (Трубачоў, там жа, 60). Гэты суфіксальны тып распаўсюджаны па ўсёй беларускай тэрыторыі з канцэнтрацыяй (паводле Казловай, Бел. мова і мовазн., 2, 60) у гаворках Усходняга Палесся.

**Вяту́х** 'вятох' (Бяльк.). Рус. дыял. *ветух, вётух, ветух* 'месяц; месяц у апошняй фазе' (калуж., арханг. і інш., СРНГ). Як паказвае геаграфія, бел. слова можа быць і незалежным ад рус. форм. Верагодней усяго *вятух* — вынік дээтымалагізацыі, калі першаснае *вятох* стала ўспрымацца як вытворнае з дапамогай суф. *-ох*, які і замяніўся на больш прадуктыўны *-ух*. Адносна апошняга гл. Слаўскі, SP, 74—75.

**Вяха́**$_1$ 'пучок яловых лапак для выцірання коміна' (Шат.), *ве́ха* 'знакі з лапак ёлкі, якімі зімой указваюць дарогу' (Сцяшк. МГ). Польск. *wiecha* 'пучок, звязка, вянок з саломы і г. д.', чэш. *věch, wich* 'саламяны жмут і да т. п.' Традыцыйна параўн. са швед. *vese* 'жмут', ст.-інд. *veṣkāḥ* 'пятля', ст.-ісл. *visk* 'вязка саломы ці чароту', ст.-в.-ням. *wisk* 'пучок, жгут, скрутак', лац. *virga* 'галінка, прут' і г. д.; гл. Фасмер, 1, 308. Мартынаў (вусн. паведамл.) прапануе: *vĕxa* < *vě-ti* (*vějati*), як *strě-xa*. Параўн. яшчэ *вехаць*.

**Вяха́**$_2$ 'высокі дарожны шост, жэрдка, кол з пучком сена ці саломы; знак забароны для праезду і г. д.' (БРС, Нас., Яруш., Бір. Дзярж., Бес., КСТ, Шат.). Укр. *віха*, рус. *веха*, польск. *wiecha*, в.-луж. *wěcha*, н.-луж. *wjecha*, чэш. *vich*, славац. *viecha* 'тс', балг. тырн. *веха* 'мятла з саломы'. Відавочна, перанос значэння з часткі рэаліі на цэлае (пучок сена — шост з пучком сена). Семантыка, відаць, яшчэ праславянская ці ва ўсякім разе агульная для поўначы славянскага свету. Пра асаблівую архаіку значэння 'знак забароны' (бел., польск., луж., чэш.) гл. Махэк$_2$, 689. Параўн. яшчэ *вяха*$_1$.



**Вяха́**$_3$ 'высокі нязграбны чалавек, тонкі чалавек' (палес., Бел.-рус. ізал.). Рус. *веха* — паўночнае. Польск. *wiecha* 'худая і высокая жанчына' (Варш. сл.). Да *вяха*$_2$. Перанос, паводле падабенства, 'высокая тонкая палка — высокі, худы чалавек'; гл. Лучыц-Федарэц, Бел.-рус. ізал., 62. Даволі звычайна; параўн., напрыклад, *жардзіна* 'тс'. Параўн. яшчэ славен. *vệha* 'нясталы чалаве́к' (калі гэта толькі не ад *véchati* 'веяць').

**Вяха́**$_4$ 'цыкута, Cicuta virosa L.' (Дэмб., Касп., Кіс., віц., гродз., маг.); 'пылю́шнік, Thalictrum L.' (Інстр. II); 'амяла, Viscum album L.' (КСТ, Маш.); 'віка' (Нас.). Укр. *vex, vexa, vix, vixa, vjuxa, vyxa* 'Cicuta virosa L.', *vixa* 'амяла' (Макавецкі, Sł. botan.), *виха* 'амяла' (Лыс., Пал.), *veha* 'Thalictrum flavum L.', *veh* 'Sium latifolium L.', *veh ostrołystyj* 'Sium lancifolium L.', *veh małyj* 'Oenanthe aquatica Lam.' (Макавецкі, Sł. botan.), рус. дыял. *вех, вёх,* 'атрутная трава', *вех* 'Cicuta virosa L.; Aethusa cynapium L.; Aegopodium podagraria L.; Capsella bursa pastoris; Stellaria glauca With.', *вех малый* 'Oenanthe phellandrium Lam.', *вех болотный* 'Peucedanum palustre', *веха* 'трава, шкодная для жывёлы; Oenanthe L.; Sium latifolium L.; Thalictrum flavum L.; Salix L.; Cicuta virosa L.', *мышья веха* 'Ruscus aculeatus L.', *вёха, вях, вяха* 'Cicuta virosa L.', *вьёх* 'Peucedanum palustre; Cicuta virosa L.', *вяха* 'Conium maculeatum', *вехалка* 'Anthericum ramosum L.', *веховласик* 'Apera spica venti L.' (СРНГ), польск. *wiech* 'Cicuta'.

Відавочна, што пры разнастайнасці значэнняў словамі *вяха* і пад. называюцца пераважна расліны сямейства парасоністых. Трэба думаць, тут перанос па падабенству ад *вяха*$_1$ 'пучок саломы, галінак і г. д.' (гл.). Параўн., напр., польск. бат. *wiecha* 'кветаносная частка сцябла'. Прыклады падобнай з'явы: славен. *vệha* 'адлеглы ліст расліны', серб.-харв. *вѝјеха* 'віліна мятла 'Asparagus acutifolius'. Не выключана, аднак, што гэта незалежнае аддзеяслоўнае ўтварэнне і сюды не адносіцца. Працэс гэты ахоплівае амаль што ўсю ўсходнеславянскую тэрыторыю і акрэсліць больш вузкія ўнутраныя арэалы даволі цяжка. Больш-менш выразна акрэсліваецца тэрыторыя распаўсюджання значэння 'Cicuta virosa L.' (амаль

што поўнасцю бел., укр., рус., часткова польск.). Замкнёны арэал (на Палессі) утварае назва *веха* (*виха, віха*) 'Viscum album L.', аднак ёсць фіксацыі і на іншай тэрыторыі (галіц., Макавецкі, Sł. botan.). Улічваючы такія значэнні для слова *вяха*, як 'знак забароны', можна меркаваць (Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.), што перанос назвы на атрутныя расліны быў не зусім выпадковым. Укр. назвы тыпу *veś* і пад. (Макавецкі, Sł. botan.), відаць, вынік нейкіх фанетычных трансфармацый. Гл. яшчэ Рудніцкі, 1, 374—375. У лац. *viscum* 'амяла' іншая матывацыя (літаральна 'клейкае, ліпкае').

**Вя́хаць** 'брахаць' (Бяльк., полац., Янк. II, Яруш.), *вяхнуць* (КТС). Рус. дыял. *вя́хнуць* 'пішчаць' (маск., уладз., СРНГ), *вя́хнуць* 'гаўкнуць' (разан., СРНГ), *вяху — вяху* (пра брэх сабакі) (смал., СРНГ). Магчыма, ад **вякаць* 'брахаць, гаўкаць'; параўн. рус. дыял. *вякать* 'тс' (СРНГ) з заменай звычнага ў выніку экспрэсіўнага характару слова. Параўн. яшчэ *вячка* 'сабачы брэх' (пск., СРНГ).

**Вяхір** 'Columba palumbus L.' (БРС, Інстр. II, КТС). Рус. *вяхир*, дыял. *вяхерь* 'тс' (Даль). Пра бел. слова (яўна кніжны характар) можна думаць, што яно з рускай мовы. Што датычыцца рус. *вяхирь*, то ў Фасмера яно суадносіцца з *вятютень*, якое далей да *вячить* і *вякать*, што, відаць, вельмі няпэўна. Параўн. яшчэ *вяціцінь*.

**Вя́хнуць** 'гаўкнуць' (КТС). Гл. *вяхаць*.

**Вяхо́тка**₁ 'мачалка' (Байк. і Некр., БРС, Бяльк., КСП, КТС, Яруш.); 'рыззё' (Касп., КТС, Нас.). Рус. дыял. *вехотка* 'тс'. Памяншальнае да *вехаць* (гл.). Значэнне 'мачалка'— другаснае, на базе больш натуральнага 'пук саломы, веташ і г. д.'.

**Вяхо́тка**₂ 'куча, чарада' (КСП). Няясна. Магчыма, пераноснае ад *вяхотка*₁. Параўн. «Вяхоткай вошы па спіне поўзаюць» (КСП). Не выключаны, аднак, і іншы спосаб тлумачэння. Параўн. рус. валаг. *вя́ха* 'куча'. Далейшыя сувязі застаюцца няяснымі.

**Вяхра́нец** 'нячысцік' (Бяльк.). Зыходзячы з семантыкі, верагодней усяго параўноўваць з *віхар* 'нячысты дух', *віхор* 'чуб'. Да першага параўн. рус. дыял. *вихорный* 'род міфічнай істоты', смал. *вихровой* 'дух, які жыве ў віхры' і да т. п. Да *віхор* 'чуб'; параўн. бел. *хахлаты* 'нячысцік'. Пярэчыць гэтай думцы наяўнасць *я*<*і* ў першым складзе перад націскам, аднак не выключана, што трэба аднаўляць форму **вехранец*. Для такога тлумачэння параўн. рус. дыял. *ве́харь* і *вехо́рь*



'моцны вецер, віхар'. Здаецца, аднак, што можна лёгка вытлумачыць *я* і як вынік «гіпер'якання», выпадкі якога вядомы на сумежных тэрыторыях.

**Вяцьвісты** 'галінасты' (Бяльк., КТС). Рус. *ветвистый* 'тс'. Прыметнік ад **ветвь* з суф. *-іст-* аналагічна рус. ці хутчэй аднаго з ім паходжання. Параўн. *ве́цвійка* (гл.).

***Вяце́льнік**, *веце́льнік* 'галінкі вярбы' (КСТ). Рус. дыял. *ветельник* 'тс' (Даль). Ад *ветла* (**ветельны*?), форма з аднаўленнем *е* па аналогіі.

**Вяці́сты** 'галінасты' (КСТ, ТСБМ, петрык., Шатал.). Укр. *вітистий* (Грынч.), рус. *ветистый* (СРНГ). Прыметнік ад *вець*, суф. *-іст-*; гл. яшчэ *вецце* і *вець*. Бел., магчыма, незалежна ад асновы *вет-* (<*ветка*).

**Вя́ціцінь** 'вяхір, Columba palumbus L.' (Грыг.). Рус. дыял. *вети́тень* (Мат. СОС), *вятю́тень* 'тс' (Дабр., Звукоподр.). Бел. маг. *вяціцінь* складае адзін арэал з рускімі словамі. Фасмер далучае да апошніх яшчэ *вятютень, вятитель, вятюх, витютень, вититин, ветитин*, якія пазначаюцца як «цёмныя» і якія Трубачоў, са спасылкай на Унбегауна, лічыць гукапераймальнымі (Трубачоў, Дополн., 1, 308).

**Вяць** 'вянуць' (КТС, Яруш.). Як паказваюць славянскія формы (бел. *вянуць*, укр. *в'янути*, рус. *вянуть*, польск. *więdnąć*, в.-луж. *wjadnyć*, чэш. *vadnouti*, слав. *vädnúť*, серб.-харв. *вѐнути*, славен. *véniti*, балг. *ве́на, вя́на*), бел. *вяць* з'яўляецца другасным. Гл. *вянуць*.

***Вяцю-вяцю**, *вецю́-вецю́* 'падзыўныя словы для свіней' (КСТ). Укр. *вацьь, вацю, вець* (Грынч.), *вац-вац, вацьь-вацьь, вец-вец, вець-вець* (Лыс., Пал.). З паметай «юж.» *вацу, вацю, вачу* (Даль), *вац-вац-вац* (Раст.) 'тс'. Існуючыя этымалогіі (Смаль-Стоцкі, Приміт., 148: *вацьь*<*паць-паць* ад *паця* 'парася'; Рудніцкі, 1, 329, якому сувязь укр. *вець-вець* з воклічам *ацю!* уяўляецца больш падыходзячай) не пераконваюць. Для першай, аднак, можна знайсці падтрымку на ўкраінскай тэрыторыі; параўн. у Грынчанкі: «Біжу, як те поросятко, як на його скаже: «паць! паць!» або вацюкне». Не выключана таксама, што маг. *уцю! Уцю куды!* 'воклічы, якімі заганяюць парасят у хлеў' (З нар. сл.) адпавядае поглядам Рудніцкага. Улік матэрыялаў рускіх дыялектаў дазваляе прапанаваць больш надзейную версію. Маг. *выць! Выць куды!* (З нар. сл.) 'воклічы, якімі адганяюць парасят' знаходзяцца, бясспрэчна, у непасрэднай сувязі з рус. смал. *выть-выть-выть* 'словы, якімі падзываюць парасят і падсвінкаў' (СРНГ). На іншай рус-

22. Зак. 1876

кай тэрыторыі тыя ж словы ўжываюцца як падзыўныя для авечак: *выть-выть-выть* (куйб., СРНГ), *вец-вец-вец, вечь-вечь-вечь* (тамб., разан., СРНГ), *веч-веч, вещ-вещ* (СРДГ) і г. д.; дадаткова гл. АРНГ, к. 228. Такім чынам, атрымоўваецца пазіцыя, у якой бел. і ўкр. словы з'яўляюцца толькі пагранічнымі ў адносінах да рускай лексікі, і іх магчыма разглядаць як пранікненні з рускай тэрыторыі. Фармальныя змены —вынік спецыфікі ўжывання падобных слоў, якія да таго ж знаходзяцца ў рыфма-рытмічных адносінах. Параўн. метатэзы: *цку-цку<куц-куц* (АРНГ), *баська-баська<кабась-кабась* (Германовіч, Междом.) і г. д. Больш істотны «семантычны» бок пытання, аднак ёсць вялікая колькасць прыкладаў, якія дэманструюць пераносы: падзыўныя словы→адгонныя словы, падзыўныя словы для адной жывёлы→падзыўныя словы для іншай і да т. п. Падрабязней аб гэтым Германовіч, Междом., 55 і наст. Звычайна і часта для падзыву свіней ужываюцца падзыўныя словы для авечак: *куць-куць* (з варыянтамі), *вець-вець* і г. д., гл. АРНГ, Камент., 1051—1054, к. 223—224; Германовіч, Междом., 55—56, 61. Параўн. яшчэ тоеснасць: *кацю-кацю/вацю-вацю, кеч-кеч/веч-веч* 'падзыўныя словы для свіней' (Лыс., Пал.). Дадаткова параўн. яшчэ *баша-баша* 'падзыўныя словы для авечак' (ДАБМ, Камент.) і *баша-баша* 'падзыўныя словы для свіней' (СБГ). Да разглядаемай групы слоў адносіцца і бел. *вешка* (вешка-раба) 'тс' (Шпіл.); параўн. рус. дыял. *в'ешка* 'падзыўное слова для авечак' (АРНГ, Камент.). Магчыма, аднак, што рус. *в'ешка* да *в'ешын'ка, в'ешен'ка, в'ежен'ка* (там жа). Частка разглядаемых слоў паходзіць, відаць, ад назваў тыпу 'авечка', для іншых неабходна шукаць больш падыходзячыя тлумачэнні. Не пераконвае спроба Германовіча звязаць падзыўныя словы *выч* і пад. з рус. (ст.-рус.) *выть* 'надзел зямлі, ракі; ежа, час для ежы' і г. д., якія і фармальна падобны толькі для часткі падзыўных (рус. *выть-выть,* напр.). Гл. яшчэ адносна рус. *вычь.* Фасмер, 1, 372 (трактуецца як гукапераймальнае; параўн. між іншым у Даля, 1, 830: «Вячить вор., ряз. блеять, кричать как овцы, отчего вяч-вяч, выч-вычь, зазывная кличка овец»).

**Вяча́й** 'дзірка ў верхнім камені жорнаў, куды засыпаюць збожжа' (Інстр. III, Шатал., З нар. сл.), *вечэ́я* (Тарн.), *вечай* (Сцяшк. МГ). Рус. *вечея* (СРНГ, пск.; дзве іншых фіксацыі без лакалізацыі). Слова вядома на вузкай тэрыторыі (захад рускай і беларускай моўных зон). Рус. *вечея<ячея* яшчэ ў Даля. Беларускія формы адпаведна *ячай* (Сцяшк., МГ, Мат. АС), *ячэя́* (Тарн.). *В* не прыназоўнік *vъ,* як дапускаў Бернекер, а пратэза; параўн. дублеты: *ветроўка/ятроўка* (КСТ), *вехо/эхо* (КСТ), *вікона/ікона* (Янк. I), *ветаж<этаж* (Жд., 2). Незразумела *нечея* (Сцяшк. МГ), відавочна, выпадковая форма *н+j.* Прымаючы пад увагу *бічай* 'круглая дзірка ў верхнім камені ручных жорнаў' (Касп.), не выключана ўзаемадзеянне з *бічайка* (гл.). Да гэтага параўн. у Даля *обечайка* 'ячэя, ячэйка, вочка невада'; параўн. яшчэ *ячэя/вечэя/очэя* (Тарн.), дзе апошняя форма паказвае на збліжэнне з *око* 'вока'. Гл. дадаткова літаратуру пад *вечай* і *ячай.*



**Вяча́ць** 'верашчаць, крычаць' (Крывіч), *вэчати* 'раўці' (Бесар.). Укр. *в'яча́ти* 'бэкаць', рус. *веча́ть* 'крычаць' (пск., смал., СРНГ), *вяча́ць* 'вішчаць' (Даль), *вячу́* 'плачу', *вя́чать* (Фасмер), славен. *vę̂čati* 'крычаць' (Плет.). Гукапераймальнае ўтварэнне, чым тлумачацца ваганні ў фанетыцы. Параўн. *«вуол вэчит»* (Бесар.), «вячить... блеять, кричать как овцы» (Даль, 1, 830). Нельга аддзяляць ад *вякаць*; гл. Фасмер, 1, 375; Рудніцкі, 1, 510. *Вякаць* (*вячаць,* як *буркаць*) *бурчаць, ячаць/якаць* і да т. п. Рус. *вячать* і *ячать* звязаны; ва ўсякім разе фармальна і фанетычна яны паралельныя; гл. Фасмер, 4, 570, 571.

**Вячні́на** 'вечнае валоданне' (Касп.); 'вечнасць' (Жд., 2). Балг. дыял. *ве́чнина,* мак. *вечнина* 'вечнасць'. Архаічнае рэгіянальнае ўтварэнне ад *večьnъ* з суф. *-ina.* Аднак, прымаючы пад увагу прадуктыўнасць суфікса *-ina* (гл. Слаўскі, SP, 120—123), не выключана магчымасць самастойнага ўтварэння.

**Вячо́рашні** 'які быў учора вечарам' (Байк. і Некр., Гарэц., Яруш.), *вечорошній* 'тс' (Нас.). Рус. *вечорошни(ы)й* 'тс' (Даль). Ад **вечорась* 'учора, учора вечарам'; параўн. рус. *вечорась* 'тс' (вяц., валаг., наўг. і г. д., СРНГ). Параўн. славен. *večę̂rkah* 'вечарам' і *večę̂rkašnji* 'пасляабедзенны' (Плет.). З іншай семантыкай фармальна тоесныя ўкр. зах. *вече́рішній* 'вячэрні', серб.-харв. *вечѐрашњи,* славен. *večę̂rašnji,* макед. *вечерашен* 'тс', якія пацвярджаюць старажытнасць утварэння. Да формы *вечорась* параўн. рус. дыял. *вчерась*; гл. Фасмер, 1, 366 (там і заўвагі адносна склону). Параўн. яшчэ ст.-рус. *дьньсь,* рус. *утрось, летось* і г. д., якія, паводле Сразнеўскага, 1, 772, уяўляюць сабой формы він. скл.+указальны займеннік; з'ява яшчэ праславянская.

**Вячо́рка** 'вячоркі' (Бяльк., Касп., КТС). Рус. *вечорка,* балг. дыял. *вечерка* 'тс'. Утворана з дапамогай суфікса *-ъ-к-а* ад асновы *вечер-.* Для бел. мовы трэба ўлічваць магчымасць аднаўлення формы адзіночнага ліку ў сувязі з генералізацыяй слова *вячоркі.* З іншым значэннем падобныя ўтварэнні і ў

іншых славянскіх мовах; параўн. польск. *wieczorka* 'вячэрняе паляванне'.

**Вячоркавы** 'вячэрні' (КТС). Прыметнік ад *вячорак* (гл.).

**Вячоркі** (Байк. і Некр., БРС, Уладз., Гарэц., Зн., Зянк., КСТ, КТС, Мал., Сцяшк., Шат., Янк.). Укр. *вечірки*, палес. *вечурки* (Лыс., Пал.), рус. *вечорки*, польск. *wieczorki* (Карл.). Да *вячорка* (гл.), форма мн. л. звязана са шматразовым характарам з'явы і ўяўляе сабой характэрную асаблівасць такога тыпу слоў; параўн. рус. *посиделки*.

**Вячорніца** 'Hesperis matronalis L.' (БРС, Кіс., РБС). Укр. *вечерниці* (душисті) (Грынч.), рус. *вечерница*, польск. *wieczernik*, в.-луж. *wječornička*, чэш. *večernice*, слав. *večernica*, балг. *вечерник* 'тс'. Да *вячэрні*; назва, паводле характэрнай асаблівасці расліны; тое ж у лацінскай назве.

**Вячысты** (БРС, КТС, Нас., Яруш.), *вячыстасць* 'вечнасць, спадчыннае ўладанне' (КТС, Нас.), *вѣчисто* 'на вякі, вечна; моцна' (Нас.). Укр. *вічистий* (лем., Грынч., СУМ), ст.-рус. *вѣчистый* (зах.-укр. тэр.; з граматы Юрыя Холмскага, 1376 г.). Польск. *wieczysty*, *wieczyście*, *wieczystość* 'вечны, на вякі, вечнасць і г. д.', памор. *ḯečǝstï*, чэш. *věčitost* 'тс'. Думку адносна запазычання з польскай мовы (Булыка, Запазыч., 61; Гіст. лекс., 94) падтрымліваюць ст.-бел. форма *вечисте* і адсутнасць слова ва ўсх.-бел. гістарычных помніках. Што датычыцца зах.-укр. і ст.-рус. слоў, то, мяркуючы па храналогіі і геаграфіі, неабавязкова разглядаць іх як польскія запазычанні, гэта хутчэй агульная з'ява. Неабходна адзначыць, што як для ўсх.-слав. моў, так і для польскай суфіксацыя *-іст-* у дадзеным выпадку не з'яўляецца натуральнай; гл. Gr. hist., 226 і наст. З паралельнай суфіксацыяй *-it-* аналагічныя ўтварэнні ў іншых славянскіх мовах: чэш. *večitý*, славац. *večitý*, балг. *вечит*, макед. *вечит*, *вечито*, серб.-харв. *вѐчит*, *вѐчито* 'тс'.

***Вячэліна**, *вечéліна* 'дубец з вярбы' (КСТ). Верагодна, ад **вецеліна* (*вет'еліна*), якое далей да **вецельны* (<*ветла*). Цяжкасці выклікае тлумачэнне *ч*. Параўн., аднак, рус. дыял. *вечина* 'гнуткі дубец' (СРНГ), дзе *ч*, магчыма, <*т'* (*вет'ина*). Параўн. яшчэ процілеглую з'яву: тураў. *чэрэпок*/*цэрэпок* (КСТ).

**Вячэ́р** 'вячэра' (Касп.). Відавочна, «аднаўленне» формы м. р., магчыма, па аналогіі да вядомага на той жа тэрыторыі слова *ужын*. Параўн. да апошняга рус. дыял. *ужина* 'вячэра'.



**Вячэ́ра** (Байк. і Некр., БРС, Бяльк., Гарэц., Грыг., КСТ, КТС, КЭС, лаг., Лекс., Пал., Нас., Сцяц., Шат., Шпіл.). Укр. *вечеря*, рус. дыял. *вечеря*, польск. *wieczerza*, памор. *ḯéčěřa*, палаб. *vicera*, в.-луж. *wjačer*, н.-луж. *wjacerja*, чэш. *večeře*, славац. *večeřa*, серб.-харв. *вѐчера*, славен. *večę̑rja*, макед. *вечера*, балг. *вечéря* 'тс'. Прасл. утварэнне з суф. *-j-a* ад *večerъ* (гл. *вечар*). У частцы слав. моў запазычаны як царкоўны тэрмін ст.-слав. **вєчєрꙑ**, якое адрозніваецца націскам. Гл. яшчэ размеркаванне *večerja-južinъ* у Вештарт (Лекс. Пал., 93).

**Вячэ́раць** (Байк. і Некр., Бесар., БРС, Бяльк., Булг., Гарэц., Грыг., Касп., КТС, КЭС, лаг., Мядзв., Нас., Шат., Шэйн). Укр. *вечеряти*, рус. *вечерять* (падрабязней аб распаўсюджанні на рус. тэрыторыі гл. Герд., Бел.-рус. ізал., 31), польск. *wieczerzać*, памор. *ḯečěřac*, в.-луж. *wječerjeć*, н.-луж. *wjacerjaś*, чэш. *večeřeti*, славац. *večerat'*, серб.-харв. *вѐчерати*, славен. *večę̑rjati*, макед. *вечера*, балг. *вечéрям* 'тс'. Праславянскі дзеяслоў ад *večerja*; гл. *вячэра*. Параўн. яшчэ рус. *ужинать*, *зивтракать* як аналагічныя ўтварэнні.

**Вячэ́рні** (БРС, КТС), *вячэрній* (Бяльк.). Укр. *вечірній*, рус. *вечерний*, польск. *wieczorny*, *wieczerny*, памор. *ḯečórnï*, *ḯečòrnï*, *ḯečernï*, в.-луж. *wječorny*, н.-луж. *wjacorny*, чэш. *večerní*, дыял. *večerný*, славац. *večerný*, серб.-харв. *вѐчēрњ(ū)*, славен. *večę̑ren*, *večęranji*, макед. *вечерен*, балг. *вéчерен* 'тс'. Прыметнік ад *večerъ*.

**Вячэ́рнік** 'малодшы брат нявесты' (Шэйн.). Утворана з суф. *-ік* ад *вячэрні* ў тым жа значэнні. Паводле Шэйна, вечарам напярэдадні вяселля ён расплятае нявесце косы. Блізка да бел. стаіць рус. дыял. *вечерник* 'сваяк нявесты, які вязе яе да вянца', якое, аднак, не ўтварае адзінага арэала з бел. (перм., калуж., СРНГ). Параўн. яшчэ *вячэрнікі* (гл.), рус. *вечерние*.

**Вячэ́рнікі** 'госці нявесты, вясельны поезд' (Касп.). Рус. смал. *вечерник* 'удзельнік вяселля', *вечерники* 'радня, сваякі нявесты, якія адвозяць пасцель і падарункі' (СРНГ). Рус. і бел. ад *вечерние* 'тс'. Параўн. смал. *вечерние* 'госці, якія праводзілі жаніха і нявесту да царквы' і г. д. (СРНГ). Апошняе ў выніку субстантывацыі або ад выразу тыпу «вячэрнія госці». Трэба адзначыць, што і разглядаемае слова магло таксама ўтварыцца ў выніку семантычнай кандэнсацыі выразу «вячэрнія госці».

**Вячэ́рніца**[1] 'вячэрняя зорка, планета Венера' (Інстр. I, Касп., Мат. Гом.), Укр. *вечерниця*, рус. *вечерница*, польск.

*wiecze(o)rnica,* памор. *večéŕnica,* в.-луж. *wječornička,* чэш. *večernice,* славац. *večernica,* серб.-харв. *večernica, večérnjača,* славен. *večęrnica,* макед. *вечерница,* балг. *вечерница* 'тс'. Агульнае ўтварэнне ад *večerьnъ* ці ад выразу тыпу *«вячэрняя зорка».* Адносна семантыкі параўн. тураў.: «Вячэрня зора, бо першая з вечара сходзіць» (КСТ).

**Вячэ́рніца$_2$** 'Nyctalus noctula' (КТС), *вячэрнік* 'кажан' (Інстр. II). Ад *вячэрні* з дапамогай суфікса *-іц-а.* Назва адлюстроўвае спосаб жыцця кажаноў, якія палююць пасля заходу сонца. Бел. *вячэрнік* (суф. *-ік*) атрымоўвае фармальную, незалежную паралель ў выглядзе рус. *вечерник* 'вячэрні матылёк' (Даль), балг. *вечерница* 'тс' (БЕР).

**Вяша́к** 'пятля на адзенні для вешання' (Жд., КСТ); 'насценная вешалка' (Жд., 2, КСТ, Сцяц.), *вешак, вешакі* 'прыстасаванне для сушкі' (КСТ), *вэшак* 'жэрдка ў лазні, на якую вешаюць бялізну' (лун., Шатал.). Улічваючы суфіксацыю і зону распаўсюджання слова, можна з упэўненасцю меркаваць, што гэта запазычанне з польскай мовы. Параўн. польск. *wieszak* 'вешалка, пятля на адзенні для вешання і да т. п.', в.-луж. *wěšak* 'вешалка'.

***Вяшняк$_1$,** *вешня́к* 'вясенні вецер, які вельмі сушыць дровы' (КСТ). Укр. *вешняк,* рус. дыял. *вешняк* 'вясенні вецер' (перм., варон., СРНГ), *ве́шни́к* 'вясенні вецер, паўднёва-ўсходні вецер' (асташ., пск., цвяр., СРНГ). Ад **вешний* 'вясенні', параўн. рус. формы ў Даля, або *<вясняк$_3$* (гл.). Паводле Фасмера, 1, 309, рус. *вешний<*vešnjo* ад *весна;* параўн., аднак, рус. дыял. *вешна, вёшна,* 'вясна і да т. п.', *вешный, вешной* 'вясенні' (СРНГ), якія могуць уяўляць і іншую праформу або пазнейшыя трансфармацыі.

**Вя́шня́к$_2$,** *вешня́к* 'вадзяны млын, які працуе толькі пры высокім узроўні веснавой вады' (Яшк.). Рус. дыял. *вешняк* 'тс' (СРНГ). Ад **вешний* 'вясенні'; параўн. *вяшняк$_1$* або *< вясняк.* Суфіксацыя, як у *сіняк, скразняк* і да т. п.

**Вяшча́ць** (БРС, Крывіч, КТС). Укр. *віщати, віщувати,* рус. *вещать,* ст.-слав. **вѣштати, вѣштавати, вѣщати.** Паводле Жураўскага, Мат., да V Міжн. з'езда слав., 51, запазычана з царкоўнаславянскай мовы праз рускую. Далей да *вешчы* (гл.).

**Вяшчува́ньня** 'праракаие, прадказванне' (Бяльк.). Назоўнік ад ітэратыўнага дзеяслова *вяшчуваць,* дзе *у* або толькі фанетычна, або пад уплывам слоў *чуць, чуваць.* Параўн. *вяшчуць.*

**Вяшчу́н** (БРС, Грыг., КТС). Укр. *віщун,* рус. *вещун* 'тс'.



Крыніца бел. і ўкр. слоў — рус. мова, дзе *вещун<вещать.* Адносна такога тыпу словаўтварэння гл. Слаўскі, SP, 134.

**Вяшчу́ха** (БРС, КТС). Укр. *віщуха* (Грынч.). Да *вяшчаць* (гл.). Утварэнне па тыпу *шаптаць: шаптуха;* гл. аб гэтым Слаўскі, SP, 74—75.

**Вяшчу́ць** 'прадказваць, прадчуваць' (Юрч.). Цяжка вытлумачыць толькі фанетычна. Відаць, уплыў *чуць* 'адчуваць'. Магчыма таксама, што *вяшчуць<*ітэратыва *вяшчуваць,* але і апошнюю форму трэба тлумачыць як кантамінацыю.

**Вяшчэ́ль** 'вяшчун' (Крывіч). Ад *вяшчаць* з суф. *-ель.* Прымаючы пад увагу архаічны характар суфікса (параўн. Слаўскі, SP, 2, 108) і запазычанасць утваральнай асновы, магчыма бачыць тут штучнае ўтварэнне «пад старажытнасць». Не выключаны таксама ўплыў суфіксацыі *-цель;* параўн. рус. дыял. *богатель,* гл. аб апошнім Слаўскі, SP, 107.